ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

Мікола Касьпяровіч

# ВІЦЕБСКІ
# КРАЁВЫ СЛОЎНІК

(матар'ялы)

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

М. Я. БАЙКОВА й праф. Б. І. ЭПІМАХА-ШЫПІЛЫ.

Гэта выданьне надрукована ў ліку 1500 экз.

Provincial Dictionary
КРАЁВЫ СЛОЎНІК

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

Мікола Касьпяровіч

# ВІЦЕБСКІ КРАЁВЫ СЛОЎНІК

(матар'ялы)

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

М. Я. БАЙКОВА й праф. Б. І. ЗОІМАХА-ШЫПІЛЫ.

Менск, 2011

Institute of the White-Russian Culture.
Commission for Composing of a Complete Dictionary of the Living White-Russian Language
and
Provincial Society for Studying of the Country of Witebsk.

N. J. KASPIAROVICH.

Seientifie Sekratary of the Provincial Society for Studying of the Country of Witebsk.

# Provincial Dictionary of Vitebsk

(MATERIALS).

REVISED
by
N. J. BAYKOV and. prof. B. I. EPIMACH-SHIPILLO.

Published by the Provincial Society for Studying of the Country and by the Publishing House „Zaria Zapada“, both of Vitebsk.

VITEBSK, 1927.

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.
Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.
Віцебскае Акруговае Таварыства Краязнаўства.

М. І. КАСЬПЯРОВІЧ.

Навуковы сакратар Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.

# ВІЦЕБСКІ КРАЁВЫ СЛОЎНІК

(МАТАР'ЯЛЫ).

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

М. Я. БАЙКОВА й праф. Б. І. ЭПІМАХА-ШЫПІЛЫ.

Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства
Краязнаўства і выдавецтва „Заря Запада“.

ВІЦЕБСК, 1927.

# Прадмова

Напісаны Мікалаем Каспяровічам на аснове матэрыялаў Віцебскага акруговага краязнаўчага таварыства «Віцебскі краёвы слоўнік» быў першым у серыі краёвых слоўнікаў, падрыхтаваных у выніку масавай краязнаўчай работы. Усяго меркавалася сабраць матэрыял для 16 падобных прац, якія адлюстроўвалі лексіку тагачасных адміністрацыйных акруг (складаліся з 10—12 раёнаў). Аднак было наперад вядома, што не ўсе слоўнікі акажуцца выкананымі на добрым узроўні, таму планавалася апублікаваць толькі лепшыя. Камісія жывой беларускай мовы Інстытута беларускай культуры, якая займалася арганізацыяй гэтай работы, мела выключна мала часу для яе правядзення. У верасні 1925 года была надрукавана «Інструкцыя для збірання слоўнікатэрміналагічнага матэрыялу ў беларускай мове», у лістападзе гэтага ж года разам з лістоўкай-заклікам «Да беларускага настаўніцтва» яна была разаслана акруговым і мясцовым краязнаўчым арганізацыям. Канчатковым тэрмінам збору матэрыялу была вызначана дата 1 студзеня 1927 года. Гэта быў празмеру аптымістычны тэрмін для такой грандыёзнай работы, у выніку матэрыялы збіраліся і пазней. На працягу трох гадоў у камісію з тэрыторыі Мінскай акругі паступіла больш за 18 тысяч картак, з Мазыршчыны і Бабруйшчыны — больш за 10 тысяч. Паспяхова вялася падрыхтоўка калінінскага акруговага слоўніка ў г. Клімавічы (акруга існавала ў 1924—1927 гг.).

На Віцебшчыне, дзе арганізатарам і навуковым сакратаром акруговага таварыства краязнаўства быў М. Каспяровіч, народныя словы збіраліся найбольш актыўна. За тры гады ў камісію ў Менск з тэрыторыі Віцебшчыны было даслана больш за 37 тысяч картак. Сам аўтар «Віцебскага краёвага слоўніка» пачаў запісваць віцебскую лексіку яшчэ з верасня 1924 года, часу, калі ён быў прызначаны інспектарам Віцебскага акруговага аддзела народнай асветы і стаў бываць «у полі» па службовых акалічнасцях. Пазней М. Каспяровіч запісваў словы ў адпаведнасці з інструкцыяй Інбелкульта, да пачатку 1926 г. ён меў ужо больш за 10 тысяч запісаў. М. Каспяровіч арганізаваў інтэнсіўны збор лексікі ў рэгіёне, у які ўключыліся звыш 200 настаўнікаў, аграномаў, паштальёнаў, работнікаў хат-чытальняў. За паўтара года яны перадалі ў слоўнікавую камісію Віцебскага акруговага таварыства больш за 36 тысяч картак-слоў, якія разам з сабранымі самім М. Каспяровічам

запісамі, а таксама з запісамі, якія паступілі ад пэўных арганізацый і калектываў, паслужылі картатэкай пры ўкладанні слоўніка. Першыя апрацаваныя літары слоўніка былі перададзеныя на рэдагаванне ў Інбелкульт ужо ў ліпені 1926 года, а выдадзены слоўнік быў у Віцебску ў 1927 годзе.

Слоўнік складаецца з 9703 слоў, зафіксаваных у 591 населеным пункце былой Віцебскай акругі. Аднак гэта былі не толькі рэгіянальныя словы: часткова ў рэестр была ўключана і агульнаўжывальная беларуская лексіка. З'яўленне слоўніка было вялікай падзеяй для рэгіёна, асабліва для яго адукацыйных і культурных устаноў. Яшчэ да яго выдання Віцебскі аддзел народнай асветы замовіў 800 асобнікаў для сваіх патрэбаў.

З аднаго боку, сучаснае выданне «Віцебскага краёвага слоўніка» слоўніка ўяўляе сабой помнік тым шматлікім людзям, якія ўнеслі ўклад у яго падрыхтоўку. З другога, дазваляе нам больш пазнаць беларускую мову ўвогуле і ў яе віцебскай іпастасі, у прыватнасці.

*Сяргей Запрудскі*

„Віцебскі краёвы слоўнік“ зьяўляецца першым з ліку краёвых слоўнікаў у Беларусі, вызначаных да апрацаваньня Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў Інстытуце Беларускай Культуры.

„Віцебскі краёвы слоўнік“ паступіў у Камісію раньш вызначанага Камісіяй тэрміну (1 студзеня 1927 г.). Гэта цалкам трэба аднесьці да выключнай энэргіі выяўленай у справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу ў Віцебшчыне Праўленьнем Віцебскага Акруговага Краязнаўчага Таварыства і, паасобку, навуковым сакратаром яго т. Каськпяровічам. У свой чарод пасьпешны друк слоўніка тлумачыцца жаданьнем Віцебскага Акруговага АНА забясьпечыць ужо ў гэтым вучэбным годзе слоўнікам школы Віцебшчыны.

Гэтая акалічнасьць дазволіла Камісіі згадзіцца на дачаснае рэдагаваньне слоўніка для друку яго ў Віцебску выдавецтвам „Заря Запада“, хаця пры больш працяглай апрацоўцы слоўнікавы матар'ял мог-бы быць сыстэматызаваны больш поўна й дакладна.

Зважаючы на непаўнату слоўніка, Камісія разглядае яго не як закончаны слоўнік Віцебшчыны, а як „Матар'ялы“ для такога слоўніка.

„Віцебскі краёвы слоўнік“ апрацаваны т. Каськпяровічам паводле прынцапаў і мэтаду, устаноўленых Камісіяй наагул для ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў.

Лічучы, што не краёвыя слоўнікі павінны быць дадаткам да агульнага слоўніка жывой беларускай мовы, а наадварот гэты апошні павінен грунтавацца на вывучэньні мясцовых гутарак, Камісія не знайшла мэтазгодным абмяжоўваць укладальнікаў запісам толькі рэдкіх слоў—паветалізмаў. Пры ўкладаньні слоўніка

прыймаліся пад увагу, як правіла, тыя словы, якія адрозьніваюцца ад слоў расійскай або польскай мовы з боку свайго значэньня, вымаўленьня або напісаньня (транскрыпцыі).

Адносна напісаньня беларускіх слоў у асноўнай калюмне, набранай на буйны шрыфт, Камісіяй быў ухвалены запіс іх так, як яны пішуцца паводле правіл сучаснага беларускага літаратурнага правапісу. Прапанованы ў праэкце інструкцыі для ўкладальнікаў краёвых слоўнікаў парадак запісу паводле фанэтычнага прынцыпу (з захаваньнем літаратурнай беларускай графікі) быў адкінуты Камісіяй на тэй падставе, каб не абцяжарваць працы укладальнікаў краёвых слоўнікаў зьмяшэньнем задач лексыкалягічнага й дыялекталягічнага дасьледаваньня. Пры гэтым Камісія мела на ўвазе й сувязь краёвых слоўнікаў з агульным слоўнікам жывой беларускай мовы, дзе, натуральна, беларускія словы будуць давацца ў іх літаратурным напісаньні, а так сама вымогі практычнага карыстаньня краёвымі слоўнікамі.

Асаблівасьцю Віцебскага краёвага слоўніка, як і наагул краёвых слоўнікаў, якія ўкладаюцца паводле праграмы Камісіі ў розных акругах Беларусі, зьяўляецца тое, што да кожнага беларускага слова, дадзенага ў слоўніку, дадаецца прыклад—фраза, ўзятая з жывой народнай мовы з абавязковым мясцовым адзначэньнем.

Прыклады запісаны на слух, як словы вымаўляліся ў вуснах тае асобы, ад якой учуты прыклад. Разумеецца, што запісаныя такім спосабам прыклады могуць даць пэўны матар'ял для беларускай дыялекталёгіі.

Разьвязваючы пытаньне аб парадку запісу мяйсцовых адзначэньняў, Камісія палічыла патрэбным даваць толькі паказаньне вёскі й раёну без паказаньня прозьвішчаў дапішчыкаў, якія дастаўлялі карткі (яны паказаны ў прадмове да слоўніка яго ўкладальнікам).

Пры рэдагаваньні слоўніка зварачалася ўвага на правільнасьць напісаньня беларускага слова ў асноў

най калюмне (паводле прынцыпу, ухваленага Камісіяй), на вытрыманасьць граматычных адзначэньняў і на правільнасьць перакладу ў расійскую мову. Прыклады й мясцовыя адзначэньні пакідаліся без абы-якой зьмены, як яны былі дадзены ў аўтэнтыку.

Апроч рэдактароў, паказаных на загалоўнай старонцы слоўніка, навуковага сэкратара Камісіі М. Я. Байкова і члена яе праф. Б. І. Эпімаха Шыпілы, першыя два аркушы слоўніка былі прагледжаны старшынёй Камісіі С. М. Некрашэвічам.

Друк слоўніка адбываўся і карэктура вялася ў Віцебску, пры чым матар'ял да літ. „К" друкаваўся пад наглядам яго ўкладальніка.

*Камісія для укладаньня слоўніка*
*жывой беларускай мовы.*

23—X—1926.

У верасьні 1924 году ў часе працы на вёсцы ў Віцебшчыне адзін з нашых членаў—Мікалай Іванавіч Касьпяровіч зарэгістраваў некаторыя словы мовы Віцебшчыны для практычных патрэб бягучае працы, што і зьявілася пачаткам сыстэматычнае работы ў гэтым кірунку. Уласьцівасьці службы М. І., як інспэктара АНА, вымагалі бадай бязупынных разьездаў па акрузе, асабліва на працягу зімы, вясны й восені. Гэта спрыяла выкананьню пастаўленнага заданьня зьбіраць факты мясцовае мовы.

У часе разьездаў М. І. па Віцебшчыне шляхам гутарак з селянамі ў іх звычайнай абстаноўцы і з возчыкамі, якія наймаліся вазіць яго па справах службы, а таксама бываючы на кірмашох, фэстах і ў іншых мясцох, дзе зьбіралася шмат народу, ён рэгістраваў асаблівасьці вымаўленьня, словы, цікавыя злучэньні слоў і г. д., не зважаючы, ці супадаюць яны з літаратурнаю моваю, або чужаземнаю, нават, і адзначаючы месца запісу, час, а бывала і фамілію таго, ад каго чуў.

Пакрысе зьбіраўся багаты матар'ял, выяўлялася патрэба больш шырокай працы ў дадзеным кірунку. Таму ў 1925 г. Праўленьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства, адказным працаўнікам якого М. І. тады быў, па сваей ініцыятыве, а таксама ў адказ на заклік Камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў Інстытуце Беларускай Культуры даручыла аднаму з сваіх членаў арганізаваць камісію для ўкладаньня слоўніка жывой мовы Віцебшчыны, членам якой зараней лічыўся М. І. Дзякуючы розным прычынам, арганізацыйны сход камісіі не адбыўся аж да восені 1925 году, калі арганізатар яе выехаў з Віцебшчыны.

Праца М. І. вялася далей ужо цалкам згодна „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове", выдадзенай Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў 1925 г., —і к пачатку 1926 г. у яго сабралася больш 10.000 запісаў. Аднак асноўны лексыкалягічны матар'ял быў нявычарпаны, запісы, сабраныя экспэдыцыйным мэтадам, патрабавалі праверкі, працу трэба было весьці хутчэй, бо, апрача звычайнай для кожнае мовы зьмены яе, мова Віцебшчыны вельмі інтэнсіўна пачала адчуваць уплыў літаратурнай мовы, якая хлынула праз школу пры пасярэдніцтве вучняў і кніг, што дзеці чыталі і дома, а таксама праз установы, якія паволі пачалі пераходзіць у беларускую мову.

Калі-б зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу зацягнуць—яно адбіла-б тыя зьмены, якія вытвараліся ў народнай мове,—і гэта значна ускладніла-б задачу апрацаваньня слоўніка жывой народнай мовы. А для таго, каб адзін чалавек сабраў увесь матар'ял—неабходны вельмі доўгі працяг часу.

З прычыны гэтага М. І. зьвярнуўся ў Праўленьне Віцебскага Акруговага Таварыства, як навуковы сакратар яго, з прапановаю арганізаваць слоўнікавую працу ў Віцебшчыне, а так сама камісію для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы ў Інстытуце Беларускай Культуры за дапамогай сваей працы і праз мясцовы друк, установы і непасрэдна да шырокіх колаў насельнасьці Віцебшчыны з просьбаю зьбіраць слоўнікавы матар'ял і прысылаць Таварыству.

Праўленьне Таварыства Краязнаўства ўхваліла арганізаваць слоўнікавую камісію, вызначыўшы М. І. старшынёй яе. Сакратаром быў запрошаны С. К. Собаль, які да апошняга часу дапамагаў у перапісцы з карэспандэнтамі і установамі. Мясцовым краязнаўчым організацыям была дадзена дырэктыва на конт збору слоўнікавага матар'ялу членамі краяўзнаўчае сеткі.

Камісія для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы, упаўнаважыўшы М. І. на збор і ўкладаньне Віцебскага краёвага слоўніка, прыслала Та-

варыству патрэбны лік свае „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка—тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове“ і мажлівую грашовую дапамогу на паперу і інш.

На заклік мясцовай Камісіі, адгукнуўся вялікі лік працаўнікоў і да пачатку друку гэтай працы Камісія атрымала лексыкалягічны матар'ял ад наступных індывідуальных карэспандэнтаў:

Аграднічэўскай (Беш. р.)
Адэльскай (Чаш. р.)
Адзінцова (Сен. р.)
Акаловіча (Беш. р.)
Акунёва (Беш. р.)
Альбіновіча (Аз. р.)
Амбросава (Куз р.)
Амосава (Чаш. р.)
Арла Касьяна (Чаш. р.)
Арловай (Выс. р.)
Арол-Пызінай (Чаш. р )
Асташкевіч (Чаш. р.)
Астрашаповіч (Сен. р.)
Асьлямнёвай (розн. р. р.)
Аўксеньцьева (Сен р.)
Аўчыньнікава (Беш. р.)
Баброўскай (розн. р. р.)
Багданавай (Аз. р.)
Бараноўскай (Беш. р.)
Белавусавай (Беш. р.)
Берасьнёва (Куз. р.)
Бесьцьвенкавай (роз. р. р.)
Бічай З. (Сен. р.)
Бічая (Сен. р.)
Блажкевіча (Сен. р.)
Блахіна (розн. р. р )
Бромберг (Куз. р.)
Брыгневіч (Сен. р.)
Будніка (розн. р. р.)
Будзькі Мак. (Сур. р.)
Буркова (розн. р. р.)
Бялеўскага (Сен. р.)

Бяляевай Аз. р.)
Вайцаховіча (Чаш. р.)
Валуёва (Куз. р.)
Варапаева (Лёз. р.)
Васільлевай (Аз. р.)
Ваяводы (Лёз. р.)
Вераб'ёва М. (Сур. р.)
Вінакуравай (Аз. р.)
Віткоўскага (Беш. р.)
Высоцкага (розн р. р.)
Вялішчанскага (Сен. р.)
Вятохі (Беш. р)
Габруковіча П. (Беш. р.)
Гайсёнка Міх. (Беш. р)
Галаўнёва (розн. р. р.)
Галаўнёвай (розн. р. р.)
Галаўнёвай-Каробка (Куз. р.)
Гаралева (Сен. р)
Гарэльчык (Беш. р.)
Гарнака (Сен р.)
Гарнаковай (Сен. р.)
Грынцэвіч (розн. р. р.)
Гурко Н. (Чаш р.)
Давыдоўскай (Беш. р)
Данчанкі (Куз. р.)
Данчанкі (Куз р.)
Дарагой (Куз. р.)
Дарожкіна (розн. р. р.)
Даўгаполавай (Сен. р.)
Драздова (Беш р.)
Забеліна (Аз р)
Залкінда (Куз. р.)
Здраеўскай (Беш р.)
Зянькевіч (Лёз. р.)
Дзернакова (Куз. р.)
Іванінай (Беш. р.)
Іванова (Чаш. р.)
Іванова (розн. р.)
Іваноўскай (Сен. р.)
Кавалёва К. (Лёз. р.)

Кажарскага (Сен. р.)
Кажарскай (Сен. р.)
Кажарскай І. (Сен. р.)
Кажэмскага П. (Чаш. р.)
Кажэмскай В. (Чаш. р.)
Казаковай (розн. р. р.)
Казловай (Куз. р.)
Казлоўскага (Сен. р.)
Калмак (Сен. р.)
Калмак (Сен. р.)
Картавік (Куз. р.)
Картавік (Куз. р.)
Касьпяровіч Надз. (Куз. р.)
Касьцючэнкі (Сір. і Віц. р. р.)
Касьянавай (Сен. р.)
Касьянава (Сен. р.)
Каткоўскага (Куз. р.)
Кісялёвай (Беш. р.)
Клімовіч (Сен. р.)
Driven Ключонак І. (Чаш. р.)
Ключонка І. (Чаш. р )
Красьнёнка (Аз. р.)
Крашчонкіна (Сен. р.)
Крэля (Чаш р.)
Крыцкага (Куз. р.)
Кудраўцавай (розн. р. р.)
Кулака (Беш. р.)
Лапатнёва (Беш. р.)
Лапатнёва (Беш. р.)
Лебедзева (Куз. р.)
Ліаранцэвіч (Куз р.)
Ліаранцэвіч (Куз. р.)
Ліцьвінава (Сен. р.)
Ліцьвінава (Сен р.)
Ліцьвінавай (Сен. р.)
Лядзінскага (Чаш. р.)
Ляўковіча (Сен. р.)
Мазуркевіча (Аз. р.)
Макарава (розн. р. р.)
Макарава І. (Аз р.)

Малахоўскага (Сен. р.)
Мандрыка (Сен. р.)
Марозава (Куз. р.)
Мацьвеева (Сен. р.)
Машары (Куз. р.)
Мерман (Сен. р.)
Міканенкі (Куз. р.)
Міхайлавай (розн. р. р.)
Міхайлоўскай (Беш. р.)
Міцькаўца (Сен. р)
Мясьнікава (Сен. р.)
Нікіціна (Сен. р.)
Новікава (Сен. р.)
Няфедава (Сен. р)
Палескага (Гар. р.)
Палякова (розн. р. р.)
Паляковай (розн. р. р.)
Папіч (Чаш. р)
Папко (Чаш. р.)
Парфіяновіча (Чаш р.)
Патапенкі (Беш. р.)
Патоцкага (розн. р. р.)
Паўлоўскай (Сен. р.)
Петрашкевіча (Сен. р.)
Пісарэнкі (розн. р. р.)
Полаг Г. М. (розн. р. р.)
Прадсядацелева (Куз. р.)
Пракаповіч Г. (розн. р. р.)
Пракаповіч Аўг. (Сен. р.)
Пятніцкай (розн. р. р.)
Пярлова (розн. р. р.)
Радкевіча (Сен. р.)
Рамановіч (Сен. р.)
Рамановіча Ф. (Сен. р.)
Рамашка (Куз. р.)
Рачкоўскай (Сен. р.)
Рачкоўскай (Сен. р.)
Савіцкага (розн. р.)
Сазыка (Беш. р)
Санько (Беш. р.)

Саракалётава (Сен. р.)
Семяненкі (Куз. р.)
Семянца (Беш. р.)
Сімаковай (Беш. р.)
Сімаковай І. (Сен. р.)
Сінякова (Сен. р.)
Скакун (Сен. р.)
Скакуна (Сен. р.)
Скрынаус (Беш. р )
Скрыпкі (Чаш. р.)
Слаўцова (Сен. р.)
Смольскага (Чаш. р.)
Старараказьнікава (Віц р.)
Сумарокавай (Сен. р.)
Сумнікава (Выс. р.)
Сухабокавай (Сен. р.)
Сухабокавай (Сен. р )
Сямеўскага (Куз. р.)
Сянькевіч Анг. (Сен. р.)
Сяргеенки П. (Выс. р.)
Трутнёва (Аз. р.)
Улазоўскай (Сен. р.)
Усьціновіча (Сен. р.)
Файнберга (Віц. р.)
Фанкевіча (розн. р. р.)
Фёдаравай (Віц. р.)
Фяткевіча (Сен. р.)
Хайноўскага (Гар. р.)
Харошкі (Сен. р.)
Хацкевіч А. (Чаш. р.)
Хлудавай (Куз. р.)
Цітовай (Сір. р )
Цурбан (розн. р. р.)
Цымбарэвіч (Сен. р.)
Чарапоўскага (розн. р. р.)
Чыжыкава (Беш. р.)
Чыжыкавай (Беш. р.)
Шакуты (Беш. р )
Шапавалавай (Чаш. р.)
Шаршнёва (Куз. р.)

Шафранскага (Сен. р.)
Шашкоўскага (Сен. р.)
Шпакова (Куз. р.)
Шукайлы (Сен. р)
Шчамялёва (Беш. р.)
Шчарбіцкага (розн. р.)
Шыдлоўскага (Сен р)
Шыйкі М. (Сен. р.)
Шынкевіча (роз. р.)
Юндзіл (Аз. р.)
Юроўскай (Сен. р.)
Якушава (Беш. р.)
Ястрабавай (Куз. р.)

а таксама устаноў і арганізацый:

Дабрамысьлянскага гуртка краязнаўства (Лёз. р.)
Лаўжанскага гуртка краязнаўства (Сір. р.)
Лашнёўскай сямілетки (Выс. р.)
Лёзьненскай сямілеткі (Лёз. р.)
Межынскай сямілеткі (Меж. р)
Сеньненскай сямілеткі (Сен. р.)
Сіроцінскага раёнавага таварыства краязнаўства (Сір. р.)
Храпавіцкай сямілеткі (Куз. р.)
Янавіцкай сямілеткі (Сен. р.)

Найбольшы лік картак-слоў з арганізацый і устаноў прыслала Храпавіцкая семілетка на чале з загадчыкам Котавым, а з індывідуальных карэспандэнтаў—Палескі.

Збор матар'ялаў караспандэнтамі, як сказана вышэй, адбываўся згодна памянёнай „Інструкцыі да зьбіраньня народнага слоўніка—тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове", якая была у ўсіх карэспандэнтаў, апрача чаго ўсе карэспандэнты інструктаваліся вусна ў індывідуальных і калектыўных гутарках і лістамі, а таксама надзяляліся папераю.

Усяго было атрымана 36.071 картка-слова, што з сабранымі М. І. склала 46.192 карткі-словы.

Карткі дапішчыкаў былі сабраны пераважна стацыянарным мэтадам, г. зн., людзьмі, што доўга жылі ў дадзенай мясцовасьці. Новых слоў да запісаных М. І.

пастуліла ня так многа, але карткі давалі дакладнае вымаўленьне пэўных мясцовасьцяў, яго адценьні ў розных мясцох і г. д., а лік іх палягчаў праверку. Зробленая клясыфікацыя ўсяго матар'ялу паказала, што некаторыя запісы ўсё-ж патрабуюць праверкі, а некаторыя словы не зарэгістраваны, хоць у Камісіі й былі весткі, што яны ёсьць на Віцебшчыне. Прышлося зноў экспэдыцыйным шляхам правяраць і рэгістраваць матар'ял, для чаго М. І. скарыстаў час свайго адпачынку па службе, абхапіўшы, галоўным чынам, вёскі наўкол Віцебску на 15—20 вёрст кругом і часовае пражываньне ў Лужасьне Кузьняцоўскага раёну, калі ім было сабрана 823 новых словы.

Пры гэтым трэба адзначыць, што пэўную дапамогу ў разборцы картак па альфабэту на першую літару зрабілі т. т. Кісялёва, Калдобскі, Эпштэйн, Латышэўская, Яшкіна, Сьцяшковіч і Пацэвіч.

Матар'ял камісіяй атрымліваўся і з суседніх Віцебшчыне мейсц і з іншых частак Беларусі, але быў скарыстаны М. І. у гэту працу выключна матар'ял з межаў сучаснай Віцебскай акругі, пры чым карткі-словы па мажлівасьці з розных месц яе.

Праца збору і ўкладаньня адбывалася ў працягу часу ад верасьня 1924 году да верасьня 1926 году.

Апрача вышэй сказанага неабходна адзначыць, што па якасьці сваей матар'ял карэспандэнтаў быў вельмі featuresнастайны—ад вучнёўскага да сталага навуковага. У аднаго карэспандэнта былі кніжныя прыклады; яго карткі гадзіліся толькі, як напамін аб тым, што трэба праверыць, ці ужываюцца гэтыя словы на Віцебшчыне. Некаторыя карткі былі без адзначэньня мейсц запісу і іх прышлося пасылаць для выпраўленьня гэтай хібы, некаторыя дапішчыкі давалі вельмі кароткія прыклады, што не тлумачылі самого слова, а часамі прысылаліся карткі й бяз усякіх прыкладаў.

Крыніцаю збору была жывая мова, як звычайная, так і крышталізаваная ў песьнях, казках і д. т. п., што можна было чуць у гэты час.

Віцебская мова багата русізмамі, але рэгістрацыя іх не ўваходзіла ў нашу задачу.

Значэньні слоў, увесь лексыкалягічны матар'ял яшчэ нявычарпаны, чаму Таварыства будзе вельмі ўдзячна за далейшую прысылку матар'ялаў на адрас: Віцебск, Пушкінская, 3.

Клясыфікацыя матар'ялу і ўкладаньне слоўніка рабіліся згодна прынцыпам, выпрацаваным Камісіяй для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы.

Для граматычных адзначэньняў у гэтым выданьні прыняты наступныя скарачэньні:

*м.*—мужчынскі род іменьнікаў,
*ж.*—жаночы род іменьнікаў,
*н.*—ніякі род іменьнікаў,
*аг.*—агульны род іменьнікаў,
*зб.*—зборнае імя,
*дзс.*—дзеяслоў,
*зл.*—злучнік,
*прм.*—прыйменьнік,
*вкл.*—выклічнік,
а таксама:
Пар.—параўнай,
Гл.—глядзі,
Лнк.—лаянка.

Граматычныя адзначэньні дадзены курсівам пасьля першага слова, націск у якім паказаны тлусьцейшым шрыфтам. Калі ў слове два націскі—гэта значыць, што ў розных мясцоў, або выпадках націск у слове падае на розныя гукі. Пасьля граматычных адзначэньняў для роднага склону іменьнікаў мужчынскага роду, а часамі і іншых, паказаны канчаткі. Паказаньне двох канчаткаў сьведчыць аб іх існаваньні на Віцебшчыне.

Для адзначэньня раёнаў прыняты наступныя скарачэньні:

Беш. р.—Бешанкавіцкі раён,
Чаш. р.—Чашніцкі раён,
Сен. р.—Сеньненскі раён,
Куз. р.—Кузьняцоўскі раён,
Віц. р.—Віцебскі раён,
Аз. р.—Азярышчанскі раён,

Гар. р.—Гарадоцкі раён,
Лёз. р.—Лёзьненскі раён,
Выс. р.—Высачанскі раён,
Меж. р.—Межынскі раён,
Сур. р.—Суражскі раён,
Сір. р.—Сіроцінскі раён.

На жаль яшчэ немажліва было паказаць распаўсюджанасьці слоў. Некалькі нявытлумачаных слоў з прыкладаў залежаць ад аб'ектыўных умоў працы і неабходнасьці праверыць іх значэньні яшчэ раз.

Увесь матар'ял разьмяркованы паводле альфабэту, апублікаванага ў „Беларускім лемантары" С. М. Некрашэвіча з дадаткам ':

а, б, в, г, д, е, э, ё, ж, дж, з, дз, і, й, к, л, м, н, о, п, р, с, т, у, ў, ф, х, ц, ч, ш, ', ы, ь, ю, я.

У спатканай патрэбе даваць лацінскія назвы побач з расійскімі для расьлінаў і жывёлаў вялікую дапамогу рабіў мясцовы Віцебскі краявед Л. Зьм. Нікольскі, а для мэдычных тэрмінаў у першы час—т. Куцькоў. Мясцовы сьветазнаўца т. Усьпенскі дапамог разабрацца ў некалькіх заблытаных адзначэньнях астрономічных назваў.

Толькі дзякуючы хуткаму пасьлярэвалюцыйнаму тэмпу жыцьця і плянава арганізаванай працы краязнаўчае сеткі Віцебшчыны была выканана гэта ў канчатковым выглядзе невялікая праца.

Праўленьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства выказвае шчырую падзяку ўсім, хто памагаў і спачуваў працы, а асабліва М. Я. Байкову, С. М. Некрашэвічу і Б. І. Эпімаху-Шыпіле.

Укладаньне такога роду слоўніка—першая спроба ў наш час рэвалюцыі і затым у ёй немажліва было ўнікнуць тых ці іншых памылак, паказаньні на якія як Праўленьне, так і укладальнік, прымуць з вялікаю падзякаю.

*Праўленьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.*

Віцебск,
31 верасьня 1926 г.

# ВІЦЕБСКІ
# КРАЁВЫ СЛОЎНІК.

# А.

**А**, *зл.*—1) а, но (противопоставление). Рук ня мае, а пiша (мароз) (Стралкi, Беш. р.); 2) и, да. Бярно а дровы дух выматалi, пакуль вывез (Чарнагосьцi, Беш. р).

**А**, *вкл.*—1) отклик. Максiм! – А! (Пачаевiчы, Чаш. р.); 2) вопрос. Што табе трэба, а? (Белiца, Сен. р.).

**АБ**, *прм.*—о, об. Аб чым тутацькi гаварыць? (Карма, Куз. р.).

**АБАБАК**, а, *м.* — березовик, черный гриб. Boletus scaber Bull. Дзяўчына знашла у лесе добры абабак (Пустынкi, Сен. р.).

**АБАБIЦЬ**, *дзс.* — обить, околотить. Абабiў капы са дзьве жыта (Астроўна, Вiц. р.).

**АБАБРАЦЬ**, *дзс.*—1) выбрать. Ахрэма ў сельсавет абабралi (Красьнiца, Чаш. р.); 2) обобрать, обворовать. Мiколу зладзеi абабралi датла (Латышы, Беш. р.)

**АБАГНУЦЦА**, *дзс.*—вогнуться. Столь абагнулася ад цяжару (Асiпова, Аз. р.).

**АБАДРАНЫ** — ободранный. Стрэхi абадраныя (Мазалава, Куз. р.).

**АБАДРАЦЦА**, *дзс.*—оборваться, обноситься. Абадраўся, як жабрак (Пiтрашы, Сен р.).

**АБАДРАЦЬ**, *дзс.*—снять кожу, ободрать. Жыта яшчэ толькi абадраў, а малоць нi малоў (Алексiнiчы, Сен. р.).

**АБАДНЕЦЬ**, *дзс.*—1) провести весь день. Ён абаднеў, позна паехаўшы (Асiпова, Аз. р.); 2) наступить дню. Ужо i абаднела (Храпавiчы, Куз. р).

**АБАЖРАЦЦА**, *дзс.*—об'есться, обожраться. Конь абажраўся аўса (Пiтрашы, Сен. р.).

**АБАЗУРЫЦЦА**, *дзс.*—потерять стыд. Яму ня стыдна—ён ужо абазурыўся (Сьвярдлы, Беш. р.).

**АБАI**—оба. Абаi яны там былi (Лужасна, Куз. р.).

**АБАЛОНКА**, *ж.* — оконное стекло. Рабяты, дурэючы, пабiлi абалонку (Селядцова, Беш. р.).

**АБАЛОНЬ**, *ж.*—верхний слой древесины вокруг сердцевины ствола. Ета бярно нi гадзiцца, бо абалонь зусiм гнiлая (Высачаны, Выс. р).

**АБАЛОНЬНЕ**, *н.* — заливное место у реки. Добра мець такое абалоньне, як у вас—сена хопiць (Александрова, Гар. р.).

**АБАМКНУЦЦА**, *дзс.* — упасть, сорваться. Ён абамкнуўся ў ваду (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**АБАМЛЕЦЬ**, *дзс.*—упасть в обморок. Учора Iванiха абамлела (Вiшняк, Лёз. р.).

**АБАМРАВАЦЬ**, *дзс.* — ослабевать. Конь зусiм абамрэў (Каралёва, Выс. р.).

**АБАНIТЫ** — балованный, шаловливый. Мой сын страшна абанiты. Абанiты рябёнак (Рудня, Аз. р.).

АБАПАЛ — по обе стороны. Абапал дарогі ехалі хурманкі (Пятніцкая, Беш. р.).

АБАРАНАК, а, *м.* — баранка. Купі мне абаранкаў (Доўжа, Куз. р.). Пар. баранак.

АБАРАНЯЦЦА, *дзс.* — защищаться. Калі нападаіць, дык нада абараняцца (Бараўцы, Куз. р.).

АБАРВАЦЦА, *дзс.*--оборваться, обноситься. Хамут зусім абарваўся (Зайкава, Меж. р.).

АБАРОНА, *ж.*—защита. Ён у нас уся абарона (Пятніцкая, Беш. р.).

АБАРОНЦА, ы, *м.*—защитник. Ён мой абаронца (Сукрэмна, Сен. р.).

АБАСЕЦЬ, *дзс.* — обосячиться. А мой мілы абасеў—лі чужых та дзевак сеў (Запрудзьдзе, Сен. р.)

АБАТКНУЦЬ, *дзс.* — проконопатить. Трэба пакульлем сьцены абаткнуць (Алексінічы, Сен. р.).

АБВАЛІЦЦА, *дзс.*—обвалиться, развалиться. У ёўні печь абвалілася (Кавалёўшчына, Беш. р.).

АБВАНЗОПІЦЬ, *дзс.* — испачкать. Абванзопіць ня доўга, а вычысьціць як давядзецца (Ходцы, Сен. р.).

АБВАРЗОПАЦЦА, *дзс.*—испачкаться. Быў п'яны, дык і абварзопаўся (Луб'ева, Аз. р.).

АБВІВАНЬНІЧАК, а, *м.*—кувшин обвитый берестой. Налі ў абвіваньнічак малака з сабой на поле—ён крэпкі, ня так б'ецца, як гарлач (Запрудзьдзе, Сен. р.).

АБВІНАВАЧВАЦЬ, АБВІНАВАЦІЦЬ, *дзс.*—обвинять, обвинить. Напрасна яго ў етам абвінавацілі (Суднікі, Куз. р.).

АБВІРТАСАМ—быстро, скоро, мигом. Ідзі, ды абвіртасам назад (Казьяны, Сір. р.).

АБВЯШЧАЦЬ, АБВЯСЬЦІЦЬ, *дзс.*—1) извещать, известить. Вытады нас абвясьціце (Шыпы, Сен. р.); 2) давать слово, обещать. Нагдовень абвяшчаў прыці і ні прышоў (Астроўна, Віц. р.). Яна абвясьціла прыехаць (Доўжа, Куз. р.).

АБГАВАРЫВАЦЬ, АБГАВАРЫЦЬ, *дзс.*—1) обсуждать, обсудить. Доўга абгаварывалі, як яго знайці (Альшанікі, Беш. р.); 2) осуждать, сплетничать Яна ўсіх абгаваруе (Шыпы, Сен. р.).

АБГАЛЕЦЬ, *дзс.* — обеднець. Сямён пасьля пажару зусім абгалеў (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБГАЛІЦЦА, *дзс.*—побриться. Абгаліўся, як бізун (Замошша, Сен. р.).

АБГАРНУЦЬ, *дзс.*—1) загрести, огрести. Абгарні гаршок жарам (Сянно, Сен. р.); 2) укутать. Абгарні хлапца, а то застудзіцца (Жэрына, Чаш. р.).

АБГАРОДА, *ж.*—ограда. Каля саду няма ніякай абгароды (Прыдзьвіньне, Беш. р.).

АБГАРОДЖАНЫ — огороженный. Гарод абгароджаны аплітнём (Стрэлкі, Беш. р.).

АБГЛЯДАЦЬ, *дзс.* — осматривать. Я абглядаў скаціну (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

АБГРЫЗЬЦІ, *дзс.* — обгрызть Заяц абгрыз яблыню (Сыр. Рудня, Меж. р.).

АБДУРЫЦЬ, *дзс.* — обмануть, одурить. Хлопец абдурыў дзяўчыну (Уланавічы, Віц. р.).

АБДУЦЬ, *дзс.*—обмануть, надуть. Ён думаў мяне абдуць, але ні ўдалося (Косы, Віц. р.).

АБЕДАЦЬ, *дзс.*—обедать. Ніхто ня ведаіць, як хто абедаіць (Янавічы, Сур. р.).

АБЕДЗЬВЕ--обе. Абедзьві дзяўчыны пашлі ў гарод (Пятніцкая, Беш. р.).

АБЕІ—обе. Абеі рукі бальны (Лужасна, Куз. р.).

АБЕРУЧ — обеими руками. Вазьміся за работу аберуч! (Патапенкі, Выс. р.).

АБЭЛКА, *ж.*--клевета, наговор. У гэтых казках на яго—адна абэлка (Пустынкі, Сен. р.).

АБЖА, *ж.* — оглобля в сохе. У сахі папсавалася абжа (Ходарава, Куз. р.). Пар. вобжа.

АБЖОРА, *аг.* — обжора. Во абжора—што ні ў сябе прэць (Барок, Аз. р.).

АБЖЫНКІ, *ж.*—конец жатвы. У нас сёньні абжынкі (Нов. Сяло, Беш. р.). Пар. дажынкі.

АБЗА, *ж.*--1) из'ян в обработке дерева. Пад гэбаль папалася жывая смала, дык на дошцы абза палучылась (Чашнікі, Чаш. р.); 2) нижний слой коры дерева. На кожнай цалёўцы ёсьць абза—чаму так чысьціў? (Храпавічы, Куз. р.)

АБЗДАЦЦА, *дзс.* — обдаться. Абздайся сьцідзёнай вадой (Храпавічы, Куз. р.).

АБДЗЕЛАЦЬ, *дзс.* — отделать. Ці скора ты абдзелаеш свой дом? (Мікалаёва, Куз. р.).

АБДЗЕНЬ—за день, в течении дня. Я зьехаў туды абдзень (Карма, Куз. р.). Пар. абудзён.

АБДЗЕЦЬ, *дзс.*—обмануть. Ён яго лоўка абдзеў (Баравыя, Куз. р.)

АБДЗЁРКА, *ж.*—мука полученная из очищенного на мельнице от скорлупы зерна. З абдзёркі хлеб смашнейшы (Марчонкі, Сур. р.).

АБІЗГАЛ, а, *м.*—дурак. Абізгал ты бязмозгі! (Азярэцк, Сен. р.).

АБІЧ, а *м.* – часть цепа: палка, которая бьет по колосьям. Я зьдзелаў новы абіч (Сідоры, Меж. р.). Пар. біцюк.

АБІЧАЙКА, *ж.*—1) деревянное основание, обод решета. Было-б добрае рэшата, каб не паськепалася абічайка (Абрэзкава, Сен. р.). Пар. бячэйка; 2) круглая дырка в верхнем ручном жернове, куда сыплют зерна. Ня сып поўну абічайку (Сянно, Сен. р.). Пар. бічай.

АБКАЛОЦЦА, *дзс.* — исколоть себя чем-либо. Абкалоўся, кладучы снапы (Алексінічы, Сен. р.).

АБКАПВАЦЬ, *дзс.*—окапывать. Абкапалі яблыні (Курашчаны, Сур. р.).

АБКАРЭЦЬ, *дзс.* — засохнуть, покрыться коркою. Абкарэіць міска, а тады дзяры, баба, кіпцюрамі (Красьніца, Чаш. р.).

АБКАРЫЦЬ, *дзс.*—снять кору. Абкарылі ельнік, якей навазілі яшчэ ўчора (Гайдукі, Сур. р.).

АБКАСІЦЬ, *дзс.* — обкосить, скосить. Абкасілі пожню (Кр. Сяло, Беш. р.).

АБКЕШКАЦЦА, *дзс.* — сильно испачкаться. Абкешкаўся, як сьвіньня (Луб'ева, Аз. р.).

АБКЛАДАЦЬ, *дзс.* — обкладывать. Гэтым гноем абкладаць яблыні ня можна (Міхалі, Куз. р.).

АБКОСКІ, *ж.*—конец косьбы. Сягоньні абкоскі (Стралкі, Беш. р.)

АБКРАСЬЦІ, *дзс.* — обокрасть. Пабег бабам казать, што яго абкралі (Астроўна, Віц. р.).

АБКРУЦІЦЦА, *дзс.* — обвернуться. Абкруцілася вяроўка каля плоту (Вядрэнь, Чаш. р.).

АБКУСАЦЬ, *дзс.* — искусать, Коняй абкусалі авадні (Сянно, Сен. р.).

АБЛАВУХІ — вислоухий. Ты дужа аблавухі (Луб'ева, Аз. р.).

АБЛАЕЖЛІВЫ—разборчивый в еде. Парасёнак дужа аблаежлівы (Сухарукава, Аз. р.).

АБЛАЖЭНЬНЕ, *н.*—осада. Ну, і аблажэньне-ж гэтай крэпасьці тады было! (Балдыкова, Аз. р.).

**АБЛАЖЫЦЬ**, *дзс.* — 1) обложить. Аблажы яблыні гноем (Каралёва, Выс. р.); 2) побороть, повалить на землю. Мядзьведзь яго і аблажыў (Мамойкі, Беш. р.).

**АБЛАДЗІЦЬ**, *дзс.* — исправить, починить. Сын абладзіў комін (Труханавічы, Чаш. р.).

**АБЛАКАТ**, а, *м.* — адвокат. Аблакат быў у судзе (Бабінічы, Віц. р.).

**АБЛАКІ**, оў, *н.*—облака. Аблакі ідуць—можыць быць дождж (Віраўляны, Гар. р.).

**АБЛАМ**, а, *м.* — облава. Сягоньні быў аблам на ваўка (Шапурава, Сур. р.).

**АВЛАМІЦЦА**, *дзс.*--обломиться. Ганак абламіўся (Хмяльнік, Беш. р.).

**АБЛАПАЦЬ**, *дзс.* — облапить, обнять. Хлапец дзеўку аблапаў (Латыгаль, Сен. р.).

**АБЛАЧЫНА**, *ж.*—облако. На небе пайшла аблачына (Сялец, Чаш. р.).

**АБЛІВАХА**, *ж.*—зимний дождь, замерзающий на земле, деревьях и т. п., отчего получается гололедица. Сягоньні на дварэ абліваха (Аськершчына. Беш. р.). Пар. аблой.

**АБЛІЗ**, а, *м.* — облизывание. Жрэць у сем сярбоў з аблізам (Віраўляны, Гар. р.).

**АБЛІПАЦЬ**, *дзс.* — приставать, облипать. Чаго ты абліп, як смала? (Застадольле, Сен. р.).

**АБЛІТНЯ**, *ж.*—блесна. Аблітнёю ловяць рыбу або зімой у пролубі, трасучы вудачку, або летам з чоўна, цягнучы вудачку супроць вады (Вішкавічы, Чаш. р.).

**АБЛІЧВАЦЬ**, *дзс.* — обсчитывать. Кінь ты аблічваць бабу—няграматная (Пятніцкая, Беш. р.).

**АБЛІЧЧА**, *н.* — черты лица, лицо. Ці прыгожае ў яго абліччa? (Сукрэмна, Сен. р.). Па абліччу яны пахожы адзін на другога (Міхалі, Куз. р.).

**АБЛОГА**, *ж.* — запущенная, поросшая травой пахотная земля. Я падымаў сёньня аблогу (Косы, Віц. р.). Трэба аблогу падняць на лён (Русінава, Сен р.).

**АБЛОЖЖА**, *н.*—окраины луга. Абкасіў аблoжжа (Копцевічы, Чаш. р.).

**АБЛОЙ**, ю, *м.*—изморозь. Гэткі сёньні аблой! (Лоўжа, Сір. р.). Сягоньні ішоў аблой (Асіпова, Аз. р.). Пар. абліваха.

**АБЛУПІЦЬ**, *дзс.* — облупить, снять кожу. Здохлую карову нада аблупіць (Запрудзьдзе, Куз. р.).

**АБЛЫЖНА** — мошеннически, обманом. Ён атрымаў гэту рэч аблыжна (Ст. Беліца, Сен. р.).

**АБЛЯПІЦЬ**, *дзс.*—оклеить, облепить. Настаўніца дала паперы вокны абляпіць (Халамер'е, Аз. р.).

**АБМАЛОТКІ**, *ж.* — конец молотьбы. Сёньня ў нас абмалоткі (Пустынкі, Сен. р.).

**АБМАНІЦЬ**, *дзс.*—обмануть. Ён мяне абманіў (Ст. Сяло, Куз. р.).

**АБМАХНУЦЦА**, *дзс.*—промахнуться, ошибиться. На етам ён абмахнуўся (Жабяньцяі, Сур. р.).

**АБМАЦАЦЬ**, *дзс.*—ощупать. Ён абмацаў усё кругом (Пустынкі, Сен. р.).

**АБМАШКА**, *ж.* — ошибка. У абмашцы надзеў чужую сарочку (Азярэцк, Сен. р.).

**АБМЕЖАК**, а, *м.* — край (с травяным покровом) возле пашни. На абмежках трава дрэнная (Сьвеча, Беш. р.).

**АБМЫЛКА**, *ж.*—ошибка. Зрабіў вялікую абмылку, што вашчоўну позна пасеіў (Селядцова, Беш. р.).

**АБМЫЛІЦЦА**, *дзс.*--ошибиться. Абмыліўся, ды ні туды стаў (Тухінка, Сен. р.).

**АБМЯРКОЎВАЦЬ, АБМЯРКАВАЦЬ**, *дзс.* — обдумывать, обдумать; обсуждать, обсудить. Гэта дзела трэба добра абмяркоўваць (Лукьянова, Сен. р.). Пакуль абмяргавалі, дык і час прайшоў (Труханавічы, Чаш. р.).

**АБНОЧ**—в ту же ночь, за ночь. Абноч назад пасьпелі (Каралёва, Выс. р.).

**АБО**, *зл.*—или. Ну, хлопцы! або начаваць будзем, або пойдзем (Крынкі, Выс. р.).

**А БО**, *вкл.*—а, боже мой! А бо, я-ж табе ўчора яго аддаў! (Вішкавічы, Чаш. р.).

**АБО-Ж**, *зл.*—разве. Або-ж ты і ня браў яго? (Асташова, Чаш. р.).

**АБОД**, а, *м.*—Абады у каткоў крэпкія (Вярхоўе, Беш. р ). Пар. вобад.

**АБОДВА**—оба. Абодва уваліліся ў ваду (Пустынкі, Сен. р.). Абодвы сыны былі на вайне (Пятніцкая, Беш. р.).

**АБОІ** — оба. У абоі канцы зьбегаў і тутацькі (Лашнёва, Выс. р.).

**АБОРА**, *ж.*—1) большой скотный сарай. Быдла стаіць у аборы (Пачаевічы, Чаш. р.); 2) веревка в лапте. Удзень аборы ў лапці (Сухарукава, Аз. р.).

**АБОРАК**, а, *м.* — опаханное кругом место, чаще низинка, с травяным покровом. На аборку папасі коніка (Балдыкова, Аз. р.).

**АБОРЫНА**, *ж.*—веревочка в лапте. Разьвязалася аборына (Чараўкі, Сен. р.). Пар. абора.

**АБОЎДЗІЦЦА**, *дзс.* — свыкнуться. Абоўдзіўся троху (Вейна, Сен. р ).

**АБРАД**, у, *м.* — наряд. Я к празьніку сваей дочкі й сыну купіў абряды (Кабішча, Куз. р.).

**АБРАЖАЦЬ**, *дзс.*—оскорблять, обижать. Ты усім даволен—нечага бога абражаць (Хацімшчына, Куз. р ).

**АБРАЗ**, а, *м.*—икона. У куце вісяць абразы (Рыбчына, Сір. р.). Палажы кніжку за абраз (Бабінічы, Віц. р.).

**АБРАЗІЦЦА**, *дзс.*--оскорбиться, рассердиться. Абразіўся на нас (Доўгае, Беш р.).

**АБРАЗОВІК**, а. *м.* – вышитое полотенце, висящее на иконах. Павесь заўтра новы абразовік на абразы! (Цяпіна, Чаш. р.). Пар. абразьнік.

**АБРАЗЬНІК**, а, *м.* — вышитое полотенце, висящее на иконах. Зьмяні абразьнік, бо ужо брудны (Пушкары, Сен р.). Пар. абразовік.

**АБРАДЗЕНЬ, АБРЫДЗЕНЬ**, я, *м.*—густая сетка для ловли рыбы. Яго абрадзень парваўся (Мазалава, Куз. р.). Дай мне свайго абрыдня схадзіць у рыбу (Астроўна, Віц. р.) Пар. браднік.

**АБРАДЗІЦЦА**, *дзс.* — 1) нарядиться. Абрадзілася ў новы сыян (Кабішча, Куз. р ) 2) родить. Ганна ўчорах абрадзілася (Марцінкава, Куз. р.)

**АБРАКАЦЦА**, *дзс.*--давать обет. Абрікла штогод насіць яе к Пяцінкі. Абрікласа схадзіць у Жарабычы (Рыбчына, Сір. р.).

**АБРАЦЬ**, *дзс.* — избрать, выбрать. Старшынёю Міколу абралі (Расна, Сен. р.). Пар. абабраць

**АБРОБІЦЬ**, *дзс.*--1) обработать. Зямлю раней нада абробіць (Выгары, Куз. р.); 2) испачкать. Абробіў штаны (Стаішча, Чаш. р.).

АБРОЦЬ, *ж.* — вид уздечки; чаще веревочная. Купіў каня, ды без аброці (Касачы, Лёз. р.).

АБРУЗГЛЫ — обрюзгший. У яго ад водкі абрузглая морда (Камлі, Віц. р.)

АБРУС, а, *м* --скатерть. Накрый стол абрусікам (Замасточча, Сір. р.).

АБРУЧ, а, *м.* 1) обруч. Абручы лопнулі ў вадзянцы (Косы, Віц. р.); 2) кольцо. Дрэнныя абручы ў гэтым ланцугу (Заронава, Куз. р.).

АБРЫДЗЕЦЬ, *дзс.*--опротиветь. З таго вечара ён мне і абрыдзіў (Рыбчына, Сір. р.).

АБРЫДЛЫ — противный. Ён дужа абрыдлы (Бешанкавічы, Беш. р ).

АБРЫСЬ, *вкл.* — брысь—оклик на кота. Абрысь, каб ты здох! (Сукрэмна, Сен. р.).

АБРЫЎ, а, *м.*— обрыв. Не звалісь з абрыва ў рэчку! (Жабяньцяі, Сур. р.).

АБСАДА, *ж.*— оконные и дверные косяки· Хату паставіў, алі яшчэ нада абсада (Пятніцкая, Беш. р.).

АБСАДЗІЦЬ, *дзс.* — поставить оконные и дверные косяки. Прыдзі абсадзіць у маёй хаце вокны і дзьверы (Азярэцк, Сен. р.).

АБСАЦ, а, *м.*--каблук. К лапцю абсац не прыладзіш (Оўсішча, Сен. р.). Пар. абцас.

АБСЕЧ, *дзс.*—обрубить. Нада абсеч суччa на етам дзераве (Лужасна, Куз. р.).

АБСМАКАВАНЫ — излюбленный по вкусу. Груца—мая ежа абсмакаваная (Высачаны, Выс. р.).

АБСМАЛЕНЫ — обгорелый. Стаіць бычок—абсмалены бачок (заслонка) (Сьвяча, Беш. р.).

АБСМАЛІЦЬ *дзс.* — обжечь шерсть, щетину на животном. Кабана хутка абсмалілі (Кашчава, Беш. р ).

АБСТАЛЯВАНЬНЕ, *н.*—оборудование. Абсталяваньне новай хаты дорага абойдзецца (Цяпіна, Чаш. р.).

АБСТАЛЯВАЦЬ, *дзс.*— оборудовать. Мы ўжо абсталявалі хату на хутары (Калышкі, Лёз. р.).

АБСТАЯЦЬ, АБСТОІЦЬ, *дзс.*— защитить, отстоять. Чуць абстоілі яго тамака ад бяды (Горбава, Лёз. р.).

АБСТРАКІВІЦЬ, *дзс.*—обжечь крапивой. Абстраківіла ўсі рукі, пакуль назьбірала сьвіньням (Рыбчына Сір. р.).

АБСУРЫЦЦА, *дзс.*--ошпариться. Ён абсурыўся варам (Пустынкі, Сен. р.).

АБСЫПКА, *ж.*—мука, которою посыпают корм животным. Зьмялі на абсыпку парасятам (Адаменкі, Лёз. р.).

АБСЯДАЦЬ, АБСЕСЬЦІ, *дзс.*— окружать, окружить в нападении. Як абселі мяне сабакі ў Крынках—чуць вырваўся (Крынкі, Выс. р.).

АБТАЎКАЦЬ, *дзс.* — очищать от скорлупы в ступе. Мама абтаўкаець авёс у ступе (Гайдукі, Сур. р.).

АБТЫНКАВАНЫ — оштукатуренный. Хата яшчэ ня абтанкавана (Кузьміно, Сен. р.).

АБТЫНКАВАЦЬ, *дзс.* — оштукатурить. Прыдзецца абтынкаваць дом на хутары (Лужасна, Куз. р.).

АБУВАЦЦА, *дзс.*—обуваться. Трэба хутка абувацца (Сянно, Сен. р.).

АБУЗА, *ж.*—1) обуза. Нашто мне гэткая абуза: купі, прадай, —апяць купі (Пятніцкая, Беш. р.); 2) проказа, шалость. Ад іх

абузы нацерпішся (Астроўна, Віц. р.).

АБУЗНЫ—1) неприятный, неприличный. Абузная іх гаворка (Сянно, Сен. р.); 2) озорный. Ад іх абузнага сына не схаваецца дзяўчына (Глебаўск, Сен. р.).

АБУЗЬНІК, а, *м.* — озорник. Гані ў шыю гэтых абузьнікаў (Доўжа, Куз. р.).

АБУЗЬНІЧАЦЬ, *дзс.*—озорничать. Абузьнічыць яны могуць (Высачаны, Выс. р.).

АБУДЗЁН—в тот же день. Із горада вярнуўся абудзён (Хацімшчына, Куз. р ).

АБУРЭНЬНЕ, *н.*—возмущение, восстание. Сяляне зрабілі абурэньне (Труханавічы, Чаш. р.).

АБУРЫЦЦА, *дзс.*—обрушиться, обвалиться Наша павець абурылася (Оўсішча, Сен. р.).

АБУСОКА, *ж.* — окружение после выслеживания. На ваўкоў абусоку зрабілі добра (Хабаты, Куз. р.).

АБУТАК, а, *м*, АБУТКА, *ж*, АБУЎКА, *ж.*—обувь. Няма ў яго абуткі (Зямковічы, Сен. р.). Хоць абуўкі накупілі (Лятоўшчына, Куз. р.). Абутак дораг стаў (Лужасна, Куз. р.).

АБУХ, а, *м.*—обух. Стукнуў абухам, аж адгалосьсе пашло (Кабішча, Куз. р.).

АБУЦЬ, *дзс.*—1) обуть, надеть обувь. Ганна абула новыя чаравікі (Лучоса, Віц. р.); 2) обмануть. Абулі мяне ў лапці з гэтым канём (Доўжа, Куз. р.).

АБХІНАЦЦА, *дзс.*—укутываться. Абхініся сьціпненька хустачкай (Кузьміно, Сен. р.).

АБХОД, у, *м.* 1) обхождение кругом. Сідар у абход пусьціўся (Сянно, Сен. р.); 2) участок леса, который поручен данному леснику. У Янкавым абходзе бярэзіну ўкралі (Лятоўшчына, Куз. р.).

АБХОДКА, *ж.* — первоочередные надобности, оборот. Няма капейкі на абходку, хоць лажыся (Б. Летцы, Куз. р.).

АБХОДЗІЦЦА, *дзс.*—1) обращаться. Кінь ружжо, а то ты з ім ня ўмеіш абходзіцца (Азярэцк, Сен. р.); 2) обходиться. Без цябе там абойдуцца (Кляшчыно, Беш. р.).

АБХОДЗІЦЬ, *дзс.* — обходить. Абходзь нядобрых людзей (Стар. Сяло, Куз. р.).

АБЦАС, а, *м.*—каблук, сапожная подкова. У башмакох высокія абцасы (Мамойкі, Беш. р.). Пар. абсац.

АБЦЕРЦІ, *дзс.*—обтереть, вытереть. Бацька абцёр вусы (Высачаны, Выс. р.).

АБЦЕРЦІСЯ, *дзс.*—вытереться. Ён абцёрся рукавом (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБЦУБАЦЦА, *дзс.*—замочить в грязи низ одежды. Ішла па гразі і дужа абцубалася (Слабада, Чаш. р.).

АБЦУГІ, *ж.*—клещи, щипцы. Выцягні гвозд, ды палажы абцугі на места (Ісачкава, Аз. р.).

АБЦЯГНУЦЬ, *дзс.* — 1) обтянуть, обвести. Увесь сад абцягнулі дротам (Дабрамысьль, Лёз. р.); 2) одернуть одежду. Абцягні сарочку (Лятоўшчына, Куз. р.).

АБЦЯЖАРАНЫ — обремененный. Янка быў абцяжараны вялікаю сям'ёю, а цяпер—адзін, як кол (Падрэзы, Чаш. р.).

АБЦЯСАЦЬ, *дзс.* - отесать. Абцяшы мне гэта бірвяно (Курашчаны, Сур. р.).

АБЧЫСЬЦІЦЬ, *дзс.*—очистить. Трэба абчысьціць бульбу (Шарыпіна, Беш. р.).

АБШАЛЯВАЦЬ, *дзс.*—обшить досками стены снаружи. Абшалюю хату, дык яна сто гадоў прастаіць (Лёзна, Лёз. р.).

АБШАР, у, *м.*—пространство, территория. На етакім абшары жыць можна (Сукрэмна, Сен. р.).

АБШАРПАНЫ — оборванный. Даўно ўжо ён ходзіць абшарпаны (Янавічы, Сур. р.).

АБШАРПАЦЦА, *дзс* — обноситься, оборваться. Я зусім абшарпаўся — нечага адзець (Пустынкі, Сен. р.).

АБШАРЫЦЬ, *дзс.*—обыскать. Увізьдзе абшарыў, але ні знашоў (Стрэлкі, Беш. р.).

АБШАСТАЦЬ, *дзс.*-обворовать, очистить. У гэту ноч зладзеі абшасталі клець (Прудок, Віц. р.).

АБШАТРАВАЦЬ, *дзс.* — очистить зерна от скорлупы на мельніце. Абшатруем ячменю на крупы (Лятоўшчына, Куз. р.).

АБШМАРАВАЦЬ, *дзс.* — испачкать, обмазать. Абшмараваў цела дзёгцем, дык і прапала ўся хвароба (Лятоўшчына, Куз. р.).

АБШМУЛЯЦЬ, *дзс.* — стереть кожу до садна. Вожкі кладзі на гужы, каб лапаткі каню не абшмуляць (Карма, Куз. р.).

АБШНЫПАРЫЦЬ, *дзс.* — обыскать, осмотреть. Усю пуню абшныпарыў і знашоў ткі апарат (Карма, Куз. р.).

АБШУКАЦЬ, *дзс.* — обыскать. Прыдзецца абшукаць усіх, хто ёсьць—мо і знайдзем (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБ'ЕЖЧЫК, а, *м.*—об'ездчик. Скора к нам пріедзіць абуешчык і атаб'ець лес (Баравыя, Віц. р.).

АБЫ, *зл.*—лишь бы. Мне абы толькі давалі грошы (Доўжа, Куз. р.).

АБЫБ, *зл.*—лишь бы, только бы. Ведаем, абыб злавіць яго, дык дадзём (Карма, Куз. р.).

АБЫДЗЕ — где-либо, в любом месте. Кінь абыдзе—я сам пастаўлю (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБЫДЗЕННЫ — ежедневный. Гэта абыдзенная работа. (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБЫЙЦІ, *дзс.* — 1) обойти. Абыйшлі кругом сяла і ні знашлі сьлядоў (Карма, Куз. р.); 2) исходить. Абыйшлі увесь лес, а кароў няма (Дабрамысьль, Лёз. р.); 3) обмануть, обойти. Ён мяне абыйшоў з сенам (Стрэлкі, Беш. р.).

АБЫ-КАЛІ — в любое время, когда-нибудь. Заходзь абы-калі і зробім (Азярэцк, Сен. р.).

АБЫКЛЫ—обыкновенный. Гэта ў яго абыклы парадак—тое тут, а тое там (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБЫ-КУДЫ—куда нибудь, в любое место. Цяпер ідзі абыкуды, абы да вячэры дома быў (Азярэцк, Сен. р.).

АБЫНОЧНЫ—еженочный. Абыночная бяда—нехта каня мучыць (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АБЫ-ХТО—лишь бы кто, кто угодно. Гэта можа зробіць абыхто (Пустынкі, Сен. р.).

АБЫ-ШТО—лишь бы что, что угодно. Яна кажа абы-што (Пушкары, Сен. р.).

АБЫ-ЯК—лишь бы как, как угодно. Абы-як сышло і ладна (Навікі, Віц. р.).

АБЫ-ЯКІ—лишь бы какой, какой угодно. Бяры абы-які тапор ды бяжы скарэй (Высачаны, Выс. р.).

АБЫЧАЙЛІВЫ — с норовом. Прадалі каня з-за таго, што ён дужа абычайлівы (Цясалы, Аз. р.).

АБЯЗУРНІК, а *м.* — шалун, озорник. Андрэй бальшэй абязурнік (Сянно, Сен. р.).

АБЯЗУРНЫ — озорный. Дужа абязурны Ахрэмка—ні прайіці вуліцу (Сухарукава, Аз. р.).

АБЯРНУЦЬ, *дзс.* — повалить, опрокинуть. Блохі байню абярнулі (сьвіньня з парасятамі). (Кошчава, Беш. р.).

АБЯРНУЦЦА, *дзс.*—1) повернуться. Абярніся назад ды паглядзі (Карма, Куз. р.); 2) опрокинуться. Гарлач абярнуўся і малако вылілася (Марцінкава, Куз. р.).

АБЯСЬПЕЧЫЦЬ, *дзс.*—лишить всего, оставить на бобах. Во абесьпечылі баньдзіты Ягора (Саўчонкі, Гар. р.).

АБЯЦАНКА *ж.*, АБЯЦАНЬНЕ, *н.*--обещание. Даў абяцанку быць, а няма (Сукрэмна, Сен. р.). Гэткае абяцэньне! (Гарадок, Гар. р.).

АБЯЦАЦЬ, АБЯСЬЦІЦЬ, *дзс.*—обещать. Не нада было абяцаць, калі ні бярэш (Селядцова, Беш. р.). Абясьціў пазычыць 100 р. на карову, ды ні дае (Гарадок, Гар. р.).

АВАДЗЕНЬ, я, *м.* — овод. Hypoderma lineatum Villers і інш. Авадзень меня укусіў (Ісачкава, Аз. р.). Пар. вадзень.

АВАНТУРА, *ж.* — авантюра. Увязаўся ў авантуру з гэтымі жулікамі (Лёзна, Лёз. р.).

АВАНТУРНІК, а *м.*—авантюрист. Зловяць яго — бальшэй авантурнік (Дубнікі, Сен. р.).

АВЕЧКА, *ж.*—овца. Ovis aries. Ганіце авечку ў поля (Чарніца, Лёз. р.).

АВЕЧНІК, а, у, *м.* — овечий хлев. Загані авечак у авечнік на нач (Калышкі, Лёз. р.).

АВЁС, а, у, *м.*—овес. Avena sativa L. Авёс змалолі на бліны (Рудня, Аз. р.).

АВІН, у, *м.*—овин. Снапы павазілі ў авін (Загор'е, Сен. р.).

АВО, АВО-Ж, АВОСЬ-ЖА, *вкл.*—вот, вот-же. Аво, і ён (Лятоўшчына, Куз. р.). Аво-ж і ня буду прасіцца (Сянно, Сен. р.). Авось-жа гэтага ня будзе (Дубнікі, Сен. р.).

АВОЙ, *вкл.*—ах. Авой, як харашо! (Бабінічы, Віц. р.). Авой... авой... авой, што ета з ім случылася? (Міхалі, Куз. р.).

АВОХЦІ МНЕ, *вкл.*—ах, восклицание при горе. Авохці мне, як цяжка! (Бабінічы, Віц. р.).

АГА, *вкл.*—1) да, утверждение. Ці пойдзем заўтры на кірмаш?— Ага! (Навікі, Віц. р.); 2) ну вот, злорадство. Ага, я-ж табе казаў! (Мікалаёва, Куз. р.).

АГАЗНЫ, АГАЗЬЛІВЫ, — надоедливый, озорный. Тваі рукі агазныя (Ульянавічы, Сен. р.). Як муха агазьлівы! (Чашнікі, Чаш. р.).

АГАЗЬЗЮ — нахально, нагло. Агазьзю ў вочы як кініцца! (Доўгае, Беш. р.).

АГАЛІЦЬ, *дзс.*—1) обнажить. Агаліла хлопца ды ў воду (Лятоўшчына, Куз. р.); 2) побрить. Агалілі цябе дрэнна (Дабрамысьль, Лёз. р.). Пар. абгаліць.

АГАНІЦЬ, *дзс.*—охулить, осудить. Трэба-ж было яго так аганіць! (Дубнікі, Сен. р.).

АГАНОТАК, а, *м.*—полено, из которого колют лучину. Падай мне аганотак, буду лучыну ськяпаць (Пяцігарск, Беш. р.).

АГАРАК, а, *м.*--огарок. Выкінь агарак, а то ён толькі дыміць (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АГАРНУЦЬ, *дзс.*—огрести кругом. Агарні кучу аўса (Труханавічы, Чаш. р.).

АГАРОД, у, *м.*—огород. Мама пашла ў агарод (Барсукі, Аз. р.). Пар. гарод.

АГАРОДНІНА, *ж.* — овощи. Такая жара—агародніна пагарэла (Мазалава, Куз. р.).

АГА-ТУ-ГА, *вкл.*—ату. Як крыкнуў на вуўка: «ага-ту-га», дык ён драла (Касачы, Лёз. р.).

АГАЧ, у, *м.*—дрова. Нашы вазілі ў горад агач прадаваць (Вяжышча, Беш. р.).

АГАШАЦЬКІ, *вкл.* — да. Агашацькі, і я пайду (Крыльцова, Сен. р.).

АГІБА, *ж.* — вязкое топкое место на болоте, где можно провалиться. Агіба цябе бяры! (Вішкавічы, Чаш. р.).

АГІДЛЫ — противный, гадкий. Які ты мурзаты, агідлы! (Бешанкавічы, Беш. р.).

АГЛАБІЛІНА, АГЛОБЛЯ, *ж.*—оглоблина. Ці прыладзіў ты к калёсам аглоблю? (Мар'янава, Сен. р.). Аглабіліну зламаў, дык калёсы кінуў (Кабішча, Куз. р.).

АГЛОБЛІ, *ж.*— оглоблі. Высек сабе ў лесі новыі аглоблі (Лужасна, Куз. р.).

АГЛУМІЦЦА, *дзс.* — сбиться с толку, одуреть. Я прама аглуміўся. (Стралкі, Беш. р.).

АГЛУМІЦЬ, *дзс.*—одурить. Такім шумам можна галаву аглуміць. (Пятніцкая, Беш. р.).

АГЛЯД, у, *м.*—осмотр. Паехаў на агляд зямлі (Мянюцева, Сен. р.).

АГЛЯДАЦЦА, АГЛЕДЗІЦЦА, *дзс.* — осматриваться, осмотреться. Ну дык ты-ж агледзься! (Чараўкі, Сен. р.).

АГЛЯДАЦЬ, *дзс.*—осматривать. Бацька ў пуні—пашоў сена аглядаць. (Пятніцкая, Беш р.).

АГЛЯДЗІНЫ, *ж.* — смотрины. У Насьці ўчора былі сваты, а ў васкресеньне яе бацька паедзіць на аглядзіны. (Суднікі, Куз. р.).

АГНІВО, *н.*—кусочек стали, которым высекают огонь из кремня. Дай мне агніво высеч агню. (Чараўкі, Сен. р.).

АГОЛЕНЫ—обритый. Ходзіць з аголенаю галавою, як гарбузом. (Астроўна, Віц. р.).

АГОНЬ, ю, я, *м.* — 1) огонь. Агонь пылае ў печы. (Раіны, Аз. р.); 2) костер. Мы ў полі расклалі вялікі агонь (Асінаўка, Выс. р.).

АГОЎТАЦЦА, *дзс.*—освоиться, приспособиться. Зразу яму паказалася дзіка, а пóслі агоўтаўся, і нічога. (Сьвярдлы, Беш. р.).

АГРАБАЦЬ, *дзс.*—1) огребывать. Аграбі копы (Дубнікі Сен. р.); 2) сгребать в мешок муку на мельніце из-под жерновов. Маё меліцца—іду аграбаць (Лужасна, Куз. р.).

АГРАБІЛІНА, *ж.* - рукоятка у у грабель. Манька атсекла аграбіліну, толькі дужа яна таўстая і сукаватая (Рудня, Аз. р.).

АГРАБЛІ, *ж.*—грабли. Трэба зрабіць новыі аграблі (Шпунты, Куз. р.).

АГРАБЛЯЦЬ, *дзс.* — грабиць. Паны езьдзяць па дзярэўням аграбляюць мужыкоў (Сукрэмна, Сен. р.).

АГРАМАДНЫ—огромный. Бык аграмадны быў. (Чараўкі, Сен. р.).

АГРАМОН, а, *м.* — агроном. Я лучча аграмона панімаю. (Мазалава, Куз. р.).

АГРЭСТ, а, у, *м.*—крыжовник. Ribes Grossularia L. Як у вас многа агрэсту у саду! (Прусаўкі, Аз. р.). У нас няма агрэста. (Луб'ева, Аз. р.). Сёлета многа агресту. (Альгова, Віц. р.).

АГРОМНІСТЫ — огромный, большой. Язэп—агромністы чалавек. (Дзямідавічы, Чаш. р.).

АГРЫСЬНІК, у, *зб.*—кустарник крыжовника. Абкалоўся на агрысьнік (Доўжа, Куз. р.).

АГУ, *вкл*,—да, утверждение. Пойдзем да дому?—Агу, братка ты мой! (Лужасна, Куз. р.).

АГУЛАМ—1) сообща, вместе. Агулам хату ўзбудавалі. (Мішкава, Куз. р.); 2) оптом, гуртом. Агулам гусей прадавапь выгадней (Пустынкі, Сен. р.).

АГУЛЬНА — сообща. Агульна узяліся зрабіць мост (Навікі, Віц. р.).

АГУЛЬНЫ — общий, совместный. У нас агульная асець (Зыскі, Беш. р.).

АГУРЭЦЬ, *дзс.* — облениться. Так агурэў я, што і есьці лянюся. (Ходцы, Сен. р.).

АГУРОК, а, *м.*—огурец Cucumis sativus L. У нас сёлята будзе шмат агуркоў. (Мігава, Куз. р.).

АД, *прм.*—от. Ад чаго табе стала: ці ад круп ці ад сала. (Ст. Беліца, Сен. р.).

АДАДРАЦЬ, *дзс.*—1) отодраць. Вот аддзёр, так аддзёр дождж! (Вейна, Сен. р.). 2) оторвать. Аддзяры клямку ды лезь у хату. (Селішча, Гар. р.).

АДАРВАЦЦА, *дзс.*—оторваться. Курак атарваўся ў лапця. (Альшанікі, Беш. р.).

АДАРОБКА, *ж.*—трубка из липовой коры для наматывания ниток для сушки. Калі ты мне зробіш адаробку—матаць ніткі нада? (Спаская, Сір. р.).

АДАСЛАЦЬ, *дзс.* — отослать. Я ж адаслала табе твой гарлач! (Доўжа, Куз. р.).

АДБАЎЛЯЦЬ, *дзс.*—отбавлять, уменьшать. Даволі табе адбаўляць—ужо і так мала. (Касачы, Лёз. р.).

АДБІРАЦЬ, *дзс.*—1) отбирать. Будзем адбіраць лепшы акалот на кулі (Дабрамысьль, Лёз. р.); 2) отнимать. Адбяры ў яго пугу! (Дражна, Куз. р.)

АДБОЙ, ю *м.*—отбой. Адбою няма ад гэтых абязурнікаў. (Княжыца, Куз. р.).

АДБРАХАЦЦА, *дзс.*—дать отпор в споре с кем либо. А ўсёткі ён сумеў адбрахацца (Вейна, Сен. р.).

АДБРАХАЦЬ, *дзс.*—выругать в ответ на ругню. Адбрашы за мяне ёй. (Княжыца, Куз. р.).

АДБУКСАВАЦЬ, *дзс.*—побить. Адбуксую табе ахалкам (Доўгае, Беш. р.).

АДБЫЦЦА, *дзс.*—1) побывать. Усе адбыліся у нас. (Доўгае, Беш. р.); 2) состояться. Усе вясельлі адбыліся. (Альшанікі, Беш. р.).

АДБЫЦЬ, *дзс.*—1) отбыть. Адбыў я (Шыпы, Сен. р.); 2) отделаться. Спасібам не адбудзеш—дзень жаць будзеш (Запрудзьдзе, Сен. р).

АДВАГА, *ж.*—отвага, решимость. Адвага ляпей (Кляшчыно, Беш. р.).

АДВАЖНЫ,—отважный, смелый. Адважны ты хлопец (Кузьміно, Сен. р.).

АДВАЖЫЦЦА, *дзс.*—решиться, осмелиться. Я так і не адважылася прасіць. (Оўсішча, Сен. р.).

АДВАЛЬЧЫК, а, *м.*—сани со спинкой. У ватвальчыку куды лепей ехаць, як у простых санках. (Ходцы, Сен. р.).

АДВЕДКІ, *ж.*—проведывание, посещение. Пайду ў атветкі к пляменьніцы. (Мясаеды, Беш. р.).

АДВЕДЫВАЦЬ, АДВЕДАЦЬ, *дзс.* — навещать, навестить. Пайду адведаць пляменьніцу (Красьніца, Чаш. р.).

АДВОНА—1) не круто. Я праду воўну атвона (Канавалава, Куз. р.); 2) полого. Цёця! гляньце, як дошку атвона паставілі! (Канавалава, Куз. р.).

АДВОНАВАТЫ—не крутой. Ві вяроўку атвонавацей! (Сухарукава, Аз. р.). Тамака будзе атвонаваты спуск. (Лучоса, Віц. р.).

АДВОНЫ — пологий. Па атвонаму берегу мы падайшлі к реке. (Чарніца, Лёз. р.).

АДВЯЧОРАК, у, *м.* АДВЯЧЭР'Е, *н.*—время от полудня до вечера Пойдзем касіць, адвечарак яшчэ вялік. (Хацімшчына, Куз. р.). Атвячоркам быў дождж. (Прудок, Віц. р.). Усё атвячэр'е араў. (Чарніцы, Лёз. р.).

АДГАЛОСАК, у, *м.* АДГАЛОСЬСЕ, *н.*—отзвук, эхо. Па лясу пашоў адгалосак. (Ульлянавічы, Сен. р.). Як даў, аж адгалосьсе пашло (Азярэцк, Сен. р.)

АДГАНЯЦЬ, *дзс.* — отгонять. Адгані ты сьвіньней ад хаты. (Пітрашы, Сен. р.).

АДГАРАДЗІЦЬ, *дзс.*—отгородить. Катух адгарадзілі дзеля бульбы. (Зямковічы, Сен. р.).

АДГАРНУЦЬ, *дзс.* — отгрести, отодвинуть. Трэба адгарнуць насеньне, а то вадой падмочыць. (Бабінавічы, Выс. р.).

АДГЭТУЛЬ—отсюда. Адгэтуль мы пойдзем лёгка. (Капланы, Сен. р.).

АДДАВАЦЬ, АДДАЦЬ, *дзс.* — отдавать, отдать. Алё усёдкі аддаў мне тую хату (Чараўкі, Сен. р.). Гэта стрэльба аддае (Высачаны, Выс. р.).

АДДАЛЯЦЦА, АДДАЛІЦЦА, *дзс.* —отдаляться, отдалиться. Ён ужо далёка аддаліўся, як мы схапіліся (Амільлянова, Лёз. р.).

АД ДУШЫ—искренне, от всего сердца. Да гаварыла ж ты—да ад душы (Пушкары, Сен. р.).

АДЖЫМАЦЬ, *дзс.* — стирать, отжимать. Я буду аджымаць плацьце. (Мамойкі, Беш. р.).

АДЗАБАЛЬ, АДЗАБЫЛІ, АДЗАЛЬ—в самом деле, взаправду, действительно. Адзабаль кажу, што ні пайду. (Рыбчына, Сір. р.). Адзабыль, Міхась пашоў. (Міхалі, Куз. р.). Адзабылі я здурэла! (Канавалава, Куз. р.). Адзаль ты кажаш? (Шпакі, Куз. р.). Адздаль так? (Дражна, Куз. р.).

АДЗАЛЕЦЬ, *дзс.*—отмерзнуть, пропасть. Аддзалела расада. (Бікава, Сен. р.).

АДДЗЯЛЯЦЬ, АДДЗЯЛІЦЬ, *дзс.* —отделять, отделить. Во чым аддзяліў пасынка (Лёзна, Лёз. р.).

АДКАЗ, у, *м.*—1) ответ. Мы напісалі, ждзём, калі прыдзець адказ. (Пятніцкая, Беш. р.); 2) отказ. Езьдіў у сваты, алі палучыў атказ (Ульлянавічы, Сен. р.).

АДКАЗАЦЬ, АДКАЗВАЦЬ, *дзс.* —1) ответить, отвечать. Калі у цібе пытаюць, дык нада атказываць (Мазалава, Куз. р.); 2) завещать. Бацька адказаў мне надзел зямлі (Пустынкі, Сен р.).

АДКАРАСКАЦЦА, *дзс.*—отвязаться, отойти. Чаго прывязаўся, адкараскайся! (Мікалаёва, Куз. р.).

АДКАРХНУЦЦА, *дзс.*—отхаркнуться. Досіць табе кашляць, адкархніся! (Шыркі, Куз. р.).

АДКАСАЦЬ, *дзс.* — отвернуть, напр. засученные рукава. Адкасай каўнерь, каб за шыю ня ліло. (Сухарукава, Аз. р.). Аткасай рукавы (Ульлянавічы, Сен. р.).

АДКАСАЦЦА, *дзс.* — 1) отвязаться, избавиться. Адкасьніся ты пад мяне (Асіпова, Аз. р.); 2) отвернуться, напр. засученным

рукавам. Рукавы адкасаліся і вэдзгаюцца (Лужасна, Куз. р.).

АДКАСІЦЬ, *дзс.*—скосить. Ён нам дазволіў адкасіць воз сена. (Азярэцк, Сен. р.).

АДКЕЛЕ—откуда. Адкеле ты ідзеш? (Марцінкава, Куз. р.).

АДКІНУЦЬ, *дзс.* — отбросить. Аткінь етат камень ў старану (Баравыя, Сен. р.).

АДКЛАДАЦЬ, АДКЛАСЬЦІ, *дзс.* — откладывать, отложить. Адкладай яму гэтых шчук (Альшанікі, Беш. р.). Трэба адкласьці на сёньня тваё шытво (Доўжа, Куз. р.).

АДКРЫЦЬ, *дзс.* — открыть. Адкрый бабкі—хай сохнуць (Селішча, Гар. р.).

АДКУЛЬ—откуда. Адкуль ты прышоў? (Запрудзьдзе, Куз. р.). Аткуль ён прыехаў? (Прыстоі, Чаш. р.).

АДКУШАЦЬ, *дзс.*—откушать, поесть. Адкушайце з намі (Пушкары, Сен. р.).

АДЛАЖЫЦЬ, *дзс.* — 1) отложить. Трэба адлажыць гэту язду (Касачы, Лёз. р.); 2) открыть. Атлож вакно (Прусаўкі, Аз. р.).

АДЛАМІЦЬ, *дзс.* — отломать. Атламі мне скорачку хлеба (Баравыя, Куз. р.).

АДЛЕГА, АДЛІГА, *ж.*—оттепель. Сёньня адлега (Казаноўка, Чаш. р.). Неба хмарна, будзе адліга (Лук'янава, Сен. р.).

АДЛЕГЛАСЬЦЬ, *ж.*—расстояние, отдаленность. Нівялікая і адлегласьць да яго (Амільянова, Лёз. р.).

АДЛЕГЧЫ, *дзс.* — отлечь, отпустить. Яму на сэрцы атлягло (Капланы, Сен. р).

АДЛЕЗЬЦІ, *дзс.*--отлезть, отойти. Атлезь, дурак, не люблю! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

АДЛЕЎНІК, а, *м.*- глинянный горшок. Дзеці панясьлі на поля атлеўнік малака (Оўсішча. Сен. р.)

АДЛІЎ, а, *м.*—1) крыло в плуге, отвал. Зьзделай мне адліў у плугу (Бешанковічы, Беш. р.); 2) большая ложка. Кладзі атліў (Берашоўцы, Беш. р.).

АДЛІЎНІЧАК, а, *м.* – глиняный горшочек. Налі вады ў атліўнічак (Капланы, Сен. р.). Пар. адлеўнік.

АДЛУПІЦЬ, *дзс.* — побить. Яе за плёткі хацелі адлупіць (Сянно, Сен. р.).

АДЛУПСАВАЦЬ, *дзс.*—побить, высечь. Я ей атлупсую гетай аборанай (Чараўкі, Сен. р.).

АДЛЯКА—тупым углом. Атляка каса насаджана (Сухарукава, Аз. р.).

АДМАХАЦЬ, *дзс.* — отмахать, пройти. Я сёньні атмахаў дваццаць вёрст (Вейна, Сен. р.).

АДМЕНА, *ж.*—перемена. Павінна нейкая адмена наступіць (Аксяньці, Чаш. р.).

АДМОВІЦЬ, *дзс.*—1) отказать. Мы яму адмовілі (Храпавічы, Куз. р.); 2) отговорить. Адмовілі у мяне дзяўчыну яшчэ зімой (Жэрына, Чаш. р.); 3) отбить. Служыў бацютка добра, ды адмовілі людзі да сябе (Селішча, Гар. р.).

АДМОКНУЦЬ, *дзс.* — вымокнуть. Адмок мой авёс сёлета (Азярышча, Аз. р.). Пар. адмякнуць.

АДМЫКАЦЬ, *дзс.* — отмыкать. Ні адмыкай дзьверы, пакуль што (Цяпіна, Чаш. р.).

АДМЫЦЬ, *дзс.*—отмыть. Гэты мост можна адмыць адно лугам (Княжыца, Куз. р.).

АДМЯКНУЦЬ, *дзс.*—1) вымокнуть. Адмякла бульба ў Карчагах, ня будзе (Амільянова, Лёз. р.).

2) отсыреть. Адмякла збожжа (Лятоўшчына, Куз. р.).

АДНАВОКІ—одноглазый. У яго аднавокі конь (Пустынкі, Сен. р.).

АДНАК—однако. Аднак, мая праўда (Доўжа, Куз. р.).

АДНАКАВА—одинаково. Яму ўсё аднакава (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДНАКОЛІЦА, *ж.*—одной материи юбка и кофта. Аднаколіцу пашылі Ганьне (Запрудзьдзе, Сен. р.).

АДНАКОЛЫ — одинаковый. Хусткі аднаколыя (Ульлянавічы, Сен. р.).

АДНАКОНЧЫ — обязательно. Аднакончы ты заўтра прідзі к нам (Кабішча, Куз. р.).

АДНАСТАЙНЫ — однообразный, подобный. У нас пара адна стайных каней. Усе дні гэтыя аднастайныя нейкія (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДНАЧАСНА — одновременно. Адначасна загарэлася і пошта (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДНІМАНЬНЕ, *н.*—вычитание. Ні даюцца яму там задачы на адніманьне (Балдыкова, Аз. р.).

АДНІМКА, *ж.*—тряпка, которой берут горшки. Вазьмі атнімку і састаў чугун на пол (Сьвеча, Беш.р.).

АДНО—только, лишь. Гэты мост можна адмыць адно лугам (Княжыца, Куз. р.).

АДНОСІЦЦА, *дзс.*—относиться. Ён адносіўся добра да нас (Доўжа, Куз. р.).

АДНОСЬНІК, а, *м.*—отношение, оффициальная бумага. Нічога я ў гэтым адносьніку не разьберу (Беліцца, Сен. р.).

АДОНКІ, *м.*—подонки. Адонкі прадае за такую цану (Высачаны Выс. р.).

АДПАВЕДНЫ — соответственный. Адпаведную шрубу дастань (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДПАРЫЦЬ, *дзс.* — отпарить, сварить. Трэба адпарыць бульбу (Пітрашы, Сен. р.).

АДПАЧЫВАЦЬ, АДПАЧНУЦЬ, *дзс.*—отдыхать, отдохнуть. Я адпачываў пад зялёным кустом (Залесьсе, Чаш. р.). Трэба адпачнуць (Мянюцева, Сен. р.).

АДПАЧЫНАК, у, *м.*—отдых. Добры адпачынак пасьля працы (Мішкава, Куз. р.).

АДПЕРАЗАЦЬ, *дзс.*—1) отпоясать. Дзягу можна адперазаць (Пятніцкая, Беш. р.); 2) побить. Вазьму дубіну ды адперазаю (Бараўляны, Куз, р.).

АДПІНАЦЦА, *дзс.* — отказываться от своих слов. Кінь адпінацца, у суседзяў ты гэта казаў (Пятніцкая, Беш. р.).

АДПІРАЦЬ, *дзс.* — открывать. Ня трэба адпіраць дзьвярэй, бо халодна (Пітрашы, Сен. р.).

АДПІСКА, *ж.*—отписка, ответ. Зрабі яму адпіску — я занясу (Чашнікі, Чаш. р ).

АДПІХНУЦЦА, *дзс.* — оттолкнуться, отстраниться. Ён скоро адпіхнуўся ад берага і паплыў на другі бок (Азярэцк, Сен. р.).

АДПРАВА, *ж.* — церковная служба. На Пятро там бывае адправа (Пятніцкая, Беш. р.).

АДПРАВІЦЬ, *дзс.* — 1) отправить. Адправіў усіх людзей (Доўжа, Куз. р.); 2) отслужить. Нягож ён не адправіў панафіды? (Чырвоная Слабада, Сен. р.).

АДРАБІЦЬ, *дзс.*—отработать. Адробіў яму за пожню (Бера шоўцы, Беш. р.).

АДРАЗУ—сразу. Адразу яна замоўкла (Доўжа, Куз. р.).

АДРАІЦЬ, *дзс.*—отсоветовать. Адраілі мне рабіць гэдак (Цяпіна, Чаш. р.),

АДРАКАЦЦА, *дзс.*—отрекаться, отказываться. Я ад яго даўно адраклася! (Храпавічы, Куз. р.).

АДРАНАК—утро до завтрака. Адранкам сушылі сена (Хмары, Куз. р.). Цэлы атранак атработаў (Стрэлкі, Беш. р.).

АДРАНТВЕЦЬ, *дзс.* — оцепенеть. Нага адрантвела, бо дрэнна сядзеў (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДРЭЗАК, а, *м.*—отрезанная нижняя часть сапога без голенища. У адрэсках холадна (Мамойкі, Беш. р.).

АДРОСТАК, а, *м.* — молодой побег у пня срубленного дерева. Кала пня многа атуросткоў (Чарніца, Лёз. р.).

АДРЫНА, *ж.*—сенной сарай. Адрына поўна сена (Дубнікі, Сен. р.).

АДСЕЧ, *дзс.* — отсечь, вырубить. Мне далі адсеч толькі ½ саж. дроў (Азярэцк, Сен. р.).

АДСКОКА, *ж.* — расстояние, отдаленность. На адскоцы і ён жывець (Спасская, Сір. р.).

АДСОЎВАЦЬ, АДСУНУЦЬ, *дзс.* — отодвигать, отодвинуть. Ці скора ты будзеш адсовываць хату? (Азярэцк, Сен. р.). Ён сам адсунуў крупнік—відаць наеўся (Азярэцк, Сен. р.).

АДСТАЯЦЬ, *дзс.* — отстоять, простоять. Цэлы час адстоіла на дварэ (Стаішча, Чаш. р.)

АДСЫРЭЦЬ, *дзс.* отсыреть. Сярнікі адсырэлі (Доўжа, Куз. р.).

АДСЬВЯТКАВАЦЬ, *дзс.* — отпраздновать. Адсьвяткавалі май (Асінаўка, Беш. р.).

АДСЬКЯПІЦЬ, *дзс.*—отщепить. Дай мне стрыжань адськяпіць лучыны (Каралёва, Выс. р.).

АДСЬЦЯБАЦЬ, *дзс.* — высечь. Адсьцябаю дубцом (Бешанкавічы, Беш. р.).

АДСЮЛЬ, АДСЮЛІКА — отсюда. Вазьмі ты яе адсюль (Купіна, Віц. р.). Атсюль да Буева саўсім блізка (Мазалава, Куз. р). Адсюліка відней (Мікалаёва, Куз. р.).

АДТАРАБАНІЦЬ, *дзс.* — оттащить, отнести. Я аттарабаніў жнейку назад (Стар. Сяло, Куз. р.).

АДТУЛЬ —оттуда. Адтуль яна вярнулася позна (Пужалава, Аз. р.). Мы аттуль (Капланы, Сен. р.).

АДУБЕЛЫ — окоченелый. Чалавек зрабіўся адубелы (Сянно, Сен. р.).

АДУБЕЦЬ, *дзс.* — окоченеть. Адубелі мае ногі (Кузьміно, Сен. р.).

АДУЖАЦЬ, *дзс.*—осилить. Я яго адужаў (Расна, Сен. р.).

АДУРЭЦЬ, *дзс.*– потерять рассудок, одуреть. Ці ты адурэў, ці ты напіўся? (Пятніцкая, Беш. р.).

АДУРНЕЦЬ, *дзс.*—оглупеть. Ён зусім адурнеў ад гора (Навасёлкі, Сен. р.).

АДУСЮЛЬ — отовсюду. Адусюль яму ідуць грошы (Пустынкі, Сен. р.).

АДУТЛАВАТЫ — обрюзглый, одутловатый. У яго твар адутлаваты (Луб'ева, Аз. р.).

АДХІНУЦЦА, *дзс.* — отвернуться, отойти. Толькі адхінуўся, а яно і загарэлася (Пятніцкая, Беш. р.).

АДХІЛІЦЦА, *дзс.* — посторониться. Эй, адхіліась, ня відаць нічога з-за цябе! (Пустынкі, Сен. р.).

АДХІЛІЦЬ, *дзс.* — отвернуть. Адхілі полы кажушка (Доўжа, Куз. р.).

АДХОДЖАЯ—гостинная, чистая комната, в кототой прини-

мают гостей. Калі у нас была атхожая, так было гдзе прыняць гасьцей (Саўчанкі, Куз. р.).

АДХОНАВАТА, АДХОНАВАСТА—полого. Дарога ідзе атхонавата (Кузьміно, Сен. р.). Бераг у рэчцы спускаецца адхоноваста (Шыпы, Сен. р.).

АДХОНАВАТЫ, АДХОНАВАСТЫ—пологий. Крыша яго дому дужа адхонаватая (Азярэцк, Сен. р.). Унашай рэчцы берагі атхонавастыя (Аськершчына, Беш. р.). Пар. адвонаваты.

АДХУКНУЦЦА, *дзс.* — отдышаться. Дай адхукнуся,—змардаваўся датла! (Канавалава, Куз. р.).

АДХУТАЦЬ, *дзс.* — отворить. Адхутай дзьверы ў хаце (Луб'ева, Аз. р.).

АДЦІРАЦЬ, *дзс.* — стирать, оттирать. Ататры плацьця і папалашчы (Чараўкі, Сен. р.).

АДЦІСНУЦЬ, *дзс.*—оттиснуть, отжать. Нада сыр адціснуть (Вейна, Сен. р.).

АДЦЯЦЬ, *дзс.* — отрубить, быстро отрезать. Яму брат у лесе тапаром адцяў пальцы (Азярэцк, Сен. р.).

АДЧАЙ, ю, *м.*—отчаяние Адчай на мяне напаў (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АДЧАЙНЫ — отчаянный. Адчайны стаў чалавек (Чашнікі, Чаш. р.).

АДЧАПІЦЦА, *дзс.* — 1) отвязаться, отцепиться У яго адчапілася вяроўка (Забор'е, Сен. р.); 2) отстать. Адчапіся ты ад яго! (Навікі, Віц. р.).

АДЧУПРЫЖЫЦЬ, *дзс.*—выставить. А ён сваю морду адчупрыжыў, як на паказ (Пушкары, Сен. р.).

АДЧУРАЦЦА, *дзс.*—отречься, оставить. Адчурайся ты ад яго! (Хацімшчына, Куз. р.).

АДЧЫНІЦЬ, *дзс.*—открыть. Адчыні дзьверы! (Доўжа, Куз. р.).

АДШАСТАЦЬ, *дзс.* — быстро отрезать. Паўбулкі хлеба атшастаў (Пустынкі, Сен. р.).

АДШЧАПІЦЬ, *дзс.*—отцепить. Адшчапі крук у вароцях (Азярэцк, Сен. р.)

АДШЧЫКНУЦЬ, *дзс.*—сорвать, отщипнуть. Адшчыкні дуліну. Зьбегай гароху адшчыкнуць (Навікі, Віц. р.).

АДЫЙСЬЦІ, *дзс.* — отойти. Адыйдзі нямнога ў бок (Сянно, Сен. р.).

АДЫМКА, *ж.*—1) тряпка, которой берут горшки. Вазьми атымку ды перестаў сюды гаршок (Сухарукава, Аз. р.). Пар. аднімка; 2) платок, которым бабы повязывают голову. Прыгожая атымка у яе на галаве (Сахны, Сен. р.).

АДЫХОД, у. *м.*—отход, отшествіе. Хутка будзець адыход параходу (Бешанкавічы, Беш р.).

АЁЙ, АЙЁ, *вкл.* — удивление. Аёй, якія прыгожыя квяты (Лёзна, Лёз. р.). Айё, як гэта вышла! (Гарадок, Гар. р.).

АЖ, АЖНА, АЖНУ, АЖНУЛЬ, АЖНУЛЬКА, АЖНЫ, *зл.*—даже. Аж зубамі заляскаў (Навікі, Віц. р.). І што за чалавек, ажна нельга выказаць! (Ягоркі, Куз. р.). Ажну тошна мне стала (Сялец, Чаш р.). Ажнуль ня вытрываў (Мазалава, Куз. р.). Ён так робіў, ажнулька пот у яго пашоў (Мазалава, Куз. р.). Ну, і ўмарыўся, ажны лоб мокры (Пятніцкая, Беш. р.).

АЖАВІНА, *ж.*--ежевика. Rubus caesius L. Кала ракі расцець ажавіна (Сьвеча, Беш. р.).

АЖАНІЦЦА, *дзс.*—ожениться. Ажаніўся, весяліўся, цяпер буду панаваць: жонка будзіць сьвінь-

ней пасьвіць, а я буду падганяць (Застадольле, Сен. р.).

АЖ-БЫ, *зл.*—вот-бы. Аж-бы даў яму! (Сянно, Сен. р.).

АЗАДАК, а, *м.*—задняя часть туловища скотины. Азадак дзешавей, як перад (Пятніцкая, Беш. р.).

АЗАДЗЬДЗЕ, *н.*—худшие зерна с сором полученные после веяния. Азадзьдзе скаціне аддай, а там наарфуем (Дубнікі, Сен. р.).

АЗАЛЕЦЬ, *дэс.* — смерзнуть, окоченеть. Азалеў зусім пакуль прыехаў (Амільянова, Лёз. р.).

АЗАРНЫ—озорный. Азарныя рябяты (Прусаўкі, Аз. р.).

АЗГАРОДА, *ж.*—изгородь. Міхалка гарадзіў азгароду (Пясочак, Куз. р.).

АЗІЛЯЗЕЦЬ, *дэс.*—ожелезиться, сделаться железным. Каб ты азілязеў! (Доўгае, Беш. р.).

АЗІРАЦЦА, *дэс.* — озираться, осматриваться. Азірацца ня трэба (Кляшчыно, Беш. р.).).

АЗІЯТ, а, *м.*—жестокий, азиат. Азіят ты, замучыў ужо сусім! Выпіў маю кроў! (Навікі, Віц. р.).

АЗЫЗНУЦЬ, *дэс.*—1) обрюзгнуть. Глянь, як у яго твар азыз (Азярэцк, Сен. р.); 2) продрогнуть. Боты дзіравыя, дык крэпка азыз (Пятніцкая, Беш. р.).

АЗЬДЗЯВУЛІЦЬ, *дэс*—ударить с яростью. Ты б яму азьдзявуліў паленам, каб ён век помніў (Сьвярдлы, Беш. р.).

АЗЯРО, *н.*—озеро. На азяре узьнілася буря (Рудня, Аз. р.).

АЗЯРОД, а, у, *м.*—два или три столба с параллельными перекладинами из жердей для сушки снопов. На гумне стаяў азярод (Кузьміно, Сен. р.).

АДЗЕЖА, *ж.*—одежда. Брыль не адзежа—сырапеня ня ежа (Палуянава, Гар. р.).

АДЗЕНЬНЕ, *н.*—платье, одежда. Усё адзеньне забралі—няма чаго і адзець (Храпавічы, Куз. р.).

АДЗЕРЖЫВАЦЬ, АДЗЯРЖАЦЬ, *дэс.*—останавливать, остановить. Хай бяжыць, ня трэба адзяржаць (Пятніцкая, Беш. р.).

АДЗЕЦЬ, *дэс.*—одеть, надеть. Маці адзела бурнос (Бесьцьвена, Сен. р.).

АДЗІН—один. Мяне аднога выправілі (Падсады, Сір. р.). Адным махам семсот забівахам, (Ст. Беліца, Сен. р.).

АДЗІНАНЦАЦЬ — одинадцать. Адзінанцаць маткоў нітак зьвіла (Бікложа, Беш. р.).

АДЗІНЕЦ, а, *м.* одинокий, хуторянин. Бацька пашоў к адзінцу (Азярэцк, Сен. р.).

АДЗІНОТА, *ж.*—одиночество. Янка жывець на адзіноце (Бухла, Сен. р.). Як табе не надаесь адзінота, чаму ты ня жэнісься? (Пятніцкая, Беш. р.).

АІН, а, *м.*—перочинный нож. Ганули, пасачы складаны аін! (Рэчана, Куз. р.).

АІНАЦЬКА—вон там. Аінацька ходзіць твой конь (Шавяно, Куз. р.).

АІР, у, *м.*—аир. Acorus calamus. L. Аір расьце ў вадзе (Бабінічы, Віц. р.).

АЙ, *зл.*—или. Мы, ай яны будуць гэта робіць? (Сьвіціна, Беш. р.).

АЙ, *вкл.*—боль, испуг, удивление. Ай, якая бяда! (Гарадок, Гар. р.).

АЙ ДЗЕЖ—а где же. Ай дзеж быў да сіх пор? (Міхалі, Куз. р.).

АЙІНЬКА, *вкл.* — удивление. Айінька, як я спужаўся! (Масьлена, Куз. р.).

АЙКАНЬНЕ, *н.* — стонание. Кінь сваё айканьне! (Храпавічы, Куз. р.).

Аканіца
акерніца

**АЙКАЛА**, *аг.*—кто стонет не переставая. Не чапай нашага айкалы (Астроўна, Віц. р.).

**АЙКАЦЬ**, *дзс.*—стонать. Як пачаў айкаць, дык цэлыя суткі (Астроўна, Віц. р.).

**АЙТ**—нет, отрицание. Айт, не пайду я нікуды (Гравы, Сен. р.).

**АКАЛЕЦЬ**, *дзс.*—1) подохнуть, умереть. Конь акалеў (Мазалава, Куз. р.); 2) пропасть. Эх, каб ты акалела такая работа! (Пяцігарск, Беш. р.); 3) замерзнуть. Ай, сьцідзёна, я ўся акалела (Запрудзьдзе, Сен. р.); 4) простыть. Ідзі сьнедаць, а то акалеіць усё (Стаішча, Чаш. р.).

**АКАЛІ-Ж**—а когда-ж. Акалі-ж ён аддась? (Лёзна, Лёз. р.).

**АКАЛОТЫШ**, а, *м.*—околоченный сноп ржи без зерен. На вазу ляжыць куча акалотышаў (Хадулава, Куз. р.).

**АКАНАВАЦЬ**, *дзс.*—обещать, наметить. Аканаваў прадаць цёлку на прадналог (Стралкі, Беш. р.).

**АКАНІЦА, АКЕНЬНІЦА, АКЕРНІЦА, АКЕЛЬНІЦА, АКОНЬНІЦА**, *ж.*—ставня. Зачыні вечарам аканіцы (Дзямідавічы, Чаш. р.). Акеньніцы ў нашых вокнах старыя (Мікалаёва, Куз. р.). Зачыні акерніцы, каб гряд сьцёклы не пабіў-ба (Сухарукава, Аз. р.). Акельніцы зробіць нада (Міхалёва, Куз. р.). Як такія аконьніцы, дык лепш бяз іх (Мігава, Куз. р.).

**АКАНОМ**, а, *м.*—эконом. У нашым фольварку дужа дрэнны аканом (Азярэцк, Сен. р.).

**АКАНОМНЫ**—экономный, хозяйственный. Наш Сьцяпан аканомны (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**АКАРАК**, а, *м.*—1) затылок, шея. А і жырны ж у цябе акарак, Костусь! (Сянно, Сен. р.); 2) окорок. Акарык нада капціць (Мікалаёва, Куз. р.).

**АКАЧУРЫЦЦА**, *дзс.*—подохнуть, умереть. Наш сабака гэтымі днямі акачурыўся (Селядцова, Беш. р.).

**АКАЯННЫ**—злой, бессердечный человек, окаянный. Акаянны ты чалавек! нісколькі у цебе нет жаласьці (Баравыя, Куз. р.).

**АКЗІМАЧКА**, *ж.*—печка. Сядзь на акзімачку й сагрэешся (Вяжышча, Беш. р.).

**АКНО**, *н.*—окно. Дзеці разьбілі акно (Рудня, Аз. р.).

**АКНОРАЗ**, а, *м.*—кабан самец. Sus scropha. Сьвіньню да акнораза павялі (Разумова, Лёз. р.).

**АКОЛІЦА**, *ж.*—окрестность. Ідзі Марыля, гэткага жаніха і ў ваколіцы няма (Пятніцкая, Беш. р.)

**АКОП**, у, *м.*—насыпанный на землю в виде конуса картофель, обложенный соломой и пр. и обсыпанный землей на зиму. З акопу дастанем бульбы (Вайханы, Гар. р.).

**АКРАВАК, АКРАВЕНЬ**, а, *м.*—1) обрезок, лоскут лыка. На зямлі ляжаў акравак ліпавага лыка (Дзямідавічы, Чаш. р.). На лапці шмат акраўнёў—нада абрэзаць (Варошчына, Куз. р.); 2) опорки. Лапці стаптаў, толькі акраўкі асталіся (Сукрэмна, Сен. р.).

**АКРАЕЦ, АКРАЙ, АКРОМАК**, а, *м.*—краюха, горбушка хлеба. Даў акраец хлеба (Сукрэмна, Сен. р.). Дай старцу акрай хлеба (Сяргейкі, Сен. р.). Акромак зьеў (Гарадок, Гар. р.).

**АКРАЙКА**, *ж.*—кромка. І акрайкі згодзяцца (Чашнікі, Чаш. р.).

**АКРАМОСАК**, а, *м.*—кусок, обрезок. Астаўся акрамосак хле-

ба (Сялец, Чаш. р.). Падай мне акрамусак! (Лясьнікі, Сен. р.).

АКРАМОСЬСЕ, *зб.*—куски, обрезки. Ні была-б тая швейка—акрамосься на воз не забярэш (Сукрэмна, Сен. р.).

АКРАСЬ, я, *м*—карась Carassius vulgaris Nils і інш. Паглядзі, якога мы паймалі акрася (Дрыкольле, Куз. р.).

АКРОПНАСЬЦЬ, *ж.*—ужас. Як зірнуў на гэта, аж акропнасьць узяла (Капланы, Сен. р.).

АКРУЦЕНЬ, я, *м.*—веревка, которою привязана оглобля к саням. У санёх акруцень парваўся (Дварэцк, Чаш. р.).

АКРАМЯ, *зл.*—кроме. Акрамя Барыса, нікога ня было (Слабада, Куз. р.)

АКРЫВАЎЛЕНЫ—окровавленный. Акрываўлены прыбег дадому (Спасская, Сір. р.).

АКРЫЯЦЬ, *дзс.*—ожить, окрылиться. Наша жыцейка пасьля дожджыку акрыяла (Высачаны, Выс. р.)

АКСАМІТКА, *ж.* — головной венчальный убор невесты, сделанный из полотна в роде кокошника, на который наклеивали разные цветы, блёстки вместо венчальных цветов. Аксамітку пашылі, а яе і няма! (Мікалаёва, Куз. р.).

АКУБКІ, аў, *м.*—сыроежки. Russula rubra Fr. і інш. Акубкаў набраў на сьнеданьне (Бяскатава, Гар. р.).

АКУЛЯРЫ, *ж*—очки. Ён без акуляраў ня можа чытаць (Азярэцк, Сен. р.).

АКУНЬ, я, *м.*—окунь. Perca fluviatilis. Я злавіў акуня (Кошчава, Беш. р.).

АКУРАТ—как раз. Акурат той самы чалавек (Навасёлкі, Сен. р.).

АКУШЭНЕЦ, а, *м.*—обманщик. Акушэнец ты! (Мянюцева, Сен. р.). Пар. ашуканец.

АКУШЭРКА, *ж.*—акушерка. Прывёз ба ты акушэрку — ня можа баба абрадзіцца (Бабінічы, Віц. р.).

АКУРАК, а, *м.*—окурок. Не кідай акуркі на салому (Ісачкава, Аз. р.).

АЛАДКА, *ж.*—оладья. Матка напякла аладак (Каралі, Куз. р.).

АЛЕ, АЛІ, *зл.* — но. Ён нічога сабе хлопец, але бацькі явоныя дрэнь! (Летцы, Куз. р.). Хуць я й доўга таргаваўся алі дзяшавей купіў (Сьвярдлы, Беш. р.).

АЛЕ, *вкл.*—да. Але, я прыеду (Труханавічы, Чаш. р.).

АЛЕЙ, ю, *м.*—подсолнечное или льняное масло. Нада к пасту купіць алею (Шняўка, Сір. р.).

АЛЕЙНЯ, *ж.* — маслобойня. Вязі у іх алейню алею выгнаць—добра гоніць (Спасская, Сір. р.).

АЛЕШНІК, у, *зб.*—ольховый лес. Алешнік засеў густа (Луб'ева, Аз. р.).

АЛЕШЫНА, *ж.*—ольха. Alnus incana Mnch. Калі алешына раней за бярэзіны распусьціцца—лета будзе сырое (Застадольле, Сен. р.).

АЛЁС, у, *м.*—1) болото, где растет ольховый лес. У нашай мясцовасьці шмату алёс (Косы, Віц. р.); 2) лесное болото, где растет трава. У алёсе накасілі многа сена (Хмары, Куз. р.).

АЛІВА, *ж.*—смазочное масло. Купі алівы заліваць арфу (Касачы, Лёз. р.).

АЛІВЭС, у, *м.*—столетнік. Aloe arborescens Mill. Ёй даюць піць алівэс, бо ўжо замучылі сухоты (Азярэцк, Сен. р.).

АЛОВАК, а, *м.*—карандаш. Я купіла сабе аловак (Яцукі, Беш. р.).

**АЛЬБА**, **АЛІБА**, *зл.* — разве. Аліба ня бачыў яго? (Жэрына, Чаш. р.). Альба ты, бацька едзь па агач, а я дома застануся, альба я дома застануся, а ты едзь па агач (Альгова, Віц. р.).

**АЛЬЛІЦА**, *ж.*—лужок на краю усадьбы. Конь ходзіць за альліцай (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**АЛЬНЯНІНА**, *ж.*—холст. Уся альняніна вышла (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**АЛЬНЯНЫ**—льняной. Канапляны алей смашней за альнянога (Марозаўка, Сен. р.).

**АЛЬСА**, *ж.*—болотный сенокос, иногда с ольховыми деревьями Сёньня касілі ў альсе (Азярэцк, Сен. р.). Будзем касіць альсы (Кайтанова, Куз. р.). Пар. алёс.

**АЛЮН**, у, *м.*—квасцы. Alumen calicum Купі алюну на грыўню (Стрэлка, Беш. р.).

**АМАЛЬ-ШТО**, *зл.*—почти что. Ён амаль што памошчнік (Пушкары, Сен. р.).

**АМБАРАС**, у, *м.*—1) беспокойство, возня. Трэба-ж было надзелаць столькі амбарасу! (Азярэцк, Сен. р.); 2) невозможная затея, невыполнимый план. Сьмешна слухаць твае амбарасы (Ст. Беліца, Сен. р.).

**АМБАРАСНА** — беспокойно, хлопотливо. Амбарасна ўсё гэта (Чашнікі. Чаш. р.).

**АМБАРАСІЦЦА**, *дзс.* — иметь лишнее беспокойство. З гэтым хламам толькі амбарасісься (Ульлянавічы, Сен. р.).

**АМІН**, у, *м.* — конец. Хутка будзіць амін яму (Амільлянова, Лёз. р.).

**А МОЖА**, *зл.*—может быть. А можа ты ня хочаш са мной іці? (Семянцова, Беш. р.).

**АМПЭТ**, у, *м.* — стремительность, увлечение. Ён з такім ампэтам казаў... Ён у вялікім ампэце быў...(Жукоўшчына, Куз. р.).

**АМУТ**, у, *м.* — омут Утапіўся ў амуце (Бікложа, Беш. р.) Човен наш стала круціць ды ў амыт (Навікі, Віц. р.).

**АМШАРА**, *ж.* — моховое болото, иногда с кустарником, деревцами. Нашы пагналі каровы ў амшару (Навікі, Віц. р.).

**АМШАРЫНА**, *ж.*—низкий луг, поросший мохом, иногда с кустарником, деревцами. У амшаріні ходзіць мой конь (Чарніца, Лёз. р.). Пар. амшара.

**АМШАРЫСТЫ** — болотистый. Амшарыстая пожня ў нас (Адаменкі, Лёз. р.).

**АМШЭНЬНІК**, **АШМЭНЬНІЧАК**, а, *м.* — здание, проконопаченное мохом, чаще служащее хлевом или клетью. Ладны амшэньнічак паставіў (Дубнікі, Сен. р.).

**АМШЫЦЬ**, *дзс.* — проконопатить мохом. Трэба амшыць хлеў (Дубнікі, Сен. р.).

**АМЯГА**, *ж.*—усталость с чувством жажды. Амяга апанавала мной (Адаменкі, Лёз. р.).

**АНАГДОВЕНЬ**, **АНАГДОВІНЬ**, **АНАГДЫСЬ**, **АНАДАСЬ**, **АНЭГДЫ** —на днях, недавно. Анагдовень ён быў тут (Спасская, Сір. р.). Анагдовінь быў дождж (Доўгае, Беш. р.). Анагдысь як раз таксама было з ім (Шыркі, Куз. р.). Анадась мы яго бачылі (Высачаны, Выс. р.). Анегды мы былі ў хаце-чытальні (Тараскі, Чаш. р.).

**АНАМНЕСЬ** — однажды. Анамнесь каля Вяліканьня мы бачыліся (Бешанкавічы, Беш. р.).

**АНГЕЛ**, **АНЁЛЫШ**, а, *м.*—ангел. Ангіл нарысаван (Красьніца.

Чаш. р.). Анёлыш на абразох нешта робіць (Макарава, Віц. р.).

АНГЕРКА, *ж.* — верхняя длинная женская одежда из домотканного сукна. Яна пашыла сабе новую ангерку (Прыстоі, Чаш. р.).

АНДАРАК, а, *м.*—1) верхняя шерстяная или полушерстяная юбка. Андарак надзень — цяплей будзе (Сташча, Чаш. р.); 2) вид верхнего пальто домотканного сукна. Апрані андрак на куртку (Патапенкі, Выс. р.).

АНДАРАКІ, *ж.* — домотканное сукно или полусукно, чаще всего идущее на юбки. Пяць губак андракоў выткала (Пустынкі, Сен. р.).

АНДАРАКОВЫ,—сделанный из «андаракоў» (гл.). Андраковых рубах ня бывае (Пустынкі, Сен. р.).

АНЁЖ, АНЯЖ, АНЯГО, АНЯГО-Ж, АНЯГОНІ, АНЯГОЖЧЫ— 1) неужели, разве. Анёж не? (Макарава, Віц. р.). Аняж ты ня бідзеў, што купляў? (Чарніца, Лёз. р.). Аняго ўжо паехалі? (Храпавічы, Куз. р.). Аняго-ж я дурны? (Асіпова, Аз. р.). Анягоні ужо нічога і ня будзе? (Янавічы, Сур. р.). Анягошчы ты будзеш кароў пасьціць? (Буднікі, Беш. р.); 2) верно, да Сяньні настаў маладзік?--Анягож, настаў сяньні! (Лёзна, Лёз. р.).

АНІ, *зл.* – ни, даже. Далібог жа ня маю ані капеячкі! (Прыстоі, Чаш. р.).

АНО, АНУ, *зл.* — пусть себе. Ано сабе й так будзе (Макарава, Віц. р.). Ану сабе! (Дубнікі, Сен. р.).

АНУ, *вкл.* — досада. Ану яго к ляду! (Калышкі, Лёз. р.).

АНУТКА, *вкл.*—нука. Анутка паедзім (Гарадок, Гар. р.).

АНУЧА, АНУЧЫНА, *ж.*--онуча, портянка. Падай мне анучы—я буду абувацца (Горбава, Лёз. р.). Пастух згубіў анучыну (Чарнагосьці, Беш. р.).

АНЦІЛІГЕНТ, а, *м.* — интеллигент. Ня руш яе—анцілігент! (Астроўна, Віц. р.).

АНЦУЮД, а, *м.*, лнк.— Непоседа, антииуда. Што ты ходзіш як анцуюд, усіх за нюшку табакі прадаеш? (Асіпова, Аз. р.).

АНЦЫПАР, а, *м.*--черт (искаж. Люцифер). Ах, ты анцыпар няшчасны! (Сываращкі, Куз. р.).

АПАВЯДАНЬНЕ, *н.*—рассказ. Апавяданьнямі нас засыпаў (Казаноўка, Чаш. р.).

АПАЛ, у *м.* — топливо. Апалу не дакупіцца. (Сяркуці, Сен. р.).

АПАЛОУ, а ,*м.*—сковорада. На апалові жарацъ сала (Пачаевічы, Чаш. р.).

АПАНАВАЦЬ, *дзс.* — 1) напасть, окружить. Мяне як апанавалі у лесе камары. (Навасёлкі, Сен. р.); 2) овладеть. Мяне ажстрах апанаваў (Азярэцк, Сен. р.).

АПАНТАНЫ — бешенный. Ён дужа апантаны, (Азярэцк, Сен. р.).

АПАСТАЛ, а *м.* — кожанный лапоть. Пастуху пашылі апасталы (Ст. Ранчыцы, Беш. р.).

АПАСЬЛЯ — после. Я апасьля прыду. (Пустынкі, Сен. р.),

АПАУЗАЦЬ, *дзс.* — сползать. Пувязьлі Тэклічку, пувязьлі—аж яе панчошкі апаўзьлі (Дрыкольле, Куз. р.).

АПЕНКА, *ж.*--опенок. Armillaria mellea Vahl (Agaricus melleus Fl. Dan). Пайдзем у лес у апенкі (Пустынкі, Сен. р.). Пойдзем з табой у апёнкі (Азярэцк, Сен. р.).

АПЕЧАК, а, *м.* — деревянное основание кухонной печи. Апечкі нада новые (Доўгае, Беш. р.).

АПІКУЛАТ, а, *м.*—скупец, скупой. У вёсцы Скріпкі ўсі апікулаты (Сінякі, Аз. р.).

АПЛІК, а, *м.*—крючек для застегивания одежды. У мяне у куртцы вырваліся аплікі. (Прыстоі, Чаш. р.). Пар. гаплік.

АПЛІЧКА, *ж.* — петличка для крючка. Трэба ўшыць аплічку ў спаднік (Латыгаль, Сен. р.).

АПЛЯТАЦЬ, *дзс.* — оплетать. Даў мне дрэнны кусок дроту і загадаў аплятаць гаршчок (Лясьнікі, Сен. р).

АПЛЯЦЕНЬ, я, *м.* — плетень. Агародзік агароджаны аплітнём (Храпавічы, Куз. р).

АПОКА, *аг.*—лежебок, лентяй. Гэты апока і царства нябеснае прасьпіць (Азярэцк, Сен. р.).

АПОЛАК, а, *м.* — горбылина (доска). З кажыннага бярна два аполкі (Сухарукава, Аз. р.)

АПОРАК, а, *м.*—опорок. Насунь на ногі апоркі і выскач на двор (Навасёлкі, Куз. р.).

АПОЎЗАК, а *м.* — оползень. На бярагу ракі апоўзак (Пясочак, Куз. р.).

АПОУЗЬЛІК, АПОЎЗЛЫ, а, *м.* —неповоротливый, слабый человек. Куды ты пашоў, апоўзьлік ты! (Асіпова, Аз. р.). Апоўзлы чалавек ён (Нов. Сяло, Беш. р.).

АПОШНІ — последний. Даелі апошні хлеб (Якшы, Беш. р.).

АПРАБАВАНЫ — испробованный, испытанный. Мой конь апрабаваны (Прыстоі, Чаш. р.).

АПРАБАВАЦЬ, *дзс.*—испытать. Трэба апрабаваць яго у плузе (Карма, Куз. р.).

АПРАВА, *ж.* — 1) оправа, рамка. Палтрэт Леніна ў аправе (Госьміра, Сен. р.); 2) книжный переплет. Якая добрая аправа ў тваёй кніжцы! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

АПРАГАЦЦА, *дзс.* — с жадностью что-либо делать: спать, піть, есть и т. п. Апрогся ад гарэлкі. Апрігаецца сном (Дрыкольле, Куз. р.).

АПРАНАЦЬ, АПРАНУЦЬ, *дзс.* —1) одевать, одеть. Апрані кажух (Раіны, Аз. р.); 2) сильно ударить. Ён так апрануў палкай сьвіньню ў гародзе, што яна аж зад павалакла (Сьвярдлы, Беш. р.).

АПРАСТАЦЬ, *дзс.*—1) опорожнить. Апростай ты мой мяшок (Азярэцк Сен. р.); 2) освободить. Апрастай каню нагу (Пустынкі, Сен. р.).

АПРАЎЛЯЦЬ, *дзс.* — отделывать. Апраўляю лехі (Лятоўшчына, Куз. р.).

АПРАЦОЎКА, *ж.*—обработка, отделка. Гэта верацяно яшчэ ў апрацоўку пойдзець (Чашнікі, Чаш. р.).

АПРАЧА, АПРОЧ, АПРЫЧ — кроме. Апрача мяне ніхто ня ведае яго. (Мігава, Куз. р.). Апроч гэнага я ведаю нешта яшчэ (Сянно, Сен. р.). Апріч таго мне нада было зайці к Ягору (Дрыкольле, Куз. р.).

АПРУДА, *аг.*—ленивый обжора. Гэты апруда нічога ня хочыць дзелаць (Выгары, Куз. р.).

АПРУДЗІЦЦА, *дзс.* — опасно заболеть, околеть. Каб ты ня выжыў ды апрудзіўся! (Стралкі, Беш. р.).

АПРЫКРЫЦЬ, *дзс.* — опротиветь. Да таго ён апрік мне! (Навікі, Віц. р.). Апрыкрыла аж ні магу глядзець (Медшыцы, Чаш. р.).

АПСІК, *вкл.* — брысь, оклик на кота. Апсік, коціку! (Берашоўцы, Беш. р.).

АПТЭСАМ — моментально, быстро. Ён аптэсам кінуўся на яго (Азярэцк, Сен. р.).

АПУНДЫРЫЦЦА, *дзс.*—вздуться животу. Еў, еў, аж апундыраўся (Слабада, Чаш. р.).

АПУТАЦЬ, *дзс.*—опутать, обмануть. Апутаў мяне бондар (Калышкі, Лёз. р).

АПУХАЦЬ, *дзс.* — опухать. Нешта нага мая стала апухаць (Азярэцк, Сен. р.).

АПЫНУЦЦА, *дзс.*—очутиться. Вун, як далёка ён апынуўся (Гравы, Сен. р.).

АПЫТАЦЬ, *дзс.*—выспросить, найти. Апытаў каня, ды грошай не хапае (Астроўна, Віц. р.).

АПЯКУН, а, *м.*—опекун. Мой бацька апякун Грышкавых дзяцей (Кузьміно, Сен. р.).

АРАВО, *н.*—время пахаты. У араво коням цяжка (Копцевічы, Чаш. р.).

АРАК, а, *м.* — рак. Astacus fluviatilis. Арак поўзае па дне возера, або ракі (Янчана, Чаш. р.).

АРАЛЬБА, АРАЛЬЛЯ, *ж.*, АРАЛЬЛЁ, *н.*—вспаханое поле. Твая аральба парасла травой (Рубо, Куз. р.). Пасеяў авёс на аральлі (Кошчава, Беш. р.). Куды ні глянішь, усюды аральлё (Чарніцы, Лёз. р.).

АРАЛЬБІТ, а, *м.*—пахарь. Едзець сам з поля, наш аральбіт (Сухарукава, Аз. р.). Пар. араты.

АРАНДАВАНЬНЕ, *н.*—арендование. Як у гэтае арандаваньне аддаваць, дык лепш хай аблогам ляжыць (Бабінічы, Віц. р.).

АРАНДАВАЦЬ, *дзс.*—арендовать. Ён арандаваў тады мой хутар (Госьміра, Сен. р.).

АРАНДАТАР, а, *м.*—арендатор. Наш арандатар зусім сапсаваў зямлю (Чарніца, Лёз. р.).

АРАНДОВЫ — находящийся в аренде. Арандовы двор (Ст. Беліца, Сен. р.).

АРАТУНАК, а, *м.*—спасение, караул. Хоць ты арятунку крычы—так галава ломіць (Навасёлкі, Сен. р.). Пар. ратунак.

АРАТЫ, а, *м.*—пахарь, пашущий. Няма нешта нашага аратага (Чарніца, Лёз. р.). Пар. аральбіт.

АРАЦЬ, *дзс.* — пахать. Нада брацца араць папар (Навікі, Віц. р.). Мой брат арэ (Макеенкі, Аз. р.). Арэць усю маю зямлю (Міхалі, Куз. р.). Нашы ўжо даўно арюць (Міхалава, Кув. р.).

АРАЦЬБА, АРБА, *ж.*—пахота. Арацьба — цяжкая работа (Лятоўшчына, Куз. р.). Арба — ня гульба (Высачаны, Выс. р.).

АРБА, *ж.*—старинное орудие. Даўней былі малыя арбы (Вяжышча, Беш. р.).

АРГАНЫ, аў, *м.* — орган. Як ударылі, братка, ў арганы—хоць польку каці! (Сянно, Сен. р.).

АРГАНІСТЫ—костельный органист. Зьбегай да арганістага (Сянно, Сен. р.).

АРЭДАЛЫ, *ж.*—большая телега для возки сена. Запрагай арэдылы і ець за сенам (Чарніца, Лёз. р.). Пар. рэдалі.

АРЭЛІ, *ж.*—качели. Мальцы калышуцца на арэлях (Ульянавічы, Сен. р.).

АРЭНДА, *ж.*—аренда, арендная плата. Арэнду я ўжо заплаціў! (Берашоўцы, Беш. р.).

АРЭШНІК, у, *зб.* — орешник, лещинный кустарник. Высеклі наш арэшнік. У лесе расьце многа арэшніку (Хмяльнік, Беш. р.).

АРЭШЫНА, *ж.* — лещина. Corylus avellana L. Арэшына добра гбаецца (Лужасна, Куз. р.).

АРЖА, *ж.*—ржавчина. Аржа зьела серп (Астроўна, Віц. р.).

АРЖАВЕНЬ, ю, *м.*—болото часто покрытое ржавчиной. Ідзі ты ў аржавень! (Мікалаёва, Куз. р.).

АРЖАВІНЬНЕ, *н.*—1) топкое место на болоте. Папаў у такое

аржавіньне, што думаў і капут будзець (Чарніца, Лёз. р.); 2) болотная ржавчинная грязь, иногда употребляемая на окраску тканей. Аржавіньне прынясьлі з рову (Зямковічы, Сен. р.).

АРЖАНІНА, *ж*—ржаной хлеб. Аржаніну усю зжалі (Лёзна, Лёз. р.).

АРЖАНУШКА, *ж.*—самогонка. У нас ужо ня п'юпь аржанушкі (Горбава, Лёз. р.).

АРЖАНЫ—ржаной. Хлеб пякуць з аржанэй мукі (Альшанілі, Беш. р.).

АРКУШ, а *м.*—лист (бумаги, железа и т. п.). Купіла аркуш паперы (Ржаўка, Беш. р.).

АРКУШАВЫ—листовой. Купілі аркушавай бляхі (Калышкі, Лёз. р.).

АРМЯК, а, *м.*—армяк. Накінь армяк ад даждзя (Чарніца, Лёз. р.).

АРОЛ, а, *м.*—орел. Aquila (залётны). Вунацькі вісока арол паляцеў (Заронава, Куз. р.).

АРТЭПА, *ж.*, АРТЭПЕЛЬ, ю, *м.*—топкое место. Конь папаў у артэпу (Казакі, Куз. р.). Ня лезь у артэпель, а то праваліішся (Бабінавічы, Выс. р.).

АРТЫКУЛ, у, *м.*—статья в условии. Па гэткіх артыкулах свае хаты пад школу не аддам (Жэрына, Чаш. р.).

АРУД, а, *м.*—закром. Поўныя аруды ў клеці былі (Лужасна, Куз. р.).

АРФА, АРПА, АРХА, *ж.*—веялка. Мы будзім на арфе арфаваць жыта. (Смалянцы, Чаш. р.). Арпай перачышчаюць збажыну (Мамойкі, Беш. р.) Пазыч архі (Храброва, Чаш. р.).

АРФАВАЦЬ, АРХАВАЦЬ, *дзс.*—веять. Мы будзім арфаваць жыта (Застадольле, Сен. р.). Збожжа трэба архаваць (Асташова, Чаш. р.).

АРЫШТ, у, *м.*—арест. Уцёк з пад арышту (Бабінавічы, Выс. р.).

АРЫШТАВАЦЬ, *дзс.*—арестовать. За што яго арыштавалі? (Мігава, Куз. р.).

АРЫШТАНТ, а, *м.*—арестант. Арыштанту цяжкая сьмерць (Рудня, Аз. р.).

АСА, *ж.*—оса. Vespa vulgaris. Мяне укусіла аса (Асіпова, Аз. р.).

АСАБЛІВА—особенно. Асабліва, курэй глядзі! (Ульянавічы, Сен. р.).

АСАБЛІВАСЬЦЬ, *ж.*—особенность. Такая ў яго асаблівасьць (Расна, Сен. р.).

АСАБНЯК, а, *м.*—особняк, флигель. У тым асабняку жывем (Сукрэмна, Сен. р.).

АСАДЗІЦЬ, *дзс.*—обделать в раму. Бацька асадзіў Міколу і дасьць Пеланеі ў благаславенства (Запрудзьдзе, Сен. р.).

АСАКА, *ж.* — осока. Carex (розныя віды). Што-ж ты адной асакі мне прывёз? (Азярэцк, Сен. р.).

АСАЛАВЕЦЬ, *дзс.*—осоловеть. опьянеть. Ён ад аднэй чаркі можыць асалавець (Пустынкі, Сен. р.)

АСАЧЫЦЬ, *дзс.* — выследить, выискать. Трэба пайці асачыць воўчае гняздо (Азярэцк, Сен. р.).

АСВА, *зб.*—осы. Ня лезь ты к яму асвой у вочы (Азярэцк, Сен. р.).

АСЕЛАСЬЦЬ, *ж.*—оседлость. Ён жа аселасьці ня мае, як жа за яго іці? (Шарыпіна, Беш. р.).

АСЕЛІЦА, *ж.*—лужок на краю усадьбы. На аселіцы трава расьцець добрая (Ульянавічы, Сен. р.).

АСЕСЬЦІ, АСЕСЬЦІСЯ, *дзс.*—осесть, поселиться. Ён асеўся на хутары (Ст. Сяло, Куз. р.).

АСЕЦЬ, *ж.*—овин или отделение в овине для сушки снопов. Снапы сушыли ў асецi (i ў асяцi) (Рыбчына, Сiр. р.).

АСЁЛКА, *ж.*—радуга. Асёлка ваду ў моры п'ецъ (Красьнiца, Чаш. р.). Пар. вясёлка.

АСIЛАК, а, *м.*—силачь, богатырь. Ён у нас асiлак, нi барiсь зь iм (Навiкi, Вiц. р.).

АСIНА, *ж.* — осина. Populus tremula L. Бацька срубiў асiну (Iсачкава, Аз. р.).

АСIНIНА, *ж.* — осиновое дерево. Суседзi сьсеклi асiнiну (Сялец, Чаш. р.).

АСIНЬНIК, у, *зб.* — осиновый лес. Шукаў яго ў асiньнiку (Дубовая, Беш. р.).

АСКЕПАК, а, *м.* — осколок. Аскепак ударыў па назе (Пустынкi, Сен. р.).

АСКЯЛЁПАК, а, *м.*—1) остаток полена израсходованного на лучину. Падлажы пад дровы аськялёпак (Русiнава, Сен. р); 2) осколок. Дровы ня ўмед бiць, а толькi аськялёпкi скiпаiць (Сукрэмна, Сен. р.). Пар. аскепак.

АСЛАБАНЯЦЬ, АСЛАБАНIЦЬ, *дзс.* — освобождать, освободить. Прышлося аслабанiць усiх (Мiхалi, Куз. р.).

АСЛУПЯНЕЛЫ—остолбенелый. Стаяў, як аслупянелы (Дзямiдавiчы, Чаш. р.).

АСЛУПЯНЕЦЬ, *дзс.*—остолбенеть. Я аслупянеў i стаю як дурак (Пушкары, Сен. р.).

АСНОВА, *ж.* — 1) основание. Аснову залажылi—цяпер пойдзе (Высачаны, Выс. р.); 2) продольные нитки в полотне. Аснова тутака суконная (Спасская, Сiр. р.).

АСОБА, *аг.*—уважаемое лицо. Гэта-ж асоба, ня нам раўня (Пятнiцкая, Беш. р.).

АСОБА—особо, отдельно. Палажы лепшае сена асоба (Замошша, Сен. р.).

АСОТ, у, *м.* осот. Cirsium arvense Scop. Нарвi сьвiням асоту (Ульянавiчы, Сен. р.).

АСОТНIК, у, *зб.*—большое количество в данном месте сорной травы-осогу. Куры пабеглi ў асотнiк (Дуброва, Беш. р.).

АСПIД, а, *м.*—аспид, злой человек. Памёр наш аспiд (Амiльлянова, Лёз. р.)

АСТАВАЦЦА, *дзс.* — оставаться. Нiхай Арына астаецца дома, а мы пойдзем жаць (Сялец, Чаш. р.). Барана асталася на полi (Жэрына, Чаш. р.).

АСТАЛОП, а, *м.* лнк.—дурак, остолоп. Ну што? Як ён?—Асталоп асталопам (Луб'ева, Аз. р.).

АСТАЛОПIНА, *аг.* лнк. - дурачище. Ну i асталопiна ж ты! (Пушкары, Сен. р.).

АСТАЛЬЦЫ, оў, *м.*—остаток, остальное. Пудоў дзесяць аўса засею, а астальцы прадам (Заазер'е, Сен. р.).

АСТАТНI—последний. Я зайду да цябе астатнi раз (Пустынкi, Сен. р.).

АСТАЧА, *ж.*—остаток. Прыдзецца табе аддаць усю астачу аўса (Азярэцк, Сен. р.).

АСТРАВIНЫ, АСТРОЎКI, *ж.*—приспособление для сушки гороха, льна и т. п. Парадзь, дзе мне дастаць сукаватую ялiнку на астравiны (Вiшкавiчы, Чаш. р.). Астрiвiна, павалiлася (Лўб'ева, Аз. р.). У астроўкi палажылi авёс (Хадулава, Куз. р.).

АСТРАЛОМ, а, *м.*—астроном. Астраломы лiчуць зьвёзды (Сялец, Чаш. р.).

АСТРАМОК, АСТРАМОЧАК, а, *м.*—базарный небольшой воз

сена. За гэты астрамочак столькі просіць! (Сянно, Сен. р.).

АСТРОГ, у, *м.*—острог, тюрьма. Сядзіць у вастрозі (Навікі, Віц. р.).

АСТРОЖНІК, а, *м.*—острожник, арестант. Кала таго дому дзе астрожнікі сідзяць (Навікі, Віц. р.).

АСТРОЎ, а, *м.*—остров. Ад берагу да астрова адна вярста (Сухарукава, Аз. р.). Пар. востраў.

АСУНУЦЦА, *дзс.*—осунуться, опуститься. Хата саўсім асуналася (Сялец, Чаш. р.).

АСУРОЧЫЦЬ, *дзс.*—сглазить. У мяне нехта каня асурочаў (Ульлянавічы, Сен. р.). Ён мяне асуроцыў (Леніна, Сур. р.).

АСЬ, *вкл.*—отклик. Ганнуля!—Ась! (Высачаны, Выс. р.).

АСЬВЕР, а, *м.*—колодезный журавль. Пры нашам калодзісе новы асьвер (Альшанка, Чаш. р.).

АСЬВЯЖЫЦЦА, *дзс*—скончаться, умереть. Ён ужо асьвяжыўся (Стрэлкі, Беш. р.).

АСЬМІНА, *ж.*—четвериковая мера, чаще кадка. Нада зробіць новыю асьміну (Вяжышча, Беш. р.).

АСЬМЯРКАЦЦА, *дзс.*—темнеть, наступать вечеру. Ясьце пакуль не асьмеркнецца (Пустынкі, Сен. р.).

АСЬЦЕРВЯНЕЦЦА, *дзс.*—остервенеться, разозлиться. Ён горшы асьцярвянеўся (Нов. Сяло, Беш. р.)

АСЬЦЮК, а, *м.*—колючка колоса ячменя и т. п. Асьцюкоў ні давай каню (Амільлянова, Лёз. р.).

АСЬЦЯРОБ, а, *м.*—расчищенное место среди леса. Мы паехалі ў асьцяроб (Дзямідавічы, Чаш. р.).

АСЬЦЯРОГА, *ж.*—осторожность. Гнаў гарэлку бяз усякай асьцярогі (Пятніцкая, Беш. р.).

АСЬЦЯРОЖНЫ—осторожный. У гэтай справе ён асьцярожны (Іванск, Чаш. р.).

АТАВА, *ж.*—отава, второго покоса трава. Ідзі адкасі каню трохі атавы (Азярэцк, Сен. р.).

АТАЛЕК, у, *м.*—1) покой. Не даюць яму аталеку (Луб'ева, Аз. р.); 2) отбой. Ад сьвіней аталеку нет (Луб'ева, Аз. р.).

АТАМАЛКА, *ж.*—тряпка, которою берут горшки. Атамалкаю вазьмі гаршчок (Кабішча, Куз. р.).

АТАМАН, а, *м.*—атаман, главарь. Зьмітраў хлапец усяму атаман (Горбава, Лёз. р.),

АТЭЎНІК, а, *м.*—котелок. Звары груцу ў атэуніку (Чашнікі, Чаш. р.).

АТЛУМЛІВАЦЬ, *дзс,*—забивать голову шумом, гамом и т. п. Атлумілі зусім хлапца (Берашоўцы, Беш. р.).

АТО, *зл.*—если нет, то. Маўчы, ато будзець (Амільлянова, Лёз. р.).

А ТОЖ—1) да, утверждение. Ці вы едзіце у горад? А тож! (Берашоўцы, Беш. р.); 2) а вот же. А тож ляжыць на печке (Плоскія, Куз. р.).

АТОКА, *ж.*—рукав речки. А т о к а поўна вады (Навікі, Віц. р.).

АТОНЬНЕ—*н.* остаток, подонки. Бадай тваё й атоньне зьвялося! (Гравы, Сен. р.).

АТОПАК, а, *м.*—изношенный, истоптанный лапать. Бач, які клоп паўзе, як Нілаў атопак! (Вішкавічы, Чаш. р.).

АТОСА, *ж.*—тяж. Нацяні патужай атосы (Сухарукава, Аз. р.).

АТОРА, *ж.*—крупная мякина из вымолоченных колосьев, соломинок и т. п. Аторы запаркарове (Спасская, Сір. р.).

АТРАЗЬНІ, *ж*—туфли. Пашыў жонцы а т р а з ь н і (Прыгунова, Сір. р.).

АТРАМА, *ж.*—в жилых избах низкая балка, положенная для поддержания остальных балок, на которые ложится потолок и пересекающая остальные балки по средине избы. Палож смык на атраму (Латыгаль, Сен. р.). Пар. атраміна.

АТРАМАНТ, у, *м.*—чернила. Добры атрамант (Бараўляны, Куз. р.).

АТРАМІНА, *ж.*—поперечная, перекрестная балка в доме. На атраміне ляжыць брусок (Оўсішча, Сен. р.). Пар. атрама.

АТРЭП'Е, *н.*—очесы при первой стадии обработки волокна льна. Атрэп'е ськінь туды, а кужаль пакінь (Александрова, Гар. р.). Пар. вотруб'е.

АТРУСКІ, *ж.* — обивки муки; что отряслось. Набяры атрускаў каровам (Амільлянова, Лёз. р.).

АТРУТА, *ж.* — отрава. Купі там мышам атруты (Красьніца, Чаш. р.).

АТРУЦІЦЬ, *дзс.* — отравить. Хацеў атруціць скаціну (Путрына, Беш. р.).

АТУДЗЕНЧЫЦЬ, *дзс.*—1) отблагодарить. Я яму атудзеньчу ласку (Сянно, Сен. р.); 2) отомстить. Ні я буду, калі табе, ні атудзеньчу (Рыбчына, Сір. р.).

АТУМЕКА, *ж.* — намек. Атумекамі кажыць (Шапурава, Сур. р.).

А ТЫ САБЕ!, *вкл.*—да, согласен. Ці можна ў вас узяць барану? А ты сабе! (Копцевічы, Чаш. р.).

АЎЖО—а уже. Аўжо я іду (Пустынкі, Сен. р.).

АЎРАЦЬ, *дзс.*— складываць горох, вику и т. п. для просушки. Цэлы дзень гарох аўралі (Вядрэнь, Чаш. р.).

АЎСЯНІШЧА, *н.* — овсяное жнивье. Страшэнна як колка на аўсянішчы! (Застарыньне, Беш. р.)

АЎСЯНКІ, *ж.* — 1) овсянка. Emberiza (розныя віды). Ня бі аўсянкі (Горадок, Гар. р.); 2) суп из овсяной крупы. Аўсянку варуць з аўсяных круп (Альшанікі, Беш. р.).

АЎТОРАК, а, *м.*—вторник. Аўторак—шчасьлівый дзень (Рудня, Аз. р.).

АЎХ ЦЯ МНЕ!—восклицание при вздохе. Аўх ця мне, беднай! (Доўгае, Беш. р.).

АЎЧАРНІК, а, *м.*, АЎЧАРНЯ, *ж.* — овчарня. Авец загналі ў аўчарнік (Варашылы, Куз. р.). У аўчарне стаіць аўца (Дабрамысьль, Лёз. р.).

АЎЧЫНКА, *ж.* — о в ч и н а, овечья кожа. Падай мне бирку ад аўчынак (Сянно, Сен. р.).

АЎЧЫНЬНІК, а, *м.* —человек вырабатывающий овчины, дубильщик. Занясі аўчынкі к аўчыньніку (Азярэцк, Сен. р.).

АЎШАК, а, *м.*—оконный или дверьной косяк. Угэтым вакне пагнілі ўсе аўшакі (Семянцова, Беш. р.). Пар. вушак.

АФЯРА, АХВЯРА, *ж.*— 1) жертва. Аддам андракі на афяру (Ульянавічы, Сен. р.; 2) обет. Дала ахвяру хадзіць кожны год (Нов. Сяло, Беш. р.).

АФЯРАВАЦЬ, АХВЯРАВАЦЬ, *дзс.*—пожертвовать. Афяраваў жабраку (Сукрэмна, Сен. р.). Ахвяравала лёну 10 хунтаў (Мікалаёва Куз. р.).

АХ!, *вкл.* — удивление, испуг. Ах, як я спалохаўся! (Буднікі, Беш. р.).

АХАЯЦЬ, *дзс.* — соблюсти чистоплотность. Хуць ба ты сам сібе ахаіў (Сьвярдлы, Беш. р.).

АХАЛАК, а, *м.* — короткая толстая палка. Ён ударіў сабаку ахалкам (Луб'ева, Аз. р.)

АХАПАК, а, *м.*—охапка. Няўжож табе шкода ахапка сена? (Сянно, Сен. р.).

АХАРАТАК, а, *м* — об'едок, остаток. Прідзецца мне данашываць тваі ахаряткі (Сухарукова, Аз. р.).

АХВОТА, *ж.* — 1) желание. З ахвотай сягоньня пайду ў лес (Пятніцкая, Беш. р.); 2) охота. Ахвота была ўдачная (Пяцігарск, Беш. р.).

АХВОТНА—охотно. Ён заўсёды ахвотна ходзіць (Азярэцк, Сен. р.).

АХВОТНІК, а, *м.* — охотник. Тут толькі што прайшлі ахвотнікі (Пяцігарск, Беш. р.).

АХВЯРАВАЦЦА, *дзс.* — дать обет. Я ахвяравалася сёлета схадзіць у Няклюдава к Барысу (Оўсішча, Сен. р.).

АХВЯРЫ, *ж.*—исполнение обета с пожертвованием. Хадзіла, кажуць, на ахвяры ў Полацак і ні памагло (Навікі, Віц. р.).

АХЛУПАВАТА--не круто. Стаў большыя шпары, а то крыша будзець ахлупавата (Сухарукова, Аз. р.).

АХЛУПНЫ, АШЛАПНЫ—охватывающий, верхний. Палажылі ахлупныя і кончылі, значыць, рурубіць дом (Хмары, Куз. р.). Ашлапные кладзі ня менш 5-х вяршкоў (Навасёлкі, Сен. р.).

АХМУРЭЦЬ, *дзс.* — 1) заскучать, затосковать. Чаго ты ахмурэў? (Стрэлкі, Беш. р.); 2) ослабеть, заболеть. Ён нешта саўсім ахмырэў (Слабада, Чаш. р.).

АХОРАЦ, а, *м.*—кукиш. Я палучыў за працу ахорцы (Ходцы, Сен. р.).

АХРАПАК, а, *м.*—ствол качана капусты. Ахрапкі мы пасеклі сьвіньням (Асінаўка, Беш. р.).

АХРАП'Е, *н.* — ботва огородных овощей. Пайдзі наламай ахрап'я! (Копцевічы, Чаш. р.).

АЦЬКІ—детское спасибо. Ацькі табе за муку (Кляшчыно, Беш. р.).

АЦЕСЬЛІВЫ—с закальцем, недопеченный. У яе хлеб заўсёды ацесьлівы (Пітрашы, Сен. р.).

АЦТУПНОЕ БЯРНО—отступное бревно, бревно верхнего венца, у крыши. Ацтупное бярно дрэна ляжыць (Гарадок, Гар. р.).

АЧМУРЫЦЬ, АЧМУЦІЦЬ, *дзс.* —одурачить. Ачмуріў ты мяне (Пустынкі Сен. р.). Ачмуціў бабу (Беліца, Сен р.).

АЧУНІВАЦЬ, АЧУНЕЦЬ, *дзс.*-- выздоравливать, выздоровець. Ён троху пачаў ачуніваць (Навасёлкі, Сен. р.).

АЧУРАЦЦА, *дзс.* — отречься. Усяго гэтага ачураліся (Яноўшчына, Беш. р ).

АЧУХАЦЦА, *дзс.* опомниться, придти в себя. Ён яшчэ ад учарашняга ня ачухаўся. (Сухарукава, Аз. р.).

АШАЛАМЕЦЬ, *дзс.* — одуреть. Чаго ты стары ашаламеў? (Дабрамысьль, Лёз. р.),

АШАЛАПУЦІЦЬ, *дзс.* — обмануть. Ашалапуціў старога (Астроўна, Віц. р.).

АШАЛЕЛЫ—бешеный. Бяжыць як ашалелы (Бешанкавічы, Беш. р.).

АШАЛЕЦЬ, *дзс.*--1) сойти с ума, обезуметь. Ці ты ашалеў, ці што? (Навікі, Віц. р.); 2) сбеситься. Яго сабака ашалеў (Шыпы, Сен. р.).

АШКАЛЁПАК, а, *м.*—осколок. Ашкалёпкам пускаецца, абузьнік! (Сухарукава, Аз. р.). Выніў з глазу ашкарлёпак (Мазалава, Куз р.) Пар. аскялёпак.

АШКІРА, *вкл.*—оклик на овец Ашкыра ў хлеў (Ульянавічы, Сен. р.).

АШЛЯХЦІЦЬ, *дэс.*--побить, проучить. За гэтую шкоду цябе трэба ашляхціць (Ахрэмава, Куз. р.).

АШОСЬЦІК, а, *м.*—передняя площадка устья кухонной печи. Пастаў гаршок на ашосьцік. (Застарыньне, Беш. р.).

АШПАРЫЦЬ, *дэс.*—ошпарить. Ашпарыў руку гарачай вадой (Дзямідавічы, Чаш. р.).

АШУКА, *ж.*—обман, надувательство. Так не кажы — гэта ашука (Пятніцкая, Беш. р.).

АШУКАНЕЦ, а. *м.*—обманщик. Ня купляй у яго—ашуканец! (Аксяньці, Чаш. р.).

АШУКАЦЬ, *дэс.* — обмануть. Ён мяне на карове ашукаў (Лук'янова, Сен. р.).

АШУКАЦЦА, *дэс.*—обмануться, ошибиться. Купіў каня, але ашукаўся (Пустынкі, Сен. р.).

АШЧАЛОПАК, а, *м.*—выбой, ухаб. Засеў воз у ашчалопку (Вішкавічы, Чаш. р.).

АШЧЭРЫЦЦА, *дэс.*—оскалиться. Як ашчэрыўся ён на мяне, аж душа ў пяткі пайшла (Азярэцк, Сен. р.).

АШЧЭРЫЦЬ, *дэс.* — оскалить. А ён зубы калі ашчырыць, ды хвігу мне пад нос! (Пятніцкая, Беш. р ).

АШЧЭДНЫ—бережливый. Ашчэдны чалавек ня псуець дабра (Заронава, Куз. р.).

АШЫЙНІК, а, *м.* — ошейник. Ашыйнік быў у нашага сабакі (Мішкава, Віц. р.).

АЮС, *вкл.* — оклик на свиней. Аюс ў поля (Ульянавічы, Сен. р.).

АЯЙ, *вкл.* — удивление. Аяй, які ён бальшэй! (Азярышча, Аз. р.).

## Б.

БАБА, *ж.*—1) жена. Мая баба пячэць пірагі (Гайдукі, Сур. р.); 2) женщина. Гэта баба пашла ў горад (Бабінавічы, Выс. р.); 3) бабушка. Сынок, пазаві бабу (Зайкава, Меж. р.); 4) повитуха. Можа к табе на нарадзіны бабу гукнуць? (Дабрамысьль, Лёз. р.); 5) чурбан для вбивания свай. Бяз бабы гэтага слупа ні паставіш (Расна, Сен. р.).

БАБА-ЯГА, *ж.*—ведьма. Нейкая баба-яга набаражыла (Курашчаны, Сур. р.).

БАБЗДЫР, а, *м.* — бабник. Аўдакім вялікі бабздыр (Сукрэмна, Сен. р.).

БАБІН—принадлежащий бабе. Бабін андарак (Горбава, Лёз. р ).

БАБІНА, *ж.*—зерно бобу. Дай хоць адну бабіну (Берашоўцы, Беш. р.).

БАБІНЬНЕ, *н.* — акушерство, повивальное искусство. Замалада пачала бабіньнем займацца (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

БАБІЦЬ, *дэс.*--принимать детей у роженицы. Я ў яго ўсіх дзяцей бабіла (Раманаўка, Сен. р.).

БАБІЦЦА, *дэс.* — жениться. Дзеці ёсь — прышлося бабіцца (Дубнікі, Сен. р.).

БАБКА, *ж.*--1) повитуха. Дрэнная бабка—памерла дзіця (Пры-

стоі, Чаш. р.); 2) бабушка. Пазаві бабку абедаць (Сьвеча, Беш. р); 3) маленькая наковальня для отбивания кос. Дай мне бабкі пакляпаць касу (Азярэцк, Сен. р.); 4) копна из 10—15 снопов. Жыта зложылі ў бабкі (Варашылы, Куз. р.); 5) кушанье, чаще картофельное. Зараз дам есьці бабку (Машчоны, Сен. р.); 6) березовик (Boletus scaber Bull). Бабак назьбіраў (Касачы, Лёз. р.). Пар. абабак.

БАБОЎНІК, а, *м.*—трилистник. Menyantes trifoliata L. Прынясі бабоўніку (Беліца, Сен. р).

БАБСКІ—женский. Ня суньout у бабскае дзела (Сар. Рудня, Меж. р.). Кінь гэтыя бабськія прыбабоны (Гарадок, Гар. р.).

БАБУЛІН, БАБУЛЬЧЫН,—бабушкин. Падай бабулін армяк (Дубнікі, Сен. р.). Бабульчын андарак прапаў (Заазер'е, Сен. р.).

БАБУЛЬКА, БАБУЛЯ, БАБУНЯ, *ж.*—бабушка. Бабулька мая, галубка мая (Запрудзьдзе, Сен. р.). Прыдзі к нам, бабуля (Нов. Сяло, Беш. р.). Мая бабуня памерла (Цяпіна, Чаш. р.).

БАБУХНА, *ж.* баба, бабище. Бабухны мае, куды вас прэць? (Расна, Сен. р.).

БАБЫЛКА, *ж.*—бобылка, одинокая. У яе нікога няма з радні, яна бабылка (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАБЫЛЬ, я, *м.*—1) бобыль, одинокий. У нас у вёсцы жыве два бабыля (Навасёлкі, Сен. р.); 2) приживальщик. Абіжаюць яны свайго бабыля (Кабішча, Куз. р.).

БАБЫЛЬСТВА, *н.* — бобыльство. Кінь ты сваё бабыльства! (Лятоўшчына, Куз. р.).

БАВЭЛНА, *ж.* — шерстяные нитки. Я купіла на базары бавэлны (Спасская, Сір. р.).

БАВІЦЦА, *дзс.*—1) медлить, задерживаться. Я ня буду бавіцца тутака (Навікі, Віц. р.); 2) играть, забавляться. Трэба з дзіцем бавіцца (Кузьміно, Сен. р.).

БАВОЎНА, *ж.*—хлопок, вата. Купі бавоўны хунты два (Шуміліна, Сір. р.).

БАГАВІЦА, *ж.* — богиня, божество жен. р. Багавіца цябе ведаіць! (Доўгае, Беш. р.).

БАГАТЫ — богатый. Старому лгаць, а багатаму красьці (Алексінічы, Сен. р.).

БАГАТЫР, а, *м.*— богач. У яго вялікае хадзяйства: ён багатыр проці мяне (Пятніцкая, Беш. р.).

БАГАТЫРКА, *ж.* — богачка. Яна багатырка на ўсю дзярэўню (Азярэцк, Сен. р.).

БАГАЦЬЦЕ, *н.*—богатство. У іх багацьце невялікае (Стаішча, Чаш. р.).

БАГДАЙ, *вкл.*—дай бог, чтоб. Багдай ты акалеў! (Сьвярдлы, Беш. р.).

БАГДАН, а, *м.* — внебрачный ребенок, подкидыш. Ён багдан, бо ў яго бацькі няма (Русінава, Сен. р.).

БАГНА, (БАГМА), *ж.*—топкое болото, топь. Завяз у багну, дык і ня выдзерашся адтуль (Сукрэмна, Сен. р.). На нашым полі ёсь такая багма, што прайці нельзя (Стралкі, Беш. р.).

БАГНЕВЫ—болотный, топкий. Аб'едзь гэта багневае месца (Калышкі, Лёз. р.).

БАГОНЬНЕ, *н.*—заливной луг. Мужыкі касілі на багоньні (Павульле, Чаш. р.). Пар. абалоньне.

БАГУН, у, *м.*—богульник болотный. Ledum palustre L. Натохаўся багуну, аж галава забалела (Вядрэнь, Чаш. р).

БАДАЙ, *зл.*—чтоб, пусть. Бадай цібе піряверніць. Бадай та-

бе добра будзець (Рыбчына, Сір. р.); 2) вероятно. Бадай, што так яно і будзець (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАЕНЬНЕ, *н.*—рассказывание. І пачалося, братцы, баіньне! (Сянно, Сен. р.).

БАЖНІЦА, *ж.* — треугольная полка или шкафик в красном углу под иконами. Палажы сьвечку ў бажніцу (Крывіна, Беш. р.).

БАДЗЕЙКА, *ж.* — маленькая шайка. Бадзейка засталась у лазьні (Малекі, Сур. р.).

БАДЗІЛА, *н.*—1) рог коровы. На бадзілы карова падняла Сымонку (Труханавічы, Чаш. р.); 2) что бадается. Шыла бадзіла па хаці хадзіла, пад парогам спаць лягло (венік) (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАДЗЮЛЬКА, *ж.*—1) мотовильце лля наматывания ниток. Вазьмі бадзюльку зматаць ніткі (Зайкава, Меж. р.); 2) колючка. Бадзюлькі дзядоўніка дужа колюцца (Горкі, Аз. р.).

БАДЗЮЧЫ—колючий. Асот бадзючы (Навасёлкі, Сен. р.).

БАДЗЯГА, і, *ат.*—1) бродяга. Гэты бадзяга, штомесяц тут ходзіць (Азярэцк, Сен. р.); 2) бодяга, *ж.* Spongilla lacustris. Дзеці прынесьлі з рэчкі бадзягу (Лужасна, Куз. р.).

БАДЗЯЎКА, *аг.* — распутник, распутница. Бадзяўка! дзе была, туды ідзі! (Навікі, Віц. р.).

БАДЗЯЦЦА, *дзс.* — бродяжничать. Пачаў піць, а потым стаў бадзяцца (Пустыр, Сір. р.).

БАЙБАС, а, *м.*—большой человек, лентяй. Байбас ты дурнэй! (Лоўжа, Сір. р.).

БАЙДАН, а, *м.*—открытое место. На байдане вецір сьвішчыць (Курашчаны, Сур. р.).

БАЙКА, *ж.*—сказка. Расскажы мне байку (Дубнікі, Сен. р.).

БАЙКІ, *ж.* — враки, сказки. Байкі гэта, што пра яго кажуць (Бачэйкава, Беш. р.).

БАЙНЯ, БАНЯ, *ж.*--баня. Пойдзім у байню (Раіны, Аз. р.). Дзеўкі банюшку тапілі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

БАЙСТРУК, а, *м.*—внебрачный ребенок. Яна да замужаства мела двох байструкоў (Азярэцк, Сен. р.).

БАКАВЫ — боковой. Яшчэ трэба бакавыя сьцены паправіць (Азярышча, Аз. р.).

БАКІ ЗАБІВАЦЬ — пускать пыль в глаза. Я знаю, што ён ета зробіў, а як стаў я яму гаварыць, дык ён і пашоў бакі забіваць (Сьвярдлы, Беш. р.).

БАКОНАЎКА, БАКОЎКА, *ж.*— дверька в печке, где закрывается вьюшка. Выгрэбай праз баконаўку сажу з коміна (Бікложа, Беш. р.). Закрый бакоўку, бо дым ідзець (Стрэлкі, Беш. р.).

БАКОЎКА, *ж.*—боковая комната. Ад мяне у бакоўку ўсе пахавалісь (Азярэцк, Сен. р.).

БАЛАБАЙКА, *ж.*—балалайка. Падай мне балабайку, іграць буду (Высачаны, Выс. р.).

БАЛАБОН, а, у, *м.*—бубенчики. К вясельлю нібісхадзіма трэба балабон пазычыць (Азярэцк, Сен. р.).

БАЛАБОС, а, *м.*—говорун, болтун. Усьціхамір свайго балабоса (Шуміліна, Сір. р.).

БАЛАВАЦЬ, *дзс.*—нежить, баловать. Кінь яго балаваць (Сянно, Сен. р.).

БАЛАВАЦЦА, *дзс.*—забавлаться, играть. До, дзеці, балавацца! (Сянно, Сен. р.).

БАЛАГАНЧЫК, а, *м.*—маленькая пристройка к сенному са-

раю. Пастаў граблі ў балаганчык (Беліца, Сен. р.).

**БАЛАГОЛ**, а, *м.*—фура, дилижанс с извозчиком. Балаголы паехалі ў мястэчка (Стаішча, Чаш. р.).

**БАЛАГУР**, а, *м.*—балагур. Наш Ёска балагур (Дубнікі, Сен. р.).

**БАЛАГУРЫЦЬ**, *дзс.* — балагурить, вести пустую беседу. Што ўсё балагуріш ды балагуріш бяз толку? (Кабішча, Куз. р.).

**БАЛАЗЕ**—хорошо, что. Балазе ты прышоў (Пылькі, Аз. р.). Балазе конь нашоўся (Сутнікі, Куз. р.).

**БАЛАМУТ**, а, *м.*—плут. Які жа ты баламут! (Стрэлкі, Беш. р.).

**БАЛАМУЦІЦЬ**, *дзс.* — сбивать с толку, обманывать. Ён толькі баламуціць народ (Бабінічы, Віц. р.).

**БАЛАЎНІК**, а, *м.*—баловень. Сын бальшы, бальшы балаўнік (Бабінічы, Віц. р.).

**БАЛАХОН**, а, *м.*—1) холщевый плащ. Вазьмі з сабою балахон, а то нешта на дождж паказвае (Азярэцк, Сен. р.); 2) куртка, жакетка. Балахон—кароткая адзежа (Гарадок, Гар. р.).

**БАЛБАТАНЬНЕ**, *н.*--лопотанье, болтанье. Надаела яго балбатаньне (Сянно, Сен. р.).

**БАЛБАТАЦЬ**, *дзс.*—лопотать, болтать. Што ты там балбочыш —я нічога ні разьбяру (Навікі, Віц. р.).

**БАЛБАТУН**, а, *м.*—лопотун, болтун. Прагнаць гэтага балбатуна (Сянно, Сен. р.).

**БАЛБАТУХА**, *ж.*—болтунья, лопотунья. Балбатуха на ўсю дзіреўню, (Навікі, Віц. р.).

**БАЛБЕС**, (**БАЛДЭС**), а, *м.*—оболтус, дурак. Выгадаваў балбеса на сваю галаву (Сянно Сен. р.). Балдэс, ты, балдэс (Увалокі, Куз. р.).

**БАЛВАН**, а, *м.*—1) истукан. Балвана каменнага знайшлі (Пустыр, Сір. р.). 2) дурак, болван. Чаго ты стаіш, як балван? (Альшанікі, Беш. р.).

**БАЛВАНЮГА**, і, *м.*—дурачина, болванище. З гэтым балванюгам не домовішся (Сянно, Сір. р.).

**БАЛДА**, *аг.*—глупый, балда. Гэты чалавек—добрая балда (Саломінка, Сір. р.).

**БАЛЕСЬЦЬ**, *ж.*—болезнь. Балесьць ужо такая ў яго (Пушкары, Сен. р.).

**БАЛЕЯ**, *ж.*—лохань для стирки белья. Балея рассохлася (Лёзна, Лёз. р.).

**БАЛІЗНА**, **БЛІЗНА**, *ж.*—пропущенные нитки в основе при тканье. Бываець і ў яе балізна (Гарадок, Гар. р.).

**БАЛІЦЬ**—больно. У носі баліць (Белькава, Беш. р.).

**БАЛОНКА**, *ж.* — 1) оконное стекло. Памалу лі вакна, а то балонку паб'еш (Чарніца, Лёз. р.). Налажылі булонку (Луб'ева, Аз. р.); 2) прямоугольная клетка на материи. Выткала пасьцілку ў балонкі (Зямковічы, Сен. р.). Трэба выткаць рушнікі ў балоначкі (Гравы, Сен. р.).

**БАЛОНЬНЕ**, *н.*--1) пойма. Пашлі з балоньня сена выграбаць (Застадольле, Сен. р.); Пар. абалоньне. 2) болото, низина. На балоньні плаваюцьвуткі (Вішкавічы, Чаш. р.).

**БАЛОТА**, *н.*—лес, чаще болотный. Нада зьезьдзіць у балота за дрывамі (Рыбчына, Сір. р.)

**БАЛОТНА** — грязно. Балотна на дзярэўні (Зайкава, Меж р.).

БАЛОТНЫ — грязный, болотный. Балотны наш луг (Зайкава, Меж. р.).

БАЛХВА, БАЎХВА, *ж.*—цветные нитки для вышиванья. На гэты набожнік шмат балхвы пашло (Гарадок, Гар. р.). Ці ёсьць у цябе баўхва? (Хмяльнік, Беш. р.).

БАЛЬ, ю, *м.*—пирушка, бал. Тата пашоў на баль (Бабінавічы, Выс. р.).

БАЛЬКА, БЭЛЬКА, *ж.* — балка. У нашай хаце на чатырёх бальках столь (Навікі, Віц. р.). Столь паслана на бэльках (Казлоўка, Сен. р.).

БАЛЬШАК, а, *м.* — тракт, шоссе. У горад ехалі па бальшаку (Застадольле, Сен. р.).

БАЛЬШЭННЫ — большущий. Бальшэнны хлеў паставілі (Берашоўцы Беш. р.).

БАЛЬШЫ—большой. У бальшэй дзярэўні ўсё знайдзеш (Латышы Беш. р.).

БАЛЬШУН, а, *м.*—1) старший. Пашлі свайго бальшуна (Шапурава, Сур. р.); 2) великан. Етага бальшуна ўсі баяцца (Лўжасна, Куз. р.).

БАЛЬШУХА, *ж.*—1) старшая. Ужо бальшуха, а ні працуіць (Селядцова, Беш. р.); 2) великанша. Сьню я, што быццым бальшуха на міне як кініцца! (Кабішча, Куз. р.).

БАЛЮЧЫ—больной. Балючую нагу крануў (Пустыр, Сір. р.).

БАЛЯВАНЬНЕ, *н.*—пиршество. На ўсякае баляваньне прэцца (Высачаны, Выс. р.).

БАЛЯВАЦЬ, *дзс.* — пировать. Балявалі у дзярэўні на свадзьбе (Макарава, Віц. р.).

БАЛЯС, у, *зб.* — столбики для изгороди. Сходзі ў лес і насячы балясу (Заазер'е, Сен. р.).

БАЛЯСІНА, *ж.*—кол, столбик из тына. Я гэтай карові, як дам балясінай, дык яна будзе помніць (Мокавічы, Чаш. р.).

БАЛЯСЫ, аў, *м.* — изгородь, тын из кольев, столбиков. Кала вуліцы трэба загарадзіць балясамі (Стаішча, Чаш. р.). Сямёнаў біляс заваліўся (Альшанка, Чаш. р.).

БАЛЯЧКА, *ж.*—рана, нарыв. На руцэ вялікая балячка (Мігава, Куз. р.).

БАЛЯЧО—больно. Адтуль балячо, адсюль гарачо (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

БАНДА, *ж.* — шайка, банда. Яны бандаю жывуць (Марчонкі, Сур. р.).

БАНДАРАВАЦЬ, *дзс.*—бочарнічать. Кінуў бандараваць (Лятоўшчына, Куз. р.).

БАНДАРОНАК, а, *м.*—сын бондаря. Бандаронак пабег (Лятоўшчына, Куз. р.).

БАНДАРОЎНА, *ж.*—дочь бондыря. Ня руш, ня чапай, я табе ня роўна, ты мужык, ты дурак, а я—бандароўна (Запрудзьдзе, Сен р.).

БАНДЗІТ, БАНДЗІСТ, а, *м.*— бандит, разбойник. Ён бальшы, бальшы бандзіт (Бабінічы, Віц. р.). На яго напалі бандзісты (Храпавічы, Куз. р.).

БАНКАРТ, а, *м.*—внебрачный ребенок. Нараджала поўну печ банкартаў (Падрэзы, Чаш. р.). Пар. байструк.

БАНКРУТ, а, *м.* — банкрот, плут. Усі кажуць, што ён банкрут (Рыбчына, Сір. р.).

БАНЬКА, *ж.*—1) плоское кольцо, прикрепляющее косу к деревянной ее части. Я скаваў сабе баньку (Асіпова, Аз. р.); 2) вообще металлическое кольцо хозяйственного значения. Каваль

зрабіў баньку ў дугу (Вядрэнь, Чаш. р.).

БАРАБАН, а, *м.*—1) барабан. Зайграйка ў барабан! (Мікалаёва, Куз. р.); 2) барабан в молотилке. Барабан трэба направіць (Гарадок, Гар. р.).

БАРАБАНІЦЬ, *дзс.* — барабанить. Чаго ён там барабаніць? (Оўсішча, Сен. р.).

БАРАВІК, а, *м.*—белый гриб. Boletus edulis Bull. Мы пойдзем у лес у баравікі (Шумкі, Сен. р.).

БАРАВІНКА, *ж.*—хвойная рощица близ усадьбы. Прыгожая яго баравінка (Б. Летцы, Куз. р.).

БАРАДА, *ж.*—кроме общего значения, несколько несжатых колосьев, оставляемых на поле в знак окончания жатвы. Жнеі ўжо пяюць бараду (Мазалава, Куз. р.).

БАРАДАЧ, а, *м.*—1) бородатый, бородач. Барадача садзі на кут (Пустыр, Сір. р.); 2) козел. Прагані барадача з гароду (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАРАЗНА, *ж.*—борозда. Схадзі прынясі з баразны травы (Раманаўка, Сен. р.).

БАРАЗЬНІЦЬ, *дзс.* — делать борозды. У нас зямля нізкая—заўсёды нада баразьніць жыта (Хацімшчына, Куз. р.).

БАРАДЗЬБА, *ж.* — бороньба, боронование. Барадзьбу ужо скончылі, будзем ляшыць (Лятоўшчына, Куз. р.).

БАРАН, а, *м.* — 1) баран. А яшчэ чалавек вядзець барана! (Яноўшчына, Беш. р.); 2)вид рубанка с ручками по концам для работы вдвоем. Бараном габлявалі да вечара (Мікалаёва, Куз. р.); 3) барометр. Глядзі, кала школы барана павесілі (Лоўжа, Сір. р.).

БАРАНА, *ж.*—борона. Грышка паехаў з бараной на поля (Раманаўка, Сен. р.).

БАРАНАК, а, *м.* — баранок. Баранкаў прывёз ім (Расна, Сен. р.). Пар. абаранак.

БАРАНАВАЦЬ, *дзс.*—боронить поле. Сын паедзе баранаваць, а я—у заработкі (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАРАНІЦЦА, *дзс.*—защищаться. Трэба бараніцца ад ліхіх людзей (Оўсішча, Сен. р.).

БАРАНІЦЬ, *дзс.* — защищать. Я ня буду цябе бараніць (Раіны, Аз. р.).

БАРАНОК, а, *м.*—1) молодой баран. Задушылі ваўкі баранка (Зайкава, Меж. р.); 2) рогулька в прялке. Сусед, зроб ты мне баранок у прасьніцу (Вяжышча, Беш р.).

БАРАНЬКОВЫ — бараний, барашковый. Бараньковы кажух адзеў (Беліца, Сен. р.).

БАРАНЬКОЎКА, *ж.*—баранья шапка. Купіў шапку — бараньkоўку (Замошша, Сен. р.).

БАРАХМАЦЦА, *дзс.*—бороться. Яны доўга адзін з другім барахмаліся (Баравыя, Куз. р.).

БАРАЦЬБА, *ж.*—борьба. Ну і была-ж барацьба паміж сябрамі! (Пушкары, Сен. р.).

БАРВЯК, а, *м.*—брод. Трэба знайці барвяк, каб пераехаць (Мікалаёва, Куз. р.).

БАРДА, *ж.*—тупой топор. Не тапор твой, а барда—нічога не сячэць (Русінава, Сен. р.). Трэба узяць барту і падпусьціць беркі (Чарнагосьці, Беш. р.).

БАРДЖЭЙ, БАРЖДЖЭЙ—скорей, быстрей. Хадзі барджэй (Ляхава, Віц. р.). Барждж эй ба ты йшоў (Бурбіна, Сен. р.).

БАРЭТКІ, *ж.*—дамские полуботинки. Барэткі цiснуць нагу (Навiкi, Беш. р.).

БАРКАН, у, *м.*—забор из еловых или сосновых сучьев. На гародзе заваліўся баркан (Ка бішча, Куз. р.).

БАРКАНА, *ж.* — морковь. Daucus carota L. Мая ты свацьця, якая-ж у мяне сёлета баркана ўрадзіла! (Марынкіна, Сір. р.).

БАРЛЁЧЫ, аў, *м.*—грубые женские башмаки. Барлёчы ўлетку мала хто носіць (Заронава, Куз. р.).

БАРЛЯЦЬ, *дзс.*—1) переливать, взбалтывать. До табе барляць крупеню! (Пустыр, Сір. р.); 2) без толку работать. Ён зямлі ня умеіць пахаць, а толькі барляіць (Мокавічы, Чаш.р.).

БАРМАТАЦЬ, *дзс.*-бормотать, ворчать под нос. Ён што-та сабе пад нос бармытаў (Баравыя, Куз. р.).

БАРМАТУН, а, *м.*— ворчун. Во, барматун урадзіўся (Сянно, Сен. р.).

БАРСАЦЬ, *дзс.* — затягивать веревку в ушки лаптя. Даволі табе барсаць лапці! (Лужасна, Куз. р.).

БАРСЬНІ, ёў, *м.* — кожаные лапти. Я пашыў сабе новыі барсьні (Чарніца, Лёз . р.).

БАРТЫХАЦЦА, *дзс.* -- бултыхаться. Ён ехаў на лісапеце, алі як бартыхнуўся, дык і ногі да гары (Баравыя, Куз. р.).

БАРУЗЬДЗІЦЬ, *дзс.*—бредить, плести вздор. Ён п‘яны доўга барузьдзіў, пакуль заснуў (Баравья, Куз. р.).

БАРЫЛА, *ж.* — 1) боченок. Налі ваду з барыла (Горкі, Аз. р.); 2) толстяк. З гэтым барылай ня думай борыцца (Азярэцк, Сен. р.).

БАРЫШ, а, *м.* — 1) прибыль. Купіў за сто, прадаў за дзьвесьці-- во гэта барыш (Пятніцкая, Беш. р.); 2) могарыч. З цябе, брат, трэба барышы (Азярэцк, Сен. р.).

БАРЫШНАЕ, *н.*—овощи. Сёлета добрае барышнае (Селядцова, Беш. р.).

БАСАВАЦЬ, *дзс.*—петь басом. Ён ужо у царкве не басуець (Сянно, Сен. р.).

БАСАВІКІ, оў, *м.*—туфли. Абуй маі басавікі (Астравы, Сір. р.).

БАСАНОЖ — 1) босиком. Не хадзі басанож, а то захварэеш (Селядцова, Беш. р); 2) на босу ногу. Надзеў боты, ды басанож, дык усё роўна сьцідзена (Сукрэмна, Сен. р.). На бісанож абуй боты (Стаішча, Чаш. р.).

БАСЭТЛЯ, БАСОЛЬ, *ж.*—контрабас. Мірон купіў сабе басэтлю (Вярхоўе, Беш. р.). Хто іграець на басолі, у таго няма ні хлеба ні солі (Пустыр, Сір. р.).

БАСОЛЬ, *ж.*—фасоль. У нас сяньні крупеня з басолям (Сьвеча, Беш. р.).

БАСОТА, *зб.*—босяки. Чыстая басота! (Новае Сяло. Беш. р.).

БАСТЫСЬ, я, *м.*— шляющийся, здоровый, но ни к чему неспособный парень. А гэты бастысь чаго нічога ня робіць? (Спасская, Сір. р.).

БАСУРМАН, а, *м.* лнк.—опустившийся человек. Ходзіць, як басурман, (Сукрэмна, Сен. р.).

БАСЬНЯ, *ж.* — басня. Умею басьні баяць (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАСЬЦІСЯ, *дзс.* — бодаться. Бычка дзеці прыўчылі басьціся (Азярэцк, Сен. р.).

БАСЬЦЯЦЦА, *дзс.* — шляться, бродить. Што ты бяз дзела басьцяішся? (Рыбчына, Сір. р.).

БАСЯК, а, *м.* — босоногий, босяк. Гэта ні чалавек, а басяк (Міхалі, Куз. р.).

БАТ, а, *м.* — кнут с очень длинной тесьмой. Давід з бата дзесятку выбіў (Азярэцк, Сен. р.).

БАТОЎЕ, *н.*— ботва. Насячы сьвіньням батоўя (Сянно, Сен. р.). Пар. бацьвіньне.

БАТРАК, а, *м.*—батрак. Цяпер батраком добра (Беліца, Сен. р.).

БАЎДЗІЛА, *аг.*—балда. Ах ты, баўдзіла ты, баўдзіла! (Чашнікі, Чаш. р.).

БАЎКАНЬНЕ, *н.* — колокольный звон. Вядрэньскага баўканьня ня чуваць (Асташова, Чаш. р.).

БАЎЛЕНЬНЕ, *н.* — времяпрепровождение, забава. Як такое баўленьне, дык лепш працаваць (Сянно, Сен. р.).

БАЎТАНУЦЬ, *дзс.*—ударить по воде, болтнуть. Штось па вадзе баўтанула (Лужасна, Куз. р.).

БАЎТАЦЦА, *дзс.* — болтаться. Ён баўтаіцца, як кветка на дрэві (Сянно, Сен. р.).

БАЎТАЦЬ, *дзс.*--болтать, взбалтывать. Буўтай малако харашэнька (Княжыца, Куз. р.).

БАЎТОНКА, БАЎТОЎКА, *ж.*— болтушка, пойло. Дай каню баўтонкі (Пустынкі Сен. р.). Мы даём цяляці баўтоўку (Бешанкавічы, Беш. р.).

БАЎТРУК, а, *м.*—обжора, дармоед. Баўтрука гэтага ні укарміць: яму колькі не давай—усё мала (Ст. Беліца, Сен. р.).

БАЎТУХА, *ж.* — кушанье из жидкого теста. Улі яму баўтухі (Высачаны, Выс. р.).

БАЎЦЯК, а, *м.*—рыбная сеть. Баўтком добра лавіць рыбу (Кузьміно, Сен. р.). Цягні баўцяк! (Лужасна, Куз. р.).

БАХАР, а, *м.*—любовник. Вунь яна пашла з сваім бахарам (Ст. Беліца, Сен. р.).

БАХНУЦЬ, *дзс.*—1) ударить. Я, брат, як бэхну, дык ты і сам ня рад будзеш (Доўжа, Куз. р.); 2) упасть. Не бахні, сынок, у ваду (Лужасна, Куз. р.).

БАЦ, а, *м.*—крыса. Mus rattus. Коцік заеў баца (Пясочак, Куз. р.).

БАЦЬВІНЬНЕ, *н.* — 1) ботва. Прынясі бураковага бацьвіньня (Кузьміно, Сен. р. ; 2) холодник. Бацьвіньне з буракоў і гуркоў прыгатавана добра (Рудня, Аз. р.).

БАЦЬКА, і, *м.*—отец. Бацька вярнуўся з поля (Ісачкава, Аз. р.).

БАЦЬКАЎ, БАЦЬКАЎСКІ—отцовский. Адзень бацькаў кажух (Лужасна, Куз. р.). Бацькаўскія падэшвы крапчэй за ўсіх (Доўжа, Куз. р.).

БАЦЬКАЎШЧЫНА, *ж.*—1) родина. Паеду жыць на бацькаўшчыну, досіць ськітацца (Рыбчына, Сір. р.); 2) отцовское наследство. За бацькаўшчынаю паехаў (Кузьміно, Сен. р.).

БАЦЬКІ, оў, *м.* — родители. Бацькі яго кулакі (Канавалава, Куз. р.).

БАЦЮК, а, *м.*, БАЦЮТА, ы, *м.*, БАЦЮТКА, і, *м.*--мальчик. Бацюк пайшоў з дзяўчатамі (Гарадок, Гар. р.). Як твой бацюта жыве? (Сьліжыкі, Куз. р.). Змовіў сабе бацютку (Хвядзькова, Беш. р.).

БАЦЮХНА, ы, *м.*—батюшка, отец. Бацюхны мае, што-ж гэта робіцца? (Сянно, Сен. р.).

БАЦЯН, БУЦЯН, а, *м.*—аист, Ciconia alba Bechst et C. nigra Briss. Бацян ходзіць па лугу (Раіны, Аз. р.). На лугу хадзіў буцян (Дзямідавічы, Чаш. р.). Ходзіць боця па балоце (Вядрэнь, Чаш. р.). Пар. бусел.

БАЧ, *вкл.*—виш. Бач, як яно вышла (Лужасна, Куз. р.).

БАЧОК, а, *м.*—1) обочина дорогі. Мужыкі ня любяць, што бачкі заяжджаюць (Храпавічы, Куз. р.); 2) котелок. Панёс бачок з бульбаю (Смалянцы, Чаш. р.).

БАЧЫЦЬ, *дзс.*—видеть. Ці ня бачыў ты майго каня? (Рудня, Аз. р.).

БАШКА, *ж.* — овца. Башак пагналі ў поле (Расна, Сен. р.).

БАШМАК, а, *м.*—башмак, ботинок. Дзяўчына ходзіць у башмаках (Пірамонт, Лёз. р.). Справіў ён сабе новыі бушмакі (Чарніца, Лёз. р.).

БАЯРКА, *ж.*—шаферица. Баяркі за стол селі (Купіна, Віц. р.).

БАЯЦЦА, *дзс.*—бояться. Няма чаго баяцца (Алексінічы, Сен. р.).

БАЯЦЬ, *дзс.* — рассказывать, говорить. Баюць яны много чаго, але-ж усёткі ета байкі (Доўжа, Куз. р.). Кідай ужо баіць, ды пойдзім у двор (Азярэцк, Сен, р.).

БЕГАНІНА, *ж.*—беготня. З яго вясельлем было столькі беганіны, што аж усе пазабіваліся (Азярэцк, Сен. р.).

БЕГАЦЦА, *дзс.*—требовать случки. Ваша авечка бегаецца (Семянцова, Беш. р.).

БЕГАЦЬ, *дзс.*—бегать. Па вуліцы бегаець авечка (Чараўкі, Сен. р.).

БЕГЧЫ, *дзс.*—бежать. Не нада бегчы так шыбка (Селядцова, Беш. р.). Было яму ня беч (Мікалаёва, Куз. р.).

БЕДАВАЦЬ, *дзс.*—горевать. Яна дужа бядавала, як памёр яе мужык (Азярэцк, Сен. р.).

БЕДНА—тоскливо, бедно на душе. Ай, як мне сёньня бедна! (Ганкавічы, Беш. р.).

БЕЗ, БЯЗ, *прм.*—без. Без яго нічога ня будзе (Лужасна, Куз. р.). Бяз рук мала зробіш (Астроўна. Віц. р.).

БЕЗГАЛОЎЕ, *н.*—потеря головы, глупость. Безгалоўе на цябе нейкае нашло (Навасёлкі, Сен. р.).

БЕЗДАРОЖЖА, *н.*—распутица, очень плохая дорога. Такое бездарожжа, куды паедзеш? (Доўжа, Куз. р.).

БЕЗНАДЗЕЙНА — безнадежно. К яму безнадзейна хадзіць: усё роўна грошы ў яго няма (Азярэцк, Сен. р.).

БЕЗНАДЗЕЙНАСЬЦЬ, *ж.*—безнадежность. Як бяда, дык і безнадзейнасьць (Горкі, Аз. р.).

БЕЗНАДЗЕЙНЫ — 1) безнадежный. Ён ужо безнадзейны (Пустыр, Сір. р.); 2) неожиданный. Безнадзейныя госьцікі (Выгары, Куз. р.).

БЕЗРАХУБНА — безрасчетно. Безрахубна вядзе Зьміцер сваю гаспадарку (Гарнакі, Сен. р.).

БЕЛАБРЫСЫ — блондин. У іх дзеці усі белабрысыя (Лучкі, Віц. р.).

БЕЛАВЫ— белеющий, белый. Бярозка мая бялавая, вецейка маё кудравае (Шапурава, Сур. р.).

БЕЛАГРУДКА, *ж.* — ласка. Mustela nivalis L. У хлеве жывець белагрудка (Пяцігарск, Беш. р.).

БЕЛАЗОРЫ—с белыми глазами. На масту быў белазоры чалавек (Дзямідавічы, Чаш. р.).

БЕРАГ, а *м.*—берег. Каля ракі нысокі беріг (Бабінічы Віц. р.).

БЕРАГУЛЬКА, *ж.*—стриж Cotyle riparia Bric. Бірагулька зробіла сабе гняздо і вывела дзетак (Асінаўка, Сен. р.).

БЕРАСЬНЮШКА, *ж.*, БЕРАСЬЦЕНЬ, БЕРАСЦЭНЬ, я, *м.*—горшок оплетенный берестой. Прынясі берасьнюшку (Мікалаёва, Куз. р.). Баба насыпала ў берась-

цень солі (Выгары, Куз. р.), Берасцэнь з мукою (Гарадок, Гар. р.).

БЕРАСЬЦЯНКА, *ж.*—1) глаз. У яго вялікі берасьцянкі (Слабодка, Віц. р.); 2) зяблик. Fringilla coelebs L. Бірасьцянка зрабіла на дрэве сваё гняздо з бяросты (Камоскі, Беш. р.).

БЕРАСЬЦЯНЫ, — берестовый. Купі скураныя або бірасьцяныя лапці (Красьніца, Чаш, р.).

БЕРВЯНО, *н.* — бревно. Бервяно ляжыць на дароге (Шумкі, Сен. р.). Зрубілі тоўстае бірвяно (Застадольле, Сен. р.).

БЕРКА, *ж.* – березовый сок. Прынясі з лесу беркі (Лапы, Беш. р.).

БЕРКАЦЕНЬ, я, *м.* — оборотень. Чалавек тры гады быў біркатнем (Мазалава, Куз. р.).

БЕСКАРЫСНА — бесполезно. Ён работаіць бескарысна (Бабінічы, Віц. р.).

БЕСКАШТОЎНА—без затрат. Безкаштоўна абышлося (Сянно, Сен. р.).

БЕСКЛАПОТНА,—беззаботно. Жыве сабе бесклапотна (Бабінічы, Віц. р.).

БЕСПАКУТНА—без мук. Беспакутна сышоў у думаўё (Пустыр, Сір. р.).

БЕСПАРЫ—безвременно. Карова беспары цялілася (Рудня, Аз. р.).

БЕСПРАСЬВЕТНЫ--непроглядный, беспросветный. Беспрасьветная цьма (Кузьміно, Сен. р.).

БЕССАРОМНЫ — бесстыжий. Архіп зусім бессаромны стаў (Выгары, Куз. р.).

БЕСТАВАЛОСЫ— простоволосый, без головного убора. Беставалосая пабягу (Выгары, Куз. р.).

БЕСЬПЕРАСТАННЫ—беспрерывный. Бесперастанны дождж ідзе (Рудня, Аз. р.).

БЕСЬПЕРАСТАНЬНЯ — беспрерывно. Бразгаіць дзьвярымі бесьперастаньня (Зацуброўе, Сур. р.).

БЕСЬСЯБЕ—сами собой. Каровы пасуцьца бесьсябе (Сянно, Сен. р.).

БЭБУХІ, аў, *м.*—внутренности, патроха. Кінь бэбухі сабакам (Азярэцк, Сен. р.).

БЭЗ, у, *м.*—сирень. Syringa vulgaris L. Бэз ужо цьвіціць (Гарнакі, Сен. р.). Нада наламаць бэсу (Увалокі, Куз. р.)

БЭЙБАС, а, *м.*—увалень, лентяй. Ходзіць як бэйбас (Сіроціна, Сір. р.).

БЭНЦНУЦЬ, *дзс.*—ударить. Як бэнцнуў яго па галаве—тутака яму й усё (Шаркі, Куз. р.).

БЭРЛА, *м.* — неповоротливый и некрасивый человек. Вунацька наша бэрла пашла (Беліца, Сен. р.).

БЁРДА, *н* — часть ткацкого станка для прибивания поперечных ниток при тканье. А мне нада зладзіць шырэйшае бёрда (Горкі, Аз. р.).

БЗДЫЧКА, *ж.* — лампочка, в которой горит фитилек без стекла. Запалі бздычку (Максімава, Куз. р.).

БЗЬДЗЮЛЬ, я, *м.* — полевой клоп, вонючка. Pantatoma (Mormidea) baccarum L і інш. рады і віды. На сунічане пасядзеў бзьдзюль, дык ня можна ў рот узяць (Пацкава, Сен. р.).

БІБІКІ, БІНБІКІ, БЛЫНДЗІКІ, БРЫНДЫ БІЦЬ,—баклуши бить. Кінь ты бібікі біць (Беліца, Сен. р.). Заўсёды б'ець бінбікі на вуліцы, як яму работы няма (Сукрэмна, Сен. р.). Ён толькі блындзікі

б'ець. (Лясьнікі, Сен. р.). Усе дні ён толькі брынды б'ець (Азярэцк, Сен. р.).

БІЗУН, а, *м.*—кнут, плеть. У пастуха ёсьць харошый бізун (Бабінічы, Віц. р.).

БІЛА, *н.*—язык в колоколе. Учора, званіўшы, біла адарвалі (Азярэцк, Сен. р.).

БІНДАС, а, *м.*—1) вид топора для отбивания толстых щеп, колун. Біндасам адкалі (Мікалаева, Куз. р.); 2) болван. Эх ты біндас! (Лазаватка, Сур. р.).

БІНЬДЗЮК, а, *м.*—телега на железных осях, верх, коробка телеги. Запражы не калёсы, а біньдзюк (Спасская, Сір. р.).

БІРКА, *ж.*—палочка с нарезаными знаками, выдаваемая вместо квитанций, чаще кожевниками. Дзеці пайшчыце бірку—паеду за кожай і аўчынамі (Пятніцкая, Беш. р.).

БІРУБОЛКА, *ж.*—пуговица, чаще деревянная. Ушый біруболку ў сарочку (Гарнакі, Сен. р.).

БІРУК, а, *м.*—бирюк, нелюдим. Пагнаць гэтага бірука (Латыгаль, Сен. р.).

БІРУЛЬКА, *ж.*—деревянная часть коромысла в бороне, плуге и т. п. Новую бірульку зробіў да бараны (Гарадок, Гар. р.).

БІТКА, *ж.*—битое яйцо. Бітка скора порціцца (Дварэцк, Чаш. р.).

БІТУН, а, *м.*—наглец, драчливый. Зьвязаць етага бітуна (Раманаўка, Сен. р.).

БІЦЦА, *дзс.*—драться. Годзі табе ўжо біцца (Азярэцк, Сен. р.).

БІЦЬ, *дзс.*—1) бить. Ну што глядзіш, бі яго ды ўсё! (Азярэцк, Сен. р.); 2) колоть. Нада біць дровы (Собалева, Куз. р.).

БІЦЮК, а, *м.*,—БІЧОЎКА, *ж.*—1) часть цепа—палка, которой бьют по снопам. Атарваўся біцюк і чуць ні ўдарыў Сьціпана (Русінава, Сен. р.). Сёмка глядзі—бічоўка здарвецца, ды ударыць каго—нібудзь (Гарбузы, Сір. р.); 2) неуклюжий. Павернецца, як біцюк (Шуміліна, Сір. р.).

БІЧАЙ, я, *м.*—круглая дырка в верхнем ручном жернове, куда сыплются зерна. Бічай вузкі у маіх жорнах (Беліца, Сен. р.).

БІЧАЙКА *ж.*—деревянный обод решета. Новую бічайку зробіў (Мікалаёва, Куз. р.). Пар. абічайка.

БЛАГА—1) дурно. Ці ня блага табе стала? (Рыбчына Сір. р.); 2) плохо. Блага ты ета зробіў (Пустыр, Сір. р.).

БЛАГІ—плохой. Благога воўка цялята ліжуць (Копцевічы, Чаш. р.).

БЛАЗЕН, БЛАЗЬНЮК, а, *м.*—1) молокосос. Ты яшчо блазен споріць з старікамі (Мазалава, Куз. р.); 2) глупец. Ён дужа бальшы блазен (Пустынкі, Сен. р.). Ні давай гэтаму блазьнюку (Шыпы, Сен. р.).

БЛАЗНОТА, ы, *зб.*—детвора. Усьціш гэту блазноту (Сянно, Сен. р.).

БЛАЗЬНЁНАК, а, *м.*—глупенький. Які ён блазьнёнак! (Лучкі, Віц. р.).

БЛАКУНЯЦЦА, *дзс.*—шляться без дела. Хвядот блакуняецца у лясу (Задарожжа, Куз. р.). Блыкуняецца мая дзеўчына цэлую ноч (Даргейкі, Сен. р.).

БЛЕДНЫ,—бледный. Які ён бледны з твару! (Асінаўка, Сен. р.).

БЛЕХ, у, *м.*—ровное место. Нясі скуты на блех (Вяжышча, Беш. р.).

БЛЁКАТ, у, *м.*—белена. Hyoscіamus niger L. Трэба на гародзе

што столькі сама (Азярэцк, Сен. р.).

БЛІНОЎКА, *ж.*—кадка, в которой приготавливают тесто для блинов. Пастаў бліноўку на стол (Бешанкавічы, Беш. р.).

БЛІН, БЛІНЕЦ а, *м*,—блин. Смашны блін (Азярэцк, Сен. р.). Гэты усі блінцы мне на кірмаш (Пустынкі, Сен. р.).

БЛІНЧЫК, а, *м.*—кроме общего значения, вьюшка. Купілі блінчык у новы комін (Госьміра, Сен. р.).

БЛІСК, у, *м.*—блеск. Яна ўжо меіць прыгожы бліск (Сянно, Сен. р.).

БЛІСКАВІЦА, *ж.* — молния. Бліскавіца як блісьне, а пярун як груннаў, дык аж конь спатыкнуўся (Вядрэнь, Чаш. р.). Грыміць гром, бляскаець блескавіца (Павульле, Чаш. р.).

БЛІСКАЦЬ, *дзс.*—сверкать. Вун і маланьня бліскае (Оўсішча, Сен. р.).

БЛІСКУЧЫ—1) блестящий. У двор ён вярнуўся ў бліскучых гузіках (Азярэцк, Сен. р.); 2) яркий. Які сягоньні бліскучы дзень! (Селядцова, Беш. р.).

БЛІШЧАСТЫ — блистающий. У яе блішчастыя барэткі (Доўжа, Куз. р.).

БЛІШЧАЦЬ, БЛІШЧЭЦЬ, *дзс.*—блестеть. Мае боты дужа блішчаць (Ульянавічы, Сен. р.). Ён было (Латышы, Беш. р.).

БЛУКАЦЦА, *дзс.* — слоняться. Блукаецца па сьвету, як Марка па пеклу (Рыбчына, Сір р.).

БЛУТАНІНА, *ж.*—путаница. У іх гэта блутаніна цягнецца з Каляд (Лук'янова, Сен. р.).

БЛЫНДАЦЬ, *дзс.* — шататься без дела. Яму толькі блындаць (Замошша, Сен. р.).

БЛЫТАЦЦА, *дзс.* — путаться. Доўга блытаўся па лесе (Бараўляны, Куз. р.).

БЛЫХА, *ж.*--блоха. Pulexirritans L. et P. canis Dug et P. avinum Tasch. Глядзі, па табе блыха скача (Азярэцк, Сен. р.).

БЛЮВАКІ, *ж.*—рвота. Ня ліжы ягоныя блювакі (Навікі, Віц. р.).

БЛЮВАЦЬ, БЛЯВАЦЬ, *дзс.*—тошнить. Ня пі самагонкі, а то блюваць будзеш (Ст. Сяло, Куз. р.). Ён начаў бляваць (Бабінічы, Віц. р.).

БЛЮДАЧКА, БЛЮДЦА, *н.*—блюдечко. Разьбіла блюдачка (Доўжа, Куз. р.). Падай мне блюцца, я буду піць чай (Яцукі, Беш. р.).

БЛЯХА, *ж.*—1) жесть. Дай мне кусок бляхі (Азярэцк, Сен. р.); 2) противень. Давай бляху, будзем пірог садзіць (Застадольле, Сен. р.).

БЛЯХАР, а, *м.* — жестяник. Трэба яшчо зайці да бляхара купіць кварту (Азярэцк, Сен. р.).

БЛЯШАНКА, *ж.* — жестянка. Поўная бляшанка керасіна (Бабінічы, Віц. р.).

БЛЯШАНЫ—жестянный. Вазьмі бляшанае вядро (Бікава, Сен. р).

БЛЯЯЦЬ, *дзс.*—блеять. Паміж авец баран бляець (поп) (Шкалёўка, Беш. р.).

БО, *зл.* - ибо. Ня зробіў, бо ні загадывалі (Высачаны, Выс. р.).

БОБ, у, *м.*—боб. Vicia Faba L (Faba vulgaris Mönch). Дзед боб пасадзіў (Ісачкава, Аз. р.).

БОЖЫЯ КАЛАПЕНЬКІ — трясунка. Briza media L. Між іншых красак было многа бож'іх калапеняк (Вядрэнь, Чаш. р.).

БОЙКА, *ж.*—1) драка. У суседа сягоньня была бойка (Пустынкі, Сен. р.); 2) маслобойка. Новую бойку купіў (Кабішча, Куз. р.).

БОЙНЫ—бойкий (о дороге). Бойная дорога (Высачаны, Выс. р.).

БОК, у, *м.* — сторона, бок. Пасунься ў бок (Сянно, Сен. р.).

БОЛЕ, БОЛЬШ, БОЛЬШЫ—больше. Ты мне боле і не кажы (Пушкары, Сен. р.). Вось табе хамут і дуга, і табе больш ня слуга (Ст. Беліца, Сен. р.). Чым большы, тым лепей (Сянно, Сен. р.)

БОЛЬКА, *ж.* — рана. Чужая болька нікому ня болька (Рыбчына, Сір. р.).

БОЛЬКА—больно. Ай болька! (Рыбчына, Сір. р.).

БОЛЬШАЦЬ, БОЛЬШЫЦЬ, *дзс.* — увеличиваться, расти. Дзень значна стаў большыць (Азярэцк, Сен. р.). Трэба большаць, а то мамцы некаму пасабляць (Капланы, Сен. р.).

БОЛЬШЫ — больший. Вазьмі большы мяшок (Каралёва, Выс. р.).

БОНБА, *ж.* — бомба. Лопнула бонба (Пабядзіншчына, Куз. р.).

БОНДА, *ж.*, лнк. — бочка, в пер. смысле—брюхо. Набіў сваю бонду (Пустыр, Сір. р.).

БОНДАР, а, *м.*—бочар. Бондар робіць кадкі (Бабінічы, Віц. р.).

БОНДАРСТВА, *н* — бочарничество. Забыўся і на сваё бондарства (Ілінова, Чаш. р.).

БОР, *зб.*—бор. Мы пойдзем у бор (Шумкі, Сен. р.).

БОРАЦЦА, *дзс.*—бороться. А на што табе было борацца? (Лёзна, Лёз. р.).

БОРЗДА—скоро. Бяжы борзда да Грышкі (Пушкары, Сен. р.).

БОРКІ, *ж.*—борьба. У борках яго адужылі (Сянно, Сен. р.).

БОСА — босиком. Улетку мы ходзім боса (Раіны, Сір. р.).

БОТЫ, аў, *м.*—сапоги. Бацька купіў мне боты (Бель, Выс. р.).

БОЎТКА, *ж.*—шестик с головкой на конце для загонки рыбы в сеть. Дай мне боўтку (Доўгае, Беш. р.).

БОХАН, а, *м.*— большой хлеб. Цэлы бохан хлеба узяў з сабою (Сянно, Сен. р.).

БОЧКА, *ж.*—1) кадка. Поўная бочка вады (Шумкі, Сен. р.); 2) мера в 16 чтв. Пасеяў бочку бульбы (Стралкі, Беш. р.).

БОЯЗНА — страшно. Боязна зьвяр'я ў нашым лесе (Крупеніна, Віц. р.).

БРАВЭРКА, *ж.*—1) воротник. Адвярні мне бравэрку (Тачоны, Сір. р.); 2) вид пальто из домотканного сукна. Вазьмі сваю бравэрку (Купіна, Віц р.).

БРАГА, *ж.*—брага. Брага лоўкая ходзіць (Доўгае, Беш. р.).

БРАДНІК, БРАДЗЕНЬ, БРЭДЗЕНЬ, а, я, *м.*—бредень (вид рыболовной сети). Я браднік дастаў (Воўкасьць, Лёз. р.). Бяры брадзень ды пойдзем лавіць рыбу

(Храпавічы, Куз. р.). У мяне ўжо гатоў брэдзень (Раіны, Аз. р.).

БРАЗГАЎКА, БРАЗГОТКА, БРАЗГУШКА, *ж.*—побрякушка, погремушка. Пакажы ты мне вун тую бразгаўку (Азярэцк, Сен. р.). Дзіцяці купілі бразготку (Мішкава, Куз. р.). Нехта едзе з бразгушкамі (Гарывецк, Сен. р.).

БРАЗГАЦЬ, *дзс.*—стучать. Ну, чаго-ж ты бразгаеш? (Хмары, Куз. р.).

БРАЗНУЦЬ, *дзс.*—1) стукнуть. Нешта брязнула (Купіна, Віц. р.); 2) упасть. Толькі узьехаў на лёд, а конь калі бразьніць! (Пятніцкая, Беш. р.).

БРАДЗІНІНА, *ж.*—ива. Брадзініна расьцець пасярод поля (Боркава, Куз. р.).

БРАКАВАНЫ, БРАКОВЫ—забракованный. Гэты лес бракаваны (Дзямідавічы, Чаш. р.). Браковага каня купіў (Гарадок, Гар. р.)

БРАМА, *ж.* — ворота. Цераз браму ня можна ехаць. Брама закрыта (Пачаевічы, Чаш. р.).

БРАНЗАЛЕТ, БРУЖЛЕТ, а, *м.* —браслет. На руцэ быў надзет прыгожы бранзалет (Бешанкавічы, Беш. р.). На руцэ бружлет (Быкоўшчына, Беш. р.).

БРАНЧЭЦЬ, *дзс.* — бренчать. Досыць яму бранчэць на сваёй балабайцы (Дзямідавічы, Чаш. р.).

БРАТ, а, *м.*, (БРАТКА, БРАТУЛЬКА)—брат. Маі браты пажаніліся і падзяліліся (Лужасна, Куз. р.). Ну, і надзелаў жа ты, братка, дзялоў (Сянно, Сен. р.). Увідзім братульку, коні пася (Сукрэмна, Сен. р ).

БРАТАВАЯ, *ж.*—жена брата. Твая братавая бальшая гультайка (Азярэцк, Сен. р.).

БРАТАНІЧ, а, *м.*—женившийся на сестре. Кузьмовы братанічы былі добрыя людзі (Вяжышча, Беш. р.).

БРАТ З СЯСТРОЙ—Иван да Марья. Melampirum nemorosum L. Во, колькі тут красачак—усё брат з сястрой (Асавецк, Беш. р.).

БРАТКІ, аў, *м.* — анютины глазки. Viola tricolor L. На траме сохлі браткі (Вядрэнь, Чаш. р.).

БРАХАЛА, *аг.* — ругатель. А які-ж ён стаў брахала! (Рыбчына, Сір. р.).

БРАХАЦЦА, *дзс.* — ругаться, ссориться. Сапрон брэшыцца са мной (Капланы, Сен. р.).

БРАХАЦЬ, *дзс.* — лаять. Сабака доўга брахаў (Раіны, Аз. р.).

БРАХЛІВЫ — сварливый. Яна, брат, брахлівая баба (Доўжа, Куз. р.).

БРАХНЯ, *ж.*—ложь, клевета. Усё гэта твая брахня (Азярэцк, Сен. р.).

БРАХУН, а, *м.*—лгун. Брахуну гэтаму нельзя верыць (Вейна, Сен. р.).

БРАХУНЬНЯ, *ж.*—сварливая. У нашай дзярэўні ёсьць брахуньня (Лучкі, Віц. р.).

БРАЦЕНЬНІК, БРАЦЭНІК, БРАЦІШКА, а, і, *м.* — братец, братишка. Каб ты знаў, браценьнік, якое мне гора (Мясаеды, Беш. р.). Я, бацька, ды брацэнік—уся наша сям'я (Гарадок, Гар. р.). Пазаві брацішку (Капланы, Сен. р.).

БРАЦЬ, *дзс.* — брать. Мар'я бірэць к сабе ў прымышы Ягора (Мазалава, Куз. р.).

БРЭД, у, *м.* — острие ножа. Ні вадзі па бреду рукой, а то парэжаш (Хмары, Куз. р.).

БРЭХ, у, *м.* — лай. Брэх сабачы яшчо доўга ня сьціхаў (Навасёлкі, Сен. р.).

БРОВАР, а, у, *м.*—водочный завод. Тады кожны пан меў свой бровар (Навікі, Віц. р.).

БРОДНІК, а, *м.*—ива, бредина. Salix Caprea L. Брёднік расьце каля возера (Луб'ева, Аз. р.).

БРОМЫ, *ж.*—здание торговых рядов. У бромах перанацавалі (Віцебск).

БРУД, у, *м.*, БРУДА, *ж.*—грязь, нечистота. Вытрі яму бруд з вочак (Рыбчына, Сір. р.). Памост аж сьлізкі ад бруды (Гравы, Сен. р.).

БРУДНА - грязно. У яго дужа брудна ў хаці (Пустынкі, Сен. р.).

БРУДНЫ — грязный. Брудная сукенка (Сукрэмна, Сен. р.).

БРУЖМЕЛЬ, я, ю, *м.*—жимолость. Lonicera Xylostem L. Бружмель разросься там так, што прайці саўсім неяк (Новае Сяло, Сен. р.).

БРУДЗЯНІЦЬ, *дзс.*—грязнить. Чаго брудзяніш лаву? (Дубнікі, Сен. р.).

БРУК, у, *м.*—мостовая. Во, на месьці, як брук, дык ужо і суха (Аськершчына, Беш. р.).

БРУКАВАЦЬ, *дзс.* — мостить камнем. Пачалі брукаваць двор каля рыку (Бешанкавічы, Беш. р.).

БРУС, а, *м.* — отесанное четырехгранное бревно, кол. На сьцены палажылі брус (Пустынкі, Сен. р.).

БРУСАВАЦЬ, *дзс.*—отёсывать бревна гранями. Цэлую нядзелю брусавалі (Беліца, Сен. р.).

БРУСІЦЬ, *дзс.*—бредить. У яго была гарачка і ён часта брусіў (Баравыя, Куз. р.).

БРУСОК, а, *м.* — небольшой граненный камень для кос. Не бярэць касу брусок (Кураеды, Беш. р.).

БРУСЬНІЦЫ, *ж.* — брусника. Vaccinium Vitis idaea L. У бару пасьпелі брусьніцы (Вядрэнь, Чаш. р.). Сёлета мала будзець брушніц (Мікалаёва, Куз. р.).

БРУЧКА, *ж.*—брюква. Brassica Napus L., f. esculenta DC. Добрая у цябе сёліта бручка (Азярэцк, Сен. р.).

БРУШТЫН, у, *м.* — янтарь. Жоўты, як бруштын (Бешанкавічы, Беш. р.).

БРУЯК, а, *м.*—отмель. Як пачысьціў ў етай раке бруякі, дык і пашоў біз пары на той сьвет (Касьцюкі, Куз. р.).

БРЫВА, *ж.* — бровь. Брыву апаліў (Бешанкавічы, Беш. р.).

БРЫДА, *ж.*, лнк.—мерзость. Ах, ты брыда! (Бешанкавічы, Беш. р.).

БРЫДАСНЫ--отвратительный. Ай, які ён брыдасны, ажна з ім пацалавацца ня можна (Сянно, Сен. р.).

БРЫДАСЬ, *ж.*—гадость. Якая ты брыдась! (Рыбчына, Сір. р.).

БРЫДКА — гадко, противно. Дужа брыдка глядзець (Б. Летцы, Куз. р.).

БРЫДКІ--гадкий, отвратительный, противный. Які ты брыдкі хлопец! (Зямковічы, Сен. р.).

БРЫДОТА, *зб.*—гадость, мерзость. Гэта брыдота псуе наша жыцьцё (Азярэцк, Сен. р.).

БРЫДЫ, оў, *м.*—концы клепок около дна кадки и т. п. Калі згніюць брыды, дык дзежку трудна паправіць (Ходцы, Сен. р.).

БРЫЖ, а, *м.*—кружевной край. Засьцялі пасьцілку з брыжамі (Дубнікі Сен. р.).

БРЫКА, *ж.*—вид телеги. Запрагі каня ў брыку (Мікалаёва, Куз. р.).

БРЫКАЦЦА, *дзс.*—брыкаться, лягаться. Ня лезь пад каня, бо ён брыкаецца (Азярэцк, Сен. р.).

БРЫКАЦЬ, *дзс.*—лягать. Няўжо ты ня відзеў, як яна яго брыкала? (Селядцова, Беш. р.).

БРЫЛЕЎНІК, а, *м.*—репейник. Arctium tomentosum Schranc, A. Lappa L, A. minus Bernh або Lappa tomentosa Lam, L. major Gärtn, L. glabra Lam. На брылеўніку растуць шышкі (Ганкавічы, Беш. р.).

БРЫЛЬ, я *м.*—шляпа. Брыль не адзежа—сырапеня ня ежа (Палуянава, Гар. р).

БРЫНДА, БРЫНДЖА, *ж.*—волан или оборка. Ах, як люба пашыта—з бындамі! (Навасёлкі, Сен. р.). Надаела мне гэта спадніца, я ўзяла ды адпарола брынджы (Таранова, Чаш. р.).

БРЫНДА, *агі.* — бездельник. Галаву атлуміў мне гэты брында (Лужасна, Куз. р).

БРЫНДЗІКІ, аў, *м.*—лохмотья старой одежды. У яго баўтаюцца брындзікі (Сянно, Сен. р.).

БУБАШКІ, *ж.*—шарики из теста. Мамка пякла бубашкі (Янкі, Беш. р.).

БУБЕН, а, *м.* — барабан. Ён ударыў ў бубен (Аляхнова, Сен. р.)

БУБНІЦЬ, *дзс.*—1) барабанить. Началі бубніць у барабан (Бабінічы, Віц. р.); 2) брюзжать, ворчать. Ай, кінь ты бубніць: надаела ўжо! (Навікі, Віц. р.).

БУБУРЫ, аў, *м.* — паренные клубнеплоды, картофель и т. п. для свиней. Сунь кацёл з бубурамі (Пушкары, Сен. р.).

БУБУШКА, *ж.*—водяная желтая лилия, кубышка желтая. Nuphar luteum Sm (Nimphaca lutea L.). На рацэ ужо зацьвілі бубушкі (Вішкавічы, Чаш. р).

БУБЫШКА, *ж.*—почка. Бубышкі топіля раськідываюцца (Навікі, Беш. р.).

БУВАЛЬНІЦА, *ж.*—полотно с примесью или целиком из покупных хлопчатобумажных ниток. Маі бувальніцы удалыя (Веляшковічы, Лёз. р.).

БУГАЙ, я. *м.*—бык самец. З каровамі ходзіць бугай (Доўжыца, Чаш. р.).

БУГОР, а, *м.* — 1) бугор. На іхным полі усё бугры, ды бугры (Чарніца, Лёз. р.); 2) шишка, опухоль. Выскачыў бугор на лбу (Навікі, Віц. р).

БУГОРЧАТЫ—покрытый буграми. Мая ніва бугорчатая (Гарывецк, Сен р.).

БУДА, *ж.*—1) шалаш. У садзе зроблена буда (Пачаевічы, Чаш. р.); 2) крытый возок. Ён едзе ў будзе (Бабінічы, Віц. р.).

БУДАВАНЬНЕ, *н.*—возведение постройки. Заняўся сваім будаваньнем, дык і памерці некалі (Амільянова, Лёз. р.).

БУДАВАЦЦА, *дзс.*—строиться. Я ужо пачаў на хутары будавацца (Ганкавічы, Беш. р.).

БУДАВАЦЬ, *дзс.* — строить, возводить постройку. Мы будуем хату сабе (Ісачкава, Аз. р.).

БУДВОРЫЦА, *ж.* — выгон за деревней. Гані быдла на будворыцу (Слабада, Сір. р.).

БУДОВА, *ж.*, БУДОЎЛЯ, *зб.*— 1) постройка. Вялікая будова твой ток (Гравы, Сен. р.); 2) тоже, что «будаваньне». За будоваю сьвету ня бачу: тое купі, тое пазыч, тое прывязі (Лятоўшчына, Куз. р.). Ён раней будоўлею займаўся (Семянцова, Беш. р.).

БУДЫНАК, у, *м.*—здание. Ці увесь вы будынак перавязьлі на хутар? (Купіна Віц. р).

БУДЫНІНА, ы, *ж.* -- большое здание. Ці ён будыніну якую выстраіў? (Навікі, Віц. р.).

**БУЗА**, *ж.*—муть, грязь. Дно нашага возера пакрыта бузой (Заронава, Куз. р.).

**БУЗАВАЦЬ**, *дзс.*—1) грязнить. Ні бузуй мне адзежыну (Мазалава, Куз. р.); 2) мутить. Ня бузянь ваду (Доўгае, Беш. р.).

**БУЗЯНЫ** —1) илистый. Нашыя вазёра бузяныя (Машчоны, Сен. р.); 2) мутный. Ня пі бузянай вады (Селядцова, Беш р.); 3) засоренный. Нейкае бузяное малако сёньня (Гравы, Сен. р.).

**БУДЗІЦЬ**, *дзс.*—будить. Трэба яго будзіць, бы ўжо позна (Спасская, Сір. р.).

**БУЙНА** — крупно. Буйна сёлета мелець наша мельніца (Баравыя, Куз. р.).

**БУЙНЕЦЬ**, *дзс.* — крупнеть. Яблыкі ужо буйнеюць (Лужасна, Куз. р.).

**БУЙНЫ, БУЙНЫ** — крупный. Жыта урадзілась буйнае (Пустынкі, Сен. р. . На тэй паласе жыта было буйное (Сухарукава, Аз. р.).

**БУКАТА**, *ж.*—булка. Пазыч мне букату хлеба (Мерзьлякі, Сен. р.).

**БУКВІЦА**, *ж.*—лекарственная трава. Betonica officinalis L. Ламата ў касьцёх—напар буквіцы (Жэрына, Чаш. р.).

**БУКВІЦА БЕЛАЯ**, *ж.*—первоцвет. Primula officinalis Jacq. Прастудзіўся, дык п'ю буквіцу белую, а ні чай (Астроўна, Віц. р.).

**БУКОНКА**, *ж.*—1) отверстие в потолке курной хаты. Зачыні буконку (Чаркасаў, Беш. р.); 2) ставня. Ідзі і зачыні буконкі (Вяжышча, Беш. р.); 3) узкое горизонтальное отверстие в стене, задвигаемое доской. Ён праз буконку падглядаў (Азярэцк, Сен. р.); 4) деревянная доска в окне вместо стекла. Буконка—дравяная шыба ў вакне (Зямковічы, Сен. р.).

**БУЛАК**, а, *м.*—облако. Найшоў даждзявый булак (Гарадок, Гар. р.)

**БУЛДАВЕШКА**, *ж.*—набалдашник. Як даў булдавешкай па галаве, дык ён і захістаўся (Азярэцк, Сен. р.).

**БУЛДОЎКА**, і, *ж.*—кувшинка белая. Nimphaca candida Presl (N. biradiata Sommer). Па вадзе плавалі булдоўкі (Вішкавічы, Чаш. р.).

**БУЛЬДЫР**, а, *м.*—1) бесплодный холм. Нічога не расьце на гэтым булдырэ (Сянно, Сен. р.); 2) пузырь. Па вадзе толькі булдыры пашлі (Лужасна Куз. р.).

**БУЛЁН**, у, *м.*—бульон, картофельный суп. На вячэру булён з гывядзінай (Кавалёўшчына, Беш. р.).

**БУЛКА**, *ж.*—ржаной хлеб. Я купіў цэлую булку хлеба (Ульлянавічы, Сен. р.).

**БУЛЫШКА**, *ж.*—луговая возвышенность. Мы былі на начлезе за булышкай (Максімава, Аз. р.).

**БУЛЬБА**, *ж.*—картофель. Solanum tuberosum L. Бульба адмякла на нізкім месьце (Горбава, Лёз. р.).

**БУЛЬБІНА** *ж.*—картофелина. Вялікая гэтая бульбіна (Лятоўшчына, Куз. р.).

**БУЛЬБЕНІШЧА**, *н.*—поле на котором рос картофель. Бульбенішча доўга не скарадзі—яно і так мякка (Сухарукава Аз. р.)

**БУЛЬБОЎНІК**, у, *м.* — картофельная ботва. Прывязі бульбоўніку ў хлеў (Баркова, Куз. р.).

**БУЛЬБЯНЫ** — картофельный. Дай мне бульбянэй кашы (Лёзна, Лёз. р.).

**БУЛЬБЯНІК**, а, *м.*—картофельный блин. Выцягні з печы бульбянікі (Станіславова, Сір. р.).

БУНТ, а, у, *м.*—1) связка. Прынясла на кірмаш цэлы бунт грыбоў (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) бунт. Мы і паднялі тады бунт (Лужасна, Куз. р.).

БУНТАВАЦЦА, *дзс.*--путаться. Чаго ён бунтуецца—усё-ж ясна (Лужасна, Куз. р.).

БУНТАВАЦЬ, *дзс.* — мешать, путать. Ня бунтуй мне (Горбава, Лёз. р.).

БУРАКІ, оў, *м.* — 1) свекла. Beta vulgaris L. Буракі любяць жырную зямлю (Купіна, Віц. р.); 2) борщ. Навары буракоў (Пушкары, Сен. р.).

БУРАЧНЫ—свекольный. З бурачнага соку робяць цукар (Стаішча, Чаш. р.).

БУРБАЛКА, БУРКАЎКА, *ж.*—водяной пузырь Красівыя з мыла бурбалкі (Селядцова, Беш. р.). Лодка патанула і на тым месьце толькі буркаўкі пашлі (Баравыя, Куз. р.).

БУРБОЛІЦЬ, *дзс.* — производить звуки подобные наливанию в бутыль. Бурболіць, дурнэй, у вадзе (Лужасна, Куз. р.).

БУРДА, *ж.* — коровье пойло. Прынясі бурды каровам (Беліца, Сен. р.).

БУРДАВЫ — темно-красный. Брат купіў бурдавую рубаху (Траяны, Беш. р.).

БУРКНУЦЬ, *дзс.* — буркнуть проворчать. Буркнуў нешта пад нос ды пашоў (Лятоўшчына, Куз. р.).

БУРНОС, у, *м.* — вид пальто, иногда расшитого. Свацьця надзела новы бурнос (Данілава, Сір. р.).

БУРУЗЬДЗІЦЬ, *дзс.* — 1)говорить вздор, нарушать порядок. Што ты бурузьдзіш—дай спакой (Стрэлкі Беш. р.); 2) мутить. Костусь ня ловіць,—а толькі воду бурузьдзіць (Косы, Віц. р.).

БУРТЭЛЬ, БУРЦАЛЁК, я, а, *м.*--чурбан. Етага буртэля не перавернеш (Гарадок, Гар. р.). Хлопцы пілілі бурцалёк (Рудня, Гар. р.).

БУРЧАК, а, *м.* — лучший вид гороха. Гарох—бурчак коні зьелі (Доўгае, Беш. р.

БУРЧАЦЬ, *дзс.*—ворчать. Тата усё бурчыць на Івана, што ён ходзіць на ігрышча (Оўсішча, Сен. р.).

БУРЫЦЦА, *дзс.*--разрушаться. Наша хата ўжо бурыцца (Сянно, Сен. р.).

БУРЫЦЬ, *дзс.*—разрушать, разорять. Бурыць лёгка, будаваць цяжка (Пятніцкая, Беш. р.).

БУСАК, а, *м.*—багор. Бусаком цягалі лён з вады (Сьвеча, Беш. р.).

БУСЕЛ, а, *м.*--аист. Ciconia alba Briss et Ciconia nigra L. (C. fusca Briss). Буслы ляцяць (Стаішча, Чаш. р.). Пар. бацян.

БУСЬКІ, *ж.*--(детское) детские поцелуи. Дай яму буські (Папкі, Чаш. р.). Бусенькі, бусенькі — абое галюсенькі (Сянно, Сен. р.).

БУСЯЦЬ, *дзс.*—целовать. Даволі яго табе бусяць! (Ульлянавічы, Сен. р.).

БУТАЛЬ, я, *м.* — бутыль. Вазьмі буталь на карасін (Ганкавічы, Беш. р.). Пар. бутля.

БУТАРАЖ, у, *м.*—скандал. Паднялі вялікі бутураж (Дрыкольле, Куз. р.).

БУТАРАЖЫЦЬ, *дзс.* — будоражить. Чаго вы узяліся бутуражыць? (Дрыкольле, Куз. р.).

БУТАРЫСІЦА, *ж.*—вьюга. Сягоньня на вуліцы бутарысіца (Вяжышча, Беш. р.).

БУТЭЛЬКА, *ж.* — 1) бутылка. Гэта бутэлька вельмі вялікая Лазукі, Чаш. р.). Падай буцільку

з малаком (Бікава, Сен. р.); 2) ламповое стекло. Вытры бутэльку, а то за копацьцю і цяпла ня відаць (Заазер'е, Сен. р.).

БУТЛЯ, *ж.*—1) бутылка. Бутля з малаком пабілася (Чашнікі, Чаш. р.); 2) ламповое стекло. Бутлу пабіў (Гарадок, Гар. р.).

БУХАНКА, *ж.*—ржаной хлеб. Буханка важыць дзесяць хунтаў (Новае Сяло, Беш. р.). Пар. бохан.

БУХАЦЬ, *дзс.* — падать. Во, вада бухала, як прарвалася (Лужасна, Куз. р.). Пар. бахнуць.

БУШАВАЦЬ, *дзс.* — бушевать, буянить. Во, Хведар бушуець (Доўжа, Куз. р.).

БЫВАЦЬ, *дзс.*—1) бывать. Бывала і варона кукувала, а цяпер і зязюля ні кукуець (Бесцьвена, Сен. р.); 2) приходить. Бувайце к нам кагда нібудзь (Выгары, Куз. р.).

БЫВАЛАШНІ—бывалый. Я ня умею па бывалашнему пяяць (Стаішча, Чаш. р.).

БЫДЛА, *зб.* — рогатый скот. Я летам пас быдла (Лябёды, Куз. р.).

БЫЛЬЛЁ, БЫЛЬНІК, *зб.*—жесткая стеблистая трава. Парос адзін быльнік (Пяцігарск, Беш. р.). Быльлё скасіў (Лятоўшчына, Куз. р.).

БЫТНАСЬЦЬ, *ж.*--пребывание. Пры маёй бытнасьці ён там быў (Гарадок, Гар. р.).

БЫЦЬЦЁ, *н.* — бытие. Быцьця яго ведае (Стрэлкі, Беш. р.).

БЫЦЦАМ—будто. Яна стаіць быццам тая былінка у полі (Стрэлкі, Беш. р.).

БЫЦЬ, *дзс.* — быть. Будзем робіць пакуль здохнем (Рыбчына, Сір. р.). Як будзець Духа, дык будзіц і цёпла і суха (Запрудзьдзе, Сен. р.). Будзе табе тасканца (Журавінка, Куз. р.). Было цёмна (Капланы, Сен. р.). У бабы быў адзін сімак (Кр. Сяло, Сен. р.).

БЯГОМ—бегом. Бягі бягом за нашымі (Максімава, Куз. р.).

БЯГУН, а, *м.*—1) бездельник. Работы ён ня любіць—бальшэй бягун (Лужасна, Куз. р.); 2) еловая или березовая крученная связь в плотах. Бягун разарваўся і балька паплула (Прыгаўкі, Сір. р.).

БЯДА, *ж.*—1) беда. Як бы тут выйці з гэтае бяды? (Пяцігарск, Беш. р.).

БЯДАК, а, *м.*—бедняк, горемыка. Ён, бядак, усё хварэе (Бабінічы, Віц. р.).

БЯЗБАЦЬКАВІЧ, а, *м.*—мальчик, не имеющиий отца. Мусіць ты бязбацькавіч, што нічога ня ўмееш? (Беліца, Сен. р.).

БЯЗБОЖНІК, а, *м.*--безбожник. Ён настаяшчы бязбожнік (Бабінічы, Віц. р.).

БЯЗВОДЗЬДЗЕ, *н.*—безводье, отсутствие воды. У нас тутака бязводзьдзе—з ракі ваду возяць (Лужасна, Куз р.).

БЯЗВОКІ — безглазый. Лепш бы бязвокаму ня жыць (Лятоўшчына, Куз. р.).

БЯЗГЛУЗДЫ--безмозглый, беспамятный. Ён бязглузды, што з яго возьмеш? (Шаркі, Куз. р.).

БЯЗГЛУЗЬДЗІЦА, *ж.* — бессмыслица. Нясе нейкую бязглузьдзіцу (Б. Летцы, Куз. р.).

БЯЗДОЛЬЛЕ, *н.* — несчастье, отсутствие доли. Няхай яго якое бяздольле прыкінулася! (Навасёлкі, Сен. р.).

БЯЗДОЛЬНЫ—несчастный, не имеющий доли. Відаць бяздольны ён чалавек—ня мае шчасьця у жыцьці (Пятніцкая, Беш. р.).

**БЯЗДОНЬНЕ**, *н.*—бездна. Працуеш, працуеш, а карысьці што— усё як у бяздоньне (Пятніцкая, Беш. р.).

**БЯЗДУШНЫ**--неодушевленный. Бяздушныя каменьні, а ня людзі (Б. Летцы, Куз. р.).

**БЯЗМОЗГІ**—глупый, безмозглый. Бязмозгаму бацютку ні загадывай (Гарадок, Гар. р.).

**БЯЗМОЎНЫ** — бессловесный. Што ты б'еш бязмоўную скаціну? (Калышкі, Лёз. р.).

**БЯЗНОГІ** — безногий. Бязногі ходзіць на кавёлах (Гарывецк, Сен. р.).

**БЯЗУВАЖНЫ** — невнимательный. Бязуважнага нічому ні навучыш (Селядцова, Беш. р.)

**БЯЗУЛА**, *аг.*—бездельник. Пашоў ты ад нас проч, бязула! (Ст. Беліца, Сен. р.).

**БЯЗУМОЎНА** - безусловно, без условий. Зрабілі усё бязумоўна— іх сіла (Труханавічы, Чаш. р.).

**БЯЗУРНЫ**—озорный. Бязурны хлапец урадзіўся (Саўчонкі, Гар. р.). Пар. абязурны.

**БЯЗУРЫЦЦА**, *дзс.* — озорничать, шалить. Ні бязурься там! (Цяпіна, Чаш. р.).

**БЯЗУЦІНА** — непрерывно. Бязуціна крычыць і крычыць (Гарадок, Гар. р.).

**БЯЗЬВЕЧЫЦЬ**, *дзс.* — изувечивать. Як прыступіла, дык і ўзяўся бязьвечыць бацюту (Кр. Сяло, Беш. р.).

**БЯЗЬДЗЕЛІЦА**, *ж.*, **БЯЗЬДЗЕЛЬЛЕ**, *н.* — мелочь. У мяне ёсьць бязьдзеліца бульбы (Лагавая, Аз р.). Бязьдзельле ты гамоніш (Капланы, Сен. р.).

**БЯЗЬЛЕСІЦА**, *ж.* — безлесье. Гадоў праз пяць, як фабрыку збудавалі, бязьлесіца настала (Чыр. Зорка, Чаш. р.).

**БЯЗЬЛЕЦЬЦЕ**, *н.*—лихолетье. Ну і хлеба ў цябе, як на бязьлецьце! (Пятніцкая, Беш. р.).

**БЯЗЬЛЮДНЫ**—безлюдный, не при людях. Бязьлюдная сьмерць яе была (Труханавічы, Чаш. р.).

**БЯЗЬМЕН**, у, *м.*—безмен. Гэты бязьмен надта добра важыць (Хмялькік, Беш. р.).

**БЯЗЬМЕТНА**—несметно. Бязьметна многа народу было (Дрыкольле, Куз. р.).

**БЯЛЁНЫ** — приправленный молоком. Зьеш бялёнай крупенькі (Купіна, Віц. р.).

**БЯЛІЗНА**, *ж.*—бельё. Бялізну трэба мыць (Іваньск, Чаш. р.),

**БЯЛІЦЬ**, *дзс.*—белить. Скуты белюць попілам (Кураеды, Беш. р.).

**БЯЛО ТАБЕ** — приветствие, когда моют белье. Бяло табе, сястрыца! (Высачаны, Выс. р.).

**БЯЛЯК**, а. *м.* — белый заяц. Lepus variabilis. Шмат я сёньні белякоў відаў (Асташова, Чаш. р.).

**БЯЛЯНКА**, *ж.*—гриб молочай. Agaricus subdulcis Pers et A. vellereus Fr. Бялянак я ў лесі ні браў (Горбава, Лёз. р.).

**БЯРВЕНЬНЕ**, *зб.*--бревна. Расьпілім гэтыя бярьвеньні (Пужалава, Аз. р.).

**БЯРЭЗІНА**, *ж.* — березина. Берка цячэць з бярэзіны (Навікі, Беш. р.).

**БЯРЭЗЬНІЧАК**, а, *м.*—березовый лесок. За беленькім бярэзьнічкам талалайчык сьвішча (язык) (Сьвіціна, Беш. р.).

**БЯРЭМА**, *ж.* - охапка. Прынясі дзьве бярэмы дроў (Рудня, Аз. р.).

**БЯРЭСЬЦІНА**, **БЯРОСТА**, *ж.*— береста. Падай бярэсьціну затапіць печку (Сянно, Сен. р.). Надраў бяросты (Пушкары, Сен. р.).

БЯРНО, *н.*—бревно. Чуць паднялі бярно на хату (Рыбчына, Сір. р.). Пар. бервяно.

БЯРНУШКА, *ж.* — бревно, балка. Яна вельмі таўстая ета бярнушка (Лятоўшчына, Куз. р.).

БЯРОЗА, БЯРОЗКА, *ж.*—береза. Betula verrucosa Ehrh. et B. pubescens Ehrh. Бальшая вырасла бяроза пад вакном (Рудня, Аз. р.). Якая высокая бярёска (Запрудзьдзе, Куз. р.).

БЯСЕДА, *ж.*—беседа, пирушка. У майго суседа была ўчора бяседа (Бесьцьвена, Сен. р.).

БЯСКРЫЎДНА — безобидно. Бяскрыўдна падзяліліся дабром (Труханавічы, Чаш. р.).

БЯСПОРТАШНІК, БЯСШТОНІК, а, *м.* — мальчик, который ходит еще без портов. Бач, сколькі бяспорташнікоў набралася (Асіпова, Аз. р.). Чаго лезеце да бясштоніка? (Спасская, Сір. р).

БЯСПРАЎНАСЬЦЬ, *ж.*—беззаконие. Ён любіць бяспраўнасьць (Бабінічы, Віц. р.).

БЯСПРОКІ — неспособный к доброкачественной работе. Бяспрокі чалавек (Сьвярдлы, Беш. р.).

БЯСПРЫГЛЯДНЫ – безнадзорный. Бяспрыглядпае дзіця доўга ня жывець (Княжыца, Куз. р.).

БЯСПРЫМУСНА — без принуждения. Ён жа бяспрымусна ета зробіў (Амільянова, Лёз. р.).

БЯСПРЫТОМНЫ — невменяемый. Бяспрытомны кінуўся на ея (Труханавічы, Чаш. р.).

БЯСПРЫТУЛЬНА--без приюта. Бяспрытульна век пражыў (Горбава, Лёз. р.).

БЯСПРЫЦЯМНЫ—непонятливый, рассеянный. Бяспрыцямная галава яго (Доўгае, Беш. р.).

БЯСПУТНЫ—беспутный. Урадзіўся бяспутны сын (Прудок, Віц. р.).

БЯСПУЦІЦА, *ж.*—распутица, очень плохая дорога. Ні паеду я ў такую бяспуціцу (Павульле, Чаш. р.).

БЯССУМЛЕННА—бессовестно. Бяссумленна Максімка з ёю абышоўся (Альшанікі, Беш. р.).

БЯСХАТНЫ—бездомный. Пажалецъ нада бясхатнага чалавека (Горбава, Лёз. р.).

БЯСХМАРНЫ — безоблачный. Дзень быў бясхмарны (Бабінічы, Віц. р.).

БЯЧЭЙКА, *ж.* — деревянный обод решета. У рэшаце паламалася бячэйка (Сянно, Сен. р.). Пар. абічайка.

## В.

ВАБГАЦЬ, *дзс.* — втиснуть, вместить. Чуць вабгаў у адзін мех абсыпку (Лужасна, Куз. р.).

ВАБІК, а, *м.* — свисток для приманки дичи звукоподражанием. Я купіў сабе вабік (Сяркуці, Сен. р.).

ВАБІЦЬ, *дзс.*—1) приманивать звукоподражанием. Я магу вабіць качак (Пятніцкая, Беш. р.); 2) привлекать. Вабіць мяне гай (Чырвоная Зорка, Чаш. р.).

ВАБЛЕНЬНЕ, *н.*—процесс приманивания, привлекания. Яму адно вабленьнем займацца — страляць ня ўмее (Сянно, Сен. р.).

ВАБНЫ — привлекательный, заманчивый. Вабны Васілёў домік на хутары (Раманаўка, Сен. р.).

**ВАВЁРКА**, *ж.*—белка. Sciurus vulgaris L. Дзеці злавілі вавёрку (Раіны, Аз. р.).

**ВАГА**, *ж.*—коромысло, палка с тремя железными крюками (два на концах, один посредине), служащая для запряжки двух лошадей в борону или в плуг. Дай мне Пятрусь на адзін дзень вагі (Косы, Віц. р.).

**ВАГА**, *ж.*—1) вес. Усякае целя мае вагу (Бабінічы, Віц. р.); 2) весы. Бацька паехаў за вагой—будзем дабро важыць (Пятніцкая, Беш. р.); 3) гиря. У крамах кожная вага пічатаная (Ульлянавічы, Сен. р.); 4) рычаг. Падкладывай вагу пад вугал (Азярэцк, Сен. р.); 5) авторитет. Ён у нашай ваколіцы ніякай вагі ня мае (Сянно, Сен. р.).

**ВАД**, у, *м.*—зной. У поўдзень самы вад (Ульлянавічы, Сен. р.).

**ВАДА**, *ж.*—вода. Бываець і то парою, што вада цячэць гарою (Алексінічы, Сен. р.). Дай вадзіцкі папіць (Віраўля, Гар. р.). Прынясі выды (Лужасна, Куз. р.).

**ВАДКА**—водянисто. На лузе вадка (Стаішча, Чаш. р.).

**ВАДКАСЬЦЬ**, *ж.* — жидкость, влага. На зямлі ў клеці такая вадкасьць, што ўсё гніець (Чараўкі, Сен. р.).

**ВАДКІ**—жидкий. Вадкая каша зварілася (Рыбычна, Сір. р.). Хлеб сёньні вадкі (Застадольле, Сен. р.).

**ВАЖАНЫ**—взвешенный, отвешенный. Гэта **важаны** хлеб? (Азярэцк, Сен. р.).

**ВАЖАНЬНЕ**, *н.*—взвешивание. На важаньне два чалавекі наняць трэба (Сянно, Сен. р.).

**ВАЖКА**, *ж.*—1) куделя, обработанное льняное волокно, приготовленное в прялку. Давалі прасьць важку (Вяжышча, Беш. р.); 2) фунтовая гиря. Парасёнак важыў трынаццаць вашэк (Вяжышча, Беш. р.).

**ВАЖКІ**—тяжелый, увесистый. Важкія снапы твая (Лужасна, Куз. р.).

**ВАЖНЕЦЬ**, *дзс.* — важничать, кичиться. Як абабралі ў сельсавет, дык нешта важнець стаў—каб ні пагналі (Труханавічы, Чаш. р.).

**ВАЖНІК**, а, *м.*—весы, безмен. Нада зважыць на важніку (Бараўляны, Куз. р.).

**ВАЖНЫ**—1) важный. Ета важнае дзела (Лалыкі, Аз. р.); 2) солидный. Падумаеш, які ён важны! (Лужасна, Куз. р.).

**ВАЖЫЦЦА**, *дзс.* — взвешиваться. Хлопцы, будзем важыцца ў **каператыве**! (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ВАЖЫЦЬ**, *дзс.* — 1) весить. Наша вага добра важыць (Шумкі, Сен. р.); 2) иметь вес. Вапёр важыць 10 пудоў (Сянно, Сен. р.).

**ВАЗГРЫВЫ**—сопливый, с сосульками под носом. Уй, які ты, мой сынку, вазгрывы! (Вішкавічы, Чаш. р.). На печы сядзеў вазгрывы **мальчык** (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**ВАЗОК**, а, *м.*—легкие санки с кузовом. Бяры вазок, а ні сані—у людзі едзеш (Мікалаёва, Куз. р.).

**ВАЗОЎНЯ**, *ж.*—сарай для саней, телег и упряжи, иногда сельско-хозяйственных орудий. Вазок і хамут у вазоўні (Семянцова, Беш. р.).

**ВАЗЬМЕЛІЦЬ**, *дзс.* — стянуть, взять. Трэба вазьмеліць вяроўку (Доўгае, Беш. р.).

**ВАДЗЕНЬ**, я, *м.*—овод. Hyroderma lineatum Villers і інш. Скора ужо і вадні лётаць стануць (Чарніца, Лёз. р).

ВАДЗІЦЦА, *дзс.* — ссориться, судиться. Гады са два, як яны водзяцца (Азярэцк, Сен. р.).

ВАДЗІЦЬ, *дзс.* — 1) мешать. Што табе тут вадзіць? (Чарніца, Лёз. р.); 2) вредить. Маладыя яблыкі заўсёды вадзяць (Ходцы, Сен. р.).

ВАДЗІЦЬ, *дзс.* — водить. Дзе мужык жонку за касу водзіць, там жыта родзіць (Марцінкава, Сен. р.).

ВАДЗЯНАЯ СТРАКІВА — роголистник. Geratophyllum sumbersum L. et G. demersum L. А нашто ты вадзяную страківу рвеш? (Пожынкі, Сен. р.).

ВАДЗЯНІК, а, *м.* — водяной. Вадзянік спудзіў каня (Кляшчыно, Беш. р.).

ВАДЗЯНІКІ, оў, *м.* — обморочное состояние. Мяне вадзянікі водзюць (Госьміра, Сен. р.).

ВАДЗЯНКА, *ж.* — кадка для воды. Нешта наша вадзянка цячэць (Азярэцк, Сен. р.).

ВАДЗЯНЫ АРЭШАК — чилим. Trapa natans L. Вадзяныя арэшкі вун там растуць (Лужасна, Куз. р.)

ВАЙСТРАК, а, *м.* — острие. Ні сячы там — патупіш вайстрак (Макаравічы, Беш. р.).

ВАЙЦЯЦЬ, *дзс.* — упрекать. Што ты ўсё вайцяеш за разьбітую пасудзіну? (Гравы, Сен. р.).

ВАКЕНЬНІЦА, *ж.* — ставня. Зачыні вакеньніцы (Купіна, Віц. р.). Пар. аканіца.

ВАКНО, *н.* — окно. Засьцяклілі вакно (Застадольле, Сен. р.).

ВАКОЛІЦА, *ж.* — окрестность, местность. З якея ты, чалавеча, ваколіцы? (Машкі, Сен. р.). Пар. аколіца.

ВАЛАВОДЗІЦЬ, *дзс.* — водить за нос. Кінь ты яго валаводзіць, ён табе ня пара (Пятніцкая, Беш. р.).

ВАЛАВЯНЫ — оловянный. Валавяны прут гнецца (Гарывецк, Сен. р.).

ВАЛАКІТА, *ж.* — волокита. Ня скора пройдзіць ета валакіта (Баравыя, Куз. р.).

ВАЛАН, а, *м.* — вид оборки внизу юбки. Які у цябе вялікі валан! (Застадольле, Сен. р.).

ВАЛАСАПЕД, а *м.* — велосипед. Ён ехаў на валасапедзе (Мішкава, Куз. р.).

ВАЛАСЕНЬ, я, *м.* — 1) гнойный нарыв, костоед. Panarithium. У Арыны валасень сапсаваў на руцэ рабочы палец (Санікі, Беш. р.); 2) сокольник волосистый. Hieracium Pilosella L. Ды валасень там не расьцець (Астроўна, Віц. р.).

ВАЛАТОЎКА, *ж.* — курган. На поле ёсьць валатоўка (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ВАЛАТОЎКІ, *ж.* — кладбище. Паміраць зьбіраюсь, ды баюся на валатоўках месца няма (Ходцы, Сен. р.).

ВАЛАЦЭНЬКА, *ж.* — копна сена. Награблі адну валацэньку (Ст. Беліца, Сен. р.).

ВАЛАЦНЯ, *ж.* — стог. Цэлую валацню нагроп сена (Ганкавічы, Беш р ).

ВАЛАЦУГА, *аг.* — 1) бродяга. Гэты валацуга усё пражыў (Слабада, Чаш. р.); 2) волокита, муж, который волочится за чужими женами. Валацуга ты праклятый! (Навікі, Віц. р.).

ВАЛАЧОБНІК, а, *м.* — славельщик, песенник, который ходит вместе с другими на Пасху по селам и поет песни соответствующие празднику, славит хозяев и т. ц. Летась на Вялікадня хадзілі валачобнікі (Сялец, Чаш. р.). Увечары хадзілі валачэбнікі (Асінаўка, Беш. р.).

ВАЛАЧЫЦЦА, *дзс.*—1) бродить. Чаму ты валочышся, валацуга, чаму ня знайдзеш сабе працы? (Ст. Беліца, Сен. р.); 2) еле брести. Кунь ужо ўтаміўся, дык ён чуць валачэцца (Ходцы, Сен. р.); 3) ухаживать. Ён за ей валочыцца (Мазалава, Куз. р.).

ВАЛАЧЫЦЬ, *дзс.* — тащить. Куды ты мяне валочыш? (Госьміра, Сен. р).

ВАЛДЫР, а, *м.*—волдырь, пузыр. Па вадзе пашлі вялікія валдыры (Машчоны, Сен. р.). Нацёр сабе вулдыр (Застарыньне, Беш. р.).

ВАЛЕЙ—лучше. Валей бы ты гэта не рабіў (Луб'ева, Аз. р.).

ВАЛЁ, *н.*, ВАЛЁК, а, *м.*; ВАЛЮШКА, *ж.*—зоб. Во, набіла сваё валё! (Асіпова, Аз. р.). Поўны валёк набіў (Машчоны, Сен. р.). Куріца набіла поўную валюшку (Семянцова, Беш. р.).

ВАЛЁНКІ, ВАЛЕНЦЫ, *ж.*—валенки. Шапувалы звалілі валёнкі (Ульянавічы, Сен. р.). Валенцы маі разваліліс (Зямковічы, Сен. р.). Дастань мае валёнцы с печы (Запрудзьдзе, Куз. р.).

ВАЛІГА, *ж.* — жидкий жир. Укінь валігі ў страву (Косы, Віц. р.).

ВАЛІЦЦА, *дзс.*—падать. Пуня ўжо пачала валіцца (Баравыя, Куз. р.).

ВАЛІЦЬ, *дзс.*—1) валять, сбивать. Шапувалы будуць валенцы валіць (Амільлянова, Лёз. р.); 2) валить. Валі ўсё ў кучу! (Лужасна, Куз. р.).

ВАЛКАВАТЫ--сыроватый. Пагніе іх сена—валкаватае возяць (Лужасна, Куз. р.).

ВАЛОЖЫЦЬ, *дзс.*—заправлять пищу. Кашу трэба валожыць (Старое Сяло, Куз. р.).

ВАЛОКА, *ж.* — мера земли (около 20 десятин). У мяне дзьве валокі зямлі (Пустынкі, Сен. р.).

ВАЛОСКІ, ВАЛОСНЫ, аў, *ж.*—Плеяды. Валосны паказаліс на небе (Бабінічы, Віц. р.). Валоскі ў зарэ—конь у сасе (Біклбжа, Беш. р.).

ВАЛОСКІ — валахский. Валоскіх арэхаў ей купіў (Сянно, Сен. р.).

ВАЛОЎНЯ, *ж.*--хлев, помещение для волов. Даўней у гэтай валоўні аршыны на 2 было гною (Азярэцк, Сен. р.).

ВАЛОШКА, *ж.*—василек. Centaurea Cyanus L. У жыце расьце валошка (Заронава, Куз. р.).

ВАЛУЙ, я, *м.*—валуй. Agaricus foetens Pers. Вунь расьце валуй (Семянцова, Беш. р.).

ВАЛЧЫЦЦА, *дзс.* — долго возиться в борьбе. Брось ты валчыцца зь ім (Сьвярдлы, Беш. р.).

ВАЛЫНДАЦЦА, *дзс.* — 1) возиться, заниматься. Не валындайся ты з ім! (Баравыя, Куз. р.); 2) бродить. Валындаецца недзе па сьвету (Лужасна, Куз. р.).

ВАЛЬГОТА, *ж.* — льгота. Усі вальготы па налогу нада аб'явіць народу (Загор'е, Куз. р.).

ВАЛЬХА, ВОЛЬХА, *ж.*—ольха. За гародам вальха расла (Пушкары, Сен. р.). Толькі вольхі віднеюцца (Доўжа, Куз. р.) Пар. алешына.

ВАЛЬШЧЫК, а, *м.*--шерстобит, мастер валенок и подобных изделий. Вальшчыкі ідуць — нясі воўны, валёнкі будуць (Біклажа, Беш. р.).

ВАЛЮШ, а, *м.*—валенка. Валюшы знасіў (Падрэзы, Чаш. р.). Пар. валёнкі,

ВАЛЯВАТЫ — зобастый. Вунь той валяваты чалавек будзе зараз малоць (Лужасна, Куз. р.).

ВАЛЯР'ЯНА, *ж.* — валериана. Valeriana officinalis L. У нас многа валір'яны расьцець (Дзяды, Сір. р.).

ВАЛЯЦЦА, *дзс.*—1) валяться, У яго і хамут валяецца на дварэ (Лятоўшчына, Куз. р.); 2) падать. Перастань валяцца! (Раіны, Аз. р.).

ВАНГЛЁНКА, ВАНДЛІНА, ВЯНГЛІНА, *ж.* — ветчина. Ванглёнка сапсавалася (Шуміліна, Сір. р). Вандліны прынясі гасьцям (Бабінавічы, Выс. р.). На Вялікадня ў іх была вянгліна (Сьвеча, Беш. р.).

ВАНДОЛ, у, *м.* — ухаб. Усе вандолы абмінулі (Навасёлкі, Беш. р.).

ВАНЕЦЬ, *дзс.*—вонять. Мяшок нечым ваніць (Лужасна, Куз. р.).

ВАНДЗЭЛАК, а, *м.* — узелок. Ідзець па дарозе, прычапіўшы вандзэлак (Лосьвіцкая, Сір. р.).

ВАНДЗІДЛА, *н.*—удила. У аброці паламаліся вандзідла (Пачаевічы, Чаш. р.).

ВАНІТАВАЦЬ, *дзс.*—тошнить. Мар'ін дзяцёнак як толькі пасьсецць, дык і ванітуецць (Сянно, Сен. р.).

ВАНТРОБА, *ж.* — 1) печень. Сьвежая вантроба (Застарыньне, Беш. р.); 2) живот. Іш вантробу напехал! (Шуміліна, Сір. р.).

ВАНТРОБ'Е, *зб.*--внутренности животного. Выкінулі вантроб'е, бо яно сапсувалась (Лапы, Беш. р.). Вантроб'я ўсі абчысьціла й абмыла (Навікі, Віц. р).

ВАНУГЛІК, а, *м.* — вонючка, человек, от которого постоянно исходит неприятный запах. Якей ты ванугліk — вечна ад цябе пахнець! (Баравыя, Куз. р.).

ВАНЦАК, а, *м.*—болезнь живота. Во, каб цябе ванцак забіў! (Чаркасаў, Беш. р).

ВАПЕНЬНІК, а, *м.* — рабочий обжигающий известь. Вапеньнікаў ні знайці (Мамойкі, Беш. р.).

ВАПЕНЬНІЦА, ВАПЕЙНІЦА, *ж.*--горн, обжигальня извести; известковый завод. На берагу Дзьвіны стаяць вапейніцы (Астроўна, Віц. р.).

ВАПЁР, ВАПРУК, а. *м.*—боров. У камуніі добры вапёр ёсьць (Рыбчына, Сір. р.). Загані вапрукоў каб ня збеглі (Азярышча, Аз. р.).

ВАПІЦЬ, *дзс.*—белить известкою. Узяўся хату вапіць, ды толькі мажыць (Навікі, Беш. р.).

ВАПЛЕНЫ—покрытый известкою. У іх доме сьцены вапленыі (Лужасна, Куз. р.),

ВАПНА, *ж.* — известь, Нада пабяліць столь вапнай (Навікі, Віц. р.).

ВАПНЯК, у, *м.*—известняк. У гэтай гарэ ужо няма вапняку (Стрэлка, Беш. р.).

ВАР, у, *м.* 1) кипяток. Залей попел варам (Рудня, Аз. р.); 2) сапожная смола для вощения сапожных ниток. Цяпер павашчы дратву варам (Мішкава, Куз. р.).

ВАРАЖБА, *ж.* — 1) гадание. Варажба да добра не давядзець (Пустынкі, Сен. р.); 2) ворожба. Ён варажбой займаецца (Азярэцк, Сен. р.).

ВАРАЖБІТ, а, *м.* — колдун, знахарь. Сходзім да варажбіта (Доўжа, Куз. р.).

ВАРАЖБІТКА, *ж.* — гадалка, знахарка. Яна была ў варажбіткі (Ісачкава, Аз. р.).

ВАРАЖЫЦЬ, *дзс.*--гадать. Прапаў конь, трэба ісьці варажыць (Шарыпіна, Беш. р.).

ВАРАЦАЦЬ, *дзс.* — тошнить. Так варацаець, што ні давядзі госпадзі! (Стаішча, Чаш. р.).

ВАРЭНЬНЕ, *н.*—варенье. Варэньне варуць з вішань, сьліў, малін, брусьніц, суніц і смарод (Альшанікі, Беш. р.).

ВАРОНА, *ж.*—ворона. Corvus cornix L. Бывала і варона кукавала, а цяпер і зязюля ні кукуець (Ісачкова, Аз. р.).

ВАРОТЫ, *н.*– ворота. Зачыні вароты, бо ад сьвіньней адбіцца ня можна (Забор‘е Сен. р.).

ВАРОЧАЦЦА, *дзс.* — возвращаться. Ужо было цёмна, як я варочаўся дамоў (Пустыр, Сір. р.).

ВАРОЧАЦЬ, *дзс.* — 1) возвращать. Трудна варочаць пазычанае (Казьяны, Сір. р.); 2) переворачивать. Надаць іці сена варочаць (Лужасна, Куз. р.).

ВАРСАВАТЫ—с крапинками. Сёліта яблыкі варсаватыя (Доўгае, Беш. р.).

ВАРТА, *ж.* — стража, караул. І варта хадзіла, а Зьмітру абабралі (Сянно, Сен. р.). Мы хадзілі на варту па чарзе (Сяркуці, Сен. р.).

ВАРТА—1) стоит. Ня варта туды хадзіць (Стаішча, Чаш. р.). Гэта карова ня варта сотні (Зямковічы, Сен. р.); 2) годна. Куды варта твая вопратка? (Пушкары, Сен. р.); 3) достойна. Яна гэтага і варта (Рыбчына, Сір. р.); 4) по делом. Варта яму ніхай ня будзе такім (Оўсішча, Сен. р.).

ВАРТАВАНЬНЕ, *н.* — карауленье. Не пакладайся на вартаваньне етых блазнаў (Лужасна, Куз. р.).

ВАРТАВАЦЬ, *дзс.*—сторожить, караулить. Сёньня пайду вартаваць свою паласу з жытам (Косы, Віц. р.).

ВАРТАЎНІК, а, *м.* — сторож. Вартаўнікем гэту ноч быў Іван (Зямковічы, Сен. р.).

ВАРТЫ—достойный. Сымон—варты чалавек (Пустынкі, Сен. р.). Ён яе варты (Лужасна, Куз. р.).

ВАРУШЫЦЦА, *дзс.* — шевелиться. Кінь варушыцца—ні мяшай! (Доўжа, Куз. р.).

ВАРУШЫЦЬ, *дзс.*—ворошить. Мы варушылі віку (Лужасна, Куз. р.).

ВАРХА, *ж.*—веялка. Дай мне вархі зьвеіць жыта (Варонькі, Сір. р.). Пар. арфа.

ВАРХАВАЦЬ, *дзс.*—веять. У Пётры авёс вархуюць ужо трэці дзень (Заазер‘е, Сен. р.). Пар. арфаваць.

ВАРХАЛ, у, *м.*—шум, содом. Паднялі вархал, хоць вушы затыкаў ды й сам уцякай (Ст. Беліца, Сен. р.).

ВАР‘ЯТ, а, *м.* — сумасброд, сумасшедший. Абыйдзі лепш етага вар‘ята (Сянно, Сен. р.).

ВАРЫВА, *н.* — 1) огородные овощи. Пудоў з 20 варыва сабралі (Азярэцк, Сен. р.); 2) борщ. Варыва варуць з шчаўлю, шніткі, маладой крапівы, бурашнага батоўя, буракоў і кіслае капусты (Альшанікі, Беш. р.); 3) ботва огородных овощей. Нада назьбіраць варева сьвіньням (Рыбчына, Сір. р.); 4) свекла. Варыва ня рэпа—сырога ня зьясі (Сяркуці, Сен. р.).

ВАРЫЖКІ, *ж.*—перчатки. Холадна — бяз варыжак ня выйці (Лятоўшчына, Куз. р.).

ВАРЫЎНЯ, ВАРОЎНЯ, *ж.*—курная хата для хранения овощей, клубнеплодов и т. п. Сходзі да варыўні за бульбай (Кузьміно, Сен. р.). Вароўню паставіў (Селядцова, Беш. р.).

ВАСІЛЁК, а, *м.*, ВАСІЛЬКА, *ж.*—василек. Centaurea Cyanus L. Васілёк—дужа красівы цьвяток (Баравыя, Куз. р.). Ужо вырасла

ў жыцьці васілька (Красьніца, Чаш. р.).

**ВАСПАН, ВАСАН**, а, *м.* — гражданин, сударь (вежливое обращение). Васпане мой, прыдзі да мяне (Пятніцкая, Беш. р.). А пачом, васан, продаеш аўчынкі? (Сялецк, Чаш. р.).

**ВАСПАНЯ**, *ж.* — сударыня. А ты хвора схадзіць, васпаня? (Бараўляны, Куз. р.).

**ВАСТРЭЦЬ**, *дзс.* — остреть. Колькі ні тачы — ні вастрэіць (Лужасна, Куз. р.).

**ВАСТРЫЦЬ**, *дзс.* — острить, точить. До табе вастрыць тапор (Лужасна, Куз. р.).

**ВАСЬМІНІТОЎКА**, *ж.* — скатерть, полотно ткавшееся в 8 «нітоў» (гл.). Васьмінітоўкі прадала, а дрыліхі засталіся (Берасьні, Беш. р.).

**ВАСЯМНАНЦАЦЬ** — восемнадцать. А у мяне васямнанцаць авечык (Бараўляны, Куз. р.).

**ВАТОВЫ** — сшитый на вате. Ватовым адзіялам накрываўся (Лёзна, Лёз. р.).

**ВАТОЎКА**, *ж.* — поддевка на вате. Нехта украў мамкіну ватоўку (Азёркі, Беш. р.).

**ВАЎКАЛАК**, а, *м.*—оборотень. Ён і ваўкалакам быў (Сянно, Сен. р.),

**ВАЎКАРЭЗІНА**, *аг.* — годная только на с'едение волкам. Во, ваўкарэзіна—гані, а ня йдзець (Пяцігарск, Беш. р.).

**ВАЎКАЎНЯ**, *ж.*—волчья яма (разумеется огромное холодное здание). Не хачу жыць у ваўкаўні гэтай (Сялец, Чаш. р.).

**ВАЎНЯНКА**, *ж.* — волнушка. Lactarius torminosus Fr. Набраў ваўнёнак (Стралкі, Беш. р.).

**ВАЎРЭЦЬ**, *дзс.*—сильно вспотеть. За гэты час так ваўрэў, што хоць выкручвай бяльлё (Азярэцк, Сен. р.).

**ВАЎСЮГ**, а, *м.* — стальник. Ononis hircina Jacq. Во, ваўсюч разросься! (Бель, Выс. р.).

**ВАЎЧКІ**, оў, *м.* — мытник. Pedicularis palustris L. Калі падарваўся — ваўчкоў запараных выпі (Лужасна, Куз. р,).

**ВАШАПРУД**, а, *м.* — вшивец, вшивый. Вашапруд ты, паршывый! (Азярэцк, Сен. р.).

**ВАШЧЭЎНА**, *ж.*, **ВАШЧЭЎЕ**, *н.*, **ВАШЧОЎНА**, *ж.*—овощи. У мяне вашчэўна вырасла сёлета добрая, добрая (Асавец, Беш. р.). Поўны гарод вашчэўя (Навікі, Беш. р.). Зрабіў бальшую памылку, што вашчоўну позна пасеіў (Заварацьце, Сен. р.).

**ВАШЫ**—остальная семья. Ішоў тота каля плота пытаецца ў Засі ці дома вашы (Алексінічы, Сен. р.).

**ВАЮН**, а. *м.*—вьюн. Misgurnus fossilis L. Ваюн закапаўся ў пясок (Падбярэзьзе, Віц. р.). Пар. уюн.

**ВАЯВАЦЬ**, *дзс.* — воевать. А Міхалка яшчо доўга ваяваў зь імі (Застадольле, Сен. р.).

**ВЕДАМНЫ**—известный. Ён у нас ведамны гіцаль (Лужасна, Куз. р.).

**ВЕДАНЬНЕ**, *н.* — знание. Каб веданьне, што так будзе — ня робіў-ба (Лятоўшчына, Куз. р.).

**ВЕДАЦЬ**, *дзс.*—знать. Балазе сказаў—буду ведаць (Пятніцкая, Беш. р.). Каб ты ведаў, як я сьнедаў (Цішкавіна, Сен. р.).

**ВЕК**, а, *м.* — век, столетие. Праз вякі так цягнецца (Вядрэнь, Чаш. р.).

**ВЕКА**, *ж.* — крышка. Векам закрыў ваду у дзежцы (Сьвеча, Беш. р.).

**ВЕКША**, *ж.* — белка. Sciurus vulgaris L. Крукі задзюўбалі векшу (Дубнікі, Беш. р.).

**ВЕЛІСАЗАР**, а, у, *м.*—созвездие (Плеяды?). Велісазар ужо на поўдні—пара іці малаціць (Вейна, Сен. р.).

**ВЕЛЬМІ**--очень, весьма. Сяньня куцьця была вельмі смачная (Шыпы, Сен. р ).

**ВЕНІК**, а, *м.* —веник, метла. Пастух зьвязаў венік (Рудня, Аз. р.).

**ВЕРАБЕЙ**, я, *м.* — воробей. Passer domesticus L. et P. montanus Briss. Верабей улецеў у хату (Рудня, Аз. р.). Віраб'і паклівалі каноплі (Застадольле, Сен. р.).

**ВЕРАНІЦА**, *ж.*—вереница, стая. Вун паляцела вераніца гусей (Гарывецк, Сен. р.),

**ВЕРАС**, у, *м.*—вереск. Calluna vulgaris Salisb. Ужо і верас зацьвіў (Калышкі, Лёз. р.).

**ВЕРАТНІК**, а, *м.*—часть поля в длину, обрабатываемая отдельно от других, чтоб была возможность передохнуть на поворотах. Вератнікоў з 10 прабег, а яго німа. Яго вератнік меншы за мой (Лятоўшчына, Куз. р.).

**ВЕРАЦЕЯ**, *ж.* — холм среди болота, чаще поросший орешником. На тэй самай верацеі аддыхалі (Дубавое, Беш. р.).

**ВЕРАЦЯНО**, **ВЕРАЦЕНЦА**, *н.*—веретено. Чаму ты зламаў верацяно? (Раіны, Аз. р.). Віраценца тачонае, а дзіцятка раджонае (Яноўшчына, Беш. р.).

**ВЕРАШЧАЦЬ**, *дзс.*—визжать, верещать. Парасяты верашчаць (Шыркі, Куз. р.).

**ВЕРАЯ**, *ж.*—верея. Не зачапіся за вераю (Асіпова, Аз. р.).

**ВЕРБАЛОЗ**, *ж.* — ивняк. Буду садзіць вербалоз (Пустынкі Сен. р.).

**ВЕРЛОВОКІ**—лупоглазый. Вун той верлавокі зробіў ета (Азярэцк, Сен. р.).

**ВЕРЛЫК**, а, *м.*—белок глаза. У некаторых людзей бываюць бальшэі верлыкі (Выгары, Куз. р.).

**ВЕРХ**, а, *м.*—1) верх. На версе ляжала калодка (Марчонкі, Сур. р.); 2) задвижка в потолке бани. Зачыні верх (Вяжышча, Беш. р.).

**ВЕРХАВІНА**, *ж.*—вершина дерева. За 2 верхавіны і то напісаў пратакол (Азярэцк, Сен. р.).

**ВЕРХАВОДКА**, *ж.* — вода на поверхности льда. На возеры большая верхаводка (Сянно, Сен. р.).

**ВЕСНАВЫ**—весенний. У полі падуў цеплы вяснавы вецяр (Машкі, Сен. р.).

**ВЕСТКА**, *ж.*—известие. Німа ніякай весткі ад сына (Горкі, Аз. р.).

**ВЕСЬНІКІ**, аў, *н.*—ворота. Весьнікі закрыты (Пачаевічы, Чаш. р.).

**ВЕСЬЦІ**, *дзс.*—1) вести. Куды ты вядзеш яе? (Лужасна, Куз. р.); 2) тянуть, канителить. Я гэта не люблю, як другі вядзець, хто знаіць што (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**ВЕСЯЛІЦЦА**, *дзс.*—веселиться. Ажаніўся, весяліўся, цяпер буду панаваць (Застадольле, Сен. р.).

**ВЕТАХ**, **ВЕТАШОК**, **ВЁТАХ**, **ВЯТОХ**, а, у, *м.* — последняя фаза луны. Ветах настае праз дзень (Сянно, Сен. р.). Віташок узышоў на небе (Вішкавічы, Чаш. р.). На вётаха сьвіней ня рэжуць (Навікі, Віц. р.). Ня відзеў я з ёю вятоху (Лужасна, Куз. р.).

**ВЕТКА**, *ж.*—ветвь. Глядзі на тую ветку—вунь сядзіць грак (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЕТЛА**—вежливо, приветливо. Наша нявестка ветлая--з усімі ветла абходзіцца (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВЕТЛЫ**—вежливый. Ветлы ён (Бель, Выс. р.).

**ВЕТРАНІЦА**, *ж.*—1) ветряная мельница. За ракой ёсьць ветраніца (Селядцова, Беш. р.); 2) подшивная доска у края крышы. Ветраніца адарвалася (Казьяны, Сір. р.).

**ВЕТРЫЦЬ**, *дзс.*—1) проветривать. Адзежу пара ветрыць (Лужасна, Куз. р.); 2) проветривать, веять ветром. Гэта з пылам—нада ветрыць (Карма, Куз. р.).

**ВЕХАЦЬ**, я, *м.* — мочалка, тряпка или соломенный пучок, которым моют посуду, столы и т. п. Вазьмі ў лазьню вехаць (Пустынкі, Сен. р.).

**ВЕЦЕР**, у, *м.*—ветер. Вецер адчыніў варота (Рудня, Аз. р.).

**ВЕЧАР**, у, *м.*—вечар. Вечар быў ціхі й цёплы (Асінаўка, Беш. р.).

**ВЕЧАРЭЦЬ**, *дзс.* — наступать вечеру. Гані дамоў—ужо вечарэіць (Ястрабы, Куз. р.).

**ВЕЧАРУШКІ**, *ж.* — посиделки в деревне вечером. Учора ў Пятрака былі вечарушкі (Пустынкі, Сен. р.).

**ВЕЧАРЫНЫ**, *ж.*--канун, начало свадьбы. У суботу пачнём вечаріны (Асіпова, Аз. р.).

**ВЕЧАРЫНКА**, *ж.*—вечеринка. Пойдзем у Камоскі на вечарынку (Бешанкавічы, Беш. р.). Ці будізць сягоньні вічарынка? (Чараўкі, Сен. р.).

**ВЕЯ**, *ж.*—метель с ветром. У такую вею лучшы ня едзь (Азярэцк, Сен. р.).

**ВЕЯЦЬ**, *дзс.*--веять, дуть. Вецір вейць, пясок сейць, калі пясок ня ўзойдзіць і кроў ня пойдзіць (Маскаленкі, Беш. р.).

**ВЭБЛАМ** — совершенно, окончательно. Вэблам забылася пра гэта (Капланы, Сен. р.).

**ВЭЖГАР**, *зб.* — орава ребятишек. Вон из хаты, што вам тут нада вэжгар? (Гарбузы, Сен. р.).

**ВЭДЗГАЦЦА**, *дзс.*—пачкаться. Досыць табе вэдзгацца над міскай (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ВЁСКА**, *ж.* — деревня. Наша вёска малая (Шыпы, Сен. р.).

**ВІДАВОЧНА**--видимо, наглядно. Яна відавочна марнеіць (Селядцова, Беш. р.).

**ВІДАЦЦА**, *дзс.* — встречаться. Яна і з Васілём часта відаіцца (Лужасна, Куз. р.).

**ВІДАЦЬ**—видно. Ня відаць нікога (Стаішча, Чаш. р.). Відаць, што так (Азярэцк, Сен. р.).

**ВІДЭЛЕЦ**, а, *м.*, **ВІДЭЛКА**, **ВІДЭЛЬЦА**, *ж.*, **ВІДЗЕЛЕЦ**, а, *м.*—вилка. Памый відэлец (Застарыньне, Беш. р.). Бяры відэльцы і еш яешню (Спасская, Сір. р.). Я відэльцай брала мяса (Пушкары, Сен. р.). Падай відзельцы (Мікалаёва, Куз. р.). Падай відэлку (Лагавая, Аз. р.).

**ВІДЗЕНЬНЕ**, *н.* — лицо. Ударылі мяне па відзеньню (Сялец, Чаш. р.).

**ВІДНЕЦЬ**, *дзс.* — рассветать. Ужо віднеець, скора і дзень настанець (Вейна, Сен. р.).

**ВІКЛЯ**, *ж.* — тонкий конец жерди торчащий из неоконченной крыши низкой, холодной постройки. Павесь на віклю (Доўгае, Беш. р.).

**ВІЛАШНІК**, а, *м.* — 1) палка, на которую насажен ухват. Як дам я табе вілашнікам па галаве, так будеш ведаць (Навасёлкі, Куз. р.); 2) уголок у печки, где стоят ухваты и др. принадлежности кухни. Пастаў у вілашнік (Замошша, Сен. р.).

**ВІЛКІ**, *ж.*—ухват. Ты ж вілкамі вазьмі цугун (Нов. Сяло, Беш. р.).

**ВІЛЬГАЦЬ**, *ж.*—сырость, влажность. Трэба печ пратапіць, а то вільгаць у хаце (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ВІЛЬГОТНА** — сыро, влажно. У пограбе вільготна (Красьніца, Чаш. р.).

**ВІЛЬЧАК**, а, *м.* — верхушка крыши у конька. Не спарывай ластаўкіна гняздо ў вільчаку, а то будуць ластавічы (Забор'е, Сен. р.). Забраўся на самы вільчык (Чарніца, Лёз. р.).

**ВІЛЯЦЬ**, *дзс.* — 1) вилять, махать. Во, віляе хвастом! (Лужасна, Куз. р.); 2) хитрить, обманывать. Ты ня віляй, а кажы праўду (Калышкі, Лёз. р.).

**ВІНАВАТЫ**—1) виновный. Вінаватых у астрог садзяць (Амільлянова, Лёз. р.); 2) должник. З вінаватага і сыскуй (Лужасна, Куз. р.).

**ВІНАВАЦІЦЬ**, *дзс.* — обвинять. Стахвана вінавацяць за тое, што ён, як быццам, украў каня ў Мірона (Оўсішча, Сен. р.).

**ВІНАПОЛЬКА**, *ж.* — винная лавка. У вінапольцы ёсь гарэлка усіх сартоў (Ходцы, Сен. р.).

**ВІНІ**, *ж.* — пики. Віні казыры (Пятніцкая. Беш. р.).

**ВІНКЕЛЬ**, я, *м.* — наугольник. Прапаў мой вінкель (Мікалаёва, Куз. р). Прынясі мне вінкаль (Ляхава, Віц. р.). Вінгаль ляжыць у сталюзе (Гарывецк, Сен. р.).

**ВІНОВЫ** — пиковый. У цябе віновы туз? (Азярэцк, Сен. р.).

**ВІНШАВАНЬНЕ**, *н.* — поздравление. З віншаваньнем да яго хадзіў (Дубнікі, Сен. р.).

**ВІНШАВАЦЬ**, *дзс.* — поздравлять. Было каго віншаваць? (Сянно, Сен. р.).

**ВІР**, у, *м.*—омут. Настка утапілася ў віру (Асіпова, Аз. р).

**ВІРЛА**, *н.*, лнк.—глаз. Ча выгаліў вірлы? (Запрудзьдзе, Куз. р.). Пар. верлык.

**ВІРОК**, а, *м.*—приспособление из палочки, которым наматывают нитки на клубок. Прынясі мне вірок—я буду матаць клубок (Вейна, Сен. р.).

**ВІСЕЦЬ**, *дзс.*—висеть. Хустка вісіць на сьцяне (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВІСЛАВУХІ** — с обвисшими ушами. Віславухі твой конь (Лужасна, Куз. р). Пар. аблавухі.

**ВІСОК**, а, *м.*—висок. Як дам па віску, дык ты ўрынісься (Шыпы, Сен. р.)

**ВІСОКА**--высоко. Вісока ляцяў, ды нізка сеў (Лазова, Сен. р.).

**ВІСОКІ**—высокий. З вісокага цераму ў акошачка гледзючы (Яноўшчына, Беш. р).

**ВІСУЧЫ**—привесной, висящий. І нутраныя і вісучыя замкі былі, а ўсёткі абабралі (Калышкі, Лёз. р.).

**ВІТАНЬНЕ**, *н.* — приветствие. Вітаньне ўжо яго было—толькі пальцы падаваў! (Амільлянова, Лёз. р.).

**ВІТАЦЦА**, *дзс.* — здороваться. Малец з дзеўкай вітаўся (Сянно, Сен. р.).

**ВІТАЦЬ**, *дзс.*—приветсвовать. Бяжэм баярак вітаць! (Чарнагосьці, Беш. р.).

**ВІТКА**, *ж*—1) крученый прут лозы, которым связывают колья в заборе. Накруці вітак, ды зьвяжы калы (Асінаўка, Беш. р.); 2) веха. Паставіў вітку (Стралкі, Беш. р.). Пар. вішка.

**ВІТУШКА**, *ж.*—веревка свитая из 2 частей. Вітушка сусім ня крэпкая, нада дратаванка (Лужасна, Куз. р.).

**ВІХАЦЦА**, *дзс.*—1) шататься. Трахім напіўся гарэлкі і віхаіцца

(Сяркуці, Сен. р.); 2) колебаться (в уме). Ня віхайся, купляй— будзеш мець каня (Сянно, Сен. р.).

**ВІХОР**, а, *м.*—1) вихрь. Падняўся сільны віхор (Бабінічы, Віц. р.); 2) вихорь. Я цябе аддзяру за віхор (Сянно, Сен. р.).

**ВІШКА**, *ж.*—веха для указания границы. Паставіў вішку, добра відаць, а ён укасіўся ў маё (Стрэлкі, Беш. р.). Пар. вітка.

**ВІШНІНА**, *ж.*—вишневое дерево. Prunus cerasus L. Пасадзіў вішніну (Альгова, Віц. р.).

**ВІШНЯ**, *ж.*—вишня. Прадаў танна вішні (Лужасна, Куз. р.).

**ВІШНЯК**, *зб.*—вишневый сад. У вішняку іх застаў, абняўшыся (Лужасна, Куз. р.).

**ВІШЧАЦЬ**, *дзс.*—визжать. Што гэта сабака вішчыць? (Азярэцк, Сен. р.).

**ВО**, *вкл.*—1) вот. Во, і гром ударыў! Во, табе й на! (Навікі, Віц. р.); 2) да, конечно. Ці ты відзеў?—Во! (Гарадок, Гар. р.).

**ВОБАД**, а, *м.* — обод. Купіў сабе новы вобад — буду каток рабіць (Лужасна, Куз. р.). Пар. абод.

**ВОБАЧ** — стороною. Хмарка пашла вобач (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВОБЖА**, *ж.*—оглобля в сохе. У мяне сламалась вожба ў сахе (Ляхава, Віц. р.). Пар. абжа.

**ВОБЛАК**, а, *м.*—облако. Пайшлі па небу воблакі (Лалыкі, Аз. р.). Вобалак сонейка засланіў (Красьніца, Чаш. р.). Грабіце сена, а то насовываець воблака (Шыпы, Сен. р.).

**ВОБМАРАК**, у, *м.*—букашник. Jasione montana L. Ета травіца вобмаркам у нас завецца (Лужасна, Куз. р.).

**ВОБРАЗ**, а, *м.* — икона. Клянусь табе, як перад вобразам (Сухарукава, Аз. р.). Пар. абраз.

**ВОГЕР**, а, *м.*—жеребец. Наш вогер на ўсю ваколіцу (Лужасна, Куз. р.).

**ВОГНІК**, а, *м.* — вид нарывов у губ, чаще у детей. Вогнік бывае ў дзяцей. Баба адкінула вогнік (Кузьміно, Сен. р.).

**ВОГНІШЧА**, *н.* — 1) костер. Вось якое вогнішча распаліў! (Канавалава, Куз. р.); 2) место, где горел костер. Я пасеяў ячмень на вогнішчы (Запрудзьдзе, Куз. р.); 3) еще не совсем потухшее пепелище. Дзе быў пажар, асталося адно вогнішча (Стрэлкі, Беш. р.).

**ВОДАЛЬ** — в отдалении. Мы стаялі лі лаўкі, а яны водаль. Водаль дарогі — хата лясьніка (Халамер'е, Аз. р.).

**ВОДВЕДКІ**, *ж.* — посещение, визит (обычно с с'едобными приношениями). Схажу—ў водведкі к Мар'і (Рыбчына, Сір. р.).

**ВОДЛУГ**, *прм.* — по. Водлуг росту не падыходзіць (Лужасна, Куз. р.). Сужэнька, купі мне панчошкі выдлук маей ножкі (Цяпінскія Папкі, Чаш. р.).

**ВОДРЫЦА**, *ж.*--экзема. Eczema. У Восіпа села водрыца (Дзямідавічы, Чаш. р.).

**ВОЖКА**, *ж.*—вожжа. Бяры ў рукі вожкі й паежджай (Стрэлкі, Беш. р.). Адвужу цябе важкамі каля плеч (Сухарукава, Аз. р.).

**ВОЖЫК**, а, *м.*—еж. Erinaceus rumanicus Bar-Ham. Дзеці злавілі вожыка (Рудня, Аз. р.).

**ВОЗ**, а, *м.*—телега с чем-либо. Вы тут будзіце сідець, а то нельзя кінуць воз (Гарадок, Гар. р.).

**ВОЗЕРА**, *н.*—озеро. Каля нас вялікае возера (Пужалава, Аз. р.).

ВОДЗЕ—вот тут. Водзе ваша барана (Балдыкова, Аз. р.). Войдзе ляжыць якей-та скурат (Косы, Віц. р.). Водзека шырокае кружава (Гарадок, Гар. р.). Я ўзяла тутацька платкі, водзецка! (Гарадок, Гар. р.).

ВОЙКАНЬНЕ, *н.*—стонание. Абрыдла мне яго войканьне (Лужасна, Куз. р.). Пар. айканьне.

ВОЙСТРЫ—острый. Узяў Яся свой войстры меч (Яноўшчына, Беш. р.). Вострым нажом рэжа дубцы (Лужасна, Куз. р.).

ВОЙТ, а, *м.*—войт, начальник. Леў вайтом над усімі зьвярамі (Прыстс., Чаш. р.).

ВОКА, *н.*—глаз. У хлопца баліць вока (Бабінічы, Віц. р.).

ВОКАЛА—вокруг, кругом. Вокала тае баравінкі жыта расьцець (Лужасна, Куз. р.).

ВОКНІШЧА, *н.*—отверстие в топком балоте, окнище. Як ўваліўся ў вокнішча! (Цяпіна, Чаш.р.).

ВОЛАВА, *н.*— 1) олово. Волава на цяпле скора распускаецца (Гарывецк, Сен. р.); 2) свинец. Умяне з волава дранкулькі (Лужасна, Куз. р.).

ВОЛАС, а, *м.*—волос. У Алены валасы на галаве падняліся (Аськершчына, Беш. р.).

ВОЛАТ, а, *м.*—богатырь, силач. Што ён камень падымае, хфокусьнік еты,—во даўней, кажуць, тут жыў волат, што бяз хфокусаў гару падымаў (Лужасна, Куз. р.).

ВОЛКА—сыро. На дварэ сёньні будзе волка спаць (Лужасна, Куз. р.).

ВОЛЬНА—медленно, плавно. Вольна пушчай, а то прарвець (Лужасна, Куз. р.).

ВОЛЬНАСЦЬ, *ж.*—свобода, вольность. Наша вольнасьць прышла (Кляшчыно, Беш. р.).

ВОЛЬНЫ—свободный. Дарога ім вольная, ён быў харошы (Гарадок, Гар. р.).

ВОМІГ, у, *м.*—горечь. Чужоя дабро вылезе яму вомігам (Беліца, Сен. р.).

ВОН, *вкл.*—вон. Пашоў вон! (Альшанікі, Беш. р.).

ВОНДЗЯ — вон там. Вондзя пашла яна (Ткачы, Аз. р.).

ВОНКАХ—на дворе, снаружи. Што ты гэта хамут вонках кінуў? (Азярэцк, Сен. р.). Лезь вонкі! (Вяжышча, Беш. р.).

ВОНПІЦЦА, *дзс*—заботиться. Ня вонпіся аба мне (Баравыя, Куз. р.).

ВОПРАМЕЦЬЦЮ—опрометью, стремглав. Ён кінуўся на яго вопрамяцьцю (Сянно, Сен. р.).

ВОПРАТКА, *ж.*—верхняя одежда. Насоў—белая даўгая вопратка (Зямковічы, Сен. р.).

ВОРАГ, а, *м.*—враг. Ён вораг ўсіх (Доўжа, Куз. р.).

ВОРАХ, у, *м.*—страх, дрожь от страха. Ажно ворах мяне бярэ (Мамойкі, Беш. р.).

ВОРАШНА—страшно. Ворашна стала ад выстралу (Бешанкавічы, Беш. р.).

ВОРЛІК, а, *м.*—бубенчик. Ворлік падобен да званочка (Заронава, Куз. р.).

ВОРС, у, *м.*, ВОРСА, *ж.*—шерсть. Кот падняў ворс, як убачыў сабаку (Луб'ева, Аз. р.). На ягнятках толькі ворса паказалася (Сукрэмна, Сен. р.).

ВОРНЫ — пахотный. Ворная зямля у нас сёлета пустуе (Сянно, Сен. р.).

ВОРЧЫК, а, *м.*—1) коромысло для запряжки в плуг лошади. Каваль пачыніў сёньня мне ворчык (Косы, Віц. р.). 2) крюк, железная часть коромысла. Ворчык зламаўся (Гарадок, Гар. р.).

**ВОРЫВА**, *н.*—пашня, поднятая первый раз. Ворава зарасло травой (Русінава, Сен. р.). Гэта ворыва араць толькі паркай (Машчоны, Сен. р.).

**ВОСАПА**, *ж.*—оса. Vespa vulgaris. Восапа ўкусіла за руку (Асіпова, Аз. р.).

**ВОСЕНСКІ**—осенний. Восенскі дзень саўсім кароткі (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВОСЕНЬ**, *ж.*—осень. Тая восень была мокрая (Доўжа, Куз. р.).

**ВОСЕНЬНЮ**—осенью. Восеньню выбіраюць бульбу (Бесьцьвена, Сен. р.).

**ВОСЕЦЬ**, *ж.*—здание, помещение в овине для сушки снопов. Нада вазіць жыта ў восіць (Мікалаёва, Куз. р.). Пар. асець.

**ВОСТРАЎ**, а, *м.*—остров. На раке ёсьць востраў (Бабінічы, Віц. р.). Пар. астроў.

**ВОСТРЫ**—острый. Я люблю востры нож у руках (Доўжа, Куз. р.).

**ВОСТУП ВОЎЧЫ**, а, *м.*—место, где живут, водятся волки. Забілі ваўка у самым воўчым воступе (Дубавое, Беш. р.).

**ВОСЬ**, *ж.*—ось. У калёсах паламалась вось. (Хацімшчына, Куз. р.).

**ВОСЬ**—вот. Вось мы й скончылі (Храпавічы, Куз. р.).

**ВОСЬНІ**, яў, *м.*—сны. Дрэнныя мне восьні сьнілісь (Лук'янова, Сен. р.).

**ВОСЬЦІ**, *ж.*—острога. Я дык васьцямі набіў рыбы (Спасская, Сір. р.). Зьбегай за восьцей (Воўкасьць, Лёз. р.).

**ВОТРУБ'Е**, *н, зб.*—1) отруби. Вотруб'ем яе кормім. (Гарадок, Гар. р.); 2) грубое льняное волокно, полученное после первой обработки льна. Нада скруціць вотруб'я (Вяжышча, Беш. р.). Пар. атрэп'е.

**ВОТРЫНА**, *ж.*—крупная мякина из колосков, соломинок и т. п. Запар карові вотрыны! (Сьвярдлы, Беш. р.).

**ВОТЧЫМ**, а, *м.*—отчим. Вотчым не бацька—не пашкадуіць (Сукрэмна, Сен. р.).

**ВОЎК**, а, *м.*—волк. Canis lupus L. Воўк бяжаў праз лес (Ісачкава, Аз. р.).

**ВОЎНА**, *ж.*—овечья шерсть. Воўну чэшуць і прядуць і, адзеўшы, у людзі йдуць (Сухарукава, Аз. р.).

**ВОЎЧАЕ ЛЫКА**—волчье лыко. Daphne mezereum L. У нашам лесе было многа воўчага лыка, (Курына, Куз. р.).

**ВОЎЧАЯ СТУПНЯ**—журавленник кровокрасный. Geranium sanquineum L. Воўчае ступні на лузе ня відаць (Лужасна, Куз. р.).

**ВОЎЧЫ**—волчий. Воўчую шкуру прадалі (Сянно, Сен. р.).

**ВОЎЧЫЯ ЯГАДЫ**—паслен черный. Solanum nigrum L. Воўчыя ягады сусім ні пахожы на воўчае лыка (Лужасна, Куз. р.).

**ВОХАЦЬ**, *дзс.*—охать, вздыхать. До табе вохаць—апрык! (Лужасна, Куз. р.).

**ВОЦАТ**, у, *м.*—уксус. Acidum aceticum. Улі воцату ў буракі (Чашнікі, Чаш. р.).

**ВОЧАП**, а, *м.*—колодезный журавль. Вочапам дастаюць ваду із калодзіся (Дубавое, Беш. р.).

**ВОШ**, *ж.*—Pediculus capitis, de Geer., P. vestimenti Burm., Phthirius inguinalis Redi. Вошы елі, ды й гнідам пірідалі (Навікі, Выс. р.).

**ВОШТА**—зачем, на что. І на вошта табе? (Пушкары, Сен. р.).

**ВУГАЛ**, а, *м.*—угол. Пакладзі гэты камень пад вугал (Машкі,

Сен. р.). Вугал асеў (Лужасна, Куз. р.).

ВУГАЛЬ, ю, *м.*—уголь. Ці ёсьць у печцы вугаль? (Жукаўшчына, Куз. р.).

ВУГАЛЬЛЕ, *н.*, *зб.*—угли. Ці заграбала ты сегодня вугальле з печы? (Міхалі, Куз. р.).

ВУГАРАК, а, *м.*—лучина. Згарэў вугарак (Лоўжа, Сір р.).

ВУДА, *ж.* — удочка. Улетку вудаю лаўлю рыбу ў Дзьвіне (Шарыпіна, Беш. р.). Во мае вудачкі: дзьве надонных, акунёвая, курмялёвая, вуклеечная (Храпавічы, Куз. р.).

ВУДАЎЁ, *н.*—удилище. Вудаўё не гбаецца—дрэнна лавіць рыбу (Доўжа, Куз. р.).

ВУЖ, а, *м.*—уж. Iropidonotus netris Zün. Дзеці злавілі вужа (Ісачкава, Аз. р.).

ВУЖАКА, *ж.*—гадюка. Vipera berus L. Вужака ляжала у пні (Новае Сяло, Беш. р.).

ВУЖОЎНІК, у, *м.*—вероника щитковая. Veronica scutellata L. Тамацькі вужоўніку многа расьцець (Лёзна, Лёз. р.).

ВУЗА, *ж.*—вощина, соты. Гэта вўза з мёдам, а тая сухая, бяз мёду (Сьвярдлы, Беш. р.).

ВУЗГАЛ, у, *м.*—изголовье постели. Повесь куртку на вузгал (Рудёўшчына, Сен. р.).

ВУЗЕЛ, а, *м.*—узел. Завяжы на канцах вузлы (Макараўка, Віц. р.).

ВУЗКІ—узкий. Цягнецца вузкая дарога—круцімся і ні даехаць (Мішкава, Куз. р.).

ВУДЗІЦЬ, *дзс.*—удить. Скора пайдзём вудзіць рыбу (Асіпова, Аз. р.).

ВУКЛЯЯ, *ж.*—уклея. Alburnus lucidus Heck. У нашым возеры ёсьць вукляя (Астроўна, Віц. р.).

ВУЛІЦА, *ж.*—улица. Скажы курыцы, а яна—усей вуліцы (Барок, Сен. р.). Ён у той вулачцы жыве (Азярэцк, Сен. р.).

ВУЛКА, *ж.*—переулок. У нашай дзярэўні многа вулак (Машчоны, Сен. р.).

ВУЛЬ, *вкл.*—зов голубей. Вуль, вуль, вуль, сізыя маі! (Веляшковічы, Лёз. р.).

ВУН, ВУНЬ, ВУНАЦЬКА, ВУНЬДЗЬЕКА—вон там. Вун ён стаіць! (Храпавічы Куз. р.). Вунацька ляжыць табак, прынясі мне (Прусаўкі, Аз. р.). Вуньдзека я яго, знайшоў. (Доўжа, Куз. р.). Вуньдзіка ходзіць (Доўгае, Беш. р.).

ВУПАР, а, *м.*—упырь Маўчыць, як вўпар (Сьвярдлы Баш. р.).

ВУРЗАЦЬ, *дзс.* — хлебать. Во вурзае—аж сінь стаў (Луб'ева, Аз. р.).

ВУРЧАЦЬ, *дзс.*—ворчать. У куце вурчыць шчанёнак. (Сянно, Сен. р.).

ВУС, а, *м.*—ус. Мама! у Андрэя ужо ёсьць вусы (Машкі, Сен. р.).

ВУСЁНАК, а, *м.*—часть «жака» (гл.), т.-е. рукав, по которому рыба входит в «жак» или «нерат» (гл.). У тваім жаку вусёнак дужа кароценькі (Спасская, Сір. р).

ВУСНА—словесно, устно. Вусна слышаў ад яго (Мішкава, Куз. р.).

ВУСНЫ, *ж.*—губы, уста. Цалаваць у вусны ня усіх можна: у каго яны хворыя (Ліпна, Сен. р.). Пар. вусьніна.

ВУСЬНІНА, *ж.*—губа. Вусьніна сьвярбіць (Кураеды, Беш. р.).

ВУТКА, *ж.*—утка. Anas boschas L. Чараз страху пераляцела вутка (Аськершчына, Беш. р.).

ВУХА, *н.*—ухо. Ён глухі на правае вуха. (Рудня, Аз. р.).

ВУЦЯНЁ, *н.* — утенок. Скора вуцяняты выведуцца (Гарывецк, Сен. р.).

ВУЦЬ, *вкл.*—зов уток. Вуць, вуць, вуць, вутачкі маі! (Веляшковічы, Лёз. р.).

ВУЦЯК, а, *м.* — селезень. Вуцяка зьеў сабака, засталася адна вутка (Гравы, Сен. р.).

ВУЧОНЫ — ученый. Ну, вы — вучоны! (Пушкары, Сен. р.).

ВУЧЫЛІШЧА, *н.* — училище, школа. Нада аддаць у вучылішча (Макарава, Віц. р.).

ВУЧЫЦЕЛКА, *ж.*—учительница. Дарагая наша вучыцелка, пазыч мне рублёўку! (Жукоўшчына, Куз. р.).

ВУЧЫЦЕЛЬ, я, *м.* — учитель. Вучыцель гаварыў з сялянамі (Дзямідавічы; Чаш р.).

ВУЧЫЦЦА, *дзс.*—учиться. Кожны павінін вучыцца дзеля палепшаньня сваей жысьці (Алексінічы, Сен. р.).

ВУШАК, а, *м.*—косяк. У вокны уставілі вушакі (Сухарукава, Аз. р.).

ВЫБАЧАЦЬ, *дзс.*—извинять, Як было, так было — нечага выбачаць (Пустыр, Сір. р.). Выбачайце, калі што ні так (Прудок, Віц. р.).

ВЫБІЦЦА, *дзс.* — выбиться, разбиться. Пярун трэснуў і балонка выбілася (Запрудзьдзе, Сен.. р.).

ВЫБІРАЦЬ, *дзс.* — выбирать, отбирать. Мы выберэм шчук (Альшанікі, Беш. р.).

ВЫБОРНЫ—отборный. Выборную бульбу продалі (Лужасна, Куз. р.).

ВЫВАРАЦІНА, ВЫВАРАЦЬ, *ж.*—вывернутое с корнем дерево. Пад вываращінусхаваўся(Казьяны, Сір. р.). Пад вываращьцю знашоў (Лужасна, Куз. р.).

ВЫВЕСКА, *ж.* — уравновешивание чашек весов. Ты зроб вывеску, а потым важ! (Альшанікі, Беш. р.).

ВЫГАБЛЯВАЦЬ, *дзс.*—выстрогать фуганком. Трэба выгаблявацъ дошку на вулей (Русінава, Сен. р.).

ВЫГАДА, *ж.* — 1) довольство, роскошь. Што яму, ён у бальшэй выгадзі жыве (Азярэцк, Сен. р.); 2) выгода. Ад гэтага яму вялікая выгада (Пятніцкая, Беш. р.).

ВЫГАДАВАЦЬ, *дзс.* — вскормить, воспитать. Выгадаваў жарабка, ды ўкралі (Лужасна, Куз. р.).

ВЫГАЛАСАВАЦЬ, *дзс.*--забаллотировать. Ён ужо не старшыня: на учарашнім сходзе выгаласавалі (Сялец, Чаш. р.).

ВЫГАЛЯЦЬ, *дзс.*—выпучивать (глаза). Не выгаляй глазы на чужое (Луб'ева, Аз. р.).

ВЫГАН, у, *м.*—выгон, участок около деревни, куда выгоняют скот. Бяжы на выган и прывядзі каня (Мядоўка, Беш. р.).

ВЫГАНЯЦЬ, *дзс.*—выгонять, выпускать на пастбище. Ты будзеш выганяць коні ў выган (Стрэлкі, Беш. р.).

ВЫГАРДЗЬ, *ж.*—огороженный участок. Цяляты ў выгарадзі (Мядоўка, Беш. р.).

ВЫГАРАЦЬ, *дзс.* —1) сгарать, выгорать. Выгарэла ўсё мястэчка (Дабрамысьль, Лёз. р.); 2) удаваться (о деле). Выгарэла наша справа (Шаркі, Куз. р.).

ВЫГАРКА, *ж.*—1) выгоревшее место наполненное водой. У лясу ёсьц бальшая выгарка (Сянно, Сен. р.). Мачы лён у выгары (Максімава, Куз. р.). Каровы напілісь у вігарцы (Лазаватка, Сур. р.); 2) выкапанный прудок близ

дома. Вуткі пялёхаюцца ў выгарцы за хатай (Старына, Беш. р.).

**ВЫГАРНУЦЬ**, *дзс.* — выгрести. Выгарні жар з печы (Азярэцк, Сен. р.).

**ВЫГБАЦЬ**, *дзс.*—выгнуть. Выгбаў харошэй лук (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫГЛЯД**, у, *м.*—наружность. Плахей яе выгляд (Сянно, Сен. р).

**ВЫГЛЯДАЦЬ**, *дзс.*—высматривать. Мальцы выглядаюць, дзе дзеўкі (Гарадок, Гар. р.).

**ВЫГЛЯДЗІНЫ**, *ж.* — смотрины. Жаніх паехаў ў выглядзіны (Ст. Беліца, Сен. р.).

**ВЫГРАБАЦЬ, ВЫГРАБЦІ**, *дзс.* —выгребать, выгресть. З печы выграблі попел (Краснае Сяло, Сен. р.)

**ВЫГУКАЦЬ**, *дзс.* — вызывать. Ідзі выгукаць людзей на сход (Госьміра, Сен. р.).

**ВЫДАЛЯЦЬ, ВЫДАЛІЦЬ**, *дзс.* — удалять, удалить. Выдаль вэжгар з хаты (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫДАТАК**, у, *м.*—выдача, расход. На выдатак капейкі няма (Сянно, Сен. р.).

**ВЫДАТНЫ**—выдающийся. Го! мой канёк выдатны (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫДАЧА**, *ж.*—сдача, Ці дасі ты мне выдачы з пяцёркі (Гарадок, Гар. р.).

**ВЫДЛЫЖ** — 1) вдоль. Мер разы ня ўпоперак, а выдлыж дарогі (Абрэзкава, Сен. р.); 2) сверх меры. Выдлыж меры і бульбы есьці ня можна, пуза не зварыць (Ліпна, Сен. р.).

**ВЫДУМЛЯЦЬ**, *дзс.*--выдумывать. Выдумляе непатрэбнае (Цярбяшова, Куз. р.).

**ВЫДУШАНЫ** — выдохшийся. Выдушаны ён прышоў да хаты (Дзямідавічы, Чаш. р.).

**ВЫЕНЧЫЦЬ**, *дзс.* — вымучить, вымолить. Сымон, ходзячы да старшыні, выенчыў сабе кусок зямлі (Машкі, Сен. р.).

**ВЫЕСЬЦІ**, *дзс.*—выесть, с'есть. Няхай табе крук вочы выесьць! (Краснае Сяло, Сен. р.). Прышлося выясьці усё (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЖАЛ**, а *м.*—гончая собака. Ад гэтага выжлы нічога не схаваеш (Сукрэмна, Сен. р.).

**ВЫЖАЎЦІЦЬ**, *дзс.* — окрасить желтой краской. Выжаўціў бяду і зусім няпрыгожа ў людзі ехаць (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЖЫВАЦЬ, ВЫЖЫЦЬ**, *дзс.*— оставаться, остаться живым. Так пабілі, што чуць выжыў (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЗВАЛЯЦЬ, ВЫЗВАЛІЦЬ**, *дзс.* —освобождать, освободить; выручать. Трэба яго вызваліць (Кузьміно, Сен. р.).

**ВЫЗЛАЧАЦЬ, ВЫЗЛАЦІЦЬ**, *дзс.* —золотить, вызолотить. Вызлаціў ложкі ўчора ў Віцебску (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫДЗЕР**, а, *м.*—жир от внутренностей. Па чом прадаецё выдзер? (Балдыкова, Аз. р.).

**ВЫДЗІМАЦЬ**, *дзс.* — выдувать. Выдзьмі агонь, а то у хаце нічога ня відна (Міхалі, Куз. р.).

**ВЫДЗІРАЦЬ, ВЫДРАЦЬ**, *дзс.*— 1) вырывать, вырвать; вытаскивать. З гэтай багны кожны дзень трэба выдзіраць коні (Азярэцк, Сен. р.); 2) лечить шептаньем. Як выдралі яму сьцень, дык ён тады й палепшаў (Вейна, Сен. р.).

**ВЫЙМАЦЬ**, *дзс.* — вынимать. Выймай, дачушка, чугун з печы (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВЫЙЦІ**, *дзс.*—1) выйти. Выйдзі на вуліцу і паглядзі, што робіцца (Сен. р.); 2) выйти в смысле израсходоваться. Вышла яшная мякіна (Нов. Сяло, Беш. р.).

**ВЫКАЗКА**, *ж.*—выдача, донос. Каб ні яго выказка—нічога-б ня было (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКАЗВАЦЦА**, *дзс.*—высказываться. Я ня буду выказвацца (Гарадок, Гар. р.).

**ВЫКАЛАЦІЦЬ**, *дзс.*—вытрясть. Снапы выкалацілі добра (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКАНАЦЬ**, *дзс.*—исполнить. Раз абяцаў, дык выканаець—недзе дзенецца (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКАПАЦЬ**, *дзс.* — вырыть. Выкапай на агародзе яму (Оўсішча, Сен. р.).

**ВЫКАРХІВАЦЬ**, *дзс.*—откашливать. Выкархівай хутчэй—лягчэй будзець (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКАСАВАЦЬ**, *дзс.*—вычеркнуть. Выкасуйце, яго, бо ён хворы і ня будзе хадзіць (Стаішча, Чаш. р.).

**ВЫКАЦІЦЦА**, *дзс.*—1) выкатиться. Завязаўся ў мех ды выкаціўся (Лужасна, Куз. р.); 2) вывестись. Сядзела курыца ладна, а выкацілася усяго толькі чатыры пісклёнкі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**ВЫКІДАЦЬ**, **ВЫКІНУЦЬ**, *дзс.*—выбрасывать, выбросить. Выкінь толькі, тады дам табе! (Доўжа, Куз. р.).

**ВЫКІДЫШ**, а, *м.* — выкидыш, аборт. Жанчына зробіла выкідыш (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЫКЛАДАЦЬ**, *дзс.*—1) преподавать, учить. А еты прысадзісты, выкладаець нешта ў іх там, у школе (Лужасна, Куз. р.); 2) выкладывать. Выкладай быстранак з торбы (Храпавічы, Куз. р.).

**ВЫКЛІНАЦЬ**, *дзс.*—проклинать. Як пачала яна выклінаць свайго мужыка, дык аж сумна слухаць (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКРАДАЦЬ**, **ВЫКРАСЬЦІ**, *дзс.*—выкрадывать, выкрасть. Так яны увесь авёс у мяне і выкралі (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫКРУНТАС**, а, *м.*—кривуль. Дарога ідзе выкрунтасам (Тараскі, Чаш. р.).

**ВЫКУПКА**, *ж.* — выкуп (действие). Пакуль ён робіў выкупку—грошы ў яго і ўкралі (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЛАЗІЦЬ**, **ВЫЛЕЗЬЦІ**, *дзс.*—вылезаць, вылезть. Каб з цябе вантроб'я вылезла! (Каменка, Сен. р.).

**ВЫЛАЯЦЬ**, *дзс.*—выругать. За гэта яго трэба вылаяць (Дзярэўня, Чаш. р.).

**ВЫЛЕГЧАЦЬ**, *дзс.* — выхолостить. Жарабка вылегчаў—не на чым пакуль што і ехаць (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЛЕЧВАЦЬ**, *дзс.*—вылечивать. Ён вылечвае ад усіх хвароб і нават ад рожы, трасцы (Шаркі, Куз. р.).

**ВЫЛІЦЬ**, *дзс.* — вылить. Вылі ваду ў начоўкі (Красьніца, Чаш. р.).

**ВЫЛІЧЫЦЬ**, *дзс.* — высчитать. Выліч колькі я табе доўжэн (Доўжа, Куз. р.).

**ВЫЛУПАК**, а, *м.*—франт. Ах ты, вылупак бяздушны! (Луб'ева, Аз. р.).

**ВЫЛУПКА**, *ж.* — франтиха. Адзелася, як вылупка якая (Сухарукова, Аз. р.).

**ВЫЛУПЛІВАЦЦА**, *дзс.*—1) вылупливаться, вылезать из скорлупы. Вуцяняты ўжо вылупіліся (Лужасна, Куз. р.); 2) наряжаться. Вылупіцца заўзёгды, як куды ісьці (Гравы, Сен. р.).

**ВЫЛУШЧЫЦЬ**, *дзс.* — вылущить. Мы вылушчылі ўвесь боб (Сянно, Сен. р.).

**ВЫМАВІЦЬ**, *дзс.*—выговорить. Ляжыць—ня можа слова вымавіць (Раманаўка, Сен. р.).

**ВЫМАГАЦЬ**, *дзс.* — вымогать, требовать. Усё вымагаіць і вы-

магаіць, а скуль узяць? (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫ**МАЛЯВАЦЬ, *дзс.* — выкрасить. Добра вымалявалі ніз (Лужасна, Куз. р ).

**ВЫ**МАНТАЧЫЦЬ, *дзс.* — выпросить, вымолить. Вымантачыў асьміну жыта (Гарадок, Гар. р.).

**ВЫ**МАЦАЦЬ, *дзс.*—выщупать. Спаў, а з карману 10 руб. і вымацалі (Лужасна, Куз. р.).

ВЫМ**А**ЦЬ, *дзс.* — вынимать. Трэба вымаць хлеб з печы (Сялец, Чаш. р.).

**ВЫ**МЕРХАЦЦА, *дзс.*—сильно проголодаться. Вымерхаўся, аж жывот уцягнуўся (Ст. Беліца, Сен. р.).

ВЫМ**О**ВА, *ж.*--выговор, акцент. Анцірэсная ў іх там вымова—усё цокаюць! (Сянно, Сен. р.).

ВЫМУШ**А**ЦЬ, **ВЫ**МУСІЦЬ, *дзс.* —вынуждать, вынудить. Вымусілі мяне зробіць ета (Лятоўшчына, Куз. р.).

**ВЫ**МЯ, *н.*—вымя. Ах, у Паўкінай каровы бальшоя вымя (Аськершчына, Беш. р.).

**ВЫ**ПАКЛАДАЦЬ, *дзс.*—выхолостить. Ён добра выпакладаў парсючкоў(Бешанкавічы, Беш.р.).

**ВЫ**ПАЛІЦЬ, *дзс.*—1) истопить печь. Сягодня трэба выпаліць тры печы (Хотліна, Чаш. р.); 2) выстрелить. Прыцэліўся й выпаліў (Пяцігарск, Беш. р.).

ВЫП**А**РЫВАЦЬ, **ВЫ**ПАРЫЦЬ, *дзс.*—1)выпаривать, выпарить; отпаривать. Жбанкі выпарываюць дзятлінай (Сьвярдлы, Беш. р.); 2) выпаривать, пороть. Выпары рукавы з гэтай ватоўкі (Кузьміно, Сен. р.).

ВЫПАЎЗАЦЬ, **ВЫ**ПАЎЗЬЦІ, *дзс.* —выползать, выползть. З пад калоды ён выпаўз (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫ**ПАЎЗЕНЬ, я, *м.*—змеёныш. Каб з цябе, выпаўзень, дух вон! (Ст. Беліца, Сен. р.).

**ВЫ**ПЕРАДКІ, *ж.*--бег взапуски, соревнование. Ідзі цішэй—гэта-ж ня ў выперадкі мы с табой гуляем! (Азярэцк, Сен. р.).

**ВЫ**ПІЦЬ, *дзс.* — выпить. Мы выпілі па адным келіху (Краснае Сяло, Сен. р.).

**ВЫ**ПРАБАВАЦЬ, *дзс.* — испытать, испробовать. Выпрабавалі коніка (Пустыр, Сір. р.).

**ВЫ**ПРАВІЦЬ, *дзс.*—выправить, отправить. Мяне аднога выправілі (Падсады, Сір. р.).

**ВЫ**ПРАСТАЦЬ, *дзс.*—1) выпрямить. Ці скора ты мяне выпрастаеш? (Лужазна, Куз. р.); 2) освободить. Выпрастай мне маю пасуду (Асіпова, Аз. р.).

**ВЫ**ПРАТАЦЬ, *дзс.*--вычистить, вымыть. Трэба выпратаць гэту комнату (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫ**ПРАЦАВАЦЬ, *дзс.*—выработать, заработать. Рублёў з 20 выпрацую на ганкох (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫ**ПРУЦІЦЦА, *дзс.* — вытянуться. Каб ты выпруціўся, гад! (Жукаўшчына, Куз. р.).

**ВЫ**ПХНУЦЬ, *дзс.*—вытолкать. Выпхнулі яго за дзверы ды ўсё (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫ**ПЫТАЦЬ, *дзс.*--выспросить, узнать. Нічога ў яго ня выпыталі (Мікалаёва, Куз. р.).

ВЫРАБЛ**Я**ЦЬ, *дзс.*--выделывать. У Сяньне вырабляюць аўчынкі (Расна, Сен. р.).

**ВЫ**РАДАК, а, *м.*—урод, выродок. Вырадак ён, а не чаловек звычайны(Пятніцкая, Беш.р.).

ВЫРАЖ**А**ЦЦА, *дзс.* — выражатьса, ругаться. Ён выражаіцца (Балдыкова, Аз. р.).

**ВЫРАЗАЦЬ**, *дзс.*—вырезывать. Я выразаў лоўкі дубец (Асінаўка, Беш. р.).

**ВЫРАЗНА**—отчетливо, выразительно. Кажы выразна, ні гамзай (Расна, Сен. р.).

**ВЫРАЙ**, ю, *м.*—юг, куда птицы улетают зимовать. Ужо птушкі з выраю лятуць (Астроўна, Віц. р.).

**ВЫРАКАЦЦА**, *дзс.*—отрекаться. Яна выраклася ўсяе свае радні (Марчонкі, Сур. р.).

**ВЫРАСТАЦЬ, ВЫРАСЬЦІ**, *дзс.*—вырастать, вырость. Ніхай-тку ён вырасьціць (Яноўшчына, Беш. р.).

**ВЫРАТАВАЦЬ**, *дзс.* — спасти от опасности. Чуць выратавалі яе з пажару (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**ВЫРЫВАЦЬ, ВЫРВАЦЬ**, *дзс.*—выривать, вырвать. Дзеўкі! хто вырваў тамацька дубчык? (Чараўкі, Сен. р.).

**ВЫСАДКІ**, *ж.*—семенные огородные овощи. Мае высадкі сёліта прапалі (Халамер'е, Аз. р.).

**ВЫСАДЗІЦЬ**, *дзс.*—1) высадить. Высадзілі ўсю дарогу бярозкамі (Лужасна, Куз. р.); 2) выбить. Высадзіў балонку ў вакне (Расна, Сен. р.)

**ВЫСАЧЫНЯ**, *ж.*—высота, вышина. У горадзі дамы бальшыя, а высычыня такая, што шапка з галавы ляціць (Рыбчына, Сір. р.).

**ВЫСЕЛІЦЬ**, *дзс.*—перевести на жительство в другое место, выселить. Іх скарэй нада выселіць (Храпавічы, Куз. р.).

**ВЫСЕРБАЦЬ**, *дзс.*—выхлебать. Ён высербаў крупеню (Зямковічы, Сен. р.).

**ВЫСЕЎКІ**, *ж.*—отруби. Высеўкі ты ня кідай (Храпавічы, Куз. р.).

**ВЫСЕЧ**, *дзс.*—вырубить. Мох высеклі—перавядуцца цяпер і птушачкі нашы (Яноўшчына, Беш. р.).

**ВЫСІЛЕНЫ**—истощенный. Зусім высіленыя хлопцы ў вас (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫСІЛЯЦЦА**, *дзс.*—брать сверх сил, истощаться в силе. Высіляецца дарма над гэтаю касьбою (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫСКАЛІЦЬ**, *дзс.* — оскалить. Выскаліў зубы, як зьвер (Ульлянавічы, Сен. р.).

**ВЫСКАРКІ**, аў, *ж.*—внутреннее топленое сало. Выскаркамі запраў кашу (Віраўляны, Гар. р.).

**ВЫСЛАНЕЦ**, а, *м.*—ссыльный. Тады ўсе высланцы вярнуліся (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫСМАЖАНЫ**—выжаренный. Высмажаная і бараніна нясмашная (Буднікі, Беш. р.).

**ВЫСМАКАВАЦЬ**, *дзс.*—выбрать по вкусу. Высмакаваў жа сабе, абязурнік, яблынку (Горбава, Лёз. р.).

**ВЫСМАКТАЦЬ**, *дзс.*—высосать. Усё высмактаў і мне не пакінуў (Азярэцк, Сен. р.). Высмыктыў ты зь міне ўсё! (Навікі, Віц. р.).

**ВЫСМАРГНУЦЬ**, *дзс.*—выдернуть. Высмаргні гэту травіцу (Астроўна, Віц. р.).

**ВЫСЫПАЦЦА**, *дзс.*—1) высыпаться. Жыта з меха высыпалася (Забор'е, Сен. р.); 2) колоситься. Жыта дзьве нядзелі высыпаецца (Сукрэмна, Сен. р.).

**ВЫТАБАНІЦЬ**, *дзс.* — выпросить. Ён вытабаніць пасьледні грош (Лук'янова, Сен. р.).

**ВЫТАЧКІ**, *ж.*—отруби. У муцэ шмат вытачак (Янкі, Беш. р.). Пар. высеўкі.

**ВЫТВАРАЦЬ**, *дзс.* — шалить, выдумывать. Ты толькі вытвараеш (Стрэлкі, Беш. р.).

**ВЫТКАЦЬ**, *дзс.* — выткать, соткать. Я выткала сабе новы андрак (Зямковічы, Сен. р.).

**ВЫТОРКІВАЦЬ**, *дзс.*—высовывать. Хуць носа з хаты ня высоркавай (Пяцігарск, Беш. р.).

**ВЫТРАБАВАЦЬ**, *дзс.* — истребовать, исходатайствовать. Нада вытрабаваць пашпарт (Красьніца, Чаш. р.).

**ВЫТРУБІЦЬ**, *дзс.*—жадно с'есть. Два гарлачы малака вытрубіў (Марчонкі, Сур. р.).

**ВЫТРЫБЕНЬКІ**, *ж.*—капризы. На вытрыбенькі ён маладзец— толькі патрапляй яму (Шаркі, Куз. р.).

**ВЫТРЫВАЦЬ**, *дзс.*—вытерпеть. Нельга вытрываць гэтай болі (Кр. Сяло, Беш. р.).

**ВЫТРЫМАЦЬ**, *дзс.* — выдержать. Ня вытрымаў усёткі да канца (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**ВЫТУРЫЦЬ**, *дзс.* — выгнать. Бацька яго вытурыць з двору (Пустынкі, Сен. р.).

**ВЫТУРХНУЦЬ**, *дзс.*—вытолкнуть. У серцы ён яго вытурхнуў вон (Пятніцкая, Беш. р.).

**ВЫТХНУЦЦА**, *дзс.* — выдохнуться. Заткні бутэльку, а то гарэлка вытхнецца (Пустынкі, Сен. р.).

**ВЫТЫНКАВАЦЬ**, *дзс.*—оштукатурить. Хата вытанкавана (Чарнагосьці, Беш. р.).

**ВЫХАВАНЕЦ**, а, *м.* — воспитанник. У мяне выхаванец (Балдыкова, Аз. р.).

**ВЫХАВАНКА**, *ж.*—воспитанница. Гэта мая выхаванка (Балдыкова, Аз. р.).

**ВЫХАВАЦЬ**, *дзс.*—воспитать. Баба яго выхавала (Доўгае, Беш. р.).

**ВЫХАДЫ**, оў, *м.* — внутренности. Каб табе выхады вон! (Луб'ева, Аз. р.).

**ВЫХАДЗІЦЦА**, *дзс.* — выздороветь. Ён з гэтай хваробы чуць выхадзіўся (Зямковічы, Сен. р.).

**ВЫХАДЗІЦЬ**, *дзс.*—добиться, выходить. Хадзіў тры дні, а выхадзіў злыдні (Ст. Беліца, Сен. р.).

**ВЫХАПЛЕНЫ** — выхваченный. Ці надоўга хопіць выхапленага з пажару? (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**ВЫХАРТАЦЦА**, *дзс.* — проголодаться. Сёньні выхыртыўся— чуць жыву (Гарадок, Гар. р.).

**ВЫХВАЛЯЦЦА**, *дзс.* — похваляться. І чым ён выхваляецца? (Амільянова, Лёз. р.).

**ВЫХВАРЭЦЬ**, *дзс.*—выболеть. Выхварэе ён чужое дабро! (Калышкі, Лёз. р.).

**ВЫЦЕРАБЛЕНЫ** — расчищенный. На выцерабленым добра расьцець (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЫЦІНАЦЬ**, *дзс.*—изощряться в игре, пении и т. п., заливаться, отчеканивать. Послухай, як ён выцінаіць на йскрыпачцы. Птушка так і выцінаіць (Сьвярдлы, Беш. р.).

**ВЫЦІРАК**, а, *м.*—тряпка, мочалка, которою вытирается грязь, нечистота. Вынясі выцірак—гідка глядзець (Дубнікі, Сен. р.).

**ВЫЦІРАЦЬ**, *дзс.* — вытирать. Ідзі выцяры абраз (Семянцова, Беш. р.).

**ВЫЦЫРКАЦЬ**, *дзс.*—выдоить. Ідзіце малако браць—ужо кароў выцыркалі (Лужасна, Куз. р.).

**ВЫЦЬ**, *дзс.* — выть. Ляціць выць, сядзіць рыіць (Алексінічы, Сен. р.).

**ВЫЦЯГНУЦЦА**, *дзс.* — вытянуться, умереть. Каб ты выцягнуўся! (Зямковічы, Сен. р.).

**ВЫЦЯРЭБЛІВАЦЬ**, *дзс.*—вырубать, расчищать. Гэты надзел будзем выцярэблівацъ (Чарнагосьці, Беш. р.).

**ВЫЦЯЎЛЯЦЬ**, *дзс.* — выделывать (шалить). Что яны там толькі ні выцяўлялі! (Мікалаёва, Куз. р.).

**ВЫЦЯЦЬ**, *дзс.* — ударить. За што-ж ён мяне выцяў? (Беліца, Сен. р.).

**ВЫЧАСАВАЦЬ**, *дзс.*--выждать. Вычасавалі ткі сваю чаргу (Лужасна, Куз. р.)

**ВЫЧАСАЦЬ**, *дзс.* — вытесать. Вычасаў сабе зьдзесь балькі (Лятоўшчына, Куз. р.).

**ВЫШАЙ** — выше. Вышый ня лезь—скінешся (Гайдукі, Сур. р.).

**ВЫШЭЎКА**, *ж.*—вышивка, вышивание. Каўнер сарочкі пакрыт вышэўкамі (Дзямідавічы, Чаш. р.).

**ВЫШЭЦЬ**, *дзс.* — становиться выше. Наш топіль усё вышэіць (Карма, Куз. р.).

**ВЫШКІ**, *ж.*—чердак. Я палезу на вышкі (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ВЫШМУЛЬЦАВАНЫ**,—вытертый, лоснящийся, запятнанный. Ён дужа вышмульцаваны (Беліца, Сен. р.).

**ВЫШЧАРЫЦЬ**, *дзс.*--оскалить. Сабака вышчарыла зубы (Кузьміно, Сен. р.).

**ВЫШЫКАЦЦА**, *дзс.* — понемножку высыпаться. Мяшок з мукой ужо вышыкаўся (Беліца, Сен. р.).

**ВЯДОМА**—известно. Мне гэта старана добра вядома (Татаркі, Сір. р.).

**ВЯДОМЫ**—известный. Вядомы лік яго—ня хопіць (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЯДРО**, *н.* — ведро. Прынясі вядро вады (Ісачкава, Аз. р.).

**ВЯЗ**, а, *м.*—перекладина в санях соединяющая «капылы» (гл.) полозьев. Вяз новы нада зробіць (Марчонкі, Сур р.).

**ВЯЗАЦЦА**, *дзс.* — вязаться, лезть. Чаго ета ён ка мне вяжыцца? (Міхалі, Куз. р.).

**ВЯЗАЦЬ**, *дзс*--вязать. Яна ўжо ладна вязець карункі (Зямковічы, Сен. р.).

**ВЯЗЁНКА**, *ж.* — вязаный платок. Надзень вязёнку, бо сягодня вецер вялікі (Забор'е, Сен. р.).

**ВЯЗІНА**, *ж.*—вяз. Ulmus effusa Villd, U. compestris L. Вязіна на адскоцы расьцець (Лужасна, Куз. р.).

**ВЯЗКА**, *ж.* — связка чистого льна. Я начысьціла пяць вязак лёну (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЯЗЬ**, *ж.*--1) связь. Снапы маей вязі крэпкія (Лужасна, Куз. р.); 2) вязкое болото. Мінай вязь, а то ня выедзеш (Госьміра Сен. р.).

**ВЯЗЬМО**, *н.*—жгут из соломы, для связки снопов и других предметов. Вязьмо парвалася і сноп рассыпаўся (Александрова, Гар. р.).

**ВЯЗЬЦІ**, *дзс.* — везти. Вязець табе, як уопленьніку (Шыпы, Сен. р.). Вязе бярно (Лужасна, Куз. р.).

**ВЯДЗЕЦЦА**, *дзс.*--ведется, принято. У нас так ужо вядзецца (Селядцова, Беш. р.).

**ВЯДЗЬМАК**, а, *м.* — колдун. Страшна гаварыць з ведзьмаком (Лучкі, Віц. р.).

**ВЯКАЦЬ**, *дзс.*—повторять, издавать звук «вяк». Ат, ты толькі вякаешь адно і тожа (Гравы, Сен. р.).

**ВЯЛІКДЗЕНЬ**, я, *м.*, **ВЯЛІКАДНЕ**, *н.*—Пасха. Ваша Вялікадне прыпала з нашым, але-ж у нас, з флакамі, людзей больш (Вядрэнь, Чаш. р.). Вялікдзень ідзець—нечага адзець (Бароўка, Сен. р.).

**ВЯЛІКІ**—большой. Вялікі горад Віцебск (Бабінічы, Віц. р.).

**ВЯЛІКОДНЫ**,—пасхальный. У вялікодны дзень грымеў гром (Доўгае, Беш. р).

**ВЯЛЬМАВАЦЬ**, *дзс.*—угощать. Мар'я вяльмуіць свайго брата (Мамойкі, Беш. р.).

**ВЯНЕЦ**, а, *м.*—1) четыре бревна врубленные концами одно в другое в виде сруба. Мая хата на 12 вянцоў (Навікі, Віц. р.);

2) венчание. Пойдзем глідзець вянцы ў Любашкова (Навікі, Віц. р.); 3) берег, край. Наша рака вышла ўжо з вянцоў (Шуміліна, Сір. р.).

ВЯНОК, а, *м.*—1) венок. Вянкоў наплялі (Лужасна, Куз. р); 2) девичья вечеринка. Сягодня будзіць вянок (Папкі, Чаш. р.).

ВЯНУЦЬ, *дзс.*— вянуть. Шчука суніць, а лес вяніць, на тым месьце горад станіць (Каса, трава, копна) (Бешанкавічы, Беш. р.).

ВЯРБА, ВЯРБІНА, *ж.* — ива. Salix (розныя віды). Ці садзіў ты вярбу лі канавы? (Пустыр, Сір. р.). Ужо наша вярбіна распусьцілась (Хмяльнік, Беш. р.).

ВЯРГІНЯ, *ж.*—георгина. Dahlia variabilis Desf. Вяргіня ня цьвіце яшчэ (Кабішча, Куз. р.).

ВЯРЭДНІК, у, *м.* — истод. Poligala comosa Schkurr. Вярэднікам прыкладзі, нарваўшы ў іх там (Берасьні, Беш. р.).

ВЯРЗЬЦІ, *дзс.*--говорить вздор. Як п'яны, дык ён вярзець абы што (Аськершчына, Беш. р.).

ВЯРНУЦЬ, *дзс.* — 1) вернуть, возвратить. Яго нада вярнуць з дарогі (Пустынкі, Сен. р.); 2) поворачивать. Кожны сам сабе мякішам вернець (Гарадок, Гар. р.).

ВЯРОЎКА, *ж.*--веревка. Спляці вяроўку (Раіны, Аз. р.).

ВЯРХОВУШКА, *ж.* — вид линейки. Паедзем на верховушке (Берашоўцы, Беш. р.).

ВЯРХОЎЕ, *н.* — первый очес льна. Наста прала вярхоўе (Чарнагосьці, Беш. р.).

ВЯРХОЎНЫ — сотканный из первых очесов льна. Падумаць! вярхоўную рубаху носіць (Рыбчына, Сір. р.).

ВЯРХОЧЫСЬЦЕ, *н.* — третий очес льна. Напрала вярхочысьця на мяшкі (Веляшковічы, Лёз. р.).

ВЯРЦЕЦЦА, *дзс.*—вертеться. Вярцеўся як мельнічны жарноў (Пушкары, Сен. р.).

ВЯРШНЯК, а, *м.* — верхний косяк окна. Вершняк у вокнах яшчо цэл (Лятоўшчына, Куз. р.).

ВЯРШОК, а, *м.*—вершок. Сем вяршкоў ня хопіць (Марчонкі, Сур. р.).

ВЯРШЫНКІ, ВЯРШЫНЫ, *ж.*— сливки. На малацэ вяршынкі няма (Доўгае, Беш. р.).

ВЯСЕЛЬЛЕ, *н.*—свадьба. Пайдзем на вясельле (Мясаеды, Беш. р.). На вясельлійка пазвалі, чарачкі гарэлкі не далі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ВЯСЁЛКА, *ж.*--радуга. Вясёлка паказалась на небе (Ісачкава, Аз. р.). Пар. асёлка.

ВЯСЛО, *н.*—связка. Два вяслы лык купіў. Вясло баранкаў парвалася (Астроўна, Віц. р.).

ВЯСНА, *ж.*—весна. Вісна красна цьветамі, а восень снапамі (Барок, Сен. р.).

ВЯСНУШКІ, *ж.*—клюква (весенний сбор). Набрала цэлую набірку вяснушак (Максімава, Куз. р.).

ВЯСЬЦІ, *дзс.*—вести, тянуть. Я гэта не люблю, як другі вядзець, вядзець—хто знаіць што (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ВЯТРАК, а, *м.* — ветряная мельніца. Згарэў учора вятрак (Нямойта, Сен. р.). Пар. ветраніца.

ВЯХА, *ж.* — цикута. Cicuta virosa L. Карова зьела вяхі і здохла (Ульлянавічы, Сен. р.).

ВЯХОТКА, *ж.*—ветошка. Вяхоткай мыюць пасуду (Дзямідовічы, Чаш. р.). Пар. вехаць.

ВЯЧЭР, а, *м.*, ВЯЧЭРА, *ж.*— ужин. Вячэр гатоў (Новае Сяло,

Беш. р.). Матка дала нам на вячэру малака й бліноў (Санікі, Беш. р.).

ВЯЧЭРАЦЬ, *дзс.* — ужинать. Ідзіце вячэраць (Рудня, Аз. р.). Ідзі вічэріць (Мазалава, Куз. р.).

ВЯЧЭРНІКІ, аў, *м.*—гости невесты едущие к жениху, вечерний поезд гостей невесты. Вячэрнікі ехалі й гойкалі (Асінаўка, Беш. р.).

ВЯЧЭРНІЦА, *ж.*—вечерняя звезда, Венера. Вячэрніца ужо паказалась на небе (Вейна, Сен. р.).

ВЯЧОРКА, *ж.*—вечарынка. У таяваскрэсеньне будзіць вячорка (Учанавічы, Віц. р.).

ВЯЧНІНА, *ж.*—1) недвижимое имущество, вечное владение. Вячніну прадаў і зьнік (Пустыр, Сір. р.); 2) долговечность, Гэты дом--вячніна (Гарадок. Гар. р.).

# Г.

ГА, *вкл.*—1) отклик. Га! што ты хочашь? (Амбросавічы, Сір. р.); Пар. а; 2) вопрос. Чаго ты захадзіўся, га? (Бяскатава, Гар. р.).

ГАБЁЛАК, ГАБЭЛЬЧЫК, а, *м.*—рубанок. Габёлак у майсьцера усёгды войстры (Гарывецк, Сен. р.). Дошкі габлююць габэльчыкам (Павульле, Чаш. р.).

ГАБЛЮШОК, а, *м.*, ГАБЛЮШКА, *ж.*—шархебель, вид рубанка. Пазыч габлюшка пачысьціць дошку (Оўсішча, Сен. р.). Габлюшкай габлююць дошкі. (Вішкавічы, Чаш. р.).

ГАБЛЯВАЦЬ, *дзс.*—строгать, чистить доску рубанком. Мой брат зьбіраецца габляваць дошкі на лаўку (Оўсішча, Сен. р.).

ГАВАРКІ--словоохотливый. Гаваркі наш начальнік (Касачы, Лёз. р.).

ГАВАРУШКА, *ж.*—опенок, растущий на гниющих пнях. Agaricus mutabilis Schäff. На пні многа гаварушак (Сідоры, Меж. р.).

ГАВАРЫЦЬ, *дзс.*—1) говорить. Гаварыць то ён умее добра (Ісачкава, Аз. р.). Што яна гаворыць? (Мікалаёва, Куз. р.). Яму гаворуць, а ён ні за што (Яноўшчына, Беш. р.); 2) разговаривать. Мне некалі, любая, гаварыць (Гарадок, Гар. р.).

ГАВЭНДА, *ж.*—пустой, бессодержательный разговор. Кінь ты разводзіць свае гавэнды! (Ст. Беліца, Сен. р.).

ГАВОРКА, *ж.*— 1) беседа, речь. На вашу гаворку плюнуць толькі. Прываліcь ты са сваей гаворкай (Навікі, Сен. р.); 2) говор. Туташняя гаворка ня тая што у нас (Шыркі, Куз. р.).

ГАВЯДЗІНА, *ж.*—говяжье мясо, говядина. На вячэрю булён з гывядзінай (Кавалёўшчына, Беш. р.).

ГАГАЦЬ, *дзс.*—гоготать. Гусі ўжо даўно гагаюць—выпушчай іх у поле (Добрамысьль, Лёз. р.).

ГАД, а, *м.*—1) змей. Гада забілі ў лесе (Выдрэя, Выс. р.); 2) злой, дурной человек. Во, гад хітры! Гэтаму гаду да ўлажываць! (Мікалаёва, Куз. р.).

ГАДАВАНЕЦ, ГАДАВАНЬНІК, а, *м.*—питомец, воспитанник. Гадаванец наш харош (Мішкава, Куз. р.). Ета мой гыдаваньнік: з трёх гадоў гадую (Навікі, Віц. р.).

ГАДАВАНЬНЕ, *н.*—ГАДОЎЛЯ, *ж.*—вскармливание. Добрага гадаваньня другадзічка (Мядзелева, Куз. р.). Гадоўлей сьвіньней зарабляў (Падлазьнікі, Куз. р.),

**ГАДАВАЦЦА**, *дзс.*—выкармливаться. Сёлета ў нас гадуецца добрая цёлка (Пустынкі, Сен. р.).

**ГАДАВАЦЬ**, *дзс.*—воспитывать, выкармливаць. Мы яго гадавалі, а ён нас пакінуў (Лук'янова, Сен. р.). Я бярусь гыдаваць рябёнка ды высімнаццаці гадоў. Будзім гыдаваць абаіх цёлак (Навікі, Віц. р.).

**ГАДАЛКА**, *ж.*—гадалка, гадальщица. Мне так сказала гадалка (Баравыя, Куз. р.).

**ГАДАНЬНЕ**, *н.* — 1) гадание. Дзяўчаты гаданьне распачалі, а хлопцы туды! (Падлазьнікі, Куз. р.); 2) молва, слух. Пра яго ўжо такое гаданьне йдзе, што ён бабздыр (Дварэцк, Чаш. р.).

**ГАДАСНЫ** — отвратительный. За гэту гадасную работу ніхто ня возьмецца (Лужасна, Куз. р.). Пар. гідкі.

**ГАДАСЬЦЬ**, *ж.*—подлость, гадость. Якую ён зрабіў гадасьць! (Гародна, Віц. р.). Пар. гідасьць.

**ГАДАЦЬ**, *дзс.* — гадать. Чаго йдзеш да яе—ня ўмее яна гадаць! (Лужасна, Куз. р.); 2) думать, иметь намерение. Гадаў, што так будзе, ажно ня вышла (Косьцьева, Выс. р.).

**ГАДКА**, *ж.*—1) молва, разговор. Хто ету гадку пра маю дачку пусьціў? (Асінаўка, Віц. р.); 2) мысль, суждение. Мая гадка, ні спраўдзілася (Іканкі, Чаш. р.).

**ГАДКІ**—отвратительный, противный. Які ён гадкі! (Азярэцк, Сен. р.).

**ГАДУЛЬКА**. *ж.* — говорунья. Наша бабулька—гадулька (Чырв. Зорка, Чаш. р.).

**ГАЖАНЬНЕ**, *н.*—порча, скверная работа. Вэдзгаецца—ні работа, а гаджаньне (Сянно, Сен. р.).

**ГАЗА**, *ж.* — керосин. Налей газы ў лямпу (Сташчча, Чаш. р.).

**ГАЗЭТА**, *ж.*—газета. Савеччы газэты (Гарадок, Гар. р.).

**ГАЗОЎКА, ГАЗЬНІЦА**, *ж.*—коптилка, лампочка без стекла. Запалі газоўку (Ст, Сяло, Куз. р). Запалі газьніцу (Сташчча, Чаш. р.).

**ГАДЗІНА**, *ж.*—1) змея. Vipera berus L. Цяпер і ў лесе трохі гадзін (Заронава, Куз. р.); 2) плохой человек. Забіць гэткую гадзіну (Шарыпіна, Беш. р.).

**ГАДЗІНА**, *ж.*—часы. Ну, калі і забавісься на гадзіну (Пушкары, Сен. р. .

**ГАДЗІНЬНІК**, а, *м.*—часы. Дужа гадзіньнік сьпешыць (Бараўляны, Куз. р.).

**ГАДЗІЦЦА**, *дзс.*—чувствовать отвращение. Як іна ні гадзіцца браць жабу у рукі! (Марудзенкі, Сір. р.).

**ГАДЗІЦЬ**, *дзс.*—делать пакости. Колькі год ён нам гадзіць (Сянно, Сен. р.).

**ГАДЗІЦЬ**, *дзс.* — угождать. Цяжка ўсім гадзіць—ня ўгодзіш, (Курына, Віц. р.). Яна табе годзіць (Мамойкі, Беш. р.).

**ГАІЦЦА**, *дзс.* — заживляться. Валасень ня скора гоіцца (Пятніцкая, Беш. р.).

**ГАІЦЬ**, *дзс.*—заживляць (рану). Табе трэба добра гаіць руку (Азярэцк, Сен. р.).

**ГАЙ**, ю, *м.*—роща. Вядзі папасі каня ў гай (Дрыкольле, Куз. р.). Лі гайка праедзем (Рашотнік, Сір. р.).

**ГАЙДА**, *вкл.*—нуте, нука. Гайда ў лес па бярвеньне! (Трыпутні, Сір. р.).

**ГАЙКА**, *ж.*—гайка. Гайку ў каваля нада зробіць (Лужасна, Куз. р.).

ГАЙНО, *н.*—логово. Сьвіньні сьпяць у гайне (Сянно, Сен. р.).

ГАЙСАЦЬ, *дзс.* — бегать без дела. Ня трэба есьці даваць, хто гайсаў цэлы дзень (Громаць, Гар. р.).

ГАК, у, *м.*—1) излишек, расстояние. Да будзець пяць вёрст з гакам (Мікалаёва, Куз. р.); 2) шыпы в подкове. Гакі тупы, трэба йстрыць (Пятнікая, Беш. р.); 3) коса. Гакам косюць траву (Чырвоная Зорка, Чаш. р.).

ГАКАН, а *м.*—сильный толчек. Гакана даў добра (Доўгае, Беш. р.).

ГАКНУЦЦА, *дзс.*—удариться, стукнуться. Лбом аб вяршняк гакнуўся (Сьцяпанаўка, Куз. р.).

ГАКНУЦЬ, *дзс.*—рубануть. Як гакнуў тапаром па галаве (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГАЛАВА, *ж.*—голова. Трымай галаву у холадзе, жывот у голадзе (Алексінічы, Сен. р.).

ГАЛАВЕНЬ, я, *м.* — головль. Squalius cephalus L. Ай, галавень бальшэй! (Касачы, Лёз. р.). Галавенчыкі ходзяць лі самага берага (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ГАЛАВЕШКА, *ж.* — головня. У полі курылася дзьве галавешкі (Замошша, Сен. р.).

ГАЛАДАВАЦЬ, *дзс.*—голодать. Ну і галадавалі той год! (Асінаўка, Беш. р.).

ГАЛАДОЎКА, ГАЛАДОЎЛЯ, *ж.* —голодовка, голодное время. І ў нас была галадоўка (Пустынкі, Сен. р.). У іхнам баку была галадоўля (Раманаўка, Сен. р.).

ГАЛАПУЗЫ—голобрюхий, одетый в рваную одежду. Чым ён ні галапузы—праз дзірку ўсё пуза сонцам сьвеціць (Котава, Сур. р.).

ГАЛАРУЧ—голыми руками. Не бяры галаруч, гарача (Селядцова, Беш. р.).

ГАЛАС, у, *м.*—крик. Нарабілі галасу на ўсю пожню, а каб за што было брахацца? (Картышы, Сір. р.).

ГАЛАСІЦЬ, *дзс.* — голосить, причитывать по покойнику. Ну й галасіла-ж дачка! (Навікі, Віц. р.).

ГАЛАШЭНЬНЕ, *н.* — голошение, плач по покойнику. Яна і да сьмерці ня кончыць свайго галашэньня (Язьвіна, Сір. р.).

ГАЛЕНЬ, я, *м.*—голик, веник, чаще истрепанный. Паўла зрабіў галень сабе й мне (Шарыпіна, Сен. р.).

ГАЛЕНЬНЕ, *н.*—бритье. Пакуль ён галеньне сканчыў—я воз сена адкасіў! (Дварэцк, Чаш. р.).

ГАЛЕРА, *ж.*—вид лодки, галера. Нашы галеры перацягнулі вашы талеры (Церабетаўка, Віц. р.).

ГАЛЕЦЬ, *дзс.* — нищать. Як прышло няшчасьце: пагарэла ўсё, дык і пачаў галець (Дабрамысьль, Лёз. р.).

ГАЛЕЧА, *ы.*—бедняк, беднота, Гэты мужчына—галеча (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ГАЛЁНКА, *ж.* — 1) голень. Алесь зваліўся з страхі і пераламаў галёнку (Пачаевічы, Чаш. р.); 2) гетры, вязаные чулки без низа прикрывающие голень. Галёнкі адзень, бо холодна (Александрова, Гар. р.).

ГАЛЁНЫ, аў *м.*—блестящие шнурки, нитки, которыми расшивали корсажи; галуны. Шнуроўка ўся расшыта была галёнамі (Мікалаёва, Куз. р.).

ГАЛІЦЦА, *дзс.*—зариться на чужое, желать его. Ён толькі на яе дабро галіцца (Мікалаёва, Куз. р.).

ГАЛІЦЦА, *дзс*—бриться. Пайдзём галіцца яго брытвай (Стаішча, Чаш. р.).

ГАЛКА, *ж.*—галка. Monedula turrium Brehm (Corvus monedula L.). Во, галак на пуню насела! (Гарадок, Гар. р.).

ГАЛОЎКА, *ж.*—кроме общего значения—плод льна или мака. Дай мне адну галоўку маку. Пойдзем удзяваць галоўкі у астроўкі (Спасская, Сір. р.).

ГАЛОЎКІ, *ж.*—головки, загибы полозьев в санях. Галоўкі ў тых санях паськепаліся (Высачаны, Выс. р.).

ГАЛОЎНА,—главным образом, необходимо. Галоўна туды зьбегаць, а то нічога ня будзіць (Трыбухова, Сір. р.).

ГАЛОЎНЫ,—главный. Ня крычы—я да самага галоўнага дайду (Селяцова, Беш. р.).

ГАЛУБ, а, *м.*—голубь Columba livia Briss. На страсе сідзелі галубы (Пушкары, Сен. р.). Галубец ня кабец—нікому ня шкодзіць (Заронава, Куз. р.).

ГАЛУЗА, *м.*—озорник, шалун. Галуза гэты вакно пабіў (Сянно, Сен. р.).

ГАЛУЗАВАЦЬ, *дзс.*—1) заниматься пустым разговором. Сідзяць галузуюць ціхінька (Запрудзьдзе, Куз. р.); 2) шалить. У празьнікі маладыя толькі галезуюць (Цясьляціна, Сір. р.).

ГАЛУН, ГАЛЫН, у, *м.*—квасцы. Alumen calicum. Я машынку к лямпе прыпаяў галуном (Азярэцк, Сен. р.). Купі галыну ў Віцебску (Высачаны, Выс. р.).

ГАЛУШКА, *ж.* — 1) галушка. Сёньні елі галушкі (Лужасна, Куз. р.); 2) шарик. Робілі галушкі з гліны (Мянюцева, Сен. р.).

ГАЛЫШ, а, *м.*—бедняк. Етат галыш любіць браць, да не любіць аддаваць (Баравыя, Куз. р.).

ГАЛЫШЫ, оў, *м.* — клецки с коноплями. Сёньня елі галышы (Мікалаёва, Куз. р.).

ГАЛЬЛЁ, ГОЛЬЛЕ, *зб.*—1) ветви. На дзераве сухое гальлё (Баркова, Куз. р.). Гольле на яблыні абламалі (Марчонкі, Сур. р.); 2) хворост. Я набраў гальля (Асінаўка, Беш. р.).

ГАЛЬЦЯПА, *ж.,зб.*—голытьба. У Каралёх самая гальцяпа (Клюі, Куз. р.). Гальцапа ты, што ты маеш? (Стралкі, Беш. р.).

ГАЛЯК, а, *м.*—бедняк. У яго ні пазычыш — галяк! (Дубнікі, Сен. р.).

ГАМ, у, *м.* — гам, шум, крик. У гаму на кірмашы ў яго грошы падмікіцілі (Сянно, Сен. р.).

ГАМАН, а, *м.* — злюка. Гэты гаман усіх абіжаіць (Сянно, Сен. р.).

ГАМАНІЦЬ, *дзс.*—1) говорить, спорить. Будзе вам гаманіць! (Мікалаёва, Куз. р.). Мужыкі нешта гаманяць (Лалыкі, Аз. р.); 2) шуметь. Перастаньце гаманіць (Ісачкава, Аз. р.).

ГАМАНКІ — разговорчивый, словоохотливый. Тамаш дужа гаманкі чалавек (Оўсішча, Сен. р.).

ГАМАР, у, *м.*—верхняя ручка в продольной пиле. Атламаўся гамар у піле (Ляхава, Віц. р.).

ГАМАРНЯ, *ж.* — шум, содом. У яе настаяшчая гамарня, ніколі ціха ня бывае (Хацінічы, Куз. р.).

ГАМАЦЬ, *дзс.*—детское—есть. Ну, гамай, гамай, да і спаць пайдзем (Чырына, Куз. р.).

ГАМБІСТЫ—гордый. Твой сын вельмі гамбісты (Камоски, Беш. р).

ГАМЗАЦЬ, *дзс.* — в нос говорить, гугнивить. Не гамзі ты, а кажы выразна (Сянно, Сен. р.).

ГАМЗУН, а, *м.*, ГАМЗАТЫ — косноязычный, гугнивый. Гамзун — чалавек, што нячыста гаворыць (Зямковічы, Сен. р.). У нас на сяле ёсьць адзін гамзаты (Селядцова, Беш. р.).

ГАМЛЯЧКА, *ж.*—телега на железном ходу в виде люльки. Папрасі ў яго гамлячку зьездзіць за бульбай (Спасская, Сір. р.).

ГАМОН—конец, пропало. Зрэзаў бірвяно і гамон (Санікі, Беш. р.).

ГАМОНКА, *ж.* — разговор. Адыйдзі ты з сваёю гамонкаю (Куцькава, Сен. р.).

ГАН, у, *м.*—недостаток. Купляй—ніякага гану ў коніка няма (Сянно, Сен. р.) Пар. загана.

ГАНАК, а, у, *м.* — крыльцо, Вецер веіць, сонца грэіць, я на ганачку стаю (Сукрэмна, Сен. р.),

ГАНАРОВЫ — гордый, кичливый. Наш старшына дужа быў ганаровы (Сянно, Сен. р.).

ГАНАРЫСТЫ — 1) спесивый. Наш начальнік ганарысты (Лужасна, Куз. р.); 2) с норовом. Але такая ганарыстая наша кабыла! (Оўсішча, Сен. р.).

ГАНАЧКА, *ж.* — ступенька лестницы. Мы ўдваіх схадзілі па ганачкам (Сянно, Сен. р.).

ГАНАШЫЦЬ, *дзс.*—1) спешно приготавливать. Ганашы скарэй поле (Стралкі, Беш. р.); 2) торопить. Габрусь ганашыць малаціць (Дзямешкавічы, Віц. р.); 3) спешить. Мікіта, ганашы, а то кашу зьядзём (Чарнагосьці, Беш. р.).

ГАНДАЛЬ, ю, *м.* — торговля. Сягодня ідзе добры гандаль (Гарывецк, Сен. р.).

ГАНДЛЕЎШЧЫК, а, *м.*—торговец, спекулянт. Прыехаў ужо ў дзярэўню гандлёўшчык (Застадольле, Сен. р.).

ГАНДЛЯВАЦЬ, *дзс.*—торговать. Жыды гандлююць — тым і жывуць (Баркова, Куз. р.).

ГАНДЛЯР, а *м.* — торговец. Гандляры зачынілі крамы (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГАНЕБНІК, а, *м.* — негодник. Гэты ганебнік згубіў майго каня (Вейна, Сен. р.).

ГАНЕБНЫ—1) навязчивый, неприятный. Гэта ганебная праца (Копцевічы, Чаш. р.); 2) противный. Ганебнае дзела ты зробіў (Марчонкі, Сур. р.).

ГАНДЗЮРЫЦЬ, *дзс.*—вести пустой разговор. Досіць табе гандзюрыць! (Сьвярдлы, Беш. р.).

ГАНІЦЬ, *дзс.* — поносить хулить. На што ганіць чалавека? (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГАНОК, а *м.*— плот. Па рацэ гналі ганок (Ганкавічы, Беш. р.). Міхась пагнаў ганкі ў Рыгу (Стралкі, Беш. р.).

ГАНУС, ГЭНУС, у, *м.*— анис. Pimpinella Anisum L. Купіла на 5 кап. ганусу (Вядрэнь, Чаш. р.).

ГАНЧАК, а, *м.*—гончая собака. Андрэй купіў ганшака (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ГАНЧАР, а, *м.*—гончар. Пойдзем да ганчара за гарнушкамі (Азярэцк, Сен. р.).

ГАНЧАРНЯ, *ж.* — гончарная мастерская. Я пайду ў ганчарню (Берасьні, Беш. р.).

ГАНЧЭЙ—быстрее. Трэба была ганчэй ехаць (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГАНШЧЫК, а, *м.* — человек ведущий плоты по реке. Гэта ганшчыкі варочаюцца дамоў (Храпавічы, Куз. р.).

ГАНЬБА, *ж.* — 1) порицание, хула. Такую ганьбу на яе навялі! (Асіпова, Аз. р.); 2) недостаток. Што у твайго каня за ганьба? (Гайдукі, Сур. р.).

ГАНЬБІЦЬ, *дзс.*—порицать хулить. Маю дачку на нет ганьбяць (Сухарукава, Аз. р.). Пар. ганіць.

ГАНЯЦЬ, *дзс.*—1) гонять. На што каня ганяеш? (Лужасна, Куз. р.); 2) окучивать. Сягодня ганяў картошку (Застарыньне, Беш. р.); 3) пасти. Работа якая —толькі скот ганять (Гарадок, Гар. р.).

ГАПЛІК, а, *м.* — крючек для застегивания. У кохту ушылі гаплік (Сухарукава, Аз. р.). Пар. аплік.

ГАРА, *ж.*—1) гора, возвышенность. Узьехалі на гару. (Навікі, Віц. р.). С тэй гарушкі далёка відаць зялёны лес (Чарніца, Лёз. р.); 2) чердак. Венікі на гаре вісяць (Навікі, Віц. р.).

ГАРАВАТКА, *ж.*—холмик. Пасярод поля гараватка (Аськершчына, Беш. р.).

ГАРАВАЦЬ, *дзс.* — горевать, бедствовать. Лепі ня жыць, чым гэдак гаруваць (Шапурава, Сур. р.).

ГАРАВЫ—горный. Мая сястра на гаравым полі мучыцца (Навікі, Віц. р.).

ГАРАДЗІШЧА, *н.* — городище. Лі гарадзішча каровы ходзюць (Шапурава, Сур. р.)

ГАРАДЗІЦЬ, *дзс.*—1) городить, огораживать. Трэба гарадзіць сад (Ісачкава, Аз. р.); 2) говорить небылицу, явно плутовать, лгать. Гаворыць, як гародзіць (Оўсішча, Сен. р.).

ГАРАДЗЬБА, *ж.* —огораживание. Многа гарадзьбы сёлета (Кузьміно, Сен. р.).

ГАРАХВІНЫ, *ж.* — гороховая солома. Дай каню гарахвін! (Пустынкі, Сен. р.).

ГАРАЧКА, ГАРУЧКА, *ж.*—тиф Typhus; горячка. Матка захварэла на гарачку (Асінаўка, Беш. р.). Кабц ябе гаручка запаліла! (Аляхнова, Сен. р.).

ГАРАЧЫ—жаркий. Учора быў гарачы дзень (Шыпы, Сен. р.).

ГАРБАТА, *ж.* — чай. Мне налілі шклянку гарбаты (Мамойкі, Беш. р.).

ГАРБЕЦЬ, *дзс.* — становиться сутулуватым от усидчивой работы. Гарбеіць над работаю, а на што яму? (Сураўні, Сір. р.).

ГАРБУЗ, а, *м.*—тыква. Cucurbita Pepo L. Гарбузы содзяць на краю гряды (Навікі, Віц. р.).

ГАРБУЗОВЫ — тыквенный. Гарбузовых бубуроў дай сьвіньням (Раманаўка, Сен. р.).

ГАРБУЗОЎНІК, у, *м.*—тыквенная ботва. Увесь гарбузоўнік у гародзе коні патапталі (Сянно, Сен. р.).

ГАРБУН, а, *м.* — горбун, горбатый. У нашай вёсцы ёсьць гарбун (Санікі, Беш. р.).

ГАРБЫЛЬ, я, *м.* — холм, бугор. З гарбыля ўсё відаць (Навікі, Віц. р.).

ГАРГАРА, *ж.*—сварливая женщина. З гэтаю гаргараю ня збрэшышся (Машчоны, Сен. р.).

ГАРГАЧ, а, *м.* — бульон. Улі мне гаргачу (Грынькі, Гар. р.).

ГАРДА—гордо. Новы старшыня сусім ні гарда абходзіцца (Сянно, Сен. р.).

ГАРДЫ—гордый. А які-ж ты гарды! (Чашнікі, Чаш. р.).

ГАРЭЗАВАЦЬ *дзс.* — шалить, Досыць ужо вам гарэзаваць (Мікалаёва, Куз. р.).

ГАРЭЙ — хуже. Чужая хата гарэй ката (Вышадкі, Меж. р.).

ГАРЭЛІКІ, аў, *м.*—выгоревшее болото. Завядзі ты каня ў гарэлікі (Чалнышкі, Беш. р.). Пар. выгарка.

ГАРЭЛКА, *ж.*—водка. Crematum. Нашы дзеравенцы п'юць гарэлку (Альшанікі, Беш. р.). Гарэлачка разабрала—цяпер абнімайце! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ГАРЭНІЦЬ, *дзс.*—отдавать горечью. Тухлая капуста гарэніць (Ганкавічы, Беш. р.).

ГАРЭХ, а, *м.*—орех. Гарэхаў хош? (Шаркі, Куз. р.).

ГАРЭХАЎКА, *ж.* — ореховка. Nucifraga caryocatactes Briss Ты забегаўся, як тая гарэхаўка, якая ляціць, ляціць пакуль сілы хапіць (Шаркі, Куз. р.).

ГАРКАВЕЦЬ, *дзс.*--становиться горьким. Гаркавіць пачало—ня нада хаваць (Мядзелева, Куз. р.).

ГАРКАВЫ — горький, горьковатый. Прыладзілі гаркавы кісель (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ГАРКНУЦЬ, *дзс.*--тявкнуть, заворчать. Сабака як гаркнуў, дык мой конь і спудзіўся (Косьцьева, Выс. р.).

ГАРКОТНІЦА, *ж.* — горемычная. А дзе наша гаркотніца: ці гора гаруець, а ці ходзя жабруець? (Марчонкі, Сур. р.).

ГАРЛАЧ, ГАРЛАСЬЦІК, а, *м.* —кувшин без ручки. Прінясі гарласьцік з малаком (Прусаўкі, Аз. р.). Нацадзі ў гарлач малака (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГАРЛАЧОЎКА, *ж.* — гравилат. Geum rivale L., G. urbanum L. Гарлачоўку знайдзеш каля вады (Заронава, Куз. р.).

ГАРЛАЧЫК, а *м.* — кувшинка желтая. Nuphar luteum Smith. Дастань мне гарлачыкаў з вады (Лужасна, Куз. р.).

ГАРЛЯНКА, *ж.* — черноголовка, горлянка. Brunella vulgaris L. Напар гарлянкі мне—нешта горла забалела (Лазукі, Чаш. р.).

ГАРМІДАР, у, *м.* — шум, тревога; содом. Як паднялі гвалт: цэлы гармідар (Рыбчына, Сір. р.). У іх цэлы гармідаль (Сянно, Сен. р.).

ГАРМАНІСТЫ, а, *м.* — музыкант, играющий на гармонике. Васіль гармaністы зайграў марш (Азёркі, Беш. р.).

ГАРМОНІК, а, *м.*—гармоника. Я купіў харошы гармонік (Буева, Аз. р.).

ГАРНАТКІ, *зб.* — коралловые бусы. Прывяжы ты гарнаткі (Вяжышча, Беш. р.).

ГАРНЕЦ, ГАРЧЫК, а, *м.*—1) гарнец. Насып яму гарніц жыта (Шарыпіна, Беш. р.). Пазыч мне гарчык аўса (Сянно, Сен. р.); 2) четвертная бутыль. Налі у гарніц ды пастаў на лаўку (Мамойкі, Беш. р.).

ГАРНІК, а, *м.* — манжетка. Alchemilla vulgaris L. Прайдзі лі Слабодкі—там гарнік расьцець (Лужасна, Куз. р.).

ГАРНІТУР, а, *м.* — костюм. Алесь купіў новы гарнітар (Іванск, Чаш. р.).

ГАРНУЦЬ, *дзс.* — грести. До гарнуць сюды муку—і так поўна (Лужасна, Куз. р.).

ГАРНУШАК, ГАРНУЛЬ, а, я, *м.*—глиняный горшок. Гарнушак разьбіўся (Вішкавічы, Чаш. р.). Дзяржы гарнуль (Раманаўка, Сен. р.).

ГАРНЫ — прекрасный, хороший. Калі ўвечары жукі лётаюць, дык будзіць гарная пагода (Бесьцьвена, Сен. р.).

ГАРОД, а, *м.*—огород. На гародзе ўсё засохла (Навікі, Віц. р.).

ГАРОДНІК, а, *м.*—огородник. Я купіла сабе у гародніка гуркоў (Лагавая, Аз. р.).

ГАЎКАНЬНЕ, *н.* — лай собак. Ужо і гаўканьне чуваць — Прыстоі блізка (Павульле, Чаш. р.).

ГАЎКАЦЬ, *дзс.* — лаять. Чаго тамацькі сабака гаўкаіць? (Астроўна, Віц. р.).

ГАФТАВАНЫ — вышитый гладью. Гафтаваную сарочку носіць (Храпавічы, Куз. р.).

ГАЦІЦЬ, *дзс.*—мостить хворостом и пр. дорогу в болотной местности. Ужо тры дні гацілі, а знаку мала (Сянно, Сен. р.).

ГАЦЬ, *ж.*—1) топь. Чуць выдраўся з гаці (Дубавое, Беш. р.); 2) плотина. У нас гаць прарывае—скора і малоць вады ня стане (Лужасна, Куз. р.).

ГАШНІК, а, *м.*--верхняя часть, пояс в брюках. Пашыла штаны, толькі гашнік прышыць засталося (Беліца, Куз. р.).

ГАЮЧЫ—заживляющий. Каб дастаць дзе гаючай воды! (Пагост, Сір. р.).

ГБАЦЦА, *дзс.* — гнуться. Арэшына добра гбаецца (Храпавічы, Куз. р.).

ГБАЦЬ, *дзс.* — гнуть. Ня гбай яму бакі (Сянно, Сен. р.).

ГВАЛТ, у, *м.*—1) шум, крик. Як паднялі гвалт — цэлы гармідар! (Навікі, Куз. р.); 2) насилие. Не рабіце гвалту над удавою! (Котава, Сур. р.).

ГВАЛТАВАЦЬ, *дзс.* — насиловать. Гвалтуюць людзей, а да чаго ета? (Картышы, Сур. р.).

ГВАЛТАЎНІК, а, *м.*—насильник. Злавілі гвалтаўніка і павялі ў міліцыю (Рубеж, Беш. р.).

ГВАЛТОЎНА—насильно. Гвалтоўна забралі усё й пашлі (Дубнікі, Сен. р.).

ГЕВЕР, у, *м.*—часть овина между столбами поддерживающими балки, крышу. Селета мы нажалі тры геверi жыта (Навікі, Віц. р.).

ГЕСТКА, *ж.* — верхняя часть одежды. Памый мне куртку на гестцы (Сукрэмна, Сен. р.).

ГЭ, *вкл.*—э. Гэ! Я, вось, возьму ды абшалюю хату, дык яна сто гадоў прастаіць (Вядрэнь, Чаш. р.).

ГЭБАЛЬ, я, *м.*—фуган. З габёлкам тут не абойдзешся, трэба гэбаль—з даўгай калодкай (Кукcы, Сір. р.).

ГЭЙ, *вкл.* - Эй. Гэй, ты воўчая шкура! (Шарыпіна, Беш. р.).

ГЭНЫ—вон тот. Гэны чалавек зрабіў ета (Вішкавічы, Чаш. р.).

ГЭНЧЫКІ, аў, *м.* — перчатки. Зьвяжы мне гэнчыкі (Мікалаёва, Куз. р.).

ГЭТАК—так. Гэтак і выйшла, як я казаў (Сукрэмна, Сен. р.). Лепі ня жыць, чым гэдак гаруваць (Сукрэмна, Сен. р.).

ГЭТУЛЬКІ—столько. Гэтулькі дамоў нясі (Беліца, Сен. р.).

ГЗЫМС, а, у, *м.*—карниз. Палажы мыла на гзымс (Мазалава, Куз. р.).

ГІБЕЛЬ--1) погибель. Тамацькі ён гібель сабе знашоў (Шаброва, Меж. р.); . 2) много. У Платона засталося гібель дроў (Селядцова, Беш. р.).

ГІГЕЛЬ, ю, *м.*—полевой хвощ. Equisetum arvense L. Сьвіньні пад'елі гігелёў (Сідоры, Меж. р.). На шматку ужо растуць гігелі (Каверзіна, Меж. р.).

ГІГІКАЦЬ, *дзс.* — хохотать, смеяться. Ча гігікаеш бяз толку? (Сянно, Сен. р.).

ГІДАСЬЦЬ, *ж.*—гадость. Выпашы гэту гідась з хаты (Рыбчына, Сір. р.).

ГІДКА — 1) противно, гадко. Гідка глядзець на лягушку (Навікі, Віц. р.); 2) тошно. Мне стала гідка ад крупені (Асіпова, Аз. р.).

**ГІДКІ**—гадкий, противный. Гідкі чалавек Сідар (Рыбчына, Сір. р.).

**ГІЗАВАЦЬ**, *дзс.* — бегать от укуса оводов. Сяньні каровы ўвесь дзень гізуюць (Макеенкі, Аз. р.).

**ГІДЗІЦЦА**, *дзс.* — иметь отвращение. Я гіджуся, як другія п‘юьць сала (Навікі, Віц. р.).

**ГІЛЬ**, я, *м.*—снигирь. Pyrrhula pyrrhula L. Гіля злавіў у сіло (Гарадок, Гар. р.).

**ГІНДРЫК**, а, *м.* — танец. Каб гіндрыка скакаць, трэба мець крэпкія боты (Ходцы, Сен. р.).

**ГІНУЦЬ**, *дзс.*—пропадать. Гіне ўся праца мая (Доўжа, Куз. р.).

**ГІРСА**, *ж.* — костерь. Bromus secalinus L. Ёсьць у нашым жыце і гірса (Пастушонкі, Аз. р.).

**ГІЦАЛЬ**, я, *м.*—1) жулик, подлец. Ах ты гіцаль, нашто забіў нашу курыцу? (Сянно, Сен. р.); 2) собаколов. Гіцлі поўну будку сабак павезьлі (Віцебск).

**ГЛАДКА** — 1) гладко, ровно. Гладка забаранаваў ячмень, як укачаў (Лужасна, Куз. р.); 2) совершенно, совсем. Гладка нічога не магу дзелаць (Стаішча, Чаш. р.).

**ГЛАДЫШ**, а, *м.* — кувшин с ручкой. Нацэдзілі два гладыша малака (Застадольле, Сен р.). Поўны гладышак малака (Нямойта, Сен. р.).

**ГЛАДЗІЦЬ**, *дзс.*—гладить, выглаживать. Хуць і на лён, але ўжо кінь гладзіць ды цягні барану ў двор (Ульлянавічы, Сен. р.).

**ГЛАМАЗДА**, *аг.* — неуклюжий. Гламазда ты, гламазда — ні павернешся! (Купіна, Віц. р.).

**ГЛЕБА**, *ж.* — почва. Наша глеба вельмі добрая (Быкоўшчына, Беш. р.).

**ГЛЕЙ**, ю, *м.* — вязкая, глинистая почва. Папаў у глей—богаў не жалей: па вушы абмажышся (Ліпна, Сен. р.).

**ГЛЕНЬ**, *ж.*—часть крыши. Луччы разьбіраць крышу гленямі (Навікі, Віц. р.).

**ГЛІНА, ГНІЛА**, *ж.*—глина. Гліна ідзе на печы (Бабінічы, Віц. р.). Бяз гнілы і печы ня збудуеш (Заронава, Куз. р.).

**ГЛІНІШЧА**, *н.* — место, где вырабатывается сырой кирпич. Ці высах, твой кірпіч у глінішчы? (Чарніца, Лёз. р.).

**ГЛІНЬНІЦА**, *ж.*—яма, где копают глину. Ат нас глініца далёка (Аськершчына, Беш. р.).

**ГЛІНЯНКА**, *ж.* — глиняная рюмка, чашка. Калі вып‘ець глінянку! (Вяжышча, Беш. р.).

**ГЛІСЬНІК**, а, *м.* — паслен. Solanum nigrum L. Глісьнік знойдзеш на лехах (Заронава, Куз. р.).

**ГЛІЦА**, *ж.*—планка, которая соединяет пазы досок в двери и т. п. Вывалілася з дзярэй гліца (Асавец, Беш. р.). Пар. ігліца.

**ГЛОМАЗД**, у, *м.*— хлам. Заваліў увесь двор гломаздам (Азярэцк, Сен. р.).

**ГЛОТКА**, *ж.* — глотка, горло. Зусім залажыла глотку (Застарыньне, Беш. р.).

**ГЛУЗДЫ**, оў, *м.* — могзи, память, сознание. Глузды табе атсохлі, ці што — нешта нічога ня помніш! (Сьвярдлы, Беш. р.).

**ГЛУМ**, у, *м.*—1) порча. Бульбы пашло многа ў глум (Сянно, Сен. р.); 2) издевательство. Кінь глум над жонкай, лучшы разьвядзісь (Пятніцкая, Беш. р.).

**ГЛУМАЦЬ, ГЛЫМАЦЬ**, *дзс.*— есть. Знашоў скарынку хлеба ды глумаіць (Вядрэнь, Чаш. р.).

**ГЛУМІЦЬ**, *дзс.* — 1) портить. Ня глуміця добра (Сянно, Сен. р.); 2) надоедать, шуметь. Досыць табе

глуміць мне галаву (Міхалі, Куз. р.).

**ГЛУПСТВА**, *н.* — глупость. Глупства гародзіць—нечага слухаць (Дубнікі, Сен. р.).

**ГЛУХАЯ АЛЕШЫНА**—черная ольха. Alnus glutinosa Gaertn. Сьсеклі глухую алешыну (Стрэлкі, Беш. р.).

**ГЛУХАЯ СТРАКІВА** — львінохвост. Leonurus Cardiaca L. et L. Marrubiastum L. І ў сене пападаецца глухая страківа (Адаменкі, Лёз. р.).

**ГЛУХІ**—глухой. З глухім доўга ні пагаворыш (Лужасна, Куз. р.).

**ГЛУШЭЦ**, а, *м.* — глухарь. Tertao urogallus L. Глушэц цяпер рэдкая птушка ў лясох (Заронава, Куз. р.).

**ГЛЫБАЧЭЦЬ**, *дзс.*—становиться глубже. Пасьля дождджу наша рака скора глыбачэіць (Лужасна, Куз. р,).

**ГЛЫБЕЙ**—глубже. Выкапай яму глыбей (Запрудзьдзе, Куз. р.).

**ГЛЫБІНЯ**, *ж.*—глубина. Ніхто глыбіні ня мераў (Ваўкарэзіна, Гар. р.).

**ГЛЫБІЦЬ**, *дзс.*—углублять. Ну, будзем далей глыбіць, а то гэта вада яшчо плахая (Марчонкі, Сур. р.).

**ГЛЫБОКІ**—глубокий. Тутацькі глыбокае месца (Крынкі, Выс. р.).

**ГЛЫНУЦЬ**, *дзс.* — проглотить. Глыні трохі вады: можа адыйдзе (Доўжа, Куз. р.).

**ГЛЫТАНІК**, а, *м.* — глоток. Два глытанікі ўхапіў (Высачаны, Выс. р.).

**ГЛЫТАЦЬ**, *дзс.* — глотать. У горле баліць — глытаць ні магу (Косьцьева, Выс. р.).

**ГЛЯДЗЕЛКА**, *ж.*—зеркало. Падай сюды глядзелку (Вяжышча, Беш. р.). Пар. люстэрка.

**ГЛЯДЗЕЦЦА**, *дзс.*—смотреться. Дзеўка глядзіцца ў люстэрку (Госьміра, Сен. р.).

**ГЛЯДЗЕЦЬ**, *дзс.* — смотреть. Я не магу глядзець на сонца (Рудня, Аз. р.). Што вы скоса глядзіцё? (Пустынкі, Сен. р.).

**ГЛЯК**, а, *м.*—круглый кувшин с узеньким горлышком. Гляк стаіць з газай (Стаішча, Чаш. р.).

**ГЛЯНУЦЬ**, *дзс.* — посмотреть. Глянь, Ванька, якая птушка! (Шарыпіна, Беш. р.).

**ГЛЯНЦ**, у *м.*—блеск. Бач, навёў глянц на боты! (Смалякі, Гар. р.).

**ГМІНДА**, *зб.*—орава. Пакуль я супакою сваю гмінду (Сукрэмна, Сен. р.).

**ГНАІЦЬ**, *дзс.*—1) унаваживать землю. Стараўся, гнаіў зямлю, а цяпер няма ведама каму застанецца (Буева, Куз. р.); 2) гноить. Дождж гноіць сена каторы дзень! (Лужасна, Куз. р.).

**ГНАЦЬ**, *дзс.*—гнать. Гані гусей у поле (Рудня, Аз. р.).

**ГНЕВАЦЦА**, *дзс* — сердиться. Ты на яе ня гневайся (Чараўкі, Сен. р.).

**ГНЁТ**, у, *м.* — 1) камни или бревна для натискания льна в мочке. Вязі гнёт і націсьні лён у сажалкі (Утво, Куз. р.); 2) толстая жердь придавливающая драны, доски на крыше. Гняты нада паправіць на крышы (Бабінавічы, Выс. р.).

**ГНЁТКА, ГНЯТУЧКА**, *ж.*—натужный понос. Diarrhea. У яго гнётка (Сянно, Сен. р.). Каб палячыць чым — гнятучка ў яго (Сянно, Сен. р.).

**ГНІДА**, *ж.*—яйцо вши. Вошы елі ды й гнідам пірідалі (Навікі, Віц. р.).

ГНІЛЬЛЁ, *зб.* — гниль. Нада прібраць адсюль ета гнільлё (Халамер'е, Аз. р.).

ГНІЛЯК, а, *м.*—гнилой кусок, гнилушка. На балоце сьвецяцца гнілякі (Госьміра, Сен. р.).

ГНІСЬЦІ, *дзс.*—гнить. Ляжыць калода сярод балота ня гніе ні сохне (язык) (Забалацьце, Беш. р).

ГНОЙ, ю, *м.*—навоз. Ён вывез на поле 10 вазоў гною (Рудня, Аз. р.); 2) гнойная материя в нарыве. Выцісьні гной з болькі (Сянно, Сен. р.).

ГНОЙНЫ — навозный, унавоженный. Гнойнай зямлі там— адно гарод (Дзяды, Сір. р.).

ГНУЦЦА, *дзс.*—гнуться. Гнецца валавяны прут (Гарывецк, Сен. р.).

ГНЮПАЦЬ, *дзс.* — смотреть, держа глаза близко к предмету, но слабо видеть. Што ты там гнюпаіш у пацёмку? Запалі цяпло! (Сьвярдлы, Беш. р.).

ГНЯВІЦЬ, *дзс.* — сердить. Нашто гневіш дзеда? (Машчоны, Сен. р.).

ГНЯЗДО, *н.* — гнездо. Буцяны носюць хваросьця ў гняздо (Навікі, Беш. р.).

ГНЯСЬЦІ, *дзс.*—1) давить. До табе гнясьці — ужо алей ні цячэць (Громаць, Гар. р.); 2) угнетать. Ахвотнік усякага гнясьці (Доўжа, Куз. р.).

ГОГАТ, у *м.* — хотот. Гогат паднялі над ім за гэта (Замшына, Лёз. р.).

ГОДНАСЬЦЬ, *ж.* — достоинство, звание. Як яго годнасьць? (Дубнікі, Сен. р.).

ГОДНЫ—1) годный. Гэты полаз яшчэ годны ў сані (Марчонкі, Сур. р.); 2) достойный. Канешна, яна годна яго (Жукаўка, Лёз. р.).

ГОЙ-БАБА—бой-баба. Да яго жонкі не патыкайся—гой—баба! (Азярышча, Лёз. р.).

ГОЙДА, *ж.*—высокая, тонкая женщина. Ідзець, як гойда (Гарадок, Гар. р.).

ГОЙКАЦЬ, *дзс.*—выкрикивать. Свацьці пачалі пяяць ды гойкаць (Асінаўка, Беш. р.).

ГОЖЫ — 1) годный. Куды ты гожа! (Купіна, Віц. р.); 2) красивый. Гожая дзеўка Пятрусёва (Мянюцева, Сен. р.).

ГОДЗЕ—довольно, баста. Годзе табе ужо бегаць (Летцы Куз. р.).

ГОЛБА, ГОЛДА, *ж.* — полба. Triticum Spelta L. З голбы мех зярна, а жменя круп (Вішкавічы, Чаш. р.). Трэба сягоньня сеяць голду (Замошша, Сен. р.).

ГОЛЕНЫ—бритый. Ходзіць з голенаю галавою, як гарбузом (Дварэцк, Чаш. р.).

ГОЛКА, *ж.*—иголка. Дай танейшую голку (Каралёва, Выс. р.).

ГОЛУБ, а, *м.*—голубь. Columba livia Briss, C. palumbus L., C. venas Gm., Turtur auritus Gray (Columba turtur L.) Вун галубы паляцелі (Лужасна, Куз. р.). Пар. галуб.

ГОЛЫ — 1) обнаженный. Яны разьдзеліс ды ляжаць голыя (Мехава, Аз. р.); 2) очень бедный. У голага ні пазычыш. Бусінькі, бусінькі—абое галюсенькі (Сянно, Сен. р.).

ГОЛЬНІК, у, *м.*—подмаренник ручейный. Galium uliginosum L. Каля канавы дзе-небудзь гольніку знойдзем (Раманаўка, Сен. р.).

ГОМАН, у, *м.*—1) говор, разговор. На лузе чуць гоман касцоў (Чашнікі, Чаш. р.); 2) шум, крик. Падняўся крык і страшэнны гоман (Кацькава, Сен. р.).

**ГОНАР**, у, *м.*—гордость, честь. Гонару свайго яму не панесьці (Пятніцкая, Беш. р.).

**ГОНІ**, *ж.*--мера земли; при чересполосном землепользовании в длинных полосах при вспашке полоса делится на несколько участков «гоняй» около 100 саженей с целью не утомлять сильно лошадь, а давать ей передохнуть на поворотах. Я узараў двоя ганей (Латыгаль, Сен. р.). Адсюль возера у чатырох гонях (Машчоны, Сен. р.).

**ГОНКА**—быстро. Вада бяжыць гонка (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ГОНТ**, у, *м.*—гонт, дранка. Я пашчапаў увесь гонт (Лоўжа, Сір. р.).

**ГОП**, *вкл.* — гоп. Ён стаяў, стаяў; тады гоп на каня — дый паехаў (Баравыя, Куз. р.).

**ГОРА**, *н.*—горе. Прыдзець гора —нагаруесься (Госьміра, Сен. р.).

**ГОРАД**, а, у, *м.*— город. Павязу ў горад (Доўжа, Куз. р.).

**ГОРАН**, а, *м.* — горн. Трэба міскі насіць у горан (Бешанкавічы, Беш. р.). У горні зялеза нагрэй (Лужасна, Куз. р.).

**ГОРАЧА** — жарко. Сягоньня горача на дварэ (Цербяшова, Куз. р.).

**ГОРКІ** — горький. Салодкім псуюць, а горкім лечуць (Алексінічы, Сен. р.).

**ГОРШ** — хуже. Мне жывецца горш, як табе (Сянно, Сен. р.). Кала Віцебска кепска, а кала Воршы яшчэ горшы (Навікі, Віц. р.).

**ГОРШАЦЬ**, *дзс.*—ухудшаться. Мая дачка ўсё горшаіць — як відаць памрэць (Амільлянова, Лёз. р.).

**ГОРШЫ**—1) худший. Горшае насеньне прададзім (Лужасна, Куз. р.); 2) старший. Явіўся самый горшы (Клюі, Куз. р.).

**ГРАБ**, у, *м.* — граб. Carpinus Betulus L. Рэдка, рэдка, алі ёсь і ў нас граб (Жэрына, Чаш. р.).

**ГРАБАР**, а, *м.*--землекоп. Прыдзецца ўвосень грабара прасіць дзьве канавы даць (Навікі, Віц. р.).

**ГРАБАРСТВА**, *н.* — землекопное дело. На грабарстве згубіў здароўе (Машчоны, Сен. р.).

**ГРАБАЦЬ**, *дзс.* — 1) скрести. Грабаіць па сьцяне—ня можыць дзьвер найці (Селядцова, Беш. р.); 2) грести. Пара сена грабаць — ужо сухое (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ГРАБЕЛЬКІ**, *ж.* — журавленик Geranium pratense L. Ча пытаіш зра — пайдзі на луг і ўбачыш еты грабелькі дзе растуць (Адаменкі, Лёз. р.).

**ГРАБЕНЧЫК**, а, *м.*—цапленник. Erodium cicutarium l' Herit. Сынок, пакажы яму грабенчык —вунацькі расьцець (Лужасна, Куз. р.).

**ГРАБЁНКА**, *ж.*, **ГРЭБЕНЬ**, я, *м.*—гребешок из дерева или железа для чесания льна, пряжи. Вазьмі грабёнку і пачашы кросны (Сяргейкі, Сен р.). Кужаль абчасала на грэбень (Асінаўка, Беш. р.).

**ГРАБІЛЬНА**, *н.* **ГРАБІЛЬНЯ**, *ж.* —палка на которую насажены грабли. Ён прыстроіў ляскавае грабілна (Русінава, Сен. р.). Ён зламаў грабільню (Яноўшчына, Беш. р.).

**ГРАБЛІ**, *ж.*--грабли. Тата, дзе нашы граблі—згрэсьці сена (Клімавічы, Сен. р.). Пар. аграблі; 2) три волхва в созвездии Орион. Вунацькі граблі ужо відаць на небі (Лужасна, Куз. р.).

**ГРАБЛО**, *н.*—весло. Трэба прывіньціць к лодцы два граблы (Сянно, Сен. р.).

ГРАБЯНЕЦ, а, *м.* — гребешок. Мой грабянец пакарабаціўся (Навікі, Беш. р.).

ГРАБЯСТ, у, *м.* — жерди для зарешечивания крыши по стропилам. Мы цясалі грабяст (Застарыньне, Беш. р.).

ГРАДА, *ж.* 1) гряда. У мяне сем град на гародзе (Лужасна, Куз р.); 2) штабель дров. Дровы склалі у граду (Оўсішча, Сен. р.).

ГРАДКА, *ж.* — жердь у печки на которую вешают одежду, белье и проч. Павесь на градку (Гарадок, Гар. р.).

ГРАДНІК, у, *м.*—подмаренник белый. Galium Mollugo L. Як я ведаю, граднікам нічога ня лечуць (Лазаватка, Сур. р.).

ГРАДНІЧАК, а, *м.*—полки для посуды. Вазьмі латушку з градпічку (Бабінавічы, Выс. р.).

ГРАДОВЫ—не совсем очищенный от мякины (хлеб). Градовы, хлеб нясмашны (Лёзна, Лёз. р.).

ГРАЖНЯ, *ж.* — огороженная дорога. Скот ганяюць у поля па гражні (Сасонкі, Куз. р).

ГРАЗА, *ж.* – угроза. Гразы ён не баіцца, пакуль не дадуць (Лужасна, Куз. р.).

ГРАЗІЦЦА, *дзс.* — грозиться. І жалезнай сабількай грозіцца (Яноўшчына, Беш. р.).

ГРАЗКА — грязно. На вуліцы гразка (Ісачкава, Аз. р.).

ГРАЗКІ — 1) грязный. Дужа гразкі у нас памост (Лужасна, Куз. р.); 2) топкий. Не хадзі туды, там гразкае балота (Ісачкава, Аз. р).

ГРАЗЬ, *ж.* — грязь. Вялікая гразь на вуліцы (Барсукі, Аз. р.).

ГРАК, а, *м.*, — грач. Corvus frugilegus L. Гракі населі на пожню (Навікі, Беш. р.).

ГРАКНУЦЦА, *дзс.* — упасть, брякнуться, грохнуться. Ляцеў з валацні ды аб зямлю як гракнуўся, ажно дух заняло (Місьнікі, Куз. р.).

ГРАМА, *аг.*—старожил. У грамы запытай (Дабрамысьль, Лёз. р.).

ГРАМАДА, *зб.*—толпа. Грамада людзей сабралася, а яны ўсё б'юцца! (Латыгаль, Сен. р.).

ГРАНАТОВЫ — гранатового цвета, темносиний. Я купіла гранатоваю хустку (Чашнікі, Чаш. р.).

ГРАНІЦА, *ж.* —граница, межа. Ад Хвёдара, гэтай граніцай ідзі (Яноўшчына, Беш. р.).

ГРАНІЧНІК, а, *м.*—пограничный житель. Гранічнікам жыў тады пры панскім полі (Ходцы, Сен. р.).

ГРАНКА, *ж.* — грядка на огороде. На гародзе вузкія гранкі (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ГРАЦАВАЦЬ, *дзс.* — ровнять, утаптывать. У садзе дарожкі грацуюць і пасыпаюць пяском (Павульле, Чаш. р.).

ГРАЦЬ, *дзс.*—играть. Грай, мы будзем гуляць (Навасёлкі, Сен.р ).

ГРАЧЫШНЫ—гречневый. Купі грачышных круп (Пустынкі, Сен. р.).

ГРЭБАВАЦЬ, *дзс.* — брезгать. Кум, калі не грэбаеш, дык еш (Асіпова, Аз. р.).

ГРЭБЛА, *н.*—железная щетка, скребница для чистки лошадей. Іван узяў грэбла й шчотку чысьціць каня (Сьвеча, Беш. р.).

ГРЭБЛЯ, *ж.* — плотина, вымощенная деревом и проч. дорога в болотной местности. На гэтай грэблі заўсёды гразь (Забор'е, Сен. р.).

ГРЭЦКІ — гречневый. Грэцкія крупы — смачныя (Дзямідавічы, Чаш. р.). Смачна грэцкая каша (Сухарукава, Аз. р.). Пар. грачышны.

ГРЭЧКА, *ж.* — гречиха. Fagopyrum esculcufum Mnch (Polygonum Fagopyrum L.). У нас мала урадзілась грэчкі (Казлова, Куз. р.).

ГРОМ, у, *м.*—гром Гром грыміць (Бабінічы, Віц. р.).

ГРОМАТНІК, у, *м.* — Петров крест. Lathraea Squamaria L. А во і громатнік расьцець (Лужасна, Куз. р.).

ГРОШ, а, *м.*—грош, полкопейки. Ета грош па цяперашняй цане, а ня грошы (Макеенкі, Аз. р).

ГРОШЫ, ай, *м.*—деньги. Грошы на усё нада (Рудня, Аз. р.).

ГРУБЕЦЬ, *дзс.*--толстеть. Чаму яму ня жыць—усё грубеіць (Пудаць, Сур. р.).

ГРУБІНЯ, *ж.*—толщина. Зьмерай грубіню гэтай асініны (Халамер'е, Аз. р.).

ГРУБКА, *ж.* — голландская печка. У нас у хаце дзьве грубкі (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГРУБЫ—толстый. Маё палатно грубое, грубей за твайго (Сянно, Сен. р.).

ГРУГАН, а, *м.*—ворон. Corvus corax L. Крычыць груган над лесам (Вішкавічы, Чаш. р.).

ГРУД, у, *м.*—куча хворосту. Мы учора хадзілі у лес усей дзяреўней паліць груды (Халамер'е, Аз. р.).

ГРУДА, *ж.*—замерзшая комьями грязь. Ня бяжыць па грудзе конь (Азярэцк, Сен. р.).

ГРУДНІШНІК, у, *м.*—лафатера. Lavatera thuringiaca L. Дзейкалі лячыць груднішнікам, а яно й няпраўда, ні памагаіць (Астроўна, Віц. р.).

ГРУЗЬДЗІЛА, *н.*—веревка для внуздывания лошади. А ты б грузьдзіла ей надзеў! (Пушкары, Сен. р.).

ГРУЗНЫ—тяжелый. Гэта бярно грузнае (Хмары, Куз. р.).

ГРУДЗІНА, *ж.*—вышитая грудь в рубашке. Дай мне рубашку з грудзінай (Веляшковічы, Лёз. р.).

ГРУДЗІСТЫ — неровный, бугорчатый. Коням цяжка па грудзістай дарозе (П я ц і г а р с к, Беш. р.).

ГРУК, ГРУКАТ, у, *м.*—стук, грохот. Абўдзіў мяне сваім грукам (Азярэцк, Сен. р.). Тамацькі вечны грукат (Лужасна, Куз. р.).

ГРУКАТАЦЬ, ГРУКАЦЬ, *дзс.*—стучать, грохотать. Спаў у мельніцы, а як пачало грукатаць, дык ён—драла! (Лужасна, Куз. р.). Што гэта там грукаіць? (Селядцова, Беш. р.).

ГРУНТ, у, *м.*—грунт, верхний слой земли. На іх груньце нічога ні расьце (Сукрэмна, Сен. р.).

ГРУНТАВАЦЦА, *дзс.* — основываться, утверждаться. Дарма ён грунтуецца на етай зямлі—пагоняць (Б. Летцы, Куз. р.).

ГРУНТАВАЦЬ, *дзс.* — утверждать. Як служыў сын, ды грунтаваў яго тамацькі—усё было ладна (Санькава, Куз. р.).

ГРУНТОЎНЫ — основательный, крепкий. Грунтоуную падпору даў, а скасілась! (Ж у к а ў к а, Лёз. р ).

ГРУТА, *ж.*—веретенник большой. Limosa limosa L. Груту ён забіў (Асташова, Чаш. р.).

ГРУЦА, *ж.*—1) суп из перловой крупы с картофелем или горохом и т. п. Максім прынясі гароху, устаўлю сягоньні груцы (Вішкавічы, Чаш. р.); 2) картофельная каша. Сёньня я зварыла груцу (Раманаўка, Сен. р.).

ГРУЦАВЫ—перловый, ячменный. Груцавай кашы ня люблю (Асінаўка, Выс. р.).

ГРЫБ, а, *м.*—гриб. У нас ядуць грыбы: апенкі, варушкі, ваўнёнкі, сураежкі, грузды, барвікі, бабкі, падасінавікі, рыжыкі, мышырнікі, рашотачкі, казлы, добра іх згатаваўшы паасобку, або разам (Альшанікі, Беш. р.).

ГРЫБАЗВОН, а, *м.*—губошлеп. Што ты, як грібазвон які!? (Лук'ева, Аз. р.).

ГРЫБАТЫ—с толстыми губами. Грыбаты, а лоўка цалуіцца! (Лужасна, Куз. р.).

ГРЫБНІК, а *м.*—собиратель грибов. Сёньні грыбнікі ужо прайшлі і няма што зьбіраць (Сіроціна, Сір. р.).

ГРЫБОК, а, *м.*—толстый пшеничный блин с приправами. Дай яму грыбка! (Чашнікі, Чаш. р.).

ГРЫБЫ, оў, *м.*—губы (насмешливо). Чаго ты надуў свае грыбы? (Лук'янова, Сен. р.). Разьбілі яму усі грыбы (Рыбчына, Сір. р.).

ГРЫВА, *ж.*—грива. Папраў каню грыву (Бешанкавічы, Беш. р.).

ГРЫЖА, ГРЫЖАНА, ГРЫЖАНКА, ГРЫЖЫНА, ГРЫЗАНКА, ГРЫЗА, *ж.*—брюква. Brassica Napus L., f esculenta DC. Грыжа вырасла бальшая (Рудня, Аз. р.). Па капусьце наторкала грыжаны (Вядрэнь, Чаш. р.). Пасеяла троху грыжанкі і расады (Навікі, Віц. р.). Пайду вырву грыжыну (Ганкавічы, Беш. р.). Грызанку хлопцы парвалі (Кабішча, Куз. р.). Грыза дужа расьце (Баркова, Куз. р.).

ГРЫЖОЎНІК, у, *м.*—ботва брюквы. Наламі грыжоўніку каровам (Дуброва, Беш. р.).

ГРЫЗЛА, *н.*—морда. Даў яму па грызлу (Патапенкі, Выс. р.).

ГРЫЗЬ, *ж.*—грыжа. Hernia. У Зьмітры на локцю грысь (Сьвеча, Беш. р.).

ГРЫЗЬЛІВЫ — сварливый. Грызьлівая твая цешча—як ты жывеш? (Азярышча, Лёз. р.).

ГРЫЗЬНЯ, *ж.*—ссора, брань. У іх хаце вечная грызьня (Амільлянова, Лёз. р.).

ГРЫЗЬЦІ, *дзс.*—грызть. Сабака костку пад сталом грызець (Веляшковічы, Лёз. р.).

ГРЫМЕЦЬ, *дзс.*—греметь. Гром грымеў (Доўжа, Куз. р.).

ГРЫМНУЦЦА, *дзс.*—грохнуться, упасть Як грымнуўся на саўгялі (Стаішча, Чаш. р.).

ГРЫМНУЦЬ, *дзс.*—1) упасть. Грымнуў з гары, дык чуць устаў (Астроўна, Віц. р.); 2) ударить. Грымнуў у плечы добра (Шэўніна, Куз. р.).

ГРЫМОТА, *зб.*—гром. Мы чуем грымоту (Пушкары, Сен. р.).

ГРЫЎНЯ, *ж.*—монета в 10 к. Мне грыўні не хапае (Селядцова, Беш. р.).

ГРЫЦ, а, *м.*—болотный кулик. Limosa melanura Leisl. Грыца забіў на балоці (Лужасна, Куз. р.).

ГУБА, *ж.*--кроме общего значения—гриб растущий на деревьях и употребляемый высушенным в качестве трута. Дай мне губы агню высеч (Азярэцк, Сен. р.).

ГУБІЦЬ, ГУБЛЯЦЬ, *дзс.*—терять. Ня губі часу (Пятніцкая, Беш. р). Яму што ні дай—губляіць (Смалякі, Гар. р.).

ГУБКА, *ж.*—1) мера длины основы полотна по стене, на которую снуют (9—10 арш.). Прадала губку рушнікоў (Асінаўка, Беш. р.). Мар'я аснувала 5 губак красён (Сьвеча, Беш. р.); 2) узелок на нитке основы обозначающий меру—«губку». Завя-

ЖАРДАГОН, а, у, *м.*--озорник. Уходу яму няма, жардагону гэтакаму (Луб'ева, Аз. р.).

ЖАРДЗЁ, *н., зб.*—жерди. Едзь за жардзём, нада баркан гарадзіць (Заазер'е, Сен. р.).

ЖАРДЗІНА, *ж.*—жердь. Я высек жардзіну (Александрова, Гар. р.).

ЖАРКАСЬЦЬ, *ж.*—самое жаркое место. Грэйся сабе, але чаго лезешь на самую жаркасьць? (Чыр. Зорка, Чаш. р.).

ЖАРКАТА, *ж.*—жара. Жарката сёньні вялікая (Лужасна, Куз. р.).

ЖАРКОТНА — очень жарко. Жаркотна было дужа ў бані (Княжыца, Куз. р.).

ЖАРНАСЕК, а, *м.*—1) работник кующий жернова. Пазаві жарнасека жорны каваць (Лужасна, Куз. р.); 2) сильный мужчина. Ён і цябе цераз страху перакінець, гэткі жарнасек! (Сукрэмна, Сен. р.).

ЖАРОБКА, *ж.*—молодая кобыла. У саседа добрая жаробка (Угляны, Куз. р.).

ЖАРОНКІ, *ж.* — коноплянная шелуха. У нашым дзягне вельмі многа асталося жаронак (Замошша, Сен. р.).

ЖАРСТВА, *ж.*–дресва. У лазьні на печы многа жарствы (Хадулава, Куз. р.).

ЖАРСЬЦЬ, *ж.*—страсть. У яго вялікая жарсьць да гарэлкі (Беразуга, Сір. р.).

ЖАРСЬЦЬВЯНКА, *ж.*—сосуд с водой и дресвой, который берут на сенокос точить косы. Зьбегай паднясі жарсьцьвянку (Прыгунова, Сір. р.).

ЖАРТ, у, *м.*—шутка. Іван з Марыляй заводзяць жарты (Пятніцкая, Беш. р.).

ЖАРТАВАНЬНЕ, *н.* — шутки, Нягожае яго жартаваньне (Расна, Сен. р.).

ЖАРТАВАЦЬ, *дзс.* — забавляться шутками. Дзяўчаты й мальцы ўсю ноч жартавалі (Сянно, Сен. р ).

ЖАРТАМ — шутя. Жартам згубіў дзяўчыну (Кузьміно, Сен. р.).

ЖАРТАЎНІК, а, *м.*—шутник. Наш начальнік вялікі жартаўнік (Расна, Сен. р.).

ЖАРТЛІВЫ — шутливый. Ёска хлопчык жартлівы (Сялец, Чаш. р.).

ЖАРЫЦЬ, *дзс.*—кроме общего значения—сильно бить. За што каня жарыш? (Лужасна, Куз. р.).

ЖАСЬЦЕЙ — строже, жестче. З ім што жасьцей пастуліш, то луччэй (Лахманы, Аз. р.).

ЖАЎНА, *ж.* — 1) желна. Dryocopus martius Boie. Жаўна лётаіць у бару (Пятніцкая, Беш. р.); 2) прожора. Ці скора ты нажарэсься, жаўна? (Асіпова, Аз. р.).

ЖАЎНІЦЬ, *дзс.* — повторять одно и тоже. Не жаўні, а то надаеў (Выгары, Куз. р.).

ЖАЎРАНАК, ЖАЎРАК, а, *м.*, ЖАЎРАНКА, *ж.* — жаворонок. Alauda arvensis L. Чутна песьня жаўранка (Альгова, Віц. р.). Жаўрак запеў—дык вясна блізка (Заронава, Куз. р.). Ужо жаўранка запела (Чашнікі, Куз. р.).

ЖАЎТУХА, *ж.*—1) болезнь. Jcterus. Жаўтуха ўвалілася ў яе (Сянно, Сен. р.); 2) крестовник. Senecio Jacobaea L. Жаўтуха цьвіціць даўно (Жэрына, Чаш. р.).

ЖАЎЦЕЦЬ, *дзс.*—желтеть. Марылька нешта худзеець і жаўцеець (Язьвіна, Сір. р.).

ЖАХ, у, *м.*—ужас, жуть. На мяне жах напаў тамацькі (Навасёлкі, Сен. р ).

ЖАХНУЦЦА, *дзс.*--ужаснуться. Я аж жахнуўся, угледзіўшы (Беліца, Сен. р.).

ЖБАН, ЖБАНОК, а, *м.* — кувшин, кувщинчик. У жбанку было малако (Чарніца, Лёз. р.). Пар. збанок.

ЖБАНКІ, оў, *м.*—желтая водяная лилия. Nuphar luteum Sm (Nymphaca lutea L.). Нарві мне жбанкоў (Сянно, Сен. р.).

ЖБАНОЧКІ, аў, *м.* — колокольчики. Campanulla (розныя віды). На лугу закрасаваліcь жбаночкі (Мішкава, Куз. р.).

ЖВАВЕЙ—резвее, живее. Жвавей хадзі, ні валачыся! (Сянно, Сен р.).

ЖВАВЕЦЬ, *дзс.*—становиться резвым, проворным. Жвавеець мой канёк (Сянно, Сен. р.).

ЖВАВЫ—резвый, проворный. Жвавая кабылёнка (Оўсішча, Сен. р.).

ЖВАКА, *ж.*—жвачка. Карова жваку згубіла (Марудзенкі, Сір. р.)

ЖВАКАЦЬ, *дзс.*—чавкать. Ён жвакаець, як авечка (Сянно, Сен. р.).

ЖВАНЬНЕ, *н.*—жевание. Палажы лыка ў рот дык яна і пачне жваньне (Пятрочкі, Сір р.).

ЖВІР, у, *м.*—гравий. Па жвіру кепска расьце (Луб'ева, Аз. р.).

ЖГУТОК, а, *м*—веревка для путания лошадей. Дай жгуток каня спутаць (Мікалаёва, Куз. р.).

ЖДАНКІ, *ж.*—приготовленное к приему гостей. Жданкі самі зьядзім (Беліца, Сен. р.).

ЖДАНЬНЕ, *н.*—ожидание. Ужо апрыкла мне жданьне (Лужасна, Куз. р.).

ЖДАЦЬ, *дзс.*—ожидать. Сымон падышоў і жджэць Анюту (Зайкава, Меж. р.).

ЖЭРДЗЬ, *ж.*—шест, которым увязывают сено, снопы на возу. Добра, што даўгая жэрдзь, а то ня ўціснуў бы ваза (Русінава, Сен. р.).

ЖЭРЦІ, *дзс.*—жрать. Жары ужо, і калі ты ўжо нажарэшся? (Жукаўшчына, Куз. р.).

ЖЭЎЖЫК, а, *м.*—живчик, шаловливый мальчик. Пашоў вон, жэўжык! (Пустынкі, Сен. р.).

ЖЛУКТА, *н.*—кадка для золения белья при мойке. Наша жлукта рассохлася (Сянно, Сен. р.).

ЖЛУКЦІЦЬ, *дзс.*—1) мочить в горячей воде с золой, золить. Трэба жлукціць скуты (Латыгаль, Сен. р.); 2) не в меру пить. Грыгор жлукціць водку (Слабодка, Сір. р.).

ЖЛЯБОЎКА, *ж.*—распутница. Яна усім вядомая жлябоўка (Храпавічы, Куз. р.).

ЖМАКІ, *ж.*—жмыхи. Цяпер жмакі дарагі: па руб дваццаць капеек (Навікі, Віц. р.).

ЖМАЦЬ, *дзс.*—жать, тиснуть. Сусед, калі вітаецца са мной, дык дужа жмець руку (Сянно, Сен. р.).

ЖМЕНЯ, ЖМЕНЬКА, *ж.* — горсть. Дай жменьку гароху (Раіны, Аз. р.).

ЖМУЛЯКАЦЬ, *дзс.*—чавкать. Што ты усё там, ходзючы, жмулякаеш? (Рравы, Сен. р.).

ЖМУРКІ, *ж.*—игра. Мы гулялі ў жмуркі (Сянно, Сен. р.).

ЖМУТ, а, *м.*, ЖМУТКА, *ж.*—связка, охапка. Скруціў салому ў жмут (Стралкі, Беш. р.). Хлапец нарваў цэлую жмутку травы (Даргейкі, Сен. р.).

ЖМЫНДА, *аг.*—пустослов. Гаворыць, як жмында (Сянно, Сен. р.).

ЖМЫНДАЦЬ, *дзс.* — пустословить. Яна ўжо такая—чуць толь-

кі што, дык яна нядзелю будзець жмындаць (Сукрэмна, Сен. р.).

ЖНІВА, *н.*—жатва. Настала, брат, ужо пара жніва (Асінаўка, Выс. р.).

ЖНІЎНІК, у, а, *м.*—пни, остатки стеблей на сжатом поле. Жніўнік дужа колецца (Горбава, Лёз. р.).

ЖОДЗЕН, ЖОДЫН, ЖАДНЫ—каждый. Я працую жодзен дзень (Гравы, Сен. р.). Якуб жодын дзень прыходзіць к нам (Сялец, Чаш. р.). З жадным яна брэшацца (Сянно, Сен. р.).

ЖОЛАБ, а, *м.*—кроме общего значения—корыто для кормления животных. Разьвядзі у жолабе пойла коням (Вароныкі, Сір. р.). Сьвіньні елі с жолаба (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЖОЛУД, а, *м.*—желудь. Жулудоў дужа многа будзіць (Сьліжыкі, Куз. р.).

ЖОНКА, *ж.*—жена. Пану верна ні служы, а жонцы праўды ні кажы (Рудня, Аз. р.).

ЖОНЧЫН—женин. Жончын дрыліх нехта ўкраў (Каралькі, Сір. р.).

ЖОРАН, а, *м.*—жернов. Пазаві жарнасека жорны каваць (Лужасна, Куз. р.).

ЖОРАЎ, а, *м.*—1) журавль. Grus cinerea Bechsf. Вон журавы паляцелі (Дрыкольле, Куз. р.); 2) колодезный журавль. Антон к свайму калодзісю зьдзелаў жораў (Баравыя, Куз. р.).

ЖОРНАВЫ—смолотый на ручных жерновах. Жорнавая мука буйная (Сянно, Сен. р.).

ЖОРНЫ, аў, *м.*—ручная мельница, жернова. Мы самі мелем хлеб у жорнах (Раіны, Аз. р.).

ЖОРСТКІ — жесткий, колючий. Пясок дужа жорсткі (Сянно, Сен. р.).

ЖОСТКІ—шустрый. Вот і маленькі, але ж гэткі жосткі малец: усюды ён пасьпеець (Сянно, Сен. р.).

ЖОЎКЛЫ—пожелтевший. Жоўклыя квяты выкінулі (Лужасна, Куз. р.).

ЖОЎКНУЦЬ, *дзс.* — желтеть. Жоўкнець усё гэта (Сянно, Сен. р.).

ЖОЎЦЬ, *ж*—желчь. Лопнула жоўць (Сянно, Сен. р.).

ЖРАНЬНЕ, *н.*—еда не в меру. Пакінь ты сваё жраньне (Пустынкі, Сен. р.).

ЖРАТВА, *ж.*—еда. Жратва у нас няважная (Александрова, Гар. р.).

ЖРАЦЬ, *дзс.*—жрать, жадно есть. Дакуль ты будзеш жраць, прорва? (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЖУДАСНА—жутко. Мне стала неяк жудасна (Лук'янова, Сен. р.).

ЖУК БАБОВЫ, ЖУК БЯРОЗАВІК, а, *м.*--жук (?). Пара боб сеяць —ужо жукі бабовыя ёсьць (Біклажа, Беш. р.). Жук — бярозавік во (Шыпы, Сен. р.).

ЖУКОВІНА, *ж.*—кольцо, перстень. Зьміцер падарыў мне жуковіну (Зайкава, Меж. р.).

ЖУЛЕЙКА, *ж.*—гл. жалейка. ЖУЛЕІЦЬ, *дзс.*—играть на свирели. Хлопцы увесь дзень жулеюць на полі (Асінаўка, Беш. р.).

ЖУР, у, *м.*—жидкий овсянный кисель. Досыць я журу нахлябаўся (Сухарукава, Аз. р.).

ЖУРАВІНА, *ж.* — клюква. Oxycoceus palustris Pers., O. microcarpa Turcz. У нашым балоце расьце журавіна (Салаўёва, Куз. р.).

ЖУРАВІНАВЫ, — клюквенный. Журавінавага кісялю далі (Марудзенкі, Сір. р.).

ЖУРБА, *ж.*—грусть, печаль. Журба мяне апанавала (Сянно, Сен. р.).

ЖУРЭНЬКА, *ж.*—жидкая уха. Я ела журэньку (Вяжышча, Беш. р.).

ЖУРЫХА, *ж.*—жидкий овсянный кисель. У пост толькі і варуць журыху (Лятоўшчына, Куз. р.). Пар. жур.

ЖУРЫЦЦА, *дзс.* — грустить, печалиться. Чаго ты журыцца пачаў? (Сянно, Сен. р.).

ЖУРЛІВЫ — бранчливый. Ці журлівая твая сьвякроў? (Сянно, Сен. р.).

ЖУРЫ, оў, *м.*—дух. Каб з цябе журы вышлі! (Сукрэмна, Сен. р.).

ЖУЧОК, а, *м.*—кроме общего значения — пряжка для волос. Бяры свой жучок (Берашоўцы, Беш. р.).

ЖУЧЫЦЬ, *дзс.*—бранить. Вунацька матка яго жучыць (Мазалава, Куз.. р.).

ЖЫВА,—живо, быстро. Бяжы жыва (Госьміра, Сен. р.)

ЖЫВАКОСТ, у, *м.*—окопник. Symphytum officinale L. Жывакост расьце ў гародзе (Утрылава, Сен. р.).

ЖЫВАСІЛЬЛЮ—1) нахально. Жывасільлю ўцягнулі й міне (Рыбчына, Сір. р.); 2) сверх сил. Жывасільлю не дасі (Рыбчына, Сір. р.).

ЖЫВАСЬЦЁР, а, *м.*—шереспер. Aspius rapax Leske. Жывасьцёра ловяць на жыўца або на падонную вудачку, або едуць пасярод ракі на лоццы і пушчаюць лёску з жыўцом без патапца й грузіла (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЖЫВАЦЕЛЬНІК, у, *м.*—василистник колокольчиколистный. Thalictrum aquilegixolium L., T. angustifolium Jacq. Пахожай травы многа, а жывацельніку німа (Палешына, Гар. р.).

ЖЫВАЦІНА, *зб.*—скот. Усю жываціну прадаў (Сураўні, Сір. р.).

ЖЫВАЦІНІНА, *ж.*—животное. Жывацініна хварэець нешта (Марчонкі, Сур. р.).

ЖЫВЕЦ, а, *м.*—живая рыбка насаженная на крючок удочки как насадка для крупной рыбы. Акуні і щукі клююць на жыўца (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЖЫВЁЛА, *зб.*—домашние животныя. Трэба даглядаць жывёлу (Раіны, Аз. р.).

ЖЫВІЦЦА, *дзс.* — кормиться. Ён і жывіцца так кала нас (Алексінічы, Сен. р.).

ЖЫВОЕ СЕРАБРО — ртуть. У градусьніку жывоя сірабро (Аськершчына, Беш. р.).

ЖЫВУЧАСЬЦЬ, *ж.* — способность заживлять. Ніпраўда, усе-ж жывакост мае жывучасьць (Марудзенкі, Сір. р.).

ЖЫВУЧКА, *ж.*—живучка. Ajuga reptans L. Жывучку скаціна есьць (Бор, Чаш. р.).

ЖЫВУЧЫ—живучий. Сабака жывучы, ні так скора яго заб'еш (Вышадкі, Меж. р.).

ЖЫДКІ—жидкий. Жыдкое цеста на хлеб зробіла (Янавічы, Сур. р.).

ЖЫЖА, *ж.* — детское—огонь. Вун, дзетка жыжа (Аськершчына, Беш. р.).

ЖЫЖКА, *ж.*—жидкость. Зьлей жыжку з гаршчка (Стаішча, Чаш. р.).

ЖЫДЗЕЙ—жиже. Жыдзей роб кашу, а то нясмачна (Марчонкі, Сур. р.).

ЖЫДЗІНА, *ж.*—тонкий прут. Жыдзінаю яго адлупцаваць (Сянно, Сен. р.).

ЖЫЛЬЛЁ, *н.*—жилище, жилье. Жыльлё неяк на хутары збудаваў (Марчонкі, Сур. р.).

ЖЫРАВАЦЦА, *дзс.*—наедаться. Жыруйся, жыруйся мая сястрычка (Губіца, Сір. р.).

ЖЫРНУЦЬ, *дзс.*—поесть. Дай чаго-небудзь жырнуць (Казьяны, Сір. р.).

ЖЫРАНКА, *ж.*—спичка. Брат купіў жыранкі (Белькава, Беш. р.).

ЖЫСЬЦЬ, *ж.*—жизнь. Кожны павінен вучыцца дзеля паляпшаньня сваей жысьці (Алексінічы, Сен. р.).

ЖЫТА, *н.*—рожь. Secale cereale L. Во, у Сідара добрае жыта (Язьвіна, Сір. р.).

ЖЫЎНАСЬЦЬ, *зб.*—домашние животныя. Ніякая жыўнасьць у яго ні вядзецца (Лужасна, Куз. р.).

ЖЫХАР, а, *м.*—житель. Дрэнны ён жыхар—на месцы ні сядзіць (Капланы, Сен. р.).

ЖЫХАРСТВА, *н.*--жительство· Які ён жыхар бяз жыхарства? (Капланы, Сен. р.).

ЖЫХАРЫЦЬ, *дзс.*—жить в данной местности на хозяйстве. Каторы год ён тутака жыхарыць? (Капланы, Сен. р.).

ЖЫЦІЦА, *ж.*--костерь. Bromus arvensis L. Замест жыта вырасла жыціца (Ісачкава, Аз. р.).

ЖЫЦЬЦЁ, *н.*—жизнь. Жыцьцё сабаччае, а уміраць ня хочацца (Пяцігарск, Беш. р.).

## ДЖ.

ДЖАЛА, *н.*--жало. Пчала ўсадзіла джала ў нос (Сянно, Сен. р.).

ДЖВЫГ, *вкл.*—быстрота. Сядзеў, сядзеў, а тады джвых і пашоў (Сялец, Чаш. р.).

ДЖВЫГНУЦЬ, *дзс.*—быстро ударить, побежать и т. п. Джвыгнулі яго добра (Доўгае, Беш. р.).

ДЖГАЦЬ, *дзс.*—быстро ударять. Джгані яго між вушэй (Сянно, Сен. р.).

ДЖУГЛЫ — подвижной, резвый. Хлопчык надта джуглы (Новае Сяло, Сен. р.).

ДЖГУЧКА, *ж.*—крапива. Urtica urens L. На джгучку апяклася (Дубнікі, Сен. р.).

ДЖГУЧЫ—жгучий. А ты думаў джгучка ня джгучая, хоць і сарваная? (Новае Сяло, Сен. р.).

ДЖУПЛА, *н.*—1) кнут. Ён ссорыў джупла (Вяжышча, Беш. р.); 2) нагоняй, наказание. Бацька даў джупла сыну (Тараскі, Чаш. р.).

ДЖЫГУН, а, *м.*—1) верткий. Але-ж ты такі джыгун! (Чашнікі, Чаш. р.); 2) чугун. Ета верна джыгун, а не зялеза (Навікі, Віц. р.).

ДЖЫГУННЫ — чугунный, Купіла джыгунны кацёл (Навікі, Віц. р.).

## З.

З, *прм.*--1) с. Ён работаў з раньня і да сьмярканьня (Зямковічы, Сен. р.). З вайны ён прышоў аднавокі (Пятніцкая, Беш. р.); 2) из. Цацілася-б рэчка з горлечка—напіўся-б (Цішковіна, Сен. р.).

ЗА, *прм.*—кроме общего значения: 1) при. За табою горш, як за чужым (Лужасна, Куз. р.); 2) во время, в течении. За дзень звазілі снапы (Карма, Куз. р.); 3) через известное время. За два часы будзім тамацькі (Бель, Выс. р.).

ЗААРАЦЬ, *дзс.* — запахать. Ячмень бацька заараў ужо (Лятоўшчына, Куз. р.).

ЗААРЫШТАВАЦЬ, *дзс.* — арестовать, задержать. Абакраў школу і настаунікаў ды ўцёк, але ў Віцебску заарыштавалі (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАБАБОННЫ—суеверный. Забабонны народ у етай дзярэўні (Вышадкі, Меж. р.).

ЗАБАБОНЫ, *ж.* — 1) предразсудки, суеверия. Гэты чалавек ведае многа забабонаў (Оўсішча, Сен. р.); 2) пустяки. Брось ты бабскія забабоны (Мазалава, Куз. р.).

ЗАБАБУРКА, *ж.* — складка. Ай, якія дрэнныя кішкі — з забабуркамі! (Машкі, Сен. р.).

ЗАБАВА, *ж.*—1) времяпрепровождение. Нейкую ж яны там забаву маюць, што так доўга сядзяць (Дубнікі, Сен. р.); 2) промедление. Забава ў дарозе была: каток зваліўся (Карма, Куз. р.).

ЗАБАГАЦЕЦЬ, *дзс.*—стать богатым. Забагацеў наш сусед пасьля таго (Косы, Віц. р.).

ЗАБАДЗЯЦЦА, *дзс.*—изнемочь бродяжничая. Бач, як ён забадзяўся, чуць ідзе (Горбава, Лёз. р.).

ЗАБАЛАМУЧВАЦЬ, *дзс.* — запутывать. Гаварылі добра, а ён забаламучваць пашоў (Труханавічы, Чаш. р.).

ЗАБАЛБАТАЦЬ, *дзс.* — залопотать. Забалбатаў нейкую малітву (Чарніца, Лёз. р.).

ЗАБАЛІЧЧА, *н.*—часть сенного сарая за балкою. Поўная забалічча наклаў сена (Ульянавічы, Сен. р.).

ЗАБАРАНАВАЦЬ, *дзс.* — заборонить. Забаранаваў двое ганей (Труханавічы, Чаш. р.).

ЗАБАРАНІЦЬ, *дзс.*—запретить. Ужо забаранілі пасьціць на пожні (Бель, Выс. р.).

ЗАБАРОНЕНЫ — 1) защищенный. Забаронены ад гэтых гіцляў у той раз, ён больш на вячоркі ня ходзіць (Амільянова, Лёз. р.); 2) запрещенный. Гэта поле забароненае—тут канюшына (Крывіна, Куз. р.).

ЗАБАРСАНЫ—с веревочками продетыми в ушки лаптя. Вазьмі забарсаныя лапці (Касачы, Лёз. р.).

ЗАБАРСАЦЬ, *дзс.* — затянуть веревочки в ушки лаптей. Забарсай новыі аборы ў лапці (Дражна, Куз. р.). Забарсяй аборы ў лапці (Зямковічы, Сен. р.).

ЗАБАРСЬНІ, *ж.*—место, где подвязываютьсся лапти, щиколотки. Вада па забарсьні (Доўгае, Беш. р.).

ЗАБАЎКА, *ж.*—игрушка. Далі дзяцёнку забаўку, дык і змоўчыў (Марчонкі, Сур. р.).

ЗАБАЎЛЯЦЦА, ЗАБАВІЦЦА, *дзс.* — 1) задерживаться, задержаться. Мама, дзе ты так доўга забавілася? (Асіпова, Аз. р.); 2) развлекаться, развлечься. Забаўляйся, ды й пра дзела помні (Рыбчына, Сір. р.).

ЗАБАЎЛЯЦЬ, ЗАБАВІЦЬ, *дзс.*— 1) задерживать, заддержать, развлекая. Хлопцы, ні забаўляйце дзяўчат, а за работу! (Лужасна, Куз. р.); 2) развлекать, развлечь. Я забаўляла рабёнка цацкамі (Мянюцева, Сен. р.).

ЗАБАЎНА — 1) потешно. Забаўна яны бегаюць на етай сцэні

(Лужасна, Куз. р.); 2) мешкотно. Ськідаць етыя бёрны ў раку дужа забаўна (Слабодка, Куз. р.).

ЗАБАЎНЫ—1) потешный. Забаўны хлапец ваш сынок (Лужасна, Куз. р.); 2) медлительный. Наш мельнік забаўны—ні дачакацца (Лужасна, Куз. р.).

ЗАБАЎТЫВАЦЬ, ЗАБАЎТАЦЬ, *дзс.* — приправлять, приправить кушанье. Забаўтай капусту вяршынкамі (Асінаўка, Выс. р.).

ЗАБАЧЫЦЬ, *дзс.* — завидець. Як забачыў яе, дык ходу! (Красьніца, Чаш. р.).

ЗАБЕЖНЯ, ЗАБЕЖНІЦА, *ж.*—глушь, отдаленное глухое место. Там бы і нічога жыць было, алі забежня (Дрыкольле, Куз. р.). К яму ў тую забежніцу ніхто і ня ходзіць (Асінаўка, Выс. р.).

ЗАБЕЖНІЦА, *ж.* — животное, забежавшее в чужой двор. Бяжы сынок нашу ёрку забежніцу прывядзі (Вішкавічы, Чаш. р.).

ЗАБЕЛА, *ж.*—приправа к кушаньям из молока, сметаны и т. п. Ужо месяц да капусты ніякай забелы няма (Курына, Куз. р.).

ЗАБЕЛЕНЫ — приправленный молоком, сметаною и т. п. Забеленай крупені не бярэць (Сураўні, Сір. р.).

ЗАБЁНКА, *ж.*—маленькая кадочка мерой в четверть четверика. Усыпаў каням забёнку аўса (Сьвеча, Беш. р.).

ЗАБІВАЦЬ, ЗАБІЦЬ, *дзс.*—1) убивать, убить. Дзеці забілі вужаку (Кр. Сяло, Сен. р.). Каб цябе пярун забіў! (Утрылава, Сен. р.); 2) вбивать, вбить. Трэба забіць колік (Шарыпіна, Беш. р.); 3) проконопачивать, проконопатить. Забіце пакульлем дырку (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАБІРАЦЬ, *дзс.*—забирать. Ці ёсьць жаж у вас куды забіраць бульбу? (Альшанікі, Беш. р.).

ЗАБІТЫ — убитый. Тутацька знашлі забітую качку (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗАБЛУДНЫ — заблудившийся. Заблудных кароў на трэці дзень знашлі (Балотнікі, Сір. р.).

ЗАБЛУТАЦЦА, *дзс.* — запутаться. Ты, знаць, заблутаўся (Дрыкольле, Куз. р.).

ЗАБЛЯЯЦЬ, *дзс.*—заблеять. Авечкі забляялі (Іванаўка, Чаш. р.).

ЗАБОЙ, ю, *м.*—пресс для выжимания льняного масла. У яго новы забой добра жмець (Мікалаёва, Сір. р.).

ЗАБОЙСТВА, *н.* — убийство. Во дажылі: забойствы, злачынствы (Макарава, Віц. р.).

ЗАБОЙЦА, *м.* — убийца. Во, забойца нясчасны! (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗАБОРЫНА, *ж.* — морщина. На лбе заборыны (Белькава, Беш. р.).

ЗАБОРЫСТЫ — складчатый. Дужа ў яе заборысты дрыліх (Унава, Лёз. р.).

ЗАБОЎТАНЫ—приправленный молоком и т. п. Забоўтаная капуста смачная (Косы, Віц. р.).

ЗАБРАКОЎВАЦЬ, ЗАБРАКАВАЦЬ, *дзс.*—браковать, забраковать. Майго каня забракавалі (Калышкі, Лёз. р.).

ЗАБРАТАЦЬ, *дзс.* — 1) одеть уздечку. Забратай каня і прывяжы (Дужчына, Куз. р.); 2) подвязать веревку. Забратаў аборы ў лапцёх (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗАБРОД, у, *м.*--ручная сетка. Забродам паймалі многа рыбы (Чарніца, Лёз. р.).

ЗАБРУДЗЯНІЦЦА, *дзс.* — загрязниться. Гарлач саўсім забрудзяніўся (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАБУБНІЦЬ, *дзс.*—заворчать. Апяць забубніў сваё (Навікі, Віц. р.).

ЗАБУРЫЦЦА, *дзс.*--обрушиться. Трысьцен згніў і забурыўся (Заварацьце, Сен. р.).

ЗАБУРЧАЦЬ, *дзс.*—заворчать. Забурчаў сабака — нехта йдзе (Стасева, Выс. р.).

ЗАБЫВАЦЦА, *дзс.*—забывать. Я й забыўся, што ён сказаў (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАБЫЛЬ — вдоволь. Ён мае забыль хлеба (Берасьні, Беш. р.).

ЗАБЯЛЯЦЬ, *дзс.*--приправлять молоком. Поснае ядзім: нечым забяляць (Мяжа, Меж. р.).

ЗАВАБЛЕНЫ — заманенный. Двох заваблены́х ваўкоу забілі (Красьніца, Чаш. р.).

ЗАВАДНЫ—сварливый. Ніхто ня думаў, што ён такі завадны чалавек (Чыпуліна, Сен. р.).

ЗАВАЖЫЦЬ, *дзс.* — стать весить. Мой парсюк заважыў 10 пудоў (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАВАДЗІЦЬ, *дзс.*—повредить. Сёньня не завадзіць пасеяць жыта (Косы, Віц. р).

ЗАВАДЗКІ—племенной. У яго коні завадзкія (Канавалава, Куз. р.).

ЗАВАЙСТРЫЦЬ, *дзс.* — заострить. Завайстры карандаш (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАВАЛ, у, *м.*, ЗАВАЛА, *ж.*— деревянная или железная дверная задвижка. Запрі дзьвері на завал (Жабяньцяі, Сур. р.). І завалу адламалі ў хаце (Дзяды, Сір. р.).

ЗАВАЛІЦЦА, *дзс.*--упасть. Яна пайшла на вуліцу — можа там заваліласся (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАВАЛКІ, *ж.*—1) железы. У дзядзіны за вушмі завалкі (Навікі, Беш. р.); 2) болезнь желез. Adenitis. Яго сьціснулі завалкі (Сянно, Сен. р.).

ЗАВАЛОЖВАЦЬ, *дзс.*—заправлять. Завалож кашу салам (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗАВАЛЯШЧЫ — негодный к употреблению. Пасек заваляшчую саху (Сянно, Сен. р.).

ЗАВАНЬ, *ж.* — залив. Трэба прайсьці з браднём у тый завані (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЗАВАРАЖКІ, *н.* — ворота из отдельных жердей. Не забудзь залажыць заварашкі (Луб'ева, Аз. р.).

ЗАВАРВАЦЬ, ЗАВАРЫЦЬ, *дзс.*—закаливать, закалить. Заварыў тапор у кузьні (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВАРКА, *ж.*—закалка. Заварка етага каваля нічога ня варта (Калышкі, Лёз р.).

ЗАВЕДАНЬНЕ, *н.* — заведывание. Пад яго заведаньнем тое сталася (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВЕРТА, *ж.*—веревка, которой привязана оглобля к саням. Парваліся заверты ў дарозе (Янавічы, Сур. р.).

ЗАВЕСА, *ж.* — пластинка на крючках у двери. Трэба прыбіць завесы к дзьверам (Рудня, Аз. р.).

ЗАВЕЯ, *ж.* — мятель. Сёньня была завея; многа наваліласся сьнегу (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАВІДНА — засветло. Мы выехалі завідна, алі да сонца (Ісачкава, Аз. р.).

ЗАВІДНА — завидно. Завідна пазірае на мае мяшкі (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВІДУШЧЫ — завистливый. Наш поп дужа завідушчы (Ст. Сяло, Куз. р.).

ЗАВІНАВАЦЕЦЬ, *дзс.*—задолжать. Колькі вам мой сын завінаваціў за бульбу? (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВІНАЦЦА, *дзс.* — 1) укутываться. Завініся добра ў вязёнку, бо азалееш (Глебаўск, Сен. р.); 2) усердно приниматься за работу. Як завінуўся работаць, дык і ні замеціў, як дзень прайшоў (Сьвярдлы, Беш. р.).

ЗАВІРУХА, *ж.*—мятель, вьюга. Сягоньня дужа круціць завіруха (Адаменкі, Лёз. р.).

ЗАВІТАЦЬ, *дзс.* — сделать визит, посетить. Скора і наш сын к нам завітае (Косы, Лёз. р.).

ЗАВІХАЦЦА, *дзс.*—1) заколебаться. Ужо завіхалася алешына--скора павалім (Дварэцк, Чаш. р.); 2) стараться, быть прилежным. Завіхайцеся, каб да дажджу зьвесьці снапы (Пустыр, Сір. р.).

ЗАВОД, у, *м.* — 1) завод. Капірацыя завод будуець (Глебаўск, Сен. р.); 2) разведение. На завод сьвінку купіў (Пахоменкі, Сір. р ); 3) порода. Дренны завод ня стоіць і вадзіць (Навікі, Віц. р.).

ЗАВОДАЕЦ, ЗАВОДНІК, а *м.*—зачинщик. Знаю, знаю я цябе: ты харошы заводаец (Баравыя, Куз. р.) Куды прыдзе гэты заводнік, дык і пачынае драку (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАВОДАШ, а *м.*—часть ткацкого станка для натягивания основы. Заводаш сапсаваўся—ніткі вісяць (Баркова, Куз. р.).

ЗАВОЗ, у, *м.*—хлеб привезенный на мельницу. На мельніцы столькі завозу, што й на два дні хопіць (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВОЗНА — большая очередь на мельнице. Сёньне у Мазалаве дужа завозна, дык я прыехаў сюды (Лужасна, Куз. р.).

ЗАВОЧНА — заочно. Завочна прысудзілі ёй зямлю (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗАВОШТА--за что. Завошта-ж яго біць? (Стаішча, Чаш. р.).

ЗАВУГОЛЬЛЕ, *н.* — закоулок. Завіруха выіць па завугольлям (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗАВУЛАК, у, *м.*—переулок. У нашай дзіреўні 2 завулкі (Рыбчына, Сір. р.).

ЗАВУШНІК, а, *ж.* — ушко в лапте. У лапце лопнуў завушнік (Пясочак, Куз. р.).

ЗАВУШНІЦА, *ж.* — 1) серьга. Вы мне самі удзеньце завушніцы (Мікалаёва, Куз. р.); 2) свинка. Parotitis. У Ягора муся быць завушніца (Асінаўка, Беш. р.).

ЗАВЫК, ЗАВЫСК, у, *м.*—затылок. Як пабіў завык—так і амін (Берашоўцы, Беш. р.). Як намылю табе завыск, дык аж тошна будзець (Абрэзкава, Сен. р.).

ЗАВЫЦЬ, *дзс.*—завыть, заплакать, зарыдать. Завыла ўжо—зацягнула сваю песьню (Лук'янова, Сен. р.).

ЗАВЯЗАЦЬ, *дзс.* — завязать. Падай мне завязку завязаць мех (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАВЯЗКА, *ж.*—веревочка для завязывания меха. У гэтым мяху лопнула завязка (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАВЯРНУЦЦА, *дзс.* — отвернуться. Мальцы божуцца, клянуцца, а завернуцца—сьмяюцца (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗАВЯРЦЕЦЬ *дзс.* — завернуть, укутать. Хусткі няма завярцець галаву (Стаішча, Чаш. р.).

ЗАВЯРШАЦЬ, *дзс.*--завершать. Завяршы валацню каб ні замачыла (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАГАВОРШЧЫЦА, *ж.* — колдунья, шептуха. Загаворшчыца—

гэта баба, што загаварвае ад суроц, кроў і другія балесьці (Пажарышча, Беш. р.).

ЗАГАДВАЦЬ, *дзс.* — приказывать. Загадываць ёсьць каму, а работаць некаму (Сукрысьцікі, Аз. р.).

ЗАГАДЧЫК, а, *м.*—укасчик. Ты мне не загадывай, загадчык едакі! (Маскалёнкі, Беш. р.).

ЗАГАДКА, *ж.* — 1) загадка. „Ног многа, а з поля на сьпіне едзе",—вось і загадка, а адгадка—«барана» (Семянцова, Беш. р.); 2) мелколепестник. Erigeron acer L. А з малымі лісточкамі загадку відзіў? (Сітна, Лёз. р.).

ЗАГАДЗЯ, ЗАГАДЗЬ—заранее. Нада загадзя памысьліць (Шаркі, Куз. р.). Нанасі загадзь вады (Лоўжа, Сір. р.).

ЗАГАІЦЦА, *дзс.* — заживиться. У мяне ўжо рука загаілась (Пустынкі, Сен. р.).

ЗАГАІЦЬ, *дзс.*—заживить, залечить рану. Надабе каню плячо загаіць (Бікава, Сен. р.).

ЗАГАЛІЦЬ, *дзс.* — обнажить. Загалі ей спадніцу і атлупі, ніхай ня дурэе (Сянно, Сен. р.).

ЗАГАНА, *ж.*—недостаток. Мой конь без усякай заганы (Сухарукава, Аз. р.).

ЗАГАНІЦЬ, *дзс.*—забраковать. Чым ты майго каня заганяеш, што у ім ёсь за загана? (Асіпова, Аз. р.). Зусім заганіў маі будынкі (Лучкі, Віц. р.).

ЗАГАРАДА, *ж.*— огороженное место, чаще между домом и сараями, для скота. Загані кароў у загараду (Азярышча, Аз. р.).

ЗАГАРАДЗІЦЬ, *дзс.* — загородить. Табе, Грыгор, трэба ў выгане загарадзіць дзірку (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАГАРАК, а, *м.* — часы. «Катора гадзіна» — «Няма у мяне загарка» (Шафраны, Сен. р.).

ЗАГАРТАЦЬ, ЗАГАРНУЦЬ, *дзс.* —1) загребать, загрести. Загарні жар у пячурку (Шаркі, Куз. р.); 2) охватить. Загарнула ўсё дымам (Дабрамысьль, Лёз. р.).

ЗАГАСІЦЬ, *дзс.* — потушить. Ня круціся, бо загасіш цяпло (Забор'е, Сен. р.).

ЗАГВАЗДКА, *ж.*—чека. Ссорылася загваздка і зьдзеўся каток (Пясочак, Куз. р.).

ЗАГВАЗЬДЗІЦЬ *дзс.* — вбить, заколотить Загвазьдзі ў землю колік (Сянно, Сен. р.).

ЗАГІБ, у, *м.*—льнянка. Linaria vulgaris Mill. Загіб жоўтым цьвіціць (Карма, Куз. р.).

ЗАГІНУТЫ — пропавший. Загінутага хлопчыка знашлі ўжо вясной (Мішкава, Куз. р.).

ЗАГІНУЦЬ, *дзс.* — пропасть. Янка загінуў у сваім жыцьці (Вейна, Сен. р.).

ЗАГЛОБА, *м.* — завистливец. Яму усё мала, праклятаму заглобе! (Сухарукава, Аз. р.).

ЗАГЛЯДВАЦЬ, *дзс.*—засматриваться. Чаго заглядваеш у чужую клецьʔ (Лужасна, Куз. р.).

ЗАГНАТЫ—загнанный. Загнатыя каровы вырваліся з хлеву (Лужасна, Куз. р.)

ЗАГНЕТ, ЗАГНЕТАК, а, *м.*, ЗАГНЁТКА, *ж.* — 1) площадка передней части, устья кухонной печи. Гаршок стаіць на загнеце (Асіпова, Аз. р.). Кацёл на загнетку (Касачы, Лёз. р.). Пастаў гаршчок на загнетку (Янавічы, Сур. р.); 2) скупой. Ён ад веку такі загнет (Асіпова, Аз. р.).

ЗАГОН, а, у, *м.* — загон (на ниве). Два загоны ужо зжала (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАГРУДНІК, а, *м.*—нагрудник. Надзень загруднік (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗАГРЫБЕННЫ—сотканный из худшего, грубого льняного волокна. Загрібенная палатно тоўста (Навікі, Віц. р.).

ЗАГРЫБЕНЬНЕ, *н.* — льняное волокно худшего сорта, остающееся при чесании за гребнем. З загрібеньня ткуць палатно, якоя йдзець на мяхі (Навікі, Віц. р.).

ЗАГРЫМЕЦЬ, *дзс.*—1) загреметь. Загрымеў гром (Лужасна, Куз. р.); 2) начать ругаться. Загрымеў ужо, паехаў! (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАГУМЕНЬНЕ, *н.* — луг, поле за гумном. Я пасьвіў кароў на загуменьні (Кураеды, Беш. р.).

ЗАДАВАЦЦА, ЗАДАЦЦА, *дзс.* —1) гордиться, заноситься. Яна задаецца ў новай спадніцы (Застадольле, Сен. р.); 2) удаваться. Гэта у мене добра задасца (Чараўкі, Сен. р.).

ЗАДАВІЦЬ, *дзс.*—удавить. Хай цябе хвароба задавіць (Аляхнова, Сен. р.).

ЗАДАРЭМНА — понапрасну. Задарэмна пачынаеш брахацца (Янавічы, Сур. р.).

ЗАДАУГА — задолго. Задаўга перад етым ён мне казаў, што так будзе (Лужасна, Куз. р.).

ЗАДАЦЬ, *дзс.*—задать. Як задасьць мне чапялой (Застадольле, Сен. р.). Зачым ты яму задаў? (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗАДНІК, а, *м.* — каблук. Заднік к боту трэба новы (Мар'янава, Сен. р.)

ЗАДНІЦА, ЗАДОУКА, *ж.*—веревка для увязывания возов сена, снопов, привязанная сзади телеги. Падай задніцу — трэба ўціснуць воз (Русінава, Сен. р.). Ганна, запытайся ў бацькі, дзе задоўка (Сянно, Сен. р.).

ЗАДРАЦЬ, *дзс.* — заклевать. Каршун задзёр курыцу (Белькава, Беш. р.).

ЗАДРЫГАЦЬ, *дзс.*—задрыгать. Як даў ей балясінай, дык ажну нагамі задрыгала (Слабада, Чаш. р.).

ЗАДРЫМАЦЬ, *дзс.*—задремать. Што ты задрімала? (Дрыкольле, Куз. р ).

ЗАДУХА, *ж.*—духота. У хаце дужа вялікая задуха (Дабрыгары, Беш. р.).

ЗАДЫ, оў, *м.*—дальняя, задняя часть поля. Нашы коні ходзяць на задох (Стралкі, Беш. р.).

ЗАЕДКІ, аў, *м.*—закуска. Што ты на заедкі дасі? (Бель, Выс. р.).

ЗАЕДНА— заодно. І скаціну-б заедна пасьціў (Санікі, Беш. р.).

ЗАЕХАЦЬ, *дзс.*—кроме общего значения—сильно ударить. Я табе заеду па карку (Сянно, Сен. р.).

ЗАЁВІНЬНЕ, *н.*—пристройка к овину. У заёвіньні ляжала мякіна (Мар'янава, Сен. р.). Пар. ёўня.

ЗАЖАДАЦЦА, *дзс.*—захотеться. Зажадалася паехать на кірмаш (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАЖУРЫЦЦА, *дзс.* — загруститься, запечалиться. Што ты, хлопіц зажурыўся? (Рыбчына, Сір. р.).

ЗАЖЫВАЦЬ, *дзс.* — 1) заживляться. Мае плечы ужо зажываюць (Дабрамысьль, Лёз. р.); 2) употреблять. Мы не зажываем табакі (Стасева, Выс. р.).

ЗАЖЫМАКА, і, *м.* — лифчик. У Кацерыны зажымака дужа цесны (Замошша, Сен. р.).

ЗАЖЫМАКА, *агі.* — скупец, скряга. Гэты чалавек такі зажымака, што ні знайці (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗАЖЫНКІ, *ж.*—начало жатвы. У нас сёньні былі зажынкі (Пустынкі, Сен. р.).

ЗАЖЫТАК, у, *м.* — зажытое. З нівялікім зажыткам пашоў ад яго (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗАЗЕМНЫ ВЯНЕЦ — самые верхние бревна сруба. Заземны вянец паложан — можна кроклы ставіць (Лятоўшчына, Куз. р.).

ЗАЗЛАВАЦЬ, *дзс.*—начать сердиться. Ужо й зазлавала на мяне (Лужасна, Куз. р.).

ЗАЗЮРЫЦЬ *дзс.*—завидеть. Як зазюрыў ваўка, дык і сеў (Доўгае, Беш. р.).

ЗАДЗІРА, *аг.* — задира, зачинщик ссор. Ен такі ўжо задзіра (Селядцова, Беш. р.).

ЗАДЗІРАЦЬ, ЗАДЗЕРЦІ, *дзс.*— поднимать, поднять. Задзяры шапку і паглядзі лепей (Сташча, Чаш. р.). Верабейка памёр, ношкі ў гору задзёр (Дварэцк, Чаш. р.).

ЗАДЗЮЎБАЦЬ, *дзс.* — заклевать. Крукі задзюўбалі векшу (Дубінкі, Беш. р.).

ЗАЙДА, *аг.*—плакса. Плачаць, зайшлася зайда ета! (Унава, Лёз. р.).

ЗАЙЗДРАСЬЦЬ, *ж.* — зависть. На усё ў яго зайздрасьць (Русінава, Сен. р.).

ЗАЙЗДРОСНЫ — завистливый. Ня будзь ты такі зайздросны (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАЙЗДРОСЬЦІЦЦА, *дзс.*— иметь зависть. Зайздросьціцца на маё дабро (Латыгаль, Сен. р.).

ЗАЙМАЗДАРОЎ — понапрасну. Аблаяў яго займаздароў, тай годзе (Канавалава, Куз. р.).

ЗАЙСЬЦІ, *дзс.*—зайти. Німа часу зайсьці да вас (Пушкары, Сен. р.).

ЗАЙЦАВА КАПУСТА—заячья капуста. Oxalis Acetosella L. Дзеці нарвалі зайцавай капусты (Вядрэнь, Чаш. р.).

ЗАКАБАЕК, у, *м.*—узкий проход между двуме строениями на подобие немощенного корридора. Што ты туляішся па закабайках: там ігрушы не расьтуць і сьцены мёдам не намазаны (Гарнова, Сен. р.).

ЗАКАТУЛАК, у, *м.* — узкий проход между двумя строениями на подобие немощенного корридора. У закатулку зложана кастрыца (Закур'е, Чаш. р.).

ЗАКАВУЛАК, у, *м.*—закоулок. Закавулак дужа цёмны (Мішкава, Куз. р.).

ЗАКАЖАНЕЦЬ, *дзс.*--похудеть от плохого ухода и остановиться в росте. Саўсім закажанеў гэты парасёнак (Капланы, Сен. р.).

ЗАКАЗВАЦЬ, *дзс.*—зазывать. Іван пабег заказваць на сход (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗАКАЗЬНІК, а, *м.*--зазыватель. Ён у нас заўсёдным заказьнікам-- усе сходы ззывае (Красьніца, Чаш. р.).

ЗАКАЛАЦІЦЬ, *дзс.*—заправить мукой. Закалаці юшку (Белькава, Беш. р.).

ЗАКАЛОТКА, *ж.* — жидкое тесто, которым приправляют кушанье. Няма белай мукі на закалотку (Бель, Выс. р.).

ЗАКАЛУПІЦЬ, *дзс.* — задеть, зацепить. Во, закалупіла яго гэта слова (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗАКАНУРАК, а, у, *м.*—чулан, закоулок. У заканурку ёсь шчуры (Кураеды, Беш. р.).

ЗАКАПАЦЬ, *дзс.* — закопать. Ідзі ты лехі закапай (Альшанікі, Беш. р.).

ЗАКАРЭЦЬ, *дзс.* — покрыться корою грязи. Закарэла мая рубаха (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗАКАСАВАЦЬ, *дзс.*—вычеркнуть. Закасуй яго—ён хварэіць і больш ня прідзіць (Горавічы, Куз. р.).

ЗАКАСАЦЬ, *дзс.* — засучить. Закасай рукавы (Ульянавічы, Сен. р.).

ЗАКАЎНЕРЫЦЬ, *дзс.* — взять за воротник. Я цябе закаўнеру зараз (Берашоўцы, Беш. р.).

ЗАКАХАЦЦА, *дзс.*—влюбиться. Дужа яна закахалася (Дубнікі, Сен. р).

ЗАКАЦІЦЦА, *дзс.*—закатиться. Як сонца закоціцца, вылізаюць рапухі (Навікі, Беш. р.).

ЗАКАЧАНЫ — замаранный. Прышла дадому закачаная ў гразь (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАКАШЛЯЦЬ, *дзс.* — начать кашлять. Нешта мае дзеці закашлялі (Лужасна, Куз. р.).

ЗАКАШТАВАЦЬ, *дзс.*—попробовать на вкус. Закаштуйце маіх бліноў (Лук'янова, Сен. р.).

ЗАКІДАЦЬ, ЗАКІНУЦЬ, *дзс.*—забрасывать, забросить. Нада на гумне закідаць усе ямкі зямлёй (Капцы, Сен. р.). Закінуў куды-та —ніяк ні найці (Дрыкольле, Куз. р.).

ЗАКІЛЗАЦЬ, *дзс.* — внуздать. Закілзай каня, бо пудлівы (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЗАКІТАВАЦЬ, *дзс.*—замазать оконной замазкай. Трэба закітаваць вокны (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАКЛАД, у *м.*—пари. Ну, пойдзем у заклад, што мая праўда (Марцінкава, Куз. р.).

ЗАКЛАДЗІНЫ, *ж.*—основание, закладка дома и др. Учора ў іх закладзіны былі (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАКЛЕТАК, у, *м.*—пристройка к клети. У заклетку палажы ворчык (Мікалаёва, Сір. р.).

ЗАКЛЯТЫ — заклятый, заколдованный. Ні пайду я туды ночы: месца заклятае (Крынкі, Выс. р.).

ЗАКОЛКА, *ж.*—шпилька, заколка. Дай мне заколку ў валасы (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАКОСЬНІК, а, *м.*—шафер. Ён папрасіў мяне на вясельле закосьнікам (Калышкі, Лёз. р.).

ЗАКОТ, у, *м.*— фронтон. Закот зрабіў з дошчак, а ні бярвеньня (Матушова, Лёз. р.).

ЗАКРАСА, *ж.*— приправа в кушанье, чаще жировая. Сала вышла і на закрасу нічога нет: ядзём поснае (Суднікі, Куз. р).

ЗАКРУТКА, *ж.* — вертящаяся задвижка. Хуць закруткай, а усё-ж запёрта (Сукрэмна, Сен. р.). Запры вароты на глухую закрутку (Латыгаль, Сен. р.).

ЗАКРУЦІСТЫ--курчавы. Авечка ты закруцістая! (Купіна, Віц. р.).

ЗАКРУЦІЦЬ, *дзс.* — повязать, завернуть. Дзевяр закруціў сабе шалік на шыю (Белькава, Беш. р.).

ЗАКРУЧАНЫ—запертый деревянным засовом. Закручаныя вароты на закрутку ня так трэба пільнаваць (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗАКРЫЧАЦЬ, *дзс.*—закричать. Закрычалі, што ня трэба вязаць (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАКУЛЬГАЦЬ, *дзс.*--захромать. Мая сабака закульгала (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАКУРЫЦЦА, *дзс.*—1) задыметься. Ужо закурылася—гарэць будзе (Запрудзьдзе, Сен. р.); 2) начать идти дождю. Вун закурыўся дождж (Аськершчына, Беш. р.).

ЗАКУТАК, а, у, *м.*—закоулок. Па закутках поначы бадзяецца (Адаменкі, Лёз. р.).

ЗАКУЦЬЦЕ, *н.*— глушь, глухое место. Кум жыве ў закуцьці (Церабетаўка, Віц. р.).

ЗАЛА, *ж.* — дурная весенняя погода с дождем и снегом. Во, зала сёньні на дварэ — ні выйці (Латыгаль, Сен. р.).

ЗАЛАЗА, *ж.*—мыт. Конь здох ад залазы (Баранаўка, Куз. р.).

ЗАЛАЗАВАЦЬ, *дзс.* — болеть мытом. Ні пушчай нашага каня да іх, бо яны залазуюць (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЗАЛАПІЦЬ, *дзс.* — заплатать. Трэба залапіць армяк (Нов. Сяло, Беш. р.).

ЗАЛАПЛЕНЫ — заплатанный. Ён усёгды у залапленным ходзіць (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗАЛАТНІК, у, *м.* — 1) матка. Uterus. Марфа ужо другі год хварэіць жыватом — ніначы залатнік зрушыўся (Пацкава, Сен. р.); 2) болезнь живота. Ён залатнікам хварэіць (Лужасна, Куз. р.).

ЗАЛАТОЎКА, *ж.* — монета в 15 коп. Міхась узяў за ягады 2 залатоўкі (Павульле, Чаш. р.).

ЗАЛАТУШНІК, у, *м.* — цмин песчаный, кошачья лапка. Helichrysum arenarium L. et Antenaria dioica Gartn. Залатушнік цьвіціць і розавым і белым (Карма, Куз. р.).

ЗАЛАТЫ—золотой. У яе залатая жуковіна (Мяжа, Меж. р.).

ЗАЛАЎКА, *ж.*--способ лечения лошади при нагнетах. Трэба залаўку зацягнуць, а то ня пройдзе (Беліца, Сен. р.).

ЗАЛАЧАЦЬ, *дзс.*—рассветать. Ужо пачала залачаць (Дзямідавічы, Чаш. р.). У нас яшчэ чуць залачэець, а ужо выганяюць быдла (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗАЛАЧКОМ — на рассвете. Бацька яшчо залачком пашоў у горад (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗАЛЕЗА, *н.*—железо. Паедзеш у горад — купі залеза (Бікава, Сен. р.). Залеза стала дорага (Гарывецк, Сен. р.). Пар. жалеза.

ЗАЛЕЗЬЦІ, *дзс.*—кроме общего значения — зайти. Сонца ўжо залезла даўно (Баркова, Куз. р.).

ЗАЛЕТАВАЦЬ, *дзс.*—остаться на целое лето. Яна і залетавала ў гасьцях (Унава, Лёз. р.).

ЗАЛЕТАСЬ—позапрошлый год. Яшчэ залетась ён памёр (Лужасна, Куз. р.).

ЗАЛЕТАШНІ—позапрошлогодний. У яго яшчэ залеташнія дровы ёсь (Гарэлае, Гар. р.).

ЗАЛЁТЫ, ЗАЛЁЦІКІ, аў, *м.*—сватанье. Ка мне прыехалі ў залёцікі (Гурына, Беш. р.).

ЗАЛІВЕНЬ, я, ю, *м.*—ливень. Сёньня быў вялікі залівень, аж пацякло усюдах (Бабінічы, Віц. р.).

ЗАЛІХВАЦКІ—ухарский, лихой. Заліхвацкую песьню пеялі (Алексінічы, Сен. р.).

ЗАЛІЦАЦЦА, *дзс.* — 1) увлекаться, влюбляться. Стахван заліцаецца Праксэдай (Оўсішча, Сен. р.); 2) свататься. Янка заліцаецца да Ганулі (Глебаўск, Сен р.).

ЗАЛІЦЦА, *дзс.*—утонуть. Міхась заліўся ў возеры (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ЗАЛОБАК, у, *м.* — фронтон. Навумаў залобак ветрам раськідала (Ваяводкі, Віц. р.).

ЗАЛОЖНІК, у, *м.*—узенькая полочка с дырками куда закладываются ложки. Ложка там, у заложніку тарчыць (Вяжышча, Беш. р.).

ЗАЛОЖЖА, *н.* — часть риги, овина, ограниченная стеной и сушильнею, «ёунею» (гл.). Мы поўна заложжа насыпалі вотрыны (Вейна, Сен. р.).

ЗАЛОЗА, *ж.*— железа. У мяне горла баліць, залозы распухлі (Заазер'е, Сен. р.).

ЗАЛОМ, у, *м.* — заломленные и спутанные колосья род кол-

довства. У нашым жыце сёлета заломы (Аскрысенец, Беш. р.).

ЗАЛОМШЧЫЦА, *ж.*--колдунья, делающая «заломы» (гл.). А Грыгор летась заломшчыцу спаймаў у жыце (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЗАЛОЎКА, *ж.*—золовка. Залоўка ссорыла пальчатку (Белькава, Беш. р.).

ЗАЛУПАНЕЦ, а, *м.* — яйцо без известковой скорлупы. Курыца зьнясла залупанец (Воля, Чаш. р.).

ЗАЛЬ, ю, *м.*—зал. У залі былі хрэсьбіны (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗАЛЯГАЦЦА, *дзс.* — залеживаться. Нечага залягацца, пойдзем жыта вазіць (Лужасна, Куз. р.).

ЗАЛЯПІЦЬ, *дзс.* — залепить. Заляпіце ў вакне дзірачку (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАЛЯСКАЦЬ, *дзс.*—застучать зубами. Аж зубамі заляскаў (Навікі, Віц. р.).

ЗАМАЖНЕЦЬ, *дзс.*—богатеть. Патрошку замажнець сталі (Дубнікі, Сен. р.).

ЗАМАЗВАЦЬ, *дзс.*--замазывать. Пашоў замазваць глінаю дзіркі ў клеці (Адаменкі, Лёз. р.).

ЗАМАИСТРАВАЦЦА, *дзс.*—заработаться в мастерской. Замайстраваўся мой чалавек у кузьні і абедаць ня ідзе (Лужасна, Куз. р.)

ЗАМАЛА—маловато, недостаточно. Наліла мне замала крупені (Доўжа, Куз. р.).

ЗАМАЛАДА — смолоду. Замалада пачала бабіньнем займацца (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

ЗАМАНУЦЦА, *дзс.*--захотеться, вздуматься. Заманулася хлопцу схадзіць на ігрышча (Гравы, Сен. р.).

ЗАМАРДАВАЦЦА, *дзс.*--устать работая, замучиться. Я зусім замардаваўся, пакуль скончыў (Латыгаль, Сен. р.).

ЗАМАРКОЦІЦЦА, *дзс.*—запечалиться. Ён вельмі замаркоціўся (Мамойкі, Беш. р.).

ЗАМАРУДЗІЦЬ, *дзс.* — замешкаться. Ён замарудзіў ісьці дамоў (Вяжоўка, Чаш. р.)

ЗАМАРЫЦЦА, *дзс.*—устать. А, браццы маі, як я сяньні замарыўся—дужа крэпка араць (Макеенкі, Аз. р.).

ЗАМАСОЛІЦЬ, *дзс.*--замуслить. Як ты замасоліў рубашку, ажно брыдка на цябе глядзець (Лук'янова, Сен. р.).

ЗАМАЎЛЯЦЬ, ЗАМОВІЦЬ, *дзс.* —заговаривать, заговорить. Цётка Ганка замаўляець кроў (Чарнагосьці, Беш. р.). Стахванея замовіла Кірыку кроў (Сянно, Сен. р.).

ЗАМАШКА, *ж.* — замах, попытка. Ні баюся я тваей замашкі і каля носу, ды й пападзець табе за яе (Лужасна, Куз. р.).

ЗАМЕР, у, *м.*—намерение. Быў і ў яго замер гнаць гарэлку (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАМЕРЫЦЦА, *дзс.*—вознамереваться. Я замерыўся купіць канька (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЗАМЕСА, *ж.* — замешенное тесто для хлеба. Замеса ўжо гатова (Каралёва, Выс. р.).

ЗАМЕТ, ЗАМЁТ, у, *м.*—бревенчатый забор. Паміж клецьцю і хлевам замет (Лужасна, Куз. р.). Воўк пераскачыў чэраз замёт (Рыбчына, Сір. р.).

ЗАМЕТКА, *ж.*—заметка. Зробіў там заметку на дзераве (Янавічы, Сур. р.).

ЗАМЕЦІНА, *ж.*--бревно из бревенчатого забора--«замёту» (гл.). У мяне нехта дзьве замеціны ўкраў (Бель, Выс. р.).

ЗАМІРЭНЬНЕ, *н.*--примирение. Трэці год судзяцца біз усякага замірэньня (Пяцігарск, Беш. р.).

ЗАМОЖНЫ—зажиточный, богатый. Наш Янка дужа заможны (Ульянавічы, Сен. р.).

ЗАМУЖЖА, ЗАМУЖЖЫНЬКА, *н.* — замужество. Дрэнная мае замужжа (Сукрэмна, Сен. р.). Сума зьвядзець маладу худое замужжынька і ня люба падружжынка (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАМУРЗАЦЦА, *дзс.* — выпачкаться. Вось як дзеці замурзаліся (Сянно, Сен. р.).

ЗАМУЧЫЦЬ, *дзс.* — замучить. Замучыла мяне чохаўка (Белькава, Беш. р.).

ЗАМЯКЛЫ — замокший. Замяклую соль прадаюць у Чашніках (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАНАДТА—слишком. Занадта дорага плаціць няма рахубу (Ліпна, Сен. р.). Занатта многа усыпаў (Доўгае, Беш. р.).

ЗАНУДА, *ж.* — заморенный нуждою человек. Эх ты, зануда бяздольная! (Ст. Сяло, Куз. р.).

ЗАНУДЗЕЦЬ, *дзс.* — затосковать, похудеть. Што ета з ім стала? Ён-жа дужа занудзеў (Міхалі, Куз. р.).

ЗАНЯДУЖАЦЬ, *дзс.*--занемочь. Мой брат занядужаў (Аськершчына, Беш. р.).

ЗАНЯЎЗДОЛІЦЬ, *дзс.* — заболеть. Тата мой нешта заняўздоліў (Аськершчына, Беш. р.).

ЗАНЯЦЦА, *дзс.*—кроме общего значения—заиграться, увлечься. Ну, і заняўся ж ён цацкай! (Пушкары, Сен. р.).

ЗАПАВЕТРАЦЦА, *дзс.*—заразиться болезнью. Каб ты запаветрыўся! (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗАПАДЛЫ — впавший, низкий. У тваёй хаце страха ўжо западлая (Труханавічы, Чаш. р.).

ЗАПАЗУХА, *ж.* — место на груди под рубашкой или иной одеждой. Палажы сподкі запазуху (Сянно, Сен. р.).

ЗАПАЛ, у, *м.*—вспыльчивость. З ім доўга не гавары: з запалам чалавек, крычаць пачне (Стасева, Выс. р.).

ЗАПАЛАНІЦЬ, *дзс.*—полонить, заполнить. Краскі запаланілі ўвесь луг (Сяркуці, Сен. р.).

ЗАПАЛКА, *ж.* — спичка. Запалкай трэба запаліць цяпло (Дварэцк, Чаш. р.).

ЗАПАЛІВАЦЬ, *дзс.*—зажигать. Узьдзяры сярнічку, ды запалівай лямпу (Пацкава, Сен. р.).

ЗАПАМЯТАВАЦЬ, *дзс.*--забыть. Запамятавала, зязюля мая (Пушкары, Сен. р.).

ЗАПАНЕЦЬ, *дзс.*--зачваниться. Ні падходзіць—запанеў наш Рыгор, як ліцамерам стаў, а ўсе-ж ведаюць, што ён з Нямойты (Застадольле, Сен. р.).

ЗАПАРКА, *ж.* — обваривание горячей водой «вотрыны» (гл.) коровам. Чаму ты запаркі яшчэ ня зробіла? (Кабішча, Куз. р.).

ЗАПАСКУДЗІЦЦА, *дзс.*--сильно запачкаться. Авой, як ты запаскудзіўся, ідзі памыйся (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАПАСЬЛІВА—с запасом. Запасьліва у яго з дрывамі—яшчэ леташнія ёсьць (Вярхоўе, Беш.р.).

ЗАПЕЧАК, у, *м.* — место у печки, чаще между кроватью и и печкой на лавке. Я-б у запечачку, сядзела і ў кудзелічку глядзела (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗАПЕЧЧА, *н.* — промежуток между печкой и стенкой. У запеччу тваі лапці ляжаць (Семянцова, Беш. р.).

ЗАПЭЦКАЦЦА, *дзс.* — загрязниться, выпачкаться. Ой, як ты,

Ганна, запэцкалася! (Санікі, Беш. р.).

ЗАПІНАХА, *ж.*—простыня, которою закрывают колыбель. Я сёліта сшыла для калыскі новую запінаху (Вяжышча, Беш. р.).

ЗАПІРАЦЬ, ЗАПЕРЦІ, *дзс.*—запирать, запереть. Растварыліся вароты, не магу заперці (Сукрэмна, Сен. р.). Колькі табе разоў нада казаць, што-б ты запіраў дзьверы? (Заазер'е, Сен. р.).

ЗАПЛЕЧНІЦА, *ж.* — корзина. Я набрала ягад цэлую заплечніцу (Слабада, Аз. р.).

ЗАПЛІКАЦЬ, *дзс.* — застегивать. Заплікні курту (Застадольле, Сен. р.).

ЗАПЛЮСНУЦЬ, *дзс.*—закрыть глаза. Заплюсьні ты вочы (Зямковічы, Сен. р.). Сядзіць, заплюснуўшы вочы (Гравы, Сен р.).

ЗАПЛЯМІЦЬ, *дзс.*—запятнать. На што ты мне запляміў рубашку (Глебаўск, Сен. р.).

ЗАПНУЦЬ, *дзс.*—завесить. Запні вокны чым—небудзь (Стаішча, Чаш. р.).

ЗАПОІНЫ, *ж.*—помолвка, сговор. Ліксеіва Вольга замуж выходзіць, ужо запоіны былі (Жабяньцяі, Сур. р.).

ЗАПРАГАЦЬ, *дзс.* — закладывать, запрягать. Васіль запрог каня (Лалыкі, Аз. р.).

ЗАПРАЎДЫ — в самом деле, действительно. Не, мая зязюлька, запраўды-ж я сёньня прыду к табе (Пушкары, Сен. р.).

ЗАПРАЎЛЯЦЬ, *дзс.* — приправлять. Алеем можна запраўляць усякую страву (Альшанікі, Беш. р.).

ЗАПУШЧАЦЬ, *дзс.* — запускать. Хваробы не запушчайце ніколі (Доўжа, Куз. р.).

ЗАПЫЛЬЧЫВЫ—вспыльчивый. Мая сьвякроў запыльчывая (Навікі, Беш. р.).

ЗАПЫРСКАЦЬ, *дзс.*—забрызгать. Запырскала усё плацьце (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАПЫТ, у, *м.*—запрос. Добры жарабок, але запыт вялік—увесь кірмаш дзівіцца (Сянно, Сен. р.).

ЗАПЫТАЦЦА, *дзс.*—спросить. Запытайцеся ў таго чалавека (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАПЯКЦІСЯ, *дзс.* — загореть. Мы на сонцы дужа запякліссь (Лалыкі, Аз. р.).

ЗАПЯЛІЦЬ, *дзс.*—завесить. Запяль вакно хусткай (Слабада, Аз. р.).

ЗАРАБОТКІ, аў, *м.*—заработок. Ён хадзіў у заработкі (Ісачкава, Аз. р.).

ЗАРАБЛЯЦЬ, ЗАРОБІЦЬ, *дзс.*—зарабатывать, заработать. Зарабляй, сынку, сабе на хлеб (Бабінічы, Віц. р.). Сколькі можна было заробіць за зіму, а ён на печкі пралежаў (Макеенкі, Аз. р.).

ЗАРАЗ — сейчас. Зараз я пабягу ў горад (Ульлянавічы, Сен. р.). Падаждзі, зараз дам табе есьць (Купіна, Віц. р.).

ЗАРАЗЬЛІВЫ—заразительный. Ня ходзь к заразьліваму хвораму чалавеку (Іванск, Чаш. р.).

ЗАРАДЗІЦЦА, *дзс.*—уродиться. Зарадзілась у нас дужа дрэнная бульба (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗАРАНКА, *ж.* — 1) утренняя звезда, Венера. Позна мы ўсталі малаціць: ужо заранка узышла, скора будзіць дзень (Сьвярдлы, Беш. р.); 2) звезда. На небе многа зыранак (Чарніца, Лёз. р.).

ЗАРАНЬНЯ — слишком рано. Пастух прагнаў кароў дужа заранньня (Прыстоі, Чаш. р.); 2) преждевременно. Яшчэ заранньня ты косіш гэту траву (Прыстоі, Чаш. р).

ЗАРЖАЦЬ, *дзс.*—заржать. На браду коні заржалі (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАРНІЦА, *ж.* — зарница, отблеск молнии. Бач, якая зарніца (Б. Летцы, Куз. р.).

ЗАРУБАЧКА, *ж.*—шов. Знаю па зарубачке, што маёй галубачкі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗАРУЖА, *ж.* — лютик ползучий. Ranunculus repens L. Заружы сёньні ні нашла—заўтра (Карма, Куз. р.).

ЗАРУЧЫНЫ, *ж.* — обручение. Учора ў Аксёна былі заручыны (Пустынкі, Сен. р.).

ЗАРУЧЫЦЬ, *дзс.* — обручить. Заручылі дзеўку супроць панядзелку (Алексінічы, Сен. р.).

ЗАСАДЫШ, а, *м.*— последняя и меньшая булка хлеба. Алена пасадзіла засадыш у печ (Хадулава, Куз. р.).

ЗАСАРОМЕЦЦА, *дзс.*—застыдиться. Чаго ты, мая дачушка, засаромілась? (Ст. Марыянфельд, Беш. р.).

ЗАСАЎКА, *ж.* — з а д в и ж к а. Трэба к дзьверам прыдзелаць засаўку (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗАСЕК, у, *м.*—закром. Сып хлеб у засек (Дражна, Куз. р.). Поўны засік аўса (Ульлянавічы, Сен. р.).

ЗАСЕНЬ, ю, *м.* — ЗАСІНКА, *ж.*—тень. Добра ўлетку пасядзець у засені (Вяжышча, Беш. р.). Жнеі селі абедаць у засінцы (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗАСЕРДАВАЦЬ, *дзс.* — рассердиться. З а с я р д а в ала і ня йдзець (Доўгае, Беш. р.).

ЗАСЕТНІК, ЗАСЁТАК, а, у, *м.*, ЗАСЕЦІЦА, *ж.* — помещение за сушильней—«асецьцю» (гл.). Вотрына ляжыць у засетніку (Зямковічы, Сен. р.). З а с ё т а к за ёўняю, дзе ж яму быць? (Красьніца, Чаш. р.). У таку, калі малоцяць, дык мякіну кладуць у засеціцу (Выгары, Куз. р.).

ЗАСЕЯЦЬ, *дзс.*—засеять. Зябры засеяў ячмянём (Зямковічы, Сен. р.).

ЗАСІЛІЦЦА, *дзс.*—1) зацепиться. З а с і л і ў с я колам за плот (Чарнагосьці, Беш. р.); 2) покончить самоубийством. Ён нешта узімку хацёў засіліцца (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗАСКАБІЦЬ, ЗАСКАЛУБІЦЬ, *дзс.*—занозить. Заскабіла я нагу (Селішча, Гар. р.). Заскалубіў сабе палец (Дабрыгары, Беш. р.).

ЗАСКАГАТАЦЬ, *дзс.* — завизжать. Сьвіньня заскагатала, як пачула мой голас (З а п р у д з ь д з е, Сен. р.).

ЗАСКАРОДЗІЦЬ, *дзс.* — заборонить. Двое ганей заскародзіў (Лазок, Куз. р.).

ЗАСКАЎРЭЦЬ, *дзс.*—покрыться коркою грязи. Заскаўрэла ў цябе морда (Косы, Віц. р.).

ЗАСКВАРЫЦЬ, *дзс.*—приправить салом. Дужа добра заскварыла булён (Бель, Выс. р.).

ЗАСЛАНЯЦЬ, *дзс.* – закривать «заслонкаю» (гл). Паланея, заслані печку (Масеева, Аз. р.).

ЗАСЛОНКА, *ж.* — доска или лист жести, которым закрывают устье кухонной печи. Падай мне сюды заслонку, трэба зачыніць печку, бо хлеб ня сьпякецца (Забор'е, Сен. р.).

ЗАСМАЖЫВАЦЬ, *дзс.*—зажаривать. Засмажываюць бульбу (Альшанікі, Беш. р.).

ЗАСМАЛІЦЬ, *дзс.*—засмолить. Нада човен засмаліць, а то цячэць (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗАСМУЦІЦЦА, *дзс.* — запечалиться. Засмуціўся хлопец па дзяўчыне (Балдыкова, Аз. р.).

ЗАСОЎ, а, *м.*—задвижка. Клець запіраюць на замок і на засоў (Ліпна, Сен. р.). Пар. засаўка.

ЗАСПА, *ж.*—засыпка муки. Аднэй заспы мукі на зацірку няма (Лашнёва, Выс. р.).

ЗАСТАВА, *ж.*—залог. Палажы заставу на ету суму (Селядцова, Беш. р.).

ЗАСТАЦЦА, *дзс.* — остаться. Мікола застаўся там начаваць (Аўхіменкі, Беш. р.),

ЗАСТАГНАЦЬ, *дзс.* — застонать. Чаго ён так крэпка застагнаў? (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАСТАНАВІЦЦА, *дзс.*—остановиться. Застанавіліся мы з лісапетамі на гадзіны дзьве ў пуні (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЗАСТАЎЛЕНЫ—заложенный. Ён хоча яшчэ на застаўленае грацы, ды няма дурняў! (Бабінавічы, Выс. р.).

ЗАСТОЛЬЛЕ, *н.*—место за столом. Мы толькі вылязьлі з застольля (Масеева, Аз. р.).

ЗАСТОЛЬНІК, а, *м.*—затрапезник. Столькі застольнікаў было на вясельлі (Лашнёва, Выс. р.).

ЗАСТРЭЛІЦЬ, *дзс.*—застрелить. Кінь ружжо, няўмеючы абхадзіцца, каго небудзь застрэліш (Азярэцк, Сен. р.).

ЗАСТРЫГАВАЦЬ, *дзс.*--застрочить. Яна застрыгавала каўнер (Мамойкі, Беш. р.).

ЗАСТУДЗІЦЦА, *дзс.*—простудиться. Абгарні хлапца, а то ён застудзіцца (Жэрына, Чаш. р.).

ЗАСТЫЦЬ, *дзс.*—застыть. Як скора сьцюдзень застыла (Берасьні, Беш. р.).

ЗАСУВАЦЦА, *дзс.*—заходить (о солнце). Ужо соўнецька засуваецца (Вяжышча, Беш. р.).

ЗАСУКРЫЦЬ, *дзс.*—завить. Куды ты зьбіраешся, што засукрыла валасы? (Стаішча, Чаш. р.).

ЗАСУНУЦЬ, *дзс.*—задвинуть. Засунь жар у печ (Чараўкі, Сен. р.).

ЗАСЬВЕРЫЦЬ, *дзс.*—поднять рычагом. Засьверылі сьцяну (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗАСЬВЯРБЕЦЬ, *дзс.*—зачесаться. Нешта за вухам засьвярбела (Навасёлкі, Сен. р.). Будзець добра плечкі пабіць, як засьвірбяць, (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАСЬМЯГНУЦЬ, *дзс.*--пересохнуть от жары. Дай напіцца: у роце засьмягла ад жары (Лужасна, Куз. р).

ЗАСЬПЯВАЦЬ, *дзс.*—запець. Засьпяваў салавей (Доўжа, Куз. р.).

ЗАСЬЦЕНАК, а, у, *м.*—поселок. Я жыву ў засьценку (Русінава, Сен. р.).

ЗАСЬЦЕРАГЧЫ, *дзс.*—охранить, предостеречь. Засьцяражы яго ад бяды (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАСЬЦІЛАЦЬ, *дзс.*--застилать. Засьцялі стол абрусам (Оўсішча, Сен. р.). Пол засьцелен пасьцілкай (Аўхіменкі, Беш. р.).

ЗАТАННА—задешево. Затанна прадаў жыта (Горбава, Лёз. р.).

ЗАТАЎКА, *ж.*—приправа к еде из сала. Ці палажыла ў гаршчок затаўку? (Застадольле, Сен. р.).

ЗАТАЎКАЦЬ, *дзс.*—приправлять «затаўкаю» (гл.). Добра затаўчы капусту—чужыя людзі ё (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

ЗАТВОР, у, *м.*—диафрагма у животных. Дрэннае мяса затвор (Громаць, Гар. р.).

ЗАТКАЛА, *н.*—пробка, затычка. Найдзі заткала ад бутля (Куксы, Сір. р.).

ЗАТОКА, *ж.*—залив. У гэтаў затоцы павінна быць рыба (Вейна, Сен. р.).

ЗАТОРГАЦЬ, *дзс.*—задергать. Нешта палец заторгаў—нарывае муся (Бель, Выс. р.).

ЗАТОРКНУЦЬ, *дзс.*—заткнуть, задвинуть. Заторкні гэту дзірку (Чараўкі, Сен. р.).

ЗАТОХНУЦЦА, *дзс.*—задохнуться. Зачым ты, Дарка, ціплят плотна закрыла—яны там затохнуцца (Макеенкі, Аз. р.).

ЗАТРЫМАЦЬ, *дзс.*—задержать. Каб не затрымалі у Чашніках,—вярнуўся б раней (Труханавічы, Чаш. р.).

ЗАТУКАЦЬ, *дзс.*—зарезать, убить. Ідзі затукай барана (Вяжышча, Беш. р.).

ЗАТУЛА, *ж.*—1) кожаный фартух. Каваль надзеў затулу (Забор'е, Гар. р.); 2) рыбачья одежда. Надзявай затулу—пойдзем рыбу лавіць (Александрова, Гар. р.).

ЗАТУЛАК, у, *м.*—защищенное место. Сядзіць у затулку і вецер да яго не даходзіць (Лашнёва, Выс. р.).

ЗАТУЛЯЦЬ, *дзс.*—закрывать, защищать. Затулі яго хусткаю ад сонца (Бабінавічы, Выс. р.).

ЗАТУПІЦЦА, *дзс.*—притупиться. Нажнічкі затупіліся (Пяцігарск, Беш. р.).

ЗАТХА, *ж.*—затхлость. Затха ў клеці, што ні ўвайці (Лашнёва, Выс. р.).

ЗАТЫКАЛЬНІК, у, *м.*—небольшой деревянный прут с куском полотна или натянутыми веревками в ткацком станке для начала тканья. Вун на стале ляжыць затыкальнік, падай мне яго, Ганка (Халамер'е, Аз. р.).

ЗАТЫМ, *зл.*—1) затем. Затым я паехаў у Віцебск (Горбава, Лёз. р.); 2) потому. Затым я і кажу, каб больш ня было (Сянно, Сен. р.).

ЗАТЫЧКА, *ж.*—чем затыкакают бутылку, пробка. Зьдзелай затычку і заткні бутэльку (Кайтанова, Куз. р.). Пар. заткала.

ЗАЎВІЦЕЦЬ, *дзс.*—связать «віткаю» (гл.). Заўвіць кольле (Сянно, Сен. р.).

ЗАЎЖДЫ — всегда. Мужык заўжды працуе (Ст. Ранчыцы, Беш. р.).

ЗАЎЗЯТЫ—1) завзятый. Рыгор заўзяты камуніст (Шаркі, Куз. р.); 2) заносчивый. Заўзяты малец—да усіх лезець (Казакі, Куз. р.).

ЗАЎЛЯКНУЦЦА, *дзс.*—испугаться. Я ажны зуўлякнуўся, як убачыў ваўка (Ходцы, Сен. р.).

ЗАЎСЁДЫ—всегда. Я заўсёды кажу праўду (Тухінка, Сен. р.). Пар. заўжды.

ЗАЎСІМ—совсем. Злыдні яго ведаюць—заўсім азыз (Бешанкавічы, Беш. р.). Пар. сусім.

ЗАЎСЯГДЫ—всегда. Заўсягды ён брэшэцца са ўсімі (Канавалава, Куз. р.). Пар. заўсёды.

ЗАЎТРА—завтра. Заўтра пойдзем у лес (Ісачкава, Аз. р.).

ЗАЎЧОРА—позавчера. Заўчора у мяне здарылася бяда (Мігава, Куз. р.).

ЗАЎШЫЦА, *ж.*—болезнь у свиней около уха, заусеница. Сьвіньні захварэлі заўшыцай (Сянно, Сен. р.).

ЗАХАВАЦЬ, *дзс.*—1) сохранить. Захаваў адзежу ад пажару (Дабрамысьль, Лёз. р.).; 2) схоронить. Нада захаваць бульбу на зіму ў яму (Пустынкі, Сен. р.).

ЗАХАД, у, *м.*—запад. На захадзе хмары (Селішча, Гар. р.)

ЗАХАПІЦЬ, *дзс.* — захватить. Захапі з сабой карты (Шарыпіна, Беш. р.).

ЗАХАЦЕЦЦА, *дзс.*—захотеться. Нада зварыць капусты, а то нешта захацелася (Маркавічы, Куз. р.).

ЗАХВА, *ж.*—три кола, вбитые в дно реки на глубоком месте и переплетенные сверху зелеными ветвями, к которым привязывают лодку во время рыбной ловли. Ён ловіць рыбу на захве (Маркаўшчына, Віц. р.).

ЗАХВАРАСНУЦЬ, *дзс.*—подмести слегка. Захварасьні трохі хату—нехта прыехаў (Калышкі, Лёз. р.).

ЗАХВАРЭЦЬ, *дзс.* — заболеть. Не хадзі басаנож, а то захварэеш (Селядцова, Беш. р.).

ЗАХВОСТАВАТЫ—высокий с толстым низом и тонким верхом. Гэту елку німа расчоту рэзаць: іна дужа захвостыватая (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗАХІМІРЫЧАЦЬ, *дзс.*—передумать. Вось я бачу, што ты ўзноў нешта захімірычаў (Ст. Бедіца, Сен. р.).

ЗАХІНАЦЦА, ЗАХІНУЦЬ, *дзс.*—укутываться, завертываться; завернуть. Захініся, а то замерзьнеш (Канавалава, Куз. р.). Захінулі яны дзяцёнка ў пасьцілку (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗАХЛЫНУЦЦА, *дзс.*—захлебнуться. Каб ты захлынуўся! (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАХЛЯНУЦЬ, *дзс.*—похудеть, ухудшиться. Саўсім мая кароўка захляла. Школа твая захляла (Доўжа, Куз. р.).

ЗАХМАРЫЦЦА, *дзс*,—покрыться тучами. Захмарылася неба—дождж будзець (Лашнёва, Выс. р.).

ЗАХОДЗІЦЦА *дзс.*—1) заливаться слезами, доходить до бесчувствия. Плачаць аж заходзіцца (Унава, Лёз. р.); 2) занывать. Душа заходзіцца на іх гледзючы (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАХРАБЕТНІК, а, *м.* — паразит. Жыве захрабетнікам (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗАХРАСНУЦЬ, *дзс.*—1) засориться. Кала халадніка трубка захрасла—ні цячэць самагонка (Глебаўск, Сен. р.); 2) сделаться густым, сгущенным. Талакно захрасла (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАХУТАЦЬ, *дзс.*—1) закрыть. Захутай у хаці дзьверы (Лалыкі, Аз. р.); 2) укутать. Захутай мне ногі дзяругаю (Асінаўка, Беш. р.).

ЗАЦЕМІЦЬ, *дзс.*—заметить. Я чуць-чуць яго зацеміў (Селядцова, Беш. р.).

ЗАЦІКАВІЦЬ, *дзс.* — заинтересовать. Ня можна нічым яго зацікавіць (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗАЦІКАЎЛЕНЫ — заинтересованный. Я зацікаўлены Ганнулькай (Мянюцева, Сен. р.).

ЗАЦІНЯЦІЦЦА, *дзс.*—покрыться прозрачною коркою. Лёд чуцьчуць заціняціўся (Аськершчына, Беш. р.).

ЗАЦІРКА, ЗАЦЯРЫХА, *ж.* — пища из ржаной, или иной муки густо замешанной комками и опущенной в кипяток. Зацярыха смашна толькі з малаком (Альшанікі, Беш. р.) Смачная зацірка (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗАЦІСНУЦЬ, *дзс.* — задавить, затиснуть. Зацісьні камара (Мішкава, Куз. р.).

ЗАЦІШАК, у, *м.*—тихое укромное место. Вось сядзем сюды, тут зацішак, ветру няма (Доўжа, Куз. р.). Пар. затулак.

ЗАЦІШНА—спокойно, тихо от ветра. У лясу зацішна было пасьціць стадак (Княжыца, Куз. р.).

ЗАЦУРАВАЦЬ, *дзс.* — заштопать. Пазыч мне шаршатку зацураваць панчохи (Семянцова, Беш. р.). Зацуруй мне споткі (Рыбчына, Сір. р.).

ЗАЦЫГАЦЬ, *дзс.* — запищать. Нашы піскляты зацыгалі (Оўсішча, Сен. р.).

ЗАЦЬВІЦЕЦЬ, *дзс.* — зацвести. Зацьвіцела ў гародзе макоўка (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗАЦЬМЕНЬНЕ, *н.* — затмение. Сёньня было зацьменьне (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ЗАЦЯГНУЦЬ, *дзс.* — затащить. Зацягнуў ён нас у гразь (Мамойкі, Беш. р.).

ЗАЦЯЛЕПА, *аг.* — цепляющийся. Эх ты, зацялепа! (Мазалава, Куз. р.).

ЗАЦЯМНЯЦЬ, *дзс.* — затемнять свет. Адступіся ад лямпы, ні зацямняй! (Пушкары, Сен. р.).

ЗАЦЯРУШВАЦЬ, *дзс.* — 1) засорять. Зацярушыў вока, нічога, ня бачу (Горбава, Лёз. р.); 2) слегка посыпать сверху. Зацярушы троху сьвежай травой зьверху (Дабрыгары, Беш. р.).

ЗАЦЯЦЬ, *дзс.* — затаить дыхание. Ён зацяў дух (Абрэзкава, Сен. р.).

ЗАЧАПІЦЬ, *дзс.* — 1) зацепить, повесить. Зачапі гэты дрот над печкай (Оўсішча, Сен. р.). Зачапіў бацька арэлі (Чарнагосьці, Беш. р.); 2) затронуть. Каб ты яго ні зачапіў, ня было-б і бойкі (Дрыкольле, Куз. р.).

ЗАЧАСАЦЬ, *дзс.* — затесать. Гэты дурыла і коліка зачасаць ня ўмеіць (Ульянавічы, Сен. р.).

ЗАЧАСТАВАЦЬ, *дзс.* — 1) угостить до отказа, переугостить. Ня бойцеся: дужа ні зачастую (Макарава, Віц. р.). Зачаставаў іх там гарэлкаю так, што на трэці дзень дамоў прышлі (Глебаўск, Сен. р.); 2) угостить битьем. Я табе, калі хочаш, гэтым ахалкам зачастую (Стасева, Выс. р.).

ЗАЧАЎРЭЦЬ, *дзс.* — зачахнуть. Ты зусім зачаўрэў ад балесьці (Асіпова, Аз. р.).

ЗАЧЫ — заочно, за глаза. Зачы ён зусім інакш кажэць (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗАЧЫМ — почему. Зачым ты не паехаў на поле? (Прыстоі, Чаш. р.).

ЗАЧЫНАК, у, *м.* — большая ступенька, выступ печи. Я буду спаць на зачынку (Стаішча, Чаш. р.).

ЗАЧЫНАЦЬ, *дзс.* — начинать. Як зачнець ляпаць дзьвярмі (Селядцова, Беш. р.).

ЗАЧЫНЯЦЬ, *дзс.* — закрывать. Зачыні дзьверы (Рудня, Аз. р.).

ЗАЧЫРЫЦЬ, *дзс.* — сделать беременной. Ета ён Гапку зачырыў (Адаменкі, Лёз. р.).

ЗАШКОДЗІЦЬ, *дзс.* — завредить. Кіслае малако мне зашкодзіла (Шарыпіна, Беш. р.).

ЗАШПІЛЬКА, *ж.* — застежка, петля. Зашпілька разарвалася (Кузьміно, Сен. р.).

ЗАШПІЛЯЦЬ *дзс.* — застегивать. Зашпілі рубаху (Мазалава, Куз. р.).

ЗАШТРАЙКАВАЦЬ, *дзс.* — забастовать. Работнікі заштрайкавалі (Храпавічы, Куз. р.).

ЗАШЧАЎКА, *ж.* — петля из нитки на конце веретена, застегиваемая во время прядения. Яна ўжо лоўка даелаець зашчаўку (Александрова, Гар. р.).

ЗАЮХА, *аг.* — нервный, раздражительный. Ён такі заюха, што луччы маўчы, калі ён гаворыць (Навікі, Віц. р.).

ЗАЯДАЦЦА, *дзс.* — 1) врезываться. Абора заелася ў цела

(Кураеды, Беш. р.); 2) ссориться, враждовать. Яны ўжо даўно заеліся і судзяцца (Бель, Выс. р.).

ЗАЯДЛЫ — придирчивый, задорный. Ён хлапец заядлы (Сянно, Сен. р.).

ЗАЯЦ, а, *м.* — заяц. Lepus europaeus transsylvanicus Matschie Я ўлавіў ў жыце зайца (Кураеды, Беш. р.).

ЗБАБІЦЦА, *дзс.*—состариться. Пятрок зусім ўжо збабіўся (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЗБАЙДАШЫЦЬ, *дзс.* — сбыть без толку, потерять. «Збайдашыць» кажуць тады, калі адзін пытаецца ў другога аб тым, што ён згубіў, або прадаў за бязцэнак (Чашнікі, Чаш. р.).

ЗБАНКРУЦІЦЦА, *дзс.*—1) обанкротиться. Нікому нічога ні аддаець, бо збанкруціўся (Сьцяпанавічы, Меж. р.); 2) пропасть. А мой як збанкруціўся з суботы, дык і няма (Рыбчына, Сір. р.).

ЗБАНОК, а, *м.*—кувшин. Разьбіўся збанок і няма малака (Пачаевічы, Чаш. р.). Пар. жбан.

ЗБАСЬЦЯЦЦА, *дзс.*--избродяжничаться. Ён зусім збасьцяўся (Асіпова, Аз. р.).

ЗБЛЁКЛЫ — поблекший. Ня люблю я етай зблёклай спадніцы (Лазукі, Чаш. р.).

ЗБЛЁТКАЦЬ, *дзс.* — погубить, потерять. Зблёткала, Аўдоцьця маі вілкі (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗБЛЫШЫЦЬ, *дзс.* — сделать, сказать глупость. Зблышыў, брат, а так ня нада было (Слабодка, Куз. р.).

ЗБОЖЖА, *н.*—1) хлеб в зернах. Збожжа сыплюць у клеці (Кр. Сяло, Сен. р.); 2) хлеб на поле, урожай. Сёліта рана пажалі збожжа (Мамойкі, Беш. р.).

ЗБОЙ, ю, *м.* — толпящееся большое количество людей или скота в тесноте. Сёньня ў гогорадзе наехала столькі людзей —прама збой (Стралкі, Беш. р.).

ЗБОЙКА, *ж.* — круглая или четырехугольная палка для связи ткацкого станка. Давай сюды збойку (Макеенкі, Аз. р.).

ЗБОР, *зб.* — собрание людей. Учорах у Чашніках бальшэй збор быў (Асташова, Чаш. р.).

ЗБОРШЧЫНА, *ж.*—собирание платы следуемой пастуху. Прынясі жыта—са зборшчынаю ідуць (Касачы, Лёз. р.).

ЗБОРЫ, аў, *м.*—приготовления. Пачаліся зборы к вясельлю (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗБОРЫШЧА, *н.* — сходка. Ён пойдзе на зборышча (Ульянавічы, Сен. р.).

ЗБРАДЛІВЫ—вороватый. Дужа збрадлівая кошка (Навікі, Віц. р.).

ЗБРАХАЦЬ, *дзс.* — соврать. Збрахала Іванішка пра ўсё ета (Андрукі, Беш. р.).

ЗБРОДАВАЦЬ, *дзс.*—быть вороватым. Наш кот дужа збродаваіць (Сьвярдлы, Беш. р.).

ЗБРОДНІК, а, *м.*—вороватый. Матка ня любіць Янку, бо ён збродні**к** (Калышкі, Лёз. р.).

ЗБРЫЗГА, *ж.* — шнурок с крючками, привязываемый к рыболовному шнуру. Рыба парвала збрызгі (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ЗБРЫДЗЕЦЬ, *дзс.*--опротиветь. Во ён мне збрыдзіў, што я на яго і глядзець не хачу (Мокавічы, Чаш. р.).

ЗБУДАВАЦЬ, *дзс.*—построить. Я ўжо і хлеў збудаваў на хутары (Алексінічы, Сен. р.).

ЗБУРБОЛІЦЬ, *дзс.* — смешать жидкости. Збурболіла капусту з крупеняй (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗБУТЛЕЦЬ, *дзс.* — истлеть, сгнить. Крыж на могільцы збутлеў і рассыпаўся (Вядрэнь, Чаш. р.).

ЗБЫТНЫ—1) излишний. Збытнага людзей было—балонку выціснулі (Крынкі, Выс. р.); 2) намеченный к продаже. Гэта жаробачка ў нас збытная (Касачы, Лёз. р.).

ЗВАДУН, ЗВАДЫЯШ, ЗВОД, а, *м.* — сводник, плут. Кепска быць звадуном (Дзямідавічы, Чаш. р.). Ніколі ня скажыць праўды гэты звадыяш (Бешанкавічы, Беш. р.). Ня верця яму, етаму зводу (Сухарукава, Аз. р.).

ЗВАЖАЦЬ, *дзс.* — обращать внимание. А ты не зважай на ету абэлку (Расна, Сен. р.).

ЗВАЖЛІВА—внимательно. Люба глядзець, як Міколка зважліва работаець (Лужасна, Куз. р.).

ЗВАЖНА—неспеша, медленно. Зважна робім, дык і толку мала (Лужасна, Куз. р.).

ЗВАЖЫЦЬ, *дзс.*—1) свесить. Бяры жыта і зваж (Стралкі, Беш. р.); 2) уступить. Зваж яму, не ругайся (Стралкі, Беш р.).

ЗВАДЗІЦЬ, *дзс.*—обманывать, говорить неправду. Пятрук дужа умеіць звадзіць (Вярхоўе, Беш. р.).

ЗВАЛАКАЦЬ, *дзс.*—утаскивать. Мышына звалакла сала (Глебаўск, Сен. р.).

ЗВАЛІЦЦА, *дзс.* — свалиться. Звалілася баба з печы і пабіла плечы (Гарывецк, Сен. р.).

ЗВАЛІЦЬ, *дзс.* — 1) свалить, сбыть. Абы як, абы з рук зваліць (Храпавічы, Куз. р.); 2) повалить. Бальшэнную асіну зваліў (Асінаўка, Выс. р.).

ЗВАНЕЦ, у, *м.*—Alectoralophus major Rehl., A minor Wimet Grab. Званец расьце ў полі (Кузьміно, Сен. р.).

ЗВАНІТАВАЦЬ, *дзс.*—стошнить. Дзіця званітавала (Оўсішча, Сен. р.).

ЗВАНІЦА, *ж.*—колокольня. З званіцы далёка відаць (Рудня, Аз. р.).

ЗВАНОЧАК, а, *м.*—колокольчик. Званочак далёка заніў (Гарывецк, Сен. р.).

ЗВАНОЧКІ, аў, *м.*—колокольчики. Campanula (розныя віды). На лузе расьлі сіненькія званочкі (Асінаўка, Беш. р.).

ЗВАРОЧВАЦЦА, *дзс.*—обращаться. Кума Мар'я зварочываецца да Алены... (Сяркуці, Сен. р.).

ЗВАРОТ, у, *м.*—оборот. Ён меіць добры зварот (Петрачыха, Аз. р.).

ЗВАР'ЯЦЕЦЬ, *дзс.*—сойти с ума. Ці ты звар'яцела? (Селядцова, Беш. р.).

ЗВАРЫЦЬ, *дзс.*—сварить. Мы сягоньня зварылі юшку, булён і бульбу (Альшанікі, Беш. р.).

ЗВАЦЦА, *дзс.*—называться. Як завецца гэта бульба? (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗВАТЫ—званный. Вясельлеў многа было, а я усё ня званы (Лукашоўка, Беш. р.).

ЗВАЦЬ, *дзс.*—приглашаць. Ну, заві ўжо сваіх гасьцей (Выгары, Куз. р.).

ЗВОД, у, *м.*—мор. Нейкій звод на сьвіней напаў, што ні куплю—здыхаюць (Калышкі, Лёз. р.).

ЗВОДКА, *ж.*—сплетня. Яна займаецца зводкамі (Нов. Сяло, Беш. р.).

ЗВОДЗІЦЬ, *дзс.*—сплетничать. Ні звадзі, ні разнасі зводкі (Сьвярдлы, Беш. р.).

ЗВОН, у, *м.*—колокол. Зазванілі ва ўсе званы (Пачаевічы, Чаш. р.).

ЗВОНКІ, *ж.*—бубновая масть в картах. Звонкі козыры (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗВОНКІ—звонкий. Міколавы цымбалы дужа звонкіі (Астроўна, Віц. р.).

ЗВУЧЫЦЬ, *дзс.*—приучить. Звучыў яго біцца, дык цяпер цярпі сам (Калышкі, Лёз. р.).

ЗВЫКАЦЦА, ЗВЫКНУЦЬ, *дзс.*—привыкать, привыкнуть. Я троху звыкся з працай (Русінава, Сен. р.). Наша цялушка звыкла ў авёс бегаць (Глебаўск, Сен р.).

ЗВЫЧАЙ, ю, *м.*—обычай. Гэта у нас такі звычай, што маладуха плачыць (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗВЫЧАЙНА, ЗВЫЧ—обыкновенно. Звычайна і ў нас на кірмашы іноды б'юцца (Лужасна, Куз. р.). Звыч яно робіцца з гіпсу або з мрамару (Прыгунова, Сір. р.).

ЗВЫЧАЙНЫ — обыкновенный. Звычайная кабета (Нов. Сяло, Беш. р.).

ЗГАДЗІЦЦА, *дзс.* 1) согласиться. Ён згадзіўзя на гэта ахвотна (Міхалпольле, Сен. р.); 2) наняться. Работнік згадзіўся на год (Оўсішча, Сен. р.).

ЗГАЛЕЦЬ *дзс.*—обнищать. Ляксей наш саўсім згалеў (Прусаўкі, Аз. р.).

ЗГАНАШЫЦЬ *дзс.*—собрать. Ванька зганашыў сабе дроў (Ходцы, Сен. р.).

ЗГАНІЦЬ, *дзс.* — опорочить, охулить. Зганілі цябе зусім у нас (Кузьміно, Сен. р.).

ЗГАНЯЦЬ, *дзс.*—сгонять. Калі сьнег згоніць. (Лятоўшчына, Куз. р ).

ЗГАРЭЦЬ, *дзс.*—сгореть. Каб табе згарэць, чорту крывому! (Сянно, Сен. р.). Ад сонцу усё згарэла (Лалыкі, Аз. р.).

ЗГАРОДА, *ж.*—1) изгородь. Лошадзі зламалі згароду (Рудня, Аз. р.); 2) неуклюжий. Лнк. Згарода ты праклятая! (Латышы, Беш. р.). Пар. азгарода.

ЗГАТАВАЦЦА, *дзс.*--свариться. Крупеня добра згатавалася (Кузьміно, Сен. р.).

ЗГВАЛЦІЦЬ, *дзс.* — изнасиловать. Хлопец Марыльку згвалціў (Латыгаль, Сен. р.).

ЗГВЫЛІЦЬ, *дзс.*— плакать, выть. Нечага табе згвыліць: не пакрыўджана ты тут (Папкі Цяпінскія, Чаш. р.).

ЗГІНУЦЬ, *дзс.*—пропасть. Дзе ты згінуў? (Доўжа, Куз. р.).

ЗГЛАМАЗЬДЗІЦЬ, *дзс.*—плохо сделать. Хату згламадзіў, што нікуды ні гадна (Казакі, Куз. р.).

ЗГЛУМІЦЬ, *дзс.*--испортить. Ён зглуміў гэта дзераўцо (Будна, Сен. р.).

ЗГНАІЦЬ, *дзс.*—сгноить. Згнаілі сена ў пуні (Лужасна, Куз. р.).

ЗГНІЦЬ, *дзс*—сгнить. Замёт ужо згніў (Дворышча, Беш. р.).

ЗГОДА, ЗГОДНАСЬЦЬ, *ж.*--согласие. Яны жывуць у згодзе (Сянно, Сен. р.).Няма ў іх хаці згоднасьці—брэшуцца (Калышкі, Лёз. р.).

ЗГОДНА—1) согласно. Усе яны згодна жывуць каторы год (Чашнікі, Чаш. р.); 2) годно. На што ўжо згодна ета ісьцёпка? (Халамер'е Аз. р.).

ЗГОЙШЫЦЬ, *дзс.*—потерять по недосмотру. Дзе ты згойшыў яго? (Луб'ева, Аз. р.).

ЗГОНЬНІК, а, *м.*—1) старший пастух. Згоньнік з падпаскамі пасьцьвіў статак (Путрына, Беш. р ); 2) овинная метла. Дай згоньнік згарнуць мякіну з абмалочанага хлеба (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЗГРАБНЫ—стройный. Зграбныя хлопцы ёсьць у Застадольлі (Машчоны, Сен. р.).

ЗГРАЗІЦЬ, *дзс.* — исполнить угрозу. Нічым ты яму ні згразіў (Адаменкі, Лёз. р.).

ЗГУБА, *ж.*—погибель. А каб на цябе згуба прышла! (Мянюцева, Сен. р.).

ЗГУБІЦЬ, *дзс.* - 1) потерять. Згубіла яна мне іголку (Селядцова, Беш. р.); 2) сгубить, погубить. Згубілі маю дачушку замужжам (Машчоны, Сен. р.)

ЗГУЛЯЦЬ, *дзс.*—сыграть. Мы дабіркі, а яны вясельле згулялі (Лашнёва, Выс. р.).

ЗГУРТАВАЦЬ, *дзс.*—собрать, об'единить. Ты б не згуртаваў так, як ён, дзяўчат (Пушкары, Сен. р.).

ЗДАБЫВАЦЬ, ЗДАБЫЦЬ, *дзс.* —добывать, добыть; доставать, достать. Грышка пашоў здабываць сабе зямлі (Машчоны, Сен. р). Трэба здабыць жыта (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗДАВАЛЬНЯЦЬ, *дзс.*—удовлетворять. Дакуль ты будзеш яго здавальняць? (Мянюцева Сен. р.).

ЗДАВАЦЦА, *дзс.* — казаться. Мне здалося, што нехта выстраліў (Асіпова, Аз. р.).

ЗДАЛЁКУ, ЗДАЛІКУ—издали. Прышоў я здалёку (Храпавічы, Куз. р). Я на ігрышчы пастаяў здаліку, ды пашоў дамоў (Машчоны, Сен. р.).

ЗДАНКІ, *ж.*—привидение. Гэта табе паказаліся зданкі (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗДАРАЦЦА, *дзс.*—случаться. Здараецца і ў вас гэтак (Раманаўка, Сен. р.).

ЗДАРЭНЬНЕ, *н.*—случай. Вялікае здарэньне, падумаіш! (Клышчыно, Беш. р.).

ЗДАРОЎ—здоров. Наш бацька здароў (Раіны, Аз. р.).

ЗДАРОВЫ—кроме общего значения. 1) сильный. Ён здаровы чалавек—шмат можа падняць (Пякары, Куз. р.); 2) крепкий. Такую здаровую нітку парвала (Яноўшчына, Беш. р.).

ЗДАТНАСЬЦЬ, *ж.* — способность. Клім да етага мая здатнасьць (Дзяды, Сір. р.).

ЗДАТНЫ—способный. Ён здатны да усяго, ды толькі нічога ў яго ня выходзіць (Шаркі, Куз. р.).

ЗДАЎНА—исстари. Здаўна так вядзецца (Барсукі, Аз. р.).

ЗДОЛЕЦЬ, *дзс.*—осилить. Не чапай, ён цябе можыць здолець (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗДОЛЬНІК, а, *м.*—приемный хозяин, принятый в семью, где есть нетрудоспособные; участник. Ягор пайшоў у здольнікі (Стралкі, Беш. р.).

ЗДОЛЬНЫ - способный. Наш Кастусь надта здольны (Сянно, Сен. р.).

ЗДОР, у, *м.*—жир от внутренностей. Мала здору было ў парсюка (Стаішча, Чаш. р).

ЗДОХНУЦЬ, *дзс.*—пасть, издохнуть. Пакуль тоўсты ссохніць —худы здохніць (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗДРАДА, *ж.*—измена. Усюдах цябе нагоніць здрада: у полі сонца, у лесі затулак, у сям'і—жонка здрадзіць (Дабрамысьль, Лёз. р.).

ЗДРАДЗІЦЬ, *дзс.* изменить. Я табе ня веру—ты здрадзіш (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗДРАТАВАЦЬ, *дзс.*—истоптать. Коні ўвесь ячмень здратавалі (Цясьляціна, Сір. р.).

ЗДРЭНІЦЬ, ЗДРЭНЧЫЦЬ. *дзс.* —1) испортить. Яшчэ добра было, а ён здрэніў (Лужасна, Куз. р.); 2) охулить. Ты ўжо дужа яго здрэньчыў, а ён, здаецца, і чалавек добры (Русінава, Сен. р.).

ЗДРОЧЫЦЬ, *дзс.*—приласкать. Як ён Настулю здрочыў—назваў яе ангілам! (Клюі, Куз. р.).

ЗДРЫГАНУЦЦА, *дзс.*—содрогнуться. Берагіся, каб не здрагануцца (Купіна, Віц. р.). Ен увесь чыста здрыгануўся (Лалыкі, Аз. р.).

ЗДРЫГНУЦЬ, *дзс.*--вздрогнуть. Здрыгнула мора, здрыгнула—там наша Мар'ічка ўтанула (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗДРЫЖНІК, у, *м.*—трясунка. Briza media L. Здрыжнік расьцець на лузе (Заронава, Куз. р.).

ЗДУЖАЦЬ, *дзс.* — побороть, осилить. Хто каго здужаець—той таго й наб'ець (Ходцы, Сен. р.).

ЗДУМЛЯЦЬ, *дзс.*—выдумывать. Няздумляй ты! (Стаішча, Чаш. р.).

ЗДУРНЕЦЬ, *дзс.* — поглупеть. Ці ня здурнеў ты, ці не з галавы ты вышаў? (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗДЫБАЦЦА, *дзс.* — сойтись. Яны ўжо здыбыліся (Дабрыгары, Беш. р.).

ЗДЫРДЗІЦЦА, *дзс.*—околеть, издохнуть. Пан наш сяньні здырдзіўся (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗДЫХАТА, ЗДЫХЛІНА, ЗДЫХЛЯЦІНА, *ж.* — падаль. Сьмярдзіць здыхатой (Доўжа, Куз. р.). Каля самай дарогі ляжыць здыхліна (Максімава, Куз. р.). За гумном валяецца здыхляціна (Машчоны, Сен. р.).

ЗДЫХАЦЬ, *дзс.* — околевать. Учора ў Сёмкі здохла карова (Лагавая, Аз. р.).

ЗЕЛЬЛЕ, *н.* — лекарство. Выпей ты зельля—палягчэець (Асіпова, Аз. р.). Атвечаркам зьбегаю за зельлем у аптэку (Кавалёўшчына, Беш. р.).

ЗЕНКІ, *ж.* — зрачки. Што ты павылупіў зенкі? (Оўсішча, Сен. р.).

ЗЕРНЕ, *н.*—зерно Коль салома віду ня меець, дык і зерне ня будзець мець (Пятніцкая, Беш. р.). Пар. зярнё.

ЗЕРЫЦЬ, *дзс.*—виднеть. Ужо зерыць даўно (Храпавічы, Куз. р.).

ЗЕЎ, а, *м.* — кроме общего значения—проход между нитками основы, через который протягивается поперечная нитка полотна. Зеў малы, бо набіліцы селі (Беліца, Сен. р.).

ЗЭДАЛЬ, я, *м.*, ЗЭДЛІК, а, *м.* — скамейка. Пастаў вядро на зэдаль (Нов. Сяло, Беш. р.). Арына, прысунь к сталу зэдлік (Ульлянавічы, Сен. р.).

ЗЁЛКІ, *ж.* — лекарственные травы. Трэба насушыць, зёлак, натапіць і піць (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗЖОЎКНУЦЬ, *дзс.* — пожелтеть. Ад сільнай жары аўсы зжоўклі (Паповічы, Куз. р.).

ЗІМАВАЦЬ, *дзс.* — проводить зиму. У Сымона зімавала чатыры авечкі (Машчоны, Сен. р.).

ЗІМНІЦА, *ж.*--зима. Грамніцы—палова зімніцы (Оўсішча, Сен. р.).

ЗІМОВЫ—зимний. Зімовая дарога лёгкая (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ЗІПАЙЛА, *м.* — плакса. Вот зіпайла, чаго ты зіпаіш? (Дабрыгары, Беш р.).

ЗІПАЦЬ, *дзс.*—плакать, реветь. Вот зіпайла, чаго ты зіпаіш? (Дабрыгары, Беш. р.).

ЗІР, *вкл.*—глядь. Я зір у вакно, аж пажар (Унава, Лёз. р.).

ЗІРНУЦЬ, *дзс.* — посмотреть. Зірнула раз—падабаўся (Пятніцкая, Беш. р.). Зірні ў вакно, ці стаіць там конь? (Сянно, Сен. р.).

ЗІХАЦЕЦЬ, *дзс.*—блестеть. Сягоньні яго боты дужа зіхацяць—наша выгарыць (Марчонкі, Сур. р).

ЗЛАВАЦЦА, ЗЛАВАЦЬ, *дзс.* — злиться, сердиться. Мікіта сядзеў

да маўчаў, а потым — злуецца (Сукрэмна, Сен. р.). Цэлы дзень жонка злуіць (Жабяньцяі, Сур. р.).

ЗЛАВІЦЬ, *дзс.* — поймать. Ён злавіў птушку (Альгова, Віц. р).

ЗЛАЖЫЦЬ, *дзс.* — 1) скласть. Злажы сена ў копы (Гарані, Куз. р.); 2) кастрировать. Нада злажыць парсючка (Гарані, Куз. р.).

ЗЛАМАЦЦА, *дзс.* — сломиться. Біцук зламаўся ў цапе (Зямковічы, Сен. р.).

ЗЛАМАЦЬ, *дзс.* — сломить. Сёньня зламаў сабе зуб (Косы, Віц. р.).

ЗЛАЧЫНСТВА, *н.*—злодеяние. Во дажылі: забойствы ды злачынствы (Макарава, Віц. р.).

ЗЛАШЧА—особенно, тем более. А злашча багатым добра (Доўгае, Беш. р.).

ЗЛОДЗЕЙ, я, а, *м.*—вор. Зладзеі забраліся ў клець (Ісачкава, Аз. р.). Злодзега не злавілі (Машчоны, Сен. р.). За злодзіямі жыцьця ня стала (Машчоны, Сен. р.).

ЗЛОМАК, а, *м.* — никчемник. А сам зломак, ці што? (Рыбчына, Сір. р.).

ЗЛОСНЫ — сердитый, злой. У нашых Макеенках із мужыкоў Сьцяпан самы злосны (Макеенкі, Аз. р.).

ЗЛОСЬНІК, а, *м.*—враг. Ніхай маім злосьнікам тое, што яны мне зычуць (Рыбчына, Сір. р.).

ЗЛОСЬЦЬ, *ж.* — злоба, гнев. Злосьці поўны косьці (Сянно, Сен. р.).

ЗЛОТЫ, а, *ж.*—пятиалтынный. Атваж на злоты партнэе хварбы (Путрына, Беш. р.). Пар. залатоўка.

ЗЛУБЯНЕЦЬ, *дзс.* — одеревянеть. Злубянелі мае катанкі (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗЛУПІЦЬ, *дзс.* — содрать, слупить. Злупіў скуру (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗЛУЧЫЦЬ, *дзс.* — соединить. Трэба злучыць хужэйшае жыта з лепшым (Машчоны, Сен. р.).

ЗЛЫДНІ, яў, *м.*—бедность, недостатки. У маёй гаспадарцы усё злыдні (Кулі, Куз. р.).

ЗЛЫДНЫ—скупой. У злыднага хуць сухі хлеб ежка, за то грошай дзешка (Вядрэнь, Чаш. р.).

ЗЛЫДЗЕНЬ, я, *м.* — лиходей. З злыднямі не хачу мець дзела (Копцевічы, Чаш. р.).

ЗМАЛКУ, ЗМАЛЯ—с малолетства. Змалку пашоў ганяць у поле (Засьценкі, Выс. р.) Ён такі змаля (Канавалава, Куз. р.).

ЗМАРДАВАЦЦА *дзс.* — измучиться. Змардаваўся і пашоў дамоў (Залесьсе, Чаш. р.).

ЗМАРКОЦІЦЦА, *дзс.* — соскучиться. Змаркоціўся па мне, сынок (Рыбчына, Сір. р.

ЗМАРНЕЦЬ, *дзс.*—истощиться. Чаго ты, Настулька, змарнела— ці твая галоўка забалела (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗМАТЧЫЦЦА, *дзс.*—затеряться, потеряться. Вот жа і зматчыўся мой нож (Гравы, Сен. р.). Усе ягняты зматчуцца (Доўгае, Беш. р.).

ЗМАТЧЫЦЬ, *дзс.*— истратить. Я зматчыла грошы (Мамойка, Беш. р.).

ЗМОВА, *ж.*—1) условие, договор. Змова ў мяне на хату пад школу ёсьць (Асташова, Чаш. р.); 2) сговор, заговор. Тутака бяз змовы не обышлося (Лужасна, Куз. р.).

ЗМОВІЦЦА, *дзс.*—уговориться. Мы змовіліся ўжо з Аўдзеем (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗМОВІЦЬ, *дзс.*—1) нанять. Я яго змовіла ўжо на лета кароў пасьціць (Храпавічы, Куз. р.); 2) отдать в наймы. Я змовіў на зіму свайго сына (Патапенкі, Выс. р.).

ЗМРОК, у, *м.* — сумрак. Ужо змрок—нічога ня відаць (Калышкі, Лёз. р.).

ЗМУРАВАЦЬ, *дзс.*—построить каменное здание. Можа за год і змуруюць у Віцебску той дом, што каменьне возім (Лужасна, Куз. р.).

ЗНАЁМЫ—знакомый. Знаёмы чалавек (Машчоны, Сен. р.).

ЗНАКАМЕЙ — более знаком. Ён з вамі знакамей (Мікалаёва, Куз. р.).

ЗНАЛІЦА, *ж.* ЗНАЛІЧЧА, *н.* — изнанка. Гэта ж скуты скручаны на зналіцу (Навасёлкі, Сен. р.). І зналічча ладнае (Доўгае, Беш. р.).

ЗНАПАЛУ — неожиданно. Наляцеў на мяне знапалу (Дубраўка, Сен. р.).

ЗНАСІЦЦА, *дзс.* — износиться. Мая куртка зусім знасілася (Вейна, Сен. р.).

ЗНАХАДКА, *ж.* — н а х о д к а. Хвенька, узнай што я за знахадку знайшла (Макеенкі, Аз. р.).

ЗНАХАРКА, *ж.*–знахарька, колдунья. Пайду да знахаркі лячыцца (Падлазьнікі, Куз. р.).

ЗНАХОДЗІЦЬ, ЗНАЙЦІ, *дзс.*— находить, найти. Знайдзі мне мой ворчык (Лужасна, Куз. р.). Ні разу ня знайдзеш таго, што трэба (Лалыкі, Аз р.).

ЗНАЦЦА, *дзс.*— быть знакомым. Яны знаюцца ўжо даўно. (Пятніцкая, Беш. р.). Я ні хачу з табой большы знацца (Навікі, Віц. р.).

ЗНАЦЬ, *дзс.* — знать. А злыдні яго знаець! (Вейна, Сен. р.).

ЗНАЧНЫ — значительный. Во, ета значны заработак! (Лужасна, Куз. р.).

ЗНОДАЦЬ, *дзс.* — с м е ш а т ь, уничтожить. Я цябе знодаю з зямлей! (Доўгае, Беш. р.).

ЗНОЙ, ю, *м.* — пар в бане. Паддай зноюі (Застарыньне, Беш. р.).

ЗНОЎ — снова. Зноў пачалі вазіць снапы (Лалыкі, Аз. р.).

ЗНУДЗЕЦЬ, *дзс.* — истосковаться. Маё сэрца знудзела — даўно з мілым сідзела (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗОЛАК, у, *м.* — рассвет. Я ўстаў толькі золак заняўся (Стаішча, Чаш. р.).

ЗОЛАКАМ — на рассвете. Вярнуўся з гораду золакам (Сініцына, Віц. р.).

ЗОЛКА — сыро, холодновато. Мокра і золка на дварэ, дождж ідзець не переставая (Чарніца Лёз. р.). Зраньня было дужа золка (Сініцына, Віц. р.).

ЗОЛЬ, і, *ж.* — холод, слякоть. Якая сёньня на двары золь! (Аськершчына, Беш. р.).

ЗОРКА, *ж.* — звездочка. Ясна засьвяціла на небе зорка (Марцінкава, Сен. р.).

ЗРАБІЦЬ, *дзс.* — сделать. Зрабі мне зэдлік (Шаркі, Куз. р.).

ЗРАЗА, *ж.* — образец, узор. Наста прынесла палатно рабушкі на зразу (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗРАЗАЦЬ, *дзс.* — срезывать. Пойдзем зразаць капусту (Дубінкі, Беш. р.).

ЗРАЗУ — сразу. Зразу на яе нешта найшло (Доўжа, Куз. р.).

ЗРАЗУМЕЛА — понятно. Яму што ні кажы — усё зразумела (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗРАНКУ, ЗРАНЬНЯ — с утра. Ён зранку пашоў у лес (Вішні, Выс. р.). Зраньня яшчэ нічога ня еў (Стралкі, Беш. р.).

ЗРЭБНІНА, *ж.* — 1) грубое полотно из льняного волокна худшего сорта. Сарочак са зрэбніны ня шыюць (Лужасна, Куз. р.); 2) худший сорт льняного волокна. З зрэбніны трэба выткаць на дзяругі (Сяркуці, Сен. р.).

ЗРЭБНЫ — сделанный из худшего льняного волокна. Чаму зрэбная ў цябе кофта? (Пушкары, Сен. р.).

ЗРЭБ'Е, *н.* — грубое полотно из льняного волокна худшего сорта. Вытчым кужэль, тады зрэб'е (Пятніцкая, Беш. р.). Пар. зрэбніна.

ЗРЭЗАЦЬ, *дзс.* — спилить. Я зрэзаў бярэзіну (Баранаўка, Куз. р.).

ЗРЭНКА, *ж.* — зрачок. У Базыля сапсуванае зрэнка (Ульянавічы, Сен. р.). Пар. зенкі.

ЗРУБ, а, *м.* — сруб. Зруб новы паставіў (Навікі, Віц. р.).

ЗРУДЗЕЦЬ, *дзс.* — пожелтеть, загрязниться. Зрудзеў за дзьве нядзелі, як баран (Сукрэмна, Сен. р.).

ЗРУЙНАВАЦЬ, *дзс.* — разрушить, уничтожить. Зруйнаваў усё дашчэнту (Доўгае, Беш. р.).

ЗРУЦІЦЬ, *дзс.* — сдвинуть, сбросить. Трэба яго зруціць з мейсца (Сялец, Чаш. р.).

ЗРУЧНЫ — удобный, ловкий. Зручнае касьсё ў тваей касе (Лужасна, Куз. р.).

ЗРУШЫЦЦА, *дзс.* — сдвинуться. Мархва два гады хварэіць жыватом, ніначы залатнік зрушыўся (Пацкава, Сен. р.).

ЗРУШЫЦЬ, *дзс.* — сдвинуть. Нам ня зрушыць гэтага ганка (Лужасна, Куз. р.).

ЗРЫНУЦЦА, *дзс.* — упасть стремглав. Глядзі, хлопча, ня зрынься (Гравы, Сен. р.).

ЗУБЕЦ, а, *м.* — крючек для ловли налимов. Цяпер харашо беруцца на зубцы мяні (Чарніца, Лёз. р.).

ЗУЙ, я, *м.* 1) хитрец. Ты ў гэтага зуя што найдзеш! (Вейна, Сен. р.); 2) тщедушный. Куды ён гож еты зуй? (Баравыя, Куз. р.); 3) кулик перевозчик. Astitis hypoleucos L. Зуёў страляў (Слабодка, Куз. р.).

ЗУНДАЛЬ, я, *м.* — большой ленивый человек. Ходзіць, як зундаль і нічога ня робіць (Мокавічы, Чаш. р.).

ЗУСІМ — совсем. Штакет зусім разламаўся (Шарыпіна, Беш. р.).

ЗУХ, у, *м.* — ухарь. Якім ён стаў зухам! (Пачаевічы, Чаш. р.).

ЗЫБКА, *ж.* — люлька. Палажы дзіцё ў зыбку (Асіпова, Аз. р.).

ЗЫБКІ — зыбкий. Якое гэта месца зыбкае! (Азярэцк, Сен. р.).

ЗЫКАЦЦА, *дзс.* — бегать от укуса оводов. Будзіць дош — каровы зыкаюцца (Берашоўцы, Беш. р.).

ЗЫКІ, оў, *м.* — беганье коров от укуса оводов. Цяпер зыкі пачаліся — трудна будзець упасьціць (Бель, Выс. р.).

ЗЫРКІ — резкий, холодный. Сягоньня зыркае надвор'е (Стаішча, Чаш. р.).

ЗЫЧЛІВЫ — доброжелательный. Ён дужа зычлівы чалавек (Горбава, Лёз. р.).

ЗЫЧНА — громко. Як ён крычыць зычна! (Азярэцк, Сен. р.).

ЗЫЧЫЦЬ, *дзс.* — желать. Ня зыч дурноя (Луб'ева, Аз. р.).

Хай мне тое, што я табе зычу (Сініцына, Віц. р.).

ЗЬБЕГАЦЬ, *дзс.* — сбегать. Атвечаркам зьбегаю за зельлем (Кавалёўшчына, Беш. р.).

ЗЬБЕГЧЫ, *дзс*--сбежать. Лукуціны ёркі зьбеглі (Старына, Беш. р.).

ЗЬБІВАЦЦА, *дзс.* — сбиваться. Конь з дорогі зьбіўся (Застадольле, Сен. р.).

ЗЬБІРАНЬНЕ, *н.* — сбор. Пачалося зьбіраньне людзей (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ЗЬБІРАЦЦА, *дзс.* — собираться. Мужыкі к нам часта зьбіраліся (Рудня, Аз. р.).

ЗЬБІРАЦЬ, *дзс.* — собирать. Пойдзем зьбіраць дурніцы (Асінаўка, Беш. р.).

ЗЬБІЦЦА, *дзс.* — кроме общего значения — обеднеть. З хазяйства зьбіцца нядоўга (Выгары, Куз. р.).

ЗЬБЯДНЕЦЬ, *дзс.* — обеднеть. Алі пан зьбяднеў, дык ходзіць абшарпаны (Замошша, Сен. р.).

ЗЬБЯЛЕЦЬ, *дзс.* — побелеть, побледнеть. Зьбялеў, як ліпіна, і ў хату ўбег ад сабак (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЗЬБЯНТЭЖЫЦЦА, *дзс.*--с толку сбиться. Ад вялікіх хлапот ня дзіва зьбяньтэжыцца (Абрэзкава, Сен. р.).

ЗЬВЕКУ — испокон веков. Зьвеку ў нас такі парадак (Лужасна, Куз. р.).

ЗЬВЕРАБОЙ, ю, *м.*—зверобой. Hypericum perforatum L. Зьверабой на лузе лі вас знашла (Карма, Віц. р.).

ЗЬВЕРАДОБНЫ--жадный. Наш Янка зьверадобны (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗЬВЕРЧАНЫ — скрученный, свернутый. Скручаны, зьверчаны ўсю хату абскакаў (венік) (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЗЬВЕСТКА, *ж.* — весть, известие. Звесткі ад Пятрака прывёз (Гарадок, Гар. р.).

ЗЬВЕСЬЦІ, *дзс.* — 1) свести. Гэты цябе гуселькі з ума зьвядуць (Яноўшчына, Беш. р.). Сатана зьвядзець і сакала (Запрудзьдзе, Сен. р.); 2) сбыть. Зьвёў усё хадзяйства, як піць стаў (Лужасна, Куз. р.).

ЗЬВЕСЬЦІСЯ, *дзс.* — 1) известись. Нешта ты Янка дужа зьвёўся (Стралкі, Беш. р.); 2) вывестись. У мяне сьвіньні зусім зьвяліся—звод нейкі напаў (Лужасна, Куз. р.).

ЗЬВІХ, у, *м.* — вывих. Зьвіх у плячэ не даець яму работаць (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗЬВІХНУЦЬ, *дзс.*—вывихнуть. Зьвіхнуў я сабе сяньня ножаньку (Сьліжыкі, Куз. р.).

ЗЬВЯГА, *ж.*—неотвязный лай, болтовня. Воўк сабакі не баіцца, але зьвягі ня любіць (Расна, Сен. р.). Вядзе і вядзе сваю зьвягу, і канца ей няма (Гарывецк, Сен. р ).

ЗЬВЯГАЦЬ, *дзс.* — неотвязно лаять, болтать. Сабака зьвягаў, зьвягаў ды і кінуў. Баба зьвягала, зьвягала, ды і пашла ўпрочкі (Пятніцкая, Беш. р.).

ЗЬВЯГЛІВЫ — придирчивый, бранчливый. Зьвяглівая баба твая жонка (Доўжа, Куз. р.).

ЗЬВЯНУЦЬ, *дзс.*—свянуть. Капуста ад жары зьвянець (Прусаўкі, Аз. р.).

ЗЬВЯЗАЦЬ, *дзс.*—1) связать. Там вяроўкі зьвязалі (Альшанікі, Беш. р.); 2) крепко задуматься. Аб кім ты галоўку зьвязала, маліся богу, што ён твае рукі разьвязаў! (Руць, Чаш. р.).

ЗЬВЯРНУЦЦА, *дзс.* — обратиться. Зьвярніся да Стахвана, ён табе ў гэтым паможа (Селядцова, Беш. р.).

ЗЬВЯРНУЦЬ, *дзс.* — свернуть. Як праедзіш дзярэўню, зьвярні ўлева (Пяцігарск, Беш. р).

ЗЬВЯРЫСТЫ--злой, как зверь. Калі п'яны—тады зьвярысты (Гародна, Віц. р.).

ЗЬВЯСЬНЕЎШЫ—похудевший по весне. Зьвясьнеўшы конь—не паедзеш далёка (Расна, Сен. р.).

ЗЬЕЗД, у, *м.*—с'езд. Цэлых тры дні цягнуўся зьезд (Забор'е, Сен. р.).

ЗЬЕЗЬДЗІЦЬ, *дзс.* — с'ездить. Дарма зьездьдзіў на пруд (Кураеды, Беш. р.).

ЗЬЕДЗЬ, *ж.*—болезнь, которая медленно «ест» человека. Прыгавор хужа зьедзі (Астроўна, Віц. р.).

ЗЬЕСЬЦІ, *дзс.*—с'есть. Багдай цябе ваўкі зьелі (Чарнагосьці, Беш. р.). Голад ня цётка: зьесьць, што папала (Мішкава, Куз. р.).

ЗЬЕХАЦЬ, *дзс.* — 1) с'ездить. Я зьехаў сягоньні ў горад абдзень (Стралкі, Беш. р.); 2) сильно ударить. Ты мне цяпер не даедай —во ляжыць палка, дык зьеду па карку (Вядрэнь, Чаш. р.).

ЗЬЗЯЦЬ, *дзс.*—сиять. Сонейка зьзяе (Труханавічы, Чаш. р.).

ЗЬДЗЕК, у, *м.*--издевательство. Колькі зьдзеку я ад іх нацярпеўся! (Прыстоі, Чаш. р.).

ЗЬДЗЕКВАЦЦА, ЗЬДЗЯКАЦЦА, *дзс.*—издеваться. Божа-ж мой, як зьдзекваецца над Янкам яго мачыха! (Русінава, Сен. р.). Ён зьдзякаўся над гэтым (Падрэзы, Чаш. р.)

ЗЬДЗЕРЦІ, *дзс.*—сорвать, содрать Зьдзёр скуру з пальца (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗЬДЗЕЦЬ, ЗЬДЗЯВАЦЬ, *дзс.*—снять, снимать. Зьдзень свой балахон (Сялец, Чаш. р.). Зьдзявай боты (Сташча, Чаш. р.).

ЗЬДЗЯЎБІЦЬ, *дзс.* — поковырять, смять. Цімоха зьдзяўбіў пірог (Чарнагосьці, Беш. р.).

ЗЬЛЕБ, а, *м.*—сноб. Зьлеб ты пракляты, што мучыш?(Мазалава, Куз. р.).

ЗЬЛЕЗЬЦІ, *дзс.*—слезть. Дзед зьлез з печы (Рудня, Аз. р.).

ЗЬЛЕЦЬЦЕ, *н.* — одно лето. Купіў каня на адно зьлецьця. Сёлета было благоя зьлецьця (Стралкі, Беш. р.).

ЗЬЛІЗАЦЬ, *дзс.*—слизать. Памаўзлівы кот зьлізаў вяршынкі (Кураеды, Беш. р.).

ЗЬЛІТАВАЦЦА, *дзс.* — сжалиться. Зьлітуйся ты нада мной (Доўгае, Беш. р.).

ЗЬЛЯКНУЦЦА, *дзс.*--испугаться. Рыгорка зьлякнуўся і закрычаў: «вон, вон» (Вядрэнь, Чаш. р.).

ЗЬЛЯНЕЦЬ, *дзс.*—разлениться. Сынок, ты гладка зьлянеў (Асінаўка, Беш. р.).

ЗЬЛЯПІЦЦА, *дзс.*—склеиться. Я замазаў, прывязаў, дык яна і зьляпілася (Машчоны, Сен. р.).

ЗЬЛЯПІЦЬ, *дзс.* — слепить. Не пастроіў, а зьляпіў хатку (Стралкі, Беш. р.).

ЗЬЛЯПУХА, *ж.* — незрелая ягода. Зьляпухі нясмашныя, на што зьбіраць? (Марцінкава, Куз. р.).

ЗЬЛЯТАЦЬ, *дзс.*—слетать. За дрэнныя словы зьлятаюць галовы (Алексінічы, Сен. р.).

ЗЬМЕНА, *ж.* — 1) перемена. Сёньня зьмена пагоды (Мянюцева, Сен. р.); 2) поле в севообороте. У якую зьмену сягоньня пагналі кароў? (Сянно, Сен. р.).

ЗЬМІНЬДЗЮК, а, *м.*—скряга. Ён такі зьміньдзюк — усё валачэць да сябе (Селядцова, Беш. р.).

ЗЬМЯКНУЦЬ, *дзс.* — промокнуть. Чаго ты стаіш на дажджы —зьмякнеш! (Шпунты, Куз. р.).

ЗЬМЯНШЫЦЬ, *дзс.* — уменьшить. Зьмяншыў троху плату (Лалыкі, Аз. р.).

ЗЬМЯНЯЦЬ, *дзс.*—1) заменять. Я ужо зьмяніў каткі у сваіх калёсах. Зьмяні адзежу, ды бяжы (Селішча, Гар. р.); 2) сменять. А хто ж зьменіць мяне? (Пушкары, Сен. р.).

ЗЬМЯРКАНЬНЕ, *н.*—сумерки. Раблю ад раньня і да зьмярканьня (Рыбчына, Сен. р.).

ЗЬНЕЦЕЛЬКУ—внезапно, тайком. Зьнецельку даў яму, дык ён і паваліўся (Гарадок, Гар. р.).

ЗЬНІЗАК, у, *м.*—две одежды, вдетые одна в другую. Надзень зьнізак будзець цяплей (Прусаўкі, Аз. р.).

ЗЬНІКЛЯ, *ж.* — чуть чуть замерзшая полынья. Папаў у зьніклю і ўтапіуся (Доўгае, Беш. р.).

ЗЬНІТАВАЦЬ, *дзс.* — спаять, соединить. Мне зьнітавалі у кузьні бязьмен (Лужасна, Куз. р.).

ЗЬНІТАСЬ, *ж.* — плотность. Ну, у асіне зьнітась нівялікая (Лашнёва, Выс. р.).

ЗЬНІШТАЖАЦЬ, *дзс.*—уничтожать. Твае куры ўвесь ячмень мне зьніштожылі (Раманаўка, Сен. р.).

ЗЬНЮХАЦЬ, *дзс.* — почуять, проведать. Зьнюхаў жа, што мы тутацькі (Мазалава, Куз. р.).

ЗЬНЯВАЖАЦЬ, *дзс.*--унижать. Не зьняважай яго панапрасну (Сянно, Сен. р.).

ЗЬНЯВОЛЬВАЦЬ, *дзс.* — приневоливать. На што зьняволіваць піць, калі ён ня хочыць? (Глебаўск, Сен. р.).

ЗЬНЯЛЮБІЦЬ, *дзс.*--разлюбить, опротиветь. Ой, як ён зьнялюбеў мне! (Пустынкі, Сен. р.).

ЗЬНЯНАЦКУ, ЗЬНЯЦЕЙКУ—нечаянно, неожиданно. Зьняцейку ўдаріў па галаве (Суднікі, Куз. р.). Іванька, стральні ты зьнеційкў (Запрудзьзе, Сен. р.). Зьнецельку як крыкнуў на мяне аж серца забілась (Косы, Віц. р.). Зьнеўцікі як скочыць (Доўгае, Беш. р.). Ты мяне зьнісьцейку спужаў (Асіпова, Аз. р.). Запалітка лямпу, а то зьнянацку носам рынешся (Навасёлкі, Сен. р.).

ЗЬЮРЧАЦЬ, *дзс.* — по халатности потерять, стащить. Быў у мяне тапор, але я яго зьюрчаў. Тутака я палажыў тапор, нехта ж яго ўцяміў і зьюрчаў (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗЬЯВА, *ж.*—явление. Во, была зьява на небе на Вялікдзень! (Мянюцева, Сен. р.).

ЗЮКАЦЬ, ЗЮЗЮКАЦЬ, *дзс.*--чесать язык. Во старікі зюзюкаць пачалі! (Лахманы Аз. р.). Мы зюкалі цэлую гадзіну (Кр. Сяло, Сен. р.).

ЗЮКІ, *н.*—тихий разговор. Кінь сваі зюкі! (Оўсішча, Сен. р.).

ЗЯБЕР, у. *м.*--зябра. Galeopolis speciosa Mill et G. connabina Roth. На што ты столькі зябру нарваў? (Высачаны, Выс. р.).

ЗЯБІЦЬ, *дзс.*—вспахивать на зиму. Андрэй паехаў поле зябіць (Калышкі, Лёз. р.).

ЗЯБРЫ, *ж.*—1) жабры. У рыбы ёсть зябры (Стаішча Чаш. р.); 2) вспаханное на зиму. Зябры засеяў ячмянём (Зямковічы Сен. р.).

ЗЯВАЦЬ, *дзс.*—зевать. Нешта зяваць пачаў рана (Лужасна, Куз. р.).

ЗЯЗЮЛЯ, *ж.*—кукушка. Cuculus canorus L. Я чуў, як

зязюля кукавала (Сідараўшчына, Выс. р.).

ЗЯЛЕЗА, *н.*—1) железо. Я нядаўна пацягнуў лемях, ды скора знасіўся—пупала мяхкая зялеза (Смалякі, Аз. р.). Пар. жалеза; 2) капкан. У мяне нехта зялеза ўкраў, што на шашка ставіў (Касачы, Лёз. р.).

ЗЯЛЕЗНЫ — железный. Аддаў кавалю правіць зялезны тапор (Навікі, Віц. р). Пар. жалезны.

ЗЯЛЕЗЬНІК, у, *м.*—заступ. Бяры зялезьнік і ідзі капаць канаву (Руба, Куз. р.). Пар. жалязьняк.

ЗЯЛЕНЬКІ, *ж.* — тычинковая конопля, которая выдергивается раньше плодниковой. Cannabis sativa L. У канаплях зяленькі пасьпелі, пара іх браць (Ст. Беліца, Сен. р.).

ЗЯМЕЦ, а, *м.*—пчеловод. Ён дужа добры зямец, у яго і мёду дастанеш (Латыгаль, Сен. р.).

ЗЯМЛЯНКА, *ж.*—железный или деревянный прут связывающий основание сохи с оглоблей. Нада зімлянкі пакараціць, каб нацягнуць вобжы (Казлы, Куз.р.).

ЗЯПА, ЗЯПЛА, *ж.*—широко раскрытый рот. Што ты зяпу разявіў? (Лук'янова, Сен. р.). Вот дык зяпла—хуць вала садзі! (Лазова, Сен. р.).

ЗЯРНЁ, ЗЯРНЯТЫ, *н.* — зерно, зерна. Дарка, насып ціплятам зярнят (Макеенкі, Аз. р.). Благое зярнё ў етым жыце (Янавічы, Сур. р.).

ЗЯЦЬ, я, *м.*—зять, муж дочки. У мяне тры зяці, усе маладыя, прыгожыя! (Забор'е, Сен. р.).

## ДЗ.

ДЗЕ—где. Дзе ты купіла гэту хустку? (Чараўкі, Сен. р.).

ДЗЕВЕР, а, *м.* — девер. Дзевер-дзевярынушка, а дзе твая жывацінушка? (Мішкава, Куз. р.). Дзівіратка—ня родны братка: ні пашкадуіць (Сукрэмна, Сен. р.).

ДЗЕВЯСІЛ, у, *м.*—девясильник. Inula Helenium L. і інш. Дзевясіл расьце ў гародзе (Шынкава, Сен. р.).

ДЗЕВЯЦІНЫ, *ж.*--празднование девятого дня после смерти когολибо. Ну, каго йшчэ трэба на дзевяціны зваць? (Сукрэмна, Сен. р.).

ДЗЕД, а, *м.*—1) старик. Пашоў дзед малаціць (Шарыпіна, Беш. р.); 2) муж. Добрага ўзяла сабе дзеда Аніся (Шарыпіна, Беш. р.).

ДЗЕДАЎШЧЫНА, *ж.* — наследие после деда. Дзедаўшчыну, бач, хоча высудзіць (Мішневічы. Сір. р.).

ДЗЕЖКА, *ж.*—кадка. Прынясі з дзежкі вады (Няхлудава, Аз. р.),

ДЗЕДЗЯ, ДЗЕДЗЬКА, і, *м.*—дедушка. Дзе дзедзя? (Жукоўшчына, Куз. р.). А мой ды дзедзька, на што-ж ты нас пакінуў? (Латыгаль, Сен. р.).

ДЗЕЙКА, *ж.* — молва, слух. Вось якую дзейку пра яго пусьцілі (Лужасна, Куз. р.).

ДЗЕЙКАНЬНЕ, *н.* — распускание молвы. Марыля заўсёды дзейканьнем займаецца (Лужасна, Куз р.).

ДЗЕЙКАЦЬ, *дзс.* — пускать молву, слух. Дзейкаюць, што будзе свадзьба (Кузьміно, Сен.р.).

ДЗЕЛЯ, *прм.*—для. Катух адгарадзілі дзеля бульбы (Зямковічы, Сен. р.). Я дзеля заводу

пасеяў 10 хунтаў пшаніцы (Алексінічы, Сен. р.).

ДЗЕ-НІ-ДЗЕ—кое где. Ну, брат, лён мой узыйшоў — дзе-ні-дзе ільнінка (Мішуціна, Аз. р.).

ДЗЕННЫ—дневной. Гэта дзела дзеннае—ня ночы робіць (Янавічы, Сур. р.).

ДЗЕНЬ, я, *м.* — день. Дзень цяпер вялік (Ісачкова, Аз. р.). У бога дзён многа (Сянно, Сен. р.).

ДЗЕНЬДОБРЫ — пожелание доброго дня. Дзеньдобры старым людзям (Купіна, Віц. р.).

ДЗЕНЬ ПРЫ-ДНІ — ежедневно. У парасьніку пяюць салаўі дзень-пры-дні (Сініцына, Віц. р.).

ДЗЕРАВА, *н.*—дерево. Нада зробіць дзеравящку з етага дзерава (Бараўляны, Куз. р.).

ДЗЕРАВЯШКА, *ж.* — обувь с деревянными подошвами. Зьдзелай мне дзеравяшкі (Ходцы, Сен. р.).

ДЗЕРАЗА, *ж.*—плаун. Licopodium clavatum L. У нашым лесе многа дзеразы (Кр. Сяло, Беш. р.).

ДЗЕРВЯНЕЦЬ, *дзс.*--деревянеть, коченеть. Пальцы на нагах дзеравянець пачалі (Беліца, Сен. р.).

ДЗЕРЦІ, *дзс.* — драть. Дзяры бульбу на бабку (Ульлянавічы, Сен. р.).

ДЗЕТАЧКА, ДЗЕТУХНА, *ж*—ребенок, деточка. Састаруюць маладу дробныя дзетачкі (Яноўшчына, Беш. р.). Глядзі, дзетухна, не паваліcь (Беліца, Сен. р.).

ДЗЕЎКА, *ж.*—девка. Дзеўкі песьню запелі (Рудня, Аз. р.).

ДЗЕЎЧЫЦЦА, *дзс.*—стараться высматривать девушкой. Яна ўжо дзеўчыцца (Доўгае, Беш. р.).

ДЗЕШАВА—дешево. Дзешава я жыта прадаў (Сянно, Сен. р.).

ДЗЕШАВЕЙ — дешевле. Ну, трудна, братка, дзешавей гэта зьдзелаць (Сянно, Сен. р.).

ДЗЕЯЦЦА, *дзс.*—делаться, происходить. Паглядзі, што тут дзеіцца (Стаішча, Чаш. р.).

ДЗЁГАЦЬ, ю, *м.*—деготь. Купі дзёгцю (Рудня, Аз. р.).

ДЗЁГЦІЦЬ, *дзс.* — смазывать дегтем. Пад самым сталом пачаў боты дзёгціць (Гарывецк, Сен. р.).

ДЗЁРАН, у, *м.* — дерн. Йдзе многа дзёрну, там дрэнна скародзіцца (Расна, Сен. р.).

ДЗЁРНУЦЬ, *дзс.* — 1) рвануть. Дзёрнуў за нагу, дык ён і паваліўся (Сянно, Сен. р.); 2) посыпать коноплей, обмазать конопляным раствором. Блін канаплямі дзёрнуты (Берасьні, Беш. р.).

ДЗЁЎБ, у, *м.* — клюв. У дзятла крэпкі дзёўб (Асінаўка, Выс. р.).

ДЗЁЎБАНЬНЕ, *н.* — клевание. І малыя цыпляты дзёўбаньнем заняліся (Амільлянова, Лёз. р.).

ДЗЁЎБАЦЦА, *дзс.* — клеваться, Гэты певень дзёўбаецца (Лёзна, Лёз. р.).

ДЗЁЎБАЦЬ, *дзс.* — клевать. Куры дзёўбаюць ячмень (Амільлянова, Лёз. р.).

ДЗІВА, *н.* — 1) чудо. Во ета ужо дзіва, дык дзіва на ўвесь вокруг (Кайкава, Аз. р.); 2) удивление. Во удаўся конь проста дзіва! (Чашнікі, Чаш. р.).

ДЗІВАВАЦЦА, *дзс.* — удивляться. А ўсе дзеўкі дзівуюцца, што ў чорнай сароццы (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ДЗІВАННА, *ж.* — черный коровяк, медвежье ухо. Verbascum nigrum L. et V. thapsus L. Дзіванна таксама расьцець у гародзе (Кузьміно, Сен. р.).

ДЗІВАЦТВА, *н.* — сумасбродство. Кіньце сваё дзівацтва! (Кузьміно, Сен. р.).

ДЗІВІЦЦА, *дзс.* — удивляться. Чаго ты дзівішся, як баран на новыя вароты? (Вышадкі, Меж. р.).

ДЗІВІЦЬ, *дзс.* — удивлять. Пашоў народ дзівіць сваёй галавой (Расна, Сен. р.).

ДЗІВОСНА — удивительно, причудливо. Дзівосна ў іх усё ета робіцца (Пудаць, Сур. р.).

ДЗІДА, ДЗІДКА, *ж.* — суковатая палка. Кінуў дзіду пад ногі (Сялец, Чаш. р.). Прыгожая у цябе дзідка (Вербялі, Сір. р.).

ДЗІК, а, *м.* — 1) дикий кабан. Sus scrofa L. У нас дзікоў ужо няма (Дзяды, Сір. р.); 2) спорынья. Claviceps purpurea Tub. На жыці многа дзікоў (Сідоры, Меж. р.).

ДЗІКАЯ РАБІНКА — пижма. Tanacetum vulgare L. Ета дзікай рабінкі лісты (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ДЗІКЛІВЫ — застенчивый, пугливый. А нашы дзеўкі дзіклівыя (Вербялі, Сір. р.).

ДЗІРАВІЦЬ, *дзс.* — продырявливать. На што дошку дзіравіш? (Асінаўка, Беш. р.).

ДЗІРАВО, *н.* — часть сохи, на которую набивают лемехи. З гэтай крывіны будзіць харошае дзіраво (Кайтанова, Куз. р.).

ДЗІРАВЫ, ДЗЮРАВЫ — дырявый. У Сяргея дзюравая сарочка (Замошша, Сен. р.). Дзіравая дзешка цячэць (Алексінічы, Сен. р.).

ДЗІРКА, ДЗІРАЧКА, ДЗЮРАЧКА, *ж.* — дырка. Усё поле у дзірачках (рэшата) (Ст. Ранчыцы, Беш. р.). У армяку маленькая дзюрачка (Селядцова, Беш. р.).

ДЗІЎНА — удивительно. Во, як было дзіўна! (Мікалаёва, Куз. р.).

ДЗІЎНЫ — удивительный. Дзіўны ты хлопец! (Кузьміно, Сен. р.).

ДЗІЧ, а, *м.* — бородавка. Verruca. У Сьцяпана на абліччу дзічы дужа бальшэя (Расна, Сен. р.).

ДЗІЧКА, *ж.* — дичок, дикая яблоня. Pirus Malus L. Дзічку ў полі хлопцы абламалі (Сідоры, Меж. р.).

ДЗУБНУЦЬ, *дзс.* — ударить чем либо острым. Дзубнуў ёй калом пад самае сэрца (Амільянова, Лёз. р.).

ДЗЫБАЛА, *аг.* — большой нескладный человек. Ён ходзіць, як дзыбала (Лясьнікі, Сен. р.).

ДЗЫБАСТЫ — с длинными ногами Наш Сямён дзыбасты хлапчына (Пятніцкая, Беш. р.).

ДЗЫЛІНКАНЬНЕ, ДЗЫНКАНЬНЕ, *н.* — звенение. Кінь ты сваё дзынканьне ў шклянку! (Расна, Сен. р.). Сіплае дзылінканьне гэтага балабону (Оўсішча, Сен. р.).

ДЗЬВЕРЫ, *ж.* — дверь. Дзе ключ ад дзьвярэй? (Рудня, Аз. р.).

ДЗЬВЯРЫНА, *ж.* — створка двери. У пуні саломенная дзьвярына (Бараўляны, Куз. р).

ДЗЬМУЦЬ, *дзс.* — дуть. Ня дзьмі на агонь! (Кузьміно, Сен. р.).

ДЗЮ, ДЗЮШКА, *окл.* — зов свиней. Дзю, дзю, сьвінкі мае! (Рыбчына, Сір. р.). Дзюшка, дзюшка, дзюшка! (Ульлянавічы, Сен. р.).

ДЗЮБА, *ж.* — клюв. Чаму гэта у савы такая крывая дзюба? (Сукрэмна, Сен. р.). Пар. дзёўб.

ДЗЮБКА, *аг.* — длинноносый человек. Паехаў нейкі дзюбка (Семянцова, Беш. р.).

ДЗЮНЬДЗІЦЬ, *дзс.* — лениво работать. Ні работаець, а толькі дзюньдзіць (Лужасна, Куз. р.).

ДЗЮБАНОСЫ — с похожим на клюв носом. Ня гожы маладзён — нейкі дзюбаносы (Сьвярдлы, Беш. р.).

ДЗЯБЁЛЫ—крепкий, дебелый. Ён яшчэ дзябёлы стары (Зямковічы, Сен. р.).

ДЗЯВОЦКІ—девичий. Цяжка была забываць дзявоцкія жарты (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ДЗЯВОЦТВА, *н.*—девичьи годы, девичество. Дзявоцтва правяла як—нібудзь (Навікі, Віц. р.).

ДЗЯВУЛЯ, *ж.*—дева. Бач, на дзявулю заглядаецца (Лятоўшчына, Куз. р.).

ДЗЯВУХНА, *ж.*—девица. Пакінулі мяне дзявухны мае (Расна, Сен. р.).

ДЗЯВУШЧЫ--холостой. Дзявушчым век пражыў (Калышкі, Лёз. р.).

ДЗЯВЯТНІК, у, *м.* — девятый четверг после Пасхи. На дзявятніка кірмаш у Чашніках (Пачаевічы, Чаш. р.).

ДЗЯГА, *ж.*—1) ременный пояс. Бацька купіў дзягу для Цімохі (Сініцына, Віц. р.); 2) тук, жир. Конь не бярэ дзягі (Луб'ева, Аз. р.).

ДЗЯГІЛЬ, ю, *м.*—дягиль. Archangelica officinalis L. et Angelica silvsetris L. Палячы яго дзягілем (Горбава, Лёз. р.).

ДЗЯГНО, *н.*—кушанье из конопли, приготовленное в виде киселя. Натаўчы канапель, змый цёплаю вадой, звары як кісель і будзе дзягно; у яго макаюць бліны (Альшанікі, Беш. р.).

ДЗЯДКІ оў, *м.*—выступ над задней осью в телеге. Дзядкі мае пакалоліся (Негліца, Гар. р.).

ДЗЯДОЎНІК, у, *м.* — Cirsium lanceolatum Scop. Ні калі каня дзядоўнікам (Азярэцк, Сен. р.).

ДЗЯДУЛЯ, ДЗЯДУЛІЧКА, і, *м.*--дедушка. Ці жыве яшчэ твой дзядуля? (Мількавічы, Беш. р.). Дзядулічка ты мой, дзе ты быў? (Яноўшчына, Беш. р.).

ДЗЯДЫ, оў, *м,*—день поминок. Ён радзіўся перад Дзядамі (Бікава, Сен. р.).

ДЗЯЖА, *ж.*—квашня. На лянусі стаіць дзяжа (Кавалёўшчына, Беш. р.).

ДЗЯЖАНЬНЕ, *н.*—битье ремнем. Забыўся ўжо на дзяжаньне (Горбава, Лёз. р.).

ДЗЯЖЫЦЬ, *дзс.*—бить ремнем. Пакінь ужо яго дзяжыць! (Амільлянова, Лёз. р.).

ДЗЯДЗІНА, *ж.*—жена дяди. Ай, якая твая дзядзіна добрая, прістатная! (Макеенкі, Аз. р.)

ДЗЯДЗЬКА, і, *м.*--дядя. Браты маей маткі ці бацькі даводзяцца мне дзядзькамі (Дужчына, Куз. р.).

ДЗЯК, а, *м.*—псаломщик. Усё яшчэ дзякам служыць (Дубнікі, Сен. р.).

ДЗЯКАВАНЬНЕ, *н.*—благодарение. Дзякаваньне богу, мы цэлы засталіся (Дабрамысьль, Лёз. р.).

ДЗЯКАВАЦЬ, *дзс.* -- благодарить. Дзякуй гэтаму чалавеку (Калышкі, Лёз. р).

ДЗЯКОВІЧ, а, *м.*—сын псаломщика. Дзяковіч неграматны застаецца (Веляшковічы, Лёз. р.).

ДЗЯКОЎНА, *ж.* — дочь псаломщика. Дзякоўну замуж узяў (Веляшковічы, Лёз. р.).

ДЗЯКОЎСТВА, *н.* — служба псаломщиком. На дзякоўстве цяпер дрэнна жывецца (Веляшковічы, Лёз. р.).

ДЗЯКОЎШЧЫНА, *ж.* — сбор подаяния духовным. Дзякоўшчыны цяпер ня шмат зьбярэш (Амільлянова, Лёз. р.).

ДЗЯКУЙ, *вкл.* — спасибо. Дзякуй табе, мая родненькая (Расна, Сен. р.).

ДЗЯЛЁНКА, *ж.* — часть. Ён ад сваей дзялёнкі адмовіўся (Лалыкі, Аз. р.).

ДЗЯЛІЦЬ, *дзс.* — делить. Як ёсь, так і нада дзяліць (Альшанікі, Беш. р.).

ДЗЯНКІ, оў, *м.*—вязанные рукавицы. Мае цёплыя дзянкі (Павульле, Чаш. р.).

ДЗЯНЬНІК, а, *м.* — огороженное место для дневного пребывания скота. Поўны дзяньнік шумы (Бараўляны, Куз. р.).

ДЗЯНЦО, *н.* — донце. Бацька рабіў дзянцо (Сахны, Сен. р.).

ДЗЯРБАК, а, *м.* — пружинная борона. Трэба на сёньня узяць у суседа дзярбак (Навасёлкі, Сен. р.).

ДЗЯРБАЧЫЦЬ, *дзс.* — боронить пружинной бороной. Я ўсё сваю ніву дзярбаком дзярбачыў (Заазер'е Сен. р.).

ДЗЯРБОНІКІ, ДЗЯРОНІКІ, аў, *м.* — блины из тертого картофеля. Смачныя дзярбонікі (Ст. Сяло, Куз. р.). Пасьнедаў дзяронікамі (Сьвярдлы, Беш. р.).

ДЗЯРГАЧ, а, *м.* — коростель. Crex pratensis Bechst. Дзяргач у жыці рыпае (Касачы, Лёз. р.).

ДЗЯРЭЎНЯ, *ж.*—деревня. Наша дзярэўня вялікая (К у л і н а п к і, Выс. р.).

ДЗЯРКАЧ, а, *м.* — старый веник. Дай мне дзяркач (Клімавічы, Сен. р.).

ДЗЯРЖАНЬНЕ, *н.*—ручка чего либо. Дзяржаньне ў двойнях зламалася (Сідоры, Меж. р.).

ДЗЯРЖАЦЬ, *дзс.* — держать. Ён дзяржыць дзяцей у цьвіку (Кр. Сяло, Сен. р.).

ДЗЯРНО, *н.* — дёрн. Аблажы клумбу дзярном (Рудня, Аз. р.). Пар. дзёран.

ДЗЯРУГА, *ж.* — 1) вид двойного одеяла из грубого полотна. Пакрый мяне дзяругай (Янавічы, Сур. р.); 2) полог. Апусьці дзяругу, дык мухі ня будуць кусаць (Купіна, Віц. р.).

ДЗЯСНА, *ж.* — десна. У яго апухлі дзясны (Раіны, Аз. р.).

ДЗЯСЯТКА, *ж.*—пятикопеечная монета. Дзясятку за гэта далі (Дубнікі, Сен. р.).

ДЗЯСЯТУХА, *ж.* — кружка. Цяпер піва п'юць большымі дзясятухамі, чым раней г а р э л к у (Сянно, Сен. р.).

ДЗЯТВА, *зб.*—детвора. Не дае дзятва спакою (Пушкары, Сен.р.).

ДЗЯТЛІНА, ДЗЯЦЕЛІНА, *ж.*— дикий клевер. Trifolium pratense L. Там, дзе на пожню пасыпаў залу, вырасла дзятліна (Хацімшчына, Куз. р.).

ДЗЯТЛІНА ЖОЎТАЯ—клевер желтый. Trifolium agrarium L., T. procumbens L., T. spadiceum L. Дзятліну жоўтую скупці ого--яны любяць! (Матушова, Лёз. р.).

ДЗЯЎБАЦЬ, *дзс.* — долбить. Дзяцел дзяўбець асіну (Асінаўка, Чаш. р.).

ДЗЯЎЧА, ДЗЯЧЫНА, *ж.*—Ў девушка. Дзяўчына на ігрышча пашла (Стаішча, Чаш. р.). Дзяўчаты па вуліцы г у л я ю ц ь (Селядцова, Беш. р.).

Д З Я Ц Е Л, а, *м.* — д я т е л. Dendrocopus major Koch, et D. minor Koch. Дзяцел стукаў у лесе (Ісачкава, Аз. р.).

ДЗЯЦЁНАК, а, *м.* — ребенок. Гэта-ж мой дзяцёнак (Мікалаёва, Куз. р ).

ДЗЯЦІНЕЦ, у, *м.*—детская болезнь, родимчик. Eclampsia. Ці праўда, што твайго рабёнка б'ець дзязінец? (Ганкавічы, Беш. р.).

ДЗЯЦІНІЦЦА, *дзс.*—ребячиться. І яна дзяцініцца ў 20 год (Веляшковічы, Лёз. р.).

ДЗЯЦІНУХА, ДЗЯЦІНЬНІЦА, *ж.*—наседка. Дзяцінуха з цыплятамі забралась у лехі (Клюі, Куз. р.). Дзяціньніца сядзіць доўга нешта (Хадулава, Куз. р.).

ДЗЯЦІНСТВА, *н.*—детство. Цяжкое яго дзяцінства было (Асінаўка, Выс. р.).

ДЗЯЦЮК, а, *м.*—1) холостой парень. Як я быў дзяцюком, дык клопату было меней (Пустынкі, Сен. р.); 2) вообще парень. У Янкі служыць добры дзяцюк (Ульянавічы, Сен. р.).

ДЗЯЧЫХА, *ж.*—жена псаломщика. Дзячыха не даець араць (Расна, Сен. р.).

ДЗЯЧЫЦЬ, *дзс.*—говорить (о ребенке). Яна ўжо нешта дзячыла (Заазер'е, Сен. р.).

# І.

І, *зл.*—и. І азяро блізка. Былі мы, былі й яны (Унава, Лёз. р.).

І, *вкл.*—удивление. І, якей жа ты дурнэй! (Горбава, Лёз. р.).

ІВАНЬКАВЫ ШАПАЧКІ — колокольчики. Campanula glomerata L. Вянок быў сплецен з Іванькавых шапачак (Вядрэнь, Чаш. р.).

ІГЛІЦА, *ж.*—поперечный деревянный брусок, скрепляющий дверные доски. Пасадзім доскі на ігліцы (Асіпова, Аз. р.).

ІГОЛКА, *ж.* — игла. Дай мне іголку (Лагавая, Аз. р.).

ІГРАЦЬ, *дзс.*— 1) играть. У гуселькі іграючы і песенькі сьпяваючы (Яноўшчына, Беш. р.); 2) петь. Во, мы песьню сяньня ігралі (Лагавая, Аз. р.).

ІГРЭЦ, а, *м.* — игрок. Нашлі іграца на жулейцы (Амільянова, Лёз. р.).

ІГРУША, *ж.* — груша. Купіла ігруш сабе (Застадолеле, Сен. р.).

ІГРУШЫНА, *ж.*—грушевое дерево. Пасадзіў ігрушыну (Альгова, Віц. р.).

ІГРЫШЧА, *н.* — вечеринка. Мар'я, ці пойдзеш ты у Кайкава на йгрышча? (Лахманы, Аз р.).

ІДАЛ, а, *м.*—дьявол. Во, ідал навязаўся на цэлу ноч (Лазукі, Чаш. р.).

ІДАЛЬСКІ—дьявольский. Ідальскае дзела робіў на Купала (Лазукі, Чаш. р.).

ІЗАБАЛЬ—в самом деле. Ізабаль, Кастусь пашоў к Марылі (Селядцова, Беш. р.). Пар. адзабаль.

ІЗБОР, у, *м.*—первое воскресение великого поста. На Ізбора у Чашніках кірмаш (Вядрэнь, Чаш. р.).

ІЗВОЗЬНІК, а, *м.*—возчик бревен и т. п. У ізвозьніках зарабляець (Лужасна, Куз. р.).

ІЗГАРОДА, *ж.*—изгородь. Бацька пашоў гарадзіць ізгароду (Шарыпіна, Беш. р.). Пар. азгарода.

ІЗГІНУЦЬ, *дзс.*—пропасть. Ізгінуў нейдзе ў лесе (Лужасна, Куз. р.).

ІЗМЫЛІШЧА, *н.*— обрывистый берег подмытый водой. Во, якое ізмылішча тут! (Гарадок, Гар. р.).

ІЗНОЎ — снова. Ізноў прышлі мы ў тоя самае места (Оўсішча, Сен. р.).

ІЗРЭБ'Е, *н.*—1) волокно льна оставшееся после чесания его. Панясу ізрэб'е прась (Альшанікі, Беш. р.); 2) полотно из вышеуказанного волокна. З етага йзрэб'я пашыем штаны (Альшанікі, Беш. р.). Пар. зрэб'е.

**ІКАЎКА, ІКОТКА**, *ж.*—икота. Янка зьеў капусты з алеем і ў яго стала ікаўка (Сьвеча, Беш. р.). Чым ета ікотку прагнаць? (Горбава, Лёз. р.).

**ІКАЦЦА**, *дзс.*—икаться. Ікаецца, бо ўспамінаюць (Бачэйкава, Беш. р.).

**ІЛГАНЬНЕ**, *н.*—ложь, лганье. Сваім ілганьнем Архіп вядомы (Пустыр, Сір. р.).

**ІЛГАЦЦА**, *дзс.*—лгаться. Гладка ў яго сёньне ілжэцца (Лужасна, Куз. р.).

**ІЛГАЦЬ**, *дзс.* — лгать. Ілжэш ты, як сабака (Мазалава, Куз. р.).

**ІЛГУН**, а *м.* — лгун. Бальшэй ты ілгун (Варашылы, Куз. р.).

**ІЛЬЛЁЎ ВОЗ**—созвездие Большой Медведицы. Ільлёў воз ужо на поўдні (Сялец, Чаш. р.).

**ІЛЬНУЦЬ**, *дзс.* — липнуть, льнуть. Яна дужа ільнец да Архіпа (Лужасна, Чаш. р.).

**ІЛЬЦЫ**, *ж.*—вожжи. Кіруй каня ільцамі, а ня вачамі (Саўчонкі, Куз. р.).

**ІМБРЫЧАК**, а, *м.*—чайник. У імбрычку стаіць чай (Чараўкі, Сен. р.).

**ІМГЛА, ІМЖА, ІМЖАКА**, *ж.*—мгла, мелкий дождик. Увесь дзень ідзе імгла (Нов. Сяло, Беш. р.). За імжою нічога ня відаць (Лужасна, Куз. р.). На дварэ ідзець імжака (Цяпіна, Чаш. р.).

**ІМЕЦЦА**, *дзс.* — вериться. Ня імецца, што ён там быў (Іванск, Чаш. р.).

**ІМЖАВЫ**—мглистый. Імжавая пагода сёньня (Красьніца, Чаш. р.).

**ІМЖЫЦЦА**, *дзс.* — моросить. Сёньня дошч імжыцца (Мянюцева, Сен. р.).

**ІМЖЫЦЬ**, *дзс.*—моросить. Пагода дрэнная—імжыць як увосень (Латыгаль, Сен. р.).

**ІМКНУЦЦА**, *дзс.*—стремиться. Імкнецца, ліха ведае, куды (Балдыкова, Аз. р.).

**ІМОСЬЦЕНЬКА**, *ж.*—ваша милость. Вось як, мая імосьценька, маемся (Баранава, Куз. р.).

**ІМПЭТ**, у, *м.*—1) стремительность. Бег, бег і з імпэту папаў на лёд (Пятніцкая, Беш. р.). Пар. ампэт; 2) сотрясение воздуха от выстрела или грома. Мне як дало імпэтам, дык я чуць ачунеў (Вішкавічы, Чаш. р.).

**ІМПЭТАМ**—стремительно. Воўк накінаўся на яго імпэтам (Бель, Выс. р.).

**ІМШАРА**, *ж.*—моховое болото. На імшары расьцець мох (Баранаўка, Куз. р.). Пар. амшара.

**ІМШЫЦЬ**, *дзс.* — конопатить мохом. Хлеў нада імшыць (Пустынкі, Сен. р.).

**ІМЯ**, *н.*—имя. Як яго імя й фамілія? (Латышы, Беш. р.).

**ІМЯЦЬ**, *дзс.*—брать. Імець яго за жывое (Бель, Выс. р.).

**ІНАКШ**—иначе. Інакш ня зробіш (Асінаўка, Выс. р.).

**ІНАКШЫ, ІНШЫ**—иной. Гэта зусім інакшы начальнік (Сьвеча, Беш. р.). Ён іншы раз дужа бывае сярдзіты (Косы, Віц. р.).

**ІНАКШЫЦЬ, ІНШЫЦЬ**, *дзс.*—изменять. Давай інакшыць, каб не пазналі (Лужасна, Куз. р.). Добра будзе—не нада іншыць (Дубнікі, Сен. р.).

**ІНДЫК**, а, *м.*—индюк. Meleagris gallopavo domesticus. А сват ходзіць, харабруіць, як індык (Купіна, Віц. р.).

**ІНДЫЧАНЁ**, *н.* — индюшёнок. Індычыняты баяцца расы (Ульлянавічы, Сен. р.).

**ІНОДЫ**—иногда. Іноды і ён не сярдзіты (Бель, Выс. р.).

**ІНОСЯ**—не так, иначе. Тамацькі іноея, ня так будзе (Лужасна, Куз. р.).

**ІНСТРУМАНТ**, *зб.* — инструменты, принадлежности мастерской. Летась увесь мой інструмант з кузьні забралі (Лужасна, Куз. р.).

**ІНТАРЭС, ІНТЭРАС**, у, *м.* — интерес, заинтересованность. Ён да ўсяго мае інтарэсы (Рыбчына, Сір. р.). Добры інтэрас! (Стаішча, Чаш. р.)

**ІНТУРУСІЦА**, *ж.*—вздор, пустяки. Вярзець нейкую інтурусіцу (Селішча, Гар. р.).

**ІРВАНУЦЬ**, *дзс.*—рвануть. Ды як ірвануў, дык чуць зубы не пабіў (Альшанікі, Беш. р.).

**ІРВАЦЬ**, *дзс.* — 1) рвать. Вунацькі яна траву йрвець (Лужасна, Куз. р.); 2) тошнить. Напіўся, а тады ірваць яго стала (Чашнікі, Чаш. р.).

**ІРВОТА**, *ж.*—рвота. У яго ад гарэлкі заўсёды ірвота бывае (Храпавічы, Куз. р).

**ІРЖА**, *ж.*—ржавчина. Сіпаратар іржа паела (Сутокі, Лёз. р.).

**ІРЖАЦЬ, ІРЗАЦЬ**, *дзс.*—ржать. А конік іржэць, іржэць (Яноўшчына, Беш. р.). Коні пачалі ірзаць (Оўсішча, Сен. р.).

**ІРЖЭЎНІК**, у, *м.* — злаковые пни оставшиеся после снятия ржи. Іржэўнік — гэта пні пажатага жыта (Аськершчына, Беш. р).

**ІРЖЫШЧА**, *н.* — поле после снятия ржи. Я сёлета бульбу запахаў па іржышчу (Пустыр, Сір. р.).

**ІРДЗЕЛЬ**, *аі.* — пышущий здоровьем. Я етакага ірдзеля і ня відзіў (Лужасна, Куз. р.).

**ІРТЫ**, *ж.*—лыжы. Іван зьдзелаў сабе ірты і ціпер ходзіць па сьнягу (Баравыя, Куз. р.).

**ІРША**, *ж.* — полоска овчины очищенная от шерсти и идущая на оторочку. Нечым іршыць— іршы не хапіла (Лужасна, Куз. р.).

**ІСКАЦЦА**, *дзс.*—искать вшей в голове при помощи ножа или иного твердого предмета. Ужо палавіну дня ішчуцца (Кабішча, Куз. р.).

**ІСКРА**, *ж.*—искра. Іскра ўпала на салому (Ісачкава, Аз. р.). Як ударыў, дык іскаркі з глаз пасыпаліcь (Сухарукава, Аз. р.).

**ІСПОД**, у, *м.*—1) низ. Пад іспод печы залезь (Стаішча, Сен. р.); 2) пол в печке. У печкі выдраўся іспод (Пустынкі, Сен. р.).

**ІСПОДАК**, а, у, *м.*—блюдечко. Налій рабёнку чаю ў іcподак (Цяпіна, Чаш. р.).

**ІСПОДКІ**, *ж.* — вязаные рукавицы. Надзень іспоткі, а то холадна (Стралкі, Беш. р.).

**ІСПОДНІ** — нижний. Палажылі іcподнія снапы (Іванск, Чаш. р.).

**ІСПОДНІК**, а, *м.*, **ІСПОДНЯ**, *ж.* —нижняя юбка. Адзень іcподнік (Слабодка, Беш. р.). Абцягні іcподню, а то віднеецца (Бабінічы, Віц. р.).

**ІСПОЛ**, у, *м.* — часть реки вверх по течению от плотины. У нас плахей іcпол (Сутокі, Лёз. р.).

**ІСТАСЬЦЬ**, *ж.* — сущность. Істасьці у іх ня дойдзеш (Лужасна, Куз. р.).

**ІСТОПКА, ІСЬЦЁПКА**, *ж.*—курная хата для хранения корнеплодов и овощей. Сёлета у істопкі памерзла бульба (Стралкі, Беш. р.). Бацька пайшоў у ісьцёпку малоць, бо там нашы жорны (Луб'ева, Аз. р.).

**ІСТРОП**, у, *м.*—стропила. Ужо істроп на крышу гатоў (Карма, Куз. р.).

ІСТРУБ, у, *м.*—сруб. У іструбу памасьцілі ужо падлогу і столь (Сянно, Сен. р.). Пар. зруб.

ІСТУЖКА, *ж.* — лента. У мяне ёсь зялёная й красная істушка (Рыбчына, Сір. р.).

ІСЬПІЦА, *ж.* — спица. Ісьпіцы ў катку дубовыя (Красьніца, Чаш. р.).

ІСЦА, *ж.* — подкожный зуд подошвы. Ісца не даець пакою (Сянно, Сен. р.).

ІСЬЦІЗНА, *ж.* — искомая по суду собственность. Ісьцізны сваей ён не дайшоў у Віцемску (Лужасна, Куз. р.).

ІЦЬВІНА, *ж.*—связь головки саней с «капылом» (гл.) Зламаў ён іцьвіну ў дарозе (Балтухі, Сур. р.).

# К.

КАБ, *зл.*—1) чтобы. Каб цябе пярун забіў! (Шарыпіна, Беш. р.); 2) если-бы, если-б. Каб вы ведалі, мае родныя, як ён мне абрыдзіў! (Ходцы, Сен. р.).

КАБАЛДАЙ, я, *м.* — великовозрастный. Як табе ня сорамна—ты-ж ужо кабалдай! (Луб'ева, Аз. р.).

КАБАН, а, *м.*—боров. Кабан тлусты (Беліца, Сен. р.).

КАБАТ, а, *м.* — 1) душегрейка. Надзень дзяўчыне кабат—сьцюдзёна (Пацкава, Сен. р.); 2) платьице. Кабат у мае доньki дужа даўгі (Доўгае, Беш. р.).

КАБЕРАЦ, у, *м.* — коврик (венчальный). Не давядзі госпадзі з нялюбым на каберцы стаць (Сукрэмна, Сен. р.).

КАБЕТА, *ж.* — женщина. Пацалуй міне за гэта, калі я табе кабета (Чашнікі, Чаш. р.).

КАБЕЦ, а, *м.* — кобчик. Falco vespertinus L. Кабец ляцеў лі лесу (Заронава, Куз. р.).

КАБЫЛА, *ж.*—кобыла. Кабыла ажарабіла жарабка (Гарывецк, Сен. р.).

КАБЫЛКА, *ж.* — 1) кобылка. Я сваю кабылку ў санкі запрагаю ўжо (Лужасна, Куз. р.); 2) подставка под струны. У тваей скрыпцы кабылка высокая (Стасева, Выс. р.); 3) ячейка в «нітах» (гл.), куда продевается нитка основы. Ні пувядзеш-жа ты ў адну кабылку дзьве ніткі! (Сукрэмна, Сен. р.).

КАВАДЛА, *н.*—наковальня. У нашай кузьні дрэннае кувадла (Сьвеча, Беш. р.).

КАВАЛАК, а, у, *м.*—кусок. Яму прышоўся добры кавалак зямлі (Храпавічы, Куз. р.).

КАВАЛЬ, я, *м.* — кузнец. Каваль куець зілеза (Дражна, Куз. р.).

КАВАЛЬНІК, у, *м.*— ослинник двулетний. Oenothera biennis L. Кавальнік вунацькі (Лужасна, Куз. р.).

КАВУН, а, *м.*—арбуз. Citrullus vulgaris Schrad. Кавун прывозюць з гораду (Альшанікі, Беш. р.).

КАВУР, а, *м.*—поганка большая. Lophaetyria cristata L., Podiceps cristatus L. Кавуры сюда ліцяць (Саломінка, Беш. р.).

КАВЫЛЯЦЬ, *дзс.* — ковылять, хромать. Ён ужо пачаў патроху каваляць (Лучкі, Віц. р.).

КАВЫРАЦЬ, *дзс.*—подплетать. Увесь адвечарак кавыраець лапці (Асінаўка, Беш. р.).

КАВЯЛА, *ж.* — костыль. Бязногі прасіў падаць яму кавялу

сок. Прынясі казёл дровы рэзаць (Спасская, Сір. р.); 3) кузнечик, Locusta viridissima L. і інш. Я ўлавіў у траве казла (Спасская, Сір. р.).

КАЗІ, *вкл.*—зов коз. Казі, казі, казі, козачкі маі (Веляшковічы, Лёз. р.).

КАЗКА, *ж.*—сказка. Раскажы нам казку (Лужасна, Куз. р.).

КАЗЛЫ ДРАЦЬ—тощнить. Ён цэлую ноч—казлы драў (Зямковічы, Сен. р.).

КАЗУЛЬКА, КАЗЮЛЬКА, *ж.*—маленькая скамейка. Дзіця сядзіць на казульцы(Малекі,Сур.р.). Казюлька зламалася і мне сядзець не на чым (Косы, Віц. р.).

КАЗУТКА, *ж.*—дрожки. У казутку запрёг каня (Гарадок, Гар. р.).

КАЗЫР, а, *м.* — карниз. Сырнічкі на казыры ляжаць (Доўгае, Беш. р.).

КАЗЫРКА, *ж.* — картуз. Купіў мальчыку казырку (Ульянавічы, Сен. р.).

КАЗЮЛЬКІ, *ж.*—подставки из бревна с ножками под постельный настил. Зьдзелай казюлькі, а то спаць будзе не на чым (Ходцы, Сен. р.).

КАЗЯЛОК, у, *м.* — 1) козлобородник. Tragopogon pratensis L. Казялок тут ні расьцець (Веляшковічы, Лёз. р.); 2) козляк. Boletus bovinus L. У лесі многа казялкоў (Касачы, Лёз. р.).

КАЗЯЎКА, *ж.* — насекомое. Кузяўка укусіла за руку (Забалотнікі, Куз. р.). Дуля пакрылась казяўкамі (Зямковічы, Сен. р.).

КАДЗЬ, *ж.*—кадка, бочка. На капусту купілі кадзь (Ісачкава, Аз. р.).

КАКАЛУГА, *ж.* — черемуха. Prunus Padus L. Пойдзем какалугу ламаць (Касачы, Лёз р.). Пар. калакалуша.

КАКОРЫНА, *ж.* — лепешка. Мамка напякла какорын (Янавічы, Сур. р.).

КАКОЎКА, *ж.* — поперечная палочка на ручке лопаты. У старыну рыдзелі былі з какоўкай (Мікалаёва, Куз. р.).

КАКОШНІК, у, *м.*—белокрыльник. Calla palustris L. Сьвіньні любяць какошнік (Вішкавічы, Чаш. р.).

КАЛАВУРЫЦЬ, *дзс.* — караулить. Наняўся сад калавурыць (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАЛАКАЛУША, *ж.*—черемуха. Prunus Padus L. Калакалушы вельмі нясмачны (Заронава, Куз. р.). Пар. какалуга.

КАЛАМАЖКА, *ж.*—легкая тележка. Ён паехаў у каламашцы (Мікалаёва, Куз. р.).

КАЛАНІЦА, *ж.* — коломазь. Жара, што каланіца цякець з каткоў (Цясьляціна, Сір. р.

КАЛАСАВАЦЦА, *дзс.* — колоситься. Ваша пшаніца каласуецца (Селядцова, Беш. р.).

КАЛАСАВІНЫ, *ж.* — вымолоченные колосья, мякина. Корміць скаціну аднымі каласавінамі(Копцевічы, Чаш. р.).

КАЛАСЬНІК, у, *м.* — жердь в овине, на которую ставятся снопы для сушки. Трэба заўтра уссадзіць на каласьнікі жыта (Каверзіна, Меж. р.).

КАЛАТНЯ, КАЛАТОЎКА, *ж.*—ссора, брань. У нас ідзе толькі калатня між сабой (Мянюцева, Сен. р.). Укінула калатоўку ў хату (Доўгае, Беш. р.).

КАЛАТОЎКА, *ж.*—1) деревянная палка с сучками для раскалачивания, толчения картофеля. У лесе жывём, а калатоўкі няма (Чарніца, Лёз. р.); 2) мелколе-

пестник (сорняк). Erigeron canadensis L. Калатоўка ні даець расьці другому (Церабетаўка, Віц. р.).

КАЛАТУХА, *ж.* — 1) жидкое мучное кушанье. На стол пастаўлена калатуха (Слабада, Чаш. р.); 2) лихорадка. Febris intermittens. Калатуха цябе калаці! (Зямковічы, Сен. р.).

КАЛАТЫРЫЦЬ, *дзс.* —забавно, но необоснованно говорить. Нечага тут задарма калатырыць (Дрыкольле, Куз. р.).

КАЛАЎРОТ, у, *м.*—1) прялка. Купі мне, тата, калаўрот (Селядцова, Беш. р.); 2) бурав. Прынясі калаўрот—буду дзіркі круціць у стаўпцу на граблі (Мікалаёза, Куз. р.); 3) двигатель из колеса, приводящий в бег санки на льду. Хлопцы зьдзелалі калаўрот на рацэ—будзем катацца (Латыгаль, Сен. р.).

КАЛАЦІЦЦА, *дзс.* — трястись. Ён калаціцца ад холаду (Сянно, Сен. р.).

КАЛАЦІЦЬ, *дзс.* — 1) трясти. Чагось калоціць міне (Лужасна, Куз. р.); 2) отрясать. Пашлі ў лес калаціць яблыкі (Вядрэнь, Чаш. р.); 3) стучать. Нехта калоціць у дзьверы (Капланы Сен. р.).

КАЛБАН, а, *м.* — 1) кувшин. Прынясі калбан з малаком (Малекі, Сур. р.); 2) сосуд из прутьев или соломы в виде кувшина. Ссып каноплі ў калбан (Александрова, Гар. р.); 3) искусственное гнездо из соломы в виде конуса. Павесіў калбан (Гарадок, Гар. р.).

КАЛБАНЧЫКІ, аў, *м.*—колокольчики Campanula (розныя віды). Ці растуцьужо колбанчыкі? (Горбава, Лёз. р.).

КАЛБАНЫ, оў, *м.*—луг с кочками. Міхаіл у калбанох косіць (Касачы, Лёз. р.).

КАЛДОБА, КАЛДОБІНА, *ж.*—выбой, яма на дороге. У Азярышча дурна ехать—многа калдоб на дарозі (Макеенкі, Аз. р.). Глядзі, ня ўедзь у калдобіну! (Пустынкі, Сен. р.). Калдавіна дужа выразана (Доўгае, Беш. р.). Па такім калдужынам і да вечару ні даедзем (Чарніца, Лёз. р.).

КАЛЕКА, *аг. ж.*—кроме общего значения — налим. Lota vulgaris Cuv. Бальшая калека залезла ка мне ў сетку (Навасёлкі, Сен. р.).

КАЛЕЦ, а *м.*—наперсток. Ідзе мой калец, шыць буду (Зямковічы, Сен. р.).

КАЛЁСЫ, *н.*—телега. Садзісь на калёсы—паедзем (Рудня, Аз. р.).

КАЛЁСЬНІК, а, *м.*—колесный мастер. Ад Селядцоўскага калёсьніка каткі прывёз (Залужжа, Беш. р.).

КАЛЁСЬНЯ, *ж.* — мастерская колес. Німа ў нас блізка калёсьні (Вяжышча, Беш. р.).

КАЛЁЎКА, *ж.*—плотничий инструмент (?). Падай калёўку (Александрова, Гар. р.).

КАЛЁШЫ, *ж.* —галоши. Купі новыя калёшы (Шарыпіна, Беш. р.).

КАЛІБА, *ж.* — вид болезни. Каб цябе каліба, як ты мяне падманіў (Стасева, Выс. р.).

КАЛІВА, *н.* — молодое растение. Дай мне каліва расады (Сянно, Сен. р.); 2) немножко. Дай каліва малака (Барсукі, Аз. р.); 3) зерно. Каліва гароху (Заронава, Сен. р.).

КАЛІНА, *ж.* — калина. Viburnum Opulus L. Каліна высокая, гонкая расьцець (Мяжа, Меж. р.).

**КАЛІТА**, *ж.* — калита, кожанная сумка. Дзеньгі з каліты выцягнулі (Лужасна, Куз. р.).

**КАЛІТКА**, *ж.* — 1) калитка. Ідзі, сынок, зачыні калітку, а то карова ўлезе ў сад (Барсукі, Аз. р.); 2) низменная местность заросшая кустами. Зьвядзі каня ў калітку пасьціць (Станіславава, Сір. р.).

**КАЛІЎКА**, *ж.* — брюква. Brassica Napus L., f esculenta DC. Мы пасадзілі капусту і каліўку (Рудня, Аз. р.).

**КАЛІЎЦА** — немножко. Дай мне каліўца гароху (Купіна, Віц. р.). Пар. каліва.

**КАЛІШНІ** — тогдашний, когда то бывший. Калішняга ні успамінай (Лужасна, Куз. р.).

**КАЛОДА**, *ж.* — 1) колода. Лежма ляжыць, як калода (Яноўшчына, Беш. р.); 2) колодный улей. У яго пяць калод пчол (Заазерь'е, Сен. р.); 3) каток для прикатывания посевов. Мая калода зломана — авёс ні прыкачаў (Клюі, Куз. р.).; 4) часть ткацкого станка, на которую навиваются нитки основы. Павярні калоду ў правый бок (Макеенкі, Аз. р.).

**КАЛОДКА**, *ж.* — 1) обрубок, кусок бревна. Падстаў мне калодку (Прусаўкі, Аз. р.); 2) сапожная колодка. Па назе падабраў калодку (Клюі, Куз. р.); 3) женская пирушка устраиваемая на масленицу в складчину; при сборе последней таскается «калодка» — обрубок, которым впоследствии заваливается дверь отказавшей. Скора будзем калодку цягаць (Нов. Сяло, Беш. р.).

**КАЛОДЗЕЗЬ**, я, *м.* — колодец. Наш калодзесь заваліўся (Барсукі, Аз. р.).

**КАЛОСЬСЕ**, *н., зб.* — колосья. Пазьбірай ета калосьсе (Лужасна, Куз. р.).

**КАЛОЦЦА**, *дзс.* — колоться, бодаться. Наш бугай дужа коліцца (Ганкавічы, Беш. р.).

**КАЛОЦЬ**, *дзс.* — колоть. Коліць у бок аж дух захватуець (Мазалава, Куз. р.).

**КАЛТУН**, а, у, *м.* — колтун. Plica polonica. Калтун нічога ня любіць (Кузьміно, Сен. р.).

**КАЛТУНЬНІК**, у, *м.* — горечавка синяя. Gentiana Pneumonanthe L. Калтуньніку нарваў (Лужасна, Куз. р.).

**КАЛУПАЦЦА**, *дзс.* — медленно работать, колупать что нибудь. Ня кулупайся там, а ідзі шпарчэй (Сянно, Сен. р.).

**КАЛУПАЦЬ**, *дзс.* — ковырять. Ня калупай у носе! (Шыркі, Куз. р.).

**КАЛЫГЛАС**, а, *м.* — озорник. Чуеш, каб ты прыказаў свайму калыгласу ня лазіць па крышы й не пароць гнёзды (Глебаўск, Сен. р.).

**КАЛЫСКА**, *ж.* — колыбель. Над калыскай вісіць ручнік (Рудня, Аз. р.).

**КАЛЫХАЦЬ**, *дзс.* — качать. Калышы, Марылька, дзяцёнка, а то нешта ён плачыць (Раіны, Аз. р.).

**КАЛЫЧЫ**, оў, *м.* — гетры. Німа калычоў адзець, а сьцідзена (Гарадок, Гар. р.).

**КАЛЬВІН**, а, *м.* — сорванец. Ты куды кальвін етакі — там абязурнічыў, а цяпер зьдзеся? (Луб'ева, Аз. р.).

**КАЛЬНУЦЬ**, *дзс.* — уколоть. Як кальнець у серца! (Лужасна, Куз. р.).

**КАЛЮГА, КАЛЮЖЫНА**, *ж.* — лужа. На дорозе стаіць калюга вады (Сьлідца, Чаш. р.). Я асту-

піўся у калюжіну і зьвіхнуў сабе нагу (Ст. Беліца, Сен. р.). Вясёлка з калужыны набіраець вады (Кураеды, Беш. р.).

КАЛЮЧКІ, *ж*, — остро—пестро. Silybum Marianum Gärtn. Калючак нарвала (Астроўна, Віц. р.).

КАЛЯ — около. Завіваўся мой хмялёчак ды й каля калінкі (Сураж, Сур. р.).

КАЛЯЖЫНА, *ж*. — палка. Кінь гэту каляжыну (Аўдзейкава, Аз. р.).

КАЛЯНА — жестко, твердо. Тут спаць каляна (Дрыкольле, Куз. р.).

КАЛЯНДРА, *ж*. — кишнец. Coriandrum sativum L. Каляндра расьцець лі хлеву (Лужасна, Куз. р.).

КАЛЯНЕЦЬ, *дзс*. — становиться твердым, жестким. А маі штаны ад дажджу ўсё калянеюць (Лужасна, Куз. р.).

КАЛЯНЫ — жесткий, твердый. Трэба выварыць холст, каб ня быў каляны (Раіны, Аз. р.).

КАМАР АЎСЯНЫ, а. *м*.—луговая долгоножка. Pachyrhina pratensis L. Пара авёс сеяць, аўсяныя камары ужо ёсьць (Бікложа, Беш. р.).

КАМАШ, а, *м*. — ботинок. Цяпер камашы дорага каштуюць (Заронава, Куз. р.).

КАМБАЛ, у, м. — рассеянный. Во, сьляпой камбал — ні відзіш? (Гарадок, Гар. р.).

КАМЕЛЬ, я, *м*. — нижняя часть ствола у пня. У гэтым дрэве таўсты камель (Сянно, Сен. р.).

КАМЕНКА, *ж*. — каменная печка. Узьлі вады на каменку! (Селішча, Гар. р.).

КАМЕНЬНЕ, *н*. *зб*. — камни. Я каменьні буду перавазіць на свой хутар (Халамер'е, Аз. р.).

КАМЭДЗІЯ, *ж*. — комедия, смех. Ой, камэдзія з вас! (Пустынкі, Сен. р.).

КАМЗА, *ag*. — неповоротливый. Варочаецца, як камза (Выгары, Куз. р.).

КАМІЗЭЛЬКА, *ж*. — жилетка. Пашыю сабе камізэльку (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАМЛЕНЬНЕ, *н*. — мгновение. У вадным камленьні згарэла лазьня (Астроўна, Віц. р.).

КАМНЯЛОМ, у, *м*. — селезеночник переменнолистный. Chrysosplenium alternifolium L. Камнялому вырві (Бель, Выс. р.).

КАМОРКА, *ж*. — 1) кладовая. У каморцы стаіць збанок малака (Пачаевічы, Чаш. р.); 2) комнатка. У нашай каморцы цёпла (Навікі, Беш. р.).

КАМОРНІК, а, *м*. — землемер. Летась каморнік наразаў зямлю (Стаішча, Чаш. р.).

КАМУНІЯ, *ж*. — коммуна. А што вы нас у камунію ня хочаце? (Навікі, Віц. р.).

КАМЫ, оў, *м*. — картофельная каша, иногда с горохом, бобом. Упярод зваруць боб, тады бульбу скрэбленную; ўсё ўмесьце стаўкуць у катле і завецца гэта камамі (Альшанікі, Беш. р.).

КАМЯГА, *ж*, — 1) челн, выдолбленное из дерева длинное корыто, к которому по обе стороны для устойчивости прикреплены доскі. Толькі ці дадуць нам камягу? (Ваяводкі, Віц. р.); 2) карыто поить скот. Гані кароў да камягі! (Сураж, Сур. р.).

КАМЯНІЦА, *ж*, — каменное здание. Наша камяніца ужо бурыцца (Ходцы, Сен. р.).

КАНАВАЛ, а, *м.* — коновал, ветеринар. Канавал склаў жарабка (Рыбчына, Сір. р.).

КАНАЗОБКА, *ж.* — лукошко. Падай сюды каназобку, Марыся! (Астроўна, Віц. р.).

КАНАПА, *ж.* — жесткий диван без спинки. У Зьмітраковых у старэй хаце лаўкі, а ў новай канапы (Кузьміно, Сен. р.).

КАНАПАДЗЬ, *ж.* — сгусток коломази. Кала калёс канападзі вазьмі (Сукрэмна Сен. р.).

КАНАПАТКА, *ж.* — ночная лампа без стекла. Запалі ты канапатку (Аськершчына, Беш. р.).

КАНАЦЬ, *дзс.* — 1) умирать. Наш Ёска канаець (Сукрэмна, Сен. р.); 2) страдать, стонать от боли. Ходзіць і канаець рукой (Вяжышча, Беш. р.).

КАНЕШНА — конечно. Ну, канешна, я не пайду (Чарнагосьці, Беш. р.); 2) непременно. Ты канешне прыдзі ка мне (Лужасна, Куз. р.).

КАНДРАЦІКІ, аў, *м.* — дубровка, вероника. Veronica Chamaedrys L. А кандрацікі там растуць (Высачаны, Выс. р.).

КАНДЗЕЙКА, *ж.* — кружка. Падай кандзейку з вадой (Вяжышча, Беш. р.).

КАНОПЛІ, КАЛОПНІ, *ж.* — конопля. Cannabis sativa L. Вераб'і каноплі паклевалі (Рудня, Аз. р.). На гародзе пасеялі калопні (Вядрэнь, Чаш. р.).

КАНТАР, у, *м.* — гиря. Вясы ё, а кантароў няма (Заазер'е, Сен. р.).

КАНУРКІ, *ж.* — кружева. Марыля пляцець канурκі к пасьцілцы (Марозаўка, Сен. р.).

КАНЦАВЫ — живущий на краю деревни. Канцавых яшчэ няма (Мянюцева, Сен. р.).

КАНЦЫЛЯРЫЯ, *ж.* — канцелярия. Ня плюйся у канцыляры (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАНЧАНЕ, *зб.* — живущие на концах деревни. Гэтыя канчані носяць пастуху пазьней, а тыя канчані носяць раней (Запрудзьдзе, Сен. р).

КАНЬКАЦЬ, *дзс.* — выпрашивать. Што ты ў яго канькаеш? (Ульлянавічы, Сен. р.).

КАНЮШЫНА, *ж.* — клевер. Trifolium pratense L. Дай каню канюшыны калі думаеш ехать (Навасёлкі, Сен. р.).

КАНЯ, і, *ж.* — лунь. Circus cyaneus L. (?) Каня крычыць—дождж будзець (Рыбчына, Сір. р.).

КАНЯЧЫЯ КАПЫТКІ — копытник. Asarum europaeum L. Канячыя капыткі зацьвілі (Астроўна, Віц. р.

КАПА, *ж.* — 1) кожанная покрышка на хомуте. Рымар прышыў к хамуту новую капу (Вішкавічы, Чаш. р.); 2) цветное одеяло из бумажной ткани. Сёньня на кірмашы баба прадавала капу (Вішкавічы, Чаш. р.).

КАПА, *ж.* — мера счета снопов и под. в 60 единиц. Я ў тым гаду на етым куску нажаў 10 коп жыта (Халамер'е, Аз. р.).

КАПАЦЕЦЬ, *дзс.* — коптеть. Капаціць капцёлка (Сукрэмна, Сен. р.).

КАПАЦЬ, *дзс.* — капать. На дварэ дожджык капліць—у Янкі шапка мякніць (Сукрэмна, Сен. р.).

КАПАЦЬ, *дзс.* — рыть, копать. Капаюць яму (Храпавічы, Куз. р.); Нада бульбу капаць (Любічы, Беш. р.).

КАПАЧ, а, *м.*, КАПАРУЛЯ, *ж.* — навозный крюк. Забыў бацька капач (Янавічы, Сур. р.). Вазь-

мі капарулю й ідзі скапывать на воз (Навасёлкі, Сен. р.).

**КАПАЧКА**, *ж.*--капелька. Я цябе ні шкадую ні капачкі (Пушкары, Сен. р.).

**КАПЕЦ**, а, *м.* — 1) межевой столб. Што ты капца ня відзіш — гэтак закасіў майго (Заазер'е, Сен. р.); 2) яма для сбережения картофеля на зиму. Мы бульбу заўсёгды сыпем у капцы на зіму (Зааазер'е Сен. р.); 3) курган. У нас у бару раскапалі бальшы капец і нашлі гаршчок (Русінава, Сен. р.).

**КАПЕШКА**, *ж.*--копна. Нагроб тры капешкі сена (Бешанкавічы, Беш. р.).

**КАПЭРУС** — гибель, конец. Мне чуць ня быў капэрус (Яцукі, Беш. р.).

**КАПЛІЦА**, *ж.* — часовня. Недалёка ад нас ёсьць капліца (Рудня, Аз. р ).

**КАПТАН**, а, *м.* — кафтан, жакет. Марылька, апрані каптан (Падрэзы, Чаш. р.).

**КАПТУР**, а, *м.* — в е р х н я я часть кухонной печи, переходящая в дымоход. Пабялілі каптур (Янавічы, Сур. р.).

**КАПУСТА**, *ж.* — 1) капуста. Brassica oleracea L. Капуста сёліта выгарала на гародзі (Лужасна, Куз. р.); 2) щи. Мама, налі мне капусты (Кузюціна, Аз. р.).

**КАПУТ**—смерть, конец. Табе будзіць там капут (Выгары, Куз. р.).

**КАПЦЁЛКА**, *ж.* — коптилка, лампа без стекла. Капцёлка закапціла хату (Д а б р а м ы с ь л ь, Лёз. р.).

**КАПЦЮР**, а, *м.*—коготь. Мама, а? мама! курыца капцюр зламала (Ваяводкі, Віц. р.).

**КАПЧОНКА**, *ж.* — ветчина. З сьвіньнячага сьцягна робіцца капчонка (Лагавая, Аз. р.).

**КАПШУК**, а, *м.*—кисет. Поўны капшук табакі (Чарніца, Лёз. р.).

**КАПЫЛ**, а, *м.*—1) сапожная калодка. У нашага шаўца ёсьць толькі вялікія капылы (Падрэзы. Чаш. р.); 2) вертикальная стойка в полозьях поддерживающая пол саней. Капылы новыя пастаў, дык будуць сані (Гарадок, Гар. р.); 3) мотыга. Капылом капылюць ляды (Жалудова, Лёз. р.).

**КАПЫТ**, а, *м.* — копыто. У каня капыты бальшыя (Лужасна, Куз. р.).

**КАПЯК**, а, *м.*—копна снопов, сложенных колосьями внутрь. Во, сколькі капякоў! (Гарадок, Гар. р.).

**КАРАБАЦІЦЦА**, *дзс.* — коробиться. Мой грабянец пачаў карабаціцца (Навікі, Беш. р.).

**КАРАБОК**, а, *м.*—спичечная коробка. Ці ёсь у цябе карабок? (Касачы, Лёз. р.).

**КАРАВАЙ**, ю, *м.*—свадебный пирог. У Янкі на вясельлі дзялілі каравай (Сянно, Сен. р.).

**КАРАВЫ**—корявый. Спаднік каравы (Зямковічы, Сен. р.).

**КАРАГОД**, а, у, *м.*—1) хоровод. Пойдзем гуляць у карагоды (Оўсішча, Сен. р.); 2) ряд копен. Бач, карагад бабак наставіў (Гарадок, Гар. р.).

**КАРАГОЛЬ**, ю, *м.* — ястреб, перепелятник. Accipiter nisus L. Як вісока караголь паляцеў! (Валькі, Сур. р.).

**КАРАК**, у, *м.* — затылок. Тоўсты карак, як у сьвіньні (Капланы, Сен. р.). Пар. акарак.

**КАРАЛІ**, яў, *зб.*—бусы. Пачапі каралі на шыю (Падрэзы, Чаш. р.). Пар. кралі.

КАРАНІЦЦА, *дзс.*—укореняться. А пырнік усё дальш караніцца ў гародзі (Лужасна, Куз. р.).

КАРАНІЦЬ, *дзс.*—выкорчевывать, разорять. Пашлі караніць амшару (Лужасна, Куз. р.).

КАРАПКОЎКІ, *ж.*—сорт яблок —ранет. Ня ешця карапковак да Спаса—памрыцё (Ходцы Сен. р.).

КАРАПУЗІЦЦА, *дзс.*—хвастаться. До табе карапузіцца! (Запрудзьдзе, Сен. р).

КАРАСІ, ёў, *м.*—железные пластинки под деревянными осями, чтобы оси не перетирались колесами. У яго восі на карасях (Павульле, Чаш. р.).

КАРАСІН, у, *м.*—керосин. Хадора запалі карасін, а то цёмна (Чалнышкі, Беш. р.)

КАРАСОЎКА, *ж.*—керосиновая лампочка. Заржавела карасоўка (Берасьні, Беш. р.).

КАРАТУЛЬКА, *ж.*—морковь коротель. Каратулька зусім ня ўзышла (Доўгае, Беш. р.).

КАРАФАШКА, *ж.*—легкая повозка. Паедзем на карахвашке (Астроўка, Віц. р.).

КАРАФІНКА, *ж.*—графинчик. Лявон пабіў карафінку (Сукрэмна, Сен. р.).

КАРАЦЕЦЬ, *дзс.* — укорачиваться. Як старэіць, дык карацеіць (Лужасна, Куз. р.).

КАРАЦЬ, *дзс.*—наказывать. Каралі яго за вушы (Лясьнікі, Сен. р.).

КАРДОН, у, *м.*—картон. Хата аббіта кардонам (Нов. Сяло, Беш. р.).

КАРДОЎНІК, у, *м.*—касатик. Jris Pseudacorus L. І кардоўнік у нашым краі ёсіка (Лёзна, Лёз. р.).

КАРЭЗА, *ж.*—сойка, Garrulus glandarius L. Карэзу застрэліў (Карма, Куз. р.).

КАРЭНЬНЕ, *н. зб.* — корни, Карэньне ужо пагніло (Стасева, Выс. р.).

КАРЭЦЬ, *дзс.* — покрываться коркою грязи. У яе міскі нямытыя усёгды карэюць (Лужасна, Куз. р.).

КАРЖАКАВАТЫ — покрытый толстой растресканной корой. Гэта ліпа вельмі каржакаватая (Асінаўка, Сен. р.).

КАРЖЭНЬ, я, *м.*—жирная лепешка. Маці сьпякла Васілю каржэнь (Сьвеча Беш. р.).

КАРМА, *ж.*—угловой конец мешка, сети. Паглядзі, ці няма рыбы ў карме (Падбярэзьзе, Віц. р.).

КАРМАЗЫНАВЫ—ярко - красный. А ў міне кармазынавая кохта! (Лужасна, Куз. р.).

КАРМАЧ, КАРМАЧЫК, а, *м.* —складной нож. Ці ёсьць у цябе кармач? (Вяжышча, Беш. р.). Тупы мой кармачык (Сахны, Сен. р.).

КАРМАШЫЦЬ, *дзс.* — тормошить. Буду маму кармашыць, каб купіла кніжку (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАРНАВУХІ—с неполным ухом. Наша парасё карнавухае (Луб'ева, Аз. р.).

КАРНАТЫ—безхвостый. Курнаты кот (Сухарукова, Аз. р.).

КАРНАХВОСТЫ—с коротким хвостом. Быці табе усё халостаму, як сабакі карнахвостаму (Сукрэмна, Сен. р.).

КАРОМІСЕЛ, а, *м.*, КАРОМІСЛА, *н.*—1) коромысло, которым носят воду. Зроб новы каромісел. Паламала на ім каромісла (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) пояс

Ориона. Пара малаціць—каромісла ўжо вісока (Сукрэмна, Сен. р.); 3) палка скрепляющая «вобжы» (гл.) у «сашча» (гл.). Каромысел ў сасе нада прыбіць крапчэй (Бабінавічы, Выс. р.).

КАРОНА, *ж.*—солнце. Ужо карона вышла з лесу (Баравыя, Куз. р.).

КАРОСТА, *ж.*—чесотка. Дай ты мне рады, братка, кароста на майго каня напала—ня ведаю, што й рабіць (Пацкава, Сен. р.).

КАРОСЬЛІВЫ—чесоточный. Каросьлівыя рукі (Рудня Аз. р.).

КАРОЎНІК, а, *м.*—скупщик коров. Кароўнік скупляе па дзярэўні кароў (Гарывецк, Сен. р.).

КАРОЎСЬКІ—коровий. Кароўські гной трэба пад бульбу (Кайтанова, Куз. р.).

КАРТЫХЛЯНКА, *ж.*—цветной платок. Нада абвярцець сваю картыхлянку (Вяжышча, Беш. р.).

КАРУЗЬЛІК, а, *м.*—карапуз; остановившийся в росте. Які ваш сынок карузьлік! (Лужасна, Куз. р.).

КАРУНКІ, *н.*—кружева. На ей была спадніца з карункамі (Мікалаёва, Куз. р.).

КАРУННЫ—с старой кроной (дерево). Мала машэньнікам хворасту, дык яны началі валіць каруннае дзерава (Касьцюкі, Куз. р.).

КАРХАВІНЬНЕ, *н.*—1) мокрота при кашле. Накархаў кархавіньня усюдах (Стралкі, Беш. р.); 2) лягушечья икра. Люгашкі напускалі кархавіньня (Быкоўшчына, Беш. р.).

КАРХАЦЬ, *дзс.*—харкать, Памрэць, бо кроўю кархаіць (Капланы, Сен. р.).

КАРЦЕЦЬ, *дзс.*—сильно хотеться, беспокоить. Табе карціць сапсаваць новую сукенку (Сукрэмна, Сен. р.).

КАРЧАГА, *ж.*—соломенная посуда для ссыпания зерна, напр.: конопли, льняного семени, крупы и т. п. Высып крупы у карчагу (Жабяньцяі, Куз. р.).

КАРЧАВЕШКА, *ж.*—выкорчеванный пень. Сабяры карчавешак і разьвядзі вогнішча (Каверзіна, Меж. р,).

КАРЧМА, *ж.*—кабак. У старыя годы тут стаяла карчма (Баравые, Куз. р.). У карчму хадзілі піць піва (Баранаўка, Куз. р.).

КАРШАК, а, *м.*—ястреб Accipiter nisus L.; Astur palumbarius L. Каршак дзярэць курэй (Баранаўка, Куз. р.).

КАРШЭНЬ, я, *м.*—1) затылок. Дай яму ў каршэнь (Забор'е, Сен. р.). Пар. карак; 2) тумак, удар. Во, як накладу табе каршнёў паміж крыльляў! (Лазова, Сен. р.).

КАРШНЯК, а, *м.*—ласточка, Hirundo rustica L., Hirundo urbica L. Каршнякі ўжо прыляцелі (Селішча, Гар. р.).

КАРШУН, а, *м.*—коршун. Milvus ater Gm. Каршун ухапіў гусёнка (Раіны, Аз. р.).

КАРЫ, *ж.*—телега для возки сена, снопов. Натта доўгея кары, але добрыі (Санікі, Беш. р.).

КАРЫСТАЦЦА, *дзс.*—пользоваться. Карыстаецца нашай каровай (Оўсішча, Сен. р.).

КАРЫСЬЦЬ, *ж.*—польза. Карысці яму мала з гэтага (Зямковічы, Сен. р.).

КАРЫТА, *н*—корыто. Налі сьвіньням зельля ў карыта (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАРЭЛКА, *ж.*—грязнуха. І карэлка-ж, Прузына! (Сялец, Чаш. р.).

КАРЭЦ, а, *м.* — деревянная подставка внизу сохи на которую одеются лемехи. У маей сахе карэц зламіўся (Мар'янова, Куз. р.); 2) деревянная палочка с дыркой, прикрепляемая к верхнему жернову для вращения. Адарваўся карэц у жорнах (Раманаўка, Сен. р.).

КАРЭЛЫ — грязный. Карэлы хвартук ляжыць на печы (Запрудзьдзе, Сен. р.).

КАСА, *ж.*—кроме общих значений—селезенка. Касу сьпякла (Гарадок, Гар. Р.).

КАСАВАЦЬ, *дзс.* — вычеркивать, уничтожать. Апяць пачалі касаваць усі законы (Заазер'е, Сен. р.).

КАСАВІЛА, КАСАВІЛЬНА, КАСАЎЁ, КАСІЛНА, КАСЬСЁ, *н.*—деревянная часть косы. Зроб ты новае касавіла (Гарадок, Гар р.). Якая каса такое й касаўё (Чарніца, Лёз. р.). Касілна зламаў на куст (Раманаўка, Сен. р.). Прыладзь ты касьсё к касе (Пустынкі, Сен. р.).

КАСАВОК, а, *м.* — плетенная корзинка на чтв. зерна, из которой иногда сеют. Новы касавок прынясі з жытам (Валатоўка, Гар. р.).

КАСАВОКІ—косоглазый. Ён дужа касавокі (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАСАЧ, а, *м.*—заяц. Касач абгрыз дрэва (Лапы, Беш. р.).

КАСЕЦ, а, *м.*—косец. Касцы селі кала кустоў падвячоркаваць (Оўсішча, Сен. р.).

КАСІК, а, *м.*—верхний косяк окна. Стукнуў галавой у касік (Дрыкольле, Куз. р.).

КАСМАТЫ—косматый, лохматый. У лісіцы хвост касматы (Сялец, Чаш. р.).

КАСМЫЛІ, *зб*—космы, волосы. Чаго ты распусьціла сваі касмылі? (Баравыя, Куз. р.);

КАСНЫ—срамный, скверный, худой. Касны ты! Твая карова дужа касная (Гарадок, Гар. р.).

КАСТАЛОМ, у, *м.*—1) ревматизм. Rheumatismus. Каб у цябе касталом уваліўся! (Вядрэнь, Чаш. р.). 2) полынь. Artemisia campestris L. Касталому нарваў (Лужасна, Куз. р.).

КАСТРЫВА, *ж.*—крапива. Urtica dioica L. На кастрыву апёкся (Барсукі, Аз. р.).

КАСТРЫВЫ — с кострикой. Якое кастрывае атрэп'е! (Кураеды, Беш. р.).

КАСТРЫЦА, *ж.* — кострика. Набяры кастрыцы йдзе лён труць (Доўжа, Куз. р.).

КАСУЛЯ, *ж.*—соха, плуг. Касулю к кавалю павёз (Горкі, Аз. р.).

КАСЦЫ, оў, *м.*—пояс Ориона. Касцы вунацькі, на тым краі неба (Лужасна, Куз. р.).

КАСЫ—косой. Ах ты чорт касы! (Шкалёўка, Беш. р.).

КАСЬБА, *ж.*—время сенокоса, сенокос. Ужо настала касьба (Баркова, Куз. р.).

КАСЬНІК а, *м.*—1) лента в косе. Упляла ў косы касьнік (Забалоцьце, Беш. р.); 2) старинный венок невесты, сделенный из бумаги и материи разных цветов. Венчаліся раней у касьніках (Вяжышча, Беш. р.).

КАСЬНІЧЫНА, *ж.*—тряпочка вплетенная в волоса. Якую ты гэта касьнічыну ўпляла, дужа нялюбую (Навасёлкі, Сен. р.).

КАСЬЦЕРКА, *ж.*--мешок. Насыпаць касьцерку мукі (Гравы, Сен. р.).

КАСЬЦІЦЬ, *дзс.*—сорить на пол. Ягор, не касьці на пол, а то матка задась (Косы, Віц. р.).

КАСЬЦЮЛЬКА, *ж.*—ус ржаного или ячменного колоса. Касьцюлька пупала ў вока (Ульлянавічы, Сен. р.).

КАСЬЦЯНКА, *ж.*—костяника. Rubus saxatilis L. Касьцянкі яшчэ ні пасьпелі (Лужасна, Куз. р.).

КАТ, а, *м.*—палач. Кат еты, толькі мучыць (Лужасна, Куз. р.).

КАТАВАЦЬ, *дзс.*—бить. Яго добра катавалі (Падрэзы, Чаш. р.).

КАТАНКА, *ж.* — 1) кофта. Падай сюды катанку! (Вяжышча, Беш. р.); 2) валенок. Злубянелі мае катанкі (Навасёлкі, Сен. р.).

КАТАР, у, *м.*—насморк. Rhinitis. Катар ні даець пакою каторую нядзелю (Лужасна, Куз. р.).

КАТАРГА, *ж.*—кроме общего значения—насморк. Rhinitis. Пурым не сьвята, а катарга не хвароба (Вядрэнь, Чаш. р.),

КАТЭЛКА, *ж.*—хлебный, глинянный шарик. Давай катэлкі робіць! (Высачаны, Выс. р.).

КАТЛЯК, а, *м.*—короткий кусок бревна. На што ты парэзаў бервяно на катлякі? (Сянно, Сен. р.).

КАТЛЯР, а, *м.*—медник. Вынясі катляру апалоў зьнітаваць (Залужжа, Беш. р.).

КАТОК, а, *м.*—колесо телеги. У мяне адзін каток саўсім разваліўся (Пустыр, Сір. р.).

КАТУЛКА, *ж.*—1) телега для возки больших камней. Бяры катулку і едзь за каменьнем (Максімава, Куз. р.); 2) круглая чурка, подкладываемая под ухват, чтоб легче вставить горшок в печь. Падай катулку, буду саган ставіць у печ (Раманаўка, Сен. р.); 3) каток из бревна для укатывания посевов. Запражы катулку, ды прыкатай авёс (Кабішча, Куз. р.).

КАТУХ, а, *м.*—1) хлевок, курятник. Загані курэй ў катух (Стаішча, Чаш. р.); 2) закром для корнеплодов. Катух адгарадзілі дзеля бульбы (Зямковічы, Сен. р.); 3) треугольная кормушка. Ідзі ў катух сена ўкінь (Каверзіна, Меж. р.).

КАЎБЫР, а, *м.* — крынка для молока. Каўбыр памый тады малако цадзі (Сукрэмна, Сен. р.).

КАЎГАНКА, *ж.*—кружка, находящаяся в бане для разливания воды. Дайце каўганку (Доўгае, Беш. р.).

КАЎЖЭНЬ, я, *м.* — шустрый низкого роста мальчик, малыш. Які каўжэнь, а што з яго дзеецца? (Семянцова, Беш. р.)

КАЎЗЕЛЬ, ю, я, *м.*—каток на льду. Ён быў на каўзялі (Пустынкі, Сен. р).

КАЎКА, *ж.*—галка. Monedula turrium Brehm. Каўкі ядуць усякую падлу (Лужасна, Куз. р.).

КАЎКАЦЬ, *дзс.* — мяукать. Кошка каўкала (Чарнагосьці, Беш. р.).

КАЎНЕР, а, *м.*—воротник. У шубе знасіўся каўнер (Хадулава, Куз. р.).

КАЎНЯРЦЫ, оў, *м.* — воротнички рукавов, манжеты. Наста вышыла сабе прыгожыя каўнярцы (Оўсішча, Сен. р.).

КАЎЧЭГ, у, *м.*—пенал. Янка ссорыў каўчэг (Лук'янова, Сен. р.).

КАХАНЬНЕ, *н.*—любовь. Знаем яго падплотнае каханьне! (Селішча, Беш. р.).

КАХАЦЦА, *дзс.* — любиться. Яны доўга кахаліся (Чашнікі, Чаш. р.).

КАХАЦЬ, *дзс.*—любить. Малец кахаець дзеўку (Траяны, Беш. р.).

КАХЛЯ, *ж.*—изразец. На тэй вуліцы, дзе кахлі дзелаюць (Лужасна, Куз. р.).

КАХУНДРЫЦА, *ж.*—мелочная тряпичная торговка. Кахундрыца купіла ў ей курыцу (Лёзна, Лёз. р.).

КАЦЁЛ, а, *м.*—котел, чугунный горшок. У катле звары капусту (Шарыпіна, Беш. р.)

КАЦЭЛЬКІ, *ж.* — блоки, поддерживающие «ніты» (гл.) в ткацком станке. Кацэлькі нада вешаць на аднэй вышыне, каб ніты роўна хадзілі (Ходцы, Сен. р.).

КАЦІК, а, *м.*—яйцо, которое хорошо катится. У каго мой кацік? (Спасская, Сір. р.).

КАЦІЦЦА, *дзс.*—кроме общего значения—родить ягненнка. Наша авечка кацілась (Каралі, Куз. р.).

КАЦІЦЬ, *дзс.*—кроме общего значения—родить ягненка. Наша авечка каціла пару ягнят (Семянцова, Беш. р.).

КАЦЮЛЬКА, *ж.* -- круглый кусок палки, подкладываемый под ухват, чтоб легче вставить горшок в печь. Падлажы кацюльку пад вілкі—лягчэй будзіць (Александрова, Гар. р.). Пар. качулка, катулка.

КАЦЮХ, а, *м.*—чурбан. Адрэж кацюх на узгалавашчы (Ульлянавічы, Сен. р.).

КАЦЯНЁ, *н.*—котенок. Кацяняты скора будуць лавіць мышэй (Гарывецк, Сен. р.).

КАЦЯРЫНКА, *ж.* — майский жук. Melolontha melolontha L. Мы знашлі кацярынку (Чарнагосьці, Беш. р.).

КАЦЯРЫНКІ, *ж.* — желтая акация. Caragana arborescens Lam. Кацярынкі прыгожыя цьвяты (Ганкавічы, Беш. р.).

КАЧАЛКІ, *ж.* — каток для белья. Ён падарыў мне сяньні добрыя качалкі (Сьліжыкі, Куз. р.).

КАЧАНЁ, *н.*—утенок. На рацэ плывуць качаняты (Стралкі, Беш. р.).

КАЧАНЬНЕ, *н., зб.*--кочни. Вырасла добрае качаньне (Купіна, Віц. р.).

КАЧАРГА, *ж.*—кочерга. Качарга стаяла ў качарэжніку (Вяжоўкі, Чаш. р.).

КАЧАРЭЖНІК, у, *м.* — угол около печки, где ставят ухват, кочергу и т. п. Пастаў вілкі ў качарэжнік (Пацкава, Сен. р.).

КАЧАРЫЖКА, *ж.* — ствол кочна капусты. Я дужа люблю есьці качарыжкі (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАЧАТЫХ, у, *м.* — крючек для плетения лаптей. Падай качатых! (Путрына, Сір. р.).

КАЧАЦЦА, *дзс.* — кататься. Ён пачаў качацца па гразі (Сялец, Чаш. р.).

КАЧАЦЬ, *дзс.*--катать. Хлопцы качаюць кружочкі з бляхі (Сянно, Сен. р.). Качай бяльлё (Лужасна, Куз. р.).

КАЧКА, *ж.*—утка. Anas. Качка ня курыца: без вады пражыць ня могіць (Заронава, Куз. р.).

КАЧУЛКА, *ж.*—круглый кусок палки подкладываемый под ухват, чтобы легче горшок в печь подать. Качулка звалілась з загнеткі (Забалотнікі, Куз. р.). Пар. кацюлька; катулка.

КАШАЛА, *ж.*—верх телеги, самая телега. Кашала ў калёсах новая (Гарадок, Гар. р.).

КАШАРЫЦЬ, *дзс.* — очищать. Пувёз сваю бабу кашарыць (Бешанкавічы, Беш. р.).

КАШЭЛЬ, я, *м.*—1) плетеная веревочная сетка в которую берут сено в дорогу. Сілівей, бягі скарэй напхай кашэль (Лахманы, Аз. р.); 2) корзина. Прынёс поўны кашэль дуль (Сялец, Чаш. р.).

КАШЛАТЫ — косолапый, неповоротливый. Мядзьведзь еты кашлаты! (Шкалёўка, Беш. р.).

КАШМІРОЎКА, *ж.*—кашемировый платок. Кашміроўку новую абкруціла на галаву (Лужасна, Куз. р.).

КАШОЛКА, *ж.*—корзина для для выбирания картофеля и пр. Мая кашолка злумалась (Журавінка, Куз. р.).

КАШТАВАЦЬ, *дзс.*—1) стоить. Алей каштуе 22 кап хунт (Пятніцкая, Беш. р.); 2) пробовать на вкус. Ні каштуй, сястрыца нават—ня будзем есьці (Стаішча, Чаш. р.).

КАШТАН, а, *м.*—каштановое дерево. Aesculus hippocastanum L. На каштане красівыі лісты (Гарадок, Гар. р.).

КАШУЛЯ, *ж.* — рубашка. У цябе новая кашуля (Баркова, Куз. р.).

КАШЫНЫ—кошачий. І кашыным іноды лечаць (Лужасна, Куз. р.).

КАЯЦЦА, *дзс.*—раскаиваться. Ідзі, ня будзеш каіцца (Бешанкавічы, Беш. р.).

КВАДРА, *ж.*—фаза четверть луны. Наступіла ўжо другая квадра (Навікі, Віц. р ).

КВАКТАЦЬ, *дзс.* — квохтать. Вот ня чуць было, ня чуць, а то й і квохчыць зноў (Лукашоўка, Беш. р.).

КВАКТУХА, *ж.* — наседка. У нашай квактухі была дзесяць курчонкаў (Заронава, Куз. р.).

КВАПНЫ—завистливый, жадный. Такі да ўсяго квапны хлапец! (Лужасна, Куз. р.).

КВАРТА, *ж.* — кружка. Дай кварты напіцца (Бешанкавічы, Беш. р.).

КВАСНЫ—кислый. Гаспадыня сьпякла квасны хлеб (Аксяньці, Чаш. р.).

КВАСОЛЯ, *ж.* — фасоль. Phaseolus vulgaris L. Квасолі нада пасадзіць (Стаішча, Чаш. р.).

КВАТЭРА, *ж.* — квартира. Я стаю на кватэры ў Апанаса, а ў яго добрая кватэра (Сянно, Сен. р.).

КВАТЭРКА, *ж.*—1) 1/100 ведра. Янка выпіў кватэрку гарэлкі (Павульле, Чаш. р.); 2) оконное стекло. Разьбіў кватэрку (Стралкі, Беш. р.); 3) форточка. Зачыні кватэрыну (Караліна, Беш. р.).

КВАТЭРЧАТЫ — четвертной. Кватэрчатыя балонкі з етага аркушу будуць (Калышкі, Лёз. р.).

КВАЧ, а, *м.* — кисточка из тряпок. Падай мне квач — буду боты мазаць (Селядцова, Беш. р.).

КВАШАНІНА, *ж.* — холодное Дзеці елі квашаніну з парасячых ног (Сьвеча, Беш. р.).

КВАШОНКА, КВАШНЯ, *ж.*—1) небольшая кадка для заквашивания хлеба, блинов и т. п. Схадзі ты прынясі квашонку (Спаская, Сір. р.); 2) кадка из под кваса. Прынясі квасу з тэй квашонкі (Станіславова, Сір. р.).

КВЕТКА, *ж.*—цветок. Кветка дужа прыгожая! (Сьліжыкі, Куз. р.).

КВІТ, а, *м.* — 1) квитанция. І квіта ні дае за работу (Чырв. Зорка, Чаш. р.); 2) довольно. Квіт! больш ні пайду ні за што! (Рыбчына, Сір. р.).

**КВОЛЕЦЬ**, *дзс.* — становиться слабее, хрупче. Кволеіць дзіцянё, а памагчы ня можым (Лужасна, Куз. р.).

**КВОЛЫ** — 1) слабый. Наша Гапуля дужа кволая (Селядцова, Беш. р.); 2) хрупкий. Ён дужа кволы (Луб'ева, Аз. р.).

**КВОТА**, *ж.*—процентные деньги. Я квоту аддаў (Замшына, Лёз. р.).

**КВЯТЫ**, оў, *м.*—цветы. Аёй, якія прыгожыя квяты! (Баяршчына, Сен. р.).

**КЕЛІХ**, у, *м.*—бокал. Мы выпілі па адным келіху (Кр. Сяло, Сен. р.).

**КЕПІКІ**, аў, *м.*— насмешки Апанас з Дар'і строіць кепікі (Оўсішча, Сен. р.).

**КЕПСКІ**—плохой. Кепскія абцугі (Кляшчыно, Беш. р.).

**КЕШКАЦЦА**, *дзс.* — возиться, пачкаться. Яна ўвесь дзень кешкаецца (Бешанкавічы, Беш. р.).

**КЗЫМС**, а, у, *м.*—карниз. Пашукай сьпічак на кзымсе (Бешанкавічы, Беш. р.). Пар. гзымс.

**КІБІС, КІБУС**, а, *м.* — чибис. Vanellus cristatus Meyer. Кібіс крычыць (Сутокі, Лёз. р.). Па полі лётае шмат кібусаў (Гарывецк, Сен. р.).

**КІВАЦЦА**, *дзс.* — шататься. Гвозд у сьцяне ківаецца (Гравы, Сен. р.).

**КІДАЦЦА**, *дзс.* — бросаться. Агазьзю у вочы, як кініцца (Сьвярдлы, Беш. р.).

**КІДАЦЬ**, *дзс.* — бросать. Кінь мне сюды палку (Пустыр, Сір. р.). Кінь дурныя думкі (Навікі, Віц. р.).

**КІЁК**, а, *м.* — 1) палка. Кійком пацягні яго па сьпіне (Лужасна, Куз. р.); 2) палка в ткацком станке для поворачивания «калоды» (гл.) и подвешивания «нітоў» (гл.). Анхвіса, прынясі мне даўжэйшы і таўсьцейшы кіёк (Макеенкі, Аз р.).

**КІЁЎКА**, *ж.*—пушица. Eriophorum (розныя віды). Кіёвак нанесьлі, хоць падушку рабі (Лужасна, Куз. р.).

**КІЙ, КІЁК**, я, а, *м.*—палка. У мяне добры кіёк (Косы, Віц. р.). Старац ходзіць з кіем (Новое Сяло, Беш. р.).

**КІЖЫЛЬ**, *ж.*—плохая погода. А якая ж сёньня дрэнная кіжыль (Вашчанкі, Гар. р).

**КІЛА**, *ж* — грижа, в паху. Hernia. У Янкі бальшая кіла (Селядцова, Беш. р.).

**КІЛАВАТЫ**—с грыжей. У нашай дзярэўні ёсьць кілуваты Марка (Абрэзкава, Сен. р.).

**КІЛАШ, КІЛУН**, а, *м.*—кабан самец. Сьвіньню павялі к кілашу (Сухарукава, Аз. р.). Што ты пену папускаў, як кілун? (Абрэзкава, Сен. р.).

**КІЛІШАК**, а, *м.*—рюмка. Налі, калі хочаш, адзін келішак (Селядцова, Беш. р.). Юрка выпіў тры кілішкі гарэлкі (Хадулава, Куз. р.).

**КІНЬДЗЮК**, а, *м.* — 1) желудок. У нашай сьвіньні быў вялікі кіньдзюк (Крыльцова, Сен. р.); 2) требух начиненый рубленым мясом. Кіньдзюкі кідаюць к лету (Альшанікі, Беш. р.).

**КІНУЦЦА**, *дзс.*—броситься. Сабака кінуўся на мяне (Залесьсе, Чаш. р.).

**КІПЦІ** яў, **КІПЦЮРЫ**, оў *м.*— когти. Кот пацарапаў кіпцямі усю руку (Чарніца, Лёз. р.). Цiплёнак папаўся ў кіпцюры каршуну (Азяркі, Беш. р.).

**КІРАВАЦЬ**, *дзс.* — управлять. Ты яшчэ ня умееш кіраваць канём (Макара, Віц. р ).

КІРАЎНІК, а, *м.*—администратор, управляющий. Новы старшыня харошы кіраўнік (Бабінічы, Віц. р.).

КІРМАШ, у, *м.*—ярмарка, торг. Народу дужа многа была на кірмашы (Прусаўкі, Аз. р.).

КІРПІЧЧА, *н.*, *зб.* — кирпичи. Усё кірпічча пабіта (Касачы, Лёз. р.).

КІСЕЛЬ, ю, *м.*—кисель. Кісель ня ежа — жулетка не адзежа (Палуянава, Гар. р.).

КІСЕТ, а, *м.* — кисет. Цяні кісет — закурым (Пятніцкая, Беш. р.).

КІСЛУХА, *ж.* — вид киселя. Кіслуха—гэта страва, якая варыцца з хлебнага рашчыну (Чашнікі, Чаш. р.).

КІСЬЛІЦА, *ж.*—щавель. Rumex Acetosa L. Звары сягоньні кісьліцы (Лагавая, Аз. р.).

КІСЯЛЁЎКА, *ж.* — палочка с сучком, которой разбалтывают кисель. Вымый кісялёўку (Спасская, Сір. р.).

КІТ, у, *м.*– оконная замазка. Ці гатоў кіт для вакон? (Пустынкі, Сен. р.).

КІТАВАЦЬ, *дзс.*—замазывать стекла в рамах оконной замазкой. Сёлета надо рамы кітаваць (Пустынкі, Сен. р ).

КІТЛІК, а, *м.* — безрукавка. Кітлік яе натта прыгожы (Пустыр, Сір. р.).

КІТОЎКА, *ж.* — оконная замазка на окнах. Дужа дрэнны у етага жыда быў кіт, ужо ўся кітоўка абсыпалась (Берасьні, Беш. р.).

КІЧ, а, *м.* — кочка. Кнігаўкі кладуцца па кічах (Белькава, Беш. р.).

КІШЭНЬ, КІШЭНЯ, *ж.*—карман. Усунуў руку ў кішэнь (Сухарукава, Аз. р.). Палажы грошы у кішэню (Лук'янова, Сен. р.).

КІШОНКА, *ж.*—маленькая сумочка для хранения денег. Забылася кішонку ўзяць (Альгова, Віц. р.).

КЛАДКА, *ж.*–жердь или доски, переброшенные через ручей. Можна перайсьці па кладцы (Ісачкава, Аз. р.).

КЛАДКІ, *ж.*—копны овса или ячменя по 3—5 снопов. Коні растрабушылі кладкі аўса (Веляшковічы, Лёз. р.).

КЛАДОК, а, *м.*—кладка ячменя по 3 снопа в куче. Прыгожый іх кладок! (Гарадок, Гар. р.).

КЛАДОЎКА, *ж.* — кладовая. Нада схадзіць у кладоўку (Юрава, Сір. р.).

КЛАДЗІШЧА, *н.* — кладбище. На тым кладзішчы яго й закапалі (Лужасна, Куз. р.).

КЛАПАЦІЦЦА, *дзс.*—заботиться. Аб кім жа мне клапаціцца? (Макарава, Віц. р.).

КЛАПАЦІЦЬ, *дзс.*—заботить. Мая галоўку клапаціць (Навасёлкі, Сен. р.).

КЛАПОЎНІК, у, *м.*—клоповник. Lepidium ruderale L. Клапоўніку ня рві (Лужасна, Куз. р.).

КЛАСЬЦІ, *дзс.*–класть. Кручча кладуць на крышу (Шыпы, Сен. р.).

КЛАСЬЦІСЯ, *дзс.*–1) ложиться. Трэба нам класьціся, ўжо позна (Шыпы, Сен. р.); 2) нестись. Маей цёткі куры добра кладуцца, а нашы вельмі кепска (Косы, Віц. р.).

КЛЕНЧЫЦЬ, *дзс.* — клянчить, выпрашивать. Кленчыў, але нічога ня выкленчыў (Пятніцкая, Беш. р.).

КЛЕТКА, *ж.*—клетка. Пасадзі птушку ў клетку (Ісачкава, Аз. р.).

КЛЕЦЬ, *ж.*—амбар. Схадзі ў клець за севалкай (Пустыр, Сір. р.).

КЛЕШЧЫ, *н.*—1) клещи, деревянное основание хомута. Дугу закладзі—тады клешчы сьціскай (Сукрэмна, Сен. р.); 2) шест с раздвоенным концом для ловли раков. Я зьдзелаў клешчы лавіць ракаў (Селішча, Гар. р.).

КЛЁН, у, *м.* — клен. Acer platanoides L. З клёну робяць лыжкі (Лужасна, Куз. р.).

КЛЁП, у, *м.* — лезвее косы после отбивки. Слаўны клёп у яго ўсягды (Лужасна, Куз. р.).

КЛЁПКА, *ж.*—клепка. Сасновыі клёпкі ў етам цэбры (Лужасна, Куз. р.).

КЛЁЦ, КЛЯЦ, у, а, *м.*--зуб в бороне. Барана зьдзелана з дваццаці кляцоў (Гравы, Сен. р.). Тры кляцы з бараны прапала (Сукрэмна, Сен. р.).

КЛЁЦКІ, *ж.*—картофельные галушки. Клёцківаруць з дранай бульбы, з пшоннай і прыварковай мукі (Альшанікі, Беш. р.).

КЛІБА, КЛІБІНА, *ж.* — скрученный прут для связывания плотов, заборов и т. п. Піравяжы кольля клібінай (Луб'ева, Аз. р.). Прывяжы клібай жэрдзь (Горбава, Лёз. р.).

КЛІКАЦЬ, *дзс.* — звать. Кліч Юрку будзем абедаць (Косы, Віц. р.).

КЛІН, а, *м.*—клин. Етат клін нада перамяніць (Макеенкі, Аз. р.).

КЛОПАТ, у, *м.*—хлопоты, заботы. Нашто мне той клопат з тваім мехам? (Лужасна, Куз. р.).

КЛОПАТНЫ — хлопотливый, заботливый. Будзе жыць, бо клопатны (Лужасна, Куз. р.).

КЛУБЫ, оў, *м.* — бедровая кость. Як дужа павытарклі клубы (Ульлянавічы, Сен. р.).

КЛУМАК, а, у, *м.*--узел. Падвязі мой клумак (Пустынкі, Сен. р.).

КЛУМБА, *ж.*—сапог с деревянной подошвой. Адзень клумбы (Каверзіна, Меж. р.).

КЛУНЯ, *ж.* — сенной сарай. Йдзе завуць «пуня», а йдзе «клуня» (Лужасна, Куз. р.).

КЛЫЧЫЦЬ, *дзс.* — комкать. Перестань клычыць Янку (Суднікі, Куз. р.).

КЛЮКА, *ж.* — кочерга. Памешай клюкай печ (Застарыньне, Беш. р.).

КЛЮШНЯ, *ж.* — клешня. У ряка ё клюшні (Сянно, Сен р.).

КЛЯВАЦЬ, *дзс.*—клевать. Куры клююць ячмень (Лужасна, Куз. р.).

КЛЯВЕЦ, а, *м.*—молоток для отбивки кос. Мой клявец добра касу клепіць (Русінава, Сен. р.). Пар. кляпанчык.

КЛЯВЕШЧЫЦА, *ж.* — булдырник. Cnidium venosum Koch. А клявешчыцы німа ў гародзі (Асінаўка, Беш. р.).

КЛЯДБОНЫ, *зб.* — проклятия. Праклінаець мёртвамі клятбонамі (Тараскі, Чаш. р.).

КЛЯМАР, у, *м.*—дугообразная железная палка вбиваемая в стену, для подвешивания чего нибудь. Сымон убіў у сьцяну клямар (Дзямідавічы, Чаш. р.).

КЛЯМКА, *ж.*—дверная ручка, щеколда. Захутай дзьверы на клямку (Жабяньцяі, Сур. р.).

КЛЯНОВІК, у, *м.* — кленовый сок. Напіўся кляновіку (Лёзна, Лёз. р.)

КЛЯНЬНІК, у, *зб.* — кленовый лес. У кляньнік ад ваднёў пахаваліся (Лужасна, Куз. р.).

КЛЯПАНЧЫК, я, *м.* — молоточек для отбивания кос. Падай мне кляпанчык (Цьвяткоўшчына, Сур. р.). Пар. клявец.

напхнуць

НАПХАЦЬ, НАПХНУЦЬ, *дзс.*— напихать. Напхалі вялікі сяньнік (Оўсішча, Сен. р.). Дзед напхнуў пяхцель сена (Зямковічы, Сен. р.).

НАПЯРЫЦЦА НІ ДАЦЬ — не дать опомниться. Ён табе напярыцца ні дась: ты слова, а ён — дзесяць (Сьвярдлы, Беш. р.).

НАРАВІСТЫ — с норовом, капризный. Яго конь наравісты (Пятніцкая, Беш. р.).

НАРАВІЦЦА, *дзс.* — 1) упрямиться. Дужа конь наровіцца (Лужасна, Куз. р); 2) остерегаться. Наравісь ты яго трогаць (Рыбчына, Сір. р.).

НАРАВІЦЬ, *дзс.* — капризничать. Дзяўчына вельмі наравіць (Мамойкі, Беш. р.).

НАРАІЦЬ, *дзс.*—насоветовать. Кум, нарай мне зельля ад пахмельля (Кр. Сяло, Сен. р.).

НАРАСТ, у, *м.*—нарост. Глянь, якей на бярэзіне нараст! (Лужасна, Куз. р.).

НАРАСТАВАЦЬ, *дзс.*—метать икру. Рыба ўжо нараставала (Доўгае, Беш. р.).

НАРАТУНКУ—очень громко. Рабёнак наратунку крычаў (Курына, Куз. р.).

НАРАТЫ, оў, *м.*—вид рыболовной сети, которую ставят поперек течения реки. Наратамі рыбу ловіць (Гарадок, Гар. р.).

НАРАЧНА, НАРАЧЫТА, НАРОКАМ—нарочно. Нарачна хадзіла глядзець (Стаішча, Чаш. р.). Нарачыта да вас прышла (Доўгае, Беш. р.). Ці нарокам прышоў? (Пятніцкая, Беш. р.).

НАРОГ, а, у, *м.*—лемех. Нарох у маім плузі зламаўся (Дубнікі, Сен. р.).

НАРУГАЦЦА, *дзс.*—наругаться, досаждать. Васіль, не наругайся, бо я пайду і скажу тату (Сянно, Сен. р.).

НАРУЧНІК, а, *м.*—вязанный нарукавник, одеваемый выше кисти руки. Мне мама вяжыць наручнікі (Лоўжа, Сір. р.).

НАРЫНА, *ж.* — заметенная снегом дорога. Дзе па етакай нарыні паедзіш? (Крывіна, Беш. р.).

НАРЫЦА, *ж.* — вид болезни. Каб цябе нарыца зьела! (Бабоўка, Сен. р.).

НАСАВІЧКА, *ж.* — носовой платок. Дай мне сваей насавічкі (Дзяды, Сір. р.). Пар. насоўка.

НАСАЧЫЦЬ, *дзс.*--высмотреть, выискать. Насачыў сабе бярэзіну на трайню (Лужасна, Куз. р.).

НАСЕЛІЦА, *ж.* — лужок за овином на усадьбе. Загонь каня на населіцу (Запрудзьдзе, Сен. р.). Пар. аселіца.

НАСЕНЬНЕ, *н.*—семена. Насеньне было няпеўнае (Сяркуці, Сен. р.).

НАСКІПАЦЬ, *дзс.*—нащепать, наколоть. Наськіпай трэсак (Чарнагосьці, Беш. р.).

НАСКРОЗЬ — насквозь. Наскрозь прамокла (Мішкава, Куз. р.).

НАСЛАНЬНЁ, *н.* — насланное, беда. Яй, ліханька, якоя насланьнё! (Асіпова, Аз. р.).

НАСМАЖЫЦЬ, *дзс.*--нажарить. Насмажылі грыбоў (Яноўшчына, Беш. р.).

НАСОС, у, *м.*—болезнь, опухоль передних десен лошади. Насос у майго каня (Бяскатава, Гар. р.).

НАСОЎ, у, *м.*—халат из белого полотна. Ідзець нейкій чалавек у насову (Сьвярдлы, Беш. р.).

НАСОЎКА, *ж.*--носовой платок. Вазьмі насоўку, а то нечам будзець нос высмаркаць (Сьвеча, Беш. р.). Пар. насавічка.

НАСПА, *ж.* — молодой лесок. У наспу коней не вадзіце (Лёзна, Лёз. р.).

НАСТАВАЦЬ, *дзс.*—наставать. Ужо дзень настаець (Машчоны, Сен. р.).

НАСТАЛІЦЬ, *дзс.* — наварить сталью для большей крепости. Панёс у кузьню тапор насталіць (Косы, Віц. р.).

НАСТАНАЎЛЯЦЬ, *дзс.* — поучать, учить. Бацька далжон настанаўляць дзяцей (Мікалаёва, Куз. р.).

НАСТАЎНІК, а, *м.*—учитель. Настаўнік пашоў у школу (Храпавічы, Куз. р.).

НАСТАЎНІЦА, *ж.* — учительница. Скажу настаўніцы, штоб яна цібе за вушы драла (Рыбчына, Сір. р ).

НАСТЛЫШ, у, *м.*—вода под снегом. Ён папаў у настлыш (Балдыкова, Аз. р.).

НАСТОЛЬНІК, а, *м.*—1) скатерть. Настольнік нада чыстый паслаць (Селядцова, Беш. р.). Накрыт стол настольніцай (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) нахлебник. У мяне ё два настольнікі (Лужасна, Куз. р.).

НАСТУПНЫ — следующий. У наступнае сьвята ета зробім (Лужасна, Куз. р.).

НАСТЫРНЫ — гордый. Наста дужа настырная (Л у к ' я н о в а, Сен. р.).

НАСУКАЦЬ, *дзс.*—навить. Насучы мне цэўку (Кр. Сяло, Беш. р.).

НАСУКРЫЦЬ, *дзс.* — навить, завить. Насукрыла валасы (Доўгае, Беш. р.).

НАСУПРАЦЬ — напротив. Ён сеў насупраць мяне (Зямковічы, Сен. р.).

НАСУСТРЭЧ — навстречу. Я пайду насустрэч бацьком (Баркова, Куз. р.).

НАСЬКІ — наш (свой). Ета наські чалавек (Пустынкі, Сен. р.).

НАСЬЦІЛКА, *ж.* — подстилка, Вельмі слабая насьцілка моху (Дзямідавічы, Чаш. р.).

НАСЬЦЯБАЦЬ, *дзс.*—настегать, побить. Каб ты яго добра насьцябала! (Оўсішча, Сен. р.).

НАСЯКАЦЬ, *дзс.*—1) нарубливать. Насякаць значкі на бёрнах (Лужасна, Куз. р.); 2) нарубливать в запас. Ён насякаіць на колькі год дроў (Высачаны, Выс. р.).

НАТАПІЦЬ, *дзс.* — настоять, сделать настойку. Натапіць сунічніку і піць (Б е ш а н к а в і ч ы, Беш. р.).

НАТРАПІЦЬ, *дзс.* — найти, попасть. Сабака натрапіў на сьлед зайца (Пятніцкая, Беш. р.).

НАТРУДЗІЦЬ, *дзс.* — переутомить работой. Натрудзіў нагу, што ні магу хадзіць (Лужасна, Куз. р.),

НАТУГА, *ж.* — н а п р я ж е н и е. Лянь, зь якой ён натугай цягніць (Лёзна, Лёз. р.).

НАТУРА, *ж.* — характер. У яго дрэнная натура (Л а г а в а я, Аз. р.).

НАТУРЛІВЫ—с норовом, капризный. Наш конь натурлівы (Пустынкі, Сен. р.).

НАТУРЫЦЦА, *дзс.* — к у р а ж и т ь с я. Ні натурся ты, а, калі просюць, ідзі (В ы г а р ы, Куз. р.).

НАЎГРУНЬ—бегом, навскачь. Ні наўгрунь, ні памалу (Копцевічы, Чаш. р.).

НАЎДАГОН—вдогонку. Наўдагон паехалі (Беліца, Сен. р.).

НАЎЛЕЧКА, *ж.* — наволочка. Надзень на падушку наўлечку (Якшы, Беш. р.).

НАЎМЕЦІ—на примете, в виду. У меня маецца наўмеці добры канёк (Ст. Беліца, Сен. р.).

НАЎМЫСЬЛЯ—нарочно. Яна ей казала наумысьлі (Сяркуці, Сен. р.).

НАЎПРОЦІ—напротив. Як мы былі у Масееве на йгрышчы, дык Паўла сідзеў як раз наўпроці мяне (Макеенкі, Аз. р.).

НАЎРАД—навряд. Наўрат ці удасца яму ў Віцемску (Лужасна, Куз. р.).

НАЎРЭЦЦА, *дзс.* — наткнуться, нарваться. Наўрэўся на свайго (Рыбчына, Сір. р.).

НАЎСКАПЫТА—навскачь. Я ехаў на кані наўскапыта (Оўсішча, Сен. р.).

НАЎСКАСА — наискось. Наўскаса пашла дарога ад сяла (Пятніцкая, Беш. р.).

НАЎСКАЧКА, НАЎСКАЧОК—навскачь, галопом. Конь як пабег наўскачка, дык я аб землю! (Казлоўка, Сен. р.). Начлежнікі паехалі наўскачок (Хацімшчына, Куз. р.).

НАЎСЬЦЯЖ — вдоль, в длину. Наўсьцяж Лужасьнянкі пабягім (Лужасна, Куз. р.).

НАЎЦЁКІ, НАЎЦЯКАЧА — наутек, бежать. Мы за сабакам, а заіц наўцёкі (М а к а р а в а, Віц. р.). Хлопцы наўцякача з дзярэўні (Іванск, Чаш. р.).

НАЎЧАНЫ—наученный. Наўчаны сабака ні палезіць (Лужасна, Куз. р.).

НАЎЧЫЦІСЯ, *дзс.*—научиться. Гусілік паслухаці і песенак наўчыцісі (Яноўшчына, Беш. р.).

НАХАБНЫ—нахальный. Етакага нахабнага чалавека я і ні відзіў (Лужасна, Куз. р.).

НАХІЛ, у, *м.* — уклон. Вада і пабегла па нахілу (Бешанкавічы, Беш. р.).

НАХІЛІЦЦА, *дзс.*—наклониться. Нахілісь да мяне я замоўлю пуд (Навасёлкі, Сен. р.).

НАХІЛІЦЬ, *дзс.* — наклонить. Нахілі галаву, а я пальлю (Мішкава, Куз. р.).

НАХІСТАЦЬ, *дзс.*—наполнить. Каб нахістаць гэты гарлач вінцом—не устаў бы (П у ш к а р ы, Сен. р.).

НАХОДЗІЦЬ, *дзс.* — находить. Гэта з Дзьвіны сюды находзіць (Альшанікі, Беш. р.).

НАХРАПАМ, НАХРАПНА — нахрапом, насильно, нахально. Ён адняў нахрапам (Л у б ' е в а, Аз. р.). Нахрапна лезіць (Выгары, Куз. р.).

НАЦІНА, *ж.* — ботва. Націна бальшая, а бульба — як гарох (Спасская, Сір. р.).

НАЦУМБІРЫЦЦА, *дзс.* — наесться до отвала. Во, мой конь нацумбіраўся сена! (Л о ў ж а, Сір. р.).

НАЦЬ, *вкл.*—обращение. Наць, Паланея, дай мне есьці (Запрудзьдзе, Сен. р.).

НАЦЯГАЦЬ, *дзс.* — натаскать. На што пакульля сюды нацягалі? (Лужасна, Куз. р.).

НАЦЯНЬКІ — напрямик. Нацянькі куды бліжэй, чым па бальшаку (Падданы, Сен. р.).

НАЧАТАК, у, *м.* — начало. Якей начатак, такей і канец (Мішкава, Куз. р.).

НАЧЭПЛІВАЦЬ, *дзс.* — нацепливать. Начэпліваіць на сябе ўсякую дрэнь (Лужасна, Куз. р.).

НАЧЭРПАЦЬ, *дзс.*—начерпать. Поўны боты начэрпаў вады (Сьвярдлы, Сен. р.).

НАЧЛЕГ, у, *м.* — ночное. Мы езьдзілі на начлех (Застадольле, Сен. р.).

НАЧНІЦА, *ж* —летучая мышь. Каля рэчкі сколькі лятае начніц! (Асінаўка, Сен. р ).

НАЧНІЦЫ, *ж.* — детская болезнь. У майго мальца мусіць начніцы: як прыдзіць ноч, дык крычыць на чым сьвет стаіць; каб ты, цётачка, папрабавала загаварыць (Вядрэнь, Чаш. р.).

НАЧОС, у, *м.*—расчес от зуда. Во які ў мяне начос бальшэй! (Лужасна, Куз. р ).

НАЧОЎКІ, *ж.* — корыто для стирки белья. Стала мыць плацьця, а начоўкі пацяклі (Ісачкава, Аз. р.). Пар. ночвы.

НАЧЫНЬНЕ, *н.*—инструменты. Бяры сваё начыньня, каб можна було там зрабіць скрыню (Капланы, Сен. р.).

НАЧЫРЫКАЦЦА, *дзс.* — поесть. Дзяўчына начырыкалася ды пашла гуляць (Лабачова, Беш. р,).

НАШАНЕЦ, а, *м.*—свой человек. Ні бойся: ета ўсё нашанцы (Лужасна, Куз. р.).

НАШАРМАКА — даром, напропалую. Любіць праехаць нашармака (Веляшковічы, Лёз. р.).

НАШАСТАЦЬ, *дзс.* — нарезать, нарубить. На тры пруцянкі лазы нашастаў (Лужасна, Куз. р.).

НАШЭЎКА, *ж.*—нашивка. На плячох былі нашэўкі (Дзямідавічы, Чаш. р.).

НАШКОДЗІЦЬ, *дзс.* — навредить. Яна вам тут нашкодзіць (Зямковічы, Сен. р.).

НАШПЭНЬЦЯ — вдребезги, в лоскутья. Кашуля разьляцелася на шпэньця (Пуцілава, Куз. р.).

НАШТО — зачем. Нашто ты яе дукуеш? (Прыстоі, Чаш. р.).

НАШУКАЦЦА, *дзс.*—наискаться. А гуляй, гуляй—нагуляісься, а прышоўшы дамоў нашукаісься (Запрудзьдзе, Сен. р.).

НАШЫВАЦЬ, *дзс.*—вышивать. Нашывала я платочак і ня знала каму даць (Запрудзьдзе, Сен. р.).

НАШЫТЫ — нашитый. На манкетах нашытыя карункі (Чарнагосьці, Беш. р.).

НАШЧА — натощак. Паўлюк паехаў нашча ў поле (Русінава, Сен. р.).

НАШЧЭНТ—в конец, окончательно. Чэрві зьелі бацьвіньне нашчэнт (Гарнова, Сен. р.).

НЕ—1) не. Не брашы як сабака (Зямковічы, Сен. р.); 2) нет. Не, я думаю трох хваціць (Мясаеды, Беш. р.).

НЕАДКУЛЬ—неоткуда. Неаткуль мне ўзяць грошы (Лужасна, Куз. р.).

НЕАХАЙНЫ—нечистоплотный. Неахайны ён чалавек—сам сібе ні ахаіць (Сьвярдлы, Беш. р.).

НЕБАЛЬШЭНЬКІ—маленький. Небальшэнькі гарлачык (Стаішча, Чаш. р.).

НЕБАРАК, і, а, *м.*—НЕБАРАКА, і, *агу*—бедняга. Ня плач, небарачак! (Вішкавічы, Чаш. р.). Ён, небарака і етага ня здоліў (Вейна, Сен. р.).

НЕВАД, а, *м.*—невод. Невадам на возеры рыбу лавілі (Аськершчына, Беш. р.).

НЕВУК, а, *м.*—неученый. Невука сёньні запрагаў (Лужасна, Куз. р.).

НЕВЯДОМЫ — неизвестный. Невядомы чалавек пашоў да іх (Раіны, Аз. р.).

НЕВЯЛІЧКІ--маленький. Невялічкі кавалак, але смашны (Чашнікі, Чаш. р.). Яго конік невялічкі (Пятніцкая, Беш. р.).

НЕДАКОС, у, *м.*—недокошенный луг. Недакос мой стравілі (Лужасна, Куз. р.).

НЕДАЛЁЧКА — недалеко. Завылі ваўкі зусім недалёчка (Пацкава, Сен. р.).

НЕДАЛЁКІ — близкий. Гэтат чалавек недалёкі (Лагавая, Аз. р.).

НЕДАЛІКАТНЫ — неделикатный, невежливый, необходительный. Такі ён недалікатны! (Мішкава, Куз. р.).

НЕДАЛУЖНЫ, НЕДАЛУГІ—хилый. Ён заусёды такі недалужны (Глебўск, Сен. р.). Яе дзеці дужа недалугія (Слабада, Чаш. р.).

НЕДАТЫКА, *аг.*—недотрога. Такая ўжо яна нідатыка, што пі патходзь (Валькі, Сур. р.).

НЕДАХВАТ, НЕДАХОП, у, *м.*—недостаток. У мяне бальшэй недахват сена (Мянюцева, Сен. р.). У іх недахоп ўсяго (Нов. Сяло, Беш. р.).

НЕЗАДАЧА, *ж.*—неудача. Незадача мне такая (Касачы, Лёз. р.).

НЕЗАМОЖНЫ—1) небогатый. Німа ў яго—нізаможны (Дубнікі, Сен. р.); 2) небогатый на силу. Ета кабылка незаможная, маласільная (Бяскатава, Гар. р.).

НЕЗНАЁМЫ—незнакомый. Незнаёмы ён мне (Кляшчыно, Беш. р.).

НЕЗНАРОКАМ—нечаянно. Ён яго ударыў незнарокам (Берасьні, Беш. р.).

НЕДЗЕ—1) негде. Ай, які ты Аўцюх шурокій, сеў дык і людзям недзе сесь (Масеева, Аз. р.); 2) где-то. Блакуняецца недзе па сьвету (Селядцова, Беш. р.).

НЕЙК—как-то. Ішоў ды нейк зьбіўся (Стралкі, Беш. р.).

НЕЙКІ – какой-то. Даў нейкіх кропель (Зямковічы, Сен. р.).

НЕЙЧЫ—чей-то. Нейчы сабака прыблудзіўся к нам (Калышкі, Лёз. р.).

НЕКАЛІ — некогда. Некалі з гэтым дзелам вазіцца (Прыстоі, Чаш. р.).

НЕКАЛІСЬ — когда-то. Некалісь я быў лепшым (Шарыпіна, Беш. р.).

НЕКАЛЬКІ—несколько. Ды некалькі нядзель мінула (Валькі, Сур. р.).

НЕКУДЫ — куда-то. Клявец некуды заваліўся (Доўгае, Беш. р.)

НЕЛЬГА — нельзя, невозможно. Нельга табе лгаць (Сяркуці, Сен. р.). Яму нельга паверыць, бо ўсёроўна ня спраўдзіць (Асінаўка, Сен. р.).

НЕЛЮДЗЬ, *аг.*—нелюдим. Нелюдзь нейкая, а ні чалавек (Калышкі, Лёз. р.).

НЕМА—громко, как немой человек или животное. Во, суседка нема крычыць (Лужасна, Куз. р.).

НЕМАРАЧНЫ — хилый, немощный. Немарачныя дзеці, худэі такія (Бараўляны, Куз. р.).

НЕМАЧ, НЕМАРАЧ, *ж.* — немощность. Каб цябе немач! (Купіна, Віц. р.). Ах каб цябе немарач узяла! (Лужасна, Куз. р.).

НЕНАЖЭРНЫ — ненасытный, прожорливый. Ненажэрны чалавек, ніколі не наясіся (Шаркі, Куз. р.).

НЕНАЛЕЖНЫ — ненадлежащий. За неналежнае дзела узяўся (Лужасна, Куз. р.).

НЕПАГАДЗЬ, *ж.* — непогодь. Ах, як надаела гэта непагаць! (Глебаўск, Сен. р.).

НЕПАДЗЕЛЬНЫ — неделимый. Гэты шнурок ужо ніпадзельным і застанецца (Вішняк, Лёз. р.).

НЕПАСЕДА, *аг.*— непоседа. Гэты непаседа апяць уехаў з Расна (Вейна, Сен. р.).

НЕПАНЁМІСТЫ — непонятливый. Які непанёмісты чалавек! (Прусаўкі, Аз. р.).

НЕПАПУЧ — не хуже, пуще. Баюсь, каб ня здарылася, непапуч, таго, як у мяне (Луб'ева, Аз. р.).

НЕПЕРАЛІЎКІ, *ж.*—безвыходное положение. Мне сягоньні былі такія неператіўкі, хоць прападзі (Стралкі, Беш. р.).

НЕПРАПЁКА, *аг.*—несмышленый, непроворный. Непрапека! куды лезеш? (Гарадок, Гар. р ).

НЕСАМАВІТЫ — несамостоятельный, неказистый. Несамавіты твой жаніх (Пятніцкая, Беш. р.).

НЕСІЛ, у, *м.* — бессилие. Несіл хапіў—ні магу мяшка падняць (Лужасна, Куз. р.).

НЕСЛУХ, а, *м.* — ослушник, непослушный. Мой брат страшны неслух (Мішкава, Куз. р.).

НЕСПАДЗЕЙНА—неожиданно. Неспадзейна памёр чалавек (Пятніцкая, Беш. р.).

НЕСТРЫВАЛЫ — неперевариваемый. Нестрывалае нешта зьеў (Падрэзы, Чаш. р.).

НЕСЬЦІСЯ, *дзс.*—1) мчаться. Во, наш конь нясецца! (Мамойкі, Беш. р.); 2) нестись (о курах). Мая чубатка даўно нісецца (Лёзна, Лёз. р.).

НЕТКА, *аг.*—бедняк. Ён у нашым сяле такі нетка, што не з чым у прут паехаць (Лужасна, Куз. р.).

НЕТУСНЫ — непривлекательный. Нетусная наша сяло (Латышы, Беш. р.).

НЕТУЦІ—нет. У мяне нетуці твайго піхцеля (Пагарэліца, Сір. р.).

НЕЎЗАБАВЕ—не задерживаясь, скоро. Неўзабаве ён вярнуўся (Гунчанкі, Сур. р.).

НЕЎЗАМЕТКІ — незаметно. Неўзаметкі схадзіла на сяло (Стаішча, Чаш. р.).

НЕЎЗДАЛЕКА, *аг.*—слабосильный. Вунацькі наш неўздалека пашоў (Дзямідавічы, Чаш. р ).

НЕЎЗНАЦЕЙКУ — нечаянно, неожиданно. Ён паехаў неўзнацейку (Семянцова, Беш. р.).

НЕЎКАВЫРНЫ—1) несговорчивый. Мой дзядзька неўкавырны—зь ім не дамовісься (Сянно, Сен. р.); 2) флегматик. Такая неўкавырная ўрадзілась дзевачка, хоць ты з ей плач (Глебаўск, Сен. р.).

НЕЎСПАДЗЕЎКІ — неожиданно. Неўспадзеўкі яны ўвашлі ў хату (Селядцова, Беш. р.).

НЕХАМЯЖЫНА, *аг.*—неряха. Ён, хто яго ведаіць, нейкая нехамяжына (Сьвярдлы, Беш. р.).

НЕХАЦАВЫ—неказистый. Гэты конь зусім нехацавы (Ст. Беліца, Сен. р.).

НЕХТА—кто-то. Нехта гамоніць на дварэ (Кузьміно, Сен. р.).

НЕЦІЛЬ, я, *м.* — еще не телившаяся корова. Неціль прапаў (Доўгае, Беш. р.).

НЕЦЯРПЛІВЫ—нетерпеливый. Які чалавек нецярплівы (Стаішча, Чаш. р.).

НЕЧАГА—нечего. Нечага тутацькі гаманіць (Адаменкі, Лёз. р.).

НЕЧАСЬ, *ж.* — нечесанное льняное волокно. Зрабі з нечасі

вялікую кудзельку (Сяркуці, Сен. р.).

**НЕЧЫВІЛЬ**, *ж.*—нечаянность, неожиданность чего-то. Во, нечывіль наваліласяǃ (Каверзіна, Меж. р.).

**НЕШПАР**, у, *м.*—вечерня. Як на нешпар пайду, тады зайдуся к вам (Стаішча, Чаш. р.).

**НЕШТА**—что-то. Нешта вочы ня сьвецюць (Купіна, Віц. р.).

**НЕЯК**—1) как-то. І мала пілі, а ногі неяк ня слухаюць (Глебаўск, Сен. р.); 2) никак. Тутацька неяк сесьці (Навасёлкі, Сен. р.).

**НЭ**, *вкл.*—но (понукание). Нэ, лысыǃ (Бікава, Сен. р.).

**НІБЫ, НІБЫТА**—будто. Нібы ён і ня бачыў, што сьвіньні ў гародзе (Вейна, Сен. р.). Нібыта чалавек прышоў (Бабінічы, Віц. р.).

**НІВА**, *ж.*—нива. Ужо ніва стала радзіць харошы хлеб (Лалыкі, Аз. р.).

**НІВОГЛІДЗЯ**—без оглядки. Як задалі яму страху, дык ён пабег нівоглідзя (Сьвядрлы, Беш. р.).

**НІВОДЗІН**—ни один. Ніводзін год ні було такей засухі (Суднікі, Куз. р.).

**НІЖЭЙ**—ниже. Ніжэй прабяжы—мо там (Стасева, Выс. р.). Ніжы трошку (Чараўкі, Сен. р.).

**НІЗ**, а, у, *м.*—низ, пол. Як узьлезе на цапкі, ды як уськіне коўш вады на печку, дык на нізе ня стрымаць (Ходцы, Сен. р.).

**НІЗАШТА**—ни за что. Кап я знаў, я-б нізашта ні пашоў (Косьцьева, Выс. р.).

**НІЗВАНЬНЯ**—нисколько. Нізваньні нікога ня слыхаць (Дрыкольле, Куз. р.).

**НІЗІНА**, *ж.*—низина, низменность. У нізіне стаяла вада (Гарывецк, Сен. р.).

**НІЗКА**, *ж.*—связка (нанизанная). Нізку гарнатак рассыпала (Пудаць, Сур. р.).

**НІДЗЕ**—нигде. Нідзе няма прытулу (Быкаўшчына, Беш. р.). Ня можна нійдзе вікі дапасьці (Азярэцк, Сен. р.).

**НІКАЦЬ**, *дзс.*—заглядывать. Так і нікаіць усюды (Доўгае, Беш. р.).

**НІКОЛІ**—никогда. Ён к нам ніколі ня ходзіць (Прусаўкі, Аз. р.).

**НІКУДЫШНЫ**—никудышный, негодный. Нікудышны твой сын (Чарнагосьці, Беш. р.).

**НІКЧЭМНЫ**—никчемный, неспособный. Яна маладзіца нікчэмная (Сянно, Сен р.).

**НІМА, НІМАШ, НІМАШЧЫ, НІМАШЫКА, НІМАШЫТКА**—нет. У мяне німа нічога (Стралкі, Беш. р.). Кепскі кірмаш калі ў кішэні німаш (Кавалёўка, Сен. р.). У нас німашчы вашэй маткі (Максімава, Куз. р.). Грошы німашыка (Лукашоўка, Беш. р.). Яй богу-ж, німашыткаǃ (Навікі, Віц. р.).

**НІНАЧЫ**—не иначе. Ніначы залатнік зрушыла (Пацкава, Сен. р.).

**НІТ**, а, у, *м.*—часть ткацкого станка из двух палочек и ниток, через которые продеваются нити основы перед бёрдам (гл.). Клаўдзя, зьбегай к Настулі і папрасі шырэйшы ніт (Макеенкі, Аз. р.).

**НІЎКЛАДУШКІ**, *ж.*—нежелание укладываться спать. Сяньні ніўкладушкі, а заўтра ніўстаюшкі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**НІЎСТАЮШКІ**, *ж.*—нежелание вставать. Сяньні ніўкладушкі,

а заўтра ніўстаюшкі (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**НІХАЦЯ** — нехотя, нечаянно. Я яго ўдарыў няхаця (Вайловічы, Сір. р.).

**НІХЛЮШЧАВІНА**, *аг.* — неповоротливый, нескладный. Стаў як ніхлюшчавіна (Луб'ева, Аз. р.).

**НІХТО** — никто. Ніхто яму ні дазволіў (Кузьміно, Сен. р.).

**НІЦАЯ ЛАЗА** — вербейник. Naumburgia thyrsiflora Keich. Ніцай лазы вецьце (Сураж, Сур. р.).

**НІЦІНІЦА, НІЧАНІЦА**, *ж.* — толстая нитка. Куліна сучыла ніцініцы для нітоў (Кокшына, Куз. р.). На добры ніт етыя нічаніцы дрэнныя (Вядрэнь, Чаш. р.).

**НІЦІХОТЫ**, *ж.* — неспокойство, волнение. На дзірэўні ніціхоты (Вішкавічы, Чаш. р.).

**НІЦЫ** — 1) скрытый. Каб цябе ніцая скула спаліла! (Купіна, Віц. р.); 2) плакучий, с отвисшими ветвями. У ніцых бяроз іх злавіў (Котава, Сур. р.).

**НІЧАГУСЕНЬКІ** — ровно ничего. У яго-ж нічагусенькі няма (Яноўшчына, Беш. р.).

**НІЧОГА** — ничего. Нічога ты мне ня зробіш (Навікі, Віц. р.).

**НІШЧЫМНІЦА, НІШЧЫМНІНА, НІШЧЫМШЧЫНА**, *ж.* — отсутствие жиров. Яны ўжо два месяцы церпяць нішчымніцу (Русінава, Сен. р.). Яны ядуць адну нішчымніну (Зямковічы, Сен. р.).

**НІШЧЫМНЫ** — постный. Цяпер нішчымная нядзеля (Косьцьева, Выс. р.).

**НІШТО** — ничто. Нішто яго ні супакоівае (Шаркі, Куз. р.).

**НІЯКІ** — никакой. З етай каровы няма ніякай карысьці (Громаць, Гар. р.).

**НОВІНКА**, *ж.* — свеже вытканный холст. Нада іці памачыць новінкі, а то яны высахлі (Брыцікі, Аз. р.).

**НОДАЦЬ**, *дзс.* — портить. Нодаіць усё, ні на што ні гледзючы (Лоўжа, Сір. р.).

**НОГДЫ, НОДЫ** — разве. Ногды ён ня верніца дамоў? (Кокшына, Куз. р.). Ноды ён прыйдзе? (Калышкі, Лёз. р.).

**НОДЫ** — когда, если. Ноды ён пойдзіць у валасьць — тады і мне нада іці (Мазалава, Куз. р.).

**НОЖНЫ**, *ж.* — вид ножниц (для стрижки овец). Ножнамі стрыжом авец (Пятніцкая, Беш. р.).

**НОР**, а, *м.* — ныряющая птичка. Учорах мы нара злавілі (Пышнікі, Сур. р.).

**НОРАСТ**, у, *м.* — метание икры. Ужо пачаўся нораст і ў нашай рэчцы (Жалуды, Куз. р.).

**НОРАТ**, у, *м.* — 1) вид рыболовной сети. Пад страхой вісіць норат (Запрудзьдзе, Куз. р.); 2) веревочная сетка брать сено в дорогу. Ідзі ўпіхні ў норат сена (Гарбузы, Сір. р.).

**НОСЬНІК**, а, *м.* — носовой платок. Падай носьніка (Берашоўцы, Беш. р.). Пар. насавічка, насоўка.

**НОЦА**, *вкл.* — нуте. Ноца ў поле (Ульянавічы, Сен. р.).

**НОЧВЫ**, *ж.* — бельевое корыто. Ночвы раськіпалася і не ў чым бяльлё мыць (Пудаць, Сур. р.). Пар. начоўкі.

**НУДА**, *ж.* — 1) тоска. Заела яго нуда (Шарыпіна, Беш. р.); 2) нужда. Мой знакомы жывець у бальшэй нудзе (П р ы с т о і, Чаш. р.).

**НУДНЫ** — 1) тоскливый. Ледзь пражыла нудны дзень (Выдрэя, Выс. р.); 2) хилый. Якей твой нудны хлопчык! (Д з я м і д а в і ч ы, Чаш. р.).

**НУДЗЕЦЬ, НУДЗІЦЦА,** *дзс.*—тосковать. Ён дужа стаў нудзець (Семянцова, Беш. р.). Перастань нудзіцца (Шчарбакі, Куз. р.).

**НУДЗІЦЬ,** *дзс.*—тошнить. Яго нудзіць ад гарэлкі (Бешанкавічы, Беш. р.).

**НУРА,** *ж.*—тоска. А ей! якая на мяне нура напала (Котава, Сур. р.).

**НУТРО,** *н.* — внутренности. Яму вынулі нутро (Стайкі, Выс. р.), Уся нутра баліць (Навасёлкі, Сен. р.).

**НЫРКА,** *ж.* — почка. У яго ныркі баляць (Гарасімава, Куз. р.).

**НЫРКАЦЬ,** *дзс.* — 1) нырять. Ныркнуў у ваду (Сьвярдлы, Беш. р.); 2) подсматривать. Нуркаіць з-за угла (Свярдлы, Беш. р.).

**НЫШПАРЫЦЬ,** *дзс.*—шнырять. Сабака нешта нышпарыць (Аськершчына, Беш. р.).

**НЮХАНКА,** *ж.*—нюхательный табак. У табакерцы яшчэ была нюханка (Падрэзы, Чаш. р.).

**НЮХАЎКА,** *ж.* — нос. Куды ня трэба, ня сунь нюхаўку (Шарыпіна, Беш. р.).

**НЮШОК,** а, *м.* — щепотка. Дай мне нюшок солі (Пясочак, Куз. р.).

**НЯ**—1) не. Дужа ня чванься (Доўгае, Беш. р. ); 2) разве. Ня‘ ты яе панясеш? (Касачы, Лёз. р.).

**НЯБОГА,** і, *аг.*—милый, приятель. Пазыч, нябога, грошы (Мядзелева, Куз. р.).

**НЯБОЖЧЫК,** а, *м.* — покойник. Нябошчык Купрэй гэтак часта казаў (Сялец, Чаш. р.).

**НЯВЕСТКА,** *ж.* — невестка. Сьвёкар ня хваліць нявестку (Кураеды, Беш. р.).

**НЯВІДАНІЦА,** *аг.* — невидаль. Адкуль ты ўзяўся, нявіданіца? Ты, мусіць, хочаш, каб табе ўсе кланялісь? (Ст. Беліца, Сен. р.).

**НЯВІДАЯ**—незаметно. Нявідая лецечка праходзіць (Заазер‘е, Сен. р.).

**НЯВІННЫ**—невиновный. Ігнат не вінават і Аўгіньня нявіннна (Ст. Беліца, Сен. р.).

**НЯВОЛЬНАЯ** — беременная. Нявольная многа працавала (Нов. Сяло, Беш. р.).

**НЯВЫВАЛАКА,** *аг.*—домосед, недосужий. Ён дык спрадвеку такі нявывалыка, яго й бацька быў такі (Глебаўск. Сен. р.).

**НЯВЫРАЗНА**—невыразительно, невнятно. Яе брат гаворыць нявыразна (Мішкава, Куз. р.).

**НЯГЕГЛЫ**—неказистый. Нейкі нягеглы Хадорын мужык (Пожынкі, Сен. р.).

**НЯГІДНЫ, НЯГІДНІК,** а, *м.*—негодник. Ён дужа нягідны чалавек, я б з ім аднаго часу ня жыла (Глебаўск, Сен. р.). Як бы збавіцца ад гэтага нягідніка: ня можна за ім жыць (Ст. Беліца, Сен. р.).

**НЯГО, НЯГО-Ж** — неужели. Дык няго гэта праўда? (Іканкі, Чаш. р.). Няго-ш ты ня бачыла? (Шалухі, Сен. р.).

**НЯГОДНЫ, НЯГОЖЫ**—негодный. Якая нягодная дзяўчына! (Забор‘е, Сен. р.). Нягожае семя на пасеў (Косьцьева, Выс. р.).

**НЯГОДНІЦА,** *ж.* — негодница. Ня руш тую нягодніцу, вазьмі мяне работніцу (Вейна, Сен. р.).

**НЯДБАЙЛА,** *аг.*—нестарательный, лентяй. Як жа мы з табой, нідбайла, жыць будзім? (Біклажа, Беш. р.).

**НЯДБАЛЫ, НЯДБАЛЬНЫ**—нерадивый. Нядбалы ты чалавек (Пятніцкая, Беш. р.). Мікіта зусім нядбальны (Дзямідавічы, Чаш. р.).

НЯЗБЫТНА — неосуществимо. Добра то добра, алі нязбытна (Шаркі, Куз. р.).

НЯЗГОРШЫ—не из худших, средний. Дарога нязгоршая (Пышнікі, Сур. р.).

НЯЗГРАБНЫ — нестройный. Наша дзяўчына нязграбная (Мамойкі, Беш. р.).

НЯЗДАТНЫ, НЯЗДОЛЬНЫ — неспособный. Няздатны іх маладзец (Валькі, Сур. р.). Няздольная, дачушка, ты да етага (Веляшковічы, Лёз. р.).

НЯЗМОГА, *ж.*—бессилие. Нязмога наша ета зробіць (Янавічы, Сур. р.).

НЯЗНАЧНЫ — незначительный. Ну, еты завоз сусім нязначны (Лужасна, Куз. р.).

НЯЗРУЧНА—не с руки, неудобно. Нясьці мех бульбы на левым плячэ нязручна (Сьвеча, Беш. р.).

НЯДЗЕЛЯ, *ж.* — неделя. Сем нядзель паста (Пустыр, Сір. р.).

НЯЛЁГКІ—тяжелый. Нялегкая ета работа (Лашнёва Выс. р.).

НЯЛОЎКА — неловко. Неяк нялоўка сядзець (Мігава, Куз. р.).

НЯЛЮБЫ—нелюбимый. Стала яна нялюбая (Оўсішча, Сен. р.).

НАЛЮДЗКІ — необщительный, нечеловеческий. Хто яго ведаіць, нейкі нялюдзкі (Шаркі, Куз. р.).

НЯМА, НЯМАШ, НЯМАШАКА, НЯМАШАТКІ, НЯМАШАЦЬКА—нет. Няма ў мяне грошы (Баравыя, Куз. р.). Я думала, што нямаш шпулькі (Оўсішча, Сен. р.). Нямашака ў мяне мукі (Беліца, Сен. р.). Нямашаткі ў нас патсітка (Сукрэмна, Сен. р.). Нямашацька дома дзядзькі (Стаішча, Чаш. р.).

НЯМОЖНА — нельзя. Разьвяло, няможна прайці (Селядцова, Беш. р.).

НЯМТУР, а, *м.* — немой, застенчивый. Ён такей нямтур, што ад яго слова не пачуеш (Баравыя, Куз. р.).

НЯМЫ—немой. Нямы ні гаворыць (Шыпы, Сен. р.).

НЯМЫКА, *ж.*—грязнуха. Ах, ты нямыка! (Чашнікі, Чаш. р.).

НЯПЭЎНЫ —ненадежный, неопределенный. Няпеўнае зярнё, каб ім сеіць (Стасева, Выс. р ).

НЯПРЫГОЖЫ — некрасивый. Ён няпрыгожы і я ня пайду за яго (Вейна, Сен. р.).

НЯПРЫТОМНЫ — бессознательный, невменяемый. Іван мармочыць, як няпрытомны (Оўсішча, Сен. р.).

НЯПРЫХІЛЬНЫ — несочувствующий. Ён няпрыхільны да цесьцявага хазяйства (Мішкава, Куз. р.)

НЯСМАЧНЫ—невкусный. Зварыла матка нясмашнае сьняданьне (Пышнікі, Сур. р.).

НЯСПОРНЫ—неуспешный, неспорный. Няспорная іх работа (Рудня, Гар. р.).

НЯ ТУТ КАЗАНА—не здесь говорено. Ён, ня тут казана, захвырэў на сухоты (Машчоны, Сен. р.).

НЯЎЖО — неужели. Няўжо-ш гэта праўда? (Пятніцкая, Беш. р.).

НЯЎЗДОЛЕЦЬ, *дзс.* — болеть. А мой Мікалай нешта няўздолііць (Аськершчына, Беш. р.).

НЯЎКОМ—1) недаром. Няўком я табе казаў (Сянно. Сен. р.); 2) неужели. Няўком ён прышоў к нам? (Цішкавіна, Сен. р.).

НЯЎМЕКА—, *ж.* — неумелый. Няўмека пячэць, калі з засеку цячэць (Бесьцьвена, Сен. р.).

НЯЎМІРУШЧЫ—бессмертный. Няўмірушчы маліц: колькі разоў ён ужо паміраў (Рыбчына, Сір. р.).

НЯЎМЫСЬЛЯ—ненарочно. Няўмысьлі зробіў шкоду (Веляшковічы, Лёз. р.).

НЯЎПРЫЦЯМКУ — невдомек. Яму гэта зусім няўпрыцямку (Селядцова, Беш. р.).

НЯЎРОКАМ — не сглаживая. Няўрокам казаўшы, у нас добра (Астроўна, Віц. р.).

НЯЎРЫМСЬЦІЦЦА, НЯЎРЫМСЬЦІЦЬ, *дзс.*—не успокоиться, не успокоить. Што ета ён ніяк няўрымсьціцца? (Рыбчына, Сір. р.). Няўрымсьціш ты, ня можаш пачакаць пакуль другія сабяруцца (Ст. Беліца, Сен. р.).

НЯЎХІСЬЦІ—не по сердцу. А што-ш, калі ён мне няўхісьці, дык я яму зразу адказала (Берашова, Сен. р.).

НЯХЛЮЙ, НЯЎХЛЮЙ, я *м.*—неряха. Во, нейкі няўхлюй! Сукрэмна, Сен. р.). Што ты ходзіш няхлюем? (Луб'ева, Аз. р.).

НЯХАЙ—пусть, пускай. Няхай конь ідзець у поле (Прусаўкі, Аз. р.). Ніхай ён прыдзець ка мне сёньні (Вейна, Сен. р.).

НЯХЛЮДА, *ж.*—неряха. Такая няхлюда дзяўчына (Нов. Сяло, Беш. р.).

НЯХОЛЬНЫ—неопрятный. Яна дужа няхольная баба (Канавала, Куз. р.).

НЯЦІКАВЫ — неинтересный. Няцікавы ён чалавек (Бесьцьвена, Сен. р.).

НЯЦЬЦЕ, *н.* — сообразительность, понятливость. Ніякага няцьця ў маладухі няма (Янавічы, Сур. р.).

НЯЦЯМКІ — несообразительный. Няцямкі ён чалавек (Кузьміно, Сен. р.).

НЯЧУТНА—неслышно. Нешта хадзяіна нячутна (Пустынкі, Сен. р.).

НЯЧЫСТЫ — грязный. Гідка браць з нячыстых рук (Селядцова, Беш. р.).

НЯЧЫСЬЦІК. а, *м.*—черт. Не хадзі позна, а то нячысьцік ухопіць (Навасёлкі, Сен. р.).

НЯШЧАСЬЦЕ, *н.*—несчастье, Ну, і няшчасьце спаткала мяне! (Пушкары, Сен. р.).

НЯШЧЫТНЫ—неплотный. Няшчытныя дзьвері: во й халодна (Рыбчына, Сір. р.).

# П.

ПА, *прм.*—по. Мы выпілі па адным келіху (Расна, Сен. р.). Ён усёгды бадзяецца па лесе (Унава, Лёз. р.).

ПААРАЦЬ, *дзс.*—вспахать. Я ўжо паараў (Навікі, Беш. р.).

ПААСОБКУ — в отдельности, отдельно. Звары паасобку, а потым зьлі (Альшанікі, Беш. р.).

ПАБАПАЛ — по обе стороны. Пабапал дарогі было жыта (Нов. Сяло, Беш. р.). Пар. абапал.

ПАБАЧЫЦЬ, *дзс.*—посмотреть. Пабач, якое сена родзіцца (Крывіна, Беш. р.).

ПАБАЯЦЦА, *дзс.*—побояться. Аўсей падыйшоў пад мядзьведзя, а біць пабаяўся (Лукашоўка, Беш. р.).

ПАБЕГАЦЦА, *дзс.* — иметь случку. Добра, калі карова пабегаіцца ўвосень: на ўсю зіму малака будзець (Ходцы, Сен. р.).

ПАБЕГЧЫ, *дзс.* — побежать. Куды дзеўкі пабеглі? (Пяцігарск, Беш. р.).

ПАБІЦЦА, *дзс.*—1) разбиться. Талерка пабілася (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) иметь случку. Наша кабыла пабілася ўжо (Задарожжа, Віц. р.); 3) удариться. Пабіўся аб вяршняк (Лужасна, Куз. р.).

ПАБІЦЬ, *дзс.*—1) разбить. Дзед пабіў латку (Вяжоўка, Чаш. р.); 2) побить, разрушить. Конь пабіў бабкі (Кураеды, Беш. р.).

ПАБОЙНЯ, *ж.*—долбня. Бяры пабойню, пайдзём біць дровы (Вароньκі, Сір. р.).

ПАБРАЦЦА, *дзс.*—1) жениться. Яны ўжо пабраліся (Глебаўск, Сен. р.); 2) взяться, оказаться. Уся хустка пабралася ў пляймы (Каралёва, Выс. р.).

ПАБЯЛЕЦЬ, *дзс.* — побелеть. Палажыла скуты ў лух, дык яны і пабялелі (Пожынкі, Сен. р.).

ПАБЯЦАЦЬ, *дзс.*—пообещать. Ён мне пабіцаў, але ня зьдзелаў тапарышча (Пожынкі, Сен. р.).

ПАВА, *ж.* — павлин. Pavo cristatus domesticus. Ходзіць, як пава (Лускінаполь, Віц. р.).

ПАВАГА, *ж.*—уважение. Дзеці з павагай падбеглі да яго (Чарнагосьці, Беш. р.).

ПАВАДКІ, *ж.*—половодье. Сёлета былі вялікія павадкі (Пустынкі, Сен. р.).

ПАВАДЫР, а, *м.*—вожатый. Ганка павадыром у сьляпога Йвана (Ноўка, Віц. р.).

ПАВАЖАЦЬ, *дзс.* — уважать. Бывала паважалі папоў (Гозьба, Меж. р.).

ПАВАДЗІЦЬ, *дзс.*—повредить, помешать. Ну і што я яму павадзіла, калі я к яму зайшла? (Даргейкі, Сен. р.).

ПАВАЛ, у, *м.*—бурелом. У нашым лясу ёсьць павал (Бабінічы, Віц. р.).

ПАВАЛАКА, *ж.* — плева. Лі таго берагу павалакаю ваду зацягнула (Даўганы, Меж. р.).

ПАВАЛАЧЫ, *дзс.* — потащить, потянуть. Па малаку і я ногі павалалу (Запрудзьдзе, Сен. р.). Узваліў на плечы мех, ды павалок (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАВАЛІЦЦА, *дзс.*—упасть, повалиться. Ён пываліўся на зямлю (Марцінкава, Куз. р.). Дрэва павалілася на дарогу (Пустынкі, Сен. р.).

ПАВАРАЖЫЦЬ, *дзс.*—поворожить. Дзяўчына любіць пываражыць (Кузьміно, Сен. р.).

ПАВАРОТКА, *ж.* — поворот, дорога в сторону. Лі тэй паваротκі аддыхнем (Якушы, Віц. р.).

ПАВЕЗЬЦІ, *дзс.*—повезти. Пувязьлі Тэклічку, пувязьлі—аж яе панчошкі апаўзьлі (Дрыкольле, Куз. р.).

ПАВЕРХ—сверху, над. Паверх лесу глядзя, жывець (Брыды, Меж. р.).

ПАВЕСІЦЬ, *дзс.* — повесить. Павесь гэты дрыліх на пліцень (Гуліна, Сен. р.). Павешай абразовік на абразы (Выгары, Куз. р.).

ПАВЕСМА, ПАВЕСЕМКА, *ж.*— горсть, связка. Дай мне павесемку бобу (Вербялі, Сір. р.).

ПАВЕТ, у, *м.*—уезд. Мы Сеньнінскага павету былі (Сахны, Сен. р.).

ПАВЕТКА, ПАВЕЦЬ, *ж.*—навес. Коні пастаў пад паветку (Аськершына, Беш. р.). Пастаў калёсы пат павець (Чарніца, Лёз. р.).

ПАВЕТРАЯ, *ж.* — поветрие. Сьвіньні дохнуть—на іх нейкая паветрая прышла (Ужляціна, Сір. р.).

ПАВІЛЁН, у, *м.*—занавес, полог. Калыска запята павілёнам (Доўгае, Беш. р.).

ПАВІЛІЦА, *ж.*—подмаренник. Galium palustre L. G. Aparine L. G Mollugo L. і інш. віды. Там павіліца кучкаю расьцець (Унава, Лёз. р.).

ПАВІНЕН — должен. Павінен быць дошч (Пятніцкая, Беш. р.). Квасоль на гэтай лясе павінна быць добрая (Чараўкі, Сен. р.). Ты-ш мне павінен грошы! (Рабохі, Аз. р.).

ПАВІХОРЫЦЬ, *дзс.* — взлохматить, завить. Яна павіхорыла валасы (Янавічы, Сур. р.).

ПАВОЗЬНІК, а, *м.* — подводчик. У нас мала павозьнікаў (Пустынкі, Сен. р.).

ПАВОЛІ—медленно. Паволі вы робіце (Кругляны, Віц. р.).

ПАВУК, а, *м.* — паук. Epeira diadema і інш. рады і віды. Павук уець павуціну (Жэрына, Чаш. р.).

ПАВУЦІНА, ПАВУЧЫНА, *ж.*—паутина. У кутку была павуціна (Дзямідавічы, Чаш. р.). Нада абмесьці павучыну (Пустынкі, Сен. р.).

ПАВЫЗВАЛЯЦЬ, *дзс.*—поосвобождать, освободить. Рашылі тады малотшыя старшых павызваляць (Лясьнікі, Сен. р.).

ПАВЫЛУПІЦЬ, *дзс*—выпучить. Што ты павылупіў зенкі? (Оўсішча, Сен. р.).

ПАВЫПЯЦЦА, *дзс.*—повыступить. Як дужа павыпіліся клубы (Ульлянавічы, Сен. р.).

ПАВЫРВАЦЬ, *дзс.*—повырвать. Ці павырвала табе вочы—браў ты мяне днём ды ня ноччу (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПАВЫШЭЦЬ, *дзс.*—стать выше. Павышэлі бярозкі, павышэлі (Сурміна, Аз. р).

ПАВЯЧЭРАЦЬ. *дзс.* — отужинать. Дзеці павячэралі (Мішкава, Куз. р.).

ПАГАДАЦЬ, *дзс.* — подумать, позаботиться. Вы век адзін па адным ні пагадаіця (Маркавічы, Куз. р.).

ПАГАДЗІЦЦА, *дзс.* — помириться. Яны ўжо пагадзіліся (Заазер'е, Сен. р.).

ПАГАДЗІЦЬ, *дзс.* — помирить. Я іх пагадзіла (Градкі, Сур. р.).

ПАГАЛІЦЦА, *дзс.*—позариться. Пагаліўся на такое сьмяцьцё! (Храпавічы, Куз. р.).

ПАГАЛІЦЦА, *дзс.*—побриться. Нада к сьвяту пагаліцца (Бабінічы, Віц. р.).

ПАГАМАНІЦЬ, *дзс.*—1) поговорить. У сьвята я зайшоў к Рыгору пагаманіць (Шарыпіна, Беш. р.); 2) покричать (в ссоре). Пагаманіла з хрэсьніцай за сыян (Кураеды, Беш. р.).

ПАГАНКА, *ж.* — 1) поганка. Agaricus Phalloides Fr. A. procerus Scop. і інш. ніядомыя грыбы. Етат грыб, дзетка, нельзя есь, ета паганка (Баравыя, Куз. р.); 2) неряха. Паганка ты, у цібе вечная грась усюды! (Навікі, Віц. р.).

ПАГАНЫ — поганный, негодный Які твой сынок паганы, што нікому няўступіць (Сянно, Сен. р).

ПАГАНЬНІК, а, *м.*—поганный, злой. Дарма што ён пыганьнік, а на яго так сама знайдзем управу (Азярэцк, Сен. р.).

ПАГАНЯЦЬ, *дзс.*—1) погонять, понукать. Паганяй каня (Белае, Віц. р.); 2) окучить. Паганяў сваю бульбу (Берашова, Сен р.).

ПАГАРКА, *ж.* — выгоревшее место в торфяном болоте. Усе пагаркі вадою заліты (Латышы, Беш р.). Пар. выгарка.

ПАГАР'Е, *н.* — большое пространство выгоревшего торфа. Гусі пашлі ў пагар'е (Русінава, Сен. р.).

ПАГАТОВЕ—тем более. Пагатове здароў, калі румян (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАГЛАДЗІЦЬ, *дзс.* — выутюжить. Паглаць мне, братка, штаны і хрэнч—у сваты паеду! (Ходцы, Сен. р.).

ПАГЛЯД, у, *м.* — взгляд. На паглят ён ні дужа харош (Ноўка, Віц. р.).

ПАГЛЯДНАЕ, *н.* — плата за осмотр. Плаці пагляднага, ча лезеш так? (Лужасна, Куз. р.).

ПАГЛЯДЗЕЦЬ, *дзс.* — посмотреть. Я пайду пагляджу ў вакно (Баркова, Куз. р.).

ПАГНАЦЬ, *дзс.*—погнать. Я паганю ў поле авечак (Пекары, Куз. р.).

ПАГОДКА, *ж.* — погодка, погода. Ну й паготка, хуць наса з хаты ня выторкавай (Пяцігарск, Беш. р.).

ПАГОНЯ, *ж.*—погоня. Чулі на сябе пагоню?(Яноўшчына, Беш. р.)

ПАГОРАК, а, *м.*—холм. З пагорку бяжала вада (Гарывецк, Сен. р.). Пагурак дужа красіў (Касковічы, Віц. р.).

ПАГОРШАЦЬ, *дзс.*—ухудшиться. Пагоршала жыта ў суш (Іванцова, Лёз. р.).

ПАГОРШЫЦЦА, *дзс.* — ухудшиться. Хвароба пагоршылась (Іванск, Чаш. р.).

ПАГРАЖАЦЬ, *дзс.*—угрожать. Я яму пагражаў кнутам (Пушкары, Сен. р.).

ПАГРАЗІЦЬ, *дзс.*—погрозить. Ян пагразіў яму кулаком (Вяжышча, Беш. р.).

ПАГРЭБАВАЦЬ, *дзс.* — побрезговать. Ні пагрэбавайця ўжо, садзіцеся, закусіця (Макарава, Віц. р.).

ПАГРОЗА — острастка. Пагрозы яго ні баюся, ні страшуся (Навінкі, Лёз. р.).

ПАГУКАЦЬ, *дзс.*—поговорить. Хадзі са мной пагукай троху (Лук'янова, Сен. р.).

ПАГУЛЯНКА, *ж.* — пирушка, вечеринка. Во, пагулянку ладзілі тады хлопцы! (Малькава, Лёз. р.).

ПАГУЛЯЦЬ, *дзс.* — поиграть. Пусьці, пусьці мамунька на вулку пагуляці (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАДАБАЦЦА, *дзс.*—нравиться. Ён мне падабаецца (Шыпы, Сен. р).

ПАДАБРАЦЬ, *дзс.*—подобрать. Ці ты падберыш хлом? (Сяркуці, Сен. р.).

ПАДАВАЛКА, *ж.*—шестик для подачи снопов. Цяпер пыдавалкай падавай (Зарэкі, Беш. р.).

ПАДАВІЦЦА, *дзс.*—подавиться. Каб ты падавіўся! (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАДАДОНЬНІК, а, *м.*—пронырa, хитрый человек постоянно все окольными путями выведывающий. Ну, і пыдадоньнік жа ты, ад цябе нічога не ўтаіш (Глебаўск, Сен. р.).

ПАДАКЕЛЬНІЦА, ПАДАКЕНКА, *ж.* — подоконник. Падакельніца згніла ўжо (Красьніца, Чаш. р.). Падакенка робіцца дубовая (Вішкавічы, Чаш. р.).

ПАДАЛЕШНІК, у, *м.* Копытень. Asarum europaeum L. А падалешніку тут і ня відаць! (Жэрына, Чаш. р.).

ПАДАЛІЦА, *ж.* — опадающие незрелые плоды. Падаліцы ня нада есьці (Буй, Лёз. р.).

ПАДАПЛЁКА, *ж.* — подкладка под мужской рубашкой. Без падаплёкі рубашкі ня крэпкі (Купіна, Віц. р.).

ПАДАРАЖЭЦЬ, *дзс.* — стать дороже. Лыкі падаражэлі (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАДАРОЖНІК, у, *м.*—спорыш, птичья гречиха. Polygonum aviculare L. Падарожнік лі дарог расьцець (Лужасна, Куз. р.).

ПАДАРОЖНЫ, а, *м.* — прохожий. Падарожны спрашываў дарогу (Суднікі, Куз. р).

ПАДАРУНАК, а, *м.*—подарок. Мне за ета далі падарунак (Баркова, Куз. р.).

ПАДАСІНАВІК, а, *м.*—красный гриб, осиновик. Boletus rutus Pers. А бальшэй падасінавік! (Касачы, Лёз. р.).

ПАДАТЛІВАСЬЦЬ, *ж.*—уступчивость. Падатлівасьць на самагон вялікая (Малькава, Лёз. р.).

ПАДАЎРЫВАЦЬ, ПАДАЎРЫЦЬ, *дзс.* — подплетать, подплесть. Аблінуй мне лыка—буду лапці падаўрываць (Гуліна, Сен. р.). Лапці сплецены, толькі нада падаўрыць увоем ці лыкамі (Сьвеча, Беш. р.).

ПАДАЦЬ, *дзс.* —кроме общего значения — метаться. Чаго падаіш, ні сядзеш? (Караніхі Лёз. р.).

ПАДБЕЛ, у, *м*, ПАДБЕЛА, ПАДБЕЛУХА,—*ж.*—мать и мачеха. Tussilago Farfara L. Падбел лі дому ўвідзім—ні нада далёка іці (Дворышча, Сір. р.). У нашым сені многа падбелухі (Глебаўск, Сен. р.). Падбела расьцець на пожні (Шыпы, Сен. р.).

ПАДБІВАЦЬ, *дзс.*—подколачивать. Нада падбіваць падноскі ў ботах (Лагавая, Аз. р.).

ПАДБОР, у, *м.*—каблук. У боці падбор скрывіўся (Заазер'е, Сен. р.).

ПАДБУХТОРВАЦЬ, *дзс.* — 1) подстрекать. Ён любіць каго падбухторваць (Шаркі, Куз. р.); 2) подбавлять. Мамка мне ў міску ўсё падбухторвае (Шаркі Куз. р.).

ПАДВАЛОКА, *ж.* — небольшая рыболовная сеть. Мы ў возеры ловім рыбу падвалокай (Астроўна, Віц. р.).

ПАДВАРОТНІЦА, *ж.* — подворотня (доска). Падваротніцу аткладзі, а тады ець (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАДВЕЙ, ю, *м.* — паралич. Яе хвароба — падвей (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАДВЕСЬЦІ, *дзс.* — подвести, обмануть. Ён мяне падвёў, узяў ды ня прыехаў (Русінава, Сен. р.).

ПАДВІРАК, а, у, *м.*—заостренная палочка, служащая для продевания лык, при плетении лаптей. У хазяйсьцьве і павірак нада (Чарніца, Лёз. р.).

ПАДВІРАНЫ — подплетенный. Падвіраны лапаць знасіўся ўжо (Вяжышча, Беш. р.).

ПАДВІРАЦЬ, *дзс.*—подплетать. Лапці падвіраюць сьпіцай (Бікложа, Беш. р).

ПАДВОЙНІК, а, *м.* — вторая рама в окне. Падвойнікі пастаўлены ў вокны (Вішанькі, Чаш. р ).

ПАДВОР'Е, *н.*—двор. Тут маё дзіцятка хадзіла—яна-ж маё падвор'е красіла (Сураж, Сур. р.).

ПАДВУЧВАЦЬ, *дзс.*—подстрекать. Стась усёгды падвучваіць іх лазіць у гарох (Стрыжава, Беш. р.).

ПАДВЯЧОРАК, у, *м.*—еда после обеда перед ужином. Падвячорак прынясеш на поле (Навікі, Віц. р.).

ПАДВЯЧОРКАВАЦЬ, *дзс.* — есть в промежуток между обедом и ужином. Я прынясу табе падвячорківаць у поле (Падлазьнікі, Куз. р.).

ПАДГАЛЁНІСТЫ—голенастый. Мая капуста вырасла дужа падгалёністая (Марцінкава, Куз. р.).

ПАДГАРНУЦЬ, *дзс.* — подгрести, подобрать. Падгарні рыдлёукай жыта. Падгарні хоць лахманы (Доўжа, Куз. р.).

ПАДГАРОДЗІЦА, *ж.*—подгородная деревня. Ну што ты хош,—падгародзіца! Нам трэба 20, а то ўсе 30 в. прайсьці, а ей рукой падаць (Доўжа, Куз. р.).

ПАДГЛЫБЦІЦЬ, *дзс.* —присвоить. Ён маіх трыццаць рублёў падглыпціў (Оўсішча, Сен. р.).

ПАДГРУНІЦЬ, *дзс.* — подзадорить. Чаму ты яго патгруніваеш? (Луб'ева, Аз. р.).

ПАДДАЦЬ, *дзс.* — 1) помочь поднять. Паддай мех на плечы (Скрыдлева, Віц. р.); 2) наддать, увеличить. Паддай духу мне (Пустынкі, Сен. р.); 3) навредить ворожбой. Яму хто-та паддаў (Вейна, Сен. р.).

ПАДДЫМКА, *ж.* — снежный занос. Узьнялася паддымка (Лоўжа, Сір. р.).

ПАДЭРВА, *ж.*—худая, надорванная женщина. Ходзіць, як падэрва якая, куды яна зьделалася? (Забор'е, Сен. р.).

ПАДЭШВА, *ж.*—подошва. Трэба купіць падэшвы (Цяпіна, Чаш. р.).

ПАДЖОГА, *ж.*—щепы и проч. для поджигания дров. Нясі паджогу і затапляй печу (Забалотнікі, Куз. р.).

ПАДЖУЛІЦЬ, *дзс.*—подогнуть. Сабака паджуліў хвост (Мазалава, Куз. р.).

ПАДЖЫГАНЬНІК, а, *м.*—озорник, зачинщик. Яго дзеці добрыя паджыганікі (Вяжышча, Беш. р.).

ПАДЗАГНЕТ, у, *м.*—ниша в кухонной печи под „загнетам" (гл.). У падзагнеце гладыш (Белякі, Віц. р.).

ПАДЗОЛА, *ж.* — подзолистая почва. У мяне на полі падзола (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАДЗОР, у, *м.*—пространство от верхнего оконного косяка до налегающего бревна. Заткні мохам падзор, а то стужа цянець (Ходцы, Сен. р.).

ПАДЗЕМНІЦА, *ж.* — изворотливая, находчивая женщина. Гэта падземніца ўсё відзіць (Вейна, Сен. р.).

ПАДКАВАНЫ, ПАДКУТЫ—подкованный. Сівый конік, чым падкован? (Пяцігарск, Беш. р.). Кабыла падкутая, хітрая (Лукашоўка, Беш. р.).

ПАДКАЛАТОВІЦЬ, *дзс.*—подговорить. Мяне падкалатовіл іці ў лес зьбіраць ягады (Выгары, Куз. р.).

ПАДКАЛОДНІЦА, *ж.* — змея, злая женщина Гэта падкалодніца зрабіла мне шкоду (Вейна, Сен. р.).

ПАДКАСАНЫ — подобранный, засученный. Пайшла з паткасанай спадніцай (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАДКАСАЦЬ, *дзс.* — подвернуть, засучить. Пастух паткасаў полы (Стаішча, Чаш. р.).

ПАДКІД, у, *м.*—падброшенная вещь. Я нашла паткід (Аскрысенец, Беш. р.).

ПАДКЛАДАЦЬ, *дзс.* — подкладывать. Дзеравяшачка вязе, касьцяшачка сячэ, мокры Максім падкладае (ложка, зубы, язык) (Шкалёўка, Беш. р.).

ПАДКНЯЖА, ПАДКНЯЖЫ, а, *м.*—шафер. Падканяжа павёз кынягіню к вянцу (Марцінэнкі, Аз. р.). На свадзьбі было много падкняжых (Рэчана, Куз. р.).

ПАДКРАСЬНІК, у, *м.* — пятое воскресенье пред Рождеством. На паткрасьніка я езьдзіла на места (Асінаўка, Беш. р.).

ПАДКРЭСЬЛІЦЬ, *дзс.*--подчеркнуць. Што—та падкрэсьліў у пpaшэньні (Паддуб'е, Сір. р.).

ПАДЛА, *ж.* — падаль. Падла ляжыць у полі (Ісачкава, Аз. р.). Во, падла, старая, жаніцца, задумаў! (Сьвярдлы, Беш. р.).

ПАДЛАБУНЬВАЦЦА, *дзс.*— подделываться. Рыгор як падлабуньваецца да Насты! (Жукаўшчына, Куз. р.).

ПАДЛАДЗІЦЬ, *дзс.* — исправить, починить. Шавец падладзіў боты (Чарнагосьці, Беш. р.).

ПАДЛЕШЧЫК, а, *м.*—небольшой лещ, 1—2 ф. весом. У Лучосе часам бяруцца падлешчыкі (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПАДЛЁТАК, а, *м.*—подросток. Гэта яшчо не паненка, а так—падлётак (Даргейкі, Сен. р.).

ПАДЛІВА, *ж.*—соус. Падліва несалоная (Загор'е, Куз. р.).

ПАДЛІЦАЦЬ, *дзс.*—обещать. Я падліцаю вярнуцца зарас (Навасёлкі, Сен. р.).

ПАДЛОГА, *ж.*—пол. На чыстай падлозі насарылі дзеці (Тухінка, Сен. р.).

ПАДЛУБАК, а, *м.*, ПАДЛУБКА, *ж.*—деревянная шина на санях. Нада будзіць пад сані падлубкі падлажыць, (Вяжышча, Беш. р.). Атарвалася падлубка (Бікложа, Беш. р.).

ПАДЛЮГА, *агі.* — подлец. Ах, ты падлюга! (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАДЛЯГАЦЬ, *дзс.* — 1) подчиняться. Яму на мосьці усі падлягаюць (Лоўжа, Сір. р.); 2) угодничать. Як яна падлягаіць яму! (Мікалаёва, Сір. р.).

ПАДЛЯМОЎКА, *ж.*—заложенный, подвернутый низ одежды для прочности. Падлямоўку можна і з другога—ні канешня гэта псуваць (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАДМАЗКА, *ж.*—кусочек жиру в тряпочке, которым смазывают сковороду. Падмазка ссорылася лі прыпека (Соржыца, Віц. р.).

ПАДМАНІЦЬ, *дзс.*—обмануть соблазнить. Ты-ж мяне маладу падманіў, красату маю падлавіў (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАДМОСЬНІЦА, *ж.*—мышь. Падмосьніца абгрызла бульбу (Лапы, Беш. р.).

ПАДМОСЬЦЕ, *н.* — подполье. Такое вялікае падмосьце, што хуць на пары ўезжай (Навасёлкі, Сен. р.).

ПАДМУРАК, ПАДМУРОВАК, а, *м.*, ПАДМУРОЎКА, *ж.*—каменный фундамент (иногда деревянные столбы под избой). Калі добра ўкапаеш падмурак, дык будынак будзе доўга стаяць (Ліпна, Сен. р.). Пад хату зробілі падмуровак (Бікложа, Беш. р.). Якая высокая падмуроўка! (Прусаўкі, Аз. р.).

ПАДМЫВАЦЬ, *дзс.*--подмывать. Яму так вот і не сядзіцца ў хаце, так яго й падмываіць, каб бегчы на вуліцу (Глебаўск, Сен. р.).

ПАДМЯШАЦЬ, *дзс.*—кроме общего значения--не много окучить. Вазьмі плуг і падмяшай бульбу (Вейна, Сен. р.).

ПАДНАДОЛАК, а, у, *м.*--полоска материи на внутренней стороне низа одежды. Прышывай да саяну паднадолак (Гунчанкі, Сур. р.). Многа на паднадольнік падвярнулі (Добрына, Віц. р.).

ПАДНАЎЛЯЦЬ, *дзс.* — обновлять. Паднаўляюць нашу царкву (Клінкі, Сір. р.).

ПАДНЕСЬЦІ, *дзс.* — поднести. Паднёс дулю пад насулю (Сянно, Сен. р.).

ПАДНЁМ, а, у, *м.* — чересседельник. Падвяжы там паднём (Вяжышча, Беш. р.).

ПАДНОЖКІ, аў, *м.*—полотно, материя, постилаемая под ноги венчающихся. Багатая баярка—глядзі, якія падношкі сьцеліць дарагія (Жукава, Лёз. р.).

ПАДНОЖНІК, а, *м.*—половик. Засьцялі падножнік у парогу (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАДНЯБЕНЬНЕ, *н.* — 1) нёбо. У міне баліць паднябеньня (Бікложа, Беш. р.); 2) свод в кухонной печи. Вывалілася паднябеньнне ў печы (Сянно, Сен. р).

ПАДНЯЦЦА, *дзс.*—кроме общего значения—установиться. Паднялася даражыня на бульбу (Глебаўск, Сен. р.).

ПАДОЙНІК, а, *м.*—подойник. Машка прынесла падойнік малака (Янавічы, Сур. р.).

ПАДОЛ, у, *м.*—1) подол. Дзяўчына падняла падол (Пачаевічы, Чаш. р.); 2) спуск к реке, где моют белье. На падале лайно забылася (Узнор, Гар. р,).

ПАДОНЬНЕ, *н.*—подонки, остатки. Даёш сунок тоя падоньня! (Лапатнікі, Беш. р.).

ПАДОСАК, а, *ж.* -- железная полоска под осью. Купілі падоскі і падлажылі пад вось (Сьвяча, Беш. р.).

ПАДПАЛ, у, *м.*—поджог. Гэта Янка падпал зрабіў (Пустынкі, Сен. р.).

ПАДПАЛАЦЕННАЯ КАЛОДА—вал в ткацком станке на который навивается полотно. Падпаценную калоду нада новыю (Вышадкі, Меж. р.).

ПАДПАЛІЦЬ, *дзс.* — поджечь. Нада падпаліць груды (Пустынкі, Сен. р.).

ПАДПАСАК, а, *м.*—подпасок, пастушок. Скаціну ўжо выгнаў патпасак (Лябёды, Куз. р.).

ПАДПАСКА, *ж.*- пояс, опояска. Ідзе мая патпаска—патперазацца хачу (Воласава, Віц. р.).

ПАДПАХА, *ж.* — подмышка. Вазьмі трошку поту з падпахі і абатры, каб ніхто ні зглазіў (Купіна, Віц. р.).

ПАДПЕРЦІСЯ, *дзс.* — подпереться. Стаіць Грыгор паміж гор, палкаю падпёршыся, шапкою пакрыўшыся (грыб) (Алексінічы, Сен. р.).

ПАДПЕЧАК, а, *м.*, ПАДПЕЧЧА, *н.* — пустое пространство под русской печью, куда зимой загоняют кур. Загані курей у падпечак (Сухарукава, Аз. р.). Дастань яйцо з падпечча (Русінава, Сен. р.).

ПАДПІРАЗКА, *ж.*—пояс из какой нибудь материи. Зьдзелай яму якую небудзь патпіразку (Рыбчына, Сір. р.).

ПАДПІРАЗАЦЦА, *дзс.* — подпоясаться. Табе трэба патпіразацца (Рэчана, Куз. р.).

ПАДПОР, у, *м.*—прилив, напор весенней воды. Два дні быў сільны патпор у нашай рэчкі (Палогі, Віц. р.).

ПАДПРАЖНАЯ КАЛОДА—вал в ткацком станке, на который навита «аснова» (гл.). Павярні падпражную калоду! (Вышадкі, Меж. р.).

ПАДПРУГА, *ж.*--подпруга, подбрюшник. Патцяні патпругу (Лагавая, Аз. р.).

ПАДРАБЛЯЦЬ, *дзс.* — подделывать. У горадзе часта падраб-

ляюць грошы, алі й пападаюцца (Сьляпцы, Гар. р.).

ПАДРАБЯЗНА — подробно. Я табе разкажу Марылька, а Ганнульке пыдрабязна (Абрэзкава, Сен. р.).

ПАДРАГАШНІК, а, *м.*—чехол, подкладка под ручки в сохе. Падрагашнік знасіўся (Ляхава, Віц. р.).

ПАДРАЎНАЦЬ, *дзс.* — подравнять. Падраўнай тыі канцы! (Краўцова, Гар. р.).

ПАДРАЦЦА, *дзс.* — порваться. Спадніца падралась (Мішкава, Куз. р.).

ПАДРАЦЬ, *дзс.*—порвать. Сабакі падралі хустку (Чарнагосьці, Беш. р.).

ПАДРЭЗ, а, *м.*—жеребец оставшийся с одним яйцом после кастрации. У нас, у сяле, ёсьць падрэз (Сураж, Сур. р.).

ПАДРУБ, у, *м.*—нижние бревна в постройке. Падруб новы дам і буду яшчэ жыць (Навікі, Віц. р.).

ПАДРЫХТАВАЦЬ, *дзс.* — приготовить. Трэба падрыхтаваць калёсы (Крывіна, Беш. р.).

ПАДСІНЬКА, *ж.* — бельевая синька. Ці брала ты патсіньку для бельля? (Пушкары, Сен. р.).

ПАДСІТАК, а, *м.*—сито. Прынесі ў хату патсітак (Пушкары, Сен. р.).

ПАДСКОК, у, *м.* — ходьба вприпрыжку. Новая навіна ў рот, здароў'е ў жывот, мядзьведжая сіла, каб у рот насіла, заеччы падскок, воўчы пагляд (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПАДСКОЧЫЦЬ, *дзс.*—подпрыгнуть. Як патскочыць к яму! (Селядцова, Беш. р.).

ПАДСКРОБЫШ, а, *м.*—последний хлеб, пирог. Садзі падскробыш у печ! (Сураж, Сур. р.).

ПАДСОБІЦЬ, *дзс.* — помочь. Сваяк патсобіў скасіць луг (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАДСОС, ПАДСОСАК, у, а, *м.*—сосун. Ладны падсосак (Шыпы, Сен. р.). Падсос у тэй кабылы бальшэй (Сянно, Сен. р.).

ПАДСТРЭШША, *н.*—место под краем крыши около здания. Дровы ў падстрэшша злажыў (Русінава, Сен. р.).

ПАДСТРУНІСТЫ—тонкі Падструністый конь (М а з а л а в а, Куз. р.).

ПАДСТУПАЦЦА, *дзс.*—подходить, приближаться. Падступайцеся рабяты, ды хватай! (Бор, Чаш. р.).

ПАДСУГЛУ — подряд. Косіць усё падсуглу (Луб'ева, Аз. р.).

ПАДСУНУЦЬ, *дзс.* — пододвинуть. Патсунь яму міску, бо абальлецца (Забор'е, Сен. р.).

ПАДСЫПАЦЬ, *дзс.*—подсыпать. Патсыпаць нада мукі (Суднікі, Куз. р.). Патсыпай болі (Лужасна, Куз. р.).

ПАДСЬВІНАК, а, *м.*—полугодовой поросенок. Нада зарэзаць падсьвінка (Дражна, Куз. р.).

ПАДСЬВІСНУЦЬ, *дзс.* — стащить, уворовать. У Янкі хто-та саху патсьвіснаў (С т р а л к і, Беш. р.).

ПАДСЬВІРЫЦЬ, *дзс.*—поднять, напр. сруб при помощи рычага. Падсьвірылі лазьню і паткацілі бярно (Пуцілава, Куз. р.).

ПАДСЬМЕЦІНЬНЕ, *н.*—пахтанье. Пасьля зьбіваньня масла астаецца патсьмеціньне (Хацімшчына, Куз. р.).

ПАДСЬЦЕРАГЧЫ, *дзс.* — подстеречь. Усё-такі я патсьцярох, хто прыхадзіў (Навікі, Віц. р.).

ПАДСЯБРЫЦЬ, *дзс.*—стащить. Хто мой складанчык падсябрыў? (Манулкі, Віц. р.).

ПАДСЯДЗЁЛАК, а, *м.*—седелка. Надзявай патсядзёлак (Мікалаёва, Куз. р.).

ПАДУБЕЦЬ, *дзс.* — окоченеть. Падубелі ногі ў ботах (Жэрына, Чаш. р.).

ПАДУЖАЦЬ, *дзс.* — осилить. Хто каго падужаў? (Шаркі, Куз. р.).

ПАДУЖЭЦЬ, *дзс.*—посильнеть. Троху падужэла, ляхчэй стала (Шаркі, Куз. р.).

ПАДУЗЫ, *ж.* — шлея. Зусім парваліся падузы (Копцевічы, Чаш. р.).

ПАДУСТА, *ж.*—подуст (рыба). Сягоньні добра бярэцца падуста (Падбярэзье, Віц. р.).

ПАДУШКА, *ж.*—кроме общего значения—часть телеги, к которой прикрепляется ось. У цялегі падушка зламалась (Сухарукава, Аз. р.).

ПАДХЛОП, у, *м.* — вероника длиннолистая. Veronica longifolia L. Выкапай корань падхлопу (Мушкуры, Віц. р.).

ПАДХОДЗІЦЬ, *дзс* —1) подходить. Параход ужо патходзіць к берагу (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) удовлетворять. Ета бярно мне не патходзіць (Узнор, Гар. р.); 3) подниматься в брожении. Хлеб у дзяжы патходзіць (Высачаны, Выс. р.).

ПАДЦЁЛАК, а, *м.*—годовалый теленок. Падцёлка нашага нет дома (Лускінаполь, Віц. р.).

ПАДЦІНАЦЬ, *дзс.*—жать, давить. У шубі рукаў падцінаіць (Стралкі, Беш. р.).

ПАДЦІРАХА, *ж.*—тряпка, служащая для вытирания. Ганка, куды ты закінула патціраху? (Халамер'е, Аз. р.).

ПАДЦЮКНУЦЬ, *дзс.* — подстрекнуть, науськать. Ета Іван патцюкнуў, кап набілі яго (Рыбчына, Сір. р.).

ПАЦЧАПЕХА, *ж.* — лучинная корзина. Вазьмі сена ў патчапеху (Мерзьлякі, Сір. р.).

ПАДЧАРЫЦА, *ж.*—падчерица. Патчарыца ня родная дачка—ні спадзявайся. (Стралкі, Беш. р.).

ПАДШЛЮБНЫ — подвенечный. Падшлюбны дрыліх схувала (Гунчанкі, Сур. р.).

ПАДШТАНІКІ, аў, *м.* — кальсоны. Цімох купіў сабе на падштанікі палатна (Г а р ы в е ц к, Сен. р.).

ПАДШЧОПЛЫ — худой. Які у цябе конь падшчоплы! (Вейна, Сен. р.).

ПАДШЫБНІК, а *м.*—шкворень. Падшыбнікам яе ўдырыў (Казьяны, Сір. р.).

ПАДШЫВАНЕЦ, а, *м.*—сорванец. Гані патшыванцаў етых (Сьвеча, Беш. р.).

ПАДЫЙМАЦЦА, *дзс.* — подниматься. Вада падыйміцца й дужа ш вялікая стане (Селядцова, Беш. р.)

ПАДЫЙЦІ, *дзс.*—подойти. Пуня падыйшла вадой (Д з я д ы, Сір. р.).

ПАДЫЛІЦЬ, *дзс.* — покрапать, еле попорошить. Дождждык чуцьчуць падыліў дарогу (Беліца, Сен р.).

ПАДЫСПАДАМ — снизу, под низом. Я ліжаў падыспадам, а ён на вярху (Макарава, Віц. р.).

ПАДЫХАНЬНЕ, *н.* — подыхание, умирание. Гэта ўжо, відаць, яго падыханьне (Луб'ева, Аз. р.).

ПАД'ЕСЬЦІ, *дзс.*—накушаться. Конь пад'еў (Альгова, Віц. р.).

ПАЁК, а, *м.*—1) корм животным. Налівай скарэй паёк парасятам (В я ж ы ш ч а, Беш. р.); 2) четверик. Два пайкі даў (Дзяды, Сір. р.).

ПАЖАВАЦЬ, *дзс.* — изжевать, попортить. Пажаваў мне бычок штаны (Оўсішча, Сен. р.).

ПАЖАНІЦЬ, *дзс.* — поженить, соединить. Пажані кажух са сьвітаю (Вішняк, Лёз. р.).

ПАЖЫВА, *ж.*—питание. Здабыць пажыву надабе (Пожынкі, Сен. р.).

ПАЖЫВІЦЦА, *дзс.*—попользоваться. Трэба каля яго пажывіцца (Іванск, Чаш. р.).

ПАЖЫЛКА, *ж.*—нитка, на которую наматывается «ніт» (гл.). Пажылку трэба крэпкую ссучыць (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАЖЫЛІНА, *ж.*—жердочка в амбаре, на которую вешают белье. Нясі ты, сынок, гэты пяхцель у клець і павесь у вуглу на пажыліну (Глебаўск, Сен. р.).

ПАЖЫЛЬЛЕ, *зб.* — жердочки, которыми прижимают солому к решетинам. Пажыльля на крышу прывёс (Бяскатава, Гар. р.).

ПАЖЫТНІК, у, *м.*—василистник. Thalictrum angustitolium Lacq. Пажытнік яшчо ні цьвіцеў (Мазалава, Куз. р.).

ПАЗАДКІ, ПАЗАДЗЬЗЕ, *н.* — худшее, легкое зерно, которое остается сзади во время веяния хлеба ручным способом. Каню далі пазадзьдзе (Павульле, Чаш. р.). Пазадкі каням пакінь (Унава, Лёз. р.).

ПАЗАЙЗДРОСЬЦІЦЬ, *дзс.* — позавидовать. Наш сасед пазайздросьціў нам, во і вышла так (Якшы, Беш. р.).

ПАЗАЛЕТАШНІ — позапрошлогодний. Позалеташні год — ураджайны (Іванск, Чаш. р.).

ПАЗАЛКІ, *ж.*—грязный щелок после мойки белья. У пазалках памый (Матушова, Лёз. р.).

ПАЗАМЫКАЦЬ, *дзс.* — замкнуть. Усе хаты пазамыкалі (Іванск, Чаш. р.).

ПАЗАЎГОЛЬЛЮ — за углами. Я часта віджу як ён стаіць пазаўгольлю (Селядцова, Беш. р.).

ПАЗАЎЧОРА—позавчера. Пазаўчора ета было (Застарыньне, Віц. р.).

ПАЗАЧЫНЯЦЬ, *дзс.*—позатворять. Пазачыняй бяжы усі дзьверы ў таку (Раманаўка, Сен. р.).

ПАЗБРАДЗІЦЬ, *дзс.* — чужое потрогать, стянуть. Ён-ткі любіць пазбрадзіць (Навікі, Віц. р.).

ПАЗВАЦЬ, *дзс.*—позвать. Чорт і з вамі, пайду я пазаву (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАЗДАРАВЕЦЬ, *дзс.* — выздоровець Яна ўжо паздаравела (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАЗЕМ, у, *м.* — суперфосфат. Пазему з капіраціву прывёз (Барсукі, Аз. р.).

ПАЗЕМКА, *ж.* — земляника. Паземкі пасьпелі (Навікі, Чаш. р.).

ПАЗІРАЦЬ, *дзс.* — смотреть. Люблю пазіраць на дзявіцу (Бараўляны, Куз. р.).

ПАЗЛАШЧОНЫ — позолоченный. Купіў міленькі цялегу з пазлашчонаю дугой (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАЗНАЦЬ, *дзс.*—узнать. Хоць авечка дурная але ваўка пазнае (Вярхоу‘е, Беш. р.).

ПАЗНОГАЦЬ, я, *м.* — ноготь. У людзей белыя пазнохці (Марцінкава, Куз. р.).

ПАЗОР, у, *м.* — вид, наружность. Пазор у яго дужа плахей —худы (Вярхоў‘е, Куз, р.).

ПАЗУХА, *ж.* — кроме общего значения—ниша в печке. Гаршок пастанавілі ў пазаху (Варашылы, Куз. р.).

ПАЗЫКА, *ж.*—долг. Цімох аддаў пазыку (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАЗЫЧАЦЬ, *дзс.*—отдолжать. Пазыч мне рублёў пяток? Пазычалі ўжо (Сялец, Чаш. р.).

ПАЗЬНІМАЦЬ, *дзс.* — поснимать. Пазьнімай бяльлё з плоту (Матушова, Лёз. р.).

ПАЗЬНІЦЦА, *дзс.* — опаздывать. Позьніцца ў млын, а по тым крычыць за чарод! (Лужасна, Куз. р.).

ПАЗЮКАЦЬ, *дзс.* — поговорить, побеседовать. Схадзіла-б на дзіреўню пазюкала-б с кім і дзень-ба прайшоў скарэй (Рыбчына, Сір. р.).

ПАЗЮРЫ, оў, *м.* — ногти. Абрэж пазюры на руках (Бабінічы, Віц. р.).

ПАЗЯБНУЦЬ, *дзс.*—озябнуть. Я сягоньні дужа пазяп (Стралкі, Беш. р.).

ПАЗЯВУШКІ, *ж.* — позевывание. Пазявушкі міне ўзялі (Селішча, Гар. р.).

ПАДЗЕЛ, у, *м.*—дележ. Пасьля падзелу во што мне асталося (Гунчанкі, Сур. р.).

ПАДЗЕЦЦА, *дзс.* — деваться. Куды яно падзелася? (Асінаўка, Віц. р.).

ПАДЗЁНЬНІК, а, *м.* — поденный рабочий. Даўней у двор хадзілі на падзёньнікі (Чашнікі, Чаш. р.).

ПАДЗЯКАВАЦЬ, *дзс.* — поблагодарить. Чаму-ж ты не падзякуеш? (Кузьміно, Сен. р.).

ПАЙСТКОМ — по порядку. Я табе пайстком раскажу, як гэта вышла (Русінава, Сен. р.).

ПАЙСТРЫЦЬ, *дзс.* — поострить. Пайстры мне ножык (Кузьміно, Сен. р.).

ПАК, у, *м.*—арендование коров. Ён даўно пак трымаіць (Крывіна, Беш. р.).

ПАКАВАЦЬ, *дзс.*—укладывать, увязывать. Ён на дварэ пакуець вазы (Лужасна, Куз. р.).

ПАКАЗАЛЬНІК, а, *м.* —часы. На сьцяне вісіць паказальнік (Янавічы, Сур. р.).

ПАКАЗЕЛІЦЬ, *дзс.* — вытаращить. Чаго вочы паказеліў? (Шарыпіна, Беш. р.).

ПАКАЛАЦІЦЬ, *дзс.* — выколотить. Пакалаці ты пачасьсе (Кураеды, Беш. р.)

ПАКАЛЕЦЬ, *дзс.* — озябнуть. Ногі пакалелі, во марос! (Падрэзы, Чаш. р.).

ПАКАЛЬЛЕ, *зб.*—палки. Во, пакальля накідалі! (Клімы, Віц. р.).

ПАКАРАЦЬ, *дзс.* — наказать. Няхай пакараіць яго бог (Пустынкі, Сен. р.).

ПАКАЦІЦЬ, *дзс.* — покотить, побежать. Я ўчора з горада прыйшла і ў Гарывецк пакаціла (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПАКАШТАВАЦЬ, *дзс.* - попробовать. Пакаштуй нашай стравы (Селядцова, Веш. р.).

ПАКАЯНЬНЕ, *н.*—покаяние, раскаяние. Пасьля сьмерці няма пакаяньня (Оўсішча, Сен. р.).

ПАКВАПІЦЦА, *дзс* — польститься. Паквапілась на багацьце (Стаішча, Чаш. р.).

ПАКІДАЦЬ, ПАКІНУЦЬ, *дзс.*—оставлять, оставить. На каго ш ты нас, татулька, пакідаіш? (Тапаркі, Куз р.). Пакінуў на завод цялушку (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАКЛАСЬЦІ, *дзс.*—положить. Пакладзі грошы (Чараўкі, Чаш. р.).

ПАКЛІКАЦЬ, *дзс.* — позвать. Паклікай мне бацьку (Прусаўкі, Аз. р.).

ПАКЛЯПАЦЬ, *дзс.* — отбить косу. Клявец у мяне ёсь, а бапкі няма—ня можна пакляпаць касы (Русінава, Сен. р.).

ПАКОЙ, ю, *м.*—чистая комната. Пазаві гасьця ў пакой (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАКОРНЫ — покорный, послушный. А за то люблю, жалею, што любоў пакорная (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАКОРЧЫЦЦА, *дзс.*—покоробиться, помяться. Пакорчылася сукенка (Стаішча, Чаш. р.).

ПАКОСТ, у, *м.*—гарное масло. Астаноўка за адным пакостам, кап ён быў—шкап быў-бы гатоў січас (Лазова, Сен. р.).

ПАКОТ, у, *м.* — мощеная дорога на болоте. Пакот паламаўся на дарозе (Зямковічы, Сен. р).

ПАКРАСЬЦІ, *дзс.*—поворовать. Злодзі пакраў коні (Гарывец, Сен. р.).

ПАКРОМАК, а, *м.*—горбушка хлеба. Цэлы пакромак зьеў (Мехавое, Аз. р). Пар. акромак.

ПАКРЫЛЬЛЕ, *н.*—крылья крыши. Пад пакрыльлем ластаўкі гняздо (Замшына, Віц. р.).

ПАКРЫЎДЗІЦЬ, *дзс.*—обидеть. Яго пакрыўдзілі суседавы дзеці (Залесьсе, Чаш. р.).

ПАКУДАВА—пока. Пакудава сьнег зьлезіць (Вяжышча, Беш. р.).

ПАКУЛЬ—1) пока, до какого времени. Наплакаліся дзевачкі пакуль ты жаніўся (Запрудзьдзе, Сен. р.); 2) до какого места. Пакуль табе гэта атрэзаць? (Прыстоі, Чаш. р.).

ПАКУЛЬЛЕ, *н.*, *зб.*—пакля. А наш-жа — дык зусім пакульле! (Лукашоўка, Беш. р.).

ПАКУНАЧАК, а, *м.*— узелок. Як надавалі яму усякіх пакуначкаў (Луб'ева, Аз. р.).

ПАКУПЛЯЦЬ, *дзс.*—покупить. Шынкі пакупляў сходна (Навікі, Беш. р.).

ПАКУСА, *ж.*—искушение. Ета яму бог пакусу паслаў, а ня жонку (Рыбчына, Сір. р.).

ПАКУТА, *ж.*—страдание, мучение. Зарадзіўся на пакуту (Русінава, Сен. р.).

ПАКУТАВАЦЬ, *дзс.*—мучиться, страдать. Пакутуець на сваім шматку (Узнор, Гар. р).

ПАЛ, у, *м.*—зной. У такей пал увесь дзень скот стаіць у хлеве (Максімава, Куз. р.).

ПАЛАВІЦЬ, *дзс.*—половить, наловить. Я на сваей дубіцы многа налавіў рыбкі (Чашнікі, Чаш. р.).

ПАЛАВЫ—половинчатый хлеб, в котором половина ржаной муки. Палавэй хлеб ядзём. (Машканы, Віц. р.).

ПАЛАДЗІЦЬ, *дзс.* — поладить. Ня ведаю, як ён з ім паладзіў (Доўжа, Куз. р.).

ПАЛАНКІ, *ж.*—маленькіе «ночвы» (гл.) для очистки крупы или другого зерна от пыли. Прынясі паланкі — крупы папалаць (Спасская, Сір. р.).

ПАЛАСКАЦЬ, *дзс.* — полоскать. У рэчкі паласкала бялізну (Медшыцы, Чаш. р.).

ПАЛАСУНКІ аў, *м.* — лакомства. Любіць паласункі (Дарагакупава, Віц. р.).

ПАЛАТНО, *н.*—кроме общего значения — коса в ширину. Палатно ў етай касе шырокае, добрае (Бабінавічы, Выс. р.).

ПАЛАЦ, а, *м* — дворец. У пана Славінскага быў мураваны палац (Русінава, Сен. р.).

ПАЛАЦІ, *ж.*—палаты. Дунька сьпіць на палацях (Княжыца, Куз. р.).

ПАЛАЦЬ, *дзс.*—1) пылать. Дровы палаюць (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) провеивать. Вунацькі палаіць семя (Лёзна, Лёз. р.).

**ПАЛАШЧЫЦЦА**, *дзс.* — помириться. Мікола з Апанасам палашчылісь і цяпер жывуць дружна (Вейна, Сен. р.).

**ПАЛАЯЦЬ**, *дзс.*—поругать. Сумысьлі зайшоў п а л а я ц ь цябе (Старына, Беш. р.).

**ПАЛЕНІК**, а, у, *м.* — толстый блин. Я сяньня пекла паленікі (Кляшчыно, Беш. р.).

**ПАЛЕПШАЦЬ**, *дзс.*—улучшиться. Наш хворы ўжо палепшаў (Глебаўск, Сен. р.).

**ПАЛЕЦ**, а, *м.*—кроме общего значения—рукоятка деревянной части косы для правой руки. Палец у касаўі хістаецца (Панізоўе, Меж. р.).

**ПАЛЕШНЯ**, *ж.*—охота. А маіж дзівяры сы палешні ідуць, сы палешні ідуць—па куніцы нясуць (Сураж, Сур. р.).

**ПАЛІВА**, *ж.* — глазированная посуда кустарного производства. Ён таргуе палівай (Копцевічы, Чаш. р.).

**ПАЛІВАНЫ** — глазированный. Гляк паліваны быў, праз гэта й бядую, што разьбіўся (Доўжа, Куз. р.).

**ПАЛІВАЦЬ**, *дзс.*—кроме общего значения—глазировать. Паліваіць гаршкі вунацькі (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ПАЛІВАШКА**, *ж.*—лейка. Палівашка стаіць у баразьне (Лук'янова, Сен. р.).

**ПАЛІК**, а, *м.* — 1) подмышечная часть рубахи в форме ромба. Палік бальшэй уставіла (Гнілава, Меж. р.); 2) кол, столбик на меже. Хто палік вырваў? (Якушы, Віц. р.).

**ПАЛІКІ**, оў, *м.* — вытканные наплечники в женских рубахах. Я буду ткаць пылікі для сваіх сарочак (Бабінічы, Віц. р.).

**ПАЛІТО**, *н.*—пальто. Мне сшылі паліто (Пушкары, Сен. р.).

**ПАЛІТЫКА**, *ж.*—кроме общего значения—вежливость, уменье обращаться с людьми. О, ён чалавек з палітыкай! (Стар, Лёз. р.).

**ПАЛІЦ**, а, *м.* — палец. Лодыр ён, паліц аб паліц ні ўдырыць (Аськершчына, Беш. р.).

**ПАЛІЦА**, *ж.*—полка. Пастаўлю крупы на паліцы—ня ўмеець кашы зварыці (Сураж, Сур. р.).

**ПАЛІЦЬ**, *дзс.* — жечь, топить. Пачалі паліць груды (Пустынкі, Сен. р.). Пара паліць цяпло (Сьвярдлы, Беш. р.). Ужо пара паліць печь (Ісачкава, Аз. р.).

**ПАЛІЧЫЦЬ**, *дзс.* — посчитать. Паліч, колькі тутака будзіць (Дражна, Куз. р.).

**ПАЛОВА**, *ж.* — половина. Я ужо на палову току лесу купіў (Астроўна, Віц. р.).

**ПАЛОК**, а, *м.*—полок (в бане). У лазьні заваліўся палок (Стралкі, Беш. р.).

**ПАЛОНІК**, а, *м.* — 1) разливная ложка. Улей мне палойнік крупені (Пустынкі, Сен. р.); 2) головастик. У сажалкі плавалі палойнікі (Варашылы, Куз. р.) У нашым возеры шмат палонікаў (Сянно, Сен. р.).

**ПАЛОСА**, *ж.* — полоса, нива. Нашы палосы цягнуцца дагэтуль (Вейна, Сен. р.).

**ПАЛОСЬСЕ**, *зб.*—лыки. У нашым лесе калісь было много палосься (Асінаўка, Сен. р.).

**ПАЛОТНІШЧА**, *н.* — полотнище. Пашьла яму сарочку, нісколько ні зрызаючы — уваўсё палотнішча (Глебаўск, Сен. р.).

**ПАЛОЦЬЦЯ**, *ж.* — работница, которая полет. Прыйшлі палоцьці (Баяршчына, Сен. р.).

**ПАЛОЦЬ**, *дзс.* — полоть. Бабы полюць лехі (Зямковічы, Сен. р.).

ПАЛУДНАВАЦЬ, *дзс.*—есть в полдень. Ужо пара палуднаваць (Гунчанкі, Сур. р.).

ПАЛУДЗЕНЬ, ю, *м*—обед. Ужо на палудзень пара! (Санькі, Беш. р.). Пар. полудзень.

ПАЛУСЬВІТКА, *ж.*—вид поддевки. Палусьвітку новыю надзела (Машканы, Віц. р.).

ПАЛУШКА, *ж.*—полушка. За морам цялушка палушка (Яноўшчына, Беш. р ).

ПАЛЧЭЎЕ, *н. зб.*—палки. Хто-й-та такей ныкідаў палчэўя у рэчку (Маркавічы, Куз. р.).

ПАЛЫН, у, *м.*—полынь. Artemisia Absinthium L. Горкі, як палын (Казадоева, Меж. р.).

ПАЛЫСЕЦЬ, *дзс.* — стать лысым. Палысеў, пастарэў ён (Жукава, Аз. р.).

ПАЛЬГУВАЦЬ, *дзс.*—требовать случки. Сьвіньня ваша пальгуіць (Вярэча, Меж. р.).

ПАЛЬЦІНА, *ж.*—пола в пальто. Пуцікі цякуць з пальціны (Путрына, Беш. р.).

ПАЛЬЧАТКА, *ж.* — перчатка. Залоўка ссорыла пальчатку (Белькава, Беш. р.).

ПАЛЬЧЫК, а, *м.* — кроме общего значения—маленькая птичка сизого цвета, водящаяся в зарослях. Вунацькі пальчык лётаіць (Александрова, Гар. р.).

ПАЛЮБОЎНІК, а, *м.*—любовник. Ета дзяўчына мела палюбоўніка (Мішкава, Куз. р.).

ПАЛЮДЗКУ — по-людски. Ды сідзіжа палюдзку (Сянно, Сен. р.).

ПАЛЯ, *ж.*—свая. Палі забіваюць на масту (Чашнікі, Чаш. р.).

ПАЛЯВАНЬНЕ, *н.* — охота. Пайдзем на паляваньне (Мікалаёва, Куз. р.).

ПАЛЯВАЦЦА, *дзс.*—охотиться. Палюецца праз увесь дзень (Летцы, Куз. р.).

ПАЛЯВАЦЬ, *дзс.*—1) охотиться. Пашоў паляваць (Дубнікі, Сен. р.); 2) требовать случки. Наша кабыла палюець (Семянцова, Беш. р.).

ПАЛЯВАЯ ПЯТРУШКА — хохлатка.—Corydalis solida Sm. Палявой пятрушкі тута ня відаць (Сяло, Меж. р.).

ПАЛЯВАЯ РОЖА — мальва. Malva Alcea L. Ні люблю паху палявой рожы (Матушова, Лёз. р.).

ПАЛЯГЧЭЦЬ, *дзс.*—стать легче. Цяпер жыць троху палягчэла (Чашнікі, Чаш. р.).

ПАЛЯГЧЫЦЦА, *дзс.* — облегчиться, раздеться. Палягчыціся трошку (Доўгае, Беш. р.).

ПАЛЯДАК, а, у, *м.*—поле первый раз вспаханное после снятия леса. У палятках заўсёды добры хлеб родзіць (Пацкава, Сен. р.). Коні твае ходзяць на Зьмітраковым палятку (Глебаўск, Сен. р.).

ПАЛЯНІЦА, ПАЛЯНІЧКА, *ж.*—пресная лепешка. Узяў на сьняданьне паляніцу (Сялец, Чаш. р.). Напякла палянічак на сьняданьне (Медзьвецк, Чаш. р.).

ПАЛЯРЖАВАНЫ — парализованный. Паляржуваная нага йсьці ня можа (Беліца, Беш. р.).

ПАЛЯРУШ, а, у, *м.*—паралич. Паляруш рукі й ногі адабраў (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАЛЯРЫНА, *ж.*—пелерина. Я буду шыць сабе кофту с палярынай (Пожынкі, Сен. р.).

ПАЛЯШЫЦЬ, *дзс.* — отметить где ложатся зерна при посеве. Ідзі, Ванька, мне паляшы нада расьсеяць ячмень (Хацімшчына, Куз. р.).

ПАМАГЧЫ, *дзс.*—помочь. Патурбуйцеся мне памахчы (Кузьміно, Сен. р.).

ПАМАКІ, оў, *м.*—груз, который накладывается на лен или пеньку при мочке. Прывязі папамакоў лён націснуць (Спасская, Сір. р.).

ПАМАНІЦЬ, *дзс.*—позвать. Памані сабаку (Оўсішча, Сен. р.).

ПАМАЎЗЬЛІВЫ — вороватый. Памаўзьлівы кот зьлізаў вяршынкі (Кураеды, Беш. р.).

ПАМАЦАЦЬ, *дзс.* — пощупать, ощупать. Ён памацаў гэту рэч (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАМАЦНЕЦЬ, *дзс.* — стать сильнее, крепче. Памацнела наша самагонка (Глебаўск, Сен. р.).

ПАМЕЛЬНІК, у, *м.* — угол у печки куда сметают сор и ставят: ухват, кочергу и проч. У памельнік пастаў (Сухарукова, Аз. р.).

ПАМЕНШАЦЬ, *дзс.* — уменьшиться. Астыла шына, дык і паменшала (Жукава, Аз. р.).

ПАМЕРЦІ, *дзс.* — умереть. Ці чуў—памёр Апанас? (Вярхоўе, Беш. р.) Еш пакуль жывеш, а як памрэш, дык і колам не ўвапрэш (Казьяны, Сір. р.).

ПАМЁТ, у, *м.* — пустующая земля — залежь. Яны паехалі араць памёт (Павульле, Чаш. р.). Пайдзем на памёт гресь сена (Верацейка, Куз. р.).

ПАМЖА, *ж.*—напасть. Памжа яго ведае! (Стралкі, Беш. р.)

ПАМІЖ—между. Яны жывуць паміж сабой у хаўрусі (Селядцова, Беш. р.).

ПАМІНКІ, *ж.*—поминки. Скора кончыцца год, як памерла матка, нада устроіць памінкі (Лужасна, Куз. р.).

ПАМІРАЦЬ, *дзс.*—умирать. Паміраць сабраўся, ды няма дошчак на думаўё (Сухарукава, Аз. р.).

ПАМОСТ, у, *м.*—пол. Памост ужо гразный (Сташча, Чаш. р.). Пар. мост.

ПАМОШНІК, у, *м.*—василистник узкокистный. Thalictrum angustifolium Jacq. У тваіх зёлках памошніку німашаткі (Касачы, Лёз. р.).

ПАМЫЛІЦЦА, *дзс.*—ошибиться. Я сёньня памыліўся ды ўзараў суседні кавалак зямлі (Пожынкі, Сен. р.).

ПАМЫЛКА, *ж.*—ошибка. Памылкі мяне дужа любляць (Шаркі, Куз. р.).

ПАМЫІ, *н.*—помои. Вылі памыі на двор (Чашнікі, Чаш. р.).

ПАМЫЙНІЦА, *ж.*—помойница. Вылі у памыйніцу (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАМЫТЫ — вымытый. Я надзеў памытую сарочку (Альшанікі, Беш. р.).

ПАМЯНЯЦЦА, *дзс.*—поменяться. Паміняліся цыганы на коній (Лалыкі, Аз. р.).

ПАМЯНЯЦЬ, *дзс* — обменять, обменить. Паміняў на канька (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАМЯРКАВАЦЬ, *дзс.* — обсудить, поразмыслить. Аб гэтым я яшчэ памяркую (Сураж, Сур. р.).

ПАМЯТАЦЬ, *дзс.* — помнить. Глядзі, памятай пра грошы (Лоўжа, Сір. р.).

ПАМЯТНІК, а, *м.*—памятник. Во, у Бачэйкаві быў памятнік! (Аськершчына, Беш. р.).

ПАМЯШКАНЬНЕ, *н.*—помещение. Трэба атрыманціраваць наша памяшканьне (Сяркуці, Сен. р.).

ПАНАВАЦЬ, *дзс.* — жить по барски. Ня тужы, мая мілая, за мной будзеш панаваць (Сукрэмна, Сен. р.).

**ПАНАЖЫ**, оў, *м.* — педали в ткацком станке. Станавіся нагамі на панажы (Гунчанкі, Сур. р.).

**ПАНАЛЕСЬСЕ**, *н.*—опушка леса. Ходзіць тым паналесьсем да іх (Доўгае, Беш. р.).

**ПАНАКРЫЦЬ**, *дзс.* — накрыть. Сталы скаціркамі панакрыты (Яноўшчына, Беш. р.).

**ПАНАРАВІЦЬ**, *дзс.* — подождать Панараві матку, ня еш (Стаішча, Чаш. р.).

**ПАНАРАД**, а, *м.*—ящик простой телеги. Панарат стоіць тры рублі (Пятніцкая, Беш. р.).

**ПАНАРОЎКА**, *ж.* — повадка. Такая ў яго панароўка (Александрова, Гар. р.).

**ПАНАФІДА**, *ж.* — панихида. Поп адправіў панафіду (Сукрэмна, Сен. р.).

**ПАНЕНКА**, *ж.* — 1) барышня. Не дзяўчына, а паненка ты (Пятніцкая, Беш. р.); 2) кукла. Дзеці гуляюць у паненкі (Ноўка, Віц. р.).

**ПАНІКАЦЬ**, *дзс.* — приседать. Пчала ляціць, панікаючы (Стрэлка, Беш. р.).

**ПАНІКНІЦА**, *ж.*—гравилат ручейный. Geum rivala L. А панікніцы, дзеці, чаму ня прынесьлі яму? (Кукава, Меж. р.).

**ПАНІЧ, ПАНІЧОК**, а, *м.*—молодой барин. Паніч добры быў, а аканомка дужа злая (Любашкова, Выс. р.).

**ПАНТАЛЫК**, у, *м.* — толк. Я зьбілася с панталыку (Даргейкі, Сен. р.).

**ПАНТОПЛІ**, *ж.* — туфли. Надзень пантоплі, а боты хай высахнуць (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ПАНУРА**—угрюмо. Ых, панура, глядзіць! (Беліца, Сен. р.).

**ПАНЦАК**, у, *м.* — ячменная крупа. Сягодня я троху зробіла панцаку (Вяжышча, Беш. р.).

**ПАНЧОХА, ПАНЧОШЫНА**, *ж.* —чулок. Я вяжу панчоху (Барок, Аз. р.). Якая прыгожая панчошына! (Любічы, Беш. р.).

**ПАНШЧЫНА**, *ж.* — барщина, крепостное право. Мінулася паньшчына. (Пушкары, Сен. р.).

**ПАНЯ**, *ж.*—барыня. Што ты ў міне паня? (Навікі, Віц. р.).

**ПАНЯСЬЦІ**, *дзс.*—понести. Нябошчыка панясьлі хуваць (Кураеды, Беш. р.).

**ПАПА**, *ж.* — (детское) хлеб. Тата, дай мне папы! (Глебаўск, Сен. р.).

**ПАПАР**, а, *м.* — пар, паровое поле. Трэцьця поля кідаюць пат папар (Сухарукава, Аз. р.).

**ПАПАРАЦЬ**, *ж.*—папоротник. (Рады: Polysticum, Asplenium, Struthiopteris, Pteridium і інш. з сям. Polypodiaceae). У лесе расьцець папараць (Унава, Лёз. р.).

**ПАПАРВАЦЬ**, *дзс.*—порвать. Я са сьмеху, з дураты, папарвала жываты (Сукрэмна, Сен. р.).

**ПАПАСКА**, *ж.* — кормежка, остановка в дороге. Тры папаскі зробіў пакуль даехаў (Гарадок, Гар. р.).

**ПАПАСЬЦІ**, *дзс.*—попасть. Карась папаў толькі адзін (Альшанікі, Беш. р.).

**ПАПАХАЦЬ**, *дзс.* — замести. Васа, папашы хату! (Астроўна, Віц р.).

**ПАПАЦЁМКУ**—впотьмах. Папацёмку яна прыйшла (Летцы, Куз. р).

**ПАПАЧЫК**, а, *м.* — педаль в ткацком станке. Папачыкі атарваліся (Вяжышча. Беш. р.).

**ПАПЕРА**, *ж.* — бумага. А йе лічка, як брусьнічка, а йе цела як папера (Сураж, Сур. р.).

**ПАПЕРЦІСЯ**, *дзс.*—побежать. Куды паперліся малыя? (Горкі, Аз. р.).

ПАПЭЦКАЦЬ, *дзс.* — испачкать. Дзе гэта ты так рукі папэцкаў? (Асінаўка, Беш. р.).

ПАПІКІШЧА, *н.* — упрекание. Гэта вечнае папікішча! (Нов. Сяло, Беш. р.).

ПАПІЛЬНАВАЦЬ, *дзс.* — покараулить. Папільнуй маіх коняй (Селядцова, Беш. р.).

ПАПІШКА, *ж.* — толкание в дно веслом. Па нашай рэчцы можна ехаць на лотцы толькі ў папішку (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПАПКІ, оў, *м.* — короставник полевой, свербежница полевая. Knautia arvensis Coult. Папкі на нашым полі растуць (Карма, Куз. р.).

ПАПЛАВОК, а, *м.* — поплавок. Рыба пацянула паплавок на дно (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПАПЛАТКІ, *ж.* — плата. Паплаткі былі небальшыя (Задарожжа, Беш. р.).

ПАПЛЕСЬЦІ, *дзс.* — сплести. Сват свацьці паплёў лапці з таўстых лык (Глебаўск, Сен. р.).

ПАПЛЕЦІНА, *ж.*, ПАПЛЁТ, у, *м.*, *зб.* — тонкая жердь, жерди которыми прижимают солому к решетинам на крыше. Паплеціна крывая (Берашоўцы, Беш. р.). Мала прыгатовілі паплёту на крышу (Бікложа, Беш. р.).

ПАПЛЯЙМІЦЦА, *дзс.* — покрыться пятнами. Плацьця папляймілася іржой (Навікі, Беш. р.).

ПАПЛЯСЬЦІСЯ, *дзс.* — поплестись, потащиться. Куды яны ўжо папляліся? (Стаішча, Чаш. р.).

ПАПОЎНІК, у, *м.* — таволга шишконосая. Filipendula hexapetala Gilib. (Spiraea Filipendula L.) Знаю і папоўніка (Брыды, Меж. р.).

ПАПРАВІЦЬ, *дзс.* — исправить. Трэба паправіць ганак (Селядцова, Беш. р.).

ПАПРАСАВАЦЬ, *дзс.* — поутюжить. Папрасуй сабе сукно (Кузьміно, Сен. р.).

ПАПРАЎЛЯЦЦА, *дзс.* — выздоравливать. Яна патроху папраўляецца (Новае Сяло, Беш. р.).

ПАПРЫГАЖЭЦЬ, *дзс.* — похорошеть. Хацеў бы я папрыгажэць, ды плеш мяшае (Лазова, Сен. р.).

ПАПРЫЯЦЬ, *дзс.* — посочувствовать. Пятрок яму папрыяў (Сянно, Сен. р.).

ПАПСАВАЦЦА, *дзс.* — попортиться. Саўсім папсувалася пагода (Сураж, Сур. р.).

ПАПСАВАЦЬ, *дзс.* — попортить, испортить. Глядзі не папсуй нажнічкі (Стаішча, Чаш. р.).

ПАПУШКА, *ж.* — пачка чаю или табаку. У мяне асталася адна папушка табакі (Баравыя, Куз. р.).

ПАПЫТАЦЦА, *дзс.* — спросить. Папытайцеся ў яго, ці ня любіць ён каго (Сукрэмна, Сен р.).

ПАПЫТАЦЬ, *дзс.* — спросить. Пыпытала-б ты ў Арыны! (Навікі, Віц. р.).

ПАПЯРОК — вопоперек. Лёг пупярок хаты (Собалева, Куз. р.).

ПАПЯРХНУЦЦА, *дзс.* — поперхнуться. Еў ды й папярхнуўся (Дражна, Куз. р.).

ПАПЯРЫЦЬ, *дзс.* — побить. Трэба йці на рэчку папярыць пранікам скуты (Семянцова, Беш. р.).

ПАРА, *ж.* — 1) кроме общего значения — пар. Над катлом паднялася пара (Аськершчына, Беш. р.); 2) тулуп и армяк. Надзень пару, бо будзець халодна (Сьвеча, Беш. р.).

ПАРАБАК, а, *м.* — батрак. Многа парабкоў ён трымаў (Любашкова, Выс. р.).

ПАРАДА, *ж.* — совет, совещание. Ішоў парынь к дзяўчынач-

цы, к сваёй на параду (Сураж, Сур. р.).

ПАРАЗАБРАЦЬ, *дзс.* — поразобрать. Ізгароды паразабралі (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАРАДЗЕЦЬ, *дзс.*—стать реже. З естай севіркі, жыта парадзеець (Чарніца, Лёз. р.).

ПАРАДЗІХА, *ж.* — роженица. У вответкі да парадзіхі бегала (Жукава, Аз. р.).

ПАРАДЗІЦЦА, *дзс.*—посоветоваться. Я пайду к няму парадзіцца, ці ехаць мне ў горад (Вейна, Сен. р.).

ПАРДЗ ЦЬ, ПАРАІЦЬ, *дзс.*—посоветовать. Парадзь, што робіць (Любашкова, Выс. р.). Парадуйце, што зрабіць? (Пушкары, Сен. р.). Парай ты мне, Машка! (Купіна. Віц. р.).

ПАРАЛІК, а, у, *м.*—паралич. А паралік цябе расшыбе! (Храпавічы, Куз. р.).

ПАРАМАЦІЦЬ, *дзс.* — зарешетить. Страху ўжо парамацілі (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАРАНКІ, *ж.*—время от утра до полдня. Я ўставала на паранкі кароў даіць (Астроўны, Віц. р.).

ПАРАНЫ—паренный. Жышка з паранага качаньня й самэі качаны смашна есьці з жаркай бульбай (Альшанікі, Беш. р.).

ПАРАПЕЛЬ, ю, *м.* — гл. «зацірка». Будзем варыць парапель (Мокавічы, Чаш. р.).

ПАРАСКІДАЦЬ, *дзс.* — поразбросать. Лялькі параскідалі (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАРАСОН, а, *м.* — зонтик. Вазьмі пырасон, бо дождж пойдзець (Сьвеча, Беш. р.).

ПАРАСПУСЬЦІЦЬ, *дзс.* — пораспустить. Параспусьціў лахманы (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАРАСЬНІК, а, *м.* — поросль, мелкий кустарник олешника, лозняка. Пожні зарасьлі парасьнікам (Капцевічы, Чаш. р.).

ПАРАСЯ, *н.*—поросенок. Хто парася украў, таму і ў вушшу пішчыць (Макаравічы, Беш. р.).

ПАРАЎНАЦЬ, *дзс.*—сравнить. Параўнай гэты лён і тэй (Селядцова, Беш. р.).

ПАРАХАВАЦЦА, *дзс.*—посчитаться. Раз парахавацца, а ня дзесіць (Рыбчына, Сір. р.).

ПАРАХВІЯ, *ж.* — приход церковный. Поп уехаў на парахвію (Пустынкі, Сен. р.).

ПАРАХОНЬ, *ж.* — порошок, труха после гниения. Я як тронуў сваю хату, дык яна, як парахонь, пасыпалась (Ваяводкі. Віц. р.).

ПАРАХОЎКА, *ж.*—коробка со спичками. Падай мне парахоўку! (Падрэзы, Чаш. р.),

ПАРБА, *ж.*—белая куропатка. Lagopus albus., Tetrao lagopus L., Tetrao albus Gmel. Парбу забіў лі току (Унава, Лёз. р.).

ПАРВАЦЬ, *дзс.*—порвать. Такую здаровую нітку парвала! (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАРЭЗ, у, *м.*—телорез. Stratiotes aloides L. А ты парэзу прынясі (Гараватка, Меж. р.).

ПАРЭНЧЫ, *ж.* — перила. На масьце пачынілі парэнчы (Забалоцьце, Куз. р.).

ПАРЭНЧЫНА, *ж.* — перила. Чуць ня ўпаў з маста ў ручэй, толькі за парэнчыну задзержаўся (Дзейкі, Куз. р.).

ПАРЭЧКІ, *ж.* — красная смородина. Ribes rubrum L. У саду растуць парэчкі (Лужасна, Куз. р.).

ПАРКАЛЁВЫ—ситцевый. Мама пашыла мне паркалёвую рубаху (Рыбчына, Сір. р.).

ПАРКАЛЬ, ю, *м.*—ситец. Купіла сабе паркалю, але ён лінучы (Лук'янова, Сен. р.).

ПАРКАН, у, *м.*—1) плетеная изгородь, частакол. Заваліўся паркан у нашым садзе (Чарніца, Лёз. р.); 2) бревенчатый заоор. Парканам загарадзі (Матушова, Лёз. р.).

П**А**РНА, — парно, жарко. Улетку быватць парна (Лучкі, Віц. р.).

ПАР**О**Г, а, у, *м.* — порог. На парозе ляжыць ключ (Рудня, Аз. р.).

ПАР**О**ЖНІ—парожний, пустой. Ня баўтай парожнію люльку (Латыгаль, Сен. р.).

ПАР**О**НКІ, *ж.*—паренные клубнеплоды. Нясі сюды паронкі (Сухарукава, Аз. р.).

ПАРПЛ**І**ЦА, *ж.* — деревянное острие, на котором держится ручной верхний жернов. Так многа малолі, што перэгарэла парпліца (Беліца, Сен. р.).

ПАРПУР**О**ВЫ — фарфоровый. У мяне ёсць парпуровая кружка (Любічы, Беш. р.).

ПАРТАМАН**Е**Т, у, *м.* — портмонэ. Новы партаманет здаровыя грошы каштуець (Ходцы, Сен. р.).

ПАРТН**Ы** — полотнянай. Атваж на злоты партнэе хвабры (Путрына, Беш. р).

ПАРТУП**Е**Я, *ж.*—широкий ремень з пряжкой. Падпіразаўся партупеей (Бікложа, Беш. р.).

ПАРХ**А**ТЫ — паршивый. Ах, ты пархатый, ідзі спаць (Выгары, Куз. р.).

ПАРХАЎ**Ё**, *н.*, *зб.*—ребятишки. Надаела пархаўё у хаце (Луб'ева, Аз. р.).

ПАРЦ**Я**НІК, а, *м.* — холщевая юбка. Сшылі парцянік (Луб'ева, Аз. р.).

ПАРЦЯН**Ы**—холщевый, не из сукна. Парцяныя анучы ні сагрэюць—нада суконкі (Гунчанкі, Сур. р.).

ПАРШН**І**, ёў, *м.* — кожаные лапти. Надзеў на ногі паршні (Варашылы, Куз. р.).

ПАРШ**Ы**ВА—скверно. Паршыва, а дзелаць нечава (Пяцігарск, Беш. р.).

ПАРШЧ**А**ЦЬ, *дзс.* — трещать. Сала, як жарыцца дык паршчыць, (Сухарукава, Аз. р.).

ПАРШ**Ы**ВЕЦ, а, *м.* — паршивый. Паршывец пабіў дзіцёнка (Галубова, Куз. р.).

П**А**РЫНА, *ж.* — пар. Парыну аруць да Пятрова дня. (Ходцы, Сен. р.). Пар. папар.

П**А**РЫЦЦА, *дзс.* — париться. Яна й летам у вандраку парыцца (Сукрэмна, Сен. р.).

П**А**РЫЦЬ, *дзс.*—парить. Галена, пастаў парыць малако! (Оўсішча, Сен. р.).

ПАР**Ы**ЦЬ, *дзс.* — изрыть. Сьвіньні дужа гумно парылі (Навікі, Беш. р.).

ПАСА, *ж.*—громаднейшая досчатая посуда, имеющая форму бочки, для ссыпки зерна. Поўна паса насыпана збожжа. (Пачаевічы, Чаш. р.).

ПАСАБ**І**ЦЬ, *дзс.*—помочь. Пасабі яму падняць! (Дражна, Куз. р.).

ПАСАБЛ**Я**ЦЬ, *дзс.*—помогать. Пасабляй ты яму хуць трошку работаць (Міхалі, Куз. р.).

ПАС**А**Г, у, *м.*, ПАС**А**ГА, *ж.*—приданное. За дзяўчынкай дам пасах. (Мішкава, Куз. р.). Ей даюць у пасагу каня і карову (Забор'е, Сен. р.).

ПАС**А**Д, у, *м.*—1) ряд снопов для молотьбы. На таковішчы ляжыць пасат (Сураж, Сур. р.); 2) количество снопов высушен-

ное в «ёўні» (гл.) за один раз. Два пасады змалацілі (Жукава, Аз. р.); 3) престол, место невесты А й вядзіце кынягіню на пасат! (Любашкова, Выс. р.).

ПАСАДА, *ж.*—рассада. Надабе зьездіць у Віцебску за пасадай (Бікава, Сен. р.).

ПАСАДЗІЦЬ, *дзс.* — посадить А табе нада пасадзіць яблыню (Заазер'е, Сен. р.).

ПАСАК, а, *м.*—1) ремень, пояс. Паскам дай (Лужасна, Куз. р.); 2) жулик. Ругаюць яго, пасак ты этакі! (Сухарукава, Аз. р.).

ПАСАЧКА, *ж.*—полоска. Чырвоныя пасачкі (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАСАЧЫЦЬ, *дзс.* — поискать. Трэба пасачыць чаго звесьці (Лоўжа, Сір. р.).

ПАСВАРЫЦЦА, *дзс.* — поссориться. Яны пасварыліся дужа крэпка (Кузьміно, Сен. р.).

ПАСЕЎ, а, *м.*— искусственное, минеральное удобрение. Для жыта купіў пасеву (Стралкі, Беш. р.).

ПАСІЛІТАВАЦЬ, *дзс.* — польстить с корыстной целью. Пасілітаваў, дык і выгарала (Луб'ева, Аз. р ).

ПАСІЛКА, *ж.*—помощь. Нівялікую пасілку ат яго імею (Слабодка, Куз. р.).

ПАСІРАЦІЦЬ, *дзс.*—осиротить. Пасіраціў дробных дзетачак (Яноўшчына, Беш. р.).

ПАСКІПАЦЦА, *дзс.* -- потрескаться. У Ганны паскіпаўся ўвесь хлеб у печы (Пітрашы, Сен. р.).

ПАСКОНЬНІ, *ж.*—1) тычиночная конопля Cannabis Sativa L. Пасконьні ужо выбралі (Кузьміно Сен. р.); 2) волокно конопли. Суседка выткала з пасконьнеў прыгожую скацірку (Санікі, Беш. р.).

ПАСКРАБАЦЬ, *дзс.* — поскрести. Я паскрабала галаву (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАСКУДЗІЦЬ, *дзс.* — пакостить. Досыць табе нашу хату паскудзіць (Мазалава, Куз. р.).

ПАСЛАЦЬ, *дзс.*—1) послать. Пашлі сына ў рык (Бешанкавічы, Беш. р.); 2) разостлать. Трэба паслаць на пожні скуты (Семянцова, Беш. р.).

ПАСЛУХАЦЬ, *дзс.* — послушать. Паслухай, што кажуць людзі (Бабінічы, Віц. р.). Гусілік паслухаці і песінак наўчыціся (Яноўшчына, Сен. р.).

ПАСЛУХМЯНЫ — послушный. Етат мальчык такей паслухмяный, харошый (Суднікі, Куз. р.).

ПАСМА, *ж.*—известное количество пар ниток основы. Бёрда бывае у дванаццаць пасам (Пустынкі, Сен. р.). Мар'я наснавала тры пасьмі (Пясочак, Куз. р.).

ПАСМАКАВАЦЬ, *дзс.*—попробовать. Посмакуй яблык з нашага саду (Сянно, Сен. р.).

ПАСМОРГАЦЬ, *дзс.*—пооборвать. Пасморгай лісьце (Селішча Гар. р.).

ПАСОБІЦЬ, *дзс.*—помочь. Пасоб мне мех подняць (Пустыр, Сір. р.).

ПАСОБКА, *ж.*—помощь. Мнеб і добрая пасобка была (Мікалаёва, Куз. р.).

ПАСОРЫЦЬ, *дзс.* — потерять. Завушніцы пасорыла (Зямковічы, Сен. р.).

ПАСОЎВАЦЬ, *дзс.*—подвигать. Камень трэба пасоўваць налева (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАСПРОБАВАЦЬ, *дзс.*—попытаться. Пасробуй зрабіць еты дом! (Лужасна, Куз. р.).

ПАСПЫТАЦЬ, *дзс.*—попробовать на вкус. Паспытай, ці да-

волі солі ў суп? (Сташча, Чаш. р.).

ПАСТАЛЫ, аў, *м.* — кожаные лапти. Нада купіць кожы пастуху на пасталы (Дзейкі, Куз. р.). Пар. апасталы.

ПАСТАНАВІЦЬ, *дзс.* — поставить. Узяў пастанавіў каля скрыні, а яно заваліласся (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПАСТАНОЎ, у, *м.*—уговор. У іх пастаноў быў учора (Зямковічы, Сен. р.).

ПАСТАРНАК, у, *м.* — бедренец. Pimpinella magna L. et P. Saxifraga L. А пастарнак знаеш? (Паташня, Меж. р.).

ПАСТАЦЯНКА, *ж.* — жница. Пастацянкі ратком ідуць (Дубнікі, Сен. р.).

ПАСТАЯЛКА, *ж.* — сладкое молоко. Ёсьць там троху пыстаялкі: калі хочыш дам (Азаркава, Гар. р.).

ПАСТЭРКА, *ж.* — женская шляпа. Яна ходзіць у пастэрцы (Веляшковічы, Сен. р.).

ПАСТКА, *ж.*—мышеловка, ловушка. Пастка стаіць там, у кутку (Гарывецк, Сен. р.). Я паставіў пастку на тхара (Курына, Куз. р.).

ПАСТУКАЦЬ, *дзс*—постучать. Дзет пастукаў абухам па дрэву (Глебаўск, Сен. р.).

ПАСТУХ, а, *м.*—пастух. Пастух гоніць кароў (Ісачкава, Аз. р.).

ПАСУДЗІНА, *ж.*—посуда. Дай мне сюды пасудзіну (Навасёлкі, Сен. р.).

ПАСУЛІЦЬ, *дзс.*—пообещать, предложить. Пасулі яму крупені бялёнай (Крупіна, Віц. р.).

ПАСУНУЦЦА, *дзс.* — подвинуться. Пасунься троху дальшы (Селядцова, Беш. р.).

ПАСУНУЦЬ, *дзс.*—подвинуть. Пасунь лаўку, а то ногі падавім (Падданы, Сен. р.).

ПАСУШ, *ж.* — прошлогодняя, нескошеная трава. Учора нашы касілі пасуш (Сухарукава, Аз. р.). Вясной каровы ядуць пасуш (Зямковічы, Сен. р.).

ПАСЫНАК, а, *м.* — пасынок. Плоха жыць пасынкам (Стралкі, Беш. р.).

ПАСЬВІРЭЛКА, *ж.* — свирель из весенней коры. А звонкую пасьвірэлку зробіў! (Бяскатава, Гар. р.).

ПАСЬВІЦЦА, *дзс.* — пастись. Сігалетак пасьвіцца на аселіцы (Каменка, Сен. р.).

ПАСЬВІЦЬ, *дзс.* — пасти. Ён ужо год пасець коні (Бухна, Сен. р.). Мы паедзем, пасьвіць коні (Навасёлкі, Сен. р.).

ПАСЬВЯЦОНКА, *ж*—еда, освященная к Пасхе. Пасьвяцонку прынясьлі й разгавеліся (Доўгае, Беш. р.).

ПАСЬКІПАЦЦА, *дзс.* — потрескаться. Паськіпаліся губы (Застодольле, Сен. р.).

ПАСЬЛЕДНІ — последний. Не йшчэ, не пасьледні (Унава, Лёз. р.).

ПАСЬЛІЗНУЦЦА, *дзс.* — поскользнуться. Чуць не пасьлізнуўся (Лазок, Куз. р.).

ПАСЬЛЯ—после. Нічога, агоўтаецца пасьля (Нов. Сяло, Беш. р.).

ПАСЬМЯГНУЦЬ, *дзс.*—запечься от жажды. Пасьмяглі мае вусны (Машчоны, Сен. р).

ПАСЬПЕХ, у, *м.*—успех. Скоры пасьпех людзям на сьмех (Барок, Сен р.).

ПАСЬПЕЦЬ, *дзс.*—1) созреть. Брушніцы ужо пасьпелі (Воўсішча, Сен. р.). Пасьпелі ужо ма-

ліны (Стралкі, Беш. р.); 2) успеть. Ледзь пасьпеў туды (Лужасна, Куз. р.).

ПАСЬПЕШКА, *ж.* — ранний сорт картофеля. Пасьпешку капаім (Селішча, Гар. р).

ПАСЬЦЕЛЯ, *ж.* — 1) постель. Папраў сяньнік і засьцялі пасьцелю (Яноўшчына, Беш. р); 2) разложенное для молотьбы цепом. За дасьвецьце змалацілі чатыры пасьцелі гароху (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАСЬЦІЛЕНЬ, я, *м.*—матрац. Папраў пасьцілень на ложку (Замасточча, Сір. р.).

ПАСЬЦІЛКА, *ж.* — 1) одеяло. Накрыйся пасьцілкай (Купіна, Віц. р.); 2) простыня. Засцялі пасьцелю пасьцілкай (Ганкавічы, Беш. р.).

ПАСЬЦІЦЬ, *дзс.* — пасти. Ён наняўся пасьціць кароў (Доўжа, Куз. р.).

ПАСЬЦЬВА, *ж.*—пасенье скота. Сёньня Васіль на пасьцьве (Стаішча, Віц. р.).

ПАСЬЦЯБАЦЬ, *дзс.* — настегать, побить. Пасцябай яго пугай (Селяцова, Беш. р.).

ПАСЯБРАВАЦЬ, *дзс.* — подружить. Я з ім даўно пысябраваў (Запрудзьдзе, Куз. р.).

ПАСЯДЗЕЦЬ, *дзс.* — посидеть. Пайдзём пасядзём на ганку (Лалыкі, Аз. р.).

ПАСЯРОД—посредине. Посярот сада арэлі (Верацейка, Куз. р.).

ПАТАЕМНА—тайно. Патаемна думалі рабіць, а яно на! (Мянюцева, Сен. р.).

ПАТАЙНІК, а, *м.* — паралич. Каб цябе патайнік схапіў! (Купіна, Віц. р.).

ПАТАЛАЧЫЦЦА, *дзс.* — потянуться, пойти. Чорт яго знаіць куды ён поталокся! (Глебаўск, Сен. р.).

ПАТАНЕЦЬ, *дзс.* — сделаться тоньше. Патанеў, брат, ты (Любашкова, Выс. р.).

ПАТАПЕЦ, а, *м.* — грузила. Патапец адарваўся ад лёскі (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПАТАРЭШЧЫЦЬ ВОЧЫ—вытаращить глаза. Што ты патарэшчаў вочы, ты думаешь я цябе баюся? (Слабада, Чаш. р.).

ПАТЭЛЬНЯ, *ж.* — сковорода, противень. Вымый і вымаш патэльню маслам, бо пара ўжо булкі садзіць (Забор'е, Сен. р.).

ПАТОМ, у, *м.* — утомление. Якая ўкусная вадзіца з патому! (Глебаўск, Сен. р.).

ПАТОМНЫ — будущий. Мне давай сёньні, на патомнае я ні гляджу (Альгова, Віц. р.).

ПАТРАБАВАЦЬ, *дзс.* — требовать. Дарма патрабуеш — ні дам (Бабіна, Меж. р.).

ПАТРАВА, *ж.* — 1) потрава. Коні зрабілі патраву (Стралкі, Беш. р.); 2) кушанье. Усякіх патраў было на стале (Высачаны, Выс. р).

ПАТРАПІЦЬ, *дзс.* — попасть. Ніяк ні патрапіць малаціць (Нов. Сяло, Беш. р.). Я пашоў да вас наўгат, але якраз патрапіў к вам (Беліца, Сен. р.).

ПАТРАШЫЦЬ, *дзс.* — потрошить. Шчуку патрашыць (Любашкова, Выс. р.).

ПАТРЭБА, *ж.* — надобность. Была патрэба ў гэтым (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ПАТРЭП'Е, *ж.* – первый очес льна. Марылька папрала ўсё патрэп'е (Павульле, Чаш. р.). Пар. атрэп'е.

ПАТРЭТ, а, у, *м.*—портрет. На сьцінах патрэты панавешаны (Пяцігарск, Беш. р.).

ПАТРОЙНЯ, *ж.* — развилина соединяющая переднюю и зад-

нюю ось телеги. Патрайню новыю зьдзелаў (Сяло, Меж. р.). Пар. трайня.

ПАТРОХУ — понемногу. Яна патроху папраўляецца(Нов.Сяло, Беш. р.).

ПАТРУСІЦЬ, *дзс.*—потрусить, потрясти. Патрусі траву мукой (Сянно, Сен. р.).

ПАТРУХА, *ж.* — натершееся сено. З нашага сена дужа многа патрухі (Глебаўск, Сен. р.).

ПАТРУЦІЦЬ, *дзс.*—потравить. Прусоў трэба патруціць, бо жыцьця няма ад іх (Сянно, Сен. р.).

ПАТРЫМАЦЬ, *дзс.* — подержать. Патрымай мех! (Выгары, Куз. р.).

ПАТУРБАВАЦЦА, *дзс.* — побеспокоится. Патурбуйся, кумочак, прыдзі да мяне, я хачу пагаварыць с табою аб аднэй справе (Беліца, Сен. р.).

ПАТУШЫЦЬ, *дзс.*—потушить. Нада патушыць лямпу (Селядцова, Беш. р.).

ПАТЫЛІЦА, *ж.* — затылок. У шляхтаў усё каб нос на патыліцу! (Гравы Сен. р.). Во й чашы сабе патыліцу!. (Гравы, Сен. р.)

ПАЎБУТЭЛАК, а, *м.*—полбутылка. На вакне стаяў паўбутэлак (Падрэзы, Чаш. р.).

ПАЎГОДА — полгода. Паўгода мінула (Шніці, Куз. р.).

ПАЎДНЯ, *н.*, ПАЎДЗЁН, я, *м.*, ПАЎДЗЕНЬНЕ, *н.*—Паўдні на дваре, а ён яшчо не ўставаў (Лужасна, Куз. р.). На паўдзён прыгналі скаціну ў двор (Астроўна Віц. р.). Прыгналі статак на паўдзеньне (Аскрысенец Беш. р.).

ПАЎЗУН, а, *м.*—березка, вьюнок полевой. Convolvulus arvensis L. Якія лісты ў паўзуна! (Баяршчына, Сен. р.)

ПАЎКАРЫ, *ж.* — вид телеги. Зьдзелай мне паўкары вазіць навос і на млын (Шчыпцы, Беш. р.).

ПАЎМІСАК, а, *м.*—чашка, глубокая тарелка. Зьелі паўмісак сарапені (Варашылы, Куз. р.).

ПАУНЕЦЬ, *дзс.*—полнеть. Паўнеіць рака, вада прыбываець (Слабодка, Куз. р.).

ПАЎПЛЯШКА, *ж.* — полбутылки. Мы з сватам выпілі паўпляшкі (Оўсішча, Сен. р.).

ПАЎПУДА, *ж.*—полпуда. Сьнімі той паўпуда (Альшанікі Беш. р.).

ПАЎПУРЫК, а, *м.*—мера весам 1 пуд 10 фун. Паўпурык жыта атпусьці й купіш сабе рубашку (Вяжышча, Беш. р.).

ПАЎСАЧАК, а, *м.*—полупальто. Галіна купіла паўсачык (Латыгаль, Сен. р.).

ПАЎСТАНАК, а, *м.*—полустанок. Княжыца — ета паўстанак (Княжыца, Куз. р.).

ПАЎСУКЕНАК, у, *м.* — полусукно. Паўсукенак ткалі (Доўгае, Беш. р.).

ПАЎТАРНІК, а, *м.*—полуторадюймовая доска. Паўтарнікі добрыі вышлі (Лукашоўка, Беш. р.).

ПАЎХІР, а, *м.* — мочевой пузырь. Поуны паўхір (Пачаевічы, Чаш. р.).

ПАЎХУНТА—полфунта. Торба заважыла паўхунта (Падсады, Сір. р.).

ПАЎЦЯКАЦЬ, *дзс.*—поудирать. Рабочыя паўцякалі (Альшанікі, Беш. р.).

ПАЎЧВАРТА — 1/8. Паўчварта хунта купіў галыну (Сукрэмна, Сен. р.).

ПАХ, у, *м.*—запах. Якей цяжкі пах аттуль ідзець! (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПАХАВАЦЦА, *дзс.* — попрятаться. Авечкі ат спуду пахаваліся ў куток (Селядцова, Беш. р.).

ПАХАВАЦЬ, *дзс.*—похоронить. Учора яго пахавалі (Папкі, Чаш. р.).

ПАХАДЗІЦЦА, *дзс.*—побыть в случке. Наша Краска пахадзілася (Брыды, Меж. р.).

ПАХАДЗЯКА, *аг.*—нищий, бродяга. Я падарыў пахадзяку (Крывое Сяло, Беш. р.).

ПАХАТА, *ж.*—пахание сохой. Тое арба, а ета—пахата, бо сахой пашым (Любашкова, Выс. р.).

ПАХАЦЬ, *дзс.*—1) бороновать засеянное поле. Паехаў пахаць авёс (Сянно, Сен. р.); 2) вспахивать сохой. Пашыць поле за гумном (Брыды, Меж. р.); 3) мести, выметать. Пашы хату! (Выгары, Куз. р.).

ПАХВІНА, *ж.* — 1) пах. На пахвіне села скула (Пятніцкая, Беш. р.); 2) прядь льна, волос. Марылька чэсала пахвіну лёну (Шніці, Куз. р.).

ПАХІЛІЦЦА, *дзс.*—наклониться. Куды ты ігруша, пахілілася? (Застадольле, Сен. р.).

ПАХІЛЫ--наклонившийся. Там лі пахілай бярозкі, павярні ўлева (Любашкова, Выс. р.).

ПАХІСТКА, *ж.*—лоскут, лента для кос. Якую ты пахістку ўпляла? (Горкі, Аз. р.).

ПАХЛАПНІ, ёў, *м.*—лапти из веревок. Шурка зімой і летам ходзіць ў пахлапнёх (Пірамонт, Лёз. р.).

ПАХМЕЛЬЛЕ, *н.* — похмелье. Кум, нарай мне зельля ад пахмельля! (Краснае Сяло, Сен. р.).

ПАХМУРНЫ — пасмурный. Пахмурны дзень (Лалылі, Аз. р.),

ПАХОДНЯ, *ж.*—половик. Яна памыла падлогу і пасьцяліла паходню (Ранчыцы, Беш. р.).

ПАХРАПАЦЬ, *дзс.*—поломать. Усё чыста пахрапалі (Луб'ева, Аз. р.).

ПАХУЧКА, *ж.*—мята водяная. Mentha aquatica L. Дастань з вады пахучку (Масьліцы, Аз. р.).

ПАЦАЛУНАК, у, *м.*—поцелуй. Твой пацалунак табе на той сьвет (Сянно, Сен. р.).

ПАЦАПЕШКА, *ж.*—корзинка. Набраў пацапешку грыбоў (Валкі, Сур. р.).

ПАЦЕПНІК, ПАЦЕМНІК, у, *м.*-- мелкий лес, оставшийся на месте вырубленного леса, густо разросшийся. Нашоў сваю карову ў пацепніку (Глебаўск, Сен. р.). Ён заблудзіўся ў пацямніку (Веляшковічы, Лёз. р.). Пацімнікам трохі пракурала, дык з яго ні духу, ні хуху (Вядрэнь, Чаш. р.).

ПАЦЕРКІ, *ж.*—бусы. Дзеўка насіла пацеркі (Навікі, Беш. р.).

ПАЦЕХА, *ж.*—утеха, отрада. Пацеха настала мне (Кляшчыно, Беш. р.).

ПАЦЕШЫЦЬ, *дзс.*—потешить. Пацеш старыка хоць ты (Навікі, Віц. р.).

ПАЦІКАВІЦЦА, *дзс.*—полюбопытствовать, поинтересоваться. І ён пацікавіўся! (Ракі, Аз. р.).

ПАЦІРКА, *ж.*—тряпка, полотенце посудное. Падай мне пацірку (Прусаўка, Аз. р.).

ПАЦІХІНЬКУ — тихонько, по немногу. Паціхіньку ропце! (Лазаватка, Сур. р.).

ПАЦУК, а, *м.*--пасюк, крыса. Пад падлогай завяліся пацукі (Ульянавічы, Сен. р.).

ПАЦЫРКАЦЬ, *дзс.* — подоить. Ідзі, дачушыа, пацыркай карову (Папкі, Чаш. р.).

ПАЦЯГАВІЧ, а, *м.* — шестик, палка для поворачивания вала в ткацком станке. Пастругай ты троху пацягівач, а то ён ня ле-

зіць у калоду (Глебаўск, Сен. р.). Пацісьні пацягавіч, кап тужэй кросны сталі (Русінава, Сен. р.).

ПАЦЯГАНКА, *ж.*—потаскуха. А чаго ты, пацяганка бяз дзела шляесься? (Ульлянавічы, Сен. р.).

ПАЦЯЖКІ, *ж.* — боковые веревки в сохе, прикрепленные к оглоблям. Пацяжкі трэба аднолькавай даўжыні (Беліца, Сен. р.).

ПАЦЯЛІЦЦА, *дзс.*—отелиться. Кароўкі пацяліліся, цяпер з малачком (Пяцігарск, Беш. р.).

ПАЦЯРАБІЦЬ, *дзс.*—обрубить, подчистить. Пацярабіў лясок лі ракі (Слабодка, Куз. р.). Пацярабілі капусту (Верацейка, Куз. р.).

ПАЦЯРУШЫЦЬ, *дзс.* — потрусить, попорошить. Пацярушыў зьверху сенам і до (Любашкова, Выс. р.).

ПАЧАКАЦЬ, *дзс.*—подождать. Пачакай ты троху (Стрэлка, Беш. р.).

ПАЧАПЕНЬ, я, *м.*—коромысло. Зачапі пачапень да бараны (Крывіна, Беш. р.).

ПАЧАПІЦЬ, *дзс.* — поцепить. Мальцы пачапілі арэлі і калышуць дзевак (Хацінічы, Сен. р.).

ПАЧАРЗЕ — по очереди. Мы ходзім на варту пачарзе (Глебаўск, Сен. р.).

ПАЧАСАВАЦЬ, *дзс.* — чесать. Трэба лён пачасаваць (Бешанкавічы, Беш. р.).

ПАЧАСТАВАЦЬ, *дзс.*—угостить. Там яго пачаставалі! (Оўсішча, Сен. р.).

ПАЧАСЬСЕ, *н.*—волокно льна, вычесанное щеткой. Пакалаці ты пачасьсе! (Навікі, Беш. р.).

ПАЧАТАК, у, *м.*—начало. Я прышоў на пачатак схода (Забор‘е, Сен. р.).

ПАЧАЦЬ, *дзс.*—начать. Коні пачалі ірзаць (Оўсішча, Сен. р.). А мой Мікола пачаў ужо сёлета ў школу хадзіць (Оўсішча, Сен. р.).

ПАЧВАРА, *ж.*—урод. Пачвара нейкая (Доўгае, Беш р.).

ПАЧКА, *ж.*, ПАЧОК, а, *м.*—пачка, кипа. Пачка паперы складзена (Кузьміно, Сен. р.). Ён купіў пачок гнілой табакі (Застадольле, Сен. р.).

ПАЧОПКА, *ж.*—1) воревочная, проволочная ручка ведра, корзины. Я не паглядзеў, што пачопка ў вядрэ слаба, панёс карове піць памы — пачопка парвалась і памы разьліліcь—такая жаль (Глебаўск, Сен. р.). Пачопка ад карзіны адырвалася (Косы, Віц. р.); 2) вешалка в одежде. Ненашта павешаць: пачопка атарвалася (Рыбчына, Сір. р.).

ПАЧОСЬЛІВЫ — гостеприимный. Яны пачосьлівыя гаспадары (Луб‘ева, Аз. р.).

ПАЧУНЕЦЬ, *дзс.*—выздороветь. Йна ўжо посьле хваробы пачунела (Слабада, Чаш. р.). Пар. ачунець.

ПАЧУРАЦЦА, *дзс.* — отречься, отказаться. Усе яго пачураліся (Шарыпіна, Беш. р.).

ПАЧУЦЬ, *дзс.*—услышать. Ай, каб заўтра пачуць пастуха! (Пустынкі, Сен. р.).

ПАЧЦІВЫ — честный, уважаемый. Яны людзі дужа пачцівыі (Шаркі, Куз. р.).

ПАЧЫНАК, а, *м.*—веретено с пряжей. Яна напрала пяць пачынкаў нітак (Асінаўка, Сен. р.).

ПАЧЫНАЦЬ, *дзс.* — начинать. Мы пачынаем папраўляць сваю сялібу (Оўсішча, Сен. р.).

ПАЧЫРВАНЕЦЬ, *дзс.* — покраснеть. Пачырванеў як, калі яму сказалі! (Сураж, Сур. р.).

ПАША, *ж.*—пастбище. Паша наша добрая (Пятніцкая, Беш. р.).

ПАШАБУНЯЦЬ, *дзс.*—поговорить шутливо. Мы з ёй пашабунялі, пашабунялі (Оўсішча Сен. р.).

ПАШАРАВАЦЬ, *дзс.* — почистить, потереть мочалой и т. п. Я табе пашарую сьпіну (Вязоўка, Аз. р.).

ПАШЭНЦІЦЬ, *дзс.*—посчастливиться. Але пашэнціла табе ўчора! (Мамойкі, Беш. р.).

ПАШКАДАВАЦЬ, *дзс.*—пожалеть. Пашкадавала маці сына (Суднікі, Куз. р.).

ПАШКОДЗІЦЬ, *дзс.* — повредить, завредить. Толькі й гляді, штоб ні пашкодзіў (Навікі Віц. р.). Пашкодзілі маладыя яблыкі (Вязоўка, Аз. р.).

ПАШТАВІК, а, *м.*—письмоносец. Паштавік прынёс газэты (Стаішча, Чаш. р.).

ПАШТО—зачем. Пашто табе ета? (Дзярэўня, Чаш. р.).

ПАШУКАЦЬ, *дзс.* — поискать. Пашукай ў шуфлядзе гузікаў (Пустынкі, Сен. р.).

ПАШЧАПАЦЦА, *дзс.* — потрескаться. Вусны дужа пашчапалісь (Нов.-Сяло, Беш. р.).

ПАШЫНА, *ж.*—сучья деревьев или срубленные, молодые деревья с сучьями. Пойдзем сеч пашыну, пачыняць дарогу (Спасская, Сір. р.). Нада прывезьці воз пашыны пад сена (Асінаўка, Беш. р.).

ПАШЫРЭЦЬ, *дзс.* — сделаться шире. Пашырэла й наша рэчка пасьля дождзіку (Лужасна, Куз. р.)

ПАШЫРЫЦЦА, *дзс.* — расшириться. Зрэнкі пашыруцца, рукі паставіць... (Селішча, Гар р.).

ПАШЫЦЬ, *дзс.* — сшить что-либо. Нада пашыць сапагі (Пустынкі, Сен. р.).

ПАЯДАЦЬ, *дзс.* — покушать наесться. Ці пайдаў ты кашы? (Дрыкольле, Куз. р.).

ПАЯДЫНАК, у, *м.*—поединок, единоборство. Прыдзецца іці нам на паядынак (Кузьміно, Сен. р.).

ПАЯЗД, у, *м.* — 1) телега с рессорным сиденьем. Сягодня дзеля сьвята запрагі каня ў паязд (Навасёлкі, Сен. р.); 2) свадебный поезд, телеги всех гостей. Паязт на яе вясельлі вялікі (Сураж, Сур. р.).

ПАЯЗЖАНЕ, *м.* — гости на свадьбе, везущие приданое невесты. Паязжані ужо паехалі (Кулі, Куз. р.).

ПАЯРКІ, *ж.* — 1) шерсть ягнят. Атбяры ад воўны паяркі, бо яны зьбягаюцца (Сукрэмна, Сен. р.); 2) молодые овцы. У нас ёсьць дзьве паяркі (Сураж, Сур. р.).

ПАЯСЬНІЦА, *ж.* — поясница. Якая у мяне паясніца! (Баркова, Куз. р.).

ПЕВЕНЬ, я, *м.*—петух. Пеўню перабілі нагу (Лук'янава, Сен. р.).

ПЕКЛА, *н.*—ад. Марцін пупадзець у пеклу (Чараўкі, Сен. р.).

ПЕЛЬКІ, *ж.*—1) женская грудь. Як сьцісьне мне ў пельках (Лук'янова, Сен. р.); 2) ворот. Сем адзеш, а пелькі розны (Ранчыцы, Беш. р.).

ПЕЛЮСЬЦЬ, і, *ж.*—конец корыта. Ці даўно ты зьдзелаў карыта, а ўжо пелесьць раскалолась (Глебаўск, Сен. р.).

ПЕЛЯСНУЦЬ, *дзс.*—полоснуть. Пелянуў па зайцу (Янкі, Беш. р.).

ПЕРААРХОВАНЫ — провеянный. Ячмень пераархованы (Храброва, Чаш. р.).

ПЕРАБАБІЦЬ, *дзс.* — принять ребенка от роженицы. Прасіла цябе цётка каб ты прышла к

ей і пірабабіла (Яноўшчына, Беш. р).

ПЕРАБІРАЦЦА, *дзс.* — переезжать на новое место жительства. Ён перабраўся ў Віцепск (Доўжа, Куз. р.).

ПЕРАБІРАЦЬ, *дзс.* — 1) брать лишнее. Перабраў карты (Лужасна, Куз. р.); 2) отбирать. Перабіралі бульбу даўно (Княжыца, Куз. р.).

ПЕРАБІЎКА, *ж.* — перебой в в купле, продаже. На перабіўку пашло і я ўзяў (Сянно, Сен. р.).

ПЕРАБОРЛІВЫ—разборчивый, привередливый. У мяне карова дужа пераборлівая (Пустынкі, Сен. р.).

ПЕРАБУНТАВАЦЬ, *дзс.*—перепутать. Перебунтаваў ты мне ўсё на сьвеце (Пустынкі, Сен. р.).

ПЕРАВЕСЬЦІСЯ, *дзс.*—перевестись, исчезнуть. Мох высеклі—перавядуцца цяпер і птушачкі нашы (Яноўшчына, Беш. р.).

ПЕРАВОЗ, у, *м.* — переправа через реку. Паўлюк заарэндаваў перавос (Селядцова, Беш. р.).

ПЕРАВОДЗІНА, *ж.* — 1) длинное, тонкое бревно, на которое кладут крюки — стропила при устройстве крыши. Мы ужо паклалі пераводзіну на пуню (Семянцова, Беш. р.). Не палажы крэпкую пераводзіну—штрапіла страху пакарёжаць (Л і п н а, Сен. р.); 2) верхняя перекладина в ткацком станке, скрепляющая станок. Хочыць каб бес пераводзіны ставы добра стаялі (Беліца, Сен. р.).

ПЕРАВОРЫВАЦЬ, *дзс.* — перепахивать. Паеду бульбу пераворываць (Кураеды, Беш. р.).

ПЕРАВЯРНУЦЬ, *дзс.*— переделать, перестроить. Гэта мы перавернем, а ў мяне добрая будова (Высачаны, Выс. р.).

ПЕРАВЯСЛО, *н.* — 1) веревочная ручка ведра. Зьві ты перавясло у вядро, а то калі-нібудзь, як парвецца, дык вядро будзіць бяз дна (Глебаўск, Сен. р.); 2) жгут, которым связывают сноп. Маі перавяслы крэпкі (Лужасна, Куз. р.).

ПЕРАГАТАВАНЫ — перекипяченый, переваренный. Перегатаваная вадат амацькі (С т а с е в а, Выс. р.).

ПЕРАГОН, у, *м.* — известное расстояние при пахоте. Два перагоны ўзараў (Сварыдаўка, Аз. р.). Пар. гоні.

ПЕРАДОЙКА, *ж.* — неотелившаяся корова. Наша перадойка даець хоць мала малака, алі жырнае (Глебаўск, Сен. р.).

ПЕРАДОК, а, *м.* — небольшая скамейка. Перат столам стаіць передок (Купіна, Віц. р.).

ПЕРАДОЎКА, *ж.* — веревка, привязанная спереди телеги для ужимания возов при помощи «жэрдзі» (гл.). Парвалася перадоўка (Раманаўка, Сен. р.).

ПЕРАЗ—через. Піраз дарогу—піраз плот (Доўгае, Беш. р.).

ПЕРАЗІМКА, *ж.* – родившаяся осенью и перезимовавшая телка. Перазімка харошая ў яго (Дубраўка, Аз. р.).

ПЕРАЗОЎКІ, *ж.* — посещение родителей жениха родителями невесты и наоборот. З а ў т р а едзім на перазоўкі (А с і н а ў к а, Беш. р.).

ПЕРАЙМАЦЬ, *дзс.* — 1) встречать. Стадак пераймала (Стаішча, Чаш. р.); 2) перенимать, подражать. Наш хлопчык што не пачуе—усё перайме (Оўсішча, Сен. р.); 3) ловить наперерез, перенимать. Пераймі коні! (Падбярэзьзе, Віц. р.).

ПЕРАЙМО, *н.*—плата за найденное, пойманное. Давай перайма, платок нашоў (Пятніцкая, Беш р.).

ПЕРАКЛЕЦЬ, *ж.*— помещение перед клетью. У пераклець паклаў (Селішча, Гар. р.).

ПЕРАКОС, у, *м.* — скошенное на чужом, за межою. Во, які перакос, колькі закасіў майго! (Сураж, Сур. р.).

ПЕРАКУЛІЦЬ, *дзс.* – опрокинуть. Адзін перакуліў вос сена (Лужасна, Куз. р.).

ПЕРАЛАЗ, а, *м.*—1) ворота из отдельных жердочек. Каб на места гэтага пералаза былі варота, скарэй бы было пераехаць (Стасева, Выс. р.); 2) места изгороди, где перелезают. Лі пералазу зірні (Стаішча, Чаш. р.).

ПЕРАЛЕТКА, *ж.*— жеребенок, теленок, проживший одно лето. Пералетка твая ў хлеві (Селішча, Гар. р.)

ПЕРАЛЁТ, у, *м.* — язвенник. Anthyllis Vulneraria L. Пералёт сам сеіцца (Палёнаўка, Лёз. р.).

ПЕРАЛІЦАВАЦЬ, *дзс.*—выворотить, перешить наизнанку. Пераліцаваў шапку (Сянно, Сен. р.).

ПЕРАЛІЧВАЦЬ, *дзс.* - пересчитывать. Пашто пералічваць? (Сітна, Лёз. р.).

ПЕРАМАГАЦЬ, *дзс.* — преодолевать, осиливать. Усякага ён пераможыць (Канавалава, Куз.р.).

ПЕРАМЕШКА, *ж.* — помеха. Перамешка была — вось зламаў (Любашкова, Выс. р.).

ПЕРАНІШПАРЫЦЬ, *дзс.*—перепороть, переискать. Піранішпарылі ўсё (Доўгае, Беш. р.).

ПЕРАПАДЛІВЫ — в силе, здоровьи непостоянный. Наш хадзяін і конь перападлівыя (Пятніцкая, Беш. р.).

ПЕРАПАЛОХ, у, *м.* — испуг, переполох. Перапалоху надзелаў! (Баркова, Куз. р.).

ПЕРАПАЛОХАЦЦА, *дзс.* — перепугаться. Чаго ты так перапалохаўся? (Ст. Сяло, Куз. р.).

ПЕРАПЕРЦІ, *дзс.*—переспорить. Пераперці яго ня можна (Доўгае, Беш. р.).

ПЕРАПЕЧАЙКА. *ж.*—сплетница. Чаму ты брэшаш, перапечайка? (Луб'ева, Аз. р.).

ПЕРАПЕЧКА, *ж.* — лепешка. Тоўсты сват перапечку ўкраў (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПЕРАПЁК, а, *м.*—1) с'естные базарные припасы. Перапёк прывязлі (Доўгае, Беш. р.); 2) время, когда старый хлеб с'еден, а новый не испечен. Перапёк у нас (Навінкі, Лёз. р.).

ПЕРАПЛАЎНІЦА, *ж.* — праздник Преполовения. У сераду на Пераплаўніцу пойдзем у Гарадзец (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ПЕРАПЛОТ, ПЯРЭПЛАТ, у, *м.* —столбы с паралельными перекладинами для сушки снопов. У пераплот ічмень злажыў (Селішча, Гар. р.). Злажы боп у пярэплат (Мікалаёва, Куз. р.).

ПЕРАПРОС, у, *м.*—извинение З пірапросам пайшоў к яму (Лазаватка, Сур. р.).

ПЕРАПУЖАЦЬ, *дзс.*—перепугать. Перапужаў усіх на вячорках (Кузьміно, Сен. р.).

ПЕРАПУКОЎВАЦЬ, *дзс.* – перемолачивать вторично ячмень, освобождать его от остей. Нада брацца перапукоўваць ячмень (Асінаўка, Беш. р.).

ПЕРАПЯЛЁСЫ — полосатый, пестрый. Пабег перапялёсы парасёнак (Пустынкі, Сен. р.).

ПЕРАРЭЗ, а, *м.*—отрезанная половина большой бочки. У пе-

СУХМЕЦЬ, *ж.*—засуха. Якая стаіць сухмець! (Веляшковічы, Лёз. р.).

СУХОПЕРНА — неожиданно, моментально. Надовічы баба сухоперна памерла, не хварэўшы (Гравы, Сен. р.).

СУХОТКА, СУХОТЫ, *ж.*—чахотка. Ён хварэў сухоткай (Падрэзы, Чаш. р.) Мой таварыш захварэў на сухоты (Ніж.-Крывіна, Беш. р.).

СУХОТНІК, а, *м.* — чахоточный. За сухотніка пашла замуж (Стар, Лёз. р ).

СУХУСЕНЬКІ — совершенно сухой. Сухусенькае ўжо сена (Сапегі, Сен. р.).

СУЦЕЛАЯ — стельная. Наша карова суцелая (Жукава, Аз. р.).

СУЦЭЛЬНЫ — цельный, неделимый. Суцэльны кавалак дрэва ўзяў (Дзямідавічы, Чаш. р.)

СУЦЫЛЬ, ю, *м.* — неочищенный лен. У нашаго дзядзькі вельмі много суцылю (Заазер'е, Сен. р ).

СЎЧКА, *ж.*—1) сука. Іх сучка здохла (Лужасна, Куз. р.); 2) скамеечка. Вазьмі пад ногі сучку (Бешанкавічы, Беш. р.).

СУЧКІ, оў, *м.*—череда. Bidens tripartita L. і B. cernua L. Ад залатухі трэба тапіць і піць сучкі (Вішкавічы, Чаш. р.).

СУЧЧА, *зб.*, *н.*—сучье, сухие сучья. Добра й суччa гараць (Санікі, Беш. р.).

СУШЧЫ – настоящий, действительный. Сушчая брахня, што кажыш (Стралкі, Беш. р.).

СУШЫЦЦА, *дзс.* — сушиться. Спадніца сушыцца над сопухай (Навікі, Беш. р.).

СХАВАЦЦА, *дзс.*—спрятаться. Сонца схавалася за тучы (Кузьміно, Сен. р.).

СХАВАЦЬ, *дзс.*—1) спрятать. Схавай вошкі ў клеці (Шарыпіна, Беш. р.). Ты ад мяне хочаш схуваць? (Навікі, Віц. р.); 2) похоронить. Учора ужо схавалі нашага суседа (Мікалаёва, Куз. р.).

СХАМЯНУЦЦА, *дзс* — опомниться Ён схамянуўся, бягучы (Мамойкі, Беш. р.).

СХАПІЦЦА, *дзс.*—схватиться. Схапіўся за яе (Оўсішча, Сен. р.).

СХАПІЦЬ, *дзс*—схватить. Ён, здаецца, усё схопіць (Мазалава, Куз. р.).

СХІБІЦЬ, *дзс.* — сплоховать. Сёліта яго жыта схібіла (Глебаўск, Сен. р.).

СХІЛІЦЦА, *дзс.*—наклониться. Стары дзед сядзіць схіліўшыся (Сянно, Сен. р.).

СХІЛЯЦЬ, *дзс.* — наклонять. Схілі вішню ды будзім абіраць (Слабодка, Куз. р.).

СХОД, у, *м*—1) собрание. У вёсцы ўчора быў схот (Хмяльнік, Беш. р.); 2) третья фаза луны. Схот настаець (Сянно, Сен. р.).

СХОДКА, *ж.*—сходка, собрание. Пойдзім на сходку (Селядцова, Беш. р.).

СХОДНА — подходяще, выгодно. Мне здарылася купіць сходна (Ульлянавічы, Сен р.).

СХОДНІ, *ж.*—ступеньки. Я шоў па сходням к раке (Мазалава, Куз. р.).

СХУДАЦЬ, *дзс.* — похудеть. Схудала яна на шчэпку (Слабодка, Куз. р.).

СЦУРЫЦЬ, *дзс.* — очистить, с'есть. Сцурылі-б усё, калі-б есьць хацелі (Стаішча, Чаш. р.).

СЧАЎРЭЦЬ, *дзс.* — высохнуть от болезни. Так счаўрэў, толькі кожа ды косьці - хвароба нікога ня красіць (Амільлянова, Лёз. р.).

СЫГНЭТ, у, *м.*—перстень, талисман. Каток падаў Івану сыгнэт; Іван перакінуў з рукі на руку і перат ім стаў канёк (Яноўшчына, Беш. р.).

**СЫЗЫ**—сизый. Сызы сілязенька, ці быў ты на моры, а ці відзіў шэру вутку? (Азярэцк, Сен. р.).

СЫЙСЬЦІ, *дзс.*—сходить, сойти. Яна ня сыйдзець у горад, бо старая (Доўжа, Куз. р.).

СЫЙЦІСЯ, *дзс.*—сойтись. У цане сыйдземся (Гарадок, Гар. р.).

**СЫРА**, *ж.*—мифическое существо. Каб цябе сыра ўбіла! (Вейна, Сен. р.).

СЫРАБОЙНЯ, *ж.* — большой овин, рига. У сырабойню ў Беліцы возяць жыта (Ст. Беліца, Сен. р).

**СЫРАВАТКА**, *ж.*—сыворотка. Зьлей сыраватку у міску (Раіны, Аз. р.).

СЫРАВЕЖКА, *ж*—сыроежка. Скора ужо будуць сыравешкі (Застадольле, Сен. р.). Пар. суравежка.

СЫРАДОЙ, ю, *м.* — свеже надоенное молоко. Дай мне сырадою (Вырашылы, Куз. р.).

**СЫРАКВАША**, *ж.* — простокваша. Уліце мне сыраквашы (Кураеды, Беш. р.).

**СЫРАМАЛОТ**, у, *м.*—молотьба хлеба обиванием о колоду без предварительной сушки в овине. Кончылі сырамалот (Русінава, Сен. р.).

**СЫРАМЕТНЫ**—ременный. Саўка купіў сырамятныя гужы (Русінава, Сен. р).

**СЫРАПЕНЯ**, *ж.* — простокваша. Сырапеня стаіць у кухліку (Косы, Віц. р.).

**СЫРЭЦ**, у, *м.* — необжиганый кирпич. Сотню сырцу на печ прывёз (Касавец, Сен. р.).

**СЫРНІКІ**, аў, *м* — творожники. Сырнікі дзелаюць з творагу (Альшанікі, Беш. р.).

СЫРОШНІК, у, *м.* — колючник обыкновенный. Carlina vulgaris L. Можа дзе й лечуць сырошнікам, а ў нас не (Мікалаёва, Сір. р.)

СЫРЫЗНА, *ж.*—сырые овощи, плоды. Ня еш сырызны — захварэіш (Гараватка, Меж. р.).

СЫСКА, *ж.* — соска Заткні яму сыскай ляпу, каб не натсядаўся (Сухарукава, Аз. р).

СЫСТАРЫ—изстари. Сыстары людзі ні відалі граматы (Дражна, Куз. р.).

СЫТА, *ж.*—медовая вода. Ем куцьцю с сытой (Лятоўшчына, Куз р.).

**СЫТЫ**—жирный. Сытыя кумпякі прадаў (Навікі, Беш. р.)

**СЫЦЬ ВАМ**—пожелание, приветствие кушающим Сыць вам, лютцы! (Доўгае, Беш. р).

**СЫЯН**, а, у, *м.*—суконная юбка. Надзела дзеўка новы сыян (Ліпна, Сен. р.). Пар. саян.

СЬВЕДКА, *м.* — свидетель Сьветка на судзе паказаў не па майму (Стралкі, Беш. р.).

СЬВЕДЧЫЦЬ, *дзс.*—свидетельствовать. Ні хачу я сьветчыць вам! (Карма, Куз. р).

СЬВЕРБ, у, *м.*—зуд. У мяне на назе сьверб (Шпакі, Куз. р.).

СЬВЕРБАТА, *ж.*—зуд. Пашла па целу сьвербата (Машчоны, Сен. р.). Пар. сьверб.

СЬВЕРДЗЕЛ, а, *м.* — бурав. Дайка мне сьвердзел (Мікалаёва, Куз. р.). Сьвердлам пракручываюць дзіркі у дошках (Вішкавічы, Чаш. р.).

СЬВЕСЬ, СЬВЕСЬЦЯ, *ж.*—сестра жены. Сьвесь у госьці прыехала (Доўгае, Беш. р.). Гэта мая сьвесьця (Копцевічы, Чаш. р).

СВЕТАВАЯ ЗАРАНКА—Венера. Сьветавая заранка ўжо ўзышла, скора дзень будзе, нада сьпяшыць малаціць (Бяскатава, Гар. р.).

СЬВЕТАЧ, а, у, *м.*--палка с развилинкой, куда вставляют лучину. Папраў сьветач! (Агрыцкава, Беш. р.).

СЬВЕТЛА—видно. На вуліцы ўжо добра сьветла было, калі мы выехалі з двору (Гарывецк, Сен. р.).

СЬВІЗІК, а, *м.* — небольшая кадка. Я сёлета налажыў сала цэлы сьвізік (Міхалі, Куз. р.).

СЬВІДЗІНА, *ж.* – дерен. Carnus sanguinea L. А на вошта табе сьвідзіну рваць? (Слабада, Сур. р.).

СЬВІНАКРОП, у, *м.*—торица полевая. Spergula arvensis L. Бальшэй сьвінакроп парос у льну (Касачы, Лёз. р.).

СЬВІНКА, *ж.*--болезнь свинка. У яго сьвінка; апухла пад вушамі (Беліца, Сен. р.).

СЬВІННУХА, *ж.* — белоус. Nardus stricta L. Ніхто ня есьць сьвіннуху (Станіславова, Сен. р.).

СЬВІНУШНІК, СЬВІНЯРНІК, а, *м.*-- свиной хлев. У сьвінушнік гані (Беліца, Сен. р). Пагналі сьвіньней у сьвінярнік (Хоцькаўшчына, Чаш. р).

СЬВІНЬНЯ, *ж.* — свинья. Сьвіньня залезла ў агарод (Ісачкава, Аз. р.).

СЬВІР, а, у, *м.*--колодезный журавль. Свір паськепаўся і зараз зваліцца. (Ходцы, Сен. р.). Пар асьвер.

СЬВІРАН, а, *м.*—амбар. Ён улетку сьпіць у сьвірне (Тухінка, Сен. р.).

СЬВІРЭПА, *ж.*—свирепа. Raphanistrum innocuum Medic. Адна сьвірэпа парасла у ваўсе (Матушова, Лёз р.).

СЬВІРЭПІЦА, *ж.* — сурепица, полевая редька. Raphanistrum silvestre Acherson (R. innccuum Medic). Сьвірэпіца заглушыла ячмень (Вядрэнь, Чаш. р.).

СЬВІСТУН, а, *м.*—пустой орех, со свищем. Сёліта многа сьвістуноў у арэхах (Калышкі, Лёз. р.).

СЬВІТКА, *ж.*—поддевка. Трэба сьвітку надзець (Стаішча, Чаш. р.).

СЬВІЦЕЦЦА, *дз.* — просвечивать. Сьвіціцца вунь там (Валькі, Сур. р.).

СЬВІШЧЭЦЬ, *дз.* — свистеть. А што тая за брадзяга, што па саду сьвішчыць? (Запрудзьдзе, Сен. р.)

СЬВІШЧЫК, а, *м.* — свисток. У Пецькі ёсь сьвішчык (Пустынкі, Сен. р.).

СЬВЯДОМЫ—сознательный. Дужа сьвядомы чалавек (Запрудзьдзе, Сен. р).

СЬВЯЖЫНА, *ж.*—свежее мясо, сало. Сьвяжыны нашай папробуйце (Гараватка, Меж. р.).

СЬВЯКРОВА, СЬВЯКРОЎ, СЬВЯКРУХА, *ж.* — свекровь. У мяне злая сьвякрова (Пустынкі, Сен. р.). Я сьвякрусе не ўгадзіла (Забор'е, Сен р.).

СЬВЯНЦОНЫ — освященный. Ня кідай хлеб на падлогу—ён-жа сьвянцоны! (Бешанкавічы, Беш р).

СЬВЯРБЕЦЬ, *дз.* — чесаться. Сьвярбіць, як на каросту (Луб'ева, Аз. р) Сьвярбіць цела: даўно ў лазьні быў (Лужасна, Куз. р.).

СЬВЯРБІГА, *ж.*—сурепица луговая, желтоцвет. Barbarea vulgaris R Br. Сьвярбігі дзеці пры-

несьлі з лугу (Марозаўка, Сен. р).

**СЬВЯРБІГУЗ**, у, *м*.— свербига. Runias orientalis L. Сьвярбігуз табе Стахванея пакажыць (Забор'е, Сен. р.).

**СЬВЯРДЗЁЛАК**, а, *м*.—бурав. Падай сьвярдзёлак, буду дзіркі робіць (Сукрэмна, Сен. р.). Пар. сьвердзел.

**СЬВЯТА**, *н*.—праздник. Заўтры сьвята, будзем атдыхаць (Лагавая, Аз. р).

**СЬВЯТАЯНСКОЕ ЗЕЛЬЛЕ** — зверобой проколотый. Hypericum perfaratum L На Купалу сьвятаянскае зельле зьбіраюць (Касавец, Сен. р.).

**СЬВЯТКАВАЦЬ**, *дзс*.—праздновать. Аняго, будзем сьвяткаваць? (Вяжышча, Беш р.).

**СЬВЯТЛІЦА**, *ж*.—светелка У сьвятліцы гасьцей прымала (Кр. Сяло, Беш. р).

**СЬВЯЦІЦЬ**, *дзс*. — 1) светить. Толькі зьвёзды сьвяцілі (Пяцігарск, Беш. р.); 2) освящать. Сьвяціць бацька павёз у Сянно (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**СЬЛЁЗКІ** *ж*.—трясунка. Briza media L Сьлёзкі ніколі ні вянуць (Дабрамысьль, Лёз. р.).

**СЬЛІВА**, *ж*. — слива. Сьлівы дзёшавы былі летась (Лужасна, Куз. р.).

**СЬЛІВЕНЬ**, я, *м*.—вид змеи. Сьлівеня рэдка ўвідіш, а то й ніколі (Ухлё, Чаш. р.).

**СЬЛІВІНА**, *ж*.—сливовое дерево. На сьлівіне няма пладоў. Альгова, Віц. р.

**СЬЛІГА**, *ж*.—наклонная доска, бревно. Пастаў сьлігу, каб лепш спусьціцца (Веляшковічы, Лёз. р.).

**СЬЛІЖКА**, *ж*.—жердочка, шестик в доме для вешания белья, одежды. Сьвітка на слішцы вісіць (Жарцы, Сен. р.).

**СЬЛІЗГАЦЦА**, *дзс*.—скользить, кататься на коньках. Юрка пайшоў сьлізгацца на лёт (Дварэц, Чаш. р.).

**СЬЛІЗКІ**—скользкий Памост аш сьлізкі ад бруды (Гравы, Сен. р). Посьле сягодняшняга сьнегу стала сьліска (Селядцова, Беш. р.).

**СЬЛІМАЗАРНІЦА**, *ж*. — неряха. Лярва ты, сьлімазарніца! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**СЬЛІМАК** а, *м*.—полевой слизень. Agriolimax agrestis. Сьлімак любіць макрату (Тараскі, Чаш. р.).

**СЬЛІНА**, *ж*.—слюна. Сьлінькі распусьціў (Белькава, Беш. р.). Аш сьліна з роту пацякла (Дрыкольле, Куз. р.).

**СЬЛІЎНЯК**, у, *м*., *зб*.—сливовый садок. У сьліўняку пасядзім (Сьцяпанавічы, Меж. р.).

**СЬЛЮМАЧЫЦЬ**, *дзс*.—слюнявить, смачивать слюной. Дзіця слюмачыць хустку (Оўсішча, Сен. р.).

**СЬЛЯМЕНЬ**, я, *м*.—небольшая змейка. Anguis fragilis. У Шарыпінскім лесе сьлямнёў шмат (Шарыпіна, Беш. р.).

**СЬЛЯПЕНЬ**, я, *м*. — слепень. Tabanus bovinus L. Дужа-ж мяне сляпень джыгануў (Бікава, Сен. р).

**СЬЛЯПУХА**, *ж*. — коптилка, лампочка без стекла. Нада запаліць сьляпуху (Вяжышча, Беш р.).

**СЬЛЯПЫ** — слепой. Ты што сьляпы што-лі, ня відзіш куды йдзеш? (Дубраўкі, Сен. р.).

**СЬЛЯСАК**, а, *м*.—шпенек, которым поднимается «клямка» (гл.). Клямку можна падняць абы сьлісаком, абы прутком (Лазова,

Сен. р.). Вываліўся сьлісак, і ня можна зачыніць дзьверы (Сянно, Сен. р.).

**СЬМЕЦЬЦЕ**, *зб. н.*—мусор, сор. Згарні сьмецьце ў кучу (Ісачкава, Аз р.).

**СЬМЕШКІ**, *ж.*—шутки. Табе ўсё сьмешкі (Пустынкі, Сен. р.). Якія табе са мной сьмешкі?! (Асінаўка, Беш. р).

**СЬМЯГА**, *ж.*—жажда. Сьмяга ў мяне ў роце (Падпазьнікі, Куз. р.).

**СЬМЯГНУЦЬ**, *дзс.* 1) жариться в закрытой посуде в духу. Пражона ужо сьмягнець (Высачаны, Выс. р.); 2) запекаться. Вусны сьмягнуць ад жары (Кураеды, Беш. р.).

**СЬМЯРДЗЕЦЬ**, *дзс.* — вонять. Нябошчык пачынает сьмярдзець (Пятніцкая, Беш. р).

**СЬМЯРДЗЮК**, а, *м.*—вонючка. Адыйдзі адгэтуль, сьмярдзюк! (Беліца, Сен. р.).

**СЬМЯРДЗЮЧА** – вонюче. Дужа сьмярдзюча пахніць (Навікі, Віц. р.).

**СЬМЯРОТАНЬКА**, *ж*—смерть. Каб цябе сьмяротанька задавіла! (Купіна, Віц. р.).

**СЬМЯРОТНІК**, а, *м.*—мертвец. Наш сусед зхварэў, што выглядае, як сьмяротнік (Беліца, Сен. р.).

**СЬМЯРОТНЫ** — смертельный. Хадзі кол ты сьмяротны! Сьмяротную рубаху адзеў (Карповічы, Віц. р).

**СЬМЯТАНА**, *ж.* — сметана. Сьмітанай белюць капусту (Альшанікі, Беш. р.).

**СЬМЯТАНІК**, а, *м.*—репяшок обыкновенный. Agrimonia Eupatoria L. Сьмятаніка ня вырвеш—падкапай (Канёва, Сен. р.).

**СЬМЯХОТА**, *ж*—смех. Во наробіў сьмяхоты (Доўжа, Куз. р).

**СЬНЕДАНЬНЕ, СЬНЯДАНЬНЕ**, *н.*—завтрак. Учора на сьнеданьне былі былі бліны ў нас (Падлазьнікі, Куз. р.). Ужо сняданьне на стале, а ты усё няйдзеш (Заазерье, Сен. р.).

**СЬНЕДАЦЬ**, *дзс.*—завтракать. Хадзі сьнедаць (Курына, Куз. р.).

**СЬНІТКА**, *ж.*—снить. Aegopodium podagraria L. Сьнітку іногды варуць (Машчоны, Сен р.).

**СЬНІЦЦА**, *дзс.*—сниться. Каб ты ня сьніўся! (Беліца, Сен. р.).

**СЬНІЦЬ**, *дзс.*—видеть что нибудь во сне. Я сягоньня сьніла цябе (Бабінічы, Віц. р.).

**СЬНІЧНА** — плотно. Крышка сьнічна накрываець (Рыбчына, Сір. р.). Як ён тут сьнічна прыгнаў падушку к восі, што ня відна дзе яны сходзяцца (Глебаўск, Сен. р.).

**СЬНІЧНЫ** — плотный. Не ён ціпер сьнічны мост меіць (Рыбчына, Сір.)

**СЬНЯДАНКА**, *ж.* — девушка сопровождающая невесту в дом жениха. Сьнянданкі з маладухай паехалі к маладзенцу (Альшанка, Чаш. р.).

**СЬПЕВЫ**, аў, *м.*—песни. Бывала сьпевы завядуць (Казімірова, Сур. р.).

**СЬПЕЛІЦЬ**, *дзс.*—способствовать созреванию, оставлять зреть. Сьпеліў яблыкі, а ночы ўчора нехта абабраў! (Сьцяпанавічы, Меж р.).

**СЬПЕЛЫ**—зрелый. Суніцы ўжо сьпелыя (Доўжа, Куз. р,).

**СЬПЕРЦІ**, *дзс.* — 1) утащить. Часікі сьпёр (Ковалькі, Куз р.); 2) скучить. Сьперлі ўсіх у кут (Доўгае, Беш. р.).

**СЬПЕСТАВАНЫ** — избалованный. Ён сьпеставаны (Пустынкі, Сен. р).

СЬПЕЎКА, *ж.* — любопытная. Сьпеўка ты, ўсюды ведаеш! (Дзямідавічы, Чаш. р.).

СЬПЕШКА, *ж.*— спешка. У нас цяпер сьпешка бальшая (Стаішча, Чаш. р.).

СЬПІЖАРНЯ, *ж* — кладовая. У сьпіжарні пастаў (Доўгае, Беш. р.).

СЬПІРАНЬНЕ, *н.*—спор. У іх халупі усёгды сьпіраньне (Луг, Беш. р.).

СЬПІРАЦЦА, *дзс.* — спорить. Годзе вам сьпірацца? (Доўжа, Куз. р.).

СЬПІЦКА, *ж.*—костяное шыло, которым подплетают лапти. Я йшчу, дзе мая сьпіцка, аж яе сабака узяў і грызець (Рыбчына, Сір. р.).

СЬПІЧАСТЫ — остроконечный. У яго сьпічастая дзітка (Доўжа, Куз. р.).

СЬПЯВАКА, і, *м.*— певец. Такі сьпявака — казлом дзярэць! (Брыды, Меж. р.).

СЬПЯВАЦЬ, *дзс.* — петь. Яна добра сьпяваець (Раіны, Аз. р.).

СЬПЯВАЧКА, *ж.*— певица. Іна ў нас первая на сяле сьпявачка (Гунчанкі, Сур. р.).

СЬПЯРША—сперва. Сьперша паймай ярша, а тады ня цяшка улавіць і ляшча (Гарнова, Сен. р.).

СЬПЯКОТА, *ж.*—жара. У жніво бывае вялікая сьпякота (Латыгаль, Сен. р.).

СЬПЯТРЭЦЬ, *дзс.*—высохнуть. За сягонішні дзень сена прама сьпятрэла (Русінава, Сен. р.).

СЬПЯЧЫ, *дзс.* — испечь. Маці сьпякла алаткі (Марцінкава, Куз. р.).

СЬПЯШАЦЦА, *дзс.*—спешить. Здаецца я і сьпяшалася (Чараўкі, Сен. р.).

СЬСІВЕЦЬ, *дзс.*— поседеть. Старык ужо саўсім сьсівеў (Купіна, Віц. р.).

СЬСЯЧЫ, *дзс.*—срубить. Мікіта сьсек дрэва (Раманаўка, Сен. р.). Ён тую бярэзіну ужо сьсек (Міхалі, Куз. р.).

СЬЦЕЖКА, *ж.*—тропинка. Па гароду зьдзелана сьцежка (Лужасна, Куз. р.). Кала майго цераму сьцежачкі - дарожачкі (Яноўшчына, Беш. р.).

СЬЦЕНЬ, ю, *м.* — болезнь от испуга. Нада схадзіць к бабі выбраць сьцень (Сяргейкі, Сен. р.).

СЬЦЕРАГЧЫ, *дзс.* — беречь. Трэба сьцерагчы збожжа (Кузьміно, Сен. р.).

СЬЦЕРАГЧЫСЯ, *дзс.*—беречься. Сьцеражыся, а то цябе могуць абвінаваціць (Пятніцкая, Беш. р.).

СЬЦЕРЦІ, *дзс.* — стереть, содрать. Конь сьцёр плечы хамутом (Пустынкі, Сен. р.). Сьцёр я дзень панапрасну (Гуліна, Сен. р.).

СЬЦЁБНУЦЬ, *дзс.*—стегануть. Сьцёбнуў каня пугай, а ён як панёсься, дык чуць жыў застаўся (Ліпна, Сен. р.).

СЬЦЁПКА, *ж.* — курная хата для клубнеплодов, овощей. У нашай сьцёпке многа мышэй (Сідоры, Меж. р.). Пар. істопка.

СЬЦІБРЫЦЬ, *дзс.* — стащить. Нічога не кладзі з краю, сьцібрыць, як відзіш (Глебаўск, Сен. р.).

СЬЦІПНА—ловко, аккуратно. Пражыла я, слава богу, сьціпна, нічога дурнога ня ведала (Навікі, Віц. р.). Яна сьціпна кросны тчэць (Лук'янова, Сен. р.).

СЬЦІПНАСЬЦЬ, *ж.*—ловкость, аккуратность. Ніякай сьціпнась-

ці ў яго рабоці німа (Свярдлы, Беш. р.).

СЬЦІПНЫ--ловкий, акуратный. У Карнея дочкі такія сьціпныя—можыш любую сватаць (Заазер'е, Сен. р.). Ён ня дужа сьціпненькі, а так цапу-лапу... (Запрудзьдзе, Сен. р.).

СЬЦІРКА, *ж.* — тряпка которой вытирают посуду. Вазьмі апсьцірку, ды абатры пасуду (Забор'е, Сен. р).

СЬЦІРСТВА, *н.*—потеря. Гэта справа нарабіла нам шмат сьцірства (Беліца, Сен. р.).

СЬЦІХАМІРЫЦЦА, *дзс.*—успокоиться. Ці скора вы ўжо сьціхамірыцеся? (Кузьміно. Сен. р.).

СЬЦІХНУТЬ, *дзс.* — утихнуть. Сьціхні, ня дуры! (Навікі, Віц. р.).

СЬЦЬВЕРАЛОМ, у, *м.*—подмаренник. Galium verum L. Во, навязаўся! і сьцьвералом яму пакажы (Прыветкі, Сен. р.).

СЬЦЮДЗЁНЫ—холодный Сёлета была сьцюдзёная зіма (Рыбчына, Сір. р.).

СЬЦЮДЗЕНЬ, я, *м.*—холодное. Сьдюдзень варуць к свадзьбам, хрэсьбінам (Альшанікі, Беш. р.). Якая смачная сьцюдзень была на свадзьбе (Ткачы, Аз. р.). Пар. студзень.

СЬЦЮЖА, *ж.*—стужа. Сёньня на дварэ сьцюжа (Павульле, Чаш. р.).

СЬЦЯБАЧКА, *ж.* — лопатка, брусок для острения кос. На, памачы там маю сьцябачку ў мокры пясок—нада касу йстрыць (Вербялі, Сір. р.).

СЬЦЯБЛІСТЫ—с длинным стеблем. Сьцяблістае жыта (Іванск, Чаш. р.)

СЬЦЯБЛО, *н.* — стебель. Доўгае сьцябло ў жыці сёліта (Леніна, Сур. р.).

СЬЦЯГА, *ж.* — тропа. Тэю сьцягою пайшлі (Папкі, Гар. р.).

СЬЦЯГНО, *н.*—1) бедро. Сьцягно нешта забалела (Навікі, Віц. р.); 2) окорок. І адно сьцягно ёсьць яшчэ (Навасёлкі, Сен. р.).

СЬЦЯГНУЦЬ, *дзс.* — стянуть. Ён ня жыў, каб ня сьцягнуць чужое (Оўсішча, Сен. р.).

СЬЦЯЛУХА, *ж.*—вероника аптечная. Veronica officinalis L. А сьцялухі паранай ні давалі ей? (Хацешына, Гар. р.).

СЬЦЯМІЦЬ, *дзс.*—понять, приметить. Я даўно сьцяміў, куды ён ходзіць лоначы (Глебаўск, Сен. р.). Ніяк ня сьцямлю, што ён робіць (Слабодка, Куз. р.).

СЬЦЯНА, *ж.* — стена. У нас сьцены пабеляны (Раіны, Аз. р.).

СЬЦЯЦЬ, *дзс* — быстро срезать, снять. Сьцялі галаву. Сьцяў дупцом былінку (Мяжа, Меж. р.).

СЮДОЙ—сюда. Ты ідзі сюдой, а я пайду тудой (Сукрэмна, Сен. р.).

СЮДЫ — сюда. Падай сюды даёнку (Шарыпіна, Беш. р.).

СЮР, *вкл.* — зов ягнят. Сюр, сюр, сюр, шуткі маі! (Веляшчковічы, Лёз. р.).

СЯБРА, ы, *м.*—приятель. Пятрок быў мой сябра, зь ім мы доўга дружылі (Рыбчына, Сір. р.).

СЯБРАВАЦЬ, *дзс.* — дружить. Калі-та мы зь ім сібравалі (Рыбчына, Сір. р.).

СЯБРОЎСТВА, *н.*—дружба. У старіну мы вадзілі сяброўства: адзін у другого пілі, елі; на свадзьбе гулялі (Рыбчына, Сір. р.).

СЯВАЛКА, *ж.*—ручная сеялка. Дзет сплёў сявалку (Чарнагосьці, Беш. р.).

СЯВЕЦ, *м.* — ржанка. Charadrius pluvialis L. Сяўцы вераніца-

мі ўжо лётаюць (Астроўна, Віц. р.).

СЯГОЛЕТАК, а, *м.*— животное нынешнего года. Сігалетка прадалі даўно (Навікі, Віц. р.).

СЯГОНЬНІ, СЯГОДНІ, СЯНЬНІ—сегодня. Я сягоньні быў у Хвёдара (Бікложа, Беш. р.). Сягодні пайду на кірмаш (Шарыпіна, Беш. р.). Мы сяньні закапалі лехі (Застадольле, Сен. р.).

СЯДАШ, а, *м.* — посконник. Eupatorium cannabinum L. Сарві, панюхай сядаша (Цеплякі, Сен. р.).

СЯДЗЕЛЬНЯ, СЯДЗЕНЬНЯ, *н.* —сиденье в телеге, санях. Папраў сядзельню (Грава, Сен. р.).

СЯДЗЕЦЬ, *дзс.* — сидеть. На ганку сядзела дзяўчына (Гарывецк, Сен. р).

СЯДЗЁЛКА, *ж.* — черезседельник Куды сядзёлку закінуў? (Бабінавічы, Выс. р.

СЯДЗІБА, *ж.* — усадьба. На старой сядзібе жывець (Забабуры, Гар. р.).

СЯК, а, *м.*—крестьянин Смоленской губернии. Сякі гонюць ганкі ў Рыгу (Сьвярдлы, Беш. р.).

СЯКАНКА, *ж.* — кушанье из мелко изрубленного теста. Сяканку паставілі на стол (Узнор, Гар. р.).

СЯКАНУЦЬ, *дзс.* — ударить. Грат так сякануў, што я чуць пад ток забех (Оўсішча, Сен. р.).

СЯКАЧ, а, *м.* — железка на древке рубить траву, клубнеплоды. Бяры сякач і сякі храпу (Жукава, Аз. р.).

СЯКЕРА, *ж.*—топор. Бяры сякеру й насекі дроў ў печ (Міхалі, Куз. р.).

СЯЛІБА, СЯЛІДЗЬБА, *ж.* — усадьба. Сялібінка моя родная! (Новае, Беш. р.). Яна маець добрую сялібу (Машчоны, Сен. р.). У яго добрая сялідзьба (Беліца, Сен. р.). Пар. сядзіба.

СЯЛІТАВАЦЬ, *дзс.* — спешить. Не сялютуй ты! (Лоўжа, Сір. р.).

СЯЛІЦЦА, *дзс.*—селиться. Яны будуць сяліцца на пасіке (Стаішча, Чаш. р.).

СЯЛО, *н.*—село. Кала сяла цячэць рака (Ульлянавічы, Сен. р.). Якуб, пойдзем на сяло! (Шарыпіна, Беш. р.).

СЯЛЯВА, *ж.*—ракушка. Coregonus albula L. Сяляву злавіў (Маркаўшчына, Віц. р.).

СЯМАК, а, *м.*—монета. На сямак купіў баранкаў (Ганкавічы, Беш. р.).

СЯМІЗЬВЁЗДАЧКА, *ж* — Плеяды. Сямізьвёздачка ўжо высока (Бяскатава, Гар. р.).

СЯМ'ЯНКА, *ж.* — семьянинка, член семьи. Якая-ш ты тады сем'янка наша, калі ня хочаш з намі есьці? (Жукаўшчына, Куз. р.).

СЯНЬНЕШНІ — сегодняшний. Прыдзі - прыдзі мой міленькі, на сяньнешні вечарок (Запрудзьдзе, Сен. р.).

СЯНЬНІК, а, *м.*—тюфяк. Сяньнік выкалаці (Дубінкі, Беш р.).

СЯРАНКА, *ж.*—спичка. Зажгі сяранку (Застарыньне, Беш. р.).

СЯРБАЙЛА, *аг.*—кто ест прихлебывая. Цішэй еш, сярбайла, а то сорам прад людзьмі! (Сураж, Сур. р).

СЯРДАВАЦЬ, *дзс.*—сердиться, злиться. Я дужа сярдую на сябе, што ня суздолю робіць (Сьліжыкі, Куз. р.).

СЯРЭБРАНІК, у, *м.* — лапчатка Potentilla anserina L. Авой,

якей красівы сярэбранік! (Шыпы, Сен. р.).

**СЯРДЗЕЧНІК**, у, *м.*—1) живучка, молодил остролистый, скачки. Sempervivum soboliferum Sims. Сярдзечніку ні знашла (Раманаўка, Сен. р.); 2) золототысячник. Erytraea centaurium L. Сярдзечнікам лечуць (Лужасна, Куз. р.).

**СЯРЭДЗІНА**, *ж.*—1) средина. На самай сярэдзіне зламаўся (Лужасна, Куз. р.); 2) спина, крестец. Сярэдзіну нешта ломіць (Навікі, Віц. р.).

**СЯРМЯГА**, *ж.*—сермяга, армяк. Яго сярмяга нічога ня грэе (Павульле, Чаш. р.). Старыя людзі звалі сярмягай, а цяпер кажуць армяк (Бель, Выс р.).

**СЯРНІЧКА**, *ж.*—спичка. Узатры ты сярнічку (Пустынкі, Сен. р.).

**СЯРОД**—среди. Стаіць сярот дарогі растарэшча ногі, рогі есьць, а ня бык? (саха) (Шкалёўка, Беш. р.). Сядзь сярот нас, будзеш гасьцём (Н о в а с ё л к і, Сен. р.).

**СЯСТРА, СЯСТРУЛЬКА, СЯСТРЫЦА**, *ж.*—сестра. Яго сястра прыехала із гораду (Ісачкава, Аз. р.). Сяструлька мая, жыва ты будзеш па самую сьмерць (Запрудзьдзе, Сен. р). Дадушы-ш мая сястрыца праўда! (Чаш. р.).

**СЯСТРУХА**, *ж.*—двоюродная сестра. Сяструха са мчой жывець (Горкі, Аз. р.).

**СЯЎБА**, *ж.*—посев. Сяўба ўжо скончана (Шчарбакі, Куз. р).

**СЯЎБІТ**, а, *м.*—сеятель. Наш бацька сяўбіт на ўсю дзярэўню (Пятніцкая, Беш. р.).

**СЯЎНЯ**, *ж.*—лукошко, из которого сеют. Сяўню новую купіў (Мяжа, Меж. р.). Пар. сявалка.

**СЯЧЫ**, *дзс.*—сечь, рубить. За возерам сякуць лес (Пужалава, Аз. р).

# Т.

**ТАБАКА**, *ж.*—табак. Nicotiana rustica L. (махорка), N. Tabacum L. (табак настоящий). Колькі плаціў за табаку? (Навікі, Віц. р.). У гародзі ў міне расьцець табака (Лужасна, Куз. р).

**ТАБАКЕРКА**, *ж.*—табакерка, сделанная из бересты коробочка для нюхательного табаку. Міхась нашоў поўную табакерку табакі (Павульле, Чаш. р.).

**ТАБЛІЦА**, *ж.*—дощечка на верстовом столбу. Зірні на табліцу—колькі яшчэ вёрст? (Мікалаёва, Куз. р.).

**ТАБУРЭТ**, а, *м.*—табурет. Сядзь, дзядзіна, на табурэце (Аськершчына, Беш. р.).

**ТАВАРЫШКА**, *ж.*—подруга. Ёй пасабіла таварышка (Капланы, Віц. р.).

**ТАГАН**, у, *м.*—колыбель. Кладзі дзяцёнка ў таган (Ножынкі, Сен. р)

**ТАГАНЫ**, оў, *м.*—штатив, треножник из трех палок—шестов, связанных канцами, за которые вешают колыбель. Маша ўзяла Зоську, а Янка таган і люльку і пашлі жаць (Сьвеча, Беш. р.). Пар. тычаны.

**ТАДЫ**—тогда. Тады ўжо будзіць позна (Мазалава, Куз р.). А тадых куду мы пойдзем? (Макеенкі, Аз. р.).

**ТАДЫ-СЯДЫ**—иногда, кое когда. Я ня мела павольнага ча-

су, а тады-сяды прыскакалі, так усі грады й выпалалі (Раманаўка, Сен. р)

ТАДЫШНІ — тогдашний. Па тадышняму часу яно было добра (Доўжа, Куз. р.).

ТАІЦЦА, *двс.*—утаивать. Яму ня можна было гэтак таіцца (Сянно, Сен. р.).

ТАЙНІК, а, *м.*—падучая болезнь. Мучыць ён, гэты пракляты тайнік усярэдзіне (Санікі, Беш. р.).

ТАКАВІШЧА, *н.*—пол в овине, риге. Жыта малоцяць на такавішчы (Сураж, Сур. р.). Пар. такаўня.

ТАКАЎНЯ, *ж.* трехстенная пристройка к овину. У такаўню злажылі ячмень (Дзяды, Сір. р.).

ТАКІ—такой. Ён ад роду такі. Такей будзіць харош (Навікі, Віц р.).

ТАКОЎНЯ. *ж.*—площадка для молотьбы. Кладзі снапы на такоўню ды калаці цэпамі (Бабінічы, Віц. р ). Пар. такавішча

ТАЛАКА, *ж.*—помочь Каб ні вясельле, да не талака, жыў-бы конь два века (Копцевічы, Чаш. р )

ТАЛАКНО, *н.*—толокно. Мука на талакно павінна быць з паранага аўса (Альшанікі, Беш. р.).

ТАЛАЛУЙ, ю, *м.*—1) жидкое мучное кушаньне. Садзіся, талалуя зьеш (Селішча, Гар. р.); 2) болтун, бестолковый. Слухай ты, што еты талалуй меліць! (Лужасна, Куз. р.).

ТАЛАН, у, *м.*—талант. У яго талан на скрыпцы граць (Хадулава, Куз. р ).

ТАЛАНІЦЬ, *дзс.* — удаваться, иметь удачу. Яму ва ўсім таланіць ( тасева, Выс. р.).

ТАЛАНЯ, *ж.* — удача. Неік няма яму ні ў чым талані (Вейна, Сен. р ).

ТАЛАЧАНЕ, *зб.* — участники «талакі» (гл.). Талачан іна многа, многа сабрала (Амільянова, Лёз. р.).

ТАЛЕР, а, *м.*—талер, монета. Налічылі тры талеры, кап любілі кавалеры (Сукрэмна, Сен. р.).

ТАЛЕРКА, *ж*—тарелка. Палажы гуркоў на талерку (Стаішча, Чаш. р.).

ТАЛМУДКА, *ж.* — болтунья. До'лапатаць, талмутка! (Гарадок, Гар. р )

ТАЛМУДЗІЦЬ, *дзс.* — молоть вздор. Не талмудзь ты—прыкра слухаць! (Гарадок, Гар. р ).

ТАЛО, *н.* — полынья, богатая рыбой. На тым возеры ёсьць тало (Балдыкова, Аз. р.).

ТАЛЬКА, *ж.* — очень тонкая пряжа, нитка. Вядзі ты таней тальку (Вяжышча, Беш. р.).

ТАМ, ТАМАКА, ТАМАЦЬКА, ТАМАЧКІ — там. Там вяроўкай зьвязалі (Альшанікі, Беш. р.) Тамака я ўжо быў (Прыстоі Чаш. р.). Вун тамацька вазьмі (Прусаўкі, Аз. р.). Я тамачкі паклала (Бешанкавічы, Беш. р ).

ТАМБУР, а, *м.*, ТАМБУРКА, *ж.*—крючек для вязанья кружева. Нашла тамбур добры (Новае Сяло Беш. р.). Тамбурка ссорылася (Бяскатава, Гар. р ).

ТАНДЭТНЫ — дешевый, непрочный, сделанный не по заказу. Я ашукаўся — купіў тандэтныя боты (Сянно, Сен. р.).

ТАННА—дешево. Натта танна даюць за бульбу (Чашнікі, Чаш. р.).

ТАНЯНЁХ — няньчанье капризных детей Усё танянёх, ды танянёх, зьдзівіся на ейнае дзіцятка (Жукаўшчына, Куз. р.).

ТАПЛЁНКА, *ж.* — парное молоко. Таплёнкай разводзяць крупеню (Альшанікі, Беш. р.).

ТАПОР, а, *м.*—топор. І тапор і пешню ўпусьцілі ў зяро (Альшанікі, Беш. р.).

ТАПТУН, ТАПУН, а, *м.*—рыболовный снаряд. Имеет форму трехгранной призмы. Делается из сетки, прикрепленной к отдельным ребрам, составляющим грани призмы. При помощи деревянной рукоятки, прикрепленной у основания конуса, кладется боком призмы на дно реки или ручья, и в него загоняют рыбу, топая по воде ногами или ударяя палками. Пайдзем лавіць рыбу таптуном (Храпавічы, Куз. р.). Тапуном налавіў рыбы (Александрова, Гар. р).

ТАПЧАН, а, *м.* — широкая скамья. Міса стаіць на тапчане (Нов. Сяло, Беш. р.). Сьцяліся на гэтым тапчане, ды кладзіся спаць (Забор'е, Сен. р.).

ТАРАДЭЙКА, *ж.*—таратайка, тележка. Ні траплі ты, як тарадэйка (Сукрэмна, Сен. р.).

ТАРАКАН, а, *м.* — таракан. Stylopyga (Periplaneta orientalis L). Каб цябе тарканы патачылі! (Слабодка, Беш. р.).

ТАРАЛАЦЬ, *дзс.* — тарахтеть. Таралай, жалескі, таралай, павязьлі дзевачку з пекла у рай (Сукрэмна, Сен р.).

ТАРАН, а, *м.*—сушеная рыба. Купіў два хунты тараноў (Марчонкі, Сур. р.).

ТАРАНТАС, а, *м.* — большая телега для возки сена и снопов. Тарантас маеш, дык і сена вазіць ня гора (Сукрэмна, Сен р)

ТАРАРАХАЦЬ, *дзс.* — тарахтеть. Калёсы тарарахаюць (Чашнікі, Чаш. р.).

ТАРГАВАЦЦА, *дзс.* — торговаться. Таргуецца дарма (Яноўшчына, Беш. р.).

ТАРКА, *ж.*—терка. Яна купіла тарку церці буракі (Пясочак, Куз р.).

ТАРКАНОК, а, *м.* — заколка для волос. Я купіла сабе тарканок (Калюскі, Беш. р.).

ТАРОЧЫЦЬ, *дзс.* — трещать. У выгарі лягушкі тарочуць (Чарніца, Лёз. р.).

ТАРПА, *ж.*—1) скирда, сложенная в сарае, между двумя противоположными стенами, узкою полосой. Тарпу сена думаю прадаць (Пятніцкая, Беш. р.); 2) крыша на столбах без стен, где складывали сено. Тарпа стаяла ўсёгды на лузе далёка ад дому (Любашкова, Выс. р.); 3) торф. Ягор навазіў тарпы на ніву (Вядрэнь, Чаш р).

ТАРЧЭЦЬ, *дзс.*—торчать. Чаго тарчыш? Ай падаконны білет узяў? (Доўжа, Куз р.).

ТАРЧМА, ТАРЧМАКОМ — отвесно. Тарчма галавой паліцеў з гары (Асінаўка, Выс. р.). Тарчмаком с крышы паляцеў (Лужасна, Куз. р.).

ТАРЧЫЦЫ, *ж.*—тонкие доски. Нада тарчыцы папілаваць (Мікалаёва, Куз. р.).

ТАТА, ТАТАЧКА, ТАТКА, ТАТУЛЬКА, ы, і, *м.*—папа, тятя. Тата увыйшоў на поле (Лалыкі Аз. р). Татка, купі мне каралі (Бешанкавічы, Беш. р). А, татачка, ты мой родненькі (Сянно, Сен. р.). Татулька адзеў армяк (Капланы, Сен. р.).

ТАТУСЬ, я, *м.* — крестный отец. Татуся трэба пазваць на вясельле (Сянно, Сен. р.).

ТАЎКАЧ, а, *м.*—толкач. Хоць таўкачом, дык ёсьць па чом (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ТАЎКАЧЫКІ, аў, *м.*—полевой хвощ. Equisetum arvense L.

Пайдзем зьбіраць таўкачыкі сьвіньням (Асінаўка, Беш. р.).

ТАЎСТУХА, *ж*—1) толстуха. Стаяла асіна—таўстуха (Падрэзы, Чаш. р.); 2) горечавка перекрестолистная. Gentiana cruciata L. Сарві таўстуху, во расьцець (Раманаўка, Сен. р.).

ТАЎСТЫ--толстой. Во, таўсты чалавек! (Альшанікі, Беш. р.).

ТАЎХАЦЦА, *дзс.*—толкаться. Як шмат людзей, дык заўсёды таўхаюцца (Чашнікі, Чаш. р.).

ТАЎХАЦЬ, *дзс.*—толкать. А, ня таўхай ты! (Яноўшчына, Беш. р.).

ТАЎЧОНІКІ, аў, *м.* — блины из толченого картофеля. Нада печ таўчонікі (Нов. Сяло, Беш р.).

ТАЎЧЫ, *дзс.*—толочь. Трэба таўчы ячмень (Ісачкава, Аз. р.).

ТАЎЧЫСЯ, *дзс.* — требовать случки. Наша сучка таўчэцца (Семянцова, Беш. р.).

ТАЎШЧЫНЯ, *ж.*—толщина. А як на таўшчыню, ці тоўстае? (Слабодка, Куз. р.).

ТАШНАВАЦЬ, *дзс.* — тосковать. Наш Кастусь ташнуіць, бо даўно бачыў сваю жонку (Русінава, Сен. р.).

ТВАР, у, *м.*—лицо. У яго нячысты твар (Гархоўе, Беш. р.).

ТВОРАГ, у, *м.* — творог. Ці даць табе творагу? (Доўжа, Куз. р.).

ТЭБЕЛЬ, я, *м.*—длинный, самый большой бурав для сверления толстых предметов. Тута адно тэбілем пракруцілі (Латыгаль, Сан. р.).

ТЭРМІН, у, а, *м.*—срок. Я пазычу табе грошы, але на малы тэрмін (Беліца, Сен. р.).

ТЭРТУС, у, *м.* — гул, шум, ужас. Па лесе пашоў тэртус (Сяркуці, Сен. р.). Аш тэртус захапіў (Беліца, Сен р.).

ТКАЛЬЛЯ, ТКУЛЬЛЯ, *ж.*—ткачиха. Ірына добрая ткальля (Асінаўка, Беш. р.). Ткульлі ткуць палатно (Лалыкі, Аз. р.).

ТКАНІНА, *ж.*—ткань. Парткі пашыты із етай тканіны (Зямковічы, Сен. р.).

ТКАНКА, *ж.*—головной убор, из тонкого обруча обшитого тканью Ці ня відзеў, ты, маю тканку? (Спасская, Сір. р.).

ТКАНЬНЕ, *н.* — тканье. Былі свайго тканьня андаракі (Вяжышча, Беш. р.).

ТКАЦЬ, *дзс.*—ткать. Яна ўмее ткаць (Ісачкава, Аз. р.). Цётка тчэ сабе спадніцу (Оўсішча, Сен. р.).

ТКНУЦЬ, *дзс.*—ткнуть. Ён як ткнуў мне цальцым у вока, ажно іскры пасыпалісь (Глебаўск, Сен. р.).

ТЛУМ, у, *м.*—шум, гам. З чаго тлум падням? (Ульянавічы, Сен. р.).

ТЛУМАЧЫЦЬ, *дзс.*—об'яснять. Ён без конца тлумачыць (Сяркуці, Сен. р.).

ТЛУМІЦЬ, *дзс.* — одурять шумом. Што ты мне тлуміш галаву? (Асіпова, Аз. р.); 2) говорить небылицы. Што ты тлуміш? (Стралкі, Беш. р.). Пра гэта тлумяць ужо ў кожнай хаце. (Сураж, Сур. р.).

ТЛУСТЫ — жирный. Сягодня капуста тлустая ат сала (Гравы, Сен. р).

ТЛУСЬЦЕЦЬ, *дзс*—жиреть. Парасюк добра тлусьцеіць (Оўсішча, Сен. р.).

ТОЙ—тот. Той сам быў там. (Альгова, Віц. р) Што убіў, тое мяса, што зьеў, тое наша (Адамава, Сен. р.). Каб яны зга-

рэлі тэя апасталы (Вядрэнь, Чаш. р.).

ТОК, у, *м* —рига, овин. У таку ляжыць абіч (Каверзіна, Меж. р.).

ТОКАВІШЧА, *н.* — место где находится, был ток. На старым токавішчы пастаўлю пуню (Дабрамысьль, Лёз. р).

ТОЛК, у, *м.* — лад, порядок. Нада дабіцца толку (Вяжышча, Беш. р.).

ТОЛЬКІ—только. Бог сіраціну любіць — толькі долі не дае (Алексінічы, Сен. р ).

ТОМКА, *ж.*—донник Melilotus officinalis Desr. Сарві мне томку (Унава, Лёз. р.).

ТОМНА—дурно. Ей стало томна (Нов. Сяло, Беш. р ).

ТОПІЛЬ, я, *м.*—тополь. Populus, розныя віды. Бубышкі топіля раскідываюцца (Навікі, Беш р.).

ТОРБА, *ж.*—сумка, мешочек. Торба з хлебам у дарозе ня вадзіць (Вішкавічы, Чаш. р.).

ТОРГ, у, *м.*—торговля. Ох, какой харошый сяньні торх (Баранаўка, Куз. р.)

ТОРГАЦЦА, *дзс.* — дергаться. А іграй, дутка, да ня торгайся, пап‘ём, паядзім і разойдзімся (Запрудзьдзе, Сен. р ).

ТОРГАЦЬ, *дзс.* — дергать. У машыне торгаець (Стаішча, Чаш. р.).

ТОЧА, *ж.*—вид полотна. Памачы точу, а то яна высахла (Шлапакі, Сір. р.). Атрэш кусок точы (Застарыньне, Беш. р ).

ТОШНА — тошно. Тошна на сэрцы (Нов. Сяло, Беш. р.).

ТРАБЛО, *н.*—живот обжоры. Набіў-жа ён сваё трабло! (Высачаны, Выс. р.).

ТРАВЕЦЬ, *дзс.*—зарастать травою. Бульбу трэба абганяць, кап яна не травела (Купіна, Віц. р ).

ТРАІЦЬ, *дзс.*—вспахивать 3-й раз. Нада траіць пад ячмень (Вейна, Сен. р.).

ТРАЙНІК, а, *м.*—трехпудовая гиря. Трайнік аднэй рукой падымаю (Сітна, Лёз. р ).

ТРАЙНЯ, *ж*—развилина, соединяющая переднюю и заднюю оси телеги. У калёсах злумалась трайня (Кабыльніца, Куз. р.).

ТРАЙСТКА, *ж* — небольшой мешок, сума. Пакладзі свае рэчы ў трайстку (Гунчанкі, Сур. р.).

ТРАМА, *ж.*—перекрестная, поперечная балка для поддержки потолка. На траме лежаць апцугі (Закур‘е, Чаш. р.). Пар. атрама.

ТРАНТЫ, аў, *м.*—поношенное платье, одежда; лохматья. Я ня буду насіць гэтыі транты (Увалокі, Куз. р.).

ТРАПАЛКА, *ж* — дощечка, которою треплют волокно льна. Трапалка мая ськіпаіцца (Любашкова, Выс. р.).

ТРАПАЦЦА, *дзс.*—вести себя плохо. Больно яна ўжо трэпецца (Пушкары, Сен. р ).

ТРАПАЦЬ, *дзс.* — трепать. Пайду трапаць лён (Любічы, Беш. р ).

ТРАПАЧКА, *ж.*—брусок, дощечка с каменистым слоем с двух сторон для точения кос. Дай мне трапачку касу пайстрыць (Друкава, Выс. р ).

ТРАПЕНЬНЕ, *н* — трепетание. Няхай яго трапеньне возьме! (Крупеніна, Віц. р.)

ТРАПІЦЦА, *дзс.* — случиться. Мне раз трапілася пайсьці тудой (Навасёлкі, Сен. р ).

ТРАПІЦЬ, *дзс.*—попасть Мы як раз трапілі да двор (Санікі, Беш. р.).

ТРАПКАЧ, а, *м.*—кусок холста с бахромой из ниток его же, служащий для носки горшков в поле. Пашукай мне трапкач—нада несьці касцам есьці (Беліца, Сен р).

ТРАПЛО, *н.* — 1) трепло для трепания льна Дай мне трапло (Гушчаны, Сір. р); 2) болтунья. Ну ці баба-ш яна?! — трапло! (Пушкары, Сен. р.).

ТРАПЛЯЦЦА, *дзс*—случаться. Калі нібудзь трапляецца быць (Абухова, Віц. р.). Пар. трапіцца.

ТРАПЛЯЦЬ, *дзс.* — попадать. Трапіў як раз, куды нада было лепш трапляць (Пятніцкая, Беш. р.). Пар. трапіць.

ТРАПУНАК, у, *м.*—случай. З хлопцам быў дрэнны трапунак (Кузьміно, Сен. р).

ТРАПЯТАЦЦА, *дзс.* — трепетать. Зьела рыбінку жывую, трапешчыцца ў жываце (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ТРАСУХА, *ж.* — вид танца польки. Калі пойдуць трасуху, дык не малы пыл падымуць (Ходцы, Сен. р.).

ТРАСУЧКА, ТРАСЦА, *ж.* — лихорадка. Яго ўсё трасучка трасець, дык ён такі худы стаў (Навасёлкі, Сен. р.). Яго трасець трасца (Вейна, Сен. р).

ТРАСЬЦІ, *дзс.*—трясти. Хвороба дужа трасець і паліць (Латыгаль, Сен. р.).

ТРАСЬЦІНА, *ж.*—тонкая узкая линеечка в «бёрдзе» (гл.). У бёрдзе зламалася трасьціна (Сялец, Чаш. р.).

ТРАЎНІК, а, *м.*—однолетний теленок. Я прадаў свайго траўніка (Хабаты, Куз. р.).

ТРАЎНІЦА, *ж.* — однолетняя телка. Я бачыў на полі траўніцу вельмі добрую (Косы, Віц. р.).

ТРАФНЫ — запрещенный к употреблению, нечистый Для іх трафное мяса, а нам можна (Гарадок, Гар. р.).

ТРАЦІНА, *ж.* — третья часть. Траціну свае зямлі за ей даў (Лужасна, Куз. р.).

ТРАЦІНЫ, *ж.* — поминки на третий день после смерти. Траціны лоўкія па ім згулялі (Сукрэмна, Сен. р.).

ТРАЦІЦЬ, *дзс.*—терять. Траць, траць грошы, а што пасьля будзе? (Доўжа, Куз. р).

ТРАЦЯК, а, *м.* — трехлетний теленок, жеребенок. Трацяк згубіўся ў лесі (Макаравічы, Беш. р.).

ТРАЦЯЧКА, *ж.* — трехлетняя телка. Трацячку прадаў (Узнор, Гар. р.)

ТРАШЧЫЦЬ, *дзс.*—соединять, наматывать на клубок одновременно две нитки. Бярыся трашчыць на панчохі (Завань, Гар. р.).

ТРАЯК, а, *м.*—1) трехсаженное бревно. Паедзім трыякі вазіць (Брыды, Меж. р.); 2) 1½ коп. Траяка аддала за пішчык (Бешанкавічы, Беш. р.).

ТРЭ‘, ТРЭБА — надо, нужно. Трэ‘ купіць у апцецы шпігінару (Буй, Сен. р.). Трэба прымацца за работу (Пылькі, Аз. р.).

ТРЭСК, у, *м*—треск. У лясу быў трэск (Шчарбакі, Куз. р.).

ТРЭСКА, *ж.*—щепка Трэска ярка гарыць (Пятніцкая, Беш. р.).

ТРЭСНУЦЬ, *дзс.* — треснуть. Каб цябе паралюш трэснуў! (Цялашы, Рыс. р.)

ТРЭСЬНІ, *ж.*—клубника. Fragaria viridis Duch (F. collina Ehrh.), садавыя адменнасьці. Тры грады засадзілі трэсьнямі (Вядрэнь, Чаш. р.).

ТРЭТАР, у, *м.*—треск. Як даў, аш трэтар пайшоў (Луб'ева, Аз р ).

ТРЭЦЬЦІ — третий. Кідай трэцьцюю (Альшанікі, Беш. р.).

ТРОЙНІ, *ж.* — вилы с 3 зубцами. Прынясі мне тройні (Хмары, Куз. р.).

ТРОНКА, *ж.*—плод картофеля. Я нарваў многа тронак (Сідоры, Меж. р.); 2) ручка перочинного ножа. У маім нажы касьцяная тронка (Ухлё, Чаш. р.).

ТРОП, у, *м.*—след. Іх тропам ішоў да паўдня, а там прышлося кінуць (Янавічы, Сур. р.).

ТРОСЬКА, *ж.*—трезубка овсяничная. Scolochloa festucacea Link. (Festuca borealis M. et K.). Густа троська пашла расьці (Тропы, Выс. р.).

ТРОХА, ТРОХУ, ТРОШКУ, ТРОШАЧКУ—немного. Дай мне троха малака (Курына, Куз. р.). Ён троху не так паставіў хату (Лагавая, Аз. р.). Трошку ні ўтапіўся у сажалку (Замошша, Сен. р.). Прыдзеце трошачку пазьней (Галяшы, Куз. р.).

ТРУБА, *ж.*—1) пастушья труба. Пастух трубіць у новыю трубу (Зачэрня, Лёз. р.); 2) русло реки. Рака ўвайшла ўжо ў трубу (Касачы, Лёз. р,).

ТРУБАЧКА, *ж.*—узкая рыбачья лодочка. Мы ў трубаццы летам катаемся (Шарыпіна, Беш. р.).

ТРУБКА, *ж.*—1) рожок. У ахотніка за плячыма вісела трупка (Гарывецк, Сен. р ); 2) 27—30 арш. скатанного трубкой полотна. У мяне засталася толькі трупка палатна (Асінаўка, Беш. р.); 3) втулка. Сьпіцы ў трупцы крэпка сідзяць (Ульлянавічы, Сен. р.).

ТРУБЛАТЫ—с толстым брюхом. А трублаты які! (Альшанікі, Беш. р.). Пар. трабло.

ТРУМАЛЬ, я, *м.*—битон. Дай мне трумаля, завясьці малако ў горад (Купіна, Віц. р.).

ТРУМАН, а, *м.*—походный железный чайник с узким горлышком и широким дном. Дзядзька прынёс з Рыгі два труманы (Вішкавічы, Чаш. р.).

ТРУНА, *ж.*—гроб. Труна уся красным абіта, людзей зьбеглася многа, музыка іграе, а пяюць так жаласна! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ТРУНЬНЕ, *н.* — сверток чего-нибудь грязного: нижнего белья, верхней одежды. Дарка! забірай ўсё свае труньне дамоў, нада яго памыць (Макеенкі, Аз. р.).

ТРУПЕХЛЫ—трухлый, гнилой. Хата яго трупехлая (Бешанкавічы, Беш. р ).

ТРУПЕХЛІНА, *ж.* — трухлятина, гниль. Прадай пуню на дровы — ужо трупехліна (Б е л ь, Выс. р.).

ТРУПЕХНУЦЬ, *дзс.* — гнить. Бервяно трупехнеець (С я н н о, Сен. р.).

ТРУС, а, *м.*—кролик. Lepus cuniculus domesticus. Больш ня будзем разводзіць трусоў (Ісачкава, Аз. р.).

ТРУСКА, *ж.*—самка кролика, кроличиха. У нас дзьве трускі (Сянно, Сен. р.).

ТРУСКАЎКІ, *ж.* — клубника. Fragaria viridis Duch (F. collina Ehrh.). У саду расьлі трускаўкі (Павульле, Чаш р.). Пар. трэсьні.

ТРУСОК, у, *м.*—опилки. Труском нада будзіць засыпаць (Кабішча, Куз. р.).

ТРУСЯНЁ — крольченок. Выveліся трусяняты (С я н н о, Сен. р.).

ТРУЦІЦЬ, *дзс.* — травить Міхалка труціць рыбу (Селядцова, Беш. р.).

ТРУШКОМ, ТРУХАМ—рысью. Мы ехалі трушком (Селядцова, Беш. р.). Конь бех трухам (Новае Сяло, Беш. р.).

ТРЫБУХ, а, *м.*—желудок. Ці напрэш ты свой трыбух калі? (Сукрэмна, Сен. р.).

ТРЫБУШОНАК, а, *м.* — пробочник. У яго ёсьць ножык з трыбушонкам (Мікалаёва, Куз. р.).

ТРЫВАЛЫ—прочный, выносливый, питательный. Ён трывалы чалавек (Вішняк, Лёз. р.). Таўстыя завесы трывалыя (Гравы, Сен. р.). Гарохавы альбо бабовы блін больш трывалы аўсянага (Ганкавічы, Беш. р.).

ТРЫВАНЬНЕ, *н.* — терпенье. На гэта трэба трываньня! (Дрыкольле, Куз. р.).

ТРЫВАЦЬ, *дзс.* — терпеть. Я больш трываць не магу (Папкі, Гар. р.).

ТРЫЗЬНІЦЬ, ТРЫЛУДЗІЦЬ, *дзс.*—1) бредить. Ён ужо два дні, як трызьніць (Лук'янова, Сен. р.). Як засьнець дык і начнець трылудзіць (Рыбчына, Сір. р.); 2) врать. Ня трылудзь ты, чаго ня было. (Хадулава, Куз. р.)

ТРЫМАЦЬ, ТРЫМАЦЦА, *дзс.*—держаться, держать. Трымай галаву ў холадзе, жывот у голодзе, а ногі ў цяпле (Алексіна, Сен. р.). Ну, цяпер трымайя, сынок! (Сянно, Сен. р.).

ТРЫПЕРСЬЦІЦА, *ж.*—журавленик болотный. Geranium palustre L. Трыперсьціца на балоці расьцець (Касавец, Сен. р.).

ТРЫПУТНІК, у, *м.*—подорожник. Plantago major L., P. media L., P. lanceolata L. На дарозе рос трыпутнік (Вядрэнь, Чаш. р.).

ТРЫСЬНІК, у, *м.*—тростник. Phragmites communis Trin. (Arundo Phragmites L.). Трысьнік у рост чалавека (Яноўшчына, Беш. р.).

ТРЫСЬЦЕН, а, *м.*—пристройка из трех стен к какому нибудь зданию. К хаце прыстроіў трысьцен (Ульянавічы, Сен. р.).

ТРЫШЧЫЦЦА, *дзс.*—раскрываться. Пупышкі на дзераве яшчо ня трышчацца (Ганкавічы, Беш. р.).

ТУДЫ — туда. Той туды пайшоў, а той туды (Яноўшчына, Беш. р.).

ТУДОЙ—туда, тем местом. Ты ідзі тудой, а я пайду сюдой (Сукрэмна, Сен. р.).

ТУЖЭЦЬ, *дзс.* — становиться туже. Як намокла абора, дык і тужэць стала (Сітна, Лёз. р.).

ТУЗАЦЦА, *дзс.*—бороться, тормошиться. Цёця глянь, хлопцы тузаюцца (Доўжа, Куз. р.).

ТУЗАЦЬ, *дзс.* — тормошить. Наша сабака любіць тузаць дзяцей (Рудня, Аз. р.).

ТУЗІН, а, *м.*—дюжина. Купілі тузін гузікаў (Кузьміно, Сен. р.).

ТУЙКА, *ж.*—1) чучело. Туйка ты дурная! (Выгары, Куз. р.); 2) лентяйка. І такая туйка, дык ужо з туек туйка (Гарадок, Гар. р.).

ТУК, у, *м.* — топленый жир. Макалі бліны ў тук (Краўцова, Гар. р.).

ТУКАЎКА, *ж.* — удод. Upupa epops L. (U. vulgaris Pallas). Паляцела ў лес тукаўка (Баркова, Куз. р.).

ТУКАЦЬ, *дзс.*—бить. Халімон тукаець касу. Што ты тукаеш авец—пакінь на завод! (Вяжышча, Беш. р.).

ТУЛАВА, *ж.*—туловище. Скрывілася тулава (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ТУЛІЦЦА, *дзс.* — ласкаться приклоняться. Трое у мяне дзя-

цей, а ні водная да мяне так ня туліцца, як Аленка (Шаркі, Куз. р.). Туліцца ён калі угла (Кузьміна, Сен. р.). Туліцца ад работы (Новае Сяло, Беш. р.).

ТУЛЬ, ю, *м.* — тюль. Жаніх купіў маладусе вельмі красівыя квяты з тулем (Павульле, Чаш. р).

ТУЛЯЦЦА, *дзс.* — слоняться. Добры чалавек ня будзе туляцца (Пятніцкая, Беш. р.).

ТУМАНІЦЬ, *дзс.* — затемнять, пускать пыль в глаза. Што ты туманіш? Усё відзім! (Азярышча, Аз. р.).

ТУПІЦА, *ж.* — кроме общего значения—обух. Забей клін у палена, да папробуй біць тупіцай (Ст. Сяло, Куз. р.).

ТУПЫ—тупой. Тупы твой лазорак (Сукрэмна, Сен. р)

ТУРАВІЦЬ, *дзс.*—понукать. До‘ каня туравіць! (Бель, Лёз. р.).

ТУРБАВАЦЦА, *дзс.* — утруждать. Ня турбуйся, я сам гэта зьдзелаю (Латыгаль, Сен. р.).

ТУРБАВАЦЬ, *дзс.* — беспокоить, утруждать Не магу вас турбаваць (Пятніцкая, Беш. р.).

ТУРБАЦЫЯ, *ж.* — беспокойство, забота. Дзякуй за турбацыю (Раманаўка, Сен. р).

ТУРКАЎКА; *ж.*—1) горлица. Columba turtur L. (Turtur anritus Grag., T. vulgaris Dress., T. communis Brehm). Туркаўка села на пасеў (Дубнікі, Сен. р.); 2) медведка. Gryllotalpa vulgaris hatr. Туркаўка турчыць на дошцы (Аськершчына, Беш. р.).

ТУРКНУЦЬ, *дзс.* — затрубить на ухо «турр» (гл.). Ён мне туркнуў у вуха (Купіна, Віц. р.).

ТУРМА, *ж*—тюрьма. У турму хочаш? (Мікалаёва, Куз. р.).

ТУРНУЦЬ, *дзс.*—толкнуть. Турні яго адгэтуль (Косы, Віц. р.).

ТУРР, *вкл.*—при этих звуках свиньи убегают домой с поля (Запрудзьдзе, Куз. р.).

ТУРХАЦЬ, *дзс.*—толкать. Турхаюць, піхаюць дзяцей (Оўсішча, Сен. р.).

ТУТ, ТУТАКА, ТУТАТКА, ТУТАЦЬКА — здесь, тут. Тут дваццать два хунты (Падсады Сір. р). Тутака нічога няма, а ты рыесься (Шарыпіна, Беш. р.). А тутатка дужа прыгожа (Заазер‘е, Сен. р). Ці тутацька жывець Ігнат? (Рыбчына, Сір. р).

ТУТАШНІ, ТУТЭЙШЫ--здешний, местный. Я туташні (Доўжа, Куз. р.). Ён тутэйшы чалавек (Бешанкавічы, Беш. р).

ТУТУН, у, *м.*—табак Nicotiana rustica L. Пасеялі тутун (Пушкары, Сен. р.). Пар. табака

ТУХЛІК, а, *м.*—тухлый. Ні гуркі ўжо, а тухлікі (Бягуны, Гар. р.).

ТУХНУЦЬ, *дзс.*—1) гаснуть. Лямпа тухніць—газы няма (Вышадкі, Меж. р.); 2) гнить, вонять. Мяса ужо тухніць (Сураж, Сур. р).

ТУХТАЛЬ, я, *м.*--тумак. Надаваў ей тухталёў (Мокавічы, Чаш. р.)

ТУШНІ, ёў, *м.*—вид туфлей. Паш‘ю сабе к лету тушні жаць збожжа (Барашкі, Беш. р.).

ТУШОНКА, *ж.* — зажаренный в закрытой посуде картофель. Тушонкі наеўся (Казаноўка, Чаш. р.).

ТУШЫЦЬ, *дзс.* — 1) зажаривать в закрытой посуде. До ўжо тушыць бульбу (Чарніца, Сір. р.); 2) гасить. Тушы цяпло! (Слабодка, Куз. р).

ТХОР, а, *м*—хорек. Putorius putorius L. (Foetorius putoris Bl).

Тхор паеў піскляг (Пустынкі, Сен р.).

**ТЫДЗЕНЬ**, я, *м.*—неделя. Ужо два тыдні засталося да сьвята (Пекары, Куз. р.).

**ТЫЛЬЛЁ**, *н.* — лезвие ножа. Тыльлё ў нажу дужа тонкае (Аськершчына, Беш. р).

**ТЫЛЬЧЫЦЬ**, *дзс.*—прясть Яна тыльчыць мычку (Вяжышча, Беш. р).

**ТЫНІНА**, *ж* — кол из тына Тыніну адарваў ды па ей! (Мяжа, Меж. р.).

**ТЫНК**, у, *м.* — штукатурка. Тынк абвальваецца (Сялец, Чаш. р.).

**ТЫНКАВАЦЬ**, *дзс.*—штукатурить. Хату трэба тынкаваць, как была цяплей (Гравы, Сен. р).

**ТЫНОК, ТЫН**, а, у, *м.*—изгородь из тонких прутьев. Кала вуліцы загарадзілі тынок (Сьвеча, Беш. р.).

**ТЫНЯНКА**, *ж.*—сарай из тына на четырех столбах. У тынянку трэба пакласьці сена (Дварэцк, Чаш. р)

**ТЫТУН**, а, *м.*—табак. Nicotiana rustica L. Бацька пасеяў тытун (Казаноўка, Чаш р.). Пар. табака, тутун.

**ТЫХАЦЦА**, *дзс.* — неровно биться. Серца начало тыхацца (Пятніцкая, Беш. р.).

**ТЫЦКАЦЦА**, *дзс.* — соваться. Чаго ты тут тыцкаешся, што табе рабіць нечага? (Навасёлкі, Сен. р.).

**ТЫЧАНЫ**, оў, *м* — штатив, треножник для подвешивания колыбели на полевых работах. Пачыні ты мне тычаны (Вяжышча, Беш. р). Пар. таганы.

**ТЫЧКА**, *ж.*—1) садовая, огородная подпорка. Нада паставіць к гароху тычкі (Пустынкі, Сен р.); 2) веха. Пастаў тычкі (Лазок, Куз. р).

# У.

**У**, *прм.*—1) у. У бабы быў адзін сімак (Кр. Сяло, Сен. р.). У Янкава мальца дзяцінец (Краснае-Сяло, Сен. р); 2) в. Збожжа сыплюць у клеці (Кр. Сяло, Сен. р.).

**УБАЧЫЦЦА**, *дзс.*—увидеться, встретиться. Мы скора ўбачымся (Дубнікі, Сен. р.).

**УБАЧЫЦЬ**, *дзс.* — увидеть. Убач жа ты харашэнька, каб ня былі ў гародзе сьвіньні (Глебаўск, Сен. р.). Убачыў воўка і спудзіўся (Лужасна, Куз. р.).

**УБІРАЦЦА**, *дзс.* — собирать с полей, лугов. Я ўжо ўбраўся з жытам (Валькі, Сур. р).

**УБІЦЦА**, *дзс.*—попасть в безвыходное положение. Убіўся— ні ўзат ні ўперат (Стралкі, Беш. р.).

**УБІЦЬ**, *дзс.*—1) убить. Што убіў—тое мяса, што зьеў — тое наша (Адамава, Сен. р.); 2) вбить. Падай мне, сынок, клявец: трэба гвозт убіць (Адамава, Сен. р.).

**УБОГІ**, а, *м.* — нищий. Дай убогаму хуць бульбы! (Стралкі, Беш. р.).

**УБРАЦЦА**, *дзс.* — нарядиться. Наста убралася ў стушкі (Оўсішча, Сен. р.).

**УБРУС**, а, *м.*—скатерть. Убрус каштуе 10 рублёў (Гарнова, Сен. р.). Як палажыла ўбрусы ў луг, дык яны й пабялелі (Глебаўск, Сен. р.).

**УВАБРАЦЬ**, *дзс.* — убрать. Я сваё сена ўвабраў (Гарадок, Гар р.).

УВАГА, *ж.*—1) внимание. Нет у яго ніякай увагі—вецер ветрам (Слабодка, Куз. р.). 2) почтение, уважение. Ён адносіўся к цясьцю з увагай (Пятніцкая, Беш. р.).

УВАЖАЦЬ, *дзс.*—кроме общего значения — обращать внимание. Ня ўважай ты на яе брахню! (Гараватка, Меж. р.).

УВАЖНА — внимательно. Глядзі уважна, каб ні прапусьціць (Доўжа, Куз. р.).

УВАЖНЫ—вежливый, внимательный. Наша кынягіня такая ўважная! (Мазалава, Куз. р.).

УВАЖЫЦЬ, *дзс.* — уступить. Уваш ты яму хоць рас (Стралкі, Беш. р.).

УВАЙЦІ, *дзс.* 1) войти. Увайдзі ў хлеў — увідзіш (Лужасна, Куз. р.). 2) уйти. Лепей увайдзі! (Чарнагосьці, Беш. р.).

УВАЛІЦЦА, *дзс.*—упасть, вброситься. У калодзісь увалілася твая шапка (Слабодка, Куз. р.)

УВАЛІЦЬ, *дзс.*—ввалить. Каб цябе скула ў бок уваліла! (Зямковічы, Сен. р.).

УВАЛОКА, *ж.*—площадь земли (около 20 десятин). У яго дзьве ўвалокі зямлі (Копцевічы, Чаш. р). Пар. валока

УВАЛЬ, *ж*—вуаль, фата. Маладуха купіла ўваль (Русінава, Сен. р.).

УВАЧАВІДКІ—на виду. Гэна мне зрабілася увачавіткі (Гуліна, Сен. р.)

УВАЧЧУ—на глазах, на виду. Тут-жа ўваччу ілгець (Хацімшчына, Куз. р.).

УВЕДАЦЬ, *дзс.* — узнать. Іна ўсё уведаіць, што ні хавай ад іе (Стасева, Выс. р.)

УВЕСЬ—весь. Увесь дзень быў тамацькі (Прусаўкі, Аз. р). Усі яблыкі перанасілі (Яноўшчына, Беш р).

УВЕТЛІВЫ—приветливый, внимательный Бацькі ейныя на дзіва ўветлівыя! (Даўжа, Куз. р.). Пар. ветлы

УВЕЧАРЫ—вечером. Увечары вылі ваўкі, а ня ночы (Кузьміно, Сен. р).

УВІДЗЕЦЬ, *дзс.*—увидеть. Паднімі мяне—я увіджу (Лукашоўка, Беш. р.). Як увідзіце сваімі вачмі, дык веры дасьцё (Запрудзьдзе, Сен р).

УВІТКА, *ж.*—крученная ветвь для привязывания решетки на крыше, связывания кольев в заборе и т. п. Прыцягні там паплеціну ўвіткай (Азярэцк, Сен. р). Пар віткa.

УВОЙ, ю, *м.*—веревка из плохого льна, которой подплетают лапти. Прынясі мне увой, падплесьці лапці (Дарожкава, Сір.р.).

УВОНКАХ—снаружи, надворе. Увонках холадна, — адзень кажух (Чашнікі, Чаш. р.). Пар. вонках

УВОСЕНЬ — осенью. Увосень растуць апенькі (Баркова, Куз.р.).

УВЫЙСЬЦІ, *дзс.*—войти. Увыйсьці ня ведаю як (Канавалава, Куз. р.) Пар. увайсьці.

УВЫХОДЗІЦЬ, *дзс* — приходится. Сяньне нeяк ня ўвыходзіць пайсьці ў царкву (Бікава, Сен. р.).

УВЯЗКА, *ж*—кусок полотна, которым увязывают пищу в поле. Увязку пайшчы, як я так гаршкі панясу? (Сукрэмна, Сен. р.)

УГАДЗІЦЬ, *дзс.*—угодить. Нявестка угадзіла ўсім у хаце (Русінава, Сен. р.).

УГАМАНІЦЦА, *дзс.* — успокоиться. Калі ты угамонісься! (Сяркуці, Сен. р.).

УГАРЫ—вверху. Угары стаяў дым (Пятніцкая, Беш. р.).

УГЛЕДЗІЦЬ, *дзс.* — увидеть, усмотреть. Во, угледзіў рас на вяку! (Доўжа, Куз. р.).

УГЛЯДАЦЦА, *дзс.* — всматриваться. Яна стала ўглядацца (Дзямідавічы, Чаш. р.).

УГНЕВАЦЦА, *дзс.* — рассердиться. Бацька дужа ўгневаўся (Бешанкавічы, Беш. р.).

УГОДКІ, *ж.* — годовщина, поминки через год после смерти. Трэба к уготкам гарэлкі купіць (Сукрэмна, Сен. р.).

УГОДНІК, а, *м.*—угодник. Ён для мяне небальшэй угоднік (Баравыя, Куз. р.).

УГОРУ — вверх. Ён угору пашоў (Храпавічы, Куз. р.).

УГОРЫЧ, а, *м* —угорь Anguilla fluviatils Heck. Угорычы бяруцца на ўюна (Падбярэзьзе, Віц. р.).

УГРЭЦЦА, *дзс.* — согреться. Сьціпан, як акалеў, дык чуць угрэўся (Глебаўск, Сен. р.).

УГРОБІЦЬ, *дзс.* — в гроб вогнать, убить. Ладна, ладна я цябе, паскудніка, угроблю! (Абрэзкава, Сен р.).

УГРУНЕМ, УГРУНЬ — бегом, быстро. Пабяжым угрунем (Ганкавічы, Беш. р.). Ён пусьціўся ўгрунь (Вішкавічы, Чаш. р.).

УДАВЕЦ, а, *м.* — вдовец. Наш удавец ажаніўся (Бешанкавічы, Беш. р.).

УДАГОН — вдогонку. Тарэнта пашоў удагон за ім (Вяжышча, Беш. р.).

УДАЛЫ — удалый, удачный. Удалая цялушка (Сукрэмна, Сен. р.).

УДАРЫНА, *ж.* — часть ниток основы в ткацком станке, которая не вмещается в «бёрда» (гл). Мала бёрда будзіць ударына (Шалёпіна, Аз. р.).

УДАРЫЦЬ, *дзс.* — ударить. Ен мяне дужа больна ўдарыў (Мазалава, Куз. р.).

УДАЦЦА, *дзс.*—удаться. Хлеб удаўся, але пат скарынку кот схаваўся (Запрудзьдзе, Сен. р.).

УДАЧА, *ж.* — удача, успех. Лацьвей калі ўдача у ва ўсіх дзялах? (Пятніцкая, Беш. р.).

УДВАІХ—вдвоем. Удваіх чуць паднялі (Лёзна, Лёз. р.).

УДВАРЭ, УДВАРЫ—дома, во дворе. Ці гэта твой сын удварэ? (Гуліна, Сен. р.). Мая матка січас удвары (Сянно, Сен. р.).

УДВОР—домой. Сьвіньні ўжо ўдвор прышлі (Шарыпіна, Беш р.).

УДВУХ—вдвоем. Ушлі нейкія ўдвух (Чараўкі, Сен. р.). Пар. удваіх.

УДЭЧЫЦЬ, *дзс.*—всучить, обмануть какой либо вещью. Вот удэчылі мне кабылу: сьлепа, кульгаець задам, сьвішчыць у бакі, віхляецца (Ходцы, Сен. р.).

УДОЎЖ—вдоль. Удоўш сьцяны стаіць лаўка (Купіна, Віц. р.).

УДОЎЖКІ—в длину. Удоўшкі пяць сажняў, ушыркі дзьве (Рыбчына, Сір. р.).

УДУБАЛЬТ — вдвое, вдвойне. У яго зямлі ўдубальт (Слабада, Чаш. р.).

УДУКРЫЦЦА, *дзс.* — влезть в голову. Дурню як уду крылася ў галаву, што ён майстар...(Сукрэмна, Сен. р.).

УДУКРЫЦЬ, *дзс.*—вбить в голову. Удукрыў, дык палкай ня выбіць (Луб'ева, Аз. р ).

УДУШША, *н.*— удушье, одышка. Удушша цябе задаві! (Купіна, Віц р.). Ён памёр з удушша (Асінаўка, Беш. р.).

УДЫМКІ—узором из ломаных линий. Удымкі ткаць—за кроснамі нельга спаць, а то папсуеш (Гарнова, Сен. р).

УЕСЬЦІСЯ, *дзс.* — в'есться, впиться. Вош уелась у цела (Оўсішча, Сен. р.).

УЕХАЦЬ, *дзс.* — в'ехать. Мы ўехалі ў такую агібу, што й ня вылезіш (Ганкавічы, Беш. р.).

УЁЎДЗІЦЦА, *дзс.* — удасться, счастливо сойти с рук. Раз яму ўёўдзілася, дык у другі мо ня ўёўдзіцца (Ст. Беліца, Сен. р.).

УЖНЫ—ужели. Ужны ён камандуець? (Чараўкі, Сен. р.).

УЖО—уже. Калі мы йшлі, ужо пявуны пелі (Бікава, Сен. р.).

УЖЫВАЦЬ, *дзс.* — 1) употреблять. Гэтую махорку ў нас ужываюць (Сянно, Сен. р.); 2) богато, хорошо жить. Ён ужывае добра (Стралкі, Беш. р.).

УЖЫШЧА, *н.*—длинная, толстая веревка для увязывания возов сена или снопов. Зьвілі новае ужышча ўвязываць вазы (Пожынкі, Сен. р.).

УЗАБАЛЬ — вправду. Узабаль я хадзіў ўчора ў лес (Лоўжа, Сір. р.). Пар. адзабаль.

УЗАДРАЦЬ, *дзс.* — взодрать, поднять новь. Узадралі аблогу (Глебаўск, Сен. р.).

УЗАПАР—сразу, подряд. Прымусіў выпіць узапар тры чаркі віна (Мянюцева, Сен. р.).

УЗАПРАЎДЫ—в самом деле. Узапраўды кажу, як бох сьвят! (Рыбчына, Сір. р.).

УЗАРАЦЬ, *дзс.* — вспахать. Асталося ўзараць яшчэ пад авёс (Навікі, Віц. р.).

УЗБУДЗІЦЬ, *дзс.*— разбудить. Первым доўгам узбудзі рана (Чараўкі, Сен. р.).

УЗВАЛЬЛЕ, я, *н.*—1) высокий обрывистый берег реки. Мы сядзем на узвальлі (Копцевічы, Чаш. р.); 2) возвышенность над речкой. Будзім сеяць бульбу на узвальлі, кап не падмокла (Гравы, Сен. р.).

УЗГАЛАВАШЧА, *н.*—подушка в телеге. Во гэта добры кацюх на ўзгалавашчы (Ульянавічы, Сен. р.).

УЗГАМАВАЦЦА, *дзс.*—взбудоражиться, подняться. Чаго ты так рана узгамаваўся? (Рыбчына, Сір. р.).

УЗГОРАК, а, *м*—холм, возвышенность. На узгорку пастроен дом (Лужасна, Куз. р.).

УЗДАЦЬ, *дзс.*—поддать Уздай больш духу! (Вяжышча, Беш. р ).

УЗДЭЧКА, *ж.*—уздечка. Уздэчка абшыта гузікамі (Гарывецк, Сен. р.).

УЗДОЎЖ—вдоль. Ішоў уздоўш поля (Копцевічы, Чаш. р ).

УЗДРЫГАНУЦЦА, *дзс.*—вздрогнуть. Увесь сьвет уздрыгануўся. Дзяўчынка уздрыганулася й прашнулася (Навікі, Віц. р.).

УЗДУЦЬ, *дзс.*—вздуть. Ах ты, Дуня, уздуй агонь: купіў новую гармонь (Запрудзьдзе, Сен. р.).

УЗІМКУ—зимой. Калі ўзімку на дрэвах шэрасі шмат, тады вясной трэба сеіць ячмень (Алексінічы, Сен. р.).

УЗЛОБАК, а, у, *м.*—холм, возвышенность Хата стаіць на узлопку (Луб'ева, Аз. р.).

УЗЛОНЬНЕ, *н.*—лоно. Вазьмі хлопчыка на ўзлоньня (Сянно, Сен р.)

УЗНОВА—снова. Васіль прыхадзіў ўзнова (Сялец, Чаш. р).

УЗНОР, у, *м.* — 1) родник, ключ. Я напіўся з ўзнору (Веляшковічы, Лёз. р.); 2) низина.

Па узнору хадзіў бусел (Шчучына, Куз. р.).

**УЗОР**, а, *м.*—узор, образец. Па етаму ўзору вышый (Мянюцева, Сен. р.).

**УЗРЭХ**, у, *м.* — случайно невспаханное, пропущенное место. Ну й надзелаў жа ты ўзрэхаў! (Русінава, Сен. р.).

**УЗЫЙСЬЦІ**, *дзс.*—взойти. Узыйшло сонца (Крыльцова, Сен. р.).

**УЗЫЧЫЦЬ**, *дзс.* — удружить. Вот я табе ўзычу! (Чараўкі, Сен. р.)

**УЗЬБІЦЦА**, *дзс.*—взобраться, взлезть. Чаго ты ўзьбіўся на печку? (Вейна, Сен. р.).

**УЗЬЕСЬЦІСЯ**, *дзс.*--вз'есться. Узьелася жонка на Івана (Оўсішча, Сен. р.).

**УЗЬМЕЖАК**, у, *м.*—край луга около пашни. Назьбіралі красак на узьмежку (Белькава, Беш. р.). Нада выцярабіць узьмежак ад лазы (Веляшковічы Лёз. р.).

**УЗЬМЯШАЦЬ**, *дзс.*—вспахать второй раз. Пайду пад жыта узьмяшаю (Касачы, Лёз. р.).

**УЗЬНЯЦЦА**, *дзс.*—подняться. Узьняўся бальшы вецір (Баркова, Куз. р.).

**УЗЬНЯЦЦА**, *дзс.*—подняться. Віхор узьняўся (Мехава, Аз. р.).

**УЗЬНЯЦЬ**, *дзс.* — 1) поднять. Узьніміця гэтыя думкі (Тухінка, Сен. р.); 2) затеять. Яны узьнялі сварку міш сабой (Вейна, Сен. р.).

**УЗЬЮРХАЦЦА**, *дзс.* — разойтись, раскричаться. Узьюрхаліся й пачалі пускаць з насоў юху (Ходцы, Сен. р.).

**УЗЯЦЦА**, *дзс.* — взяться. Ён за бярно узяўся аберуч (Замошша, Сен. р.).

**УЗЯЦЬ**, *дзс.* —взять. Мы ўзялі па дзьве карзіны (Альшанікі, Беш. р.).

**УДЗЕНЬ**—днем. Удзень дык ён пяюн быў (Лукашоўка, Беш. р.).

**УКАРМІЦЬ**, *дзс.* — 1) накормить. Ні ўкарміць цябе (Гарадок, Гар. р.); 2) утучнить. Худэй быў—ніяк ні ўкарміць (Лужасна, Куз. р.).

**УКАЦІЦЬ**, *дзс* —ударить, всыпать. Вазьмі палку ды харашэнька укаці этаму цюцьку! (Ткачы, Аз. р.).

**УКАШЧЫК**, а, *м.*—указательный палец. Укашчык меньш за сярэдняга пальца (Шарыпіна, Беш. р.).

**УКІНУЦЬ**, *дзс.* — положить, вбросить. Сколькі яму укінуць нада? (Альшанікі, Беш. р.). Пасоп ты мне ўкінуць у ніт (Альшанікі, Беш. р.).

**УКІРАВАЦЬ**, *дзс.*—иметь силу, возможность дать направление. Ня ўкіраваў жарапка, першы раз запрохшы (Гунчанкі, Сур. р.).

**УКЛЯПАЦЦА**, *дзс.*—вклепаться, ошибиться. Наш Мікіта сёньня дык укліпаўся: палічыў незнаёмага чалавека за роднага дзяцьку (Русінава, Сен. р.).

**УКОСЬНІК**, а, *м.* — лента в косе. Дай мне укосьнік заплесьці касу (Лоўжа, Сір. р.).

**УКРАСЬЦІ**, *дзс.* — уворовать. Нехта украў рыдлёўку (Селядцова, Беш. р).

**УКРОМАВАТЫ** — с сердцевиной не в центре (о дереве). Укромаватую сасну сьсек на бальку (Бяскатава, Гар. р.).

**УКРОП**, у, *м.*—укроп. Anethum grovcolens L. Нарвала ўкропу саліць агуркі (Гарадок, Гар. р.). Пар. кроп.

УКРУЦІЦЬ, *двс.* — завернуть. Укруці там у бумашку кусок сала (Марцінкава, Куз. р.).

УКРЫЎДЗІЦЦА, *дзс.* — обидеться. На цябе ня можна укрыўдзіцца, бо ты прамы чалавек (Сянно, Сен. р.).

УКРЫЎДЗІЦЬ, *дзс.* — обидеть. Хто-ш цябе ўкрыўдзіў? (Лук'янова, Сен. р.).

УКУЛЬМІЦЦА, *дзс.* — сосредоточиться, углубиться. Як укульміўся, дык не адарваць (Луб'ева, Аз. р).

УКУЧУ,—в кучу, вместо. Станавіцесь укучу ўсі! (Курына, Куз. р.).

УЛАВІЦЬ, *дзс.*—поймать. Я ўлавіў у жыце зайца (Кураеды, Беш. р.).

УЛАДАЦЬ, *дзс.* — владеть. Ты ня будзеш уладаць гэтай зямлёй! (Рыбчына, Сір. р.).

УЛАЗІНЫ, *ж.*—новоселье, переход в новый дом. Я добра пагуляў на улазінах (Косы, Віц. р.).

УЛАСНЫ — собственный. У мяне есьць уласны конь! (Баркова, Куз. р.).

УЛАСЬНІК, а, *м.* — собственник, владелец. Я уласьнік усяму, а ня ты! (Рыбчына, Сір. р.).

УЛАТОЎК, *м*—курган. Быдла ходзіць на ўлатоўках (Мокавічы, Чаш. р.). Пар. валатоўка.

УЛЕВА,—влево. Як праедзіш дзярэўню зьвярні ўлева (Пяцігарск, Беш. р.).

УЛЕГЦА--налегке. Завёс дровы, а адтуль прыехаў улегцы (Стралкі, Беш. р.).

УЛЕЗЬЦІ, *дзс.*—влезть. Конь улез у гарод, ды здратаваў усю пшаніцу (Марозаўка, Сен. р.).

УЛЕТКУ—летом. Улетку мы хадзілі купацца (Раіны, Аз. р.).

УЛЕШКУ—невысоко, над лесом. Як будзе сонца ўлешку— прыдзі ка мне, Тацянка (Лужасна, Куз. р).

УЛІЦЬ, *дзс.*—влить. Хто тут увальлець гэта парасятам! (Чараўкі, Сен. р.). Улей мне крупені (Глебаўск, Сен. р). Уліце мне сыраквашы (Кураеды, Беш. р.).

УЛЮБІЦЦА, *дзс.*— влюбиться. Яна дужа ўлюбілася ў Івана (Бешанкавічы, Беш. р.)

УЛЮБІЦЬ, *дзс.*—1) возлюбить. Якую ты ўлюбіш? (Альшанікі, Беш. р.); 2) облюбовать, полюбить. Я ўлюбіла гэтый цьвет (Гарадок, Гар. р.).

УЛЯКНЕНЬНЕ, *н.*—испуг. Ад уляkненьня памёр (Доўгае, Беш. р).

УЛЯКНУЦЦА, *дзс.*—испугаться. Я-ш дужа улякнуўся, калі убачыў ваўка (Веляшковічы, Лёз. р)

УМЕРЗНУЦЬ, *дзс.* — замерзнуть. Зямля крэпка ўмёрзла (Аськершчына, Беш. р.).

УМЕЦЬ, *дзс.*—уметь. Ні нада нічога умець, калі будзіць поўна клець (Уланавічы, Віц. р.).

УМІРУШЧЫ—смертный. Дзіця умірушчае (Стаішча, Чаш. р).

УМІХЦІЦЬ, *дзс.* — вместить, втиснуть. Уміхціў два кускі хлеба (Сухарукава, Аз. р.).

УМОВА, *ж*—условие, договор. Умова была на 10, а ён даець 5! (Чашнікі, Чаш. р.).

УМОЎЛЕНЫ — условленный, договоренный. Умоўленнага ваш дохтар нам ні аддаець (Чашнікі, Чаш. р.).

УМЫЗГІ, аў, *ж.* — любовное свидание. На ўмізгі панеслася (Каралёва, Выс. р.).

УМЯСЬЦЁХ — вместе. Добра жыць умясьцёх (Мядзьведзева, Аз. р.).

УНАДЗІЦЦА, *дзс.*—повадиться. Унадзілась лісіца красьць кур (Лужасна, Куз. р.).

УНІТЫ— узором, на подобие диагонали. У Проські куртка ўніты, ат таго й блішчыць як срэбра, ці вална тая (Л і п н а, Сен. р.).

УНОСЬНІК, а, *м.*, У Н О С Ь Н І Ц А, *ж.*—носовой платок. Ён узяў уносьнік і выцер нос (Лоўжа, Сір. р.). Купілі ўносьніцу (Дзямідавічы, Чаш. р.).

УНОЧЫ—ночью. Браў мяне днём, а ня ўночы (Сідоры, Меж. р).

УНУК, а, *м.*—внук. Восіп на Душчыне меіць ужо ўнукаў і праўнукаў (Дужчына, Куз. р.).

УНУРЫНА, *аг.*—плакса. Хто яе знаіць паком яна урадзілася такая ўнурына? (Новікава, Сен. р.).

УНЯЦЦА, *дзс.* — успокоиться. Уймісь ты там (Ястрабы, Куз. р.).

УНЯЧЫВІЛЯХ — в беспамятстве. Пабех унячывілях (Луб'ева, Аз. р.).

УПАД, у, *м.* — упадок, несчастье. Хай у цябе ўпад упадзець! (Доўгае, Беш. р.).

УПАДАБАЦЬ, *дзс.* — облюбовать. Ці ўпадабаў ты сані? (Стаішча, Чаш. р.).

УПАДАК, у, *м.* — упадок, несчастье. У тым доме ўпадак (Хмяльнік, Беш. р.).

УПАДАЦЬ, *дзс.* — приходить в упадок, уменьшаться. Ну, яна ўпадзець (Альшанікі, Беш. р.).

УПАДЗЕНЬ, я, ю, *м.*—болезнь, несчастье. Кап у цябе ўпадзень уваліў! (Слабодка, Беш р.).

УПАРАДКАВАЦЬ, *дзс.* — привести в порядок. Астап упаркаваў усё сена ў пуню (Оусішча, Сен. р.).

УПАРТЫ—упрямый. Гэты чалавек упарты (Д з я м і д а в і ч ы Чаш. р.).

УПАСКІ—узором в полоску. Аўдоцьця тчэць на спадніцы ўпаскі (Ліпна, Сен. р.).

УПАСЬЦІ, *дзс.*—кроме общего значения—пасть, издохнуть. Жырабок упаў (Падыгрушка, Беш. р.).

УПАЦЕЛЫ—вспотевший. Упацелы конь стаяў каля хлеву (Падрэзы, Чаш. р.).

УПЕРАГОНКІ—взапуски. Дзеці бегалі ўперагонкі (К у з ь м і н о, Сен. р.).

УПЕРАД—вперед. Уперат бегагіся! (Пустынкі, Сен. р.).

У П Е Р А К — впоперек. Цяпераціькі ўперак зьмерай загон (Брыды, Меж. р.).

УПЭЎНЕНЫ — уверенный. Ня будзь такі ўпэўнены—ні аддасьць табе грошы! (Дубнікі, Сен. р.).

УПІРАЦЦА, *дзс.* — упираться, противиться. Ні ўпірайся, а йдзі, калі цябе просяць (Оўсішча, Сен. р.).

УПІРЫСТЫ — упорный. Маладухі часта бываюць упірыстыя (Гравы, Сен. р.).

УПІЦЦА, *дзс.*—оп'янеть. Ну й упіўся-ш я на вясельлі (Хмары, Куз. р.).

УПЛЯТАЦЬ, УПЛЕСЬЦІ, *дзс.*—вплетать, вплести. Чырвоная стужачка ўплецена ў касе (Глебаўск, Сен. р.). Ні ўплятай етай стушкі ў касу (П а д б я р э з ь з е, Віц р.).

УПЛЁТКА, *ж.*—лента для кос. У Марылі прыгожая ўплётка (Сьвеча, Беш. р.).

УПЛІХНУЦЬ, *дзс.*—вплеснуть, влить. Уплíхні мне лошку стравы (Сянно, Сен. р.).

УПЛЫНЬ—вплавь. Конь пусьціўся праз возера ўплынь (Пустынкі, Сен. р.)

УПОКАТ — вповалку, рядом. Усі палеглі спаць упокат (Шчыпцы, Беш. р.).

УПОПЕРАК — впоперек. Упоперак 3 аршыны будзіць (Стралкі, Беш. р.). Пар. уперак.

УПОРЫНА, *аг.*—упрямец. Такі ўпорына, ніяк не ўгаварыць (Стралкі, Беш. р.).

УПОЎЗІНЫ, *ж.*—переход в новый дом, новоселье. Ці зваў ты каго на ўпоўзіны? (Доўжа, Куз. р.).

УПРАЖКА, *ж.* — промежуток времени. Ідзі паработай упрашку (Прусаўкі, Аз. р.). Большую упрашку ты-ш адбыла (Вяжышча, Беш. р.).

УПРЭГЧЫ, *дзс.*—запрячь. Нада добра ўпрэхчы каня, а то дарога вялікая (Іванова, Лёз. р.).

УПРОЧКІ—прочь. Яго жонка ўшла ўпрочкі (Лазок, Куз. р.). Пайду сяньня ўпрочкі, не даець ён мне жыць (Прусаўкі, Аз. р).

УПУД, у, *м.*—испуг. Яму здарыўся ўпуд (Веляшковічы, Лёз. р.).

УПУДЗІЦЦА, *дзс.*—испугаться. Ганка учора упудзілася Панасавай сабакі: трэ'булоп памераць яе (Санікі, Беш. р.).

УПУСЬЦІЦЬ, *дзс.*—впустить. І тапор і пешню ўпусьцілі ў'зяро (Альшанікі, Беш. р).

УПЯТРЫЦЬ, *дзс.* — усохнуть. Кап ты ўпятрыў, такі паганы чалавек! (Ліпна, Сен. р.).

УРАДЛІВЫ—1) урожайный. Урадлівы гадок быў (Касачы, Лёз. р); 2) красивый. Ну, дзеўка ўрадліва, не дарма хлопцы бегаюць (Бабінічы, Віц. р.).

УРАДЖАЙ, ю, *м.* — урожай. Не ўважай на ўраджай, а жыта сей (Алексінічы, Сен. р.).

УРАЗІЦЦА, *дзс.* — обидеться. Што-то ён няйдзець—пэўні ўразіўся (Чашнікі, Чаш. р.).

УРАДЗІЦЦА, *дзс.*—уродиться. Харошанькі, прыгожанькі, па ком ты ўрадзіўся? (Сукрэмна, Сен. р.).

УРАНЬНЕ—утром. Ураньня матка затапіла печку (Асінаўка, Беш. р.).

УРАЧЫ, *дзс.*--сглазить. Ураклі нашага Ваньку, вось ён і гіне (Шарыпіна, Беш. р.).

УРЭЗАК, у, *м.* — сверток полотна трубкой. Я выткала пяць урэзкаў (Пожынкі, Сен. р.).

УРЭШЦЕ — наконец. Урэшці ён прышоў на сабраньне (Вейна, Сен. р.).

УРОІЦЦА, *дзс.*—запасть в голову. Як што яму ўроілася—калом ня выб'еш (Шаркі, Куз. р.).

УРАІЦЬ, *дзс.* — насоветовать, вбить в голову. Хто табе ўраіў, што іна цібе любіць? (Доўжа, Куз. р.).

УРОСКІДЗЬ — редко. Убрусы ткаць дужа добра ўроськідзь, а тады ўцюжыць (Новае Сяло, Сен. р.).

УРУГА, *ж.*—1) удобство, выгода. Якая ўруга, калі ёсць садок ды пчолкі—ясі мядок, дасі блык—ня плачыць дзяцёнак (Абярэзкава, Сен. р.); 2) общественная земля, пастбище. У вас харошая ўруга для кароў (Жабяньцяі, Сур. р.).

УРУЧНІКІ, аў, *м.*—два горшка соединенных вместе ручкой для носки еды в поле. Вярніся ды вазьмі ўручнікі, а то касцы бяз крупені застануцца (Ліпна, Сен. р.).

УРЫЛЬЧЫК, а, *м.*—глинянная посуда для терки мака, коноплі и т. п. Бяры гэты ўрыльчык (Бешанкавічы, Беш. р.).

УРЫЦЦА, *дзс.* — врыться. Урыйся ў сена (Салаўёва, Выс. р.).

УСЕ ЧЫСЬЦЕНЬКА — все поголовно. Бабаедаўскія шляхты пашлі ў касьцёл усе чысьценька ў брылях (Пацкава, Сен. р.).

УСЁТКІ — все-таки, все-же. Алі усёткі аддаў мне тую рату (Чараўкі, Сен. р.).

УСКАЧОК — вскач. Мы ехалі ўскачок (Ст. Беліца, Сен. р.).

УСКРЭСЬЦІ, *дзс.* — воскреснуть. І ты ня ўскрэс? (Рыбчына, Сір. р.).

УСКУРНУЦЦА, *дзс.* — неожиданно появиться, всплыть. Ня было, ня было, дай ускурнуўся (Копцевічы, Чаш р.).

УСЛОН, у, *м.* — скамейка. Падай услон сесьць чалавеку (Веляшковічы, Лёз. р.).

УСМАК — всласть. Усмак паеў, даўно ўжо так ня еў! (Шаркі, Куз. р.).

УСПАМІН, у, *м.* — воспоминание. На успамін ей пярсьцёнкі даваў (Яноўшчына, Беш. р.).

УСПОЛ, у, *м.* — река ниже плотины. На ўсполе шчук б'юць васьцямі (Пятніцкая, Беш. р.). Пар. íспол.

УССОПАК, у, *м.* — небольшой курган. На тым уссопку сідзелі (Казьяны, Сір. р.).

УСТАВАЦЬ, *дзс.* — вставать. Уставай, до'спаць! (Валькі, Сір. р.).

УСТАВІЦЬ, *дзс.* — вставить. Устаў новую балонку (Застарыньне, Беш. р.).

УСТАЦЬ, *дзс.* — встать. Ні кайся рана ўстаць і малады жаніцца (Алексінічы, Сен. р.).

УСТОРКНУЦЬ, *дзс.* — насадить. Вазьмі хварасьціну і ўсторкні на яе рыбу (Навасёлкі, Сен р.).

УСТРЫВАЦЬ, *дзс.* — 1) лезть всюду, принимать во всем участие. Так яму й нада: ніхай ні ўстрываіць усюды (Навікі, Віц. р.); 2) утерпеть. Ён ні ўстрывае, кап ні гаварыць (Бель, Выс. р.).

УСТРЫМАЦЦА, *дзс.* — удержаться. І як ты ня ўстрымаўся? (Сянно, Сен. р.).

УСТУПЕЦ, а, *м.* — ступенька. Кінь ты лазіць па етых уступцах у еты касьцёл! (Крынкі, Выс. р.).

УСТУРЫЦЬ, *дзс.* — поднять, разбудить. Я яго ўстурыла на залаку (Храпавічы, Куз. р).

УСТУЖКА, *ж.* — лента Дай на грыўню ўстушку (Берашоўцы, Беш. р.). Пар. істужка.

УСХАПІЦЦА, *дзс.* — быстро встать, подняться. Яны ўсхапіліся і памаглі брату (Баравыя, Куз. р.).

УСХОД, у, *м.* — 1) восход. На ўсходзе сонца ўстаў (Слабодка, Куз. р.); 2) восток. Учоры вецер дуў з усходу (Глебаўск, Сен. р.).

УСХОДЗІЦЬ, *дзс.* — всходить. Нешта мае буракі ня ўсходзяць (Забор'е, Сен. р.).

УСЫПАЦЬ, *дзс.* — всыпать. Усыпалі бочку бульбы (Касачы, Лёз. р).

УСЬСЕСЬЦІ, *дзс* — возсесть, сесть верхом. Быццам сам чорт усьсеў на яго (Навікі, Віц. р.).

УСЬСЕЧ, *дзс.* — зазубрить о что-либо твердое косу или топор. Усьсек касу ап камень (Пожынкі, Сен. р.)

УСЬЦІХАМІРЫЦЦА, *дзс.* — успокоиться. Ну, усьціхаміруўся; хай высьпіцца! (Рыбчына, Сір. р.).

УСЬЦЯЖ — 1) вдоль. Усьцяш дарогі лес (Падбярэзьзе, Віц. р.); 2) цугом. Коні былі запрэжаны ўсьцяш (Селядцова, Беш. р.); 3) сплошь. Усьцяш лесам паедзім (Карма, Куз. р).

**УСЮДАВАХ, УСЮДАХ**—везде, повсюду. Усюдавах цябе досіць (Кузьміно, Сен. р.). Ты усюдах пападзеш (Селядцова, Беш. р.). Усюдах абшарылі, але ня знайшлі (Пяцігарск, Беш. р.).

**УСЯГДЫ**—всегда. Усягды я памагу табе (Доўжа, Куз. р.).

**УСЯКІ**—всякий. Усякі лезіць сюды, а ча'? (Лёзна, Лёз. р.).

**УСЯЧЫНА**, *ж.*—всячина. Ужо ўсячыну стала гаварыць (Церабетаўка, Віц. р.).

**УТАПІЦЦА**, *дзс.* — утопиться, утонуть. Ці чулі вы, што Паўла Васькін утапіўся? (Пустыр, Сір. р).

**УТАРАПЕЦЬ**, *дзс.*--оторопеть, испугаться. Яны дужа ўтарапелі (Мікалаёва, Куз. р.).

**УТАРОПІЦЬ**, *дзс.* — вперить глаза. Утаропіць вочы ў адно места (Селядцова, Беш р.).

**УТОК**, у, *м.*—уток, поперечные нитки в полотне. Ні хваціла утку даткаць кросны (Лятоўшчына, Куз р.).

**УТОРКНУЦЬ**, *дзс.*— вторкнуть, воткнуть. Уторкні палку ў мяжу! (Рышадкі, Меж. р.).

**УТОЎПІЦЦА**, *дзс.*—вместиться. Усё збожжа ў гэтам мяху ня ўтоўпіцца (Калышкі, Лёз. р.).

**УТРАПЛЁНЫ** — сумашедший. Ходзіць ён, як утраплёны (Казімірава, Сур. р.).

**УТРАТА**, *ж*—потеря, утрата. Нам гэта вялікая ўтрата (Селядцова, Беш. р.).

**УТРАЦІЦЦА**, *дзс.*—издержаться Столькі ўтраціўся—ведаў-бы, дык лепш-бы сам спажыў (Канавалава, Куз. р).

**УТРОХ** — втроем. Утрох мы хутка зробілі (Глебаўск, Сен. р.).

**УТРЫВАЦЬ**, *дзс.*--удержаться. Ня ўтрываю: ўсё скажу (Навікі, Віц. р.).

**УТРЫМЦАЦЦА**, *дзс.*—вмешиваться в какое-либо дело. Ці ты ўжо і ў нашыя справы пачаў утрымцацца? (Ст. Беліца, Сен. р.).

**УТУШКАВАЦЬ**, *дзс.*--укутать. Утушкуй яго добра (Доўгае, Беш. р.).

**УХАДЫНЕЦ**, у, *м.* — покой. Няма яму ўхадынцу (Сукрэмна, Сен. р.).

**УХАПІЦЦА**, *дзс.*—схватиться. Ён ухапіўся за бярно і выплыў на берах (Лужасна, Куз. р.).

**УХАПІЦЬ**, *дзс*--схватить. Ухапіў каршун піскляёнка (Пятніцкая, Беш. р.).

**УХІЛЯЦЦА**, *дзс.*—уклоняться. Ён усё ўхіляецца ад ёй (Храпавічы, Куз. р.).

**УХМЫЛЕНЫ** —улыбнувшийся, засмеявшийся. Стаяў ухмылены чалавечак (Дзямідавічы, Чаш. р.).

**УХМЫЛЯЦЦА**, *дзс.*—улыбаться. Што ты ўхмыляешся, думаеш дурней цябе? (Рыбчына, Сір. р.).

**УЦЕХА**, *ж*—отрада, удовольствие. Адна ўцеха—глядзець на яго (Селядцова, Беш. р.).

**УЦІЖАРЫ**—в состоянии беременности. Мар'я ўціжары ужо тры месяцы (Хамінічы, Сен. р).

**УЦІРАШКА, УЦІРКА**, *ж.*, **УЦІРЫШ**, а, *м.* полотенце. Вазьмі уцірашку ды вытры лоб (Бабінічы, Віц. р.). Вось тут вісіць уцірка (Каверзіна, Меж. р.). Дзяўчынка бяліла уцірышы (Горбава, Лёз р.).

**УЦІСНУЦЦА**, *дзс.*--втиснуться. Мне-п толькі ўціснуцца, а там сам чорт ня выпрэць! (Доўжа, Куз. р).

**УЦУРКІ**--вдребезги. Міска разбілася ўцуркі (Семянцова, Беш. р.).

**УЦЮЛІКАЦЦА**, *дзс.* — понравиться. А то уцюлікалася спаць! (Гравы, Сен. р.).

**УЦЯГНУЦЬ**, *дзс.*—втянуть, вдеть. Уцягні абору ў лапаць (Азярэцк, Сен. р.).

**УЦЯКАЦЬ**, *дзс.*—убегать. Уцякай скарэй, бо дадуць (Селядцова, Беш р.). Баран уцёк на сяло (Стаішча, Чаш. р.).

**УЦЯКАЧ**, а, *м.*—1) беженец. Ён усю вайну уцікачом быў (Рыбчына, Сір. р.); 2) дезертир. Гэта ўцікачы, а ні цыгані (Рыбчына, Сір. р.).

**УЦЯМІЦЦА**, *дзс.* — сосредоточиться взором. Як уцяміцца ў вашто, дык не атарваць (Луб'ева, Аз. р.).

**УЦЯМІЦЬ**, *дзс.*—уразуметь, понять. Ён добра ўцяміў дарогу (Пожынкі, Сен. р.).

**УЦЯЦЬ**, *дзс.*—ударить. Што ўцяў, то ўехаў (Рыбчына, Сір. р.).

**УЧАДЗІЦЦА**, *дзс.* — угореть. Учадзілася ў лазьні й зрабіўся лідойк (Бешанкавічы, Беш. р.).

**УЧАЎРЭЦЬ**, *дзс.* — засохнуть. Бадай ты ўчаўрыў, такі паскудны чалавек! (Ходцы, Сен. р.).

**УЧОРА, УЧОРАХ**—вчера. Учора была добрая пагода (Уланавічы, Віц. р.). Учорах ён быў у нас (Цауі, Сір. р.).

**УЧУПІЦЦА**, *дзс.* — вцепиться. Учупіліся бабы так адна у адну, што бадай і не разагнаць (Абрэзкава, Сен. р.).

**УЧЫЦЕЛЬКА**, *ж.* — учительница. Гэта ўчыцелька вельмі злосная (Лазукі, Сір. р.).

**УЧЫНІЦЬ**, *дзс.* — растворить. Трэба ўчыніць хлеб (Альшанікі, Беш. р.). Прынясьлі дзяжу і хазяйка пачала ўчыняць хлеб (Яноўшчына, Беш. р.).

**УШАНАВАЦЬ**, *дзс.*—почтить. Ну, як-жа вы свайго інспэктара ўшанавалі? (Кузьміно, Сен. р.).

**УШМАЛЬЦАВАЦЦА**, *дзс.*—засалиться. Ну і ўсмальцаваўся-ш мой армяк! (Вербялі, Сір. р.).

**УШЧАМІЦЬ**, *дзс.*—ущемить, зажать. Стой ні вярні—руку ўшчаміў! (Берашова, Сен. р.).

**УШЧАПІЦЬ**, *дзс.* — нацепить. Ушчапі чарвяка на кручок (Навасёлкі, Сен. р.). Ушчапі кралі на нітку (Ходцы, Сен. р.).

**УШЧЭНТ**—дотла. Ушчэнт ты мяне разьбіў (Шаркі, Куз. р.).

**УШЧЭПНІЧАК**, а, *м.* — руки, сложенные вместе. Матка прышла к дачцэ з ушчэпнічкам (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**УШЫРКІ**—в ширину. Ушыркі яна ня будзець болей аршыну (Рыбчына, Сір. р.).

**УШЧЫРКНУЦЬ**, *дзс.* — чиркнуть, зажечь. Ушчыркні сярнічку (Селядцова, Беш. р.).

**УШЫЦЬ**, *дзс.*—вшить. Кішэнь ушый (Чараўкі, Сен. р.).

**УЮН**, а, *м.*—вьюн. Misgurnus fossilis L. Скураю ўюна лечаць (Заронава, Куз. р.). Пар. ваюн.

**УЮШКА**, *ж.*—1) вьюшка. Закладзі коміну ўюшкай (Мішкава, Куз. р.); 2) мотовило. Матай ніткі на ўюшку (Сураж, Сур. р.). Пар. юшка.

**УЯЖДЖАЦЬ**, *дзс.* — уезжать. А пастой, швагрычка, ня ўяжджай! (Яноўшчына, Беш. р.).

## Ф.

**ФАЙЛА**, *ж.*—гравилат прямостоячий. Geum strictum Ait. Што ты хочыш, каб тутацькі файла расла? (Раманаўка, Сен. р.).

**ФАЛДЫ**, *ж.*—фалды, складки, сборки. Ён чалавек дрэнь—адрэш фалды ды ўцікай (Шыркі, Куз. р.).

ФАМІЛІЯ, *ж.*—фамилия. Фамілія нашага роду — Калбуны (Астроўна, Віц. р.).

ФАРДЫБАЧЫЦЦА, *дзс.* — зазнаваться, набираться спеси. Янка дужа фардыбачыцца (Курына, Куз. р.).

ФАСКА, *ж.*—маленький боченочек для масла. Фаску масла прадаў (Глебаўск, Сен. р.).

ФАСТРЫГАВАЦЬ, *дзс.* — приметывать. Адзежу як ш'юць, усягда фастрыгуюць (Глебаўск, Сен. р.).

ФАТЫГАВАЦЦА, *дзс.* — утруждать себя, беспокоиться. Не фатыгуйся, кума, ні стаў самавару (Купіна, Віц. р.).

ФЭ! *вкл.*—тьфу презрение, негодование. Фэ, які ты мурзаты! (Кашына, Віц. р.).

ФЭСТ, у, *м.*—храмовой праздник. Трэ'сукенку мыць—на Міколу у нас фэст: паносную ікону носяць (Доўжа, Куз. р.).

ФІЛІЖАНКА, *ж.*—чашка. Піць чай нясі філіжанку (Гарнакі, Сен. р.).

ФІРАНКА, *ж.*—занавеска. Павесь фіранку на вакно (Лук'янова, Сен. р.).

ФОРМА, *ж.* — кроме общего значения — посуда для выпечки чего-либо. Ідзі пазыч формы сьпячы пірагі (Купіна, Віц. р.).

ФУКСА, *ж.*—пила ножевка. Фуксай абрэзаў усё сучча ў садзе (Сьвеча, Беш. р.).

ФУРМАН, а, *м.* — извозчик. Фурман запрёх каня (Курына, Куз. р.) Хурман зьбіў з дарогі (Селядцова, Беш. р.).

ФУРМАНКА, *ж.*—подвода. Мы нанялі фурманку ехаць у горад (Русінава, Сен. р.). Хурманкі ехалі адна за другой (Яноўшчына, Беш. р.).

# Х.

ХАБАЛ, ХАБЁЛ, а, *м.*—гулящий мужчина. Гату! хабаль акаянны! (Янавічы, Сур. р.). Какой ты хабёл! (Рубеж, Беш. р.).

ХАБАР, у, *м.* — взятка. Яму папаў хабар (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ХАБАРНІК, а, *м.*—взяточник. Ведама хабарнік, туды ён і гнядзець, а ты не зразумеў (Шаркі, Куз. р.).

ХАБАТНЯ, *ж.* — рыболовная сеть, сплетенная из длинных лозовых прутьев. У хабатню набілася многа рыбы (Ганкавічы, Беш. р.).

ХАБАЎЗЬДЗЁ, *н.*—лохмотья. Хабаўзьдзё нейкае надзеў (Доўгае, Беш. р.).

ХАБУРЫ, аў, *м.* — конец, смерть. Сягодня цёлкі будуць хабуры (Выгары, Куз. р.).

ХАВАЦЦА, *дзс.* — прятаться. Сястра к брату ў госьці йдзець, а ён ад яе хуваецца (Алексінічы, Сен. р.).

ХАВАЦЬ, *дзс.* — 1) прятать. Вось гэту вяшчыну трэба хуваць (Каверзіна, Меж. р.); 2) хоронить. Нябошчыка павязьлі хаваць на магілкі (Навасёлкі, Сен. р.).

ХАДА, *ж.*—ходьба. Пяць вёрст за час—гэта ні хада! (Купіна, Віц. р.).

ХАДАК, а, *м.*—пешеход. Во, ета дык хадак — бач як махае нагамі, што каламі! (Купіна, Віц. р.).

ХАДАКІ, оў, *м.* — башмаки. Бацька купіў хадакі (Варашылы, Куз. р.).

**ХАДАЛА ДАВАЦЬ** —удирать бегом. Давай хадала (Доўгае, Беш. р.).

**ХАДУР**, а, *м.*—нищий. Вясной у дзярэўні часта ходзяць хадуры (Гравы, Сен. р.).

**ХАЖАЛЫ**—заходящий, прохожий. Ня хажалые к нам (Доўгае, Беш. р.).

**ХАДЗІЦЬ**, *дзс.*—ходить. Наш малец ходзіць у школу (Мазалава, Куз. р.). Хай (хадзі) сюды (Градкі, Сур. р).

**ХАДЗЯІН**, а, *м.* — хозяин. Ці сьпіш, ці ляжыш, пане хадзяін? (Лукашоўка, Беш. р.).

**ХАДЗЯЙКА**, *ж.* — хозяйка. Прынясьлі дзяжу і хадзяйка пачала учыняць хлеб (Яноўшчына, Беш. р.).

**ХАДЗЯЙСТВА**, *н.*—хозяйство. Ён маіць вялікае хадзяйства (Бешанкавічы, Беш. р.).

**ХАДЗЯКА**, *аг.*—бродяга. Хадзяка нішчасны — бадзяецца па сьвету! (Астроўна, Віц. р.).

**ХАЙ**—пусть, пускай. Хай перш ён да мяне прыдзе, а тыды я да яго (Вядрэнь, Чаш. р.). Пар. няхай.

**ХАЛАБІНЫ**, *ж.* — крестины. У нас заўтра будуць халабіны (Дарожкава, Сір. р.).

**ХАЛАДНІК**, у, *м*, **ХАЛАДЗЕЦ**, а, *м.* — холодник. Халаднік варуць заусёды летам; з вясны варуць з шчаўлю, а пат восень, як вырастуць буракі, з буракоў; прыпраўляюць халаднік: кіслай сьмітанай, цыбуляй, кропам і гуркамі (Альшанікі, Беш. р.). Кіслы халадзец (Кляшчыно, Беш. р.).

**ХАЛАДЫ**, оў, *м.*—холодное время, холода. Халады такія насталі! (Астроўна, Віц. р.).

**ХАЛАЖАВЫ** — прохладный. Халажавае надвор'е тады было (Купіна, Віц. р.).

**ХАЛАЙСТРА**, *ж.*—потаскуха. Такая халайстра — баба (Нов. Сяло, Беш. р.).

**ХАЛАТ**, а, *м.* — вид армяка. Надзень сёньня халат (Берашоўцы, Беш. р.).

**ХАЛДЭЙ**, я, *аг.* — растрепа. Настаяшчый халдэй, а ня баба (Сукрэмна, Сен. р.).

**ХАЛЕПА**, *ж.*—слякоть Пашла нейкая халепа, што й на двор нельга выйсьці (Асінаўка, Сен. р.). Глянь, якая на дварэ халіпа! (Вядрэнь, Чаш. р.).

**ХАЛЕРА, ХАЛЕРЫЯ**, *ж.*—холера. Халера была (Купіна, Віц. р.). Халерыя ты! Во кап табе вочы вылезьлі! Няхай цябе бох так сьлёзкамі абальлець, як я абліваюсь! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

**ХАЛІБА**, *ж.* — мерзость. Халіба ты! (Беліца, Сен. р.).

**ХАЛУПА**, *ж.*—изба. Мая халупа стаіць з краю дзярэўні (Вейна, Сен. р.).

**ХАЛЯВА, ХАЛЯВІНА**, *ж.*—голенище. А халявы то ты купіў к ботам? (Прыгунова, Сір. р.). Парвалася халявіна (Іванск, Чаш. р.).

**ХАМ**, а, *м.*—невежа. Ён такей хам, што з ім стыдна быць на людзёх (Баравыя, Куз. р.).

**ХАМУТ**, а, *м.* — хомут. Пачыні хамут (Марцінава, Віц. р.).

**ХАМУЦІНА**, *ж.*—соломенный обод, основание хомута, обшитое кожей. Хамуціна якрас па меры клешчаў (Бабінавічы, Выс. р).

**ХАПАЦЦА**, *дзс.* — хвататься. Абдурыць яго дык што плюнуць, абалдзеў ён на тую міну-

ту, хапаецца, то за калёсы, то за каня (Купіна, Віц. р.).

ХАПАЦЬ, *дзс.* — 1) хватать. Хапаіць, як у нячывільлях (Баравікі, Сен. р.); 2) в значении безличного глагола хватать. Хопіць табе ўжо пісаць (Якшы, Беш. р.). Пар. хватаць.

ХАРАКТАР, у, *м.*—характер. Паганы ў яго характар: як нап'ецца, дык і лезіць біцца (Глебаўск, Сен. р.).

ХАРАШЭЦЬ, *дзс.*—становиться красивее, лучше. Ганулька ваша ўсё харашэіць (Купіна, Віц. р.).

ХАРАШЫЦЦА, *дзс.*—прихорашиваться. Харашыцца, як на фэст (Астроўна, Віц. р.).

ХАРОМА, *ж.*—большой дом. Харома ў яго прыстатная, вялікая (Бараўляны, Куз. р.).

ХАРОШАНЬКІ—хорошенький. А хто Дар'ю пацалуіць—той харошанькі (Гуліна, Сен. р.).

ХАРЧ, у, *м.*, ХАРЧЫ, оў, *м.*—питание, продовольствие. У гэтым гаду мне мала будзе харчу (Гуліна, Сен. р.). Прынясі мне харчы (Курына, Куз. р.).

ХАРЧАВАЦЦА, *дзс.*—кормиться. Устроілісь харчавацца ў сталовай (Нов. Сяло, Беш. р.). А ў каго ты там будзеш харчавацца? (Любашкова, Вых. р.).

ХАТУЛЬ, я, *м.*—узел, связка. Прадала хатуль атрапак (Чараўкі, Сен. р.).

ХАЎРУС, у, *м.*—1) союз, компания. Мы з ім у хаўрусі (Копцевічы, Чаш. р.); 2) согласие. Яны паміж сабой жывуць у хаўрусі (Селядцова, Беш. р.).

ХАЎРУСАМ—сообща, вместе. Калі браць у арэнду возера, дык хаўрусам, а то аднаму няздужыць (Ходцы, Сен. р.).

ХАЎРУСЬНІК, а, *м.* — участник, компаньон. Няма хаўрусьніка, а то зарандаваў бы зямлю (Шарыпіна, Беш. р.).

ХАЎТУРЫ, аў *ж.* — похороны. Пашлі бабы на хаўтуры (Купіна, Віц. р.).

ХВАЕР, у, *м.*—нагоняй. Задаў, браток, ты яму хваеру (Луб'ева, Аз. р.). Добрага даў яму фаеру (Стасева, Выс. р.).

ХВАЙНЯК, у, *зб*, *м.*—сосновый лес. Адзін цяпер тутацькі хвайняк, калі небудзь будзець бор добры (Доўжа, Куз. р.).

ХВАЛІЦЦА, *дзс.*—хвастаться. Ён мне ўжо хваліўся (Доўжа, Куз. р.).

ХВАЛІЦЬ, *дзс.*—хвалить. Яго нечага хваліць (Ісачкава, Аз. р.).

ХВАЛЬБОНА, *ж.*—оборка. К спадніцы прышыта хвальбона (Замошша, Сен. р.). Я буду шыць сабе сукенку з хвальбёнамі (Даргейкі, Сен. р.).

ХВАЛЬВАРАК, ХВОЛЬВАРАК, а, *м.*—фольварок. Грыбяншчызна—ета хвальварак (Навікі, Віц. р.). У хвальварку купіў сена (Беліца, Сен. р.).

ХВАЛЬКО, а, *м.*—бахвал. Ён бальшэй хвалько (Чашнікі, Чаш. р.).

ХВАЛЬШЫВЫ — 1) фальшивый. Гэта хвальшывыя грошы (Бікложа, Беш. р.); 2) с недостатками. Хвальшывага каня купіў (Купіна, Віц. р.). Дорага ты заплаціў за каня, але-ж ён фальшывы! (Астроўна, Віц. р.).

ХВАНАБЭРЛІВЫ, ХВАНАБЭРЫ—спесивый. Міхалка хванабэрлівы хлапец (Гуліна, Сен. р.). Дужа ханабэры стаў (Стралкі, Беш. р.).

ХВАНАБЭРЫЦЦА, *дзс.*—спесивиться. Ні хунабэрся ты так—усё роўна сьвінапаса дачка (Сукрэмна, Сен. р). Багаты ханабэрыцца супроць беднага (Гравы, Сен. р.). Свацьця скачыць, фанабэрыцца, як індык (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ХВАНАР, а, *м.*—фонарь. На стаўбу вісіць хунар (Крывое Сяло, Беш р.).

ХВАРАВІТЫ — болезненный. Ён у нас нейкі хваравіты (Астроўна, Віц. р.).

ХВАРАСОН, у, *м.*—зонт. Хварасон добра ат дажджа (Кузьміно, Сен. р.).

ХВАРБА, *ж.*—краска. Хварба чорная (Копцевічы, Чаш. р.).

ХВАРБАВАНЫ—окрашенный. Хварбаваныя ніткі віселі на сонейку (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ХВАРГЕЛКА, *ж.*—бахвал. Ня будзь ты такая хваргелка (Зямковічы, Сен. р).

ХВАРЭЦЬ, *дзс.* — болеть. Ён зваліўся й хварэіць, (В е й н а, Сен. р.).

ХВАРОБА, *ж.*—болезнь. Якая ў цябе хвароба? (Косы, Віц. р.).

ХВАРОСЬЦЕ, *н. зб.*—хворост, сучья. Буцяны носюць хваросьце ў гняздо (Навікі, Беш. р.).

ХВАРСІСТЫ—спесивый Нашы мальчыкі хварсісты, к ім ня можна падыйсьці (С у к р э м н а, Сен. р).

ХВАРСІЦЬ, *дзс.*—спесивиться. Хварсіць у новых ботах (Купіна, Віц. р).

ХВАРСУН, а, *м.* — бахвал. Хварсун гэтый? (П я ц і г а р с к, Беш. р.).

ХВАРТОВЫ—стройный. Пётра Хвартовы маліц (Санікі, Беш. р.).

ХВАРТУХ, а, *м.* — фартук. Дзяўчынка бегаіць у хвартуху (Пірамонт, Лёз. р). Падвяжы фартух (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ХВАСОЛЬ, *ж.*—фасоль. Phaseolus vulgaris L. Ці сеяла ты сёлета хвасоль? (П у с т ы н к і, Сен. р.).

ХВАСТАЦЦА, *дзс.*—париться в бане веником. Яна дужа любіць хвастацца ў бані (Бешанкавічы, Беш. р.).

ХВАТАЦЬ, *дзс.*—1) хватать. Хватай, бо з зубоў вырвуць (Дабрамысьль, Лёз. р.); 2) хватать, быть достаточну. Я думаю трох хваціць (Мясаеды, Беш. р.). Пар. хапаць.

ХВЭРШАЛ, а, *м.*—фельдшер. Трэба схадзіць к хвэршалу (Гуліна, Сен. р.). Фэршал прыехаў к бальной (Самусі, Куз. р.).

ХВІБРАЛЬ, я, *м.*—февраль. У хвібралі зіма мяхчэіць (Русінава, Сен. р.).

ХВІГА, *ж.*—кукиш. На табе хвігу! (Гуліна, Сен. р.).

ХВІЛІНА, ХВІЛЯ, *ж.*—минута, небольшое время. Хвіліну якую тамацькі прабыла (С т р э л к а, Беш. р.). За адну хвілю зробім (Дубнікі, Сен. р.).

ХВІЛІЯ, ХВІЛЯ, *ж.* — вьюга. Хвілія ўзьнілася (С ь в я р д л ы, Беш. р.). Такая хвіля на дварэ —ні выйці! (Купіна, Віц. р.).

ХВІР, ХВОР, *ж.*—хворь. Хвіръ яго знаіць ці прыдзіць ён, ці не-казаў, што прыду (Глебаўск, Сен. р.). Хворь яго ведаіць: ні быццым то казань кажа, а як прыслухаіськя брэшыць (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ХВОРТКА, *ж.*—калитка. Паглядзі, нешта хвортка не зачыняецца (Забор'е, Сен. р.). Зачыні фортку (Навасёлкі, Сен. р.). Нада закрыць хортку, а то каровы выйдуць са двара (Жабяньцяі, Сур. р).

ХВОРАСЬЦЬ, *ж.* — болезненное состояние. Хворасьць на мяне напала (Астроўна, Віц. р.).

ХВУЗІЯ, *ж.* — ружье. Хвузія добра б'е (Вішкавічы, Чаш. р.).

ХВОРЫ—больной. У хворага Пятруся пачырванелі вусны (Чарнагосьці, Беш. р.).

ХВОШЧ, у, *м.*—хвощ. (Eguisetum L.). Я пайду у хвошч (Шкалёўка, Беш. р.).

ХВОЯ, *ж.*—сосна. Pinus silvestris L. На маім шнуры адна хвоя (Мар'янфельд, Беш. р.).

ХЭЎРА, *ж.* —шайка. І тутацькі цэлая хэўра назьбіралася (Доўжа, Куз. р.).

ХІБА, *ж.* — недостаток. Еты конь з бальшэй хібай (Сянно, Сен. р.).

ХІБА—разве, ужели. Хіба ты ня прыдзеш ка мне? (Вейна, Сен. р.).

ХІБІЦЬ, *дзс* —плоховать, сплоховать. Ічмень у міне хібіў сёліта (Астроўна, Віц. р.).

ХІБУРА, *ж.*—избушка. Мая хібура зараз паваліцца (Міхалі, Куз. р.).

ХІРЫ—захиревший, больной. Хіры ляжыць у бальніцы (Гарнакі, Сен. р.).

ХІСТАЦЦА, *дзс.* — шататься. Быльлё ад ветру хістаецца ва ўсе бакі (Гравы, Сен. р.).

ХІТРЫ—хитрый. Кабыла падкутая, хітрая (Лукашоўка, Беш. р.).

ХІЦЬ, *ж.* — желание, позыв. Неяк кінула міне хіць на кіслую капусту (Сухарукава, Аз. р.). Нешта ў мяне няма хвісі вадзіць завадзкіх курэй (Глебаўск, Сен. р.).

ХЛАМІДА. *ж.*—рваная одежда. Валяецца хламіда (Мамойкі, Беш. р.).

ХЛАПЕЦ, ХЛОПЕЦ, а, *м.* — парень. Евін Тодар ужо ладны хлапец (Азярэцк, Сен. р.). Які ты брыткі хлопец! (Зямковічы, Сен. р.).

ХЛЕБНІЦА, *ж.*—кадка, в которой замешивают хлеб. Мая хлебніца спорцілася — хлеп не ўдаецца (Заронава, Куз. р.).

ХЛЕЎ, а, *м* —хлев. У хлеве стаяць каровы (Лужасна, Куз. р.).

ХЛЕХАТУН, а, *м.* — хохотун. Хахочыць, як хлехатун (Латышы, Беш. р.).

ХЛЁБАЦЬ, *дзс* — хлебать, быстро глотать. Я дужа прагаладаўся й пачаў хлёбаць халодную зацірку (Шыпы, Сен. р.). Хлібай сарапеню (Варашылы, Куз. р.).

ХЛЁСТКІ — хлесткий. Мікола хлёсткі малец (Сялец, Чаш. р.).

ХЛІПАЦЬ, *дзс.*—всхлипывать, плакать. Ня хліпай, хлопчык (Дзямідавічы, Чаш. р.).

ХЛОМ, у, *м.*—хлам. Убяры з панадворка хлом (Сяркуці, Сен р.).

ХЛУД, у, *м.*—1) мелкай хворост. Начлежнікі запалілі хлут (Пятніцкая, Беш. р.); 2) сруб колодца. Нада новы хлут у калодзісь (Купіна, Віц. р.; 3) заноза. Сын захлудзіў нагу; дай іголку выняць хлуу (Астроўна, Віц. р.).

ХЛУДЗІНА, *ж.*—бревно, полено из «хлуду» (гл.). Вун тая хлудзіна, над вадой, гнілая (Купіна, Віц. р.).

ХЛУСІЦЬ, *дзс.*--лгать. Ня хлусі ты дарма, ніхто цябе й ня слухае (Заронава, Куз. р ).

ХЛЮНДРА, *ж.*—неряха Хлюндра ты бальшая! (Кузьміно, Сен. р).

ХЛЯБТУН, а, *м.*— пустомеля. Ах ты, хляптун! (Мазалава, Куз. р.).

**ХЛЯВОК**, а, *м.*—сарайчик. Загонь, Іван, авец у хлявок (Аськершчына, Беш. р.)

**ХЛЯСЬЦІ**, *дзс.*—беспорядочно есть Не хлясі ты бяз урэмя, як сьвіньня! (Сухарукава, Аз. р.).

**ХЛЯЎНІК**, а, *м.*—1) хлевной дух. Хляўніка яна спудзілася (Стасева, Выс. р.); 2) ласка. Mustela nivalis L. Кап цябе хляўнікам сагнала! (Слабодка, Беш р.).

**ХМАРА**, *ж.* — туча. Найшла хмара: відна будзіць дошч (Жабяньцяі, Куз. р.).

**ХМАРНЫ, ХМУРНЫ**—пасмурный. Хмарны дзень (Шарыпіна, Беш. р). Сёні дужа хмурны дзень (Баркова, Куз р.).

**ХМАРЫЦЬ, ХМУРЫЦЦА**, *дзс.*—покрываться тучамі. Хмарыць—дошч будзіць (Лужасна Куз. р.). Неба хмурыцца (Баркова, Куз р.).

**ХМЕЛЬ**, ю, *м.*—хмель. Humulus Lupulus L. Нарві шышачак хмелю (Марчонкі, Сур р.).

**ХМЫЗЬНЯК**, у, *м.* — кустарник, заросль. Нам застаўся хмызьняк, а крупны лес пат казной (Пастушонкі, Аз. р.). Нада хадзіць па лясу, па хмызьнікам, і там іскаць (Максімава, Куз. р.). Якей тут лес? — Адзін хмызьняк (Чарніца, Лёз. р.).

**ХМЯЛЁК**, у, *м.*—клевер пашенный. Trifolium agrarium L. Хмялёк на полі паказаўся (Гарадок, Гар. р.).

**ХОД**, у, *м.*— ход, проход. Ня было там ходу дальша (Лужасна, Куз. р.).

**ХОДЗЯ**, і, *м.* — китаец, разносчик. Ходзя прышоў, пойдзем краску купляць (Застадольле, Сен. р.).

**ХОЛКА**, *ж.*—холка. Дзяржысь за холку, кап не зваліўся з каня! (Жабяньцяі, Сур. р.).

**ХОЛЬНА** — красиво. Дужа хольна! (Гарадок, Гар. р.).

**ХОЛЬНЫ, ХОЛЬНЕНЬКІ**—холеный, красивый. У Хведара хольная рубаха (Брыцікі, Аз. р.). Хольненькая такая (Гарадок, Гар. р.).

**ХОРАША, ХОРАШ, ХОРША, ХОРШЫ, ХОРШАНЬКА** — осторожно. Хораша ты з агнём лі кудзелі (Цеплякі, Сен. р.). Хораш ідзі (Красьніца, Чаш. р). Хорша, каб не звалілася (Азярэцк, Сен. р.). Хоршы—не зваліся (Навікі, Віц. р.). Хоршанька нясі (Халамер'е, Аз. р.).

**ХОРАША**—красиво. Хораша ў вас у доме (Лужасна, Куз. р.)

**ХОРХУЛЕВЫ** — фарфоровый. Хорхулевы сподак (Зыскі, Беш. р.).

**ХОЎРА**, *ж.*—неряха. Шты ты ходзіш, як хоўря? (Валькі, Сур. р.).

**ХОХЛІК**, а, *м.*—гном. Глядзіць, як хохлік (Доўгае, Беш. р.).

**ХОЦЬ**—хоть, хотя. Хоць сабачына, абы вока ня бачыла (Ст. Беліца, Сен. р.).

**ХРАМЭЙ**—хромой. Храмэй конь шыпка не бягіць? (Лужасна, Куз. р).

**ХРАПА**, *ж.*—1) морда. Якая храпа ў тваяго каня! (Купіна, Віц р.); 2) мелко изрубленная трава для корма животных. Мы кармілі сьвіней храпай (Луб'ева, Аз р.).

**ХРАП'Е**, *н.* — изрубленная ботва для животных. Храп'я насячы (Доўгае, Беш. р.). Пар. ахрап'е.

**ХРАПЫ**, *ж.* — ноздри животного. Ня бі каня па храпах! (Лужасна, Куз. р).

ХРАСЦЫ, оў, *м.*—крестец Ат доўгай работы сагнуўшысь баляць храсцы (Лужасна, Куз. р.).

ХРАСЬ-ХРАСЬ, *вкл.* — щелк-щелк Хрась-хрась ключом (Сялец, Чаш. р.).

ХРАСЬНІ, ёў, *м.* — перекресток. Выехалі мы на храсьні, і куды цяпер ехаць? (Купіна, Віц. р.).

ХРЭЗЬБІНЫ, аў, *ж*—крестины. А ў хатунцы хрэзьбіны гуляюць (Яноўшчына, Беш р.).

ХРЭН, у, *м.*—хрен. Cochlearia Armoracia L. Хрэну надрала к мясу (Дуброва, Беш. р.).

ХРЭНЬНІК, у, *м.*—ботва хрена. Хрэньніку іны ня будуць есьці (Лужасна, Куз. р).

ХРЭСТ, а, *м.*—крест. Паставіў на магілкі хрэст (Нов. Сяло, Беш. р.). Пар. крыж.

ХРЭСЬНІК, а, *м.* — крестник. Іванька мне хрэсьнік (Навікі, Віц. р).

ХРЭСЬНІЦА, *ж.* — крестная дочь. Пагаманіла з хрэсьніцай за саян (Кураеды, Беш. р.).

ХРЭСЬЦІ, яў, *ж.*—трефовая масть в картах. Хадзі к яму туза хрэсьцяў (Селядцова, Беш. р.).

ХРОСНЫ — крестный. Ён яму хросны бацька (Рыбчына, Сір. р.).

ХРУМСЬЦЕЦЬ, *дзс.*--хрустеть. Добра пасохлі сухары, аш хрумсьцяць (Бешанкавічы, Беш. р.).

ХРУШЧ, а, *м.*—1) майский жук. Melolontha vulgaris Fabr. Ужо хрушчы лётаюць (Мішкава, Куз. р.); 2) приколка для волос. Прыгожага хрушча купіла (Лужасна, Куз. р.).

ХРЫБЕТ, а, *м.*—хребет. У сытога каня круглы хрыбет, (Пятніцкая, Беш. р.). Конь абмуліў сабе храбет (Гарывецк, Сен. р.).

ХРЫБЕТНАЯ КОСЬЦЬ--позвоночный столб. Хрыбетную кось паўрадзіў (Баркова, Куз. р.).

ХРЫПКА, *ж.* — хрипота. Хрыпка ў яго: ня можыць гаварыць (Астроўна, Віц. р.).

ХТО—кто. Хто там ідзець? (Баранаўка, Куз. р.).

ХУГА, *ж.* — пас. Трэба выбраць хугу на машыну (Веляшковічы, Лёз. р).

ХУДА—тошно. Пад'еў цыбулі—стала худа (Кабішча, Куз. р.).

ХУДАБА, *ж.*—бедность. У іх нічога ні дастаніш—худаба (Слабодка, Куз. р.).

ХУДАЦЬ, ХУДНЕЦЬ, *дзс.*—худеть. Худаіць твой конь (Купіна, Віц. р.). Ён усё худнеець і худнеець! (Сукрэмна, Сен. р.).

ХУДОБА, *ж.*—пожитки, имущество. Во, якая мая худоба - хатка і кароўка (Гуліна, Сен. р.).

ХУДЫ—1) худой. Худы ты, як мая жонка (Веляшковічы, Лёз. р.); 2) плохой. Во, кап цябе худая доля! (Застадольле Сен. р.).

ХУКАЦЬ, *дзс.* — дуть, согревать дыханием. Ня хукай больш, до'! (Валькі, Сур. р.).

ХУЛА, *ж.*—хвала. Хула табе, божа, што вярнуўся (Доўгае, Беш. р.).

ХУНТ, а, *м.*—фунт. Я прынёс хунт сахару (Вярхоўе, Беш. р.).

ХУРГОН, у, *м.*—фургон, парная телега. Нашы ў горад паехалі на хургоне (Вяжышча, Беш. р.).

ХУРТАВІНА, *ж.*—буря. Хуртавіна зламіла вербіну (Вядрэнь, Чаш. р.).

ХУСТКА, *ж.*—платок. Абвяжы хустку (Прусаўкі, Аз. р). Далі

табе хустачку, ўся ў шаўку (Яноўшчына, Беш. р.).

ХУТКА—скоро, быстро. Хутка ён знайшоў мене (Іванова, Куз. р).

ХУТРА, *н.*—1) шуба. Надзеў ён хутру (Цьвяткоўшчына, Сур. р); 2) меховая подкладка. Із шапкі выдралась хутра (Хацімшчына, Куз. р.).

ХУТРАВАЦЬ, *дзс.*—подкладывать мех. Ён мне хутруіць паліто (Купіна, Віц. р.).

ХУТРОЎКА, *ж.*—подкладывание меха, шитье на меху. Ужо скончыў хутроўку (Купіна, Віц. р.).

ХУЦЬ—хоть, хотя. Зьмялю хуць троху на жорнах (Навікі, Віц. р.). Пар. хоць.

ХУШТОВЫ—из грубого полотна. Во, якая ў цябе хуштовая рубаха! (Гарадок, Гар. р.).

ХЦІВЫ—жадный. Ён вельмі хцівы чалавек (Дубнікі, Сен. р.).

# Ц.

ЦАБЭРАК, ЦАБЭРЧАК, ЦАБЭРЧЫК, а, *м.*—небольшой ушат. Налі ў цабэрак. Цабэрчак ужо пацёк (Аськершчына, Беш. р.) Бондар зьдзелаў цабэрчык (Цяпіна, Чаш. р.).

ЦАГАН, а, *м.*—чугунный горшок. Мы купілі новы цаган. (Марцінкава, Куз. р).

ЦАГЕЛЬНЫ—кирпичный. У нас няма цагельнага заводу (Заронава, Куз. р.).

ЦАГЕЛЬНЯ, *ж.*—кирпичный завод. Ідзі на цагельню і паглядзі там цэглу (Русінава, Сен. р.).

ЦАГЛЯР, а, *м.*—мастер, делающий кирпичи. Яго бацька цагляром служыць (Залужжа, Беш. р.).

ЦАДЗІЛКА, *ж.*—тряпка для процеживания. Цадзілка падралася і малако ні цэджана (Пустынкі, Сен. р.).

ЦАЛАВАЦЦА, *дзс.*—целоваться. Люблю тую дзеўку я, якая цалуецца (Гуліна, Сен. р.).

ЦАЛАВАЦЬ, *дзс.*—целовать. Ён зрабіў мне шмат дабра, як яго за гэта ні цалаваць? (Косы, Віц. р.).

ЦАЛЁЎКА, *ж.*—дюймовая доска. Нарэзалі цалёвак (Стар. Сяло, Куз. р.).

ЦАЛІЗНА, *ж.*—невспаханное место, пропуск в пахоте. Ары толькі цалізну ня зьдзелай (Мёдаўка, Беш. р.).

ЦАЛКІ, оў, *м.*—неочищенный, варенный картофель. Цалкоў наеўся з буракамі (Бабінічы, Віц. р.).

ЦАЛКОМ—целиком, полностью. Цалком прыглынуў такі кусок. Цалком з мяне хочым выссаць кроў? (Рыбчына, Сір. р.).

ЦАЛЬ, *ж.*—дюйм На дзьве цалі таўшчынёй нада (Купіна, Віц. р.).

ЦАЛЮСЕНЬКІ—цельный. Цалюсенькі дзень прагуляў (Лужасна, Куз. р.).

ЦАЛЯВАЦЬ, *дзс.*—соединять в целое. Колькі ні цалюй—усё чарапкі будуць (Дубнікі, Сен. р.).

ЦАЛЯЦЬ, *дзс.*—метить, попадать. Ён лоўка цаляіць (Кр. Сяло, Беш. р.).

ЦАНА, *ж.*—цена. Цана на ём есьць? (Пушкары, Сен. р.).

ЦАП—хвать. Ён толькі ў яблыкі, а я яго цап ззаду! (Капланы, Сен. р.).

ЦАПЕЦ, а, *м.*—чепец, головная шапочка у замужних женщин. Пашыла сабе цапец (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЦАПІЛНА, *н.*—рукоятка цепа. Ты састроіў крэпкае цапілна—ня зломіцца (Русінава, Сен. р.). Зламалася цапеліна (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЦАПКІ, оў, *м.*—приспособление, на котором сушится хлеб в снопах, или на котором в банях парятся. Як узьлезе на цапкі, ды як уськіне коўш вады на печку, дык на нізе ня стрымаць (Лазова, Сен. р.).

ЦАПУ—ЛАПУ—кое-как. Цапу лапу і скарэй ходу! (Запрудзьдзе, Сен. р.).

ЦАРКОВІШЧА, *н.*—место, где стоит или стояла церковь. На царковішчы зірні—мо тамацькі (Лужасна, Куз. р.).

ЦАРКОЎНАЕ, *н* —крест, хоругви из церкви, которые несут провожая покойника. Нехта умёр —царкоўнае панесьлі (Жукава, Аз. р.).

ЦАУЁ, я, *н.*—рукоятка. Трэба прыдзелаць цаўё к сярпу (Гуліна, Сен. р.). Хто гэта у лошцэ зламаў цаў'ё? (Шчыпцы, Беш. р.).

ЦАХОЎКА, *ж.*—кружка. Анісся, падай цахоўку (Сяркуці, Сен. р.).

ЦАЦА, ЦАЦКА, *ж.*—игрушка. Цаца, цаца ды ў карман (Глебаўск, Сен. р.). Дай мне маю цацку (Глушыца, Сір. р.).

ЦАЦАНКА, *ж.* — игрушка. Абяцанка—цацанка, дурному радасьць (Вяжышча, Беш. р.).

ЦАЦЭНЬ, я, *м.* — лепешка. Пакінь цеста на цацні (Даргейкі, Сен. р.). Пар. сачэнь.

ЦАЦКАЦЬ, *дзс.* — баловать, играть. Ні цацкай у руках! (Купіна, Віц. р.).

ЦАЦУНАК у, *м* —угомон. Гэтаму дзяцёнку сёньня цацунку няма (Гравы, Сен. р.).

ЦВЫЛІК, а, *м.*—четырехугольный кусок материи, вшиваемый в рубашку под мышкай чаще другого цвета. Дай ты мне гэты скуматок на цвылікі (Спасская, Сір. р.).

ЦВЫРКУН, а, *м.*—домашний сверчек. Gryllus domesticus. Цвыркун забраўся у хату (Вішкавічы, Чаш. р.). Цвыркун залес у хату (Кузьміно, Сен. р.).

ЦЕГА, *вкл.*—зов гусей. Цега, цега, цега, гусачкі маі! (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЦЕКАВАЦЬ, *дзс.* — требовать случки. Авечка цекуець (Сьвеча, Беш. р.).

ЦЕЛЯПАЦЦА, *дзс.*—мотаться. Ён, як малы, заўсягды ў хвасьце целяпаецца (Шаркі, Куз. р.). Дакуль ты ўжо будзеш гэта целяпкацца з гэтым памостам? (Мошава, Сен. р.).

ЦЕМЕНЬ, *ж.* — мрак. Якая сяньня цемень! (Прусаўкі, Аз. р.).

ЦЕМЯ, *н.* — темя. Ён ударыў цемя (Раіны, Аз. р.).

ЦЕНІЦЬ, *дзс.* — затенять. Ні нада больш ценіць, хопіць етага (Купіна, Віц. р.).

ЦЕНЬ, *ж.* — тень. Пасядзім у цяні (Рудня, Аз. р.).

ЦЕПЕРСЯ — давно. Цеперся яна ня сьпіць (Оўсішчы, Сен. р.). Цепершы была на сяле (Бікложа, Беш. р.).

ЦЕПЛІЦЬ, *дзс.* — топить сушильню, баню. Я ўжо сяньня цепліў ёўню (Копцевічы, Чаш. р.) Трэба цепліць лазьню: будзем мыцца (Кашына, Віц. р.).

ЦЕРАБІЦЦА, *дзс.* — париться веником в бане. Я ня мох бы церабіцца ў такім духу (Бель, Выс. р.).

ЦЕРАБІЦЬ, *дзс.* — обсекать ветви, вырубать. Цераблю кусты (Лятоўшчына, Куз. р.).

ЦЕРАЗ—через. Цераз цябе, дурня, папаўся. Цераз рэчку ня едзь! (Бікава, Сен. р.). Пар. чэраз.

ЦЕРАМ, а, *м.*—терем. Кала майго цераму сьцежачкі, дарожачкі (Яноўшчына, Беш. р.).

ЦЕРАМОК, а, *м.*—маленький, деревянный домик на могиле. На магіле бацькі церамок згніў (Вейна, Сен. р.).

ЦЕРНІЦА, *ж.* — 1) мятая солома. Прынясі церніцы, а ні акалотышаў (Бель, Выс. р.); 2) льномялка. На дзьвёх церніцах лён мнуць (Купіна, Віц. р.).

ЦЕРЦІСЯ, *дзс.*—тереться. До, табе тут церціся лі бап! (Купіна, Віц. р.).

ЦЕСНЫ—тесный. У мяне цесны станік (Гуліна, Сен. р.).

ЦЕСЬ, *вкл.*—зов коров. Цесь, цесь, цесь, бурэнька! (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЦЕСЬЦЬ, я, *м.*—тесть, отец жены. Прывёў ад цесьця сабаку (Навікі, Беш. р.).

ЦЕЦЯНЁХАЦЬ, *дзс.*—няньчить, подбрасывать. До' табе яго цецянёхаць! (Горбава, Лёз. р.).

ЦЕЦЯРУК, а, *м.* — тетерев. Tetrao tetrix L. Я цецярука відзеў (Касачы, Лёз. р.). Тата забіў цецярука ў лесе (Лук'янова, Сен. р.).

ЦЕЧА, *ж.*—течь, течение. На самай цечы дубіцу перавярнула (Гунчанкі, Сур. р.).

ЦЕШЫЦЦА, *дзс.*—радоваться. Цешыцца гаспадар з добрага збожжа (Кузьміно, Сен. р.).

ЦЭБАР, а, *м.*—ушат. Малы цэбар, што ўлезе? (Застарыньне, Беш. р.). Поўны цэбр памый (Стрэлка, Беш. р.). Пар. цабэрак.

ЦЭГЛА, *ж.*—кирпич. Прывёс тры сотні цэглы на печку (Каралі, Куз. р.).

ЦЭГЛІНА, *ж.*—кирпичина. Падай ету цэгліну (Ранчыцы, Беш. р.).

ЦЭД, у, *м.* — овсяное молоко. Налі мне цэду (Альшанікі, Беш. р.).

ЦЭЛЫ — 1) полный. Карова дае цэлу даёнку малака (Павульле, Чаш. р.); 2) целый. Мы зюкалі цэлую гадзіну (Краснае Сяло, Сен. р.).

ЦЭП, а, *м.* — цеп. Цэп вісіць у гумне (Ісачкава, Аз. р.). Біцук зламаўся ў цапе (Зямковічы, Сен. р.).

ЦЭПКА, *ж.*—цепочка. На шыі цэпка (Дубінкі, Беш. р.).

ЦЭРА, *ж.*—губка. Нешта не гарыць цэра—верна сырая (Глебаўск, Сен. р.).

ЦЭРКВА, *ж.*—церковь. Пайду у цэркву (Шарыпіна, Беш. р.).

ЦЭСІЯ, *ж.* — сессия, совещание. Дзет наш пашоў на цэсію (Асінаўка, Беш. р.).

ЦЭТЛІК, а, *м.* — квитанция. Паглядзі ў гэтый цэтлік (Лучкі, Віц. р.).

ЦЭЎКА, *ж.*—1) трубочка или полая палочка из бересты, на которую наматывают нитки для тканья. Падай мне цэўку (Лоўжа, Сір. р.). Насучы мне цэўку, трэба ткаць зрэбніну (Сяркуці, Сен. р.); 2) часть руки между кистью и локтем. Ён мяне ўда-

рыў па цэўцы (Семянцова, Беш. р).

ЦЁМІНКА, *ж.*—канава соединяющая болото с озером. У цёмінцы ваюна ўзяў (Астроўна, Віц. р.).

ЦЁМНА — темно. Цёмна ўжо стала, калі мы узьехалі на двор (Гарывецк, Сен. р.).

ЦЁПКАЦЦА, *дзс.*—шлепаться. Досіць табе па дажджы цёпкацца (Шарыпіна, Беш. р.).

ЦЁПЛА — тепло. На дварэ цёпла (Шарыпіна, Беш. р.).

ЦЁПЛАЕ, а, *н.* — чай. Ня няволь мяне цёплым (Доўгае, Беш. р.).

ЦЁПЛЫ—теплый. Цёплыя дні былі (Сураж, Сур. р.).

ЦЁПША, *ж.* — медлительная. Ці скора, цёпша, памыіш? Даргейкі, Сен. р.).

ЦЁРЛА, *н.*, ЦЁРНІЦА, *ж.*—глиняный сосуд чаще для толчения мака, конопли. Сатры мак у цёрле (Спасская, Сір. р.). Усып каноплі у цёрніцу (Бешанкавічы, Беш. р.). Купі новае цёрла, бо неўчым бапку сьпячы к вялікадню (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЦЁСКА, ЦЁЗКА, *аг.* — теска, одноименник. Янкаў цеска прышоў (Стрэлкі, Беш. р.).

ЦЁСЬ, *вкл.*—зов коров. Цёсь, цёсь, цёсь, бурэньня мая! (Веляшковічы, Лёз. р.).

ЦЁТКА, *ж* —тетя. Цётка Насьця аснувала шэсьць сьцен кросен (Шыпы, Сен. р.).

ЦЁШЧА, *ж.*—теща, мать жены. Дзе цёшча есьць, там ладу няма ў сям'і (Забор'е, Сен. р.).

ЦІ—ли.—1) Ці трэба табе саха? (Семянцова, Беш. р.); 2) или. Ці вілы ў бок, ці сена клок (Астроўна, Віц. р.); 3) разве Ці ты ня відзіш? (Лужасна, Куз. р.). Пар. чы.

ЦІЖМА, — множество. Ціжма людзей прыперла на схотку (Беліца, Сен. р.).

ЦІКАВА — интересно Цікава дужа пяялі (Бешанкавічы, Беш. р.).

ЦІКАВАСЬЦЬ, *ж.* — интерес, заинтересованность. Вот і малая цікавасьць бярэць (Глебаўск, Сен. р.).

ЦІКАВАЦЬ, *дзс.* — следить. Цікуй курыцу, а то яна зьнясецца ня ведама йдзе (Гуліна. Сен. р.). Што ты ходзіш ды ўсё цікуеш? (Глебаўск, Сен. р.).

ЦІКАВЫ—1) интересный. Гэта дзяўчына вельмі цікавая (Сяркуці, Сен. р.); 2) интересующийся. Ён да ўсяго цікавы (Навікі, Віц. р.).

ЦІНОЎКА, *ж.* — принадлежность ткацкого станка. Дай сюды ціноўку! (Гарадок, Гар. р.).

ЦІП, у, *м.*—тиф. Янка захварэў на ціп (Падрэзы, Чаш. р.).

ЦІП, *вкл.* — зов курей. Ціп, ціп, ціп, куркі мае! (Навікі, Віц. р.).

ЦІПЛЁНАК, а, *м.*—цыпленок. Ціплёнка кідаюць у крупеню (Альшанікі, Беш. р.).

ЦІСНУЦЬ, *дзс.*—тиснуть, давить. Сыр каменем ціснуць (Навасёлкі, Сен. р.). Барэткі ціснуць нагу (Навікі, Беш. р.).

ЦІХАМІРНА — спокойно. Я люблю жыць ціхамірна (Навікі, Віц. р.).

ЦІХАМІРНЫ—спокойный, мирный. Ён у нас нейкі натта ціхамірны, быццам дурны (Шыркі, Куз. р.).

